УДК 745/746(=161.3)
ББК 85.12(4Беи)
А 84

**Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе**

***Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
па падтрымцы культуры і мастацтва,
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь,
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь***

Кіраўнік праекту:
*Г. Р. НЯЧАЕВА*

**Выканаўцы праекту:**

Аўтары тэкстаў:
*Г. Р. Нячаева*, кандыдат гістарычных навук *А. І. Драбушэўскі*,
доктар філалагічных навук *У. Л. Кляус, Г. І. Лапацін, Л. Д. Раманава*

Экспедыцыйныя доследы:
*А. М. Боганева, М. І. Бруевіч, А. І. Драбушэўскі, Г. І. Лапацін,
С. І. Лявоньцева, Л. М. Мазейка, Л. А. Новікава, Г. Р. Нячаева,
Л. Д. Раманава, І. Ю. Смірнова, В. Г. Шолахаў*

Падрыхтоўка і апрацоўка фондавых матэрыялаў:
*Т. А. Ананьева, Г. І. Лапацін, Л. А. Новікава, Г. Р. Нячаева,
Л. Д. Раманава, Л. М. Юзенкова (ВМНТ), Л. А. Філюшкіна (ЧГЭМ),
Т. А. Шода (ГАКМ), І. В. Штанкіна (ЧГМ)*

Фотаздымкі:
*А. В. Чыжоў, Г. Р. Нячаева*

Навуковы рэдактар:
доктар мастацтвазнаўства *Я. М. Сахута*

Рэцэнзенты:
кандыдат мастацтвазнаўства *В. А. Лабачэўская*,
кандыдат мастацтвазнаўства *М. М. Віннікава*

**ISBN 985-08-0608-7**

# ЗМЕСТ

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае.
ВМНТ — Веткаўскі музей народнай творчасці.
ГАЗ — Гісторыка-археалагічны зборнік.
ГАКМ — Гомельскі абласны краязнаўчы музей.
ДИ СССР — Декоративное искусство СССР.
ЖС — Живая старина.
КП — Фондавы нумар экспаната (кніга паступленняў, №, асноўны фонд).
КСИА — Краткие сообщения Института археологии СССР.
МИА — Материалы и исследования по археологии СССР.
НВФ — Фондавы нумар экспаната (навукова-дапаможны фонд).
СА — Советская археология.
САИ — Свод археологических источников.
СЭ — Советская этнография.
ТОДРЛ — Труды отдела древнерусской литературы.
ЧГМ — Чарнігаўскі гістарычны музей.
ЧГЭМ — Чачэрскі гісторыка-этнаграфічны музей.
ЭМ ВМНТ — Экспедыцыйныя матэрыялы Веткаўскага музея народнай творчасці.

# УВОДЗІНЫ

Гісторыя стварэння зборніка, які вы зараз трымаеце ў руках, а таксама выгляд, які ён мае, крыецца ў гісторыі і вопыце працы Веткаўскага музею народнай творчасці (ВМНТ) па збіранню, сістэматызацыі і вывучэнню народных тканінаў, а сярод іх — такой выдатнай з'явы, як ручнік. Пытанні, што паўсталі напачатку гэтага шляху, як і тыя, што ўзнікалі ў ходзе доследаў, мелі творчы пачатак, бо вялі да якаснага развіцця гэтага працэсу. У выніку музейная калекцыя ўзрасла з чатырох ручнікоў да тысячы з лішкам адзінак, праблемная сітуацыя ператварылася ў праграму вывучэння арнаменту, а музей стаў адным з лідэраў на Беларусі як па дасканаласці этнаграфічных доследаў свайго рэгіёну, гэтак і ў ажыццяўленні піянерскіх ідэй. Імі паўсталі спробы семантычных рэканструкцый арнаменту ручнікоў у разнастайнасці яго кампазіцый па асобных традыцыях.

Сёння семантыка, завязаная як з формамі, гэтак і з тэхналогіямі ды функцыямі ручніка, уяўляецца нам як вялікая культурная прастора, дзе і пракладаюцца шляхі доследаў. Трэба сказаць, што праца ВМНТ заўсёды вялася ў рэчышчы агульнага павышэння грамадскага і даследчага інтарэсу да беларускай спадчыны народнага ткацтва, і асабліва ручнікоў.

У пачатку нашых доследаў мы маглі звярнуцца да нешматлікіх беларускіх выданняў, прысвечаных ткацтву. Там найчасцей ставіліся пытанні агульнага апісання, гісторыі і тэхналагічных асаблівасцей гэтага віду рамяства ў маштабах усёй краіны. Арнаменты прыводзіліся як прыклады. Але наш рух супаў з перыядам "асэнсавання ручніка як набытку нацыянальнай культуры, што прыпадае ў Беларусі на 1970—1980-я гады". Назапашванне інфармацыі, якое прывяло да якаснага і карыснага 'ручніковага выбуху' ў 1990-я гг., ішло праз сродкі масавай інфармацыі, у якіх няўрымслівыя журналісты звярталі грамадскую ўвагу на яскравыя традыцыі тыпу Неглюбкі альбо Моталя, праз узвышэнне збіральніцкай актыўнасці музеяў, праз адданасць і захапленне ручніком невялікага кола айчынных навукоўцаў, сярод якіх — М. Раманюк, В. Фадзеева, В. Лабачэўская, М. Віннікава. Гэта праца паволі перамяніла колькасны прырост у ведах на якаснае іх ператварэнне. Паміж беларускіх выданняў адзіная прысвечаная ўласна семантыцы манаграфія — "Беларускі арнамент" М. Кацара (Кацар. 1996). Пасмяротную публікацыю кнігі з унікальнымі даваеннымі запісамі, замалёўкамі, з арыгінальнай семантычнай трактоўкаю арнаментальных матываў тканін падрыхтаваў Я. М. Сахута. Надыйшоў час, калі асобныя прыватныя намаганні даследчыкаў сумíруюцца і набліжаюць нас да сапраўднага дыялогу сучаснай культуры з голасам



Мал. 1. Крыніца ў в. Будзішча. Чачэрскі раён

сваёй традыцыйнай ‘падсвядомасці’. За апошнія гады працэс гэты быў узначалены Беларускім інстытутам праблем культуры. Дзякуючы яго ініцыятыве ды энергіі аўтара альбома “Повязь часоў — беларускі ручнік” (Мн., 2002) Вольгі Лабачэўскай быў арганізаваны шэраг абласных выставаў “Ручнік у прасторы і часе”. Рух гэты завяршыўся нацыянальнаю выставаю 1998 года, дзе ўпершыню паўстала ў адзінай прасторы “шматгалоссе рэгіянальных асаблівасцей” узорных тканінаў усіх шасці гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі — каля 400 экспанатаў са збораў 11 музеяў. Яны і ўвайшлі ў апошняе па часе беларускае выданне. Выстава пакінула і яшчэ адну вельмі карысную публікацыю — матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай ручнікам, якая прайшла ў рамках акцыі “Ручнік у прасторы і часе” і не мае аналагаў нідзе па “ручніковым” свеце (Ручнік у прасторы і часе. 2000).

У корпус навуковых тэкстаў, да якіх мы звярталіся, нястрымна ўцягваліся гістарычныя сведчанні пра ўсходніх славянаў (і не толькі ўсходніх), дадзеныя па старажытнаславянскай міфалогіі, этналінгвістычныя доследы і працы па ўзнаўленні духоўнай культуры нашых продкаў шляхам звядзення гістарычных ды этнаграфічных дадзеных.

Пачаўшы з пошукаў у сваім раёне (бо ВМНТ — раённы музей), мы пайшлі далей, таму што нітка традыцый не перарывалася і не сканчалася ні



Мал. 2. Ручнікі аднаго двара. Вёска Карма Добрушскага раёна. 2002 г.

па межах розных сельсаветаў, ні па адміністрацыйных межах раёнаў і нават вобласцей.

Здавалася, што традыцыі перацякаюць адна ў адну. Да наступнага этапу быў крок. Крок гэты быў да вады. *Уздоўж рэкаў*, рэчак, пратокаў і волакаў да нядаўняга часу былі ўсе *шляхі рассялення і культурных зносінаў.* Але ўздоўж тых самых водных патокаў сяліліся і старажытныя роды славян. Узяўшы карту Беларусі, мы пабачылі, што жывем у надзвычай цікавай мясцовасці, бо *на паўднёвым усходзе краіны рэкі сыходзяцца*, набліжаючы традыцыі адна да другой, як некалі набліжаліся тут і межы старажытных славянскіх плямёнаў...

Мы выправіліся ў экспедыцыі з рамантычным дэвізам "Па шляхах старажытных родаў". Збіралі звесткі пра ткацкія традыцыі, фальклор, абрады, архітэктуру, культ крыніцаў, пра міфалагічныя ўяўленні, прыкметы і асаблівасці побыту, будаўніцтва і гаспадаркі, дадзеныя археалогіі і нататкі мясцовых краязнаўцаў. У выніку на кожны знойдзены адказ мы атрымлівалі з дзесятак новых пытанняў. Ды менавіта ў гэтакім краязнаўчым падыходзе мы бачым свой галоўны плён. Комплексны метад доследаў трымаўся нашай галоўнай тэмы — ткацкіх традыцый з іх архаікай і навацыямі. У кантэксце традыцыйнай духоўнай культуры кожны з ручнікоў паўстаў як тэкст самой гэтай культуры. Дакладней кажучы, *разуменне тканага тэксту належыць да*



*Мал. 3. Экспедыцыя да вытокаў Беседзі. Смаленшчына. 1998 г.*

*прасторы нашага даследчага дыялогу з традыцыяй.* Але, чым глыбейшы і разнастайнейшы такі дыялог, тым больш верагоднымі робяцца і сучасныя прачытанні любога з тэкстаў сапраўднай традыцыйнай мовы.

Аб'ём даследаванага і прадстаўленага матэрыялу — уласная калекцыя ВМНТ, якая збіралася ў час пошукаў (у зборніку рэпрадукцыі толькі пэўнай яе часткі), прыклады з калекцый тканінаў Гомельскага абласнога краязнаўчага музея і Чачэрскага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея, асобныя рэчы з музеяў на шляху праведзеных экспедыцый (мы ўдзячныя ўсім, хто дазволіў нам працаваць са сваім матэрыялам). Гэта, таксама, экспедыцыйныя матэрыялы трох маршрутаў уздоўж трох рэк — Сожа, Беседзі ды Іпуці (толькі адну з іх — Беседзь — мы прайшлі ад вытоку да вусця). У выніку тут публікуюцца выявы звыш чатырохсот ручнікоў болей чым са ста трыццаці населеных пунктаў.

Агульныя асаблівасці выкладання матэрыялу ў зборніку наступныя. Мы палічылі магчымым захаваць яго "экспедыцыйны" каларыт, які дазваляе ўтрымліваць рухомы і надзвычай аб'ёмны 'аб'ект' доследаў. Цэласнасць з'яўляецца праз рытмічнае ўзнаўленне пэўных вобразных структураў, якое адчувалі мы ў розных мясцінах уздоўж сваіх маршрутаў. На наш погляд, так дзейнічаюць *глыбінныя семантычныя рытмы традыцый.*

У ходзе доследаў *паслядоўна выяўляліся* адна за другою *традыцыі*, якія патрабавалі *'тэхналагічнага' апісання.* Яны склалі асобную главу "Лакальныя традыцыі". Сюды ж адышлі *лінгвістычныя матэрыялы* — запісаныя намі за дваццаць з лішкам гадоў мясцовыя тэрміны стварэння ручніка і назвы яго арнаментаў, г. зн. 'уласны голас' розных традыцый. Мы паспрабавалі і праілюстраваць большасць з тэрмінаў менавіта тымі *арнаментальнымі прыкладамі*, адносна якіх гэтыя тэрміны і былі запісаны.



Мал. 4. Ручнік на выставе "Час меж Прачыстых". 1999 г.

У *'семантычнай' частцы нашага доследу* мы зноў вяртаемся да традыцый. Але цяпер ёсць мажлівасць сачыць за асобнымі семантычнымі тэмамі, якія датычацца арнаментальных элементаў, частак кампазіцыі і г. д. Тут прыцягваецца параўнальны матэрыял, які мы імкнуліся знайсці дзе мага бліжэй альбо ў межах рэгіёна. Рад пытанняў, на наш погляд, вырашаюць і самі традыцыі ў 'дыялогавых сітуацыях' свайго ўзаемадзеяння. Апошняя частка кнігі — "Каталог". Гэта частка зборніка атрымала і "Кароткае тлумачэнне", дзе плынь традыцый, іх узаемаперацяканне і накладанне адна на другую характарызуюцца па этапах, але як адзіны працэс. Тут жа змяшчаецца алфавіт усіх вёсак, адкуль публікуюцца рэчы, з нумарамі ілюстрацый да кожнай з іх і карты 'локусаў' асноўных традыцый з падрабязным даведачным апаратам. Частку "Каталога" складаюць падрыхтаваныя намі карты і табліцы археалагічных, этнаграфічных адпаведнасцей да галоўнай нашай тэмы — ручніковага арнаменту.

*Фальклорны матэрыял* у зборніку прадстаўлены эксперыментальна — адным жанрам, а менавіта замоваю. Асобная глава кнігі прысвячаецца параў-

нанню мясцовых традыцый ручнікоў і корпусаў замоў у адпаведных 'зонах'. Даследуецца 'ўнутранае' ўзаемадзеянне як арнаментальных, гэтак і фальклорных традыцый. Аналізуюцца слоўнікі фальклорных тэкстаў у выглядзе *'тэзаўрусаў'*, знаходзяцца іх адпаведнасці ў алфавітах назваў арнаментальных элементаў. Параўноўваюцца кампазіцыі ручніковага арнаменту і замоўных тэкстаў. Нязвыклы аналіз даў станоўчыя вынікі. Яны маюць, на погляд даследчыкаў, семантычны характар.

Даведачны матэрыял літаратурнага паходжання (археалагічны, гістарычны, тыпалагічна-параўнальны і г. д.) прыводзіцца ў кнізе непасрэдна ў тэксце альбо групуецца ў 'экскурсы'. Але, па агульнай аб'ёмнасці, такі матэрыял публікуецца толькі часткова.

Пачаўшы з апісання асобных традыцый ткацтва, мы даводзім працу да выяўлення працэсаў у традыцыйнай культуры даволі шырокага рэгіёна. Зона нашых доследаў мае розную 'шчыльнасць' вынікаў. Найбольшая яна — у міжрэччы Сожа—Беседзі—Іпуці.

Зрабіўшы дадзеную 'арыентыроўку' чытача ў структуры зборніка, нам застаецца толькі прапанаваць яму нашую працу і прасіць цярплівасці і памяркоўнасці ў адносінах да непазбежных недахопаў тэксту.

Падняпроўе іграла выдатную ролю ў гісторыі ўсходніх славян. Рака Днепр з'яўляецца калыскай культуры беларускага, рускага і ўкраінскага народаў. Раўнінны характар мясцовасці, мноства рэк, наяўнасць залежаў крамянёвай сыравіны спрыялі асваенню Верхняга Падняпроўя ўжо ў старажытным каменным веку (палеаліце), аказвалі ўздзеянне на геаграфію рассялення, матэрыяльную і духоўную культуру, на ўзаемадзеянні з суседзямі.

Комплекснае вывучэнне этнічнай гісторыі насельніцтва разглядаемага рэгіёна ўскладняецца з-за беднасці крыніц, паколькі старажытныя пісьмовыя крыніцы амаль поўнасцю адсутнічаюць. Акрамя таго, розныя вучоныя — археолагі, этнографы, лінгвісты і антраполагі ўкладаюць у паняцце "этнас", "этнічная агульнасць" неаднолькавы сэнс. Археолагі, таму што яны маюць справу з матэрыяльнай культурай старажытных народаў, пры вырашэнні этнічных праблем звяртаюць асноўную ўвагу на гісторыка-культурную пераемнасць. Перадача з пакалення ў пакаленне традыцыйных рыс культуры з'яўляецца найбольш выразным паказчыкам этнічнай цэласнасці. Археолаг мае права шукаць продкаў сучасных народаў так далёка ў глыбіні вякоў, на колькі глыбока ў старажытнасць дазваляе ісці рэтраспектыўны метад. Аднак трэба мець на ўвазе, што ў першабытную эпоху працэс этнічнай кансалідацыі ў большасці выпадкаў заставаўся незавершаным (Генинг. 1970. С. 109).

Найбольш старажытныя знаходкі адзінкавых крамянёвых прылад працы на тэрыторыі Беларусі адносяцца да мусцьерскага часу эпохі сярэдняга палеаліта. Гэта скрэбла-нож з урочышча Калодзежкі на правым беразе Сажа каля в. Падлужжа Чачэрскага раёна, востраканечнік з урочышча Каменная Гара на правым беразе Беседзі каля в. Чамярня Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці і скрэбла з урочышча Чырвоная Горка на левым беразе Дняпра каля в. Абідавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці (Калечиц. 1984. С. 5, 59, 103; Археалогія Беларусі. Т. 1. 1997. С. 30). Месцазнаходжанні мусцьерскага часу вядомы і на Браншчыне (Археологическая карта России: Брянская область. 1993. С. 9). Гэтыя знаходкі дазволілі даследчыкам зрабіць выснову аб эпізадычным пранікненні першабытнага чалавека (неандэртальца) на тэрыторыю Верхняга Падняпроўя 150—35 тысяч гадоў назад (Белорусская археология. 1987. С. 29; Ксензов. 1988. С. 16). Аднак сляды паселішчаў гэтага часу на тэрыторыі Беларусі адсутнічаюць.

Мусцьерцы навучыліся паляваць на маманта, здабываць агонь, будаваць жыллё, рабіць адзенне са скуры. Да гэтага часу адносяцца першыя праявы першабытнага мастацтва і рэлігійных вераванняў, з'яўляюцца пахаванні, упершыню вылучаюцца асобныя археалагічныя культуры.


Мал. 5. Касцяная ігольніца часоў мезаліту. Ветка

На Беларусі вядомы доўгачасовыя паселішчы толькі з эпохі позняга палеаліту (26—24 тысяч гадоў назад). Гэта познепалеалітычныя стаянкі каля вв. Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага раёнаў Гомельскай вобласці. У гэты час, напэўна, сфармаваўся чалавек сучаснага фізічнага тыпу — неантроп (*Homo sapiens*). Першабытны чалавек жыў тады ва ўмовах вечнай мерзлаты, адсутнасці лясоў, пры сярэднегадавых тэмпературах на 6—7° ніжэйшых за сучасныя (Беларуская археалогія. 1987. С. 29). Аднак у перыяд максімальнага (валдайскага) распаўсюджвання ледавіка (17—18 тысяч гадоў назад) прыродныя ўмовы зрабіліся яшчэ больш суровымі. Верагодна, у гэты перыяд першабытны чалавек вымушаны быў сысці ў больш цёплыя паўднёвыя раёны. Ва ўсялякім разе, на тэрыторыі Беларусі не знойдзены археалагічныя помнікі, якія можна б было датаваць гэтым часам (Ксензов. 1988. С. 9).

Каля 14 тысяч гадоў таму пачалося пацяпленне клімата і адступленне ледавіка з тэрыторыі рэспублікі. Адбылася апошняя, трэцяя, хваля засялення тэрыторыі Беларусі, якая адпавядае пазнейшаму, фінальнаму палеаліту (Калечиц. 1997). Істотная перамена ландшафтаў пасля заканчэння апошняга абледзянення, змены фаўны патрабавалі ад першабытнага чалавека далейшага ўдасканалення тэхнікі палявання. На вялікай тэрыторыі Усходняй Еўропы склаліся трывалыя напрамкі сезонных міграцый (у сувязі з паляваннем на паўночнага аленя). Апошняе спрыяла ўмацаванню этнакультурнай агульнасці і сувязей на значнай тэрыторыі. Вельмі важным момантам з'яўляецца факт усталявання генетычнай пераемнасці паміж насельніцтвам сярэдднедняпроўскай культурнай зоны фінальнага палеаліту і пазнейшым мезалітычным насельніцтвам верхняй плыні Дняпра, Дзясны і Волга-Окскага міжрэчча (Археалогія Беларусі. Т. 1. 1997. С. 40).

У фінальным палеаліце (12—11 тысяч год да н. э.) на Дняпры і Сажы пачала складвацца грэнская культура (ад стаянкі ва ўрочышчы Грэнск каля в. Ворнаўка Кармянскага раёна Гомельскай вобласці). Даследчыкі лічаць, што ў фармаванні гэтай этнакультурнай супольнасці бралі ўдзел носьбіты свідэрскай культуры, помнікі якой вядомы на Валыні, Заходнім Палессі, у басейнах Нёмана і Віслы (Ксензов. 1988. С. 29—52; Копытин. 1991. С. 7—46; Археалогія Беларусі. Т. 1. 1999. С. 45).

Пераход да мезаліту ва Усходняй Еўропе супадае з заканчэннем плейстацэна і пачаткам галацэна (10 тысяч год да н. э.), аднаўленнем лясной зоны і багатага жывёльнага свету. Па меры пасоўвання мяжы тундры і развіцця лясоў статкі паўночнага аленя рухаліся на поўнач і паўночны ўсход, што прывяло да міграцыі мезалітычнага насельніцтва ў гэтым напрамку. Вынікам гэтага сталася з'яўленне ў другой палове 7 тысячагоддзя да н. э. помнікаў грэнскай культуры ў заходняй частцы Волга-Окскага міжрэчча (Копытин. 1991. С. 46).

Шляхам далейшага развіцця мясцовай грэнскай культуры пад уплывам свідэрскай на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя ў 6—5 тысячагоддзях да н. э. склалася сожская познемезалітычная культура (Копытин. 1991. С. 48). Асновай гаспадарчай дзейнасці насельніцтва па-ранейшаму былі паляванне, збіральніцтва і рыбная лоўля. У параўнанні з папярэднім часам значна вырасла колькасць насельніцтва. Толькі на Веткаўшчыне сёння вядомы даследчыкам каля 30 мезалітычных помнікаў (Калечыц. 1997а. С. 25).

Пачатак новакаменнага веку (неаліту) на Беларусі фіксуецца знаходкамі абломкаў старажытнейшых гліняных пасудзін. Клімат у гэты перыяд быў больш цёплы і вільготны за сучасны. У канцы 5 — пачатку 4 тысячагоддзя да н. э. разглядаемы рэгіён засялялі плямёны верхнедняпроўскай неалітычнай культуры, якая сваімі каранямі сыходзіць у мясцовы мезаліт (Калечиц. 1987). На познім этапе носьбіты гэтай культуры рассяліліся практычна па ўсім Верхнім Падняпроўі (Калечиц. 1987. С. 48). Колькасць неалітычных помнікаў на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя ў некалькі разоў большая, чым папярэдніх, што сведчыць пра далейшае павелічэнне колькасці насельніцтва. Многія даследчыкі лічаць, што носьбітамі верхнедняпроўскай неалітычнай культуры былі прафіна-угры. У басейне Дзясны і на ўсходзе Пасожжа ў гэты час жылі носьбіты дзяснінскай культуры. Тэрыторыю Чарнігаўшчыны і раёны на поўдзень ад Іпуці займалі плямёны днепра-данецкай неалітычнай культуры, якія насялялі вялізныя абшары ад Усходняга Палесся да Северскага Данца на Украіне.

Ад неаліту да нас дайшлі паасобныя татэмныя ўяўленні старажытнага насельніцтва. Як лічыць А. Г. Калечыц, на тэрыторыі, занятай некалі верхнедняпроўскімі плямёнамі, да гэтага часу захаваліся некаторыя рэлігійныя дзеі, элементы пакланення жывёлінам-татэмам, чые фігуркі ўпрыгожваюць фасады дамоў, размаляваныя ручнікі, абрусы, посцілкі і гэтак далей. У арнаментацыі верхнедняпроўскага посуду можна знайсці вытокі сучаснага беларускага арнаменту (Калечиц. 1987. С. 132).

У пачатку 2 тысячагоддзя да н. э. на землі Верхняга Падняпроўя трапілі так званыя “шнуравікі”, са з’яўленнем якіх на велізарных прасторах Еўропы адбыліся значныя этнакультурныя і сацыяльна-эканамічныя змены. Многія даследчыкі лічаць, што культуры плямёнаў шнуравой керамікі не маюць нічога агульнага з позненеалітычнымі культурамі Сярэдняй і Усходняй Еўропы. На гэтай тэрыторыі плямёны шнуравой керамікі прышлыя, яны рассяліліся сярод мясцовага насельніцтва. Падабенства прадметаў, якія паходзяць з розных месцаў рассялення “шнуравікоў”, не пакідае сумненняў, што гэтыя плямёны мелі агульнага продка (Третьяков. 1966. С. 70). Плямёны культур шнуравой керамікі адыгралі вызначальную ролю ў этнагенезе старажытных славян, балтаў і германцаў у якасці агульнай падасновы.

Да ліку археалагічных культур са шнуравой керамікай і баявымі сякерамі належыла і сярэднедняпроўская, распаўсюджаная ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі (Артёменко. 1967; Археалогія Беларусі. Т. 1. 1997. С. 289). Плямёны гэтай культуры былі першымі земляробамі і жывёлаводамі на згаданай тэрыторыі. Лічыцца, што носьбітамі сярэднедняпроўскай культуры з’яўляліся першыя індаеўрапейскія плямёны на тэрыторыі Беларусі (Артёменко. 1987. С. 35—51). Аднак канкрэтна этнічная прыналежнасць плямёнаў сярэднедняп-

роўскай культуры да сёння не высветлена. Меркуюць, што сярэднеднепроўскія плямёны гаварылі на мовах балцкай групы індаеўрапейскай сям'і (Моора. 1958. С. 9—33). Улічваючы, што "сярэднедняпроўцы", акрамя Верхняга Падняпроўя, захапілі заходнюю частку Волга-Окскага басейну, іх сапраўды найбольш верагодна лічыць усходнімі прабалтамі. Як бы ў далейшым не вызначылася этнічная прыналежнасць насельніцтва бронзавага веку Верхняга Падняпроўя, цалкам можна пагадзіцца з П. М. Траццяковым, які адзначаў, "што наступная гісторыя гэтай вобласці — гэта гісторыя перш за ўсё іх непасрэдных нашчадкаў" (Третьяков. 1966. С. 83).

Узаемаадносіны гэтых прышлых плямёнаў з мясцовымі прывялі да ўзнікнення новых этнічных аб'яднанняў, зменаў у грамадскім жыцці ды ідэалогіі. Сярэднедняпроўскія плямёны хавалі нябожчыкаў пад курганнымі насыпамі і ў грунтавых могільніках па абраду трупаспалення і трупапалажэння. Адным з найбольш вядомых пахавальных помнікаў гэтага часу з'яўляецца могільнік ва ўрочышчы Стрэліца каля в. Рудня-Шлягіна Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Разнастайнасць пахавальнага абраду ў сярэднедняпроўскіх плямёнаў тлумачыцца складаным працэсам фармавання іх культуры, мяшаным складам насельніцтва, якое прымала ўдзел у яе развіцці (Калечиц. 1987. С. 132). З пераходам да бронзавага веку бесперапынна ўзрастае роля абрадавай магіі. Вынікам абрадавай магіі з'яўляюцца салярныя знакі, антрапаморфныя выявы на пасудзінах, наяўнасць фігурных крэмняў.

У сярэдзіне 2 тысячагоддзя да н. э. тэрыторыю Верхняга Падняпроўя засялілі плямёны сосніцкай культуры (ці варыянта тшынецкай, што дакладна не высветлена) (Артеменко. 1987а. С. 106—119). Але, шкада, позні перыяд бронзавага веку ў разглядаемым рэгіёне вывучаны вельмі слаба, і высветліць гісторыю насельніцтва гэтай пары пакуль немагчыма. Па меркаванню большасці даследчыкаў, мясцовы позні бронзавы век з'явіўся асновай для фармавання культур ранняга жалезнага веку Верхняга Падняпроўя (Артёменко. 1987а. С. 118).

Жалезны век на Беларусі пачынаецца ў 7—6 стст. да н. э. З'яўленне і шырокае распаўсюджанне жалеза вывела плямёны Верхняга Падняпроўя да пачатку імклівага працэсу сацыяльна-эканамічнага развіцця. Значна ўзрастае колькасць насельніцтва. Паселішчаў ранняга жалезнага веку намнога болей, чым папярэдніх, што дазваляе казаць пра дэмаграфічны выбух. Для гэтага перыяду адзначаецца засваенне не толькі прыбярэжных зонаў такіх буйных рэк, як Дняпро, Сож, Іпуць, Беседзь, але і значна меншых іх прытокаў. Роля рэк у жыцці старажытнага насельніцтва была на той час надзвычай вялікаю. Яны з'яўляліся шляхамі, па якіх ішло засяленне новых зямляў, па іх ажыццяўляліся як унутрыплемянныя, так і міжплемянныя зносіны ды абмен. Вярхоўі рэк Сож і Дзясна вельмі блізка падыходзяць да Дняпра і яго прытокаў, таму сувязь паміж імі магла ажыццяўляцца ў любы час. Пазней, у сярэдневякоўі, тут існавала цэлая сістэма волакаў. Таму ўжо ў перыяд ранняга жалезнага веку мясцовыя жыхары падтрымлівалі даволі ажыўленыя гандлёвыя сувязі з антычнымі гарадамі Паўночнага Прычарнамор'я, скіфамі і кельтамі. Прыродныя ўмовы Верхняга Падняпроўя ў раннім жалезным веку былі спрыяльнымі для развіцця земляробства і жывёлагадоўлі. Знаходка на гарадзішчы Уваравічы рагавой рабочай насадкі на рала сведчыць, што



Мал. 6. Будзённая рамантыка археалогіі

мясцовыя жыхары ведалі ўжо і ворнае земляробства (Дробушевский. 1992. С. 42—45; 1996. С. 5—7; гл. мал. 7).

У 7—3 стст. да н. э. на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя існавалі некалькі археалагічных культур ранняга жалезнага веку: днепра-дзвінская, мілаградская і юхнаўская. Асноўным тыпам паселішчаў у гэты час становяцца ўмацаваныя гарадзішчы. Пахавальны абрад мілаградскай культуры — бескурганныя (значна радзей — курганныя) могільнікі з рэшткамі трупаспаленняў. Спецыфічнай рысай мілаградскіх могільнікаў з'яўляецца іх размяшчэнне ў некаторых выпадках у межах умацаванай часткі паселішчаў (Мельниковская. 1967. С. 42). З пэўным рытуалам у пахавальным абрадзе звязаны звычай класці ў пахаванне некалькі камянёў ці кавалкаў вохры. Даволі часта ў мілаградскіх пахаваннях сустракаюцца і косці жывёлін.

Дадзеныя пра пахавальны абрад днепра-дзвінскіх плямёнаў да гэтага часу адсутнічаюць. "Днепрадзвінцы", як і носьбіты культуры штрыхаванай керамікі, відаць, хавалі сваіх нябожчыкаў такім чынам, што нельга археалагічна прасачыць іх пахавальны абрад. Верагодна, гэта былі надземныя пахаванні.

Помнікі днепра-дзвінскай культуры вядомы ў Смаленскім і Магілёўскім Падняпроўі, а таксама на Віцебшчыне (Шадыра. 1985; Шмидт. 1992). На поўдні "днепрадзвінцы" дасягалі сучасных беларускіх гарадоў Магілёва,

Чавусаў, Крычава (Шадыра. 1999. Мал. 52). Гомельскае Падняпроўе цалкам займалі плямёны мілаградскай культуры (назва па комплексе археалагічных помнікаў, размешчаных каля в. Мілаград Рэчыцкага раёна; Мельниковская. 1967; Рассадзін. 1999. С. 39—42). Гарадзішчы юхнаўскай культуры вядомы ў Бранскім Паддзясенні і часткова ў басейнах сярэдняй і верхняй плыней Беседзі ды Іпуці (Древности железного века. 1962. Табл. 5; Третьяков. 1966; Археологическая карта России: Брянская область. 1993. С. 15). Юхнаўскія знаходкі ў апошнія гады атрыманы А. І. Драбушэўскім і С. Я. Расадзіным пры даследаванні гарадзішчаў Веткаўскага і Добрушскага раёнаў Гомельскай вобласці ў левабярэжжы Сажа і нават у правабярэжжы — гарадзішча каля г. п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна (Дробушевский. 1991. С. 26—28). Як мяркуе С. Я. Расадзін, у 2 ст. да н. э. мілаградскае насельніцтва заняло ўскраіну тэрыторыі сваіх юхнаўскіх суседзяў па рэках Іпуць і Беседзь (Расадзін. 1999. С. 42).

Раней некаторыя даследчыкі лічылі, што ніжняе цячэнне Бярэзіны, а таксама раёны Дняпра, якія прылягаюць да яе (а нават і некаторую частку Ніжняга Пасожжа), займалі плямёны культуры штрыхаванай керамікі (Седов. 1967. С. 177—195; Митрофанов. 1978. С. 8; Лошенков. 1996. С. 51—53). Аднак даследаванні апошніх гадоў не пацвердзілі гэты тэзіс. На думку А. А. Егарэйчанкі, час пранікнення "штрыхавікоў" з цэнтральнабеларускіх раёнаў на ніжнюю Бярэзіну адбываўся ў 1 ст. н. э. (Егорейченко. 1992. С. 49).

Апошнія матэрыялы, атрыманыя А. І. Драбушэўскім пры даследаванні гарадзішчаў Праскурня Жлобінскага, Зборава Рагачоўскага і Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёнаў Гомельскай вобласці, дазваляюць удакладніць этнакультурную сітуацыю ў гэтым рэгіёне. Зараз можна сцвярджаць, што зона ніжняга цячэння Бярэзіны і Дняпра ў межах сучаснай Гомельскай вобласці не ўваходзіла у арэал распаўсюджання культуры штрыхаванай керамікі (Дробушевский. 1993. С. 30—33; 1994. С. 80—89; 1996б. С. 28—29; Егорейченко. 1996. Рис. 43; Медведев. 1996. Рис. 1).

У перыяд 7—3 стст. да н. э. тэрыторыя ніжняй Бярэзіны, а таксама раёны Дняпра, якія прылягаюць да яе, былі заселены плямёнамі мілаградскай культуры, як лічылі многія даследчыкі і раней (Мельниковская. 1967. С. 17—18; Поболь. 1983. Карта 1; Расадзін. 1999. С. 39—42). Як сведчаць вынікі раскопак на Уваравіцкім гарадзішчы, у 4—3 стст. да н. э. (да з'яўлення "зарубінцаў") на мілаградскае насельніцтва ўзрастае ўплыў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі з Сярэдняй Беларусі. Такім чынам, гэты ўплыў дасягае не толькі правабярэжжа Дняпра, а нават Ніжняга Пасожжа. Паказальна, што прыкладна ў гэты час назіраецца рух юхнаўскіх плямёнаў ва ўсходнім напрамку і яны займаюць Курскае Пасем'е (Пузикова. 1981. С. 100—101). Найбольш верагодна, што "юхнаўцы" пачалі рухацца на ўсход пад ціскам "мілаградцаў", якія, у сваю чаргу, адступалі ад "штрыхавікоў". Гэтыя дадзеныя дазваляюць сцвяржаць, што рассяленне "мілаградцаў" на юхнаўскай тэрыторыі па Беседзі і Іпуці адбылося не ў 2 ст. да н. э., а значна раней — у 4—3 стст. да н. э.

Многія даследчыкі адносяць верхнедняпроўскія культуры 7—3 стст. да н. э. да ўсходніх балтаў. Найчасцей выключэнне робіцца для мілаградскай культуры, носьбітаў якой ідэнтыфікуюць з "неўрамі" Герадота або са старажытнымі славянамі (Мельниковская. 1967; Поболь. 1971). Аднак пытанне пра этнічную прыналежнасць ды далейшы лёс "мілаградцаў" яшчэ канчаткова не вырашана.

Мал. 7. Помнікі ранняга жалезнага веку Верхняга Падняпроўя 7—3 стст. да н. э. (*1* — помнікі мілаградскай культуры; *2* — помнікі мілаградскай і юхнаўскай культур; *3* — помнікі юхнаўскай культуры; *4* — помнікі днепра-дзвінскай культуры)

Помнікі ранняга жалезнага веку, у параўнанні з папярэднім часам, даюць значна большую колькасць знаходак, звязаных з язычніцкім культам. Найбольш шматлікімі з'яўляюцца разнастайныя амулеты, зробленыя з косці, рога і бронзы. Усе яны даволі выразна распадаюцца на тры групы: амулеты

з іклаў кабана, амулеты з іклаў мядзведзя і амулеты-канькі. Выказана думка, што ў "днепрадзвінцаў" найбольш старажытнымі былі амулеты-канькі і амулеты з іклаў кабана, прычым культ кабана з'явіўся ва ўсходніх балтаў пад уплывам кельтаў (Модестов. 1995. С. 153). З апошнім сцвярджэннем нельга пагадзіцца, бо ў старажытнасці культ кабана быў пашыраны не толькі ў кельтаў, але і ў іншых народаў. На тэрыторыі Усходняй Еўропы ён вядомы яшчэ задоўга да з'яўлення кельтаў на гістарычнай арэне. Амулеты з іклаў кабана выяўлены на мілаградскіх помніках і, што больш важна, на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі, дзе латэнскі (кельцкі) імпарт амаль поўнасцю адсутнічае.

Акрамя таго, на помніках мілаградскай культуры знойдзены амулеты з касцей рыб, бабра, ваўка, лісіцы альбо сабакі і нават чалавека (Мельниковская. 1967. С. 85—86). У калекцыі з мілаградскіх гарадзішчаў Паўднёвай Беларусі налічваецца каля сотні гліняных фігурак жывёлін, у асноўным каня. Па меркаванню В. М. Мельнікоўскай, адным з асноўных культаў насельніцтва, якое пакінула помнікі мілаградскай культуры, бясспрэчна з'яўляўся культ сонца. З апошнім, верагодна, звязаны і гліняныя грузікі ў выглядзе крыжа (Мельниковская. 1967. С. 124, 148).

Вялікую цікавасць уяўляюць неаднаразовыя знаходкі расчлянёных чалавечых касцей у культавых і іншых комплексах мілаградскіх помнікаў, што, магчыма, сведчыць пра існаванне канібалізму (Мельниковская. 1967. С. 149). З апошніх знаходак такога кшталту варта адзначыць кавалкі чалавечых сківіцаў і чарапной каробкі з мілаградскага слою Уваравіцкага гарадзішча Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Цікавай асаблівасцю апошняга помніка з'яўляецца дастаткова вялікая колькасць амулетаў, вытачаных з трубчастых касцей, а таксама з рагоў казуляў ды коз (Дробушевский. 1995. С. 91—98).

Вельмі значную групу вырабаў з гліны на помніках эпохі ранняга жалеза ў Верхнім Падняпроўі складаюць праслічы-грузікі. Масавасць і разнастайнасць формаў гліняных грузікаў прыкметна вылучае паўднёвабеларускія гарадзішчы сярод сінхронных старажытнасцей суседніх тэрыторый. Дастаткова адзначыць, што пры раскопках В. М. Мельнікоўскай гарадзішча ў Гарошкаве іх знойдзена каля 600 (Мельниковская. 1967. С. 116). На Уваравіцкім гарадзішчы ў Ніжнім Пасожжы — 187 экз. Бяднейшы асартымент гліняных грузікаў — на помніках культуры штрыхаванай керамікі Сярэдняй Беларусі, дзе адсутнічаюць многія мілаградскія формы (Митрофанов. 1978. С. 40—42). Яшчэ радзей яны сустракаюцца на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры Паўночнай Беларусі і Смаленскага Падняпроўя (Шадыра. 1985. С. 82; Шмидт. 1992).

Даволі часта мілаградскія грузікі маюць арнаментацыю ў выглядзе крыжоў, кругоў, ромбаў, трохкутнікаў і інш. На адным з грузікаў Гарошкаўскага гарадзішча перададзены сцэны ворыва і баранавання (Мельниковская. 1967. С. 148). Некаторыя з кампазіцый, размешчаных на гэтых грузіках, нагадваюць значна больш познія беларускія арнаменты на вопратцы, ручніках, дрэве і інш.

У канцы 3 ст. да н. э. пад ударамі сарматаў гіне Вялікая Скіфія; відаць, частка скіфскіх уцекачоў хаваецца ў лясах Верхняга Падняпроўя, пра што сведчыць наяўнасць тут іранскіх гідронімаў (Топоров, Трубачев. 1962).

Познескіфскія пахаванні вядомы і ў зарубінецкіх могільніках Сярэдняга Падняпроўя (Максимов. 1982). У гэты ж час узрастае ўплыў кельтаў і ціск паўночных (ясторфскіх) плямёнаў ва Усходняй Еўропе (Ерёменко, Щукин. 1992. С. 80—115; Ерёменко. 1997; Щукин. 1994). У выніку гэтых падзей адбываюцца значныя змены ў этнакультурнай гісторыі насельніцтва Верхняга Падняпроўя. Велізарныя абшары ад Заходняга Буга да Сейма, ад Паўднёвага Буга і Цясміна на Сярэднім Дняпры да сучасных беларускіх гарадоў Магілёва і Слаўгарада ў Верхнім Падняпроўі ў канцы 3 — пачатку 2 ст. да н. э. займаюць плямёны зарубінецкай культуры. Устаноўлена, што працэс фармавання зарубінецкай культуры быў хуткім і заняў усяго некалькі дзесяцігоддзяў (Каспарова. 1991. С. 23; 1992. С. 289—294; Славяне и их соседи. 1993. С. 34—35; Ерёменко. 1997; Щукин. 1994. С. 107—116). Тое, што зарубінецкая культура склалася пад значным уплывам усходніх кельтаў, ні ў кога не выклікае сумненняў. Яе нават называюць самай паўночна-ўсходняй "латэнізаванай" культурай Усходняй Еўропы.

Разам з тым з прыходам "зарубінцаў" у Верхнім Падняпроўі знікаюць папярэднія "балцкія" мілаградская, днепра-дзвінская і юхнаўская культуры. Нягледзячы на тое, што амаль увесь абшар мілаградскіх плямёнаў увайшоў у склад новай этнакультурнай супольнасці, на дадзены момант няма ніякіх падставаў лічыць "зарубінцаў" непасрэднымі нашчадкамі мясцовага папярэдняга насельніцтва. Тым не менш, "мілаградцы" ўнеслі значны ўклад у фармаванне, у першую чаргу, верхнедняпроўскага варыянту зарубінецкай культуры. Па меркаванню А. М. Абломскага, менавіта на падставе сінтэзу мілаградскіх і паморскіх элементаў склалася група верхнедняпроўскіх зарубінецкіх помнікаў тыпу Гарошкаў-Чаплін (Обломский. 1983. С. 19). Помнікі гэтай групы распаўсюджаны ў гомельскім правабярэжжы Дняпра да вусця Бярэзіны на поўначы. На Ніжнім Пасожжы і ў сумежных прыдняпроўскіх раёнах вышэй вусця Бярэзіны вядомы зарубінецкія помнікі асобнай чачэрскай групы (тыпу Кісцяні-Чачэрск) (Дробушевский. 2000. С. 49—77). Апошнія, на думку А. М. Абломскага, склаліся на аснове верхнедняпроўскіх зарубінецкіх старажытнасцей тыпу Гарошкаў-Чаплін пры актыўным уплыве "штрыхавікоў" (Обломский. 1983. С. 19).

Даследаванні апошніх гадоў дазваляюць зрабіць некаторыя ўдакладненні адносна этнакультурнай гісторыі насельніцтва Верхняга Падняпроўя на мяжы нашай эры. Зарубінецкія плямёны ў разглядаемым рэгіёне найбольш верагодна з'яўляюцца прышлымі. Яны рассяліліся з паўднёвых і паўднёва-заходніх раёнаў і прынеслі на мясцовую мілаградскую аснову сінтэзаваныя элементы латэнскай, паморскай і познескіфскай культур (Каспарова. 1991. С. 22—23). Выходную своеасаблівасць чачэрскай групе дадалі спецыфічныя рысы мілаградскай культуры Ніжняга Пасожжа, якая напярэдадні зазнала ўплыў з боку "штрыхавікоў" (Дробушевский. 2000. С. 62).

З моманту адкрыцця зарубінецкай культуры ў 1899 годзе кіеўскім археолагам В. В. Хвойкам, выказваліся самыя розныя гіпотэзы адносна этнічнай прыналежнасці яе носьбітаў. Да нашага часу зарубінецкія плямёны звязваюцца са старажытнымі славянамі або германцамі (Славяне и их соседи. 1993. С. 38—39). У свой час актыўна распрацоўвалася канцэпцыя пра балцкую прыналежнасць зарубінецкага насельніцтва (Седов. 1970; 1979. С. 74—78; 1994.




Мал. 8. Гліняныя грузікі ранняга жалезнага веку з Уваравіцкага гарадзішча

С. 216—219). Як высветлілася, паходжанне, развіццё і далейшы лёс носьбітаў лакальных варыянтаў зарубінецкай культуры мелі свае асаблівасці, што хутчэй сведчыць аб іх поліэтнічнасці (Каспарова. 1991. С. 22—25). Адзінае, што зараз можна бясспрэчна сцвярджаць, дык гэта поўная адсутнасць у чачэрскай групе зарубінецкай культуры Верхняга Падняпроўя бясспрэчна германскага (ясторфскага) кампаненту. Як бы ў далейшым не вырашылася

пытанне пра этнас зарубінецкіх плямёнаў, яны бясспрэчна адыгралі адметную ролю ў паходжанні старажытных славян (Славяне и их соседи. 1993. С. 39).

Пад уплывам "зарубінцаў" у канцы 1 тысячагоддзя да н. э. у Магілёўскім і Смаленскім Падняпроўі сфармавалася сярэднетушэмлянская культура (Шмидт. 1992), а ў Бранскім Падзясенні — почапская (Амброз. 1961. С. 56—71; Он же. 1969. С. 88—118; Он же. 1970. С. 22—25), якія працягвалі існаваць яшчэ ў першыя стагоддзі нашай эры.

Зараз цяжка прасачыць далейшы лёс носьбітаў чачэрскай групы, таму што помнікі раннерымскага перыяду ў Ніжнім Пасожжы вядомы толькі па разведачных работах (Мельниковская. 1962. С. 54—58; Поболь. 1983. С. 233—300). Вядома, што з распадам класічнай зарубінецкай культуры ў сярэдзіне — трэцяй чвэрці 1 ст. н. э. этнакультурная сітуацыя ў паўднёвай частцы лясной паласы Усходняй Еўропы зноў кардынальна змянілася (Щукин. 1994. С. 232—239). Для гэтага перыяду характэрна значнае пашырэнне арэалу познезарубінецкіх помнікаў у паўночным і ўсходнім напрамках (Обломский, Терпиловский, Петраускас. 1990. С. 22; Обломский, Терпиловский. 1991. С. 102—104; Поболь. 1983. С. 39—41). Ужо па папярэдніх дадзеных відавочна, што ў першыя стагоддзі нашай эры рэзка ўзрастае колькасць паселішчаў у прыдняпроўскіх раёнах вышэй за вусце р. Бярэзіны і ў паўночнай частцы Ніжняга Пасожжа (Поболь. 1983. Рис. 3). Відаць, у гэты час нашчадкі чачэрскай групы прасунуліся ў больш паўночныя раёны. Прыкладам таму можа служыць гарадзішча Царкавішча на Смаленшчыне, дзе ў значнай колькасці знойдзены грубаляпны посуд зарубінецкага выгляду са штрыхаванай паверхняй, які нагадвае ніжнесожскі (Седов. 1964. С. 70—74). Аналагічная кераміка знойдзена ў Віцебску і на поўдні Пскоўшчыны (Короткевич. 1989. С. 66—67; Фурасьев. 2000. С. 201—208). У выніку перасялення нашчадкаў чачэрскай групы ў канцы 1—2 стст. н. э. таксама з'явіліся познезарубінецкія помнікі тыпу Грыней на Украіне (Обломский, Терпиловский. 1991. С. 78—83). Ёсць усе падставы лічыць, што пачынаючы з канца 1 ст. н. э. нашчадкі зарубінецкай культуры паступова захапілі і землі плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі ў Цэнтральнай Беларусі. Прычыны, якія выклікалі гэтыя працэсы, яшчэ канчаткова не высветленыя. Тым не менш, відавочна, што са з'яўленнем зарубінецкіх плямёнаў і рассяленнем іх нашчадкаў папярэдняя этнакультурная супольнасць "дняпроўскіх балтаў" у Верхнім Падняпроўі перастала існаваць (Дробушевский. 1996. С. 18—19; Он же. 1998. С. 55—57).

На думку Л. Д. Побаля, на пачатку 2 ст. н. э. на аснове верхнедняпроўскіх зарубінецкіх старажытнасцей сфармаваліся помнікі тыпу Абідня (Поболь. 1966. С. 205—217; Он же. 1971. С. 178—179). Яны даследаваны, галоўным чынам, у Магілёўскім Падняпроўі і да гэтага часу не ўведзены ў поўным аб'ёме ў навуковы абарот (Поболь. 1983. С. 32—37). У апошнія гады помнікі тыпу Абідня аб'яднаны Р. У. Цярпілоўскім у верхнедняпроўскі варыянт кіеўскай культуры 3—5 стст. н. э. (Терпиловский. 1991. С. 36—38), тады як комплексы 2 ст. н. э. тут пакуль што не выдзелены (Терпиловский, Абашина. 1992. С. 21—22).

У другой палове 2 ст. н. э. у заходнія раёны сучаснай Беларусі і Украіны адбываецца ўварванне ўсходнегерманскага народа — готаў, што спрыяла

кансалідацыі мясцовых плямёнаў лясной зоны Усходняй Еўропы. Помнікі кіеўскай культуры (у тым ліку і роднасныя ёй) зараз вядомы на велізарнай тэрыторыі, ад Прыпяці да Северскага Данца, ад Сярэдняга Падняпроўя і амаль да сучасных гарадоў Смаленска і Пскова (Терпиловский, Абашина. 1992). Такім чынам, кіеўская культура зрабілася самай буйной этнакультурнай супольнасцю не толькі ў Верхнім Падняпроўі, але і ва ўсёй лясной зоне Усходняй Еўропы.

Наступныя карэнныя змены гісторыка-культурнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе адбыліся ў сувязі з разгромам гунамі каля 375 г. так званай “дзяржавы Германарыха” і ўзрастаннем нацiску “варварскіх” народаў (перш за ўсё германскіх) на Рымскую імперыю. Старажытныя славяне, якія, паводле візантыйскага гісторыка Іардана, неаднаразова мелі ваенныя сутыкненні з готамі, аб’ектыўна апынуліся саюзнікамі гунаў, што садзейнічала засваенню імі больш паўднёвых і заходніх раёнаў.

Амаль усе даследчыкі лічаць, што на аснове кіеўскай культуры ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя н. э. у Верхнім Падняпроўі ўтварылася калочынская культура (Третьяков. 1966. С. 259—264; Горюнов. 1981. С. 5—35, 63; Терпиловский. 1984. С. 73—78; Седов. 1995). Калочынская культура 5—7 стст. атрымала сваю назву па гарадзішчы каля в. Калочын Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці (Сымонович. 1963. С. 97—137). На думку П. М. Траццякова, этнакультурная гісторыя верхнедняпроўскага насельніцтва на працягу тысячагоддзя (ад 3 ст. да н. э. да 7 ст. н. э.) уяўляецца як ланцуг генетычна павязаных паміж сабой археалагічных культур: зарубінецкай, познезарубінецкай, кіеўскай і калочынскай (Третьяков. 1966. С. 259—264; Третьяков. 1982. С. 53—60). На поўнач ад калочынскага арэалу, у Смаленскім Падняпроўі, цэнтральных і паўночных раёнах Беларусі ў гэты самы час існавалі роднасныя старажытнасці тыпу Банцароўшчыны-Тушамлі (Третьяков, Шмидт. 1963. С. 3—133; Митрофанов. 1978. С. 84—117; Седов. 1982. С. 34—41). С другога боку, высветлена, што на аснове кіеўскай культуры ў Сярэднім Падняпроўі ў сярэдзіне 1 тысячагоддзя н. э. сфармавалася пянькоўская культура, якая да балтамоўных плямёнаў ніякага дачынення не мае (Приходнюк. 1980; Русанова. 1976; Горюнов. 1981; Седов. 1982. С. 19—28). Пянькоўская культура звычайна ідэнтыфікуецца са старажытнаславянскім народам, вядомым па візантыйскіх пісьмовых крыніцах пад назваю “анты” (Седов. 1978. С. 164—173). Як лічыцца, носьбіты кіеўскай культуры ўнеслі ўклад і ў фармаванне бясспрэчна раннеславянскай пражскай культуры (Godiowski. 1979; Баран, Козак, Терпиловский. 1991). З калочынскімі і пянькоўскімі помнікамі Сярэдняга Падняпроўя звязана ранняя група так званых скарбаў “старажытнасцей антаў”. У апошнія гады падобныя скарбы выяўлены на Браншчыне (Археологическая карта России: Брянская область. 1993) і ў верхнім Пасожжы, на Магілёўшчыне (Седин. 1992. С. 97—100). Гэтыя скарбы, відаць, схаваны ў выніку ваенных дзеянняў, якія адбыліся на ўсходнеславянскай тэрыторыі пасля смерці балгарскага хана Курбата (паміж 641 і 668 гг.) (Щеглова. 1990. С. 162—204; Гавритухин, Обломкий. 1996. С. 146). Дата апошняга пажара на Нікадзімаўскім гарадзішчы (па С-14) — 674 г. (Седин. 1992. С. 100).

Такім чынам, у апошнія гады мы атрымліваем усё болей дадзеных на карысць ранняга з’яўлення старажытных славян на абшары Верхняга Па-

дняпроўя. Папярэднія меркаванні І. І. Ляпушкіна, І. П. Русанавай, У. В. Сядова і іншых даследчыкаў пра даволі позняе (другая палова 1 тысячагоддзя н. э.) рассяленне славянаў у нашым рэгіёне знаходзіць усё менш прыхільнікаў. Тым не менш, адносна паходжання асобных раннесярэдневяковых усходнеславянскіх плямёнаў яшчэ існуе багата пытанняў.

Перыяд 8—10 стст. займае важнае месца ў гісторыі славянскіх народаў. Ён характарызуецца фармаваннем і далейшым развіццём першых славянскіх раннефеадальных дзяржаў і народнасцей. Не былі выключэннем у гэтых адносінах і ўсходнія славяне. На жаль, у раннесярэдневяковых крыніцах адсутнічае дакладнае размежаванне і супрацьпастаўленне паняццяў "народ" і "племя", адзін і той жа этнонім мог выкарыстоўвацца для пазначэння розных па сваім узроўню (у сучасным разуменні) этнічных супольнасцей. Акрамя таго, пісьмовыя сведчанні пра ўсходніх славян вельмі ўрыўкавыя альбо, часам, маюць легендарны характар. Таму з кожным дзесяцігоддзем усё большае значэнне для рэканструкцыі старажытнай гісторыі славян набываюць археалаічныя і лінгвістычныя даследаванні.

Важным дасягненнем славянскай археалогіі і лінгвістыкі з'яўляецца адмова ад раней пастуліруемага прынцыпа "радаслоўнага дрэва". Адзінай славянскай археалагічнай культуры не было ні толькі ў раннім сярэдневякоўі,



Мал. 9. Свяцілішча каля вёскі Чамярня на Беседзі




Мал. 10. Археалагічныя помнікі 8—10 стст. Верхняга Падняпроўя (*1* — помнікі культуры доўгіх курганоў; *2* — помнікі роменскай культуры)

яе не ўдаецца адшукаць і для больш старажытнага часу. Сучасныя даследаванні сведчаць на карысць канцэпцыі канвергентнага і дывергентнага развіцця ўсходніх славян на розных этапах сваёй гісторыі. Зараз на ўсходнеславянскай тэрыторыі вылучаюцца чатыры буйныя этнакультурныя вобласці 8—10 стст.: паўднёва-заходняя, паўднёва-ўсходняя, цэнтральная і паўночная.

Значную цікавасць выклікае тэрытарыяльнае супадзенне этнакультурных абласцей усходніх славян 8—10 стст. з рэканструяванымі познестаражытнарускімі дыялектнымі зонамі (Хабургаев. 1980. Карта 8).

Кожная з чатырох этнакультурных абласцей усходніх славян 8—10 стст. мае своеасаблівы шлях свайго гістарычнага развіцця. Таму паняцце "ўсходнія славяне" для гэтага перыяду мае перш за ўсё геаграфічны, а не этнічны характар. Такім чынам, для перыяду 8—10 стст. няма ніякіх падставаў казаць пра існаванне адзінай усходнеславянскай супольнасці, проціпастаўленай астатняму славянскаму свету. Гэта неабходна ўлічваць пры вывучэнні далейшай гісторыі ўсходнеславянскай супольнасці (Дробушевский. 1995. С. 11—13; гл. мал. 10).

У канцы 8 — пачатку 9 ст. пачаў функцыянаваць знакаміты гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі", які звязаў усходнеславянскія землі з Балтыкай, Прычарнамор'ем і Усходам. Уключэнне ўсходніх славянаў у міжнародны гандаль садзейнічала не толькі паскоранаму распаду першабытнага ладу, але й этнакультурнай кансалідацыі на больш высокім (дзяржаўным) узроўні. Традыцыйна лічыцца, што шлях "з варагаў у грэкі" праходзіў па Дняпры. Аднак варта адзначыць, што, як паказалі апошнія археалагіныя даследаванні супрацоўнікаў аддзела археалогіі Гомельскага абласнога краязнаўчага музея пад кіраўніцтвам А. І. Драбушэўскага, на правабярэжжы Дняпра амаль на 200-кіламетровым участку паміж Рагачовам і Лоевам не выяўлена большменш буйных паселішчаў 8 — пачатку 10 ст. З другога боку, матэрыялы 8—10 стст. вядомы на тэрыторыі Пасожжа ў Гомелі, Чачэрску, Слаўгарадзе і Крычаве. Цікава, што вярхоўі Сожа і Віхры размешчаны даволі блізка (каля 20 км) ад знакамітага Гнёздаўскага археалагічнага комплексу. Можна выказаць меркаванне, што ў гэты час гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі" ад Смаленска да Кіева ў асноўным праходзіў не па Дняпры, а па Сажы. Тым больш, што гэты гандлёвы шлях існаваў яшчэ ад часоў ранняга жалезнага веку, аб чым сведчыць скіфскі і латэнскі імпарт на гэтай тэрыторыі.

У перыяд 8—13 стст. тэрыторыю Верхняга Падняпроўя засялялі ўсходнія славяне, вядомыя па пісьмовых крыніцах: дрыгавічы, радзімічы, севяране, крывічы, часткова паляне і вяцічы (Седов. 1982. Карта 38; Археалогія Беларусі. Т. 3. 2000. Мал. 1). Кожны з гэтых усходнеславянскіх "народцаў", па тэрміналогіі П. М. Траццякова (Третьяков. 1970. С. 70), знаходзіўся на розным узроўні кансалідацыі, меў неаднолькавыя паходжанне і гістарычны лёс.

За апошнія дзесяцігоддзі даказана, што, напрыклад, дрыгавічы, якія займалі абшары Прыпяцкага Палесся, паходзяць ад нашчадкаў носьбітаў пражскай культуры (Седов. 1970. С. 83—84). Даследаванні на паселішчы ў в. Праскурні Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці дазваляюць меркаваць, што плямёны пражскай культуры ў 5—7 стст. дасягнулі Гомельскага Падняпроўя (Дробушевский, Штеменко. 1997. С. 10—13), г. зн. занялі частку земляў плямён калочынскай культуры. Апошняе тлумачыць, чаму ўсходняя мяжа дрыгавічоў праходзіла менавіта па Дняпры.

Матэрыяльная культура саміх дрыгавічоў вельмі падобная да культуры паўднёва-заходняй групы ўсходніх славян (Тимофеев. 1961. С. 56—75; Седов. 1962. С. 197). Іх бліжэйшымі родзічамі з'яўляюцца летапісныя паляне, драўляне і валыняне (Седов. 1982. С. 90—93; Вяргей. 1999. С. 317—348; Лысенко. 1991; Лысенка. 2000. С. 53).




Мал. 11. Этнакультурная карта Верхняга Падняпроўя ў 10—12 стст. паводле матэрыялаў курганных могільнікаў (*1* — сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы радзімічаў; *2* — дрыгавіцкія скроневыя кольцы; *3* — курганы палян; *4* — севяранскія скроневыя кольцы; *5* — крывіцкія скроневыя кольцы; *6* — арэал радзімічаў)

У канцы XIX ст. беларускі археолаг В. З. Завітневіч устанавіў, што ўсходняя мяжа дрыгавічоў праходзіла па Дняпры. Асобныя дрыгавіцкія могільнікі ёсць і на левым беразе (Кардон, Ветачка), аднак у Ніжнім Пасожжы (на радзіміцкай тэрыторыі) вядомы толькі адзінкавыя дрыгавіцкія знаходкі (Седов. 1982. С. 113—119. Карта 15; Лысенко. 1991. С. 97. Рис. 7; Лысенка. 2000. С. 53—56).

Больш складана вырашаецца пытанне пра паходжанне радзімічаў. Згодна з "Аповесцю мінулых часоў" радзімічы жылі на Сажы. Багата спрэчак сярод навукоўцаў выклікала летапіснае паведамленне, што "радимичи бо... от ляховъ" (Повесть временных лет. 1950. С. 14). У навуцы доўгі час дамінавала думка пра заходняе (польскае) паходжанне радзімічаў (Соловьёва. 1968. С. 352—356; Седов. 1982. С. 156—157). Аднак зараз на радзіміцкай тэрыторыі адкрыты старажытнасці 8—10 стст., вельмі падобныя да роменскай культуры Падзясення (Соловьёва. 1970; Археологическая карта России: Брянская обл. 1993. С. 17—18. Мал. 11). Падабенства прамянёвых радзіміцкіх і роменскіх скроневых кольцаў, факт наяўнасці на ранніх радзіміцкіх помніках роменскай керамікі сведчаць, што "прарадзімай" радзімічаў трэба лічыць паўночна-заходнюю частку роменскай культуры (Шинаков, Гурьянов. 1994. С. 248—273; Каробушкіна. 2000. С. 65).

Роменская культура (разам з помнікамі боршаўскага тыпу) пакінута летапіснымі вяцічамі і севяранамі. Такім чынам, радзімічы ў 8—10 стст. складалі разам з севяранамі і вяцічамі паўднёва-ўсходнюю групу ўсходніх славян. Роднаснасць радзімічаў да севяранаў і вяцічаў неаднаразова адзначалася ў летапісе: "И радимичи, и вятичи, и север один обычай имяху..." (Повесть временных лет. 1950. С. 15). Паводле той жа "Аповесці мінулых часоў", радзімічы, як севяране і вяцічы, плацілі даніну Хазарскаму каганату, улада якога распаўсюдзілася на апошніх у 8 ст. (Артамонов. 1962. С. 288—289). Аднак у апошні час выказана думка, што даніну Хазарскаму каганату плацілі не радзімічы Пасожжа, а іх каланісты, якія рассяліліся ў лесастэпавых раёнах Дняпроўскага Левабярэжжа (Сухобоков. 1991. С. 90). Як бы там ні было, канец радзіміцкай самастойнасці надыйшоў у выніку пахода кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча ў 984 г., калі радзіміцкае войска было разбіта ваяводам Воўчы Хвост на р. Пясчань (Повесть временных лет. 1950. С. 59).

Як адзначалася вышэй, заходняй мяжой радзімічаў з дрыгавічамі быў Дняпро. Толькі вышэй вусця Бярэзіны ў Дняпроўскім Правабярэжжы вядомы курганныя могільнікі, на якіх пераважае радзіміцкі інвентар (Лысенка. 2000. С. 56; Седов. 1982. С. 154. Карта 24). На поўдні радзімічы межавалі з палянамі, якія займалі Сярэдняе Падняпроўе і частку Ніжняга Падзясення (Седов. 1982. Карта 14). Цікава, што паўднёвая і паўднёва-ўсходняя межы зямлі радзімічаў поўнасцю супадаюць з межамі "Рускай зямлі" 9—12 стст. (паводле А. Н. Насонава і Б. А. Рыбакова). Гэта мяжа існавала і значна пазней, у часы позняга сярэдневякоўя, пра што сведчыць "Рэестр рэвізіі гаспадарскай Гомельскай воласці 1560 г." (Спиридонов. 1989. С. 52—53; Макушнікаў. 1993. С. 42—59).

Як лічыць Г. Ф. Салаўёва, там, дзе радзімічы суседнічалі з севяранамі і вяцічамі, яны не мелі цвёрдых межаў і мірным шляхам пранікалі на гэтыя тэрыторыі (Соловьёва. 1968. С. 355—356). Сапраўды, радзіміцкія пахаванні вядомы на Кветунскім могільніку ў Бранскім Падзясенні (Падин. 1976. С. 197—210) і нават далей на паўднёвы ўсход. З другога боку, севяранскія пахаванні сустракаюцца на радзіміцкай зямлі ў левабярэжжы Іпуці ў раёне г. Навазыбкава (Седов. 1982. Карта 24).

Паўночную частку Верхняга Падняпроўя ў раннім сярэдневякоўі займалі крывічы — самая вялікая этнакультурная супольнасць усходніх славян.

Зараз можна лічыць амаль даказаным, што летапісныя крывічы — нашчадкі носьбітаў культуры доўгіх курганоў (Седов. 1970. С. 91—124; 1974; 1982. С. 46—58; Штыхаў. 1992). Паміж крывічамі і радзімічамі таксама не існавала выразная мяжа, яны ў вярхоўях Іпуці і на р. Асцёр жылі цераспалосна (Седов. 1982. С. 158. Карта 25; Штыхаў. 2000. С. 15). Як лічаць даследчыкі, на поўначы радзіміцкая тэрыторыя дасягала сучасных беларускіх гарадоў Мсціслаўля і Чавусаў (Каробушкіна. 2000. С. 67). Праўда, варта адзначыць, што курганныя могільнікі ў гэтым рэгіёне вывучаны яшчэ вельмі слаба. Паказальна, што самыя паўднёвыя доўгія курганы на Дняпры не дасягаюць Оршы і Хіславічаў на Сажы (мал. 12). Г. Ф. Салаўёва прыйшла да высновы, што крывічы ўвесь час адцяснялі радзімічаў. Так, напрыклад, курганы каля в. Новы Крыўск Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці ў 10 — пачатку 11 ст. пакінуты радзімічамі, а ў 11—12 стст. — крывічамі (Соловьёва. 1968. С. 355—356).

Такім чынам, у перыяд сярэдневякоўя тэрыторыю Верхняга Падняпроўя засялялі розныя па паходжанню групы ўсходніх славян. Уключэнне апошніх у склад Кіеўскай Русі хоць і ўнесла значныя карэктывы ў ход этнакультурных працэсаў, аднак не прывяло да знікнення "племянных", а потым "абласных" асаблівасцей. Дрыгавічы апошні раз згадваюцца ў пісьмовых крыніцах пад 1149 г., крывічы — ў 1162, радзімічы — у 1169, а вяцічы — у 1185 г. Як вядома, землі апошніх не ўваходзілі ў "Рускую зямлю" 12—13 стст. у вузкім сэнсе (Насонов. 1951. С. 28—46; Рыбаков. 1953. С. 23—104; Зайцев. 1975. С. 57—117). Ва ўяўленнях людзей таго часу Руссю з'яўлялася толькі Кіеўская зямля, дзе жылі "поляне, яже ныне завомая Русь" (Третьяков. 1970. С. 73). "Зліццё земляў былых племянных саюзаў у адзіную старажытнарускую народнасць не было поўным і канчатковым" (Рыбаков. 1970. С. 27). Як дакладна вядома з археалагічных дадзеных, радзімічы, дрыгавічы, крывічы, вяцічы і севяране, нягледзячы на афіцыйнае прыняцце хрысціянства, заставаліся, па сутнасці, язычнікамі яшчэ ў 12 ст. На радзіміцкай зямлі вядомы сляды язычніцкага свяцілішча на правым беразе Беседзі ва ўрочышчы Каменная (Чортава) Гара каля пасёлка Чамярня Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, якое спыніла існаванне не раней за 12 ст. (Макушников. 2002. С. 46).

Першым крокам да этнакультурнага аб'яднання ўсходніх славян было з'ўленне "рускай" дружыны на чале з кіеўскім князем, якая складалася з разнароднага насельніцтва. Узнікненне адзінай праваслаўнай мітраполіі "всея Руси" з цэнтрам у Кіеве таксама спрыяла кансалідацыі ўсходніх славян у адзіную народнасць. Духавенства, таксама рознаэтнічнае па паходжанню, было другім пасля дружыны надплемянным саслоўем на Русі. Найбольш выдатную ролю ў распаўсюджванні адзінай матэрыяльнай і духоўнай культуры на ўсёй тэрыторыі старажытнай Русі, як вядома, адыгралі гарады, у першую чаргу буйныя. Аднак перавага натуральнага характару гаспадаркі, адсутнасць адзінага гандлёвага рынку ва ўмовах феадалізму затрымлівала працэс этнакультурнай кансалідацыі ў межах старажытнарускай дзяржавы. У гэтым плане ўсходнія славяне мала чым адрозніваліся ад сваіх заходніх суседзяў, бо ў 12—13 стст. яшчэ не існавала адзіных польскай, нямецкай, французскай ды іншых еўрапейскіх народнасцей.

2 Зак. 3512




Мал. 12. Старажытнарускія землі 12—13 стст. у Верхнім Падняпроўі (*1* — сталіцы земляў; *2* — сталіцы ўдзельных княжанняў; *3* — летапісныя населеныя пункты; *4* — межы земляў; *5* — радзіміцкая тэрыторыя; *6* — Гомельская валасць, 1560 г.)

Пасля распаду Кіеўскай Русі паўночная частка радзімічаў адыйшла да Смаленскага княства, а паўднёвая — да Чарнігаўскага. Як мяркуе Л. В. Аляксееў, гэты падзел радзімічаў адбыўся ў 1127 г. (Алексеев. 1980. С. 52). Зразумела, што на паўночных радзімічаў яшчэ больш вырас уплыў з боку

смаленскіх крывічоў, што знайшло сваё адлюстраванне ў археалагічным матэрыяле. Уключэнне паўднёвых радзімічаў у склад Чарнігаўскай зямлі спрыяла пранікненню нашчадкаў палянаў ды севяранаў на гэтыя землі. Як адзначалася вышэй, у той час інтэрнацыянальны ("рускі") састаў мела ў асноўным насельніцтва гарадоў. Тым не менш, і тут доўгі час існаваў падзел жыхароў па этнакультурнай прыкмеце. Нават у самым буйным горадзе радзімічаў — Гомелі (летапісны Гомій), дзе ў 1164 г. з'явіўся княжацкі стол (Зайцев. 1975. С. 104), сустракаюцца радзіміцкія этнакультурныя ўпрыгажэнні (Макушников. 1994). Як адзначае Г. Ф. Салаўёва, жыхары старажытнага Рагачова (які ў другой палове 12—13 ст. таксама ўваходзіў у склад Чарнігаўскага княства) — радзімічы па паходжанню — хавалі сваіх нябожчыкаў каля сучаснай в. Гадзілавічы, а паляне, якія паходзілі з кіеўскай зямлі, мелі свой некропаль каля в. Ходасавічы (Соловьёва. 1972. С. 53). Большасць сельскіх жыхароў, што ў сярэдневякоўі складалі асноўную масу насельніцтва, былі па паходжанню мясцовым.

У 1238—1239 гг. Смаленская і Чарнігаўская землі разам з большай часткай Русі зведалі жудаснае татара-мангольскае нашэсце. У час заваёву Чарнігаўскага княства ў 1239 г. татары спалілі не толькі Чарнігаў, але і прайшлі далёка на поўнач ад яго. Ва ўсялякім разе, археалагічныя дадзеныя сведчаць пра знішчэнне ў 13 ст. Гомеля (Макушников. 1994; Макушников. 2002. С. 67—68) і Збораўскага замка каля Рагачова (раскопкі А. І. Драбушэўскага). Тэрыторыя Чарнігаўскай зямлі, а значыць і Гомель, Чачэрск, Рагачоў і Рэчыца, у канцы 13 ст. апынуліся ў складзе так званага "рускага ўлуса" Залатой Арды.

Татарскія набегі на тэрыторыю Верхняга Падняпроўя ажыццяўляліся неаднаразова, што, безумоўна, вяло да значнага скарачэння колькасці мясцовага насельніцтва. Тым не менш, заняты лясамі верхнедняпроўскі рэгіён быў менш небяспечны за больш паўднёвыя раёны старажытнай Русі, якія знаходзіліся ў непасрэднай блізкасці ад стэпу. Таму ў другой палове 13 — першай палове 14 ст. адбываюцца значныя зрухі ўсходнеславянскага насельніцтва ў паўночным напрамку. З другога боку, у гэты ж час рэзка ўзрастае агрэсія заходнееўрапейскіх (перш за ўсё нямецкіх) крыжакоў на землі Вялікага княства Літоўскага і Рускага, што прывяло да рассялення асобных груп балцкага насельніцтва на Беларусі, у тым ліку і ў Верхнім Падняпроўі.

Першыя, яшчэ не зусім дакладныя звесткі пра часовае далучэнне заходняй часткі Чарнігаўскай зямлі (разам з Гомелем) да ВКЛ адносяцца да другой паловы 13 ст., калі літоўскія князі спрабавалі замацаваць усходнюю мяжу дзяржавы па Дняпры. Не выпадкова з гэтага часу значна ўзрастае значэнне такіх прыдняпроўскіх гарадоў, як Рагачоў і Рэчыца. У сярэдзіне 14 ст. у сувязі з паслабленнем магутнасці Залатой Арды рэзка ўзрастае ваенна-палітычная актыўнасць ВКЛ на ўсходнім напрамку. Пры Альгердзе Гедымінавічы да ВКЛ далучаюцца Бранскае (1355) ды Мсціслаўскае княствы (1358), Кіеўская зямля, а таксама ўсходняя частка (верхнеоцкія княствы) Чарнігаўскай зямлі (1360—1370-я). Каля 1362 г. войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам Альгерда нанеслі значнае паражэнне залатаардынскім войскам каля Сіняй Вады, у выніку чаго на доўгі час спыняюцца татарскія набегі на беларускія землі. У 1404 г. Вітаўт Кейстутавіч далучыў да ВКЛ і Смаленск. Такім чынам, у другой палове 13 — пачатку 14 ст. практычна ўсё Верхняе Падняпроўе

апынулася ў складзе адной дзяржавы — ВКЛ. Безумоўна, гэта спрыяла не толькі сацыяльна-эканамічнаму развіццю разглядаемага рэгіёна, але і этнакультурнай інтэграцыі мясцовага насельніцтва.

Амаль да сярэдзіны 16 ст. ВКЛ складалася з такіх асобных тэрытарыяльных адзінак — "земляў", якія ў значнай ступені захоўвалі мясцовую юрыдычную самастойнасць. Гомельская воласць у канцы 14 — пачатку 15 ст. з'яўлялася велікакняжым уладаннем і ўваходзіла ў склад Старадубскага княства "Северскай" зямлі. Захаванне ўсходнеславянскіх традыцый ("старины не рухати") было ў 14—15 стст. прынцыпам палітычнай дзейнасці літоўскіх князёў у адносінах да беларускіх, рускіх і ўкраінскіх земляў, што замацавана ва ўстаўных граматах і прывілеях для асобных земляў і абласцей. Таму думка А. А. Макушнікава пра тое, што межы Гомельскай воласці 1560 года ў асноўным адпавядаюць папярэднім (Макушнікаў. 1993. С. 42—59), можа лічыцца вельмі слушнай.

Як паказваюць сучасныя даследаванні, гэта быў перыяд найбольш актыўнага пашырэння камунікацыйных міжэтнічных функцый беларускай мовы (Жураўскі. 1982. С. 20—26; Этнаграфія беларусаў. 1985. С. 65—67). Для Беларусі 15—16 стст. характэрны рост гарадоў і мястэчак. Тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел 1555—1556 гг. і наступных часоў садзейнічаў цэнтралізацыі дзяржавы і ў некаторай ступені перакроіў ранейшую ўнутраную зямельную структуру Беларусі. Гаспадарка ўсё больш набывае таварна-грашовы характар, што спрыяла разбурэнню былой "абласной" замкнёнасці мясцовага насельніцтва і стварэнню адзінай беларускай народнасці.

Агульнавядома, што арэал фармавання беларусаў быў некалькі шырэй, чым межы сучаснай Беларусі (Карский. 1902; Дурново, Соколов, Ушаков. 1915). Этнаграфічныя і лінгвістычныя матэрыялы, а таксама дадзеныя Першага ўсеагульнага перапісу 1897 г. насельніцтва Расійскай імперыі, сведчаць, што беларусы яшчэ ў канцы 19 ст. займалі на ўсходзе абшары да Ржэва і Бранску (Этнаграфія Беларусі. 1989. С. 550).

Аднак пачынаючы з 16 ст. усходнебеларускія землі становяцца арэнай амаль безупынных ваенных дзеянняў паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Памежнае, а дакладней, прыфрантавое становішча Верхняга Падняпроўя ў 16—17 стст. не магло не адбіцца на сацыяльна-эканамічным развіцці і этнакультурнай сітуацыі ў рэгіёне. Людскія страты ў міжваенны перыяд звычайна папаўняліся за кошт перасялення ў памежныя раёны выхадцаў з іншых мясцінаў. Толькі на землях Старадубскага палка (куды ўваходзіла і сучасная Веткаўшчына) ў 1630-я гг. пражывалі выхадцы з Крычава, Мсціслаўля, Магілёва, Горак, Оршы, Полацка, Талачына і многіх іншых месцаў Беларусі (Этнаграфія беларусаў. 1985. С. 121—122). Людскія страты былі вельмі значнымі. Напрыклад, у час вайны 1654—1667 гг. паміж Расіяй і Рэчаю Паспалітай на тэрыторыі Беларусі была знішчана амаль палова насельніцтва (!). Калі, паводле "Рэестра рэвізіі гаспадарскай 1560 г." у Гомельскай воласці зафіксавана 50 населеных пунктаў, дык у інвентары 1681 г. згадана толькі 20 вёсак. Амаль дзвесце гадоў спатрэбілася, каб колькасць жыхароў на Гомельшчыне дасягнула папярэдніх памераў (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. 1996. С. 67).

Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 г. Смаленскае ваяводства канчаткова адыйшло да Расіі, тады як Мсціслаўскае ваяводства, Чачэрск, Гомель, Рагачоў і Рэчыца засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай. "Вечны мір", заключаны ў 1686 г., амаль на стагоддзе замацаваў межы паміж дзяржавамі. У той жа час абедзве дзяржавы прыкладаюць намаганні для папаўнення колькасці насельніцтва ў памежных раёнах, якое значна скарацілася з абодвух бакоў. Напрыклад, з канца 17 да сярэдзіны 18 ст. адбыўся колькасны прырост жыхароў у Пасожжы (Прапойскае і Чачэрскае староствы) амаль у пяць разоў (!), у асноўным за кошт перасялення з суседніх беларускіх земляў (Мелешко. 1975. С. 50; Яшкін. 1976. С. 18). З боку Расійскай дзяржавы таксама ажыццяўляліся мерапрыемствы па засяленню зямляў сучаснай Браншчыны і Смаленшчыны выхадцамі з Расіі і Украіны.

Менавіта ў 17 ст. паняцце "беларусы" фіксуецца ў пісьмовых крыніцах як саманазва жыхароў усходніх земляў Беларусі і нават суседняй Чарнігаўшчыны (Этнаграфія беларусаў. 1985. С. 128). Аднак пачынаючы з 16 ст. усходнія беларусы адчуваюць усё большы расійскі ўплыў. Пазней на ўсходнія тэрыторыі Гомельшчыны ў значнай колькасці пачынаюць перасяляцца расійскія стараверы. Па гістарычных крыніцах, першыя расійскія стараверы з'явіліся тут у 1684 г., заснавалі Ветку, а таксама прыкладна 20 слабодаў. Па дыялектычных дадзеных, і да сёння на Гомельшчыне сярод мясцовых жыхароў існуюць астраўныя веткаўскія гаворкі, якія паходзяць ад расійскай мовы (Манаенкова. 1992. С. 189—204). Украпіны розначасовых і разнастайных традыцый і сёння надаюць, бясспрэчна, вельмі своеасаблівыя рысы духоўнай і матэрыяльнай культуры насельніцтва Верхняга Падняпроўя.

# 1. ПАРАМЕТРЫ ПАРАЎНАННЯ

Выяўленне асобных традыцый ручнікоў як магчымых этнавызначальных і семантычных з'яў народнай культуры, якія дзейнічаюць у пэўным рэгіёне, — мэта ўсяго нашага даследавання. Мнагагадовыя доследы, праведзеныя Веткаўскім музеем, дазваляюць абапірацца на папярэдні вопыт 'тэхналагічнага' апісання кожнай з такіх традыцый па пэўнай схеме (Нячаева. 1998а. С. 399—400). Яе выкарыстанне, а таксама ўлік распрацаваных у апошнія гады прынцыпаў тыпалагізацыі ручнікоў усёй Беларусі (Лабачэўская. 2000. С. 11—21) робяць схему апісання традыцый ручнікоў больш дасканалай. Пэўную спецыфіку сюды ўносяць задачы, якія ўзнікаюць у сувязі з мэтамі нашага даследавання, скіраванага перш за ўсё на 'жыццё' арнаментальнага элемента ў прасторы пэўнай кампазіцыі і ў 'матэрыі' пэўнай тэхналогіі. Кожная з гэтакіх матэрыяльна зафіксаваных адзнакаў можа несці на сабе квант інфармацыі. Структурнасць у разуменні гэтых складаных частак і параметраў ручніка залежыць ад стану традыцыі, але не ў апошняй ступені і ад погляду самога даследчыка, ад пытанняў, якія былі ім пастаўлены альбо не.

Прынцып 'гідралагічнага' вызначэння той альбо іншай традыцыі ручніковага ткацтва адлюстраваўся ў пазначэнні *'локуса' кожнай традыцыі адносна сістэм рэк*, іх прытокаў, пратокаў ды іншых асаблівасцей водападзелу, што павязваецца намі з магчымасцю шукаць сувязі і розніцу традыцый у этнічна ды гістарычна 'рачным' характары рассялення іх носьбітаў.

Звычайныя пытанні пра час вырабу і месца стварэння, 'замеры' даўжыні і шырыні, вызначэнне матэрыялу і тэхнікаў, пералік ужываных колераў вядуць да кола 'семантычных' звестак наконт родных вёсак, пра іх шлюбныя сувязі, адносіны 'свякроўка-нявестка', 'маці-дачка'. Час стварэння правакуе на пытанні пра пераемнасці традыцыі альбо яе змены, "моды" і запазычванні. Параўнанні памераў усяго ручніка і яго частак пераконваюць як у адметнасцях асобных традыцый, гэтак і ў зменлівасці кожнай з іх, у сувязі даўжыні і шырыні з масаю фактараў, найперш з выглядам і чынам Покуці, спосабамі ўмацавання ручніка, памерамі самой хаты і пераменамі ў гэтым дамовым 'космасе'. Часам, пераймаючы ўзор ва ўзаемадзеянні з іншаю традыцыяй, майстрыхі пакідаюць нязменнымі памеры сваёй, старэйшай тканіны.

Каляровае вырашэнне ручніка — надзвычай інфарматыўны параметр. Часам ужываюцца ў адным ручніку чырвона- (ч/ф) і белафонавыя (б/ф) палосы, альбо кампазіцыя мае адзіны фон, і тады мы пазначаем 'белы чын' (б/ч) альбо 'чырвоны чын' (ч/ч).



Мал. 13. У в. Клеявічы (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

Безумоўна, колер, ступень яго праяўленасці, насычанасці залежыць і ад матэрыялу, і ад тэхнікі. Некалькі мясцовых тэрмінаў сведчаць, што гэта семантычны факт і для самой традыцыі.

Зразумела, што для бранага і закладнога ткацтва паняцце фону не ўводзіцца, але гэтыя тэхнікі супрацьпастаўляюцца як негатыўна-пазітыўны і двухбаковы тып па выгляду знешняга і адваротнага бакоў. Структурнымі і значнымі аказаліся і ўсе складаныя часткі цэлага ручніка.

Так, пасля 'першасных' адзнакаў мы пераходзім да апазіцыі белай *сярэдзіны* ("поля" — мясц., 'срэдніка' — літ.) і арнаментаваных канцоў ручніка. Асобная характарыстыка сярэдзіны абумоўлена тым, што яна адрозніваецца кампазіцыйна (па колеры, арнаментальным элементам), але важна, што сярэдзіна можа супрацьпастаўляцца канцу і па складу нітак, і па тэхніцы выканання самой 'белай' палатніны, чым адрозніваюцца і традыцыі.

Акрамя пераліку тэхнікаў і матэрыялаў выканання ўласна арнаментальных элементаў, спыняемся на колькасных і тэхналагічных якасцях у стварэнні 'найменшага' элементу ўсіх арнаментаў — таго прамакутнічка-'цаглінкі', з якіх будуецца любая фігура і кожны з якіх на мове неглюбскай традыцыі імянуецца "сякеркаю" (у чым нам бачыцца архетыпічная адзнака, бо арнамент рассякае патэнцыяльна цэлае — палатно). Тут мы адзначаем памер 'шагу' (колькасць нітак асновы, якія 'перасягае' ўзорны уток у найменшай значнай адзінцы ўзора) і памер 'ступенькі' (якую ствapae пэўная колькасць прокідаў узорнага утка, г. зн. вышыня "сякеркі"). Такая пільнасць да найменшых адзінак узора прадыктавана семантычным характарам тэхналагічных памераў, бо, здаецца, дае матэрыял для далейшага этнавызначальнага даследавання.

Безумоўна, нашу найвялікшую ўвагу прыцягвае цэласная пабудова ўзорнага канца ручніка, яго арнаментальная кампазіцыя.

## 2. ТЫПЫ КАМПАЗІЦЫЙ

Па 'занальнасці' запаўнення ўзорам канцоў ручніка сёння на мясцовым матэрыяле мы вылучаем дзве групы, у якія ўваходзяць дзевяць асноўных тыпаў кампазіцый, паміж якімі варыянты ўтвараюць амаль бясконцы ўзор пераходаў. Тыпы кампазіцый наступныя.

I. Планіметрычныя (геаметрычны чын як аснова).

1. Вылучаецца старажытны тып з адною ўзорнаю паласою (часам — і з сіметрычным суправаджэннем дзвюх вузкіх калодак), які захаваўся, галоўным чынам, на галаўных уборах ручніковага тыпу. Магчымая падаснова развіцця як вертыкальных, гэтак і гарызантальных (папярочнапаласатых) чыноў.

2. Вертыкальная (з чаргаваннем вертыкальных, падоўжаных ланцугоў 'злітых' арнаментальных элементаў). Часам мы ўжываем вобразныя азначэнні такіх ланцугоў ('стаўпы', 'расты', 'ліўні'). Яе падтыпы:

2-а. Дыяганальная (асноўны ўзор — у выглядзе запаўнення дыяганальнай сеткі, часта з шашачным размяшчэннем асобных элементаў). Здаецца варыянтам развіцця кампазіцыі тыпу 2;

2-б. Прамаклеткавая ('панёўная'). Таксама паходзіць ад узаемадзеяння 2 і 3. Бывае, што з'яўляецца вынікам пераасэнсавання папярочнапаласатай, калі ў ёй рэдукуюцца альбо наогул знікаюць міжузорныя дзельнікі — "калодкі". Здаецца познім тыпам, утвораным пад уздзеяннем клятчастага шматнітовага ткацтва.

3. Папярочнапаласатая. Мае два 'полюсы'-падтыпы:

3-а. Асіметрычная (ас).

3-б. Тая, што мае люстраную сіметрыю адносна цэнтральнай паласы (л/с).

Утварае амаль бясконцы шэраг варыянтаў як кампазіцыйна, так і ў залежнасці ад спосабу падзелу палос (белапрасветныя, чырвонакалодкавыя, паласатакалодкавыя, узорнакалодкавыя).

Асіметрычныя папярочнапаласатыя ручнікі ў сваю чаргу падзяляюцца на:

1) тыя, што маюць 'пацяжэнне' арнаменту альбо масы ў чырвоных палосах у напрамку да нізу (тып **а-б-в-г**...);

2) тыя, што маюць паўтор аднапамерных палос (тыпу **а-а-а**...) альбо чаргаванне палос двух памераў (тыпу **а-б-а-б**...).

Сіметрычныя кампазіцыі яднаюць шэраг розных 'паласатых' традыцый (**п-1-п**; **а-б-а-б-а**; **2а-3а-2а**).

4. Паміж 2 і 3-б існуюць кампазіцыі, якія паходзяць ад узаемадзеяння гэтых тыпаў. Мы азначаем іх як падоўжана-сіметрычныя (**а-па-а**).

5. Рэдкі тып — калі занальнасць выяўляецца не злучэннем элементаў альбо скразнымі палосамі накшталт калодак, а групоўкаю асобна размешчаных элементаў на агульным белым фоне. Кампазіцыя здаецца развіццём архаічнага змяшчэння на тканіну асобнага элементу з яго магічным сэнсам (гл. археалагічныя прыклады). Не мае паласатых альбо вертыкальных папярэднікаў, хаця гістарычна і ўзаемадзейнічае з імі. На матэрыяле мясцовага арнаменту зрэдку служыць прыкладам розным традыцыям. Узнаўляецца ў іх кампазіцыях з адпаведнай занальнасцю (вертыкальнаю, папярочнапаласатаю і г. д.).

2а Зак. 3512

II. Архаічны ярусны чын ды вытворныя ад узаемадзеяння яго і планіметрычных. Гістарычна павязаны з 'кралявецкім' уплывам на мясцовыя традыцыі.

6. Ярусная (захоўвае рысы трох'яруснай 'мадэлі Сусвету' і перадачу фігур 'у выглядзе збоку').

7. Маналітная (з выяваю галоўнай фігуры і яе суправаджэннем, пры адзіным і непадзельным фоне). Пры ўзнаўленні архаічна трактуе новыя выяўленчыя матывы.

8. Блізкая да 4 і 6 кампазіцыя падоўжана-сіметрычнага тыпу, але са 'сярэднікам', дзе змяшчаюцца асобныя фігуры ды 'ўнутраныя' кампазіцыі, большага выяўленчага характару. Нараджаецца са ўзаемадзеяння архаічнага яруснага чыну і геаметрычных 2 і 3.

9. Папярочна-паласатая з выяўленчымі матывамі. Мае як новы, гэтак і архаічны фонд арнаменту. Вынік узаемадзеяння 3 і 6.

У адметнасцях традыцый альбо, што больш слушна, у іх самавызначэнні важная адзнака — спосабы падзелу частак агульнай кампазіцыі арнаменту. Дзельнікамі (як і злучнікамі) тут выступаюць вузкія палоскі паміж асноўнымі палосамі ўзору альбо паміж усім асноўным арнаментам канца ды іншымі часткамі ручніка (сярэдзінай, краем). Самі традыцыі вылучаюць такія дзельнікі і адрозніваюць перш за ўсё па ім сваю традыцыю ад "чужасельскай" (Негл.). Мясцовыя назвы гэтых палосак — "калодкі", "лінеечкі", "пруцікі", "вольныя палоскі". Калі ўзорныя палосы ткуцца асобна па белым фоне асноўнай тканіны, якая і надалей успрымаецца як цэльная і кампазіцыйна важная, мы адзначаем міжузорныя прамежкі палатна як 'прасветы' (такія ручнікі ў класіфікацыі Лабачэўскай адзначаюцца як 'паласата-арнаментаваныя'). Калі традыцыя адчувае недахоп такога падзелу, яна ўводзіць паміж асноўнымі ўзорнымі палосамі "калодкі". Тыпы іх разнастайныя і амаль не даследаваліся раней. Ад простых "пруцікаў" ускладненне ідзе праз 'паласатыя' (у выглядзе некалькіх палосак) і да ўвядзення ў кампазіцыю шырокіх чырвонафонавых "вольных палосак". Да таго як мы атрымалі гэты мясцовы тэрмін, такія палосы чырвонага фону мы звалі 'пазёмамі', што і захоўваецца як адна з вобразных адзнак. Асобны фонд складаюць 'узорныя' калодкі — вузкія палосы бранага арнаменту паміж шырокімі палосамі 'галоўных' узораў. Звычайна аднолькавыя, узорныя калодкі бываюць і living розныміў складзе адной кампазіцыі, што сведчыць аб складаным паходжанні з'явы. Узорныя калодкі вылучаюць шэраг традыцый, якія выразна супрацьстаяць 'чырвонакалодкавым'.

Апісваючы ўзорны канец ручніка, мы адзначаем колькасць ужытых арнаментальных элементаў, парадак іх чаргавання, месца элемента ў кампазіцыі. Напрыклад, для люстрана-сіметрычнага паласата-арнаментаванага ручніка месца ўзора маркіруецца праз умоўныя вызначэнні: 1Ц (у цэнтральнай паласе), 2, 3 і г. д. — нумар паласы па парадку ад цэнтра кампазіцыі. Дадаецца і вызначэнне колеру фона (б/ф, ч/ф). Апошнюю паласу пазначаем як канцавую, крайнюю (к), напрыклад: 3к, ч/ф — трэцяя, апошняя, па чырвоным фоне.

Тут жа каротка пазначаем і лікавыя заканамернасці ва ўжыванні элементаў, напрыклад: цот-няцот і пэўныя лікавыя рады (3-5-7-9 альбо 2-4) —

семантычнае даследаванне якіх патрабавала б асобнай увагі і немагчыма ў невялікім аб’ёме апісання.

Імкнемся зазначыць, дзе магчыма, паходжанне арнаментаў, галоўным чынам, нядаўнія працэсы ды іх асэнсаванне традыцыяй.

Нарэшце, у апісанні мы даходзім да вельмі важнай этнавызначальнай часткі кампазіцыі — да *краю.* Тып яго афармлення (карункамі, сеткаю, кісткамі, бахрамою і г. д.) — крыніца важнай інфармацыі. Такім чынам, агульны парадак схематычнага апісання ручніка наступны: ‘локус’ традыцыі — месца стварэння тканіны — час вырабу — памеры — сярэдзіна — канец (тып кампазіцыі — склад арнаментальных элементаў — паходжанне — лікавыя заканамернасці — месцы ў кампазіцыі — калодкі) — край — тэхналагічныя асаблівасці.

Інфармацыя, якую мы атрымалі, вельмі розная па паўнаце. Таму разгортванне ‘тэхналагічнага’ апісання, яго семантычны працяг можа вынікаць з кожнага пункту схемы. Такі ж і агульны напрамак нашай працы па вылучэнні традыцый праз іх параўнанне. Яно робіцца ўсё болей структурным і прыцягвае шэраг фактараў, таму апісанне кожнай з ‘наступных’ традыцый павялічваецца колькасна і якасна ўскладняецца.

# 3. ХАРАКТАРЫСТЫКА АСОБНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

## 3.1. Дубраўская традыцыя. Пераборныя ручнікі белага чыну і ‘браныя’ традыцыі ў яе аснове

Назва: па в. Дубраўка Добрушскага раёна, на Вуці. Месца: басейн Іпуці ля яе вусця, міжрэчча Хорапуці (левы прыток Іпуці) і Вуці (левы — Сожа). Выхад у закружскую традыцыю ўздоўж р. Ачоса (правы — Іпуці), у бабовіцкую традыцыю (міжрэчча Ачосы — Іпуці) і ў ‘гомельскія’ ручнікі на самім вусце Іпуці, уздоўж Вуці ды Цярухі (левы — Сожа).

### Закружская традыцыя браных ручнікоў

Варыянт р. Ачосы, асаблівасць якога — у памежным характары існавання. З поўначы побач (каля 6 км) — неглюбская традыцыя з яе старымі бранымі тканінамі; з усходу, цераз рэчку Ачосу — архаічныя бабовіцкія ручнікі тыпу **n-1-n**; з захаду на той жа адлегласці ў некалькі кіламетраў — прыснянскія ручнікі з вертыкальнай кампазіцыяй; на поўдзень — уласна дубраўская традыцыя, якая перапрацоўвала сваім новым пераборам розныя браныя варыянты, у тым ліку ўвабрала і закружскія, але мае старыя браныя эквіваленты.

У ВМНТ захоўваюцца рэчы і экспедыцыйныя матэрыялы з наступных вёсак (у дужках — колькасць рэчаў у калекцыі, іх памеры ды час вырабу):
— Закружжа (13; 184-336/28-41; канец XIX ст. — 1920-я гг.);
— Амяльное (12; 150-350/28-51; канец XIX ст. — 1920-я гг.);
— Марозаўка (5; 288-292/25-36; 1920-я гг.);
— Ачоса-Рудня (1; канцы/31; 1920-я гг.).

Колер — чырвона-белы, чырвона-бела-чорны.



Мал. 14. Тут традыцыя загаварыла з намі. Вёска Дубраўка Добрушскага раёна. 1999 г.

Тэхнікі — бранае ткацтва. Адзінкавыя прыклады — ускладненне кампазіцыі белафонавымі пераборнымі палосамі.

Сярэдзіна — найчасцей палатняная, але адзінкавыя прыклады маюць чатырохнітовую аднатковую сярэдзіну (в. Закружжа). Палатняная мае папярочныя палоскі — калодкі ў выглядзе вузкіх "пруцікаў", найчасцей спараных.

Канец — папярочна-паласатая кампазіцыя з тэндэнцыяй да л/с. Найбольш пашыраны тып — **а-б-а-б-а,** ад трох да дзевяці палосаў. Паласа **б** больш вузкая, аддзеленая ад шырокай белым прасветам з прутком пасярэдзіне, пераасэнсоўваецца ў калодку (з варыянтамі спаранай калодкі), затым "пруцікі"-падзелы знікаюць. Нарэшце, знікаюць і ўзоры ў калодках, яны замяняюцца гарадчастымі альбо паласатымі. Ручнік пераходзіць у другі тып: **а-а-а...** Захоўваецца 'памяць' аб асіметрыі — дадатковыя калодкі з арнаментам **в** у верхняй частцы альбо іншыя адзнакі. Трэці тып — блізкі да першага, але мае падвойны па вертыкалі матыў у цэнтральнай паласе, што набліжае кампазіцыю да вядомай 'гомельскай', тут перамагае люстраная сіметрыя. Некаторыя сіметрычныя тканіны замяняюць і сам матыў арнаменту ў цэнтральнай паласе да тыпу: **а-б-а-б-вв-б-а-б-а**, што сведчыць аб узаемадзеянні з бабовіцкай традыцыяй тыпу **п-1-п** з люстраною сіметрыяй. Асобы від арнамента з лева-правай асіметрыяй у Закружжы і Амяльном — кампазіцыі з узорам "капыткі". Цікава, што ручнікі з гэтым узорам ткаліся і па першым, і па трэцім тыпах кампазіцыі, а ў Антонаўцы, якая належыць да прыснянскай традыцыі 'вертыкальных' ручнікоў, гэты ж узор ткаўся "чарэсна", г. зн. без падзелу на палосы (**фота 214**).

Край — сеткі з круглымі альбо зубчастымі карункамі, зубчастыя карункі.

Лікавыя заканамернасці ў арнаментальных элементах — звычайныя рады цотных і няцотных узораў. Сярод лічбаў найбольш цікавая для далейшых

доследаў — 6, якая пры паўторы ўтварае рады 12, 24, 42. Наогул характэрныя вялікія колькасці элементаў. У сувязі з асобым характарам узора "капыткоў" ("капыццейка") высвятляецца схільнасць узорных палос да ліку паўтора і звычайнага аднаго элементу тры з паловаю, чатыры з паловаю і г. д. разоў, прычым апошні ў радзе элемент ткаўся трохі больш за палавіну выявы, магчыма, спецыяльна, каб уз'яднацца ў цэлую фігуру пры "сцапленні".

**Уласна дубраўская традыцыя**

Левы прыток Іпуці, Хорапуць, левы Сожа Вуць, левы Сожа Цяруха ды іх міжрэччы паблізу вусця Іпуці. Вёскі пералічаны ў парадку ад вытокаў да вусцяў. Пераборныя і браныя ручнікі прысутнічаюць у адной і той жа вёсцы. Браныя ручнікі розных тыпаў ёсць у вёсках па ўсяму арэалу, таму як асобныя традыцыі тут не выдзяляюцца.

1. Варыянт р. Хорапуці (традыцыя, дзе ткаліся адныя канцы ручніка, сярэдзіна дашывалася. Памеры — ручнікоў альбо канцоў):

— Васілеўка (3; 50/27; канец XIX ст. — 1920-я гг.);

— Карма (15; 50-70/25-32; канец XIX ст. — 1920-я гг.);

— Жгунь (4; 233-308 (цэлыя) /33-36; 1920-я гг.);

— Чырвоны Партызан (1; 320/27 (цэлы); пачатак XX ст.);

— Кузьмінічы (2; 56/24; 1920-я гг.).

2. Варыянт р. Вуці (левы Сожа):

— Дубраўка (29; 50-60/25-31; пачатак XX ст. — 1920-я, 1940-я гг.);

— Баршчоўка (5; 50-70/27-30; 1910—1920-я гг.);

— Красная Буда (10; 64-75/29-33; 1910—1920-я гг.);

— Дзмітраўка (2; 53/28; 1920-я гг.);

— Церахоўка (1; 50/29; 1910—1920-я гг.);

— Насовічы (2; 67/31,5; пачатак XX ст.);

— Запрудаўка (3; 60/30, 232/29; 1916—1917 гг.);

— Гардуны (1; 65/33; 1940-я гг.);

— Вуць (1; 50/27; пачатак XX ст.);

— Прыбыткі (2; 193-230 (цэлыя) /27-33; канец XIX ст.);

— Клімаўка (1; 58/29; 1930-я гг.).

3. Варыянт р. Цярухі:

— Усоха-Буда (6; 183-283 (цэлыя) /25-30,56/25-30; пачатак XX ст. — 1920-я гг.);

— Хутаранка (2; 51/28; 1930-я гг.).

Колер — чырвона-белы, чырвона-бела-чорны, аднолькавыя чорна-белыя.

Тэхнікі — браныя (Д І.1,2), выбарныя (Д І.3), аднабаковы перабор (Д ІІ).

Сярэдзіна — часцей канцы ткалі сцэльніцаю, пасля разразалі і прышывалі да палатнянай сярэдзіны. Некалькі рэчаў цэльныя, сярэдзіна мае папярочныя палоскі — калодкі. Паміж імі альбо проста ў калодках бываюць па 1—2 знакі.

Канец — папярочнапаласатая кампазіцыя з люстраною сіметрыяй.

Д І. Браныя ручнікі даюць два варыянты кампазіцый:

Д І.1. Чаргаванне дзвюх розных па запаўненні палосаў тыпу **а-б-а-б-а**, найчасцей 5—7 палос. Блізкія да закружскай традыцыі (**фота 354**). Такі рытм прадстаўлены ў 'стаўбунскіх' ручніках, якія страцілі браную тэхніку і ткуцца пераборам.

Д І.2. Тып **а-б-а**, дзе **а** — вузкая паласа з аднолькавым арнаментам, **б** — цэнтральнае шырокае поле з маналітным арнаментам кшталту дыяганальнай сеткі альбо чаргавання вертыкальных 'ланцугоў'. Узоры **а** і **б** — розныя. Паверху часам узнікае дадатковая вузкая палоска з узорам **в** (**фота 346, 347, 348, 364**).

Паралелі: блізкія так званым 'гомельскім' ручнікам. Вёскі паблізу вусця Вуці (у Сож) адчуваюць блізкую плынь уласна 'гомельскіх' ручнікоў. Падобныя — 'прыснянскія', з правабярэжжа Сожа. Але апошнія запаўняюць вертыкальнымі 'ланцугамі' ўсю кампазіцыю, а крайнія палосы рэдукаваныя да вузкіх "пруцікаў".

Д І.3. Рэдкія, але характэрныя прыклады — ручнікі, дзе паміж шырокіх браных калодак па белым фоне размешчаны асобныя геаметрычныя фігуры, тканыя выбарнай тэхнікай. Па кампазіцыі і фонду арнаментальных элементаў яны блізкія да Д І.1 і Д І.2. (**фота 355, 357**). Прысутнічае гэты пласт узораў найбольш у хорапуцкім варыянце (р. Хорапуць, левы прыток Іпуці) і абумоўлены, магчыма, уплывам стараабрадчай Буды Жгунскай (вв. Жгунь, Карма, Васілёўка).

Д ІІ. Ручнікі ў тэхніцы аднабаковага перабору (аднабаковы перабор з прыціскною асноваю).

Д ІІ.1. Яны 'працуюць' з усімі тыпамі старэйшых браных ручнікоў, што даказвае іх роднасць і спадкаемнасць з узорамі-папярэднікамі. 'Перакладаюць' на новыя мовы арнаменту 'паласаты' браны і выбарны тыпы (**фота 418**).

Д ІІ.2. Найчасцей яны развіваюць кампазіцыю браных тыпу Д І.2 (дзве вузкія "прыстаўкі" паверху і панізу ахопліваюць цэнтральнае поле. Часам колькасць "прыставак" павялічваецца. Зверху часам з'яўляецца дадатковая палоска арнаменту, што называецца таксама "прыстаўкаю").

Цэнтральнае поле ператвараецца ў маналітную кампазіцыю (Д ІІ.2; **фота 403**).

Вертыкальныя чаргаванні ланцугоў замяняюцца адным вертыкальным 'стаўпом' узорных адзінак (Д ІІ.3; **фота 383**) альбо наогул у адну вялізную фігуру з сіметрычным 'суправаджэннем' па левым ды правым баку (Д ІІ.4; **фота 414**). Гэта самая 'гаваркая' частка дубраўскай традыцыі (ДТ).

Майстрыхі памятаюць асобныя назвы і нават, вельмі зрэдку, прызначэнне ўзору: "Любісцік — дзеўкі стараліся ткаць любісцікам..." [1][1] (**фота 370**). Калодкі — ператыканыя палоскі паміж асноўнымі ўзорамі — розныя, ад "пруціка" да асобнай узорнай паласы. Часта калодка аддзяляецца па баках вузенькім белым 'прасветам'.

Зараз ужо можна ставіць пытанне пра нейкую архаічную падаснову ручнікоў з некалькімі прыстаўкамі. Яны групуюцца ў вёсках вярхоўяў Вуці ды Цярухі, а таксама ёсць і ў старэйшай на Хорапуці в. Карма. Ва ўсіх іх чын

---

[1] Глядзі спіс інфарматараў, с. 409.

узораў найбольш архаічны, дыяпазон элементаў — багацейшы. Магчыма, так дае сябе знаць суседні бабовіцкі чын браных ручнікоў тыпу **n-1-n**, дзе **n** — колькасць *розных* па арнаменту ўзорных палос да сярэдзіны.

Край — сетка карункаў (альбо перавіці) з кікікцамі, кісткамі на канцах, пазней сетка з зубцамі. Паміж тканнём і карункамі палоску перавіці ("цягання") часам замяняе каляровая альбо белая "простаўка" тканіны з вышыўкаю ці без яе (**фота 379**).

Выбарачны тэхналагічны аналіз памераў 'шагу' і 'ступенькі' (гл. вышэй у "Параметрах", п. 1), а таксама спосабу перабору асновы (толькі для пераборных) стварае ўражанне аб некалькіх тыпах браных ручнікоў ды іх 'пакрыцці' пераборнымі ручнікамі ў дубраўскай традыцыі.

Вынікі аналізу хутчэй акрэсліваюць праблему, чым вырашаюць яе. Аднак бачна, што памеры шагу для старэйшых і больш новых тэхнік неабыякавыя да цоту-няцоту ў ліку нітак асновы, якія 'перасягае' ўзорны уток, што можа сведчыць аб наяўнасці дзвюх плыней тэхналагічнага рытму, у якім могуць захоўвацца семантычныя адзнакі — як этнічнага паходжання, гэтак і колішніх тыпаў кампазіцый-падасноў, а таксама і сэнсавыя 'атавізмы' тыпу адносін да блізнечнага культу і рознай яго праяўленасці ў паўночных і паўднёвых групах традыцый рэгіёну. Хутчэй за ўсё, цотную 'энергію' пакінуў тып ручнікоў, які меў саржавае перапляценне ў белай сярэдзіне і рыпсавае (па 2 ніткі асновы пад фонавым утком) паміж і пад узорамі (аб тэхналагічным аспекце такога ткання гл.: Селивончик, Винникова. 1993. С. 69). Археалагічныя сведчанні аб старажытнасці 4-нітовага аднаутковага саржавага ткання на тэрыторыі ўсходніх славянаў і ў тым ліку ў 'нашым' рэгіёне прыводзяцца ў шэрагу работ (Левинсон-Нечаева. 1959. С. 14—27; Нахлик. 1963. С. 228—312). Аналіз тканіны на павалаках старажытных ікон сведчыць аб тым жа (Лелекова. 1988. С. 112—118).

Няцотны рытм, магчыма, прыносіцца другім вялікім тыпам. Гэта ручнікі з палатнянаю сярэдзінай і паласата-арнаментаваным акцэнтаваным канцом (тып бабовіцкай традыцыі), дзе браныя ўзоры выконваліся з шагам у тры ніткі.

### Колькасць арнаментальных элементаў. Лікавыя заканамернасці

Д I. У кожнай паласе (калодка, "прыстаўка", 'цэнтр') — свой арнамент. Гэта паўтор аднаго альбо чаргаванне дзвюх, але часта складаных арнаментальных элементаў (**фота 407**). Лікавыя заканамернасці неаднолькавыя для розных арнаментальных элементаў. Адныя з іх часцей маюць няцотную колькасць у паласе (5, 7, 9), другія належаць да цотных. Гэтаксама цот ды няцот маюць значэнне і ў вертыкальных 'ланцугах'.

Д II. Арнаментальныя элементы — розныя для цэнтральнай паласы і "прыставак". Цэнтр найчасцей развівае адну маналітную кампазіцыю. "Прыстаўка" (альбо 2—3) дадае іншыя. Агульная колькасць — ад двух да сямі відаў арнаментальных элементаў.

Лікавыя заканамернасці аналагічныя Д I. Розныя віды ўзораў найчасцей маюць паўтор у паласе. Люстраная сіметрыя дыктуе паўтор і саміх "прыста-

вак”, да таго ж, гэта часам не аднолькавыя ўзоры, але іх варыянты. Дадатковыя палосы па-за сіметрычнаю кампазіцыяй ‘будуюць’ ручнік, дадаючы сэнс ‘падмурку’ або ‘даху’ ўсяго ўзорнага канца (**фота 401**).

### Паходжанне арнаментаў. Сучасны этап

Дубраўская традыцыя знаходзіцца на рухомай мяжы дзвюх вялікіх плыней ткацтва ручнікоў. Гэта браныя ўзоры з даўнейшым геаметрычным чынам і, з другога боку, белафонавыя кампазіцыі з закладнымі, выбарнымі і пераборнымі чырвонымі знакамі. Тэхніка адметнага дубраўскага перабору збірае ў сабе тэмы ды элементы абедзвюх плыней.

‘Падпітка’ ідзе і як працэс у самой традыцыі. Арнаменты адзення і ручнікоў могуць мець агульны фонд: “Узоры на апошніх палосах — такія ткалі і на рукавах рубах” [2].

Пераборныя ручнікі пераймаюць узоры браных. Удалося пабудаваць некаторыя “ланцужкі” пераемнасцей у стварэнні асобных арнаментаў. Гэтак, браны ўзор тыпу “зорак” ці “васьмірожкаў” дае перароблены і павялічаны ў памерах пераборны варыянт і, нарэшце, яднае дзве фігуры па вертыкалі ў адзіную маналітную кампазіцыю, надаючы ёй статус цэнтра ды суправаджаючы гарманічнымі “прыстаўкамі” (**фота 356, 365, 367**). Аналагічны працэс ідзе і ў іншых традыцыях (**фота 64**). Найбольш характэрны працэс у дубраўскай традыцыі — стварэнне вялікіх фантастычных фігураў цэнтра, што спалучаюць геаметрычную аснову кампазіцыі ды яе развіццё з дапамогаю раслінных (а часам і антрапаморфных) элементаў. Майстрыхі нібыта пераклалі ўжо нямы, патаемны для нас сэнс старадаўніх земляробчых сімвалаў на мову зразумелых выяў.

## 3.2. Казацка-балсунская традыцыя пераборных ручнікоў. Чырвоны і бела-чырвоны чыны

Месца: Веткаўскі раён. Вусце Каўпіты і Дарагоўшы (правыя прытокі Беседзі). Блізкія традыцыі ўздоўж суседніх прытокаў (рр. Алешня, Палуж) і ў сістэме пратокаў паміж Сожам—Беседдзю—Іпуццю.

У ВМНТ захоўваюцца рэчы і матэрыялы з наступных вёсак:

— Казацкія Балсуны (28; 339-374/35-42; 1860—1920-я гг.);

— Будзішча (4; 322-374/34-41; канец XIX ст. — 1920-я гг.);

— Заляддзе (3).

Блізкія рэчы — з вёсак Барталамееўка (2), Барсукі (1), Валасовічы (1), Верашчакі (1), Верхлічы (1), Волпа (1), Забор’е (1), Кашкоўка (1), Любаўшо (1), Пералазы (4), Ялоўка (1).

Усяго — 51 прадмет.

Традыцыя звязана з неглюбскімі, верашчацкімі, ‘краснапольскімі’ тканінамі. Апошнія ручнікі датуюцца 1920-мі гг. Самы стары ручнік у калекцыі 1860-х гг.

Колер — чырвона-белы; белыя выконваліся ў тэхніцы вышывання перавіццю (“цяганне”, “сакаленне”; К-Балс., Заляддзе, Верашчакі, Ляды; **фота 329**). Пра белы выразаны ручнік майстрыха з Лядаў кажа: “У свята яны



Мал. 15. Аброчныя крыжы каля крыніцы ў Казацкіх Балсунах (Веткаўскі раён). 1999 г.

не вешалі, он толькі што ўзор — а не гаряшчы, не яркі — ета як хто скаромнага не есць, так і ручнік яркі ў пост..." [3]. Асобныя рэчы з блізкіх вёсак зрэдку маюць украпленні чорнага. Падзяляюцца на цалкам чырвоныя па фоне (**фота 174**), паласатыя з чырвоным і белым фонам узораў (гл. фота 182), адзінкавыя — белыя з чырвоным узорам (гл. фота 188).

Тэхніка найболей пашыраная — аднабаковы і двухбаковы перабор (у адной рэчы). У старых рэчах — зрэдку, а часцей у ручніках з блізкіх вёсак — і перабор (**фота 175**) пад палатно (**фота 169**).

Асобныя рэчы — з закладным ткацтвам па белафонавых палосах (**фота 210**). Ад закладу (**фота 441, 442**), здаецца, і ўсе пазнейшыя белафонавыя ўзоры, тэхніка выканання якіх — двухбаковы перабор — адрозніваецца ў адной і той рэчы ад ткання чырвонафонавых узораў (**фота 204, 320**).

Экспедыцыйныя назіранні ўздоўж Беседзі паказваюць на павольны пераход ад тэхнікі закладу ў перабор з поўначы на поўдзень, пры выкананні адных і тых знакаў. Магчыма, паўднёвыя тканіны ўжо перавялі старыя заклады на новую тэхніку перабору, паўночныя ж — пераймаюць узоры як "чужасельскія" цытаты.

Сярэдзіна — паміж узорнымі канцамі — па паўночным краі традыцыі — белая з аднаутковым 4-нітовым ткацтвам, потым белае палатно, такі ручнік завецца "простым" (К-Балс.), але часцей палатняная сярэдзіна ўся затыкаецца палоскамі-калодкамі густа (ручнік "паўсёмісты", К-Балс.) альбо рэдка (ручнік "паласаты", К-Балс.).

Канец — тып папярочна-паласатых ручнікоў з люстраною сіметрыяй адносна цэнтру **n-1-n**, дзе **n** — колькасць розных палос да непаўторнага цэнтру. Узоры выконваюцца па чырвоным і па белым фонах. Бывае дадатковая непаўторная палоска арнаменту паверху альбо панізу кампазіцыі (**n-1-n-a**).

Але сіметрыя не жорсткая; кампазіцыя, хутчэй, імкнецца да яе (**фота 178**), у чым традыцыя павольна пераходзіць у асіметрычныя краснапольскія ручнікі.

Колькасць узорных палосаў — ад 5 да 11 (2-1-2; 5-1-5).

Колькасць арнаментальных элементаў: 4—7.

Лікавыя заканамернасці — узоры проціпастаўляюцца адзін аднаму ў самой паласе (2-2, 2-3, 5-6). Некаторыя бываюць найчасцей па два: "рачыкі" (гл. фота 185), "чаўны" (гл. фота 185), "белыя чаўнакі" (гл. фота 183), "залато кружжа", "лісце" (К-Балс.). Узор "калёссе" дае часцей за ўсё шэсць пар (12; гл. фота 185). Касыя крыжы ("казлы", "ветрячкі", К-Балс.) — па тры (гл. фота 175, 178, 182, 185), "кучарявыя хрясты" — па чатыры. Больш дробныя элементы схільныя групавацца па 5, 7, 10. Гэтыя заканамернасці маюць не толькі дэкаратыўную, але і глыбокую семантычную выснову. Разам з тым, усе гэтыя элементы проціпастаўляюцца як група 'лікавых' групе 'непадзельных', гарызантальных ланцугоў, дзе элементы злітыя ці сцэпленыя. Самы просты з іх — "абводкі" — уяўляе сабою ланцуг ромбаў (**фота 184**).

Паралелі — па колькасці арнаментальных элементаў, па іх супадзенні, кампазіцыі, колеры, тэхнікам выканання да казацка-балсунскай традыцыі бліжэйшы за ўсё стары пласт неглюбскіх пераборных ручнікоў. Павольны пераход назіраецца і ў тыпах ручнікоў наверх па Беседзі, перарываючыся ў белых з чырвонымі ўзорамі рэчах медведскай традыцыі Краснагорскага раёна Бранскай вобласці.

Найбольш характэрныя рысы балсунскіх ды блізкіх да іх ручнікоў — пазначаная вышэй апазіцыя 'лікавых' і 'непадзельных' арнаментаў і характэрнае супрацьпастаўленне тэхнік і фондаў арнаментальных элементаў на белым ды чырвоным фонах у адзінай рэчы.

Калодкі — чырвоныя ды паласатыя, чаргаванне розных па форме чырвоных палосак па белым полі; на ўзорыстым канцы — простыя альбо з арнаментальным запаўненнем "на дошчачку". Характэрная дэталь: кожная шырокая паласа асноўных арнаментаў абводзіцца вузенькаю белаю лініяй, аддзяляючы чырвонафонавую калодку ад "хрястоў" (Негл., К-Балс.).

Край — зубатыя альбо скругленыя па зубцах карункі, бахрама, карункі з бахрамой.

## Паходжанне арнаментаў.
## Сучасны этап.

Аснову складае фонд геаметрычных ды геаметрызаваных элементаў. Ромбы ляжаць у аснове ўзораў: "абгонка", "богава дарожка", "вароняе вока", "стаўпы", "галубіная дарожка", "цёмная капейка", "цёмная сцежка", "глухоўкі", "лебядзіная дарога" (усе — К-Балс.).

Касыя крыжы — у аснове ўзораў: "казлы", "рачыкі", уваходзяць у склад "старцаў", "салдацікаў". Прамыя крыжы развіваюць тэмы: "мушкі", "белыя чаўнакі", "хрясты", "белыя хрэшчыкі", "хрэст", "рожа", "павукі", "калёссе". 'Расколатыя' крыжы ўваходзяць ва ўзоры: "каціная (кашэчая) лапка", "лебядзіная лапка", "дарожка", "ключы".

Квадраты і прамакутнікі ёсць ва ўзорах "каробачкі", кубікі", "чамаданы", а таксама ў агульнай 'агароджы' цэнтра.

Васьміканцовыя зоркі маюць некалькі варыянтаў па белым ды чырвоным фонах і завуцца "васьмірогі", "белая рожа", "лебядзі", яны ўваходзяць у "лісце" і бываюць у выглядзе "напаўвасьмірогаў". Частку ўзораў (амаль усе белафонавыя) мы знаходзім у Казацкіх Балсунах ды ў суседніх традыцыях з чыну 'выяўленчага' арнаменту — гэта знакамітыя "арлы" і розныя "самавары", "стаканы", светачы", "якарыкі", "лампадкі" (К-Балс.).

Белафонавыя знакі свае і для саміх Казацкіх Балсуноў, яны выконваліся на рукавах кашуляў і галаўных "платках" з ручніковаю кампазіцыяй арнаменту. Вялікая колькасць варыянтаў назваў для адных і тых элементаў і наадварот сведчыць пра дзве тэндэнцыі. Першая — забыццё формавызначальнага сэнсу назваў — следам за адміраннем самой традыцыі. Другая — сёння можа толькі рэканструявацца і паказвае на складаныя працэсы ў формаўтварэнні, у выніку чаго ў ідэале існуе магчымасць узнавіць сувязь знакаў з іх назвамі не толькі ў асацыятыўным (далёка не выпадковым) сэнсе, але і ў 'радавым' ды 'відавым' выглядзе. Стварэнне ўзора ды яго назвы выступае як адзінкавы суцэльны вынік некалькіх сэнсавых функцый, што наогул характэрна для традыцыйнага мыслення.

Розныя тэхнікі стварэння элементаў на белых і чырвоных палосах, а таксама наяўнасць межавых 'белых' ды 'чырвоных' ручнікоў, безумоўна, не толькі канстатуюць факт узаемадзеяння дзвюх 'колеравых' плыней традыцый. Гнуткія, але пругкія заканамернасці ўжывання кожнага знаку ўзаемадзеючых сістэмаў (чырвона- і белафонавай) у межах аднаго ручніка сведчаць пра семантычны характар падобнага ўзаемадзеяння як дыялогу традыцый духоўнай культуры на аснове больш глыбокага агульнага прасторавага мыслення.

Тэхналагічны аналіз уводзіць у прастору ўзаемадзеяння традыцый, якая нараджае казацка-балсунскі ручнік, яшчэ адну апазіцыю. Гэта працістаўленне тых жа дзвюх 'рытмічных' плыней у тэхналогіі, што мы адзначылі і ў фармаванні дубраўскага ручніка. Але ў казацка-балсунскай традыцыі 'цот' і 'няцот' выявіліся больш выразна, яна і пры перамене тэхнік засталася схільнай да 'цотнага' ліку ў структуры самой тканіны.

Ручнікі з белай чатырохнітовай аднаутковай сярэдзінай маюць пэўную тэхналагічную абумоўленасць паслядоўных прыёмаў у стварэнні ўзорнай тканіны. Формульна гэта можна пазначыць так: саржа белай сярэдзіны > рыпс у фонавым утку > кратны двум лік нітак 'шага' ўзорнага утка.

Другая плынь ручнікоў (па тэрміналогіі В. Лабачэўскай, паласатых з акцэнтаваным канцом) мае ў нашым рэгіёне палатняную паласатую сярэдзіну і, як вынік, больш свабодная ў выбары 'тэхналагічнага' ліку (цот-няцот).

Захаванне 'цотнага' імпульса ў казацка-балсунскім ручніку (пераважна з палатнянаю, тэхналагічна 'свабоднай' сярэдзінай) сведчыць аб удзеле ў яго фармаванні нейкай традыцыі-падасновы, дзе гэты імпульс быў тэхналагічна абумоўлены, а таксама аб семантычным захаванні гэтага імпульса, што здаецца нам глыбінным. Так, лік перабору 2-2, які завецца ў Балсунах "закладам" і прымяняецца на чырвонафонавых палосах, адрозніваецца ад двухбаковага 'лускаватага' перабору на белафонавых палосах. Але абодва маюць цотны рытм у тэхналогіі. Магчыма, тэхніка закладу, прынесеная колішнімі пасяленцамі Казацкіх Балсуноў і захаваная на самых старых іх галаўных "платках", уступіла ва ўзаемадзеянне з 'цотнаю' бранаю традыцыяй.

## 3.3. Медзведская традыцыя. Пераборныя ручнікі белага чыну ярусна-планіметрычнага паходжання

Месца: Краснагорскі раён. Уздоўж левых прытокаў Беседзі — Алешні і Палужжа. Ніжэй — уздоўж Беседзі да вусця Каўпіты. Пашыраецца ў Навазыбкаўскі і Краснапольскі раёны. На поўдні мяжуе з казацка-балсунскай, стаўбунскай тадыцыямі.

### Агляд калекцыі і 'тэхнічныя' характарыстыкі

У ВМНТ — рэчы з наступных вёсак:
— Медзведзі (6; 310—369/32—43);
— Вяжноўка (1; 304/35);
— Барсукі (1; 326/39);
— Забор'е (4; 262—330/42—44);
— Антонаўка (1; 330/39);
— Любаўшо (1; 378/39);
— Лецяхі (1; 338/39);



Мал. 16. Гутарка ў в. Лецяхі (Краснагорскі раён). 1998 г.

— Казацкія Балсуны (1; 358/40).

Час вырабу: канец XIX ст. — 1920-я гг.

Колер — чырвона-белы. Белы чын. Частка — бела-чырвоны чын. Асобныя — чырвона-чорна-белыя.

Тэхнікі — найчасцей аднабаковы перабор. Перабор пад палатно, выбарнае ткацтва. Ад уласна кралявецкіх, баваўняных ручнікоў адрозніваюцца матэрыялам: выконваюцца чырвонай бавоўнай і чырвоным ільном па льнянай аснове, з ільняным жа фонавым утком.

Сярэдзіна — палатно, паласатая з асобнымі арнаментальнымі элементамі паміж калодак. Пераходныя адзінкавыя — з 4-нітоваю белаю сярэдзінай.

Канец — папярочна-паласатая кампазіцыя. Моцны імпульс кралявецкага ткацтва з матывамі "арлоў", "цэркавак", "падсвечнікаў", вертыкальных "стаўпоў" і "крывуль", часам перарobленых да непазнавальнасці. Выяўленчыя матывы ўзаемадзейнічаюць са знакамі геаметрычнага стылю. Сіметрычна аздоблены ўзорнымі палосамі вялікі цэнтр. Верхнія і ніжнія ўзорныя палосы бываюць і розныя, але блізкія па матыву. Гама варыянтаў, дзе ўзаемадзейнічаюць люстраная сіметрыя і асіметрыя.

Калодкі — цёмныя гладкія, ускладнёныя "дарожкамі" па іх сярэдзіне (двайныя і радзей трайныя "калявіны" — белыя палоскі). Пераходзяць у паласатыя, найчасцей з трох палосак, дзе цэнтральная — шырокая.

Край — большая частка тканін без аздобы. Аздоба ніжняга краю самая розная: махры-кісткі, карункі зубчастыя і круглыя, сеткі з махрамі.

Аналагічныя па тэхніцы (перабор 3-1-3 кралявецкага тыпу, радзей — 2-2) рэчы з вв. Антонаўка Краснагорскага раёна (1910-я гг., КП 1053), Барсукі (1920-я гг., КП 1050/1), Вяжноўка (канец XIX — пачатак XX ст., КП 1047); Медзведзі (канец XIX ст. — 1920-я гг., КП 1083/4, 1083/1, 1048).

Увагу прыцягваюць тыя ж імпульсы цотнага і няцотнага, што сведчыць аб блізкасці пэўнай 'мяжы' з 'цотнымі' традыцыямі. Таксама тут з'яўляецца і сапраўдны "заклад", у большасці мясцовых традыцый ён перайшоў у пераборы, для якіх пакінуў сваю назву. Тым не менш, уласна закладная тэхніка — з'ява старажытная і для беларускіх тэрыторый (вядома на тканіне XI ст. з кургана паблізу сяла Ярцава Смаленскай вобл. — гл.: Лебедева. 1956. С. 527).

З усіх разглядаемых традыцый медзведская — найбольш 'кралявецкая'. Усход рэгіёна доўга належаў да чарнігаўскіх зямель. Магчыма, Медзведзі засяляліся носьбітамі традыцыі кралявецкага тыпу, якая ўступіла ва ўзаемадзеянне з мясцовымі традыцыямі ткацтва (другі пласт медзведскіх ручнікоў — паласатыя тыпу 'чырвоных гарадкоў' і проста паласатыя. Простыя групы палосак маюць па канцах і старыя жаночыя платкі). Магчыма, кралявецкія ручнікі былі толькі прывазным узорам. Але арнаменты развітых браных чыноў тут амаль адсутнічаюць (параўнайце вышэй па Беседзі іншае ўзаемадзеянне закладу з традыцыяй паласатых ручнікоў — **фота 429** і з традыцыямі браных чыноў — **фота 435, 436)**. Гэта сведчыць аб тым, што ў дыялог пры стварэнні медзведскай традыцыі ўступалі менавіта 'чырвонапалосная' і 'закладная'. Апошняя падпала пад абаянне 'кралявецкай'. Але мясцовы заклад нёс энергію цотнага ліку.

## 3.4. Стаўбунская традыцыя. Пераборныя ручнікі чырвонага чыну

Месца: Веткаўскі раён. Рака Стаўбунка (левы Беседзі). Міжрэчча Беседзі—Стаўбункі; Беседзь вакол вусця Стаўбункі.

У ВМНТ — рэчы і матэрыялы з наступных вёсак:

— Янова (3; 274-288/36);

— Стаўбун (5; 276-371/38-43);

— Колбаўка (6; 281-382/36-43);

— Малыя Нямкі (2; 362-380/41);

— Барталамееўка (2; 277-323/39).

Час вырабу: канец XIX ст. — 1930-я гг.

Колер — чырвона-белы, чырвона-чорна-белы. Чын — чырвоны. Рэчы па межах — у бела-чырвоным і нават белым чыне (Барталамееўка мяжуе з дубраўскай белафонавай традыцыяй).

Тэхнікі — аднабаковы перабор, перабор пад палатно, заклад.

Сярэдзіна — белая, найчасцей — аднаутковае 4-нітовае ткацтва, саржа, “у елку” і “ў кружкі”. У Барталамееўцы — палатняная сярэдзіна.



Мал. 17. “Стряла” ў Янове (Веткаўскі раён). Карагод каля хрыставой дарогі. Напачатку — пусты, цэлы... 1997 г.

Канец — папярочнапаласатая кампазіцыя найчасцей чырвонага чыну. Асіметрычная пабудова тыпу **а+3(б-в)**, дзе **а** — вузкая паласа зверху. Уплыў сіметрычных суседніх традыцый (казацка-балсунскай і неглюбскай), узнікненне сіметрыі.

Калодкі — цёмныя простыя, ад цёмнафонавых узорных палос аддзяляюцца вузенькімі белымі прокідамі.

Край — па ніжняму краю — сеткі з махрамі, зубчастыя карункі альбо без аздобы.

Колькасць арнаментальных элементаў — найчасцей 3(а, б, в).

Стаўбунская традыцыя значна больш аднастайная па тэхналогіі. З поўначы яе абкружаюць ‘цотныя’ традыцыі: казацка-балсунскія і старыя неглюбскія ручнікі чырвонага чыну, блізкія асіметрычныя бабіцкія браныя тканіны, якія маюць і такую ж саржавую сярэдзіну і рыпсавыя чырвоныя калодкі. Але калі балсунцы і неглюбцы перайшлі(?) на палатно ў сярэдзіне ручнікоў і захавалі цотны памер шагу ва ўзорным утку, то стаўбунцы — больш архаічны ‘востраў’ і нібыта памятаюць пра асіметрычны ‘саржава-рыпсавы’ чын.

Галаўныя платкі ў Стаўбуне не захаваліся, ды “платкамі” яны завуць свае старыя рытуальныя маленькія ручнічкі дзеля пахавання і “бабінай кашы”. Гэта кароткія тканіны з саржаваю сярэдзінай, рыпсавымі чырвонымі калодкамі і асіметрычным белафонавым узорам, які выконваецца пераборам пад палатно па рыпсу і пераборам пад рыпс. Яго тэхнікі, хутчэй за ўсё, перапрацоўваюць даўнейшы заклад і яшчэ ‘не перайшлі’ на чырвоны чын. Іх матывы і тэхніка бліжэй за ўсё да адпаведных пераборных узораў, што ўвайшлі ў бабіцкі браны чын.

## 3.5. Неглюбская традыцыя. Чырвонакалодкавыя ручнікі. Браны чын і развіццё пераборнага чыну ад чырвонага да шматколеравага

Веткаўскі — Краснагорскі — Навазыбкаўскі раёны. Міжрэчча Стаўбункі (левы прыток Беседзі) ды Віхолкі (правы Іпуці).

У ВМНТ — рэчы і матэрыялы з наступных вёсак (у дужках — колькасць экзэмпляраў ды іх памеры):

1. Н-І. Старэйшы браны чын Неглюбкі з цёмнымі калодкамі:

— Неглюбка (1950—1990-я-гг.; 312-366/32-46; канец XIX ст. — 1940-я — 10; 320-369/35-44);

— Гібкі (1; 322/43);

— Перадавец (2; 310-322/33-42);

— Рэпішча (1; 360/40,5);

— Свабода (1; 292/42);

— Селішча (1; 373/40).

Пераважным памерам для найменшай адзінкі бранага ўзору з’яўляецца цотны лік нітак — 2. Прычым у калодках (у іх знешніх “зубцах” — “гарадках” і ў іх унутраных наборах) ён іншы — 4. След колішняга ўзаемадзеяння? Таксама бачна, што ўзаемадзеянне з іншаю бранаю традыцыяй (з лікам шагу 3) — даўняя гісторыя. Адзін з выразных прадстаўнікоў ‘цотнага’ імпульсу —



Мал. 18. Покуць у Неглюбцы. 1999 г.

ручнік з Верашчакаў (неглюбскага тыпу цёмных калодак). Ён мае белую саржавую сярэдзіну і браныя ўзоры, выкананыя па рыпсу.

2. Н-ІІ. Пераборныя ручнікі Неглюбкі. Старэйшы чырвоны чын з цёмнымі калодкамі.

— Неглюбка (15; 244-340/34-40; пачатак XX ст. — 1930-я гг.), калодкі цёмныя, цёмныя з белай дарожкай (3; 328-360/39-45; 1950-я гг.);

— Гібкі (1; 336/38,5; 1962 г.);

— Перавессе (2; 315-336/38; 1950-я гг.);

— Перадавец (1; 330/40; пачатак XX ст.);

— Рассуха (3; 232-302/34,5-46; пачатак XX ст. — 1950-я гг.);

— Рэпішча (2; 300/44; 1900—1910-я гг.);

— Свабода (1; 435/42; 1975 г.);

— Селішча (3; 237-312,5/30-38,5; 1890—1950-я гг.);

— Сівенка (1; 370; пачатак XX ст.);

— Сініцына (1; 258/36; 1956 г.).

Цэльны чын з 'цотнаю энергіяй', які падоўжвае яе з бранага чыну Н-І. Аднак бачна, як калодкі з шагам браных элементаў 4 змяняюцца да больш адпаведных галоўным узорам, лік 2 сцвярджаецца. Лік перабору 2-2, г. зн., узорны уток выступае праз кожныя дзве ніткі асновы фону і перакрывае таксама дзве ніткі. Шаг 2-2 фактычна займае 6 нітак асновы, выступаючы двойчы па два з прамежкам дзвюх нітак фону. Характэрна, што 'цотная' традыцыя рэалізуе схільнасць да трайнога паўтору ў стварэнні 'ступенькі', пракідаючы ўзорны уток тройчы. Вышыня ступенькі ў Неглюбцы меншая за гэту ж адзінку ў блізкіх тканінах на ўсходзе рэгіёна, што можа мець вытокі ў розных браных чынах.

3. Н-ІІІ. Пераборныя ручнікі Неглюбкі. Бела-чырвоны чын з цёмнымі калодкамі.

— Неглюбка (14; 284-364/28-42; пачатак XX ст. — 1940-я гг.); (9; 325-365/32-41; 1950-я гг.); (10; 354-380/39-45; 1980—2000-я гг.);

— Гібкі (1; 330/39; 1958 г.);

— Ляды (1; 300/37; 1950-я гг.);

— Перадавец (1; 360/37,5; 1970 г.);

— Рассуха (4; 316-334/38-43; 1909—1955-я гг.);

— Рэпішча (3; 368-381/38-40; 1980-я гг.);

— Свабода (1; 428/42; 1963 г.);

— Селішча (3; 305-349/33-35; 1980-я гг.);

— Сініцына (3; 268-344/32-35,5; 1930-я гг.).

Бела-чырвоны чын развіваецца з чырвонага. Белафонавыя ўзоры ўзнікаюць спачатку на канцах кампазіцый у выглядзе лускаватай хвалістай "крывулькі", выкананай пераборам 'пад паркі' ("раз подле раз", Негл.). Гэты ж тып перабору, які найбольш нагадвае шчыльны засціл закладу, абіраецца як асноўны для белых палос. Ён утварае 'непарыўны' выгляд белафонавых узораў у адрозненне ад падзеленага на 'цаглінкі' альбо стоўпікі чырвонафонавага перабору ("у пальцы", Негл.). Калі ж "у пальцы" тчэцца і белафонавы ўзор, узнікае і лік перабору 3-1-3 (лік 3 не характэрны для папярэдніх прыкладаў Неглюбкі). Калодкі канчаткова страчваюць манументальны шаг 4. Яны гатовыя альбо ўжэ ўступілі ў дыялог з узорнымі калодкамі суседніх верашчацкіх ручнікоў. Памер ступенькі вагаецца, узрушаны ўзаемадзеяннем, відавочна ідучым з усходу.

4. Н-IV. Пераборныя ручнікі Неглюбкі. Чырвона-чорна-белыя. Змяшэнне тыпаў цёмных і ўзорных калодак.

— Неглюбка (3; 269-332/30-32; канец XIX ст. — 1930-я гг.), ва ўсіх узорныя і пераходныя калодкі (10; 282-340/30-38; 1940-я гг.); усе калодкі новага ўзорнага тыпу: "вуткі", "ряшоткі", маюць аналагі ў верашчацкіх ручніках (8; 348-370/34-42; 1950-я гг.), + "зоркі" (3; 376-384/36-40; 1960-я гг., тыя ж, калодкі з ряшоткамі цямнеюць); (38; 290-458/32-50; 1970—1980-я гг., тыя ж, калодкі найчасцей цёмныя, з чорным узорам па чырвоным фоне).

— Гібкі (2; 330-343/38-39; 1950-я гг., калодкі аналагічныя неглюбскім);

— Ляды (1; 352/33; 1950-я гг., "вуткі" ў шырокіх цёмных калодках);

— Перавессе (4; 296-350/31-35; 1940—1950-я гг., калодкі з "вочкамі");

— Перадавец (2; 308-374/32-39; 1930—1950-я гг., цёмныя чорна-чырвоныя калодкі);

— Рассуха (1; 1950-я гг.).

— Селішча (5; 302-372/32-39; 1940—1980-я гг., калодкі маюць больш рысаў узорных);

— Рэпішча (4; 360-390/33-45; 1950—1980-я гг., цёмныя калодкі і калодкі "вочкамі");

— Сініцына (1; 324/37; 1956 г., цёмныя калодкі).

Чын развіваецца позна (1940—1950-я гг.) пад моцным уплывам тэхналагічна іншага белафонавага перабору (3-1). Неглюбка не мяняе тэхнікі (перабор 2-2) на чырвоных палосах, гэта 'яе' стыль. Дзеля гэтага спалучэння перабор асновы на адной тканіне робіцца па-рознаму. Калодкі, хоць і ўспрымаюць усё больш браных проставак у сваю чырвоную паласу, імкнуцца захаваць маналітнасць і шырыню. Памеры ступенек адлюстроўваюць складанасць сітуацыі.

5. Н-V. Шматколерныя ручнікі Неглюбкі і пасёлкаў.

За выключэннем 3-х кароткіх з кветкавым арнаментам (датаваныя 1950-мі гг.) і аднаго чырвона-зялёна-белага (210/34; 1924 г.), усе — 1970—2000-х гг.

— Неглюбка (48 доўгіх — 342-440/37-45), 13 кароткіх (263-304/38-41);

— Гібкі (2; 240-246/34-37,5);

— Ляды (5; 416-428/35,5-40; 157-182/36-37);

— Перавессе (1; 392/43);

— Перадавец (2; 352-424/41,5-43);

— Рэпішча (3; 214/37; 1947 г.; 265-290/38-40; 1980-я гг.);

— Свабода (3; 370-440/41,5-44; 1960—1970-я гг.);

— Селішча (5; 223,5/39; 410-428,5/37-40; 1980-я гг.).

Большасць шматколерных узорных тканін Неглюбкі — новага тэхналагічнага складу, з пераборам 3-1.

Шырокія цёмныя калодкі тут убіраюць ў сваю сярэдзіну белафонавыя ўзоры, перапрацоўваючы матывы традыцыі ўзорных калодак у якасці "сцежак". Яны ўскладняюцца і паабапал, дадатковымі "строчкамі", "правадцамі", "пруцікамі" (імпульс паласатых калодак). Так дзельнікі кампазіцыі ўзнаўляюць мануменальны чырвонапалосны характар, нібы паглынаючы верашчацкія стракатыя калодкі. Выпрацоўваецца нават тып, дзе чорны ўзорчык "сцежкі" ідзе без белага фону, проста па чырвоным.

6. Н-VI. Блізкія да неглюбскай традыцыі ручнікі з Волпы (1), Новага Месца (2), Трыгалава (1).

Час вырабу ручнікоў неглюбскай традыцыі: канец XIX ст. — 1990-я гг.

Колер — выдзяляюцца тыпы: Н-І (чырвонаўзорныя браныя); Н-ІІ (чырвоны чын — усе ўзоры па чырвоным фоне); Н-ІІІ (бела-чырвоны чын, ч/ф і б/ф); Н-ІV (бела-чырвоны чын, чырвона-бела-чорны); Н-V (шматколеравыя ручнікі).

Тэхнікі — браныя (Н-І), аднабаковы і двухбаковы перабор (Н-ІІ, ІІІ, ІV, V) з бранымі калодкамі. Асобныя рэчы — з выкарыстаннем закладу.

Сярэдзіна — белая палатніна, праз якую ткуцца папярочныя каляровыя калодкі (Негл.), што бываюць рознага віду. Паміж калодкамі зрэдку — асобныя арнаментальныя элементы ("зорачкі", "вуткі", "цярэшкі", "сабачкі" ды інш.). Асобныя — з саржавай сярэдзінай.

Канец — папярочнапаласатая кампазіцыя. Люстраная сіметрыя палосаў адносна адзінай цэнтральнай паласы (“серадавых хрястоў”). Па ўзору яе даецца назва ўсяму ручніку. Узорная паласа завецца “хрясты”. Колькасць палосаў — ад трох да дзевяці (“у трое хрястоў... у пяцёра... у сямёра... у дзевяцера хрястоў”).

Тып **а-б-а, а-б-в-б-а, а-б-в-г-в-б-а... (n-1-n)**.

Паралелі — традыцыя павольна пераходзіць у верашчацкую. Мяжуе з краснагорскімі ручнікамі, якія маюць тры віды: чырвонапалосныя і паласата-арнаментаваныя, больш блізкія да балсунскіх альбо да кралявецкіх (плыні прасякаюць адна другую).

Неглюбская і балсунская традыцыі аднатыпныя па кампазіцыі, фонды арнаментаў часткова перакрываюцца.

Вышэй на поўнач папярочнапаласатыя ручнікі праходзяць па Чачэрскім, Краснапольскім, Касцюковіцкім і Хоцімскім раёнах уздоўж Беседзі. Аднак сіметрыя палосаў адносна цэнтра робіцца ўсё больш умоўнаю. У браным ткацтве “чужасельскія” (Негл.) ручнікі, памежныя з неглюбскімі, адрозніваюцца перш за ўсё іншымі тыпамі калодак — палосак паміж “наборамі” — узорнымі палосамі. Шырокія чырвоныя калодкі Неглюбкі (**фота 230**) не паходзяць на вузкія з дробным чырвона-белым (альбо з чырвона-бела-чорным) арнаментам калодак суседніх традыцый (**фота 287**).

Край — з трох бакоў узорны канец аздоблены махрамі, што прышываюцца да гатовага вырабу. Махры бела-чырвоныя, чорна-бела-чырвоныя альбо каляровыя — у залежнасці ад колеру ручніка.

### Колькасць арнаментальных элементаў. Лікавыя заканамернасці

На сёння ў Неглюбцы ды яе пасёлках мы запісалі звыш дзвюх соцень тэрмінаў-назваў узораў ручнікоў (уключна з варыянтамі назваў для аднаго арнаментальнага элемента). Частка іх належыць да калодак, якія могуць быць розныя: “будачкі”, “вароняе вочка”, “вуткі”, “драбніцы”, “зубатая”, “каробачкі”, “крывулька”, “ляхаўкі”, “мышыная сцежка”, “правадзец”, “ряшотка”, “сабачкі”, “смешная калодка”, “цярэшкі”, “чахонь” ды інш. Некаторыя — назвы складаных частак аднаго арнаментальнага элемента (так у “елцы” ёсць “лісцейка” і “шышкі”). Акрамя ўзораў калодак ды элементаў белага “поля”, на адным ручніку ўжываецца столькі арнаментальных элементаў (альбо іх кампазіцый), колькі палосаў да люстранога паўтору (1+1, 2+1, 3+1, 4+1). Кожнай паласе маецца назва. У адной паласе могуць быць некалькі відаў элементаў (напрыклад “лапа”-“верябей”-“казёл”), але назва даецца па галоўным: “лапа”. Элементы, як і паўсюдна, неабыякавыя да ліку паўтору. 12 (6 × 2), 10, 7, 5, 4, 3, 2, 1 адзінак у паласе.

Разрад “крывуляў” прадстаўляе “непадзельныя” хвалістыя ўзоры.

Лік элементаў з’яўляецца найбольш кансерватыўным захавальнікам рытму. Новыя арнаменты часта вызнаюцца як ‘нашчадкі’ больш старых менавіта па месцы (№ паласы) і колькасці. Сучасныя “яблакі”, напрыклад, займаюць месца “хрястоў у крывулі” (лік 2; гл. фота 264; **фота 271**), “хрястоў кучарявых” (лік 3-4; **фота 269**), “вядзмедзькаў” (апошняя паласа), а ў “серядавых

хрястах" увасабляюць раслінную сілу і спеласць, як і іншыя пары (гл. фота 264). Цот і няцот замацаваныя за палосамі ды арнаментальнымі элементамі. Змена памераў самога ўзора ў сучасным, больш дэкаратыўным ткацтве вядзе да памяншэння ліку паўтораў, але часцей колькасць застаецца традыцыйнаю, пашыраецца ж (параўнай **фота 263**) сама палатніна.

### Паходжанне арнаментаў

Н-І (браныя) — амаль закрыты тып з архаічным геаметрычным чынам. Узрост асноўных узораў — да некалькіх тысяч гадоў. Склад арнаментальных элементаў агульны для браных ручнікоў і браных сарочак. "Старыя ўзоры, "лапа", "вялікая лапа", "мядзведзь", "елка" — старыя ўзоры" [4]. Узоры тыпу "глухоўка", "лапа", "казёл", "кручча" (Негл.; **фота 232**) належаць да агульнаславянскага і нават індаеўрапейскага фонду, з'яўляючыся раннеземляробчымі культавымі знакамі. Логіка іх чаргаванняў вельмі адрознівае адну традыцыю ад другой, але зводзіцца да некалькіх тыпаў паслядоўнасцей, што спараджае розныя тыпы дэкаратыўных кампазіцый. Захоўваецца адзіны семантычны рух: ад "глухога", замкнутага — праз паслядоўныя культурныя 'распрацоўкі' — да ўтварэння знакаў росквіту ды ўраджаю і сцвярджэння іх 'сакральнасці'. Пры гэтым праз лік (колькасць і паўтор) уводзяцца тэмы магічнага, прадуцыруючага стварэння. Рытуальная вось у кампазіцыі ручніка супадае з касмалагічнаю. Прадольная мадэль культурнай прасторы ўзнікае як шлях праз шэраг рытуальных прастораў — "набораў", "хрястоў" да кропкі пачатку і заканчэння — Цэнтра.

Н-ІІ, ІІІ, IV, V (аднабаковы і двухбаковы перабор; фота 238, 252, 255—257, 261, 263—265, 267, 271).

Успрыняцце арнаментальнага элемента, як і распрацоўка ды замена яго ў новым ручніку, ідзе неадрыўна ад успрымання ўсёй кампазіцыі як прасторы з уласнымі заканамернасцямі, што нагадваюць сілавыя лініі і кіруюць формаю ўзора: "калі ў ручніку саглассе ёсць". "Чужасельскія", "чужасельцы ткалі" і "неглюбскія" — гэта апазіцыя акрэслівае межы 'свайго' і 'чужога'. 'Чужая' тэрыторыя застаецца бесструктурнаю. На ёй не пазнаюцца нават знаёмыя арнаментальныя элементы. Выключэнне — блізкія традыцыі, з якімі ўзаемадзейнічаюць: "Када ткалі, ставілі і свае ўзоры, і веряшчацкія, з Нясвоеўкі бралі ўзоры" [5].

"Свой" узор альбо заемны "можна разразніць" (разабраць па складу, Негл.), такім чынам, змяшчэнне элемента ідзе праз адаптацыю яго складаных частак. Успрыманне вобразнае: "Па ўсім сярёдку — мітусь, мітусь — сажаюць "цярэшкі" [6]. "Смешная калодачка — бачыш, дробненька смяецца" [7]. Арнамент асэнсоўваецца як індывідуальны творчы вынік: "Каждая майстрыха па-свойму дзелае, штоб пахож быў. Хажу, упраўляюсь, а мечта ў мяне, як бы здзелаць, чі палучіцца. Як палюбіла, так зразу і здзелала" [8]. "Свае" ручнікі — "жывыя": "Мы ж дзелаем ручнікі як жывыя, а ў Ялоўкі, Нясвоеўкі — пастреляюць мелкія "хрясты", хоць выкінь" [9]. Узор — 'светланосны': "Ручнік к свету паднесці — ён сілу выдае" [10]. "Пасцірала б — была б як іскра" [11].

Узор ды яго назва суадносяцца з абрадаваю прастораю, ён — ‘ментальная з’ява’: “Ета ў нас “цярэшкі” называліся, такія вот чорненькія, красненькія — на ручніку”; “А даўней казалі, як заляціць ужо цярэшачка, малінькая такая: “Ой, ні чапайце, ета душа прыляцела, ні чапайце, ета душа”. І іх не трогалі” [12]. “Паляцелі Ганніны “мухі” ў Ляда, аддала ў залог”, — пра хусты і ручнікі з узорам “мушкі”, якія нявеста аддала ў дом будучага мужа [13].

Узоры бралі і “са старынных сарочак”, і са старых ручнікоў. Часам — з новай вязанай вопраткі і нават “з пячэння”. Такія — узоры “пячэнне”, “прянікі”. Але і новы ‘пячатны’ ўзор распрацоўваецца па форме і колеры, па колькасці паўтораў — у залежнасці ад месца на ручніку. “Пячэнне” трактуецца як кветка-дрэва, падобнае да традыцыйнага “лісця”. Узор паўтараецца, стварае пару альбо ‘тройцу’. Знак атрымлівае жывы крыжык у сваю сярэдзіну. Стаўшы па Цэнтры, новы ‘тэкст’ арнаментальна абмяжоўваецца, яго прастора — сакральная і мае для таго патрэбныя знакі (**фота 270**).

## 3.6. Бабовіцкая традыцыя. Браныя ручнікі з узорнымі калодкамі

Назва па в. Бабовічы на р. Іпуці ніжэй яе левага прытоку Віхолцы. Ёсць на карце XVI ст., сёння — Старыя і Новыя Бабовічы. У ВМНТ — рэчы з вёсак:

— Ачоса-Рудня (1; 230/31; 1910-я гг.);
— Верашчакі (11; 284-340/32-38; 1890—1920-я гг.);
— Вышкі (6; 260-400/29,5-39; 1910-я гг.);
— Віхолка (1; 374,5/24,5; 1920-я гг.);
— Волпа (1; 287/37,5; 1920-я г.);
— Кацічы (1; 362/33; пачатак XX ст.);
— Марозаўка (1; 289/36; 1920-я гг.);
— Навазыбкаўскі раён (1; 308/31; пачатак XX ст.);
— Новыя Бабовічы (4; 321-369/21,5-35; 1920—1930-я гг.);
— Новае Месца (1; 1950-я гг.);
— Нясвоеўка (1; 365/34; 1950-я гг.);
— Рассуха (Негл.) (1; 272/31; 1916 г.);
— Селішча (Негл.) (2; 312-319/32,5-33,5; 1953 г.);
— Старыя Бабовічы (2; 360-391/30-38; пачатак XX ст. — 1920-я гг.).

Тэхналагічнае параўнанне дзвюх традыцый бранага ткацтва, неглюбскай і бабовіцкай, дае падставу лічыць, што іх браныя ўзоры, маючы шмат агульнага ў фондах арнаментальных элементаў, па лікавых памерах розныя. Неглюбка бярэ шагам дзве ніткі асновы, Бабовічы — тры. Магчыма, прычына тут у колішняй рознай падаснове традыцый. Выбар шагу ‘тры’ мае іншы, сёння невядомы, але семантычны імпульс. Аднак гарадкі і наборы ў калодках маюць у абедзвюх традыцыях адзіны лікавы імпульс — дзве ніткі, з акрэсленым варыянтам чатыры ніткі. Узорныя калодкі бабовіцкай традыцыі (шаг 2) і ўзоры ў шырокіх палосах (шаг 3), магчыма, сведчаць аб зліянні ў Бабовічах дзвюх колішніх традыцый, паходжанне якіх патрабуе даследавання.

## 3.7. Верашчацкая традыцыя пераборных ручнікоў з узорнымі калодкамі

Назва па в. Верашчакі, Віхолка (левы прыток Іпуці). Вёскі ўздоўж Віхолкі і ніжэй за яе вусце па Іпуці. У фондах ВМНТ рэчы з наступных вёсак (тут зведзеныя ў табліцу з неабходнымі пазначэннямі).

| Назва вёскі | Чырвоны чын | Белы чын (па белым фоне) | Бела-чырвоны чын | Чорна-бела-чырвоны | Шматколерныя ручнікі |
|---|---|---|---|---|---|
| Бабакі | –//– | 2 (калодкі з квадрацікамі, узорныя) | 1 (калодкі цемныя з драбніцамі) | –//– | –//– |
| Верашчакі | 2(313-364/36) | –//– | 8 — 1890—1910-я гг. (284-377/32-36); калодкі: цёмныя — 2, паласатыя — 2, квадраты — 2, спрошчаныя ўзорныя — 1, узорныя — 1 | 6 — пачатак XX ст. — 1910-я гг. (324-367,5/30-39); калодкі: узорныя — 2, квадраты — 1, спрошчаныя — 3 | 3 — 1950-я гг. (323-344/34-36); калодкі: узорныя — 1, квадраты — 1, спрошчаныя ўзорныя — 1 |
| Верхлічы | 1 — 1920-я гг. (292/35,5); (калодкі — цёмныя пруцікі) | –//– | 1 — 1920-я гг. (калодкі цёмныя ўскладнёныя) | –//– | –//– |
| Волпа | 1 — 1910-я гг. (312/39); (паласатыя) | | 1 — 1910-я гг. (цёмныя ўскладнёныя) | –//– | –//– |
| Вышкаў | –//– | 1 — 1910-я гг. (326/39); узорныя | –//– | –//– | –//– |
| Гібкі (Негл.) | –//– | –//– | –//– | 1 — 1923 г. (320/36); узорныя | –//– |
| Кацічы | –//– | 1 — 1930-я гг. (326/39); паласатыя | –//– | –//– | –//– |
| Неглюбка | –//– | –//– | 1 — 1935 г. (340/40); пераходныя ўзорныя | 1 — пачатак XX ст. (340/34); узорныя | гл. неглюбскую традыцыю |
| Новае Месца | –//– | 1 — 1950-я гг. вузкія пруцікі | –//– | 1 — 1950-я гг. | –//– |
| Нясвоеўка | –//– | –//– | 4 — пачатак XX ст. (266-337/33-41); узорныя, квадратныя, пераходныя | 10 — 1920—1940-я гг.; 4 — 1960—1980-я гг. (279-375/ 31-37); узорныя, квадратныя, пераходныя | –//– |
| Трыгалаў | 1 — 1920-я гг. (340/39); пераходныя | –//– | 1 — 1930-я гг. (312/35) | –//– | –//– |
| Увелле | –//– | –//– | 1 (276/33); цёмныя з белымі каляінамі | 1 (318/34); узорныя | –//– |
| Ялоўка | –//– | –//– | 1 — канец XIX ст. (280/40); пераходныя цёмныя | 1 — да 1950-х гг. (371/32); узорныя пераходныя | –//– |

В-I. Браны чын — гл. бабовіцкую традыцыю.
В-II. Чырвоны чын. Не характэрны. Гл. Н-II.



Мал. 19. Покуць у Верашчаках (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

Чырвонафонавыя ўзоры, відаць, рухаюцца на ўсход ад Неглюбкі, бо верашчацкія ручнікі, маючы падасноваю браныя ўзоры з шагам 'тры', для чырвоных фонаў бяруць неглюбскі шаг 'два'. Фонд арнаментальных элементаў у Неглюбцы значна больш распрацаваны.

У той жа час большую распрацоўку маюць белафонавыя ўзоры ў верашчацкіх тканінах, 'белы' імпульс рухаецца тут насустрач 'чырвонаму'. На наш погляд, працэс гэты абапіраецца на розны па колеравым уражанні больш старадаўні слой спадчыны, назапашанай кампазіцыямі ручнікоў. Ён закадзіраваны ў розным характары калодак — цёмных чырвоных (тут — у неглюбскай, стаўбунскай, казацка-балсунскай, бабіцкай, валосавіцкай, чачорскай традыцыях) і ўзорных (бабовіцкая і ўслед за ёю верашчацкая, дубраўская традыцыі, 'гомельскія' ручнікі).

У старых ручніках неглюбскай і верашчацкай традыцый белафонавыя ўзоры перадаюцца найчасцей тэхнікаю двухбаковага перабору 'пад паркі', найбольш блізкаю да закладу (імпульс даўняга засваення закладаў 'саржавымі і рыпсавымі' традыцыямі?). Але менавіта верашчацкая традыцыя пе-

рапрацоўвае самастойна шэраг белафонавых узораў родным для яе бранай падасновы шагам ‘тры’. Аднабаковы перабор 3-1-3 з’яўляецца спачатку ў белафонавых арнаментах, прычым у адной і той тканіне перабор для ч/ф і б/ф можа быць розным.

Чырвона-бела-чорныя ручнікі (у бела-чырвоным чыне фону) у Верашчаках з’яўляюцца значна раней (у фондах ВМНТ — рэчы з пачатку XX ст., для Неглюбкі — з 1940-х гг.). Тут перабор 3-1-3 дыктуе верашчацкая традыцыя, неглюбская ж паслухмяна ўспрымае. Такі перабор робіцца найбольш пашыраным у сучасных шматколерных ручніках Неглюбкі, якія развіваюцца ‘на базе’ чырвона-бела-чорных. Але глыбінны імпульс чырвоных калодак зноў дае ‘выбух’ чырвані. Успрыняўшы ўзор чырвона-бела-чорных ручнікоў з Верашчакаў разам з узорнымі іх калодкамі, Неглюбка ‘патапляе’ ўзоры калодак у шырокіх чырвоных палосах, сцвярджаючы свой вобраз ‘красных ручнікоў’. Больш ‘краснымі’ застаюцца і каляровыя ўзоры, дзе чорнага значна менш, чым у Верашчаках. “Чужасельскія” верашчацкія ручнікі Неглюбка ўспрымае і называе “чорна-рябымі”. Так адзначаецца галоўная розніца: актыўнасць чорнага і ўзорныя калодкі суседзяў.

## 3.8. Традыцыя ‘чырвоных гарадкоў’ і ручнікі з ‘квадратным падзелам’ узора ў палосах

Ручнікі паласата-арнаментаванага тыпу з гарадчастымі чырвонымі паласамі, браным узорам у іх і прасветамі паміж ‘чырвоных гарадкоў’. Выяўленыя ў час экспедыцый уздоўж Беседзі ў Хоцімскім, Касцюковіцкім, Краснагорскім раёнах. Вядомыя і ў Краснапольскім. Уваходзяць у працяглую плынь паласата-арнаментаваных ручнікоў (ад захаду да ўсходу Беларусі).

Частка гэтай плыні — і блізкія да першых, але больш распрацаваныя па ўзору ручнікі з ‘квадратным падзелам’ бранага арнаменту. Апошнія чаргуюць у паласе пазітыўна-негатыўныя выявы ў белых і чырвоных ‘квадраціках’. У рэгіёне доследаў актуальныя як ‘пастаўшчык’ калодак з квадратным падзелам у Бабовіцкую, Верашчацкую, Неглюбскую традыцыі, а таксама як адзін з бакоў узаемадзеяння белапрасветных і чырвонакалодкавых ручнікоў, што дае шэраг пераходных варыянтаў.

У калекцыі ВМНТ рэчы з вёсак:

— Відуйцы (3, 264-375/24,5-28,5; 1920—1930-х гг.);

— Белая Дуброва (2, 306-380/26,5-30; канец XIX ст. — 1910-я гг.);

— паступіў з пас. Сініцына (1, 360/28 з квадратным падзелам; 1920-я гг.).

Выбарачны тэхналагічны аналіз ручнікоў традыцыі ‘чырвоных гарадкоў’ паказвае ваганне памераў шагу, пераважае цотны памер 2, 4, 6. Ён актуальны і для ступенькаў: 4. Тканіны з удзелам ‘квадратнага падзелу’ ўзора ў калодках фіксуюць сустрэчу з іншай плынню: шаг — 3 альбо 4, вышыня ступенькі — 2, 3.

## 3.9. Прыснянская традыцыя. Браныя ручнікі вертыкальнага тыпу

Правы бераг Сожа. Чачэрскі, Веткаўскі, Гомельскі раёны. Міжрэчча Сожа—Беседзі (трыкутнік да вусця Беседзі) і ніжэй да Гомеля, уздоўж Сожа.



Мал. 20. “Чырвоныя гарадкі” на ручніку ў Відуйцах (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

У ВМНТ — рэчы і экспедыцыйныя матэрыялы з наступных вёсак (у дужках — колькасць рэчаў).

1. Правы бераг Сожа:
— Матнявічы (1; 290/36; пачатак XX ст.);
— Залаўе (1; 268/38; 1940-я гг.);
— Мядзвежае (2; 220-261/36; 1905—1930 гг.);
— Прысно (19; 191-320/30-35; канец XIX ст. — 1920-я гг.);
— Пыхань (5; пачатак XX ст. — 1910-я гг.);
— Кунтараўка (3; 208-304/29-40; 1910—1930-я гг.);
— Юркавічы (2; 237/32; пачатак XX ст., 1918 г.);
— Чырвоны Пахар (1; 1916—1917 гг.);
— Хальч (1; 1920-я гг.);
— Пакалюбічы (1; 315/32; пачатак XX ст.).

2. Левы бераг Сожа:
— Рудня Нісімкавіцкая (1; 309/39; пачатак XX ст.);

3 Зак. 3512



Мал. 21. Ушэсце ў Нісімкавічах (Чачэрскі раён). 1990 г.

— Бабічы (5; 278-374/32-34; 1900—1920-я гг.);
— Фёдараўка (3; 366/34; пачатак XX ст. — 1920-я гг.);
— Малыя Нямкі (2; 261-337/37-42; канец XIX ст. — 1930-я гг.);
— Навілаўка (5; 232-324/32-35; пачатак XX ст. — 1925 г.);
— Някрасава (5; 170-226/33-42; канец XIX ст. — 1920-я гг.);
— Глыбаўка (2; 254/36; 1933 г.);
— Акшынка (1; пераходны; канец XIX ст.);
— Ляскі (1; 108/35; пачатак XX ст.);
— Антонаўка (1; 284/38; 1920-я гг.);
— Быкавец (1; 352/32; 1910-я гг.);
— Барталамееўка (1; 180/40; пачатак XX ст.).

Колер — чырвона-белы, чырвона-сіне-белы, чырвона-чорна-белы. Пераборныя — чырвоны чын.

Тэхнікі — ручнікі браныя (П-І), аднабаковы перабор (чырвоны чын).

Сярэдзіна — уласна прыснянскія ручнікі маюць белую палатняную сярэдзіну, якая праз 'серыю' калодак пераходзіць ва ўзорны канец, насычаны вертыкальным і дыяганальным рытмам узора, без падзелу калодкамі **(фота 12)**. Традыцыя 'ўпіраецца' на ўсходзе ў іншую (папярочнапаласатую тыпу **а-а-а** ў Бабічах Чачэрскага раёна (прыток Сожа — р. Покаць). У саміх Бабічах

і вакол ткуць абодва тыпы і пераходны варыянт (**фота 37**; **фота 103**). Пераходны тып злучае 'прыснянскі' канец з 'бабіцкай' сярэдзінай, такім чынам, увесь ручнік прасякнуты дыяганальным рытмам **(фота 40),** узорныя канцы ткуцца па фоне з рыпсавай тэхнікаю. "Лускаватая" (Негл.) сярэдзіна (пры паласатым і пры дыяганальным рытме ўзораў канца) і ў ручнікоў з Фёдараўкі, Навілаўкі (р. Покаць; гл. фота 31).

Далей на поўдзень, прайшоўшы 'пад' бабіцкай і балсунскай традыцыямі да блізкай Беседзі ды яе вусця — у Вялікіх і Малых Нямках, Колбаўцы, Някрасаве (былых Хлусах), Быкаўцы.

У Барталамееўцы (гл. фота 66) і Глыбаўцы, у Лясках, Антонаўцы (усе ўздоўж Беседзі ніжэй за Казацкія Балсуны) простая сярэдзіна, але ўсе яны даюць разам з 'прыснянскімі' і папярочнапаласатыя канцы (гл. фота 227); так падаўжаецца і засвойваецца агульная наскразная плынь папярочнапаласатых пераборных тканін (уздоўж Беседзі).

З усходу 'вертыкальную' прыснянскую традыцыю 'падпірае' браная 'церазпалосіца', якая ідзе з Навазыбкаўскага раёна ўздоўж Іпуці.

Ад вусця Беседзі ўверх і ўніз па Сожу аж да Пакалюбічаў на поўдні і да Матнявічаў (р. Чачора, прыток Сожа, вусце — Чачэрск) на поўначы па правым беразе Сожа жыве сапраўдны 'прыснянскі' стыль ручніка.

Блізкія аналагі вертыкальнага вырашэння асноўнага поля ўзора, але з дадатковымі арнаментальнымі палосамі зверху і знізу — "прыстаўкамі" (Дубр.) — у браных ручніках пануюць ніжэй у Гомельскім раёне (гл. фота 348), складаюць архаічны слой дубраўскіх ручнікоў (гл. фота 346, 347; Добрушскі раён, прыток Сожа — Вуць; матэрыялы ВМНТ; Фадзеева. 1994. С. 307).

Калодкі — 'прыснянскі' ручнік мае пераход ад белай сярэдзіны да масіўнага ўзорнага канца праз шэраг калодак (ад 2 да 16), часцей гарадчастых, "зубатых" (Негл.; **фота 19**). Часта іх рытм завяршаецца вузкай палоскаю браных узораў (гл. фота 12), пасля якой праз белы прасвет і пачынаецца сама дыяганальная сетка альбо слупы асноўнага ўзора. Калодкі могуць быць і больш складаныя, тыпу "жабак", "павучкоў", "глуховак" (гл. фота 12). Здаюцца больш познім варыянтам браныя прокіды, якія з'яўляюцца часткаю асноўнага ўзора, разбітай на некалькі калодак перад тым, як сабрацца ў адно ў кампазіцыі канца **(фота 14)**. Але параўнанне гэтага прыснянскага ручніка з тканінамі Вялікіх Нямкоў (**фота 23, 24**) дае падставу і ў такіх калодках шукаць семантычныя прыкметы.

Край — шырокая паласа карункаў, якая заканчваецца зубчастым краем (гл. фота 14). У залежнасці ад традыцыі, да якой набліжаюцца тыя альбо іншыя вёскі, край можа быць іншым. Пераходныя да бабіцкай традыцыі (р. Покаць) маюць па краі карункаў кутасы (гл. фота 40). Пераходныя да дубраўскай (р. Вуць) — простаўкі паркалю, карункі тыпу перавіці і кутасы (махры).

Колькасць арнаментальных элементаў — у адной кампазіцыі выкарыстоўваюцца звычайна 2 матывы, яны чаргуюцца ў запаўненні ячэек (вочак) сеткі (гл. фота 12, 16) альбо ў слупах (гл. фота 14). Аднак у апошнім выпадку ўзнікае дадатковае чаргаванне ў саміх слупах — вялізны раскрыты, альбо квітнеючы, альбо 'прарослы' знак змяняецца замкнутым ромбам (гл. фота 9).

У дадатковых гарызантальных палосках, калі яны ёсць, распрацоўваецца ‘малодшы’ знак да асноўных (гл. фота 12) альбо пара дадатковых такіх сімвалаў (“глухоўка” і “козлік” перад “лапай”, “лапка” перад “круччам”, Негл.).

## Звод арнаментальных элементаў

Уласных назваў не ўдалося атрымаць у Прысно. Але па краях традыцыі ды яе межах вядомы некаторыя назвы. Іншыя мы прыводзім па тэрмінах бабіцкага ткацтва, з якімі прыснянскае мае агульны фонд элементаў.

Самі ячэйкі арнаментальнай сеткі — “глазкамі” (Нісімк.; гл. фота 16, 134). Дыяганальнае размяшчэнне і чаргаванне элементаў — “у шашкі” (Ст. Малынічы; гл. фота 12). Вертыкальны ланцужок з некалькіх ромбаў на падножжы-трыкутніку — “крывулька” (Нісімк.; гл. фота 134). Вертыкальны ланцужок са зрошчаных “васьмірожкаў” — “лесьвічка” (Нісімк.; **фота 132**). Калодкі — “прошвы”, “поласы” (Нісімк.). Калодкі з гарадкамі — “у костачку” (Нісімк.). “Правадцы шырокія” (Бартал.) — “вольныя палоскі” (Нісімк.; гл. фота 103). Ромбы тыпу “глуховак” (Негл.) — “балончыкі”, “балоначкі” (гл. фота 134), “капейкі”, “кубікі” (Нісімк.), “бубны” (гл. фота 29), “куб”, “шашачкі”, “кубічкамы” (Бартал.), “канапелькі”, “шашкі” (Нісімк.; гл. фота 14), “бубка” (Бабічы).

Ромбы з крыжом (“веряб’ём”) усярэдзіне — “бубны”, “кубы”, “крэсцікі”, “ромбачка з крастом” (Бартал.), “сэрца” (Нісімк.; гл. узор тыпу 14).

Ромбы з разеткамі ў іх — “розачкі” (гл. фота 40).

Ромбы расхрышчаныя — варыянты сімвала засеянага поля, нівы — “раздробленая капейка” (гл. фота 5), “канапелькі”, “паляначкі”(!) (Нісімк.; гл. фота 132), “бубка” (Залаўе; гл. фота 6, 26), “чырвачкі” (Бартал.), “лапа бальшая” (Глыбаўка; гл. фота 6).

Ромбы гарадчастыя, тыпу “лапа” (Негл.), якія ўзыходзяць да сімвала расліннай сілы зямлі — “капейка” (гл. фота 34, 103), “рабіна, рабінка” **(фота 20, 131)**, “драбнічкі” (Нісімк.).

Ромбы з крукамі тыпу “крючча” (Негл.) — варыянты раннеземляробчага сімвала ўраджаю — “кручча” (Покаць; гл. фота 28), “закарючкі” (Нісімк.), аднак і “балоначкі” (Нісімк.; гл. фота 96).

Ромбы квітнеючыя — “рожа”, “рожына”, “розачкі” (Нісімк.; гл. фота 19, 40).

Крыжы і крыжыкі — “крэшчыкі”, “крэсцікі” (гл. фота 134; Бартал.). Крыжы тыпу мальтыйскага з пяці ромбаў — “хрэсцік”, “бабачка” (Нісімк.; гл. фота 16, 110), крыжы з парасткамі **(фота 15)** і квітнеючыя — “цвяты” (Нісімк.; гл. фота 37).

Зоркі васьміканцовыя — “васьмірожкі” (Нісімк.; гл. фота 16, 17, 31, 87).

Разеткі з рознай колькасцю пялёсткаў, што паходзяць ад ускладнення “васьміражкаў” і ‘праpослых’ ромбаў, зубчастыя ромбы — “чатырохрожка”, “пяцірожка”, “сямірожка”, “дзесяцірожка” (16 пялёсткаў) (Нісімк.; **фота 98**), але і “ражкамі”, “звёздамі” (Макаўе; фота 109). Узоры тыпу “вядзмедзь” (Негл.) — “цвецікі” (Нісімк.; гл. фота 31).

Чаргаванні элементаў. Самы ўстойлівы тып — чаргаванні ‘глухіх’ ромбаў з ромбамі ж, але ‘засеянымі’, ‘прарослымі’, ‘квітнеючымі’, ‘крукаватымі’ —

як бачым, і самы стары тып (гл. фота 9, 28). Новыя складаныя фігуры — разеткі развіваюцца на гэтай ‘базе’.

Для ўласна прыснянскай (‘палатнянай’) традыцыі характэрны лік шагу ў браным узоры — 3, вышыня ‘ступенькі’ схільная да цотнага ліку прокідаў. Носьбіты бабіцкай (‘саржавай’) традыцыі, выконваючы ‘прыснянскі’ вертыкальны ўзор, пакідаюць тэхніку сваёю, ‘цотнай’. Аднак ‘палатняныя’ ручнікі Прысна адрозніваюцца ад усіх падобных у рэгіёне тым, што яны ‘не паласатыя’. Калі прасачыць па гэтых канстантах (палатняная белая сярэдзіна і ‘вертыкальны’ імпульс у кампазіцыі ўзорнага канца) апублікаваныя выявы беларускіх ручнікоў, то ўбачым, як гэты тып спускаецца праз увесь усход краіны. У Кіраўскім, Клічаўскім і Бабруйскім раёнах Магілёўскай вобласці на Правабярэжжы Дняпра ‘вертыкальны’ канец спалучаецца са шматнітоваю сярэдзінай, прычым выразна: кіраўскія майстрыхі прышываюць браны канец да адатканай асобна шматнітовай двухуточнай сярэдзіны, тэхніка якой параўнальна новая. У Быхаўскім раёне, на правым жа дняпроўскім беразе, падоўжаны па кампазіцыі канец пераходзіць у архаічную па ткацтву аднаутковую 4-нітовую сярэдзіну — так, як у мясцовым выпадку з сустрэчаю прыснянскай (палатнянай) і бабіцкай (саржавай) традыцый. На жаль, тэхналагічны лік у арнаменце ‘паўночнага’ шэсця вертыкальных ручнікоў нам невядомы. Што датычыцца тыпу П-ІІ (пераборныя ручнікі вертыкальнай кампазіцыі чырвонага чыну), то бачна, як чын бярэ тэхніку з ‘цотных’ традыцый ч/ч, а кампазіцыю распрацоўвае на ўласным вопыце. Пры набыцці такіх чырвоных ручнікоў мы пачулі ад ‘правабярэжных’ прыснянцаў, што “красныя — мужыцкія ручнікі, з левага берагу”, але прыснянскія ‘красныя’ ткалі яны самі — іх матулі і бабулі.

## 3.10. Бабіцкая традыцыя.
## Шырокапалосны чырвонакалодкавы браны чын.
## Трохпалосныя ручнікі а-а-а-1/2а

Уздоўж р. Покаць, левы прыток Сожа. Узаемадзейнічае з чачорскай (р. Чачора, правы прыток Сожа) ды валосавіцкай (в. Валасовічы і вёскі па р. Каўпіце, правы — Беседзі) традыцыямі.

У ВМНТ захоўваюцца рэчы з наступных вёсак:

— Бабічы (14; 278-374/26-42; канец XIX ст. — 1930-я гг.);
— Гарадоўка (1);
— Добрынь (1; 287/39);
— Залессе (2; 149/38-40; 1920—1930-я гг.);
— Кунтараўка (2; 390/33-39; 1910—1920-я гг.);
— Малыя Нямкі (1; 298/36; 1920—1930-я гг.);
— Матнявічы (1; 292/40; пачатак XX ст.);
— Навілаўка (7; 228-392/28-38; канец XIX ст. — 1925 г.);
— Нісімкавічы (1; канец XIX ст.);
— Селянін (1);
— Фёдараўка (10; 295-326/30-37; пачатак XX ст. — 1920-я гг.);
— Юркавічы (1; 267/34; 1918 г.).

Асобныя пераходныя па кампазіцыі ручнікі з вёсак:



Мал. 22. У хаце няма ўжо гаспадароў, але ручнік на Куце яшчэ вартуе стары ачаг. Селянін (Чачэрскі раён). 2003 г.

— Стаўбун (2; 304/43; пачатак XX ст. — 1920-я гг.);

— Чырвоны Пахар (1; 1910-я гг.).

Колер — чырвона-белы.

Тэхнікі — бранае ткацтва. Ва ўзаемадзеянні з суседняю чачорскаю традыцыяй — увядзенне закладаў; з казацка-балсунскаю — займаванне перабораў (перабор пад палатно, двухбаковы і аднабаковы пераборы) і перакладанне на гэту тэхніку браных узораў.

Сярэдзіна — белая, аднауткова чатырохнітовае ткацтва "ў кружочкі", "у елачку", "у кропелькі". Па межах з іншымі традыцыямі — варыянты белай сярэдзіны "ў проста" ды палатнянай з папярочнымі чырвонымі калодкамі.

Канец — аднолькавыя па абодвух канцах кампазіцыі тыпу **а-а-а-1/2а**, у выглядзе трох з паловаю палос з адным і тым браным арнаментам. Ва ўзаемадзеянні з суседнімі традыцыямі паміж гэтымі 'аўтахтоннымі' палосамі ўзораў уводзяцца дзве 'займаваныя' палосы з іншаю тэхнікай, найчасцей белафонавыя. У выніку кампазіцыя асіметрычная (ас) пераўтвараецца ў люстрана-сіметрычную (лс): **а-б-а-б-а+1/2а** альбо **а-б-а-б-в**. Але заўсёды захоўвае сляды асіметрыі праз дадатковыя палосы зверху.

Калодкі —

1) шырокія чырвоныя, тканыя па рыпсу "вольныя палоскі" паміж узорнымі палосамі;

2) рад "пруцікаў" паміж белаю сярэдзінай і масіўнаю асноўнай кампазіцыяй узорнага канца.

Край — часцей за ўсё бабіцкія тканіны заканчваюцца шырокай паласой белых карункаў з зубцамі, часам з кісткамі. Узоры вельмі разнастайныя. Адрозніваюцца па вёсках. Звычайныя матывы — гарызантальны ланцуг ромбаў, касыя ўзоры, крыжы, раслінныя.

Колькасць арнаментальных элементаў — у складзе адной паласы звычайна два элементы. У старэйшых прыкладах яны размешчаныя асіметрычна **(а-б)**. Верагодна, імкненне да сіметрыі ў паласе вядзе да тыпу **а-б-а**, прычым

сярэдні элемент рэдукуецца, а крайнія ўзмацняюцца, утвараючы пару. Трайны паўтор палос утварае колькасную 'рыфму' 2+2+2, у сумме двух канцоў 6+6 = 12. Іншыя заканамернасці ўзнікаюць ва ўзаемадзеянні з суседнімі традыцыямі.

### Паходжанне арнаментаў

У фондзе знакаў — увесь чын раннеземляробчых сімвалаў. Частка ўзораў позняга паходжання, але геаметрычны арнамент і браная тэхніка захоўваюць чысціню стылю. Распрацоўваюцца формы ромбаў і "васьміpожкаў" у напрамку 'бубкі-кветкі', 'зоркі-кветкі', прычым геаметрычная форма здаецца важнейшаю: "чатырохрожка", "пяцірожка", "сямірожка", "дзесяцірожка". Толькі апасля ўзнікаюць "рожыны", "цвецікі". Крыж-"бабачка" ў ромбе або прамяністым ромбе — яшчэ адна з улюбёных тэмаў.

Тэрміналогія захавалася больш выразна, чым у прыснянскай традыцыі, дзе фонд знакаў вельмі падобны. Падрабязна мы разгледзелі фонд мясцовых назваў элементаў у час апісання прыснянскіх тканінаў, бо вымушаны былі называць іх узоры бабіцкімі імёнамі (якія захаваліся, галоўным чынам, у Навілаўцы ды Нісімкавічах).

Узорны канец — як мы пазначалі вышэй, бабіцкія і прыснянскія ручнікі па канструкцыі арнамента складаюць апазіцыю. Яна, здаецца, дае магчымасць адчуць тыя семантычныя імпульсы, якія дзейнічалі менавіта на ўзроўні кампазіцыі, дазваляючы бабіцкай традыцыі данесці да нашых дзён свой архаічны, лапідарны і выразны 'тэкст'.

Цэльная, тэхналагічна абумоўленая традыцыя, якая 'замком' тэхналогіі нібыта зберагла архаічныя рысы: асіметрыю, тып спалучэння белай сярэдзіны і паласатага канца, моцныя рыпсавыя чырвоныя калодкі, старажытны браны чын узораў тыпу **а-а-а+1/2а**, цотны лік у шагу арнаменту і значную вышыню ступенькі, каб утвараць 'высокі' варыянт фігур у сваёй кампазіцыі, што адрознівае бабіцкую традыцыю ад, напрыклад, неглюбскай. Па асобнасці гэтыя рысы рассыпаны па тым суседнім традыцыям, якія змяніліся значна больш. Бабіцкая захоўвае тэхналагічную памяць іх паходжання.

## 3.11. Чачорская традыцыя. Закладныя шырокапалосныя ручнікі

Па рэчцы Чачоры, праваму прытоку Сожа, на вусце якой — Чачэрск. Падоўжвае традыцыю рагачоўскіх закладных ручнікоў, якая ідзе ад Дняпра па пратоках Ракатун (левы Дняпра) — Добрыч (правы Сожа), Ржаўка — Чачора ды іншых.

У месцах сустрэчы з бабіцкай традыцыяй (браных асіметрычных ручнікоў з цёмнымі калодкамі) выпрацоўвае тып падобных да іх закладных. У адрозненне ад дняпроўскіх з вылучэннем асобай шырокай паласы ў кампазіцыі (фота 67—73) гэта паласатыя ручнікі з чаргаваннем арнаментаў **а-б-в-б-в** (фота 74—81, 86). Падвергліся працэсу новай сіметрызацыі і непасрэднаму ўзаемадзеянню з бранымі традыцыямі (у адной кампазіцыі — чаргаванне браных і закладных, потым белафонавых пераборных палос узора).

Рэчы ў фондах Чачэрскага, Гомельскага і Веткаўскага музеяў.

Час вырабу: канец XIX ст. — 1930-я гг.

Непасрэдна 'чачорскай' кампазіцыі рэчы з Матнявіч, Нісімкавіч, Падырушкі, Сапрык, Селяніна, Чачэрска. Памеры закладных 226-316/28-43. Ручнікі з чаргаваннем закладных і шырокіх браных палос — з Балсуноў, Глубочыцы, Іпалітаўкі, Навілаўкі, Селяніна, Сідаравіч, Сапрык, Чырвонага Бору. Памеры 264-356/36-43.

Колер — чырвона-белы.

Сярэдзіна — белая, аднауткова 4-нітовае ткацтва, калодкі і фон узораў — рыпс (2-2).

Колькасць арнаментальных элементаў — 2-3 (а-б-в-б-в).

Калодкі — цёмныя альбо паласатыя, з павелічэннем колькасці чырвонага з захаду на ўсход, да бабіцкай традыцыі.

Традыцыя цотнага рытму, тэхналагічна абумоўленая аднаутковым ткацтвам белай сярэдзіны і адносна высокімі памерамі ступенек у стварэнні фігур (шырокія палосы), па чым яднаецца з бабіцкаю традыцыяй і, магчыма, прадстаўляе адзіны працэс у даўнім узаемадзеянні браных (мясцовых?) традыцый з закладнымі. Сіметрычныя ручнікі адрозніваюцца ад асіметрычных і па тыпу калодак. Чырвань шырокіх "вольных палосак" узнікае менавіта ў тыпе асіметрычных, што пацвярджае факт уступлення закладу ва ўзаемадзеянне з бабіцкай бранаю традыцыяй.

### 3.12. Валосавіцкая традыцыя. Вузкапалосны браны чын тыпу а-а-а-а з цёмнымі калодкамі і працэсы ў ім

Па в. Валосавічы (вярхоў'е Покаці, левы прыток Сожа). Выдзяляецца як тып у рэгіёне бабіцкай і тых, што ўзаемадзейнічаюць з ёю. Найбольш 'чыстыя' прыклады — у міжрэччы Покаці (левы Сожа) — Каўпіты (правы Беседзі). Узаемадзейнічае з бабіцкай традыцыяй шырокапалоснага бранага чыну (падваенне матыву ў адной паласе), з традыцыяй вузкапалосных закладных ручнікоў (замяшчэнне браных узораў закладнымі).

Рэчы ў фондах Веткаўскага, Гомельскага, Чачэрскага музеяў.

1. Вузкапалосны браны чын:

міжрэчча Покаці—Каўпіты—Дарагоўшы — вв. Палессе, Балсуны, Будзішча, Бабічы, Фёдараўка.

Час вырабу: 1890—1920-я гг.

Памеры: Палессе — 261/36; Балсуны — канец 80/41; Будзішча — 283/44; Бабічы — 261/36; Фёдараўка — 300/36.

2. Падваенне матыву ў адной паласе (пашырэнне паласы, уплыў бабіцкай традыцыі):

міжрэчча Сожа—Покаці — Залессе (канец 63/38); Каменка (256/37); Гарадоўка (257/38).

3. Узаемадзеянне (1 і 2) з закладным чынам (брана-закладныя і бранапераборныя ручнікі):

правы бераг Сожа паміж Добрычам і Чачораю — Чачэрск, Чачэрскі раён (256-346/35-37);

Селянін (290/41); Матнявічы (292/40); Отар (286/43).

Р. Покаць — Перадавік (290/40); Бабічы (289/36).

4. Вузкапалосны заклад: міжрэчча Покаці — Каўпіты — рэчы тых жа памераў з Палесся, Будзішча, Заляддзя;

міжрэчча Покаці — Сожа — рэчы з Перадавіка, Валасовіч, Нісімкавіч і з Чачэрску.

5. Белафонавы вузкапалосны перабор і заклад: міжрэчча Покаці — Каўпіты — рэчы з Валасовіч, Палесся, Будзішча.

6. Чырвонафонавы вузкапалосны перабор і заклад: рэчы з Васілёўкі і Нісімкавіч.



Мал. 23. Акно старога дома ў в. Селянін. Хваля нябесных водаў над сімвалам урадлівай зямлі — "жабкаю"-"крюччам". 2003 г.

Ручнікі тэхналагічна аднатыповыя з бабіцкімі. Але вузкая паласа ўзора дыктуе невялікі памер ступенькі ў саміх браных палосах і ў закладных узорах, сярод арнаментальных тэм якіх абіраюцца вузкія працяглыя "чаўначкі"-"лодачкі"-"юрочкі". Свой фонд арнаменту — і ў пераборных узорах, што сведчыць аб іншым, чым у Бабічах, уласным засваенні 'новых' тэхнік, на якія 'перакладаюцца' матывы бранага і закладнога ткацтва. Аб гэтым жа — і розныя тыпы перабору, сярод якіх — перабор пад палатно па рыпсу, тэхніка, найбольш набліжаная да характэрнага тут закладу па рыпсу. Узаемадзеянне з шырокапалоснымі бабіцкімі ручнікамі падвойвае арнаментальны матыў па вышыні, каб запоўніць шырокі прасвет міжкалодкавай прасторы.

## 4. АЛФАВІТЫ МЯСЦОВЫХ НАЗВАЎ АРНАМЕНТАЛЬНЫХ ЭЛЕМЕНТАЎ ПА ВЁСКАХ І ТРАДЫЦЫЯХ

Структура артыкула слоўніка: нумар па парадку (скразны для ўсіх традыцый); назва з варыянтамі іншых назваў дадзенага матыву; крыніца альбо крыніцы запісаў і месца іх захоўвання; фондавы нумар рэчы з калекцыі ВМНТ альбо нумар і шыфр іншага музею; нумар фота ў каталогу (нумары фатаграфій ручнікоў, на якіх упершыню быў названы арнаментальны элемент, падаюцца без косак; ручнікоў-аналагаў — у косках); месца элемента

ў прасторы ручніка (для сіметрычных кампазіцый — лік ад цэнтра — 1ц, 2, 3 і г. д., для асіметрычных — лік ад верху; для ўзораў у калодках, "прыстаўках" альбо на белай сярэдзіне ручніка — адпаведная памета); ілюстрацыя — фрагмент ручніка з дадзеным элементам.

## Алфавіт дубраўскай традыцыі

*1. Арёл*

Ад Ткачэнка Н. П., в. Дубраўка, 23.06.1998 г. зап. Чыжова І. Ю. у час набытку.

— №№ КП 1032/1. Фота 419 (420).







*2. Бабачкі // баба, бабачка*

Ад Воласавай С. І., в. Баршчоўка, 23.07.1998 г. зап. Чыжова І. Ю. у час набытку.

— №№ КП 1036/2. Узор "прыставак". Фота 384.

*3. Барабаны*

Ад Сідарцовай Г. Х., 1918 г. н., в. Жгунь, 25.06.1998 г. зап. Лапацін Г. І., Чыжова І. Ю. — ЭМ, сш.76, л.14. Узоры на рубахах.

*4. Бесканешнік // гробам // самавары*









Ад Калінінай Я. П., 1918 г. н., в. Карма, 22.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. ЭМ, сш. 102, л. 29.

Паласа — 1ц. Фота 383.

***5. Гомель***

Ад Кужалевай Г. І., в. Запрудаўка, 22.07.1998 г. зап. Чыжова І. Ю. — ЭМ, сш. 73, л. 5.

— №№ КП 1040/3. Паласа — 1ц. Фота 367.

***6. Гробам // самавары // бесканешнік***

Ад Базылевай Г. П., 1918 г. н., в. Карма, 22.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 10.

Паласа — 1ц. Фота 383.




***7. Дуб // дубам***

Ад Журбы Н. Ф., 1925 г. н., в. Дубраўка, 17.07.1998 г. зап. Чыжова І. Ю. — ЭМ, сш. 76, л. 26.

— №№ КП 1042. Паласа — 1ц, белы чын. Фота 388 (393).

***8. Дуб з яйцамі***

Ад Кірыленка В. Я., 1916 г. н., в. Дубраўка, 2.08.1999 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 93, л. 3.

— №№ КП 1118/1. Паласа — 1ц. Фота 396.

***9. Дубовае лісце***

Ад Пузікавай Т. В., 1923 г. н., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 76, л. 73.

— №№ КП 1118/1. Паласа — 2, белы фон. Фота 396.




***10. Ёлкі // елачкі***

Ад Пузікавай Т. В., 1923 г. н., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 76, л. 73.

— №№ КП 1174/2. Паласа — 1ц. Фігуры выяўленчага стылю. Не рэпрадуцыруецца.




***11. Жучкі***

Ад Варанцовай Е. С., в. Усоха-Буда, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. у час набытку.

— №№ КП 1046/4. Паласа — 3. Фота 374.
















***12. Звязда // булкамі***

Ад Сідарцовай Г. Х., 1918 г. н., в. Жгунь, 25.06.1998 г. зап. Лапацін Г. І., Чыжова І. Ю. — ЭМ, сш. 76, л. 12аб. Паласа — 1ц. Узор на ручніку. Фота 368.

***13. Зорачкі***

Ад Суколкінай М. А., 1907 г. н., в. Красная Буда, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 76, л. 52.

— №№ КП 1039. Паласа — 2, тып калодкі. Фота 407.

***14. Калёсіка***

Ад Канцавой В. І., 1925 г. н., в. Церахоўка, 17.07.1998 г. зап. Нячаева Г. Р., Чыжова І. Ю.

***15. Кацельчыкі***

Ад Журбы Н. Ф., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 76, л. 67.

— №№ КП 1046/6. Паласа — 3. Фота 401.

***16. Качан // рожа***

Ад Суколкінай М. А., 1907 г. н., в. Красная Буда, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 76, л. 52.

— №№ КП 1039. Паласа — 1ц. Фота 407.

***17. Качан у абводцы // рожына з абводкай // сонца***

Ад Суколкінай М. А., 1907 г. н., в. Красная Буда, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 76, л. 52.

— №№ КП 1046/4. Паласа — 2. Гл. фота 177. Варыянты назвы: “рожына з абводкай” — ЭМ, сш. 76, л. 69; “сонца” — фота 375а.

### *18. Кветкамі*

Ад Сівакова М. І., в. Дубраўка, 2.02.1999 г. зап. Ананьева Т. А. у час набытку.

— №№ КП 1109/1. Паласа — 2. Тып негл. "лапы" — фота 354.

### *19. Кветачкі // кветачкамы*

Ад Пузікавай Т. В., 1923 г. н., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 76, л. 73. Пра ўзоры на ручніку. Элементы геаметрычнага стылю. Фота 354.


18(42)


20(26)а


20(26)б


21


22(40)

### *20. Крэст // красты*

Ад Воласавай С. І., в. Красная Буда, 23.07.1998 г. зап. Чыжова І. Ю. у час набытку.

— №№ КП 1036/1. Паласа — 1ц. Тып "любістак" — фота 370; тып "вядзмедзь" — фота 401; тып 'квітнеючы крыж' — фота 373.

### *21. Крэст з абводачкай*

Ад Варанцовай Е. С., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. у час набытку.

— №№ КП 1172/1. Паласа — 1ц. Фота 397.

### *22. Крэсцікі // хрэшчыкі*

Ад Варанцовай Е. С., в. Дубраўка, 13.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 76, л. 67.

— №№ КП 1107. У калодках. Фота 378.
















***483. Хрэшчыкі***

Ад Халюковай Р. М., 1935 г. н., 24.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 330/2. паласа — 1ц, чырвоны чын. Фота 226.

***484. Хрэшчыкі абводжаныя***

Ад Халюковай Р. М., 1935 г. н., 24.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 330/2. Паласа — 2, чырвоны чын. Фота 226.

***485. Хрэшчыкі двайныя кучаравыя***

Ад Халюковай Р. М., 1935 г. н., 24.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 330/3. Паласа дадатковая зверху, чырвоны чын. Фота 225.

***486. Хрэшчыкі кучаравыя // крэсьцікі кучарявыя***

Ад Халюковай Р. М., 1935 г. н., 24.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 330/2. Тое, што і "хрэшчыкі абводжаныя". Фота 226.

***487. Яблакі***

Ад Халюковай Р. М., 1935 г. н., 24.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 330/3. Узоры 3, 5, 7 палосаў (лік зверху). Фота 225.

***488. Яблакі ў пагонах***

Ад Чварковай П. А., у 1985 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 61, л. 2. Фота 65. Узор усяго канца.

## *Увелле, Краснагорскі раён Бранскай вобласці*

***489. Булды***

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Паласа — 2, белы фон. Тып неглюбскіх "хрястоў кучарявых", ялоўскіх "куксаў", нясвоеўска-верашчацкіх "маковак". Фота 314, паласа — 2, белы фон.

***490. Васьмірогі, васьмірога***

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 22. Паласа — 3. Фота 314.




### *491. Верябейка*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 22.

Паласа — 2. "Кацелачкі, а ўсярёдку верябейка". Фота 315.

### *492. Галубы*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23аб.

Паласа — 1ц, белы фон. Тып неглюбскіх "хрястоў у крывулі", ялоўскіх "барышняў, красных барышняў". Фота 264, паласа — 2, белы фон.




### *493. Глушкі*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 6.

Узор па краі ручніка. "На кружаве — глушкі".

### *494. Гуркі*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Паласа — 1ц, 2. Тып неглюбскіх "вядзьмедзяў у жалуддзі". Фота 269, паласа — 1ц, чырвоны фон.

### *495. Калодка*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23. Вузкая паласа ўзора.

### *496. Калёсы*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23аб.

Паласа — 1ц. "Калёсы, а ўсярёдку цвет". Тып неглюбскіх "пагонаў". Фота 314, паласа — 1ц, чыровны фон. Гл. нясвоеўскія "самавары" / "калясачкі".

### *497. Кацелкі // калёсы*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Тып неглюбскіх "пагонаў", нясвоеўскіх "калясачак". Фота 314, паласа — 1ц, чырвоны фон.

### *498. Кацелачкі*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 22.

Палосы — 2, 3. "Кацелачкі, а ўсярёдку верябейка". Фота 315.

### *499. Крючча, крючкі*

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23аб.

Паласа — 2. "Крючкі як малаткі". Тып "абводжаных хрэшчыкаў" (Негл.) з парнымі крыжыкамі-"веряб'ямі". Фота 336, паласа — 3, чырвоны фон.




**500. Кулакі**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Паласа — 3, чырвоны фон. Тып "калёсаў", двайных хрястоў" (Негл.). Фота 261, паласа — 2, чырвоны фон.




**501. Лапа**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23аб.

Паласа — 3. Тып "павучка" (Негл.). Фота 334, паласа — 1ц, чырвоны фон.

**502. Лапка мядзведзева**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 24аб.

Узор мярэжкі — рукаў, плячо рубахі. Тое, што і ў Неглюбцы — гарадчасты ромб.

**503. На манішках шылі**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 22

Паласа — 1ц, белы фон. Фота 315. Гл. тып "рэдзька разрязная" (Нясв.); "матавілы" (Ялоўка).

**504. Павукі**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23

Паласа — 3. Тып "кучаряўкі" (Негл.). Фота 321, паласа — 4, чырвоны фон.

**505. Прут**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Вузкая калодка. "На полі — прут і цярэшкі". Фота 314.

**506. Растапыркі // васьмірогі**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

Паласа — 4, чырвоны фон. Узор калодкі. Фота 314, паласа — 3, чырвоны фон; фота 134, паласа — 4, белы фон.

**507. Рэдзька**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 22.

"Размержаванне рэдзькай". Гл. фота 314. Іншыя: тып "хрястоў кучарявых" (Негл.).

**508. Цярэшкі**

Ад Барздун Н. А., 1913 г. н., 13.08.2002 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 102, л. 23.

"Па полі — прут і цярэшкі". Фота 314.

### *Чырвоны Кут, Веткаўскі раён Гомельскай вобласці*

#### *509. Ромбачка з крастом*

Ад Целяпнёвай Т. С., 1930 г. н., 28.11.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 53, л. 113.

— №№ КП 758/2. Узор на дзвюх шырокіх палосах па белым фоне. Фота 227.



#### *510. Чашачкі // кубікі*

Ад Целяпнёвай Т. С., 1930 г. н., 28.11.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 53, л. 113.

— №№ КП 758/1. Тканы ўзор па белым фоне (вертыкальныя ланцугі ромбаў). Фота 229.

### *Ялоўка, Краснагорскі раён Бранскай вобласці*

#### *511. Барышні // красныя барышні*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 22.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 3.

Фота 307, паласа — 2, белы фон.



#### *512. Васьміpога, васьміpожка // рожа // рожа белая*

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 6аб.

Паласа — 5, чырвоны фон. Фота 307, 309.

#### *513. Васьміpога з клінам*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 4.

Паласа — 3, чырвоны фон. Не рэпрадуцыруецца.

#### *514. Васьміpогая рагатая // рожа кучаравая*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2.

Ад Кучынай М. К., 1928 г. н., 11.08.2002 г. зап. Боганева А. М. — ЭМ, сш. 103, л. 30.

Паласа — 1ц. Тып "лісця" (Негл.). Фота 308, паласа — 1ц, чырвоны фон.



#### *515. Васьміpогія, васьміpогая*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2.

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 6аб.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Агульная назва васьміканцовай зоркі, чырвонай па белым фоне. Белая па чырвоным завецца "рожаю".






*516. Васьмірога двайная // лістоўкі*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3.
Паласа — 3, чырвоны фон. Фота 309.

*517. Васьмірожка красная*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. Фота 310, паласа — 2, белы фон.

*518. Веряб'і*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 1. Фота 306, па полі.

*519. Вуткі*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2. Узор накутніка — "падножжа".

*520. Гваздзікі // гваздзікі па беламу*

Ад Ластавой А. М. 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1.
Паласа — 4, белы фон. Фота 306, паласа — 2. Тып "яблачкі кучарявыя" (Негл.).

*521. Гваздзікі клінням*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3.
Паласа — 4, белы фон. Фота 311.

*522. Глушка*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2.
Паласа — 4, чырвоны фон. Фота 301; 306, паласа — 3, чырвоны фон.

*523. Гусіная лапка // гусіная лапа*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2аб.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Тып "васьмірогаў абводжаных" (Негл.). Фота 310.

*524. Елка*

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 7.

Паласа — 2, чырвоны фон. Тып квітнеючага касога крыжа. Не рэпрадуцыруецца.

*525. Елка белая*

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 7аб.

Паласа — 3, чырвоны фон. Тып "казлоў кучарявых" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

*526. Жалуды // жалуды з капейкай*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2. Паласа — 1ц.




***527. Жарэлля***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 7.

Паласа — 6, чырвоны фон. Фота 304, паласа — 5, белы фон.

***528. Званы***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 4.

Паласа — 1ц, белы фон. Новы ўзор, распрацоўка "крючча". Не рэпрадуцыруецца.

***529. Зорькі***

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Узор ручніка. Фота 311, паласа — 6, белы фон.

***530. Казлы // казельчыкі***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 1.

Паласа — 4, чырвоны фон. Агульная назва касога крыжа.

***531. Калессе***

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2аб.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. "Калессе? — Хіба ж вы ня знаеця? Эта ж воз, калёсы!" Фота 311, 312. Гл. тып неглюбскія "пагоны".

***532. Калодкі***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 8.

Вузкія палоскі ў арнаменце ручніка, платка, рукава рубахі.

***533. Капейкі***

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Узор белым па чырвоным. Групы 4 крыжыкаў-"веряб'ёў" альбо назва ўсіх рамбічных фігур.

Фота 304, палосы — 4, 6, чырвоны фон.

***534. Капейка з веряб'ямі // рэдзька***

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2. Фота 308, палосы — 3, белы фон, 4 — чырвоны фон; фота 301, паласа — 1ц, чырвоны фон. Тып "кучарявак" (Негл.).

***535. Капейка з крывулькай***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2.

Паласа — 3, чырвоны фон. Тып "кучарявак з ключамі" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.




*536. Капейка з лісцямі*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 4.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Новы ўзор тыпу "яблакаў" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

*537. Капейка кучерявая з клінам (кучерявка)*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3. Паласа — 4, белы фон. Тып "лапы кучарявай" (Негл.). Фота 312.

*538. Капыцце*

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Паласа — 2, белы фон. Фота 309.

*539. Кветкі*

Ад Лесенка А. Я., 1918 г. н., зап. Смірнова І. Ю. Названы "васьмірогамі".

*540. Кліны // кління*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2. Паласа — 2, чырвоны фон. Фота 301, 303, паласа — 2, чырвоны фон.

*541. Крывуля // Крывуля красная*

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2. Узор ручніка. Фота 301.

*542. Крывуля красная*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2. Паласа — 5. Фота 301. Тып "малой крывулькі" (Негл.).

*543. Крывулька*

Ад Ляўшы А. С., 1943 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 6. Паласа — 5, белы фон. Гл. фота 148. Тое, што і "крывуля красная".

*544. Крючча з веряб'ямі*

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 4. Паласа — 2, белы фон. Назва "казла крюкаватага", "казла з рагамі" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

*545. Куксы*

Ад Ластавой А. М. 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1.

Узор белафонавай паласы. Фота 307, паласа — 3; фота 305, паласа — 2, белы фон. Гл. тып "хрястоў кучарявых" // "маковак".

*546. Кучаряўкі // капейка з веряб'ямі // рэдзька*

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Узор ручніка. Фота 306, паласа — 1ц, чырвоны фон.

*547. Лабачы // лабачыкі // чаўнакі*

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Паласа — 5, белы фон. Фота 307.

***548. Лапа***

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Названы ўзор тыпу "лісце зводжанае", "самавары" (Негл.). Фота 316.

***549. Лапа кучарявая***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3.

Паласа — 3, чырвоны фон. Класічны тып. Фота 310.

***550. Лістаўкі***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3.

Паласа — 5, чырвоны фон тып "яблакаў" — старых неглюбскіх. Фота 310, 312.

***551. Матавілы***

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 3.

Паласа — 2, белы фон. Тып "кулачча" (Негл.), "рэдзька разрязная" (Нясв.). Фота 311—313.

***552. Мушкі // мошкі***

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Узор па белым полі ручніка. Фота 310. Агульны тып.

***553. Накрапляны***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 8.

Белы з "мушкамі". "Платок накрапляны з рэдзькай, мушкі". Фота 300.

***554. Прудкі // пруткі***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 7

Паласа — 4, белы фон. "Ёсць такія цвяткі". Фота 310, 313.

***555. Рожа // рожа белая // васьмірожка***

Ад Белавус К. Н., 1922 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 2.

Паласа — 1, чырвоны фон. Фота 307. Тып "звёздачкі" (Бабовічы); "сонцы" (Верхлічы).

***556. Рожа з глушкай***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 3.

Паласа — 1ц, чырвоны фон. Фота 309.

***557. Рожа кучярявая // васьмірогая рагатая***

Ад Кучынай М. К., 1928 г. н., 11.08.2002 г. зап. Боганева А. М. — ЭМ, сш. 102, л. 30.

Палосы — 1ц, 3, чырвоны фон. Тып "лісце" (Негл.). Фота 308, паласа — 1ц, чырвоны фон. Гл. тып "лісьця" (Негл.); "лісцейка" (Нясв.).




***558. Рэдзька // рэдзька кучаравая***

Ад Белавус В. С., 1912 г. н., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1аб.

Узор ручніка. Паласа — 1ц, чырвоны фон. Тып "кучараўкі" (Негл.). Фота 305.

***559. Рябыя // рябы***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 8.

Рубахі з чырвоным рукавом і папярочнымі калодкамі. "Рубахі рябыя — чахонню, траенькамі". Фота 285.

***560. Ряшотка // ряшоткі***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2.

Паласа — 3, чырвоны фон. Фота 301, 305.

***561. Самавары***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2.

Паласа — 4, чырвоны фон. Інакшае прачытанне "зоряк" — вылучаюцца стаўпы паміж імі і самыя "зорькі" як вазы. Фота 309.

***562. Сліўкі***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 2.

Паласа — 6, чырвоны фон. Тып "жалуддзя малага" альбо "козьлікаў" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

***563. Сліўкі бальшыя***

Ад Кучынай Г. П., 1938 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 7аб.

Паласа — 2, чырвоны фон. Тып "жалуддзя бальшога" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

***564. Траенькі***

Ад Зімняковай М. Г., 1936 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 4аб.

Узор па белым полі, тып калодак з трох прутоў. Фота 311.

***565. Тройка // траенькі***

Ад Прышчэп Г. І., 1933 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 4аб.

Узор па белым полі, тып калодкі.

***566. Узор з Рэпішча***

Ад Шэвель К. І., 1948 г. н., 11.08.2002 г. зап. Смірнова І. Ю. — ЭМ, сш. 104, л. 4.

Паласа — 3, белы фон. Тыпу новых "яблакаў" (Негл.). Не рэпрадуцыруецца.

*567. Хрясты*

Ад Прышчэп Г. І., 1933 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 4аб.

Агульная назва адной ўзорнай паласы ў ручніку аднаслічнага перабора.

*568. Цярэшкі*

Ад Зімняковай М. Г., 1936 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 4аб.

Паласа — 3, чырвоны фон. Фота 313. Тут — новая распрацоўка старога ўзора. Фота 311. Тып "кучарявак" (Негл.), іншая назва — "рэдзька", "капейка з веряб'ямі".

*569. Чаряпашкі*

Ад Зімняковай М. Г., 1936 г. н., 11.08.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 103, л. 4аб.

Паласа — 5, чырвоны фон. Фота 311.

*570. Челнакі // челначкі // чоўнакі // чоўнікі // лабачы*

Ад Ластавой А. М., 29.06.1988 г. зап. Нячаева Г. Р. — ЭМ, сш. 11, л. 1.

Паласа — 4, белы фон. Фота 307, паласа — 5, белы фон; фота 305, паласа — 4, белы фон. На платку — фота 300. Іншая назва — "рэдзька".

**Янова, Веткаўскі раён Гомельскай вобласці**

*571. Крючча*

Ад Бяжновай А. Ф., 1916 г. н., у 1990 г. зап. Лявоньцева С. І. — ЭМ, сш. 1, л. 7.

"Тканыя старыя красівыя (рубахі) былі, увесь рукаў тканы крюччамі".

*572. Пяціроѫкі*

Ад Талсцямковай Г. А., 1928 г. н., у 1990 г. зап. Залеўская І. І. — ЭМ, сш. 1, л. 3.

*573. Сонца*

Ад Талсцямковай Г. А., 1928 г. н., у 1990 г. зап. Залеўская І. І. — ЭМ, сш. 1, л. 2.

"Закладанні тканыя. Узор сонцамі. Наматываліся на спічкі".

*574. У кружкі*

Ад Дарафеенка М. П., 1910 г. н., у 1990 г. зап. Залеўская І. І. — ЭМ, сш. 1, л. 6.

"Скацірка ў кружкі з вышытай устаўкай".

**Алфавіт прыснянскай, бабіцкай ды блізкіх традыцый**

***Антонаўка, Веткаўскі раён Гомельскай вобласці***

*575. Вогненная вада // вольная паласа*

Ад Гутар М. В., жыве ў Казацкіх Балсунах, 11.10.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 67, л. 9.

Чырвоныя палосы, якія знаходзяцца паміж узорнымі палосамі; іншая назва — "вольная паласа" (Нісімк.). "Не рабі гэтую паласу шырокай, гэта — вогненная вада".



### *576. Зямля*

Ад Гутар М. В., жыве ў Казацкіх Балсунах, 11.10.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 67, л. 9. Назва ўзора на тканым ручніку (не паказаны).

## *Бабічы, Чачэрскі раён Гомельскай вобласці*



### *577. Арламі*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.

"Арламі ткалі ручнікі". Не паказаны.

### *578. Зорачкі*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.



Пра ўсе ўзоры, размешчаныя пасярод ланцужкоў-ромбаў ва ўзорнай кампазіцыі канца ручніка. Тып "веряб'і" (Негл.) — маленькія крыжыкі.

### *579. Кацелачка*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.

— №№ КП 593/2. Аднолькавыя ўзоры на пяці палосах. Фота 98.

### *580. Кубічкі*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.

— №№ НВФ 1124/4а. Фота 134. Фігуры з 8 ромбаў ва ўзорных палосах.

### *581. Кручча*

Ручнік набыты 31.08.1983 г., в. Покаць. Зап. Лявоньцева С. І.

— №№ КП 333/3. Фота 108.

### *582. Крывулька*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.

— №№ КП 649. Узор 2-й паласы канца ручніка. Фота 157.

### *583. Чаўначкі*

Ад Падабедавай К. Ф., 1926 г. н., 1.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 181.

— №№ КП 609/3. Узоры на пяці палосах. Фота 127, паласа — 2, белы фон.

### *Барталамееўка, Веткаўскі раён Гомельскай вобласці*

#### *584. Абводачкі*

Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 773/1. Вакол ромбаў. Гл. фота 229.

#### *585. Бубны, бубначкі*




Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 758/1, 787/1. Узор паміж "елкамі", ланцужок вертыкальных ромбаў на чырвоным фоне. Фота 229.

#### *586. Елкі*

Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.




— №№ КП 758/1. Узоры 3-х шырокіх палосаў на белым фоне, тып "лісце". Фота 229.

#### *587. Звёздачка*

Ад Целяпнёвай Т. С., 1930 г. н. (нар. у в. Чырвоны Кут), 28.11.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 53, л. 113.

— №№ КП 758/1. Не рэпрадуцыруецца.

#### *588. Кубікі, куб*

Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 758/3. Узоры 3-х шырокіх палосаў па белым фоне. "Прошва куб раздзяляе". Фота 227.




#### *589. Крылле*

Ад Бурмістравай Т. Л. у траўні 1990 г. зап. Лапацін Г. І. у час набытку.

— №№ КП 775/3. Белы фон. Фота 395. Тып "дуб" (Дубр.).

#### *590. Крэсцікі // хрэшчыкі*




Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 773/2. Маленькія ўзоры на палосах ручніка; белы і чырвоны фон. Фота 227, крыжыкі паміж ромбаў.










***591. Лінейка***

Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 758/2. Белая паласа ў пачатку ручніка. Фота 227.

***592. Млыны***

Ад Еціпнёвай М. Ц. 15.03.1990 г. зап. Лапацін Г. І. у час набытку.

— №№ КП 758/3. Узоры трох шырокіх палосаў на белым фоне; тое, што і "бубны", "хрэсцікі". Фота 37 — крыжападобныя фігуры ў ромбах.

***593. Правадцы вузінькія // лінейка***

Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 758/3. Вузкія чырвоныя палоскі (ідуць пасля шырокіх) бліжэй да сярэдзіны ручніка. Фота 227, тое, што і "калодкі" (Негл.).

***594. Правадзец шырокі***

Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 758/3. Чырвоная шырокая паласа паміж узорнымі палосамі канца ручніка. Фота 227.




***595. Прошвы // палосы***

Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 773/2. Чырвоныя палосы паміж узорнымі палосамі.




***596. Рожы // елкі***

У траўні 1990 г. зап. Лапацін Г. І. у час набытку.

— №№ КП 773/1. Назва ўзораў трох шырокіх палосаў на белым фоне. Фота 229.

***597. Храсты***

Ад Еціпнёвай М. Ц. 15.03.1990 г. зап. Лапацін Г. І. у час набытку.

— №№ КП 758/2. Узоры чырвонага і белага колеру на процілеглым фоне. Фота 227.




***598. Цвецік крэстападобны***

Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 775/2. Паласа — 1ц, белы фон. Фота 373.

***599. Цвяточкі***

Ад Басянковай А. Н., 1940 г. н., 19.10.2001 г. у Ветцы зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

— №№ КП 775/2. Паласа −1ц, белы фон.

***600. Чырвачкі***

Ад Краўцовай Т. Ц., 1933 г. н., 19.10.2001 г. зап. Раманава Л. Д. — ЭМ, сш. 53, л. 100—101.

—№№ КП 773/2. Чырвоныя і белыя ўзоры на шасці палосах процілеглага колеру. Фота 126, ромбы.

**Іншыя запісы да прыснянскай традыцыі**

***601. Лапа***

Ад Казловай К. М., 1919 г. н., 27.01.1988 г. зап. Смірнова І. Ю. у час набытку.

— №№ КП 518.

***602. Бубка // Бубна***

Ад Селядцовай Н. І., 1933 г. н., 30.07.1999 г. зап. Нячаева Г. Р. у час набытку.

— №№ КП 1135. Суцэльны арнамент па канцах ручніка. — ЭМ, сш. 94, л. 22. Фота 6.

***603. Лапа бальшая***

Ад Казловай К. М., 1919 г. н., в. Глыбаўка, 27.01.1988 г. зап. Смірнова І. Ю. у час набытку.

— №№ КП 518. Элемент вертыкальнага ўзора, ланцугі.

***604. Кручча***

Ад Белавусавай А. М., 1924 г. н., в. Навілаўка, 23.08.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

—№№ КП 325/4. Элемент тыпу бабіцкага "кручча", "балоначкі". Паўтор у трох палосах.

***605. Лісцікі на сетачкі***

Ад Брэйковай П. Н., 1927 г. н., в. Навілаўка, 13.09.1983 г. зап. Лявоньцева С. І. у час набытку.

— №№ КП 335/2. Карункі.

***606. Рожы***

Ад Шмігіровай В. Я., 1928 г. н., в. Чырвоны Пахар, 24.10.1989 г. зап. Залеўская І. І.

Чырвоны чын. Элемент вертыкальнага ўзора (тып "васьмірогі"-"лісце").



### *607. Хрясты сушчэленыя*

Ад Казловай К. М., 1919 г. н., в. Глыбаўка, 27.01.1988 г. зап. Смірнова І. Ю.

Элемент у ромбах, вертыкальная кампазіцыя.

## *Нісімкавічы, Чачэрскі раён Гомельскай вобласці*



### *608. Бабачкі*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 158.

— №№ КП 608/1. Узор у "капейцы" па белым фоне — на трох аднолькавых шырокіх палосах, палова — на адной вузкай. Гл. фота 102.



### *609. Балоначкі (тып "кручча")*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 162.

— №№ КП 962/1. Узор па белым фоне на 3-х аднолькавых шырокіх палосах. Назва по асобай унутранай частцы "кручча". Гл. фота 95.



### *610. Балончыкі*

Ад групы жанчын 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 157.

— №№ КП 1029. Элемент вертыкальнай узорнай кампазіцыі ручніка. Гл. фота 14, ромбы.

### *611. Васьмірожка*

Ад Надтачэевай М. А 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.

— №№ КП 754/2. Палосы — 2,3,5. Гл. фота 136.



### *612. Васьмірожка з елачкай*

Ад Надтачэевай М. А. 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.

— №№ КП 593/2. Гл. фота 135, 107.




***613. Васьмірожка з капейкай***

Ад Надтачэевай М. А., 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.

— №№ КП 836. Гл. фота 38.

***614. Вольныя палоскі***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 163.

— №№ КП 854/2. Даволі шырокія чырвоныя палосы, размешчаныя паміж узорнымі, на канцы ручніка (тып калодак).

***615. Вулей // вуллейкі накрытыя***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 163.

— №№ КП 854/2. Узоры па белым фоне, размешчаныя на трох аднолькавых шырокіх палосах, і палавінкі — на вузкай уверсе. Не рэпрадуцыруецца. Палова "лесьвічкі". Фота 132.




***616. Дзераза // крывулька***

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 155.

— №№ КП 649. Узор дзвюх вузкіх палос па белым фоне. Гл. фота 157.




***617. Драбнічкі // перасекі хрэсцікамі***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 159.

— №№ КП 961/1. Узор чатырох палос па белым фоне. Гл. фота 131.

***618. Елачка***




Ад Надтачэевай М. А., 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.

— №№ КП 945/2. Вертыкальны ланцужок гарадчастых ромбаў. Гл. фота 352.

***619. Закакарючкі // кручча***

Ад Надтачэевай М. А., 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.



— №№ КП 905. Узор трох палос, падобна да "крючча". Гл. фота 95.

***620. Кубік // кубікі // кубічкі***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 156.

— №№ КП 945/3. Узор трох шырокіх ды адной вузкай палосаў па белым фоне. Гл. фота 128.



***621. Канапелькі***

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 155.

— №№ КП 649. Мноства белых малых крыжыкаў на трох вузкіх палосах. Гл. фота 157.



***622. Капейка***

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 158.

— №№ КП 608/1. Узор трох шырокіх палос і яго палова — на вузкай. Гл. фота 102.

***623. Крывуля // крывулька***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 156.

— №№ КП 945/3, 1138. Вертыкальны рад "капеек". Гл. фота 134.



***624. Лесвічка***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 160.

— №№ КП 862/1. Тры вузкія вертыкальныя палосы (паміж "паляначкамі") на трох шырокіх палосах па белым фоне. Гл. фота 132. Элементы паміж падвойнымі ромбамі.

***625. Лодачкі // чаўначкі***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 163.



— №№ НВФ 1465. Узор дзвюх вузкіх белых палосаў. Гл. фота 159.



***626. Палавіна капейкі // разьбітае серца***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 159.

— №№ КП 961/1. Узор чатырох шырокіх палосаў па белым фоне. Гл. фота 131. Фігуры, "разбітыя" чырвонымі калодкамі.

***627. Паляначка***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 160.

— №№ КП 862/1. Злучаныя паміж сабой вертыкальныя пары ромбаў з крыжыкамі ўсярэдзіне — на трох шырокіх палосах па белым фоне. Гл. фота 132.



***628. Плошачкі // чаўначкі***

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 163.

— №№ НВФ 1465. Выцягнутыя вузкія ромбы па белым фоне на дзвюх палосах. Гл. фота 159.

***629. Рабінка // рабіна***



Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 159.

— №№ КП 961/1. Тры пары ўзораў на чатырох палосах па белым фоне. Тое, што і "перасекі хрэсьцікамі", "драбнічкі". Гл. фота 131, гарадчастыя ромбы.

***630. Раздробленая капейка // перасекі хрэсьцікамі // драбнічкі // рабінка // паляначкі***

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 160.

— №№ КП 862/1. Злучаныя паміж сабой вертыкальныя пары ромбаў з крыжыкамі ўсярэдзіне — на трох шырокіх палосах па белым фоне. Гл. фота 131, гарадчастыя ромбы.

***631. Розачкі***

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 164.

— №№ НВФ 2375. Арнаментальны элемент у сярэдзіне ромбаў, што запаўняюць ланцужкамі поле ручніка па белым фоне. Гл. фота 12, квітнеючыя ромбы.




*632. Рожа // цвяткі*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 157.

— №№ КП 1029. Гл. фота 40, квітнеючыя ромбы.

*633. Серца*

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапцін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 164.




— №№ НВФ 2375. Ромб з белым "веряб'ём". Гл. фота 105, палосы — 1, 3.

*634. Серца разьбітае // Палавіна капейкі*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 159.

— №№ КП 961/1. Ромб па белым фоне, падзелены гарызантальнаю чырвонай паласой. Гл. фота 131.




*635. У костачку*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 161.

— №№ КП 335/3. Вузкія чырвоныя палоскі абапал узорнага канца. Гл. фота 109. Тып "зубастых" калодак.

*636. У кружкі // у кружачкі*




Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 157.

— №№ КП 1029. Палатнянае перапляценне цэнтральнай часткі ручніка.

*637. Хрэсцік*

Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 158.

— №№ КП 608/1. Элемент у сярэдзіне "капейкі" па белым фоне. Гл. фота 130.

*638. Хрэшчыкі*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 162.

— №№ КП 962/1. Элемент "балоначкі" па белым фоне. Гл. фота 95.

### *639. Цвецікі*




Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 155.

— №№ КП 610. Па ўсім узорным канцы на белым полі. Гл. фота 31, 23. Фігуры, якія паходзяць ад гарадчастых ромбаў, тып "лапак" (Негл.).

### *640. Цвяткі // рожа*




Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 156.

— №№ КП 945/3. Узор у сярэдзіне "капейкі" па белым фоне. Гл. фота 40.

### *641. Чатырохрожка [ромб]*




Ад Бусаўцовай М. А., 1924 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 164.

— №№ НВФ 840. Узор трох шырокіх палосаў па белым фоне. Гл. фота 105.

### *642. Чаўначкі*




Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 160.

— №№ 609/3. Вузкія выцягнутыя ромбы на дзвюх вузкіх палосах па белым фоне. Гл. фота 137.

### *643. Шашкі*

Ад Надтачэевай М. А., 1928 г. н., 21.02.2002 г. зап. Новікава Л. А. — ЭМ, сш. 75, л. 165.

— №№ НВФ 2588. Гл. фота 106.

### *644. Юрочкі*

Ад Бусаўцовай Г. К., 1917 г. н., 21.02.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 162.

— №№ КП 650. Узоры пяці вузкіх палосаў па белым і чырвоным фоне. Гл. фота 142.

6 Зак. 3512

### *Селянін, Чачэрскі раён Гомельскай вобласці*

#### *645. Бакончыкамі // бакончынамі*

Ад Пернікавай М. В., 1922 г. н., 28.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 192. Узоры цэнтральнай паласы. Гл. фота 83 (так названыя промні васьміканцовай зоркі).

#### *646. Вакенцамі*

Ад Пернікавай М. В., 1922 г. н., 28.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 192. Узоры цэнтральнай паласы. Гл. фота 83, 85, палосы — 2, 4.


645

#### *647. Павілёначка*

Ад Пернікавай М. В., 1922 г. н., 28.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 192. Узоры па верхнім краі канца ручніка. Гл. фота 83.


647

#### *648. Планачка*

Ад Пернікавай М. В., 1922 г. н., 28.11.2002 г. зап. Раманава Л. Д., Лапацін Г. І. — ЭМ, сш. 75, л. 192. Чырвоныя палосы паміж узорнымі палосамі (назва калодкі).

# 5. СЕМАНТЫЧНЫЯ ДОСЛЕДЫ З'ЯЎ ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ І 'МЕТОДЫКА' ВМНТ

Такі напрамак доследаў з'яўляецца традыцыяй ВМНТ, што можна ўявіць і па тэмах нашых публікацый са спісу літаратуры. Кожны, хто ідзе гэтым шляхам, апыноўваецца ў прасторы верагоднасцей. Аднак семантычнае рэканструяванне, узнаўленне элементаў духоўнай культуры па рэчавых этнаграфічных матэрыялах — справа сёння добра вядомая і можа базіравацца на фундаментальных працах. Для нас адпачатку такімі сталіся вынікі дзейнасці Тартускай школы другасных семіятычных сістэм, а затым і працы Інстытута славяназнаўства і балканістыкі, што паклалі пачатак шматлікім сучасным публікацыям айчынных і замежных даследчыкаў.

Прыцягненне археалагічных, гістарычных, фальклорных і лінгвістычных дадзеных, комплексны падыход да збору экспедыцыйнага матэрыялу прыдаюць 'семантычным' пошукам больш акрэслены выгляд (увагу да сістэматызацыі арнамента праяўляюць і археолагі — гл.: Кожин. 1991. С. 131—139).

Законы існавання традыцыйнай культуры, архетыпічнае ўзнаўленне пэўных знакавых апазіцый, па якіх ствараецца і ўтрымлівае свае межы семіятычная прастора (гл.: Лотман. 1984), праяўляюцца і ў такім архаічным тыпе традыцыйнай дзейнасці, як ткацтва ручнікоў. Нагадаем, што наш шлях вывучэння тканін у канцы 1970-х гг. пачаўся менавіта з 'семантычнага' здзіўлення: фармальны аналіз заканамернасцей утварэння арнаментальных кампазіцый у ручніках дзвюх калекцый (неглюбская і казацка-балсунская) даў табліцу бінарных апазіцый, якая пераважна супадала з сістэмай вядомых семантычных пар, рэканструяваных для славянскага язычніцтва (Иванов, Топоров. 1965).

Пошукі 'ментальных' кампанентаў у складаных тэхналагічна-абрадава-моўных комплексах, якімі паўстаюць мясцовыя традыцыі, прывялі нас і да разумення другой характэрнай асаблівасці старой культуры — мыслення з дапамогаю перакадзіроўкі інфармацыі. Найбольш просты прыклад — вядомыя ўсім загадкі, дзе адзін аб'ект задаецца праз вобразы іншых, што належаць розным кодам. Так, 'дом' — гэта і гарбуз, і пчаліная калода, і конь, і чалавек. Як *своеасаблівыя загадкі* можна разглядаць і мясцовую тэрміналогію ткацтва, *назвы арнаментальных элементаў.* Іх стварэнне адбываецца, між іншым, у такой шматкодавай семантычнай прасторы.

Пануючы сёння раслінны арнамент — толькі частка 'працвіўшага' ў апошнія часы, але архаічнага расліннага кода, які і геаметрычныя элементы засвойвае як "кветкі", "рожы", "любістакі". Між расліннымі ж назвамі ёсць і тыя, што здаюцца даўнімі, бо іменуюць узоры праз старажытныя апазіцыі

'дзявочага'-'жаночага' як 'саду'-'гароду' ("вінаград"-"рэдзька"), праз семантычную ж розніцу 'пустога'-'засаджанага' ("балоначкі"-"сады") альбо 'свайго'-'чужога' (назвы культурных і дзікіх раслін), праз супрацьстаўленне 'жаночага'-'мужчынскага' ("елка"-"дуб"). Усе яны маюць і абрадавыя адпаведнасці. Такія — "гваздзікі" на ручніку і гваздзікі за абразамі, кветкі, якія потым кладуць у труну ў Неглюбцы. У раслінным захоўваюцца рэшткі і старога земляробчага коду ("бубкі", "канапелькі", "палянкі" як назва арнаменту і нівы). Толькі частка сэнсаў праяўляе сябе праз моўныя дадзеныя. Напрыклад, дыяганальныя восі ў розных фігурах аддаюцца 'зонам росту', і тое, што тчэцца ўздоўж іх, завецца "лісце", "крылле" — у розных жа традыцыях.



Мал. 24. Ліштва ў Янове (Веткаўскі раён). 1998 г. У адзіным "сусвеце" тут жывуць раслінныя, жывёлападобныя і геаметрычныя сімвалы

Геаметрычны арнамент мае толькі адзінкавыя геаметрычныя назвы ("ромбы", "кубічкі"). Элементы яго асацыіруюцца з рознымі аб'ектамі. Шматлікасць іх, аднак, групуецца і ўваходзіць у 'будаўнічы', 'антрапаморфны', 'транспартны' коды, якія праяўляюць сябе значна шырэй, чым толькі ў назвах узораў. Група 'рэчавых' назваў разыходзіцца і прыцягваецца да вобразных тэм 'начыння', 'зброі', 'прылад працы', добра распрацаваных і ў іх сімвалічным разуменні. Астральныя сімвалы падоўжваюць існаваць у "сонцах", "зорках". Жывёльны код невыпадкова разводзіць па розных ярусах ручніковай кампазіцыі "варонія вочы", "рачыкаў", "жабак" і — "вутак", "цярэшак"-матылькоў.

Шмат назваў здаюцца выпадковымі. Але сама выпадковасць наймення існуе ў шматслойнай і нават падобнай да семантычнага 'раствору' прасторы, дзе 'дысацыяваныя' рэшткі сэнсаў адчуваюць яшчэ жывыя 'магнітныя' лініі вобразатворчай архаікі. І тыя ж 'бінарныя' апазіцыі дзейнічаюць у сумленні майстрыхі, якая "прадугадвае і накладае" назвы. Аднак не мы пер-

шыя запісвалі назвы. Дзесьці ў архівах патрэбна шукаць дадзеныя, накшталт наступных: “Орнамент полотенецъ — самый разнообразный и оригинальный, какъ и сами названія узоровъ, напримеръ: “ветряные пруды”, “кошачьи лапки”, “певуны”, “копыта” и тому подобныя” (Сказочники и их сказки. 1915).

Пытанні псіхалогіі носьбіта традыцыйнага мыслення тут — найбольш цікавыя. Стадыя яго распаду параджае і складанасць асацыяцый у назвах. Але і адмоўныя вынікі сведчаць аб стане традыцый. Дапушчэнне архетыпічнага ўзнаўлення глыбінных семантычных апазіцый у час новага стварэння кампазіцыі ручніка, асабліва ў пераходных сітуацыях, дазваляе значна падрабязней структураваць і погляд на дэкаратыўныя законы яго пабудовы. Архетып не робіцца аб’ектам нашага доследу, але так альбо інакш з ім сутыкаецца кожны даследчык традыцыйнай культуры (гл., напрыклад: Евзлин. 1993. С. 98—102; С. 191—209; Чеснов. 1998. С. 187—208).

Як мы адзначылі, толькі частка інфармацыі набывае моўны выгляд. Бездань семантычнага кадзіруецца ў тэхналогіі, лікавых, колеравых, пазіцыйных дадзеных. Квант інфармацыі выпраменьваецца для нас толькі пры супастаўленні фактаў розных тыпаў культурнай дзейнасці, сярод якіх — і ткацтва ручнікоў. Актуальнае — само супадзенне пэўных паслядоўнасцей, алгарытмаў ‘культурнага ўпарадкавання’— ад стварэння і змяшчэння ў кампазіцыю арнаментальнага элемента да структуры абрадавага дзеяння (гл. ‘спіс’ такіх дзеяў на прыкладзе доследаў старажытнагерманскай культуры: Топорова. 1994. С. 72—74). Гэтыя працэсы падобныя і тым, што прадстаўляюць і рэальныя рухі аб’ектаў як траекторыі праз розныя локусы культурнай прасторы, дзе і нараджаецца сімвалічнае значэнне. Апісанне культуры ў тэрмінах прасторы сталася для нас метадалагічным прынцыпам (гл.: Лотман. 1969).

Верагоднасць разумення асобнага факта як праявы заканамернасці тым большая, чым бліжэй (прасторава, часава і г. д.) паралелі. Апошнія могуць аказацца праявамі і рознымі кадзіроўкамі глыбіннага сэнсу, а могуць быць і ‘кабінетнымі’ вынікамі. Менавіта ў прасторы ‘сваёй’ культуры мы пачалі разглядаць і ‘быцце’ ручнікоў, прадставіўшы прасторавую мадэль традыцыі як шэраг канцэнтрычных кол, у якіх нараджаецца, вандруе, жыве ды памірае тканіна (гл.: Нечаева. 2000. С. 61—67).

Пры выкладанні даследаванага намі мы не заўсёды мелі магчымасць быць акадэмічна дакладнымі. ‘Верагоднасны сусвет’ і недаследаванасць праблем, нашыя ўласныя недахопы ствараюць адну групу аб’ектыўных прычын недасканаласці. Другая ж група — ‘звышнагрузка’ кнігі ды імкненне палегчыць чытачу ўспрыманне незнаёмага яму, вельмі аб’ёмнага матэрыялу. Часам здавалася, што толькі ўласцівы традыцыйнаму мысленню вобразны характар перадачы інфармацыі здатны ўтрымліваць энергію аповеду.

У любым выпадку, той багаты фактычны матэрыял, які ўдалося сабраць, стаў галоўным вынікам нашай ‘методыкі’.

# 6. СЕМАНТЫЧНЫЯ ЭЦЮДЫ. НАЗІРАННІ ЗА АСОБНЫМІ АРНАМЕНТАЛЬНЫМІ ЭЛЕМЕНТАМІ

## 6.1. Узор “сонца” ў дубраўскай традыцыі. Эцюд-рэканструкцыя форматворчасці

Арнаментальныя адзінкі маюць некалькі ўзроўняў па магчымасці падзелу іх на элементы. Аналіз тут — адваротны працэс формаўтварэння, падобны да таго, як, ‘разбіраючы’ адзінкі мовы, мы бачым, што марфемы складаюць слова, тое ўваходзіць у словазлучэнне і далей — у сказ...

Даследуем адзін прыклад — узор “сонца” (**фота 375а**). Гэта маналітны арнаментальны элемент цэнтра альбо “прыстаўкі” кампазіцыі тыпу Д.ІІ.4 (маналітная кампазіцыя цэнтра + сіметрычныя “прыстаўкі”). Але параўнаем яго з другімі ў дубраўскіх ручніках ды з падобнымі фігурамі сумежных традыцый. Мы пабачым, што складаны ўзор “сонца” належыць да групы ‘Кола’. (**фота 256, 375б, 397**; “абводжаных”, Негл., “у абводцы”, Дубр., “у кацелках”, Негл.).

Яго ўнутраная фігура — тыпу “зорка” (у многіх традыцыях), якая ўтрымлівае ў сабе элемент тыпу “калодзезь” (Негл.) альбо “абразок”, “вакенца” (Негл.) са змешчанаю ў сярэдзіне фігураю тыпу “жабка” (Негл.) ці “жучок” (Дубр.; **фота 267, 373, 376, 398**). Па баках жа ўсяго ‘кола’ дадаткова ткуцца пары крыжыкаў (гл. фота 18), вельмі актуальныя для дубраўскай традыцыі (і прысутныя ў большасці іншых), крыжыкі, што завуцца “хрэшчыкамі”, “вераб’ямі” (Негл.). У балсунскай, неглюбскай ды суседніх з імі традыцыях менавіта пары крыжыкаў у падвойных ромбах завуцца “калёссе” (**фота 185, 214, 264**). Але ў самой дубраўскай традыцыі разгледжаная намі складаная фігура выступае пад адной назваю — “сонца”.



Мал. 25. Узор “сонца” тут — гэта два колы... Вёска Дубраўка, 1999 г.

Змешчаная ў цэнтры, яна процістаіць узорам сваіх "прыставак" (тут тыпу "мядзведзь"; Негл.). Як "зорка" ўваходзіць у шэраг 'зорных' элементаў цэнтра, у Дубраўцы гэта ўзоры з назвамі "сонца" (**фота 371, 372**; параўнай неглюбскі **265**), "любістак" (фота **369**), "баба // бабачка" (гл. фота 370), "крэст" (№№ КП 1036/3), "арлы" (№№ КП 1036/3).

Калі "сонца" займае пазіцыю "прыстаўкі", яно ў самой кампазіцыі супрацьлеглае ўзору цэнтра, напрыклад вялізнаму квітнеючаму крыжу з назваю "хрэст" (Дубр.; Гл. фота 373) і ўваходзіць у шэраг "прыставачных" 'зорных' узораў: "бабачкі" (Дубр.; **фота 378**), "васьмірогі" (Негл.; **фота 167**), "лебядзі" (К-Балс.; **фота 183**), "кап'ё" (Негл., К-Балс. ды інш.; **фота 261**), "зоркі" (Негл.). Пазіцыйна 'сінанімічныя' яму таксама прыцэнтравыя ўзоры з рэканструяванаю намі салярнаю семантыкай — прамяністыя ромбы-колы: "кацелкі" (Негл. ды інш.), "макоўкі" **(фота 337)**, макаўкі" (Негл., Нясв., Ст. Бабовічы), "кацельчыкі" (Дубр.; **фота 413**), "расколатыя хрясты", "кучарявыя хрясты" (Негл.), "куксы" (Ялоўка), "хрясты" (Дубр.).

У Чачэрскім раёне з яго старым браным чынам такога арнаментальнага элемента не ведаюць. Аднак у абрадавай дзейнасці ўтваралі падобнае кола *на канцы* поля, дзе слалі лён — са льняных сцяблінак: "Ета як лён пасьцеліш, тады сьцеліш сонца, штоб было... Галоўкамі ўсяродак, кружок такі... Старыя нас вучылі: "Сьцяліця лён і дзелайця сонца, штоб не падымаў вецер..." А вот на етым сонцы адной накалдавалі..." [14]. А таксама, зрабіўшы "сонца", прыгаварывалі: "Ляжы, лён, улягайся да ў сонейка ўглядайся!" [15]. Выраб рытуальнага аб'екту, які па форме супадае з арнаментальным знакам, пры супадзенні назвы і захаванні жывой магічнай функцыі, здаецца надзвычай важным і ва ўзнаўленні семантыкі падобных знакаў.

Зноў вернемся да "сонца" (Дубр.) у кампазіцыі цэнтра. Мы таксама знойдзем аналагі. Падобнае 'кола' ў медзведскай (і не толькі) традыцыі нясе ў сабе выяву жаночай фігуры і пазначаецца чатырма такімі ж, як і ў дубраўскай, "кацельчыкамі" (фота **431**). Само 'кола' як цэнтравы ўзор уваходзіць у групу арнаментаў, якія яднаюць не толькі "абводжаныя" фігуры, але й іншыя 'абгароджаныя', кшталту "пагонаў" (Негл.; **фота 257**), "воза, калёсаў" (Ялоўка), "белых чаўнакоў" (К-Балс.; гл. фота 183, 185), "калясачак" (Нясв.), "залатога кружжа" (К-Балс.; **фота 182**). Сэнс рэканструкцыі семантыкі падобных узораў прыводзіць да ўсведамлення таго, што яны паходзяць ад піктаграмаў салярнага транспарту (Нячаева. 1998. С. 69). Такі самы сэнс аднаўляецца і для параў крыжыкаў, што вядома са старажытнагерманскай ды праславянскай традыцый, прасочваецца па старажытнарускіх ды сучасных карпацкіх матэрыялах, а таксама сістэмна рэалізуецца як элемент розных кампазіцый у традыцыях беларускага народнага строю і ручніка **(фота 97, 110, 188, 197, 237, 366, 395, 402, 410, 416, 417)**.

## 6.2. Экскурс "Пра пару крыжоў"

"Парус ладьи на надгробном камне из Спарлёза (Швеция) украшен двумя крестами — солярными знаками" (Петрухин. 1980. С. 82).

"Два четырехспичных колеса как возможный признак колесницы встречаются в орнаменте зарубинецкого горшка из с. Велемичи" (Поболь. 1973. С. 37).

“Удвоенное солнце находят в мотивах древнерусского плетеного орнамента” (Рыбаков. 1988. С. 698, 701).

У гуцульскім арнаменце: “По бокам таких перстней помещено по паре ромбов со вписанными в них солярными крестами. Порой эти солярные знаки соединены в одну фигуру” (Жолтовский. 1964. С. 7).

Падобны ўзор (пару колаў) мы сустракаем на экзэмплярах позняй мясцовай керамікі XVII—XVIII стагоддзяў (гл. мал. 100, *1, 4*).

Складаная прамяністая зорка ў Дубраўцы выступае ў якасці цэнтра сонца-кола. Гэта “васьмірог” (Негл., К-Балс. ды інш.), які нібыта ‘выглядае’ з-за прамакутніка ці сам стварае яго часткаю паяднаных “рагоў”. Ці не пра яго тэрмін “звязда булкамі” (Дубр.)? Такім чынам, у ім 16 або, па іншым разуменні формы, 4+8=12 канцоў.

Васьміканцовая зорка — дэкаратыўны, шырока ўжываны элемент, які ‘вырадзіўся’ семантычна. Але ў дадзеным выпадку, здаецца, гэта злучэнне (зорка-кветка + сонечнае кола) адпавядае паўночнарускім аналагам, пра якія даследчык піша: “На основе представлений о солнце как источнике жизни всего сущего в народном искусстве возник прием соединения в одном орнаментальном мотиве изображения солнца и цветка” (Вишневская. 1974. С. 30). Гэта арнаментальная “думка” робіцца яшчэ больш выразнаю, таму што па цэнтру зоркі-кветкі ёсць “калодзезь” (Негл.) з выяваю аднаго з сімвалаў радзінных і, наогул, урадлівасці — знак тыпу “жабка” (Негл.; гл. фота 373, 376).

Да таго ж, прачытаная ў іншым, раслінным кодзе, падобная складаная зорка ў Дубраўцы завецца “любістак”. “Трава эта іспользуецца і па сей дзень... Дзеўкі стараліся ткаць любісцікам. Што вот сама здзелала... можэт быць, сама і пріваражу” [16]. Менавіта раслінны код застаецца найбольш жывым у дубраўскай традыцыі, паступова ўсе зоркі, а разам і іншыя элементы пачынаюць звацца “любісцікам”, забываюцца розныя назвы для асобных формаў. І ўсё ж узор “сонца”, нават калі ён і быў названы па амаль выпадковай асацыяцыі сучасных носьбітаў традыцыі, паказвае, што асацыяцыі гэтыя глыбока архетыпічныя і грунтуюцца на складаных і жывых законах традыцыйнага мыслення.

Прыведзены як прыклад вельмі беглы аналіз аднаго арнаментальнага элемента дае ўяўленне пра складанасці працэсаў формаўтварэння адзінак кампазіцыі ды будаваную на мностве сувязей абумоўленасць такіх адзінак шэрагам кантэкстаў — гістарычных і этнаграфічных.

## 6.3. Казацкія Балсуны. Традыцыя “нябесных дарог”

### Узнаўленне апазіцыі ‘зямны’-‘незямны’ ў арнаментальнай кампазіцыі ручніка

Для казацка-балсунскай традыцыі гэты працэс найбольш цікава разгледзець на прыкладзе белафонавых палосаў арнаменту (гл.: Нячаева. 2001а. С. 78—80). Яны з’яўляюцца дэкаратыўнымі межамі ў развіцці самой кампазіцыі, займаючы ў ёй найчасцей дзве невыпадковыя пазіцыі. Гэта крайняя альбо перадапошняя паласа (у Неглюбцы — толькі апошняя) і прыцэнтра-

вая. Калісьці мы пачалі даследаванне неглюбскіх ды казацка-балсунскіх ручнікоў менавіта з пытання: "А ці толькі дэкаратыўны сэнс маюць белыя 'прарывы' чырвонага чыну астатніх узораў?" Параўналі ўзоры белафонавых палос з узорамі вышываных навылётнымі (скразнымі) тэхнікамі 'простовак', якія таксама ўжываюцца на ручніках у адпаведных месцах, і ўвогуле з усім вышываным перавіццю фондам рэчаў — ручнікамі, накутнікамі, падзорамі прасцінаў. Шыццё перавіццю па празрыстай прарэжанай тканіне наогул уводзіць святло і паветра ў склад тэхнічных прыёмаў стварэння арнаменту. Аказалася, што і вобразны строй матываў гэтай 'паветранай' тэхнікі звязаны з незямнымі сюжэтамі: архаічны 'незямны' альбо новы 'дваранскі' (таксама 'іншаземны') пласты ўзнаўляюцца і для паўночнарускіх арнаментаў перавіці.

Параўнанне з імі ўзораў, тканых па белым фоне, прывяло да ўсведамлення 'паветранай' альбо 'незямной' скіраванасці асобнага фонду знакаў, тканых "па белым" (К-Балс.; гл. фота 403; **фота 71, 86, 220, 228, 275, 328, 436**).

Аналіз корпусу арнаментаў адзення паказаў, што аналагічныя ўзоры выкарыстоўваюцца на галаўных "платках", на белай частцы рукавоў ды на зарукаўі рубах (дарэчы, у той самай балсунскай традыцыі). У дэкаратыўным выніку адбілася старажытнае разуменне строю як 'Сусвету', з выразнаю розніцай арнаментальных элементаў, што выкарыстоўваліся ў 'зямных', 'паветраных', 'нябесных' ды 'хтанічных' ярусах мікракосму касцюма (гл. фота 401; **фота 300, 340**).

Былі знойдзены аналагі 'нябесным' знакам у традыцыях ручнікоў, якія мелі іншую кампазіцыю. Так, дубраўскія "кацельчыкі" (Дубр.; гл. фота 370, 413; **фота 380, 399, 400а**) ды іх ж узоры тыпу "крывулі" (Негл.; гл. фота 397; **фота 400б, 400в**) займалі тыя самыя прыцэнтравыя ды краявыя пазіцыі і проціпастаўляліся земляробчым сімвалам цэнтру кампазіцыі, хоць фон дубраўскага ручніка ўвогуле белы. Краснагорскія медзведскія ручнікі (з цалкам белым фонам) мелі выявы тыпу "кацелак" (**фота 208**), "зорак", якія размяшчалі не ў палосах, а нібыта ў паветры, вакол галоўнай цэнтральнай фігуры.

На саміх балсунскіх ручніках некаторыя са знакаў белых фонаў памяшчаліся на белым полі паміж узорнымі канцамі і таксама без групоўкі ў палосы, 'у паветры'.

Гарызантальныя белафонавыя "крывулі" (чырвоныя рознага віду) — адзін з улюбёных узораў па ўсім рэгіёне. З гэтаю назваю ён зафіксаваны ў Казацкіх Балсунах, Неглюбцы, Янове, Верашчаках, Нясвоеўцы, Старых Бабовічах, Верхлічах, Увеллі, Ялоўцы; дадамо і матэрыялы з Оўруцкага раёна ва Украінскім Палессі (гл.: Булгакова. 1999. С. 330—331). У вертыкальным варыянце зігзаг альбо "крывуля" (мясцовых назваў не запісана) сустракаецца ў суседняй медзведскай традыцыі. У яе ручніках чырвоныя хвалі аб'ядноўваюць верхні ярус кампазіцыі з ніжнім, абсалютна супадаючы з архаічнымі выявамі дажджу, аналагічныя знакі якога ўзыходзяць да эпохі бронзы.

Канкрэтны аналіз гэтых ды іншых формаў белафонавых арнаментаў прывёў да знаходкі іх прататыпаў у археалагічным да этнаграфічным матэрыяле. Аналіз варыянтаў назваў дазваляе лічыць іх невыпадковым, да таго ж,

прыцэнтравае “калёссе” (Негл., К-Балс., іншыя) і краявыя “чаўны” напрамкі ўзыходзяць да архаічных тэмаў сонечнага транспарту — верхняга й ніжняга (адпаведную назву “човни” маюць падобныя ўзоры на ручніках Украінскага Палесся).

У іншых выпадках назва замацоўвала некаторыя архаічныя прыкметы сімвалу (**фота 179**). Так, “кап'ё” (гл. фота 262), “васьміpог”, “васьмірога”, “рагатая”, “чатырохрогая”, “зорка”, “паўзор'е”, “звязда”, “сонца”, “сонцы”, “лебедзі” (гл. фота 183, назвы розных мясцовых традыцый) — усе належаць да вызначэння васьміканцовай зоркі і яе варыянтаў (гл. фота 267, “лісьце”; 214, 372, “звёзды”; 167, 175, 178, 182, 204, 257, 320, 369, 378, 395). Назіранні за выкарыстаннем гэтага арнаментальнага элементу ў шэрагу беларускіх, балцкіх, рускіх ды ўкраінскіх рэчаў і вобраза зоркі ў абрадавай практыцы дазваляюць думаць, што далейшыя доследы дадуць станоўчы вынік у разуменні мнагазначнага сімвалу ў ‘мясцовым’ кантэксце. ‘Абарончы’, ‘урадлівы’ й ‘нябесны’ складнікі яго семантыкі, здаецца, адпавядаюць тром функцыям боствау (ваеннай, гаспадарчай ды магічна-сакральнай, па Ж. Дзюмезілю). У кампазіцыях жа арнаменту гэтаму адпавядаюць і асобныя пазіцыі: 1) уздоўж краю, шва, на ўваходах; 2) у цэнтры, у дыяганальных сетках і на чырвоным фоне; 3) на асобных белафонавых прыцэнтравых палосах, якія суадносяцца з незямнымі ярусамі Сусвету.

У рэканструкцыі семантыкі арнаментальнага элемента важна вылучыць актуальнае для сучаснага (ці нядаўняга) носьбіта мясцовай традыцыі. Прамяністыя ромбы з гарызантальна ідучымі промнямі маюць назвы “кацелкі” (Негл.), “кацельчыкі” (Дубр.), “макоўкі” (гл. фота 337), “макаўкі” (Негл., Нясв., Ст. Бабовічы). З гэтаю ж назваю (“макоўка”) украінскія палескія ручнікі маюць выяву *пары колаў* са складанаю распрацоўкаю ўнутраных ромбаў тыпу нашых “маковак”. Каляровая распрацоўка выдзяляе ў іх матыў касых “мотилів” — матылькоў (гл.: Булгакова. 1999. С. 330—331). Апошняе пераводзіць розныя вырашэнні ў тэму ‘нябесных’ імпульсаў арнаментацыі. Такія ж фігуры завуцца і “расцярэбы” (Ст. Бабовічы), “куксы” (Ялоўка; **фота 307**), “хрясты кучарявыя”, “хрясты расколатыя” (Негл.; **фота 255**). Усе назвы існуюць для аднаго знака — прамяністага ромба-кола (часта са ‘светлавым’ крыжом у ім; **фота 314**). У сістэме белафонавых узораў (на аснове вопыта папярэдніх назіранняў) сэнс элемента магчыма ўзнавіць як ‘салярны сімвал’. Што захоўваюць назвы? Круглую форму і пэўную магічнасць, звязаную з макам (“макоўкі”), ‘махнатасць’, сувязь з вобразамі воласа і галавы, магчыма, воўны (“куксы”, “хрясты кучарявыя”); тэму сакральнага (“хрясты”); здольнасць ‘каціцца’ (“кацелкі”, “кацельчыкі”). На образ кола-сонца і ролю кола ў народных абрадах звярталі ўвагу даследчыкі даўно (гл.: Богданович. 1895. С. 115; Потебня. 1914. С. 166—167). Немагчыма прывесці ўсіх доследаў на згаданую тэму, але жывыя абрады з колам запісаны намі і сёння, напрыклад, пусканне саломы, запаленай на коле, па рацэ на Благавесце і г. д. Выяўленне абрадавых аб'ектаў, па форме супадаючых з арнаментальнымі элементамі, — адзін з пунктаў нашай методыкі.

Прамяністыя чырвоныя колы бываюць двух відаў: з белым крыжам усярэдзіне альбо без яго. Назва “расцярэбы” вызначае гэту рысу, суадносячы з іншымі элементамі тыпу “хрэст расколаты”, “расколка”. Лік гэтых колаў у

кампазіцыях розных традыцый найчасцей — *чатыры*, што мае міфапаэтычнае паходжанне ў вобразе возу, калёсаў сонечнай калясніцы (тэрміналагічна і знакава прадстаўленай у ручніках рэгіёна; **фота 304**). Дазволім сабе прывесці цытату яшчэ аднаго з вялікай колькасці даследаванняў салярных матываў: "Образы солнца нашли отражение и в бронзовых пряжках-чепрагах. Они отлиты... состоят композиционно из переплетенных между собой *четырех* прорезных кругов, а иногда и двух "колес", где спицами служат слегка изогнутые "лучи". Перед нами, без сомнения, изображение солнца, совершающего свой вечный путь по небу в колеснице. Солярный "глазковый" узор, широко встречающийся в изделиях Поднепровья с I по X век, еще лишний раз говорит об этом" (Василенко 1974. С. 175). Сярод першых археалагічных публікацый, спецыяльна прысвечаных цікаваму для нас пытанню, — артыкул В. П. Даркевіча "Символы небесных светил в орнаменте Древней Руси" (Даркевич. 1960. С. 60).

На другім месцы па частотнасці — лік *тры* (паўтор аднаго знака ў паласе тройчы). Празрысты сэнс трох сонцаў не раз рабіўся прадметам аналізу даследчыкаў (**фота 213**).

Такім чынам, белафонавы арнаментальны элемент уяўляецца як загадка, адгадаць якую можна на скрыжаванні дзесяткаў ліній бінарных апазіцый, ад дэкаратыўных прынцыпаў да семантычных пар тыпу "свой-чужы", "зямля-неба".

Усе ўзоры белафонавых палос у суме вобразаў датычаць вядомай балтаславянскай міфалагемы "нябеснага вяселля", што яднае сонца, месяц, зорку і навальнічнае боства. Тэма гэта вартая доследу. Магчымасць захавання архаічнага тыпу кампазіцыі арнамента часцей за ўсё грунтуецца на абрадавым утрыманні і перакладзе міфалагічных уяўленняў. Менавіта як вясельны, шлюбны сімвал ручнік мог захоўваць свой 'тэкст' у апявальным кантэксце духоўнай традыцыі:

Ой, сцякалася... да й дзве рэчанькі...
Ой, зыйшлося два пасажанькі...
Першы пасаг — ясны месяц...
Другі пасаг — ясна сонца:..

*(Беларускія абрадныя песні. 1985. С. 57, № 62).*

Яшчэ больш канкрэтнае супадзенне вобразаў у ручніку і ў замове. Абодва нясуць у сабе архаічную прастору старажытнай ахоўнай магіі. Такая замова XVII ст.: "Огражаеся сол[н]цем и светлими звездами и всем небесным осеянием..." (Сазонова, Топорков. 2000. С. 37). Такія самыя замовы і ў сучасным запісе мясцовага матэрыялу (гл. главу "Ручнік і замова").

### Сэнс дарогі ў паласе арнаменту

Паступова прасвятляецца сэнс дарогі ў асобнай паласе арнаменту (у параўнанні з агульным вобразам ручніка — шляха, маста праз усе перашкоды, касмалагічнага медыятара розных ярусаў Сусвету, у тым ліку — свету жывых і мёртвых).



Мал. 26. Абрадавы комплекс "ікона-свяча" ў в. Заляддзе (Веткаўскі раён)

Казацка-балсунская традыцыя часта асэнсоўвае паласу ўзора як дарогу, сцежку ("дарога" — у шасці назвах узораў, "сцежка" — двойчы, раз — "пуці", двойчы — "лапкі", суаднесеныя са следам). Дадаўшы "калёссе", "чаўны" як транспартныя сродкі, мы атрымліваем сему "дарога" як устойлівы прасторавы сімвал балсунскай "мадэлі свету". Калісьці мы ўспрынялі сэнс белафонавых палос як магчымых 'незямных' межаў, граніц, дарог. Прыняўшы гэты сэнс за гіпотэзу, мы не мелі яшчэ 'дарожных' тэрмінаў-назваў, акрамя "жалезнай дарогі". Удалыя пошукі ў гэтым напрамку н. с. Смірновай І. Ю. (першае апісанне традыцыі — гл.: Смірнова. 2001. С. 75—78), пасля даследаванні іншых супрацоўнікаў дапоўнілі спіс 'дарог': "божая (богава) дарога (дарожка)" **(фота 180, 368)**, "галубіная дарожка", "дарожка", "жалезная дарога" ("жалезныя пуці"; **фота 187, 309**), "лебедзі" (гл. фота 183), "лебядзіная дарога" **(фота 186)**, "царская дарожка", "цёмная сцежка", "свіная сцежка", "лебядзіная сцежка", "лебядзіная лапка", "кашэча лапка". Прычым "богава", "галубіная", "жалезная", "лебядзіная", "царская" — назвы менавіта белафонавых 'дарог' з нябеснымі і 'незямнымі' знакамі **(фота 177)**.

Сённяшнія носьбіты традыцыі не надта адрозніваюць гэтыя назвы, даючы ўзаемныя варыянты. Але агульная скіраванасць старых тэрмінаў прымяркоўвае белыя 'дарогі' да асобаў ды стварэнняў сакральных, вышэйшых. "Жалезная дарога" сама па сабе магла б утварыцца і як новы тэрмін, па асацыяцыі з рэйкамі й коламі чыгуначнага транспарту (для Балсуноў было дзівам, калі хтосьці з іх і пакідаў вёску на мяжы XIX—XX стст.). Але ў комплексе назваў, у апазіцыі 'белых' і 'цёмных' дарог-сцежак, "жалезныя пуці" ўзнаўляюць іншы вобраз, блізкі да замоўнага: "Жалезным небам накрыюся..." (**фота 212**).

Цёмныя ж палосы з белым арнаментам у пэўных пазіцыях, далёкіх ад цэнтра, маюць некалькі назваў, звязаных са хтанічнымі істотамі: "рачыкі" (гл. фота 185, 3-я паласа), "вароняе вока" (**фота 176, 211**). Тая ж "лебядзіная лапка" (**фота 181**) на ўскрайку ручніковага 'свету' падаецца невыпадковаю. Супастаўленне з назвамі ды месцамі ўзораў у суседніх традыцыях падаўжае рад: "павукі" (Перавессе; **фота 252**), "чаряпашкі" (Ялоўка; **фота 311**). Неглюбка менавіта на ўскрайку ставіць сваіх "вядзьмедзяў" (**фота 238**).

Трэцяя (акрамя павязаных паміж сабою 'нябеснай' і 'дарожнай') тэма белафонавых палосаў здаецца цалкам запазычанаю ў суседніх 'выяўленчых' традыцыях ткацтва. То самыя розныя "самавары" (гл. фота 187), "светачы" (гл. фота 179), "цэркаўкі" (гл. фота 400в), "салдацікі" (гл. фота 187), "старцы". Аднак параўнанне таго, дзе і як змяшчаюцца фігуркі, падобныя да трысвечнікаў, антрапаморфныя па паходжанню выявы, 'пабудовы' з крыжамі на іх, стварае ўражанне таго, што яны замацаваныя за пазіцыямі 'ўхвалення', 'абароны', 'рытуальнага перадстаяння". Гэтаксама і ў суседніх традыцыях.

## "Салдацікі" ды іншая варта. Казацкія Балсуны — Дубраўка

Разгледзім толькі адзін белафонавы матыў, назву якога мы атрымалі нядаўна адразу ў дзвюх традыцыях, — "салдацікі" (К-Балс., Дубр.). У Казацкіх Балсунах "салдацікамі" называюцца розныя ўзоры:

1. Узор цэнтра. Варыянты: "салдацікі" // "паўвасьмірогі" // "чамаданы" (гл. фота 180, 181). Складаная фігура, якая можа ўтрымліваць антрапаморфныя элементы — крыж у пазіцыі 'галавы', ромб у прамакутніку як тулава, 'жэст' узнятых 'рук' (усё гэта геаметрызаванае і стварае геаметрычную фігуру 'на 4 бакі').

2. Узор першай прыцэнтравай паласы. Варыянты: "салдацікі" // "цэркаўкі" // "жалезная дарога", тып — "калёссе". "Калёссе" — паміж парамі ромбаў (што і завуцца "калёсамі") чырвоныя "стаўпцы" (К-Балс.), якія часам успрымаюцца як галоўныя, нават чалавекападобныя. З імі, як бачна, звязана і назва "салдацікі". Наогул, антрапаморфнасць 'стаячых' фігур арнаменту часткова асэнсоўваецца і сёння. Так, "у нас жа няма "чалавекам" — пра адсутнасць менавіта пераборных ручнікоў з выяўленчымі матывамі ў вёсцы з бранаю тэхнікай ткання (ад Зубаравай К. Д., 1917 г. н., в. Церахоўка, 17.07.98 г. зап. Чыжова І. Ю. — ЭМ ВМНТ, сш. 76, с. 4). "Самавары" (К-Балс.) ацэньваюцца "як лялькі" (Дубр.) ці як "дубкі" (в. Медзведзі).

3. Белафонавы ўзор другой, трэцяй ці чацвёртай паласы (пры ліку ад цэнтра: Ц 1, 1, 2...). Гэта чырвоныя касыя крыжы з прамым крыжыкам у пазіцыі 'галавы' (гл. фота 187) (зверху і знізу) і "глухія" ромбы паміж імі. Варыянты назваў: "салдацікі" // "хрэст з елачкай" // "старцы" (К-Балс.). Апошняя назва вядома і ў Неглюбцы — для ўзору на рукавах кашуль і для абрадавых персанажаў "Стрялы" (ад групы жанчын у Неглюбцы 21.3.1985 г. зап. Нячаева Г. Г. — ЭМ ВМНТ, сш. 14, л. 1).

Знаходка назвы "салдацікі" для блізкага па форме ўзору дубраўскай традыцыі ды ўкраінскія аналагі таксама з атрапаморфнаю назваю "козак" (гл.:

Булгакова. 2000. С. 28) дазволілі паглыбіць семантычнае асэнсаванне гэтага арнаменту. У Дубраўцы "салдацікі" значна больш антрапаморфныя ў параўнанні з рэдукаваным балсунскім узорам **(фота 377, 388)**.

Яны выступаюць найчасцей у "прыстаўках" вакол цэнтру і маюць пазіцыйныя сінонімы (г. зн. іншыя фігуры, але на тых жа месцах): "кацельчыкі", "зоркі"-"сонца", "арлы", "бабачкі", узоры кшталту трысвечнікаў або дрэўцаў (Дубр.; гл. фота 407). Такім чынам, прыцэнтравая паласа займаецца ўзорамі, блізкімі да ўзораў у той самай пазіцыі балсунскай ці неглюбскай традыцый. Таксама 'нябесная' сема дапаўняецца 'ахоўнаю', 'абарончай'. У параўнанні з 'зямной', 'ахвярнай', 'рытуальнага аб'екту' — тэмамі цэнтра — гэты сэнс вылучаецца яшчэ больш выразна (гл. фота 414).

'Мужчынскі' і 'абарончы' сэнс знака выяўляецца і ў тым, што паміж фігуркамі "салдацікаў", пад аховаю іх узнятых дагары 'рук' змешчаны чырвоныя ромбы (К-Балс.) альбо ступенчатыя ромбы (Дубр.) — сімвалы зямлі ў яе закрытым стане альбо наогул жаночага пачатку. У найбольшай абагульненасці падобны ўзор прысутнічае ў браным чыне ручнікоў. Гэта ланцуг касых крыжоў-"казлоў" (паўсямесна) і ромбаў-"глуховак" (Негл. ды інш.; **фота 299, 404**). 'Абарончы' сэнс тут адзіны з 'апладняльным', а ў самым звыклым і празрыстым сэнсе касыя крыжы — знакі мяжы, граніцы, што добра апісана даследчыкамі (гл. фота 185). 'Мужная' сімволіка касога крыжа ўзнаўляецца археолагамі да эпохі бронзы, што часава адпавядае і 'жаночаму' прачытанню ромба (Шилов. 1995. С. 442. Спіс літаратуры гл.: Голан 1992; гл. фота 403).

**Мужчынскія ды жаночыя знакі ва ўзоры "салдацікі"**

Прасочым, ці ўдзельнічаюць старажытныя семантычныя імпульсы ва ўтварэнні дэкаратыўных спалучэнняў узораў на прыкладзе апазіцыі 'жаночы'-'мужчынскі'. Разглядаючы арнамент тыпу "салдацікі", мы бачым, што ў Дубраўцы, дзе гэта тэма больш пашыраная, узнікаюць два варыянты кампазіцыі. У першай ёсць магчымасць чытаць чаргаванне фігурак як мужчынскія-жаночыя. У другой — "глухія" ромбы стаяць паміж рамбічнымі ж фігуркамі з узнятымі 'рукамі'. І тыя, і другія злітыя паміж сабою ў гарызантальны ланцуг (гл. фота 410). У такім выкананні антрапаморфныя выявы аказваюцца ў пазіцыі, падобнай да чаргавання "глухіх" ромбаў з гарадчастымі ромбамі, у якіх даследчыкамі ўзнаўляецца даўні сэнс: 'раслінная сіла зямлі'. Апошняе чаргаванне надзвычай характэрна для геаметрычнага чыну браных ручнікоў і ў пераборных ручніках, магчыма, мае 'бранае' паходжанне **(фота 10)**. У гэтай кампазіцыі абодва сімвалы выступаюць як жаночыя. Антрапаморфныя (хутчэй, жывёлападобныя) фігуркі маюць тут генетычную сувязь з даследаваным сімвалам 'ражаніцы'. Могуць яны чытацца і як "жабкі", вядомыя той самаю семантыкай урадлівасці. Да мноства доследаў вобразу і сімвалу "жабкі" патрэбна было б дадаць і той факт, што вобраз захаваўся ў нашых месцах і танцам "Жабка", на магчымае абрадавае паходжанне якога звяртае ўвагу даследчык (гл.: Козенка. 2001. С. 613). Тое, што танец выконвалі пераважна летам, магло б сведчыць на карысць абрадавай повязі яго з выклікannем дажджу альбо з аграрнымі каляндарнымі рытуа-

ламі. 'Перадцэнтравае' размяшчэнне таксама магло б нешта высветліць у каляндарнай прымеркаванасці — як ўзору, гэтак і танцу.

На адной з тканін палоска 'жабак' стаіць каля асобнай кампазіцыі з трыма амаль натуральнымі выявамі 'воінаў'. Паміж іх фігуркамі — падвойныя крыжы (гл. фота 410; вышэй мы разглядалі семантыку гэтага элемента як сонечнага) і, дадаткова, тыя знакі, якія мы завем 'катушкамі', бо не маем традыцыйнай назвы. На жаль, агульная кампазіцыя гэтага ручніка нам невядома, у калекцыі — толькі яго кавалак. Аднак проціпастаўленне рознага сэнсу двух палосаў відавочнае. 'Жаночая' і 'зямная' тэма ўрадлівасці суадносіцца або дапаўняецца 'мужчынскай', 'нябеснай', 'ахоўнаю' тэмаю. Нябесныя воіны (дзеці чытаюць іх як 'тры багатыры') стаяць на варце зямной урадлівасці. Сумарны сэнс дазваляе лічыць паяднанне палосаў невыпадковым, а семантыку — не толькі рэканструяванай, але і дзеючай у час стварэння кампазіцыі.

### Жаночае-мужчынскае.
### Ад ромбаў і крыжоў да двух тыпаў 'дрэваў'

Назіранне за чаргаваннямі геаметрычных або геаметрызаваных антрапаморфных выяў у ручніках суседніх традыцый дае падставу лічыць, што фігуры падзяляюцца на жаночыя і мужчынскія. Часам самі 'стаячыя' фігуркі называюцца "дубкі" (Медзведзі, Забор'е; **фота 205**). Найбольш выразна пераклад антрапаморфнай тэмы мясцовага арнаменту на мову расліннага ў гэтай 'серыі' выяў дае тая ж Дубраўка (раслінная і па сваёй назве). Адзін з відаў палос-"прыставак" дае чаргаванне двух відаў геаметрызаваных дрэваў — двухвяршынных і тыпу праpослай стралы (матыў вядомы і ў вышыўцы; **фота 408;** гл. таксама: Лабачэўская. 2002. Іл. 121). Двухвяршыннае дрэва мае сувязь з жаночым сімвалам нараджэння, гэтак званымі 'ражаніцамі' (найбольш выразна прасочваюцца прамежкавыя варыянты на матэрыяле паўночнарускай вышыўкі; гл.: Изобразительные мотивы в русской народной вышивке. 1990. Іл. 39, 51,122). Але нашыя прыснянскія "дубы" бываюць адпаведныя па архетыпічнасці. Страла прарослая альбо квітнеючае жазло — не менш старажытны сімвал, які жыве стагоддзі (гл. фота 407; **фота 217, 409**).

Два тыпы дрэваў — жаночае і мужчынскае — прыцягваюць увагу даследчыкаў. У мясцовых матэрыялах мы знаходзім ужыванне двух раслінных рытуальных атрыбутаў, якія "тыркаюць" у зямлю пры "пахаванні Стралы" (Юркавічы). Там у час абраду ствараюць, упрыгожваюць зялянінаю, выкарыстоўваюць "галюку" з падвойным верхам ды крыжападобны "хрэн" (**фота 406**).

Аднак пры аднаўленні семантычных сувязей паміж гістарычнымі і сучаснымі прыкладамі ўжывання адных і тых элементаў сітуацыя непазбежна ўскладняецца. Так, адносна вядомага сімвала 'дрэва жыцця' не дастаткова мець толькі агульнакультурныя аналагі. Ці ёсць археалагічныя адпаведнасці, блізкія геаграфічна і генэтычна? Калі такія пакуль невядомыя, 'навацыі', хутчэй за ўсё, маюць не 'эндагеннае', а 'дыфузнае' паходжанне (гл.: Ванштейн. 1989. С. 79—89). Параўнайце: "Появление их в эстонском народном искусстве можно связывать только со средневековым искусством Европы:

таковы мотивы древа жизни, двойного креста (васьміканцовага — тыпу неглюбскага “павука” — *Г.Н.*), восьмиугольника (васьміканцовай зоркі тыпу нашых “васьмірогаў”) и розы. В христианской символике все они играли, наряду с крестом и кругом, весьма существенную роль, причём... имеют явно ориентальное происхождение. Прежний смысл этих мотивов, попавших в Европу главным образом через Византию, трансформировался в христианский...” (гл.: Вундер. 1989. С. 194).

І ўсё ж абрадавыя і фальклорныя адпаведнасці паказваюць на гучанне ў тых жа матывах дрэў (ды ў іншых) большай шматслойнасці сэнсаў. На захаванне ў іх і глыбіннай ‘эндагеннай’ семантыкі, на якой развіваліся і самі сярэдневяковыя сімвалы, што ‘дыфузна’ пранікалі ў народныя традыцыі. На гэтай шматслойнасці і актуалізаваліся сучасныя працэсы.

Адносна антрапаморфных фігур, а таксама геаметрызаваных арнаментаў са слядамі чалавека-, жывёла- і раслінападобнасці можна казаць, што дэкаратыўнае мысленне захоўвае логіку міфалагічнага праз этап рытуальнага асэнсавання месца персанажа або атрыбута, а пасля і пазіцыі арнаментальнага элемента (**фота 405**).

Пацверджаннем удзелу ‘эндагеннай’ семантыкі можа служыць і ‘пазіцыйная сінанімія’ (тут — тэрмін наш — *Г.Н.*) арнаментальных элементаў, што азначае іх магчымасць ужывацца ў адных і тых жа месцах кампазіцый. Ясна прасочваецца серыя ‘пераўтварэнняў’ пары элементаў ад ‘касога крыжа-ромба’ (матываў яўна архаічнага паходжання) да чалавечых фігурак і раслінных сімвалаў. Пэўныя заканамернасці іх ужывання замацоўваюць за імі месца, ‘антанімічныя’ ды ‘сінанімічныя’ рады як у сярэдзіне адной паласы, таксама паміж палосамі і ў ‘вольнай’ прасторы маналітных кампазіцый. Моўнае мысленне аказваецца глыбока звязаным з працэсамі формаўтварэння на архетыпічнай выснове (**фота 219**).

## 6.4. Арнаментальны элемент і абрад. “Вядзмедзь” на мяжы. Неглюбка

У агульным фондзе ‘першазнакаў’ асобны і непаўторны элемент Неглюбкі (ды яе кола) “вядзмедзь” (“мядзведзь”; гл. фота 230, 232, 237, 238; **фота 296**) — безумоўна архаічны знак. Ён бывае “бальшы” і “малы”, “глухі” і “зоркі”. Мае выцягнутае рамбічнае тулава з фігурнымі выступамі па кутах; майстрыхі бачаць у яго форме сапраўдныя прыкметы звера: “От тут лапачкі, а тут — бачыш, вушкі развесістыя” (у размове з Каўтуновай М. П., 1915—1988). Браны ўзор “вядзмедзь” належыць да непадзельных фігур, у апазіцыі ‘стыхійнае’/’культурнае’ (як ‘цэльнае’/’распрацаванае’) гэта прадстаўнік першай часткі (як і “глухоўкі”, “глухія лапы”, “лапы з веряб’ём”, “вялікія лапы”). Яго пазіцыя — краявая. У пераборных ручніках тут бываюць “крывулькі”, “чаўны”, “глухоўкі”, “каробачкі” — усе таксама непадзельныя, глухія, закрытыя. Знак займае мяжу белага/чырвонага, стыхійнага/культурнага, што абсалютна супадае з месцам вобраза мядзведзя ў прасторавай кампазіцыі абрадавых тэкстаў — ‘на мяжы’.

Фармальны аналіз, а за ім і рэканструкцыя семантыкі краявых знакаў у ручніку даюць суму семаў: “краявы”, “ніжні”, “водны”, “глухі”, “крывы”.



Мал. 27. Фрагмент неглюбскага ручніка з узорамі “крючча-лапа” і “вядзмедзі”

Відавочная ‘касалапасць’ выступаў гэтага ромба ставіць яго ў разрад знакаў з “кокатамі”, “круччам”. “Вядзмедзь” існуе па суседстве з “лапамі” (варыянты назваў на рубахах — “воўчая лапа”, “мядзвежая лапа”), дадатковая прыкмета якіх ‘махнатасць’, звязаная з прыналежнасцю да нечалавечага, а таксама багаццем (былічкі Неглюбкі распрацоўваюць усе пералічаныя семы ў адносінах да “таго, што на мяжы жыве”).

Семантыка вобраза “вядзмедзя” надзвычай распрацаваная (Гура. 1997. С. 159—177). Звернем увагу на архетыпічнасць успрымання фігуры арнаментальнага элемента. Кожны знак нібы памнажае на чатыры ўласную прыкмету, бо глядзіць ‘на ўсе чатыры стараны’. Магчымасць бачыць у васьміканцовым крыжы-разетцы сапраўдную “елку”, як і тлумачэнне прыкметаў “вядзмедзя” ў сіметрычным знаку — рыса старажытнага ўспрымання.

Тыпалагічна блізкая арнаменту “вядзмедзь” кецкая металічная пласціна, у якой “туловище с двух сторон заканчивается протомой медведя” (Алексеенко. 1981. С. 176, рис. 6б). Металічная аздоба, што мае дзве мядзвежыя галавы ў розныя бакі ‘на адной шыі’ — знаходка з кургана ў Волга-Клязьменскім міжрэччы (гл.: Каталог, археалагічныя матэрыялы. Табл. 6, мал. 4).

Аднак найбольш блізкая па часе і месцу да геаметрызаванага знака — фігура беларускага танца-жарта: “Медведя изображали двое мужчин, один из которых вставал на четвереньки, а второй садился ему на спину, лицом в противоположную сторону. Когда нижний поднимался, верхний, обхватив нижнего руками за талию, повисал на его спине вниз головой. Причём ноги висящего оказывались выше головы стоящего” (Чурко. 1990. С. 36). Такім чынам і ў танцы “туловище с двух сторон заканчивается протомой медведя”.

Назва, як і форма арнаментальнага элементу, аказваецца функцыяй адразу некалькіх семантычных апазіцый, якія дзейнічаюць у прасторы тра-

дыцыйнай культуры ды яе мадэлях — ад дэкаратыўнай кампазіцыі ручніка да структуры псіхалагічнага ўспрымання носьбіта традыцыі.

Ахоўная і абарончая, межавая функцыі мядзведзя, як і вобразы вяселля (свякруха — "мядзведзіца", жаніх — "мядзведзь", нарэшце, нявеста — "мядзведзіца") вядуць да ўжывання новага, вытворнага ад папярэдняга, узора "вядзмедзі". У ручніку (гл. фота 263) трэцяя паласа — "вядзмедзькі ў малым жалуддзі". Тыя самыя "вядзмедзькі" (палавінкі іх) стаяць вакол пары галоўных фігур Цэнтра. Абарона прасторы вяселля, але і "дарым вам медзі, каб дзеці былі як мядзведзі!" (гл. фота 265). Ручнік (гл. фота 269) прама ставіць у цэнтр узор "вядзмедзі ў жалуддзі" (гл. фота 249). Узор гэты паходзіць з рукаваў рубах, там ён сёння завецца "вяселле", "сабачае вяселле". Нягледзячы на жартоўны характар назвы, зазначым, што на рубахах "вядзмедзькі" месцяцца ў вялікай колькасці па ўсім рукаве, можа таму й нагадваючы "сабачае вяселле". Але, магчыма, у пошуках папярэдняй назвы трэба звярнуць увагу і на тое, як завецца аналагічны ўзор на ручніку, а таксама на тое, што ёсць паралельныя назвы для "лапы": "мядзвежая"/"воўчая". Па вёсках, у тым ліку ў Неглюбцы, памятаюць і пра "воўчую свадзьбу", у якую чараўнік ператварае вясельны поезд. Жартоўны альбо адмоўны, жудасны характар вобразных матываў можа быць перажываннем вельмі архаічных абрадавых з'яў.

У Верашчаках такога ўзорнага "вядзмедзя" завуць "хрэст". Не памятаюць і пра "жалуддзе", сёння гэта "сліўкі", "гурочкі". У Ялоўцы кажуць: "жэлуды з капейкай" ("капейкай" завецца ўсякі *непадзельны* элемент).

Яшчэ адзін від "мядзведзя" — "бальшы вядзмедзь"; ён найчасцей завецца "кулачча" (абедзве — Негл.). Ён дае "рэдзьку разрязную" ў Нясвоеўцы, "матавілы" ў Ялоўцы (гл. фота 313), "качан" у Дубраўцы. "Вядзмедзь" узнікае не толькі як асобны элемент, але і ў складзе новых вытворных знакаў. У ручніку са Свабоды "серядавыя" "вядзмедзі" вылучаюцца колерам, а "усяродку" прыцэнтравых фігур тыпу "кулачча" — зноў "вядзмедзька". Вельмі блізкі да "малой лапкі" (Негл.) новы "вядзмедзь" вызначаецца ўсё ж такі як асобны элемент, што мае ўласную назву ды месца ў кампазіцыі. Ён звязаны са старым, браным узорам. Таму звернем увагу на блізкія да яго элементы з іншых традыцый.

На ручніках з Малых Нямкоў ды Някрасава (гл. фота 27, 31) фігуры гэтага тыпу (не названыя) чаргуюцца ў шахматным парадку з адметнымі "васьмірогамі" (скрозь пакрытымі белымі 'светлянымі' крыжыкамі). 'Замкнутая' "расколка" (магчыма, знак зямлі ці жаночага стану) чаргуецца з зорнаю "васьмірогаю", у якой... дваццаць восем крыжыкаў. 'Адамкнутая' рамбічная фігура і матыў дарогі чаргуюцца са знакам "вядзмедзя". На гэтым ручніку — дзевяць поўных зорак (па 28 крыжыкаў). Цяжарнасць, утрыманне плоду? Вясельныя матывы?

На ручніку (гл. фота 372) з Краснай Буды ў цэнтры зноў-такі зорка ў коле, яна завецца "сонца". Па баках (зверху і ўнізе) — тыя фігуры, што ў Неглюбцы завуцца "вядзмедзі". Калі верыць, што рэшткі календара пакінулі спадчыну чыну ручнікоў, дык гэта вельмі лапідарная кампазіцыя. Альбо лета пасяродку, а вясна ды восень (час 'з бярлогу' і 'ў бярлог') — абапал. Альбо "едзе вясна на вядзмедзях"... Калі параўнаць ручнікі на фота 265 і 372, дык можна пабачыць, што адзін з "вядзмедзяў" — "глухі".

Адваротныя кампазіцыі — з Дубраўкі (гл. фота 398). Тут фігура тыпу "вядзмедзь" — па Цэнтры. А крыжы ў двух ромбах (тут бачаць салярную сімволіку) 'вязуць' гэтага "вядзмедзя" "на вазочку". Вядзмедзь, вясна, дзень Дабравесця — абрадава звязаныя. 'Вязуць' жа на іншым ручніку з Дубраўкі (гл. фота 373) самі колы-"сонцы" вобраз квітнеючага крыжа. Дрэва, што паміж імі, можа, і сімвал пэўнага вясновага свята тыпу "куста".

Нарэшце, нешта вялізнае з узораў тыпу "вядзмедзь" (завецца тут "хрэстам") і ў сярэдзіне старой тканіны з той жа Дубраўкі (гл. фота 366, 401). Навокал — знакі сонца ў двух варыянтах, знакі дажджу і квецені, нават вясновыя "вуткі" плывуць па верхніх водах — з выраю?

Нашыя 'фантастычныя' распрацоўкі вакол безумоўна дэкаратыўнага арнаментальнага элемента (якім паўстае і "вядзмедзь") маюць, аднак, і жорсткую логіку свайго строю, у якім паглыбляюцца ў прастору дзеяння сапраўдных законаў традыцыйнага. Супадзенне прыкмет-месцаў-часу-функцый, вылучаных для арнаментальнага элемента і 'элемента N' абраду (таго ж вяселля), — семантычны факт. Супадзенне народнай назвы арнаментальнага элемента з назваю-вобразам атрыбута альбо ўдзельніка абраду пераводзіць тэарэтычныя разважанні ў дзейсную прастору традыцыйнай культуры, дзе моўная адзнака выступае цэнтрам вобразнай крышталізацыі. Узаемнае ўзнаўленне структур, якія параўноўваюцца, адбываецца праз рэканструкцыю адсутных частак (своеасаблівых 'лакун' у параўнальных тэкстах). Гэтыя семантычныя 'прабелы' не супадаюць па месцы. Невядомае (страчанае) ў адным мае выраз у другім, і наадварот. Верагоднасць атрыманай мадэлі пры такім спосабе значна ўзвышаецца. Наш 'вольны' і нарысавы характар узнаўлення семантыкі стварэння і ўжывання ўзора "вядзмедзь" (як і іншых далей) абапіраецца менавіта на акрэслены вышэй спосаб семантычнага рэканструявання, усіх этапаў якога тут немагчыма прадставіць.

Архаічнасць семантычных адзнак, часткова захаваных як у падобных назвах, гэтак і ў форме ды пазіцыйных характарыстыках, магчыма, адгукаецца ў падобных адзнаках ды 'супадзеннях' ва ўспрыманні ўзораў далёка ад нас: "риб'ячі очі", "ракові очі", "жаб'ячі очі"... "медвежі лапі" (Сидорович. 1959. С. 86).

## 6.5. Чырвонафонавыя і белафонавыя ўзоры

Неглюбка мае ў старых ручніках як 'чырвоны' чын (узорны канец увесь — па чырвоным фоне; **фота 248**), так і 'бела-чырвоны' (чаргуюцца ч/ф і б/ф палосы ў адметнай паслядоўнасці; гл. фота 256; **фота 247, 258**). Узоры "па беламу" выконваюцца іншаю тэхнікай. Іх двухбаковы перабор суадносіцца з 'лускаватым' жа 'кралявецкім', аднак мае і непасрэднае 'пераняканне' ў закладныя аналагічныя ўзоры вышэй па Сожу ды Беседзі (гл. фота 184, 210; тэхналагічнае апісанне неглюбскай традыцыі). Уласная тэрміналогія захоўвае назву "заклад", "закладам ткана", "закладаны" для ўсіх відаў перабору. Цікава, што мы маем некалькі рэчаў, дзе ў белафонавай пазіцыі змяшчаюцца браныя традыцыйныя "крючча" вакол чырвонафонавага пераборнага цэнтра (гл. фота 238). Сапраўдны 'заклад' ацэньваецца як "старынны", таксама і бранае ткацтва. Хутчэй за ўсё, даўней менавіта яны тэрытарыяльна супрацьстаялі як асобныя традыцыі.



Мал. 28. У Медзведзях на ручніку першы тып перабору — "пад палатно". Белыя 'пераправы' з "чаўнакамі" выконвалі даўнім закладам. У платку сваёй маці (узор "мятлушкі") Кармільцава М. І., 1926 г. н. 1998 г.

## Гіпотэза: ад чырвоных "вольных палосак" да чырвонафонавых узораў

Паміж плынямі ручнікоў, якія маюць паласата-арнаментаваную кампазіцыю канца, у рэгіёне можна бачыць розніцу не толькі па сіметрычнасці ўзора, па тэхніцы яго выканання, але і па тыпу калодак (аб чым — вышэй, у тэхналагічных апісаннях традыцый).

Тып браных ручнікоў з узорнымі калодкамі, які ідзе з усходу, ад Іпуці, выразна процістаіць тыпу закладных з вузкімі ды паласатымі калодкамі, які ідзе ад Дняпра. Але ў прасторы іх узаемадзеяння ёсць традыцыі, якія маюць паміж узорнымі палосамі шырокія чырвоныя калодкі (яны ж — "вольныя палоскі"), як у браных (неглюбская, бабіцкая, валосавіцкая; гл. фота 97, 230, 299), так і ў закладных (гл. фота 86; чачорская) рэчах.

У тых традыцыях, што ткалі пераборам (ад Барталамееўкі і вышэй на поўнач праз Стаўбун, Неглюбку, Казацкія Балсуны і ў 'краснапольскія' тканіны), бачна, што вялікая частка ўзораў мае бела- і чырвонафонавыя варыянты, што зразумела, калі прыняць 'закладное' паходжанне перабору. Але колькасць тыпаў перабору ў чырвонафонавых узорах у параўнанні з белафонавымі на ўмоўнай мяжы з закладнымі ручнікамі таксама большая. Перабор пад палатно (гл. фота 175), пад рыпс, пераборы з лікам нітак у "пальцах" 2-1, 2-2, 3-1 (гл. фота 181, 258), як бачна, засвойваюць не толькі закладныя 'крыніцы'. Яны працуюць і з геаметрычным фондам бранага ткацтва. Дарэчы, калі частка ўзораў пераймае раслінныя матывы рамесніцкага паходжання альбо вышыўкі (гл. фота 167—170), выяўленчыя арнаменты роз-

нага паходжання (гл. фота 61, 206, 219), абіраецца 'бесструктурны' перабор (пад рыпс, пад палатно). Фігуры трактуюцца як сілуэты, 'не палічаныя' мясцовай культурнай традыцыяй.

Ствараецца ўражанне, што чырвоныя фоны палос выступаюць як нейкае 'ляда', вольная зямля ("вольныя палоскі" — назва шырокіх чырвоных калодак), якую засейваюць у адпаведнасці з уласнаю культураю. І калі традыцыі 'чырвонага чыну' (цалкам чырвонафонавыя) змяшчаюць на сваіх палосах як зямныя, так і незямныя сімвалы, часцей чаргуючы іх (гэтак жа на поўдні рэгіёна вядзе сябе адваротны чырвонаму 'белы чын' дубраўскага перабору), то традыцыі 'бела-чырвонага чыну' падзяляюць свае ўзоры, чырвоныя палосы аддаючы збольшага зямным выявам.

Цікава, што як зямлю адчуваюць чырвоны фон і ў саміх назвах. Так, адна і тая фігура "па белым" у Казацкіх Балсунах — "васьмірогі", "лебедзі"; "па цёмным" — "белая рожа". Фонд чырвонафонавых узораў распрацоўвае тэмы і назвы 'земляробства' ахвотней. Па тэхналагічнаму апісанню бачна, што Неглюбка знаходзіцца ў локусе 'чырвоных чыноў' і прадукуе чырвонафонавыя ўзоры, перадаючы іх усходнім суседзям, як тыя 'дзеляцца' белафонавымі.

Можна зрабіць здагадку, што чырвоныя межы (шырокія "вольныя палоскі") белафонавых браных ды закладных узораў успрымаліся як 'цвердзь', 'зямля' (гл. фота 220). Майстрыха ўспрымае фон як зямлю: "А поле, зямля — красная..." [17]. У балсунскай традыцыі захаваліся слабыя ўспаміны пра зямлю ва ўзорах: "Зямля — узор на ручніку" (не паказаны; [18]). Але дзе і калі гэта магло актуалізавацца?

Там, дзе сустракаліся традыцыі, якія ў аснове кампазіцый мелі розныя 'мадэлі Сусвету' (МС), па-рознаму разумелі і ролю калодак. Традыцыям, якія 'бачаць сусвет збоку', у выглядзе трох- і болей ярусная мадэлі (яна ў аснове стварэння 'белых чыноў' тыпу дубраўскага і медзведскага, хоць абодва і прасякнутыя 'планіметрычнымі' энергіямі), і белафонавым жа традыцыям бранага ткацтва з самым архаічным 'планіметрычным' успрыманнем (з так званай 'чатырохчасткаваю' МС) патрабаваліся ўзаемныя пераклады ў разуменні іх рознага па сэнсу белага.

Наўрад ці гэта адбылося за апошнія сто гадоў. Наўрад ці такая актуалізацыя ўзнікала аднойчы. Этнаграфічна ж сітуацыя 'ўзаемаперакладу' магла актуалізавацца ў рэгіёне яшчэ раз — тады, калі ў лік удзельнікаў адвечнага дыялогу (свет трох'ярусны і свет-план) уступіў трэці 'размоўца' — традыцыя, якая прынесла самі "вольныя палоскі" — чырвоныя шырокія палосы з белымі 'прасветамі' паміж імі. Магчыма, тыя, што 'бачылі Сусвет збоку' (ярусная МС), узнавілі апазіцыю 'цёмнай цвердзі' — 'светлага паветра'. Тыя ж, што бачылі Сусвет як план, ацанілі шырыню "вольных палосак". Вядома, зараз мы рэканструюем сітуацыю ў самым агульным выглядзе. Але можна сцвярджаць, што прастора гіпатэтычнага дыялогу сапраўды была 'білінгварнай' — тою, дзе адначасова былі зразумелымі і ўзаемаперакладаліся 'тэксты' тканін, належачыя розным тыпам традыцый. Аб гэтым сведчаць пераходныя варыянты 'ярусна-планіметрычных' ручнікоў, іх у нашым рэгіёне шмат і розных кампазіцый. Узрост і стабільнасць асобных чыноў арнаменту досыць старажытныя. Цудадзейна, што ў глыбіні раннеземляробчая семантыка застаецца жывой і сёння — у сатварэнні і новай распрацоўцы адвечных узораў.



Мал. 29. Цягнуць калодку да зрубу — узор на дарозе. А яшчэ ёсць абрад з "калодкаю" і ўзор "калодка"...

'Бела-чырвоны' чын 'новых' пераборных ручнікоў засвойваў асіметрычны альбо сіметрычны тып бранай традыцыі, на якой развіваўся (і рознасць вынікаў сведчыць аб арганічнасці працэсу, г. зн. такі новы чын не быў прынесены ў гатовым выглядзе).

## 6.6. Калодкі — маркёры асобных традыцый. Культурныя мадэлі як 'размежаваная прастора'. 'Субстанцыя' межаў

Планіметрыя (архаічная рытуальная геаметрыя) рэалізуецца і ў старым браным тыпе ручніка, які тыпалагічна мае апазіцыю чырвонага і белага фонаў толькі для 'правага' ('добрага'!) і адваротнага бакоў вырабу. Аднак і тут, на 'правым' баку, чырвоныя калодкі паміж узорнымі палосамі, нібыта тэкставыя 'замкі' і 'ключы' замоваў і рытуальныя "жэрдкі" і "калодкі" на шляху вяселля, замыкаюць асобныя этапы-прасторы пройдзенага. Гэтыя

чырвоныя берагі адрозніваюць адну традыцыю ад другой, бо застаюцца найменей зменлівымі. Значная шырыня чырвоных калодак у неглюбскім ды бабіцкім браным ткацтве процістаіць узорыстасці іх у суседніх традыцыях. Абодва тыпы (чырвонакалодкавы і ўзорнакалодкавы) процістаяць тым, што маюць белыя 'прасветы' паміж чырвонымі альбо ўзорнымі палосамі і найбольш вядомыя па палескіх тканінах. Урэшце, усе тры тыпы як паласатыя супрацьстаяць вертыкальнаму бескалодкаваму тыпу ручнікоў.

Дзе і як, але чырвоныя палосы пачынаюць успрымацца як 'зямныя'. Мы разгледзелі такую магчымасць на мяжы з 'яруснымі' традыцыямі (калодкі — 'цвердзь' паміж прасторамі Таго і Гэтага светаў). Але гэта цёмная 'зямля' і ў параўнанні з белаю 'вадою' палескіх міжузорных 'прасветаў', чырвоныя калодкі — 'пустыя' і 'ўзвышаныя' (фота 444).

Пры супастаўленні тыпаў калодак розных традыцый можна гіпатэтычна аднавіць і розныя ўяўленні пра 'субстанцыю' межаў, якія падзяляюць культурную прастору.

Цікава, што цэнтрычныя ручнікі ўспрынялі белафонавыя ўзоры менавіта як 'незямныя' і беспамылкова аднеслі 'верхнія' (гіпатэтычна 'паветраныя', нябесныя) і 'ніжнія' ('вадзяныя' альбо 'тагасветныя') іх варыянты да прыцэнтравай і краявой пазіцый, паўтарыўшы іх двойчы — у "калёсах", "калясачках" (дзе мы рэканструявалі сонечную семантыку) і ў "чаўнах" і вадзяных "крывульках". Пазней, у выяўленчай вышыўцы, каля цэнтра кампазіцыі неглюбчанкі садзілі пеўнікаў, а па краях — качак альбо лебедзяў (гл. такі неглюбскі ручнік: Лабачэўская. 2002. Іл. 220).

## Сляды рытуальнай геаметрыі ў кампазіцыях. Шлях да цэнтру

Сіметрычныя балсунскія, асіметрычныя вертыкальныя прыснянскага тыпу, асіметрычныя ж папярочна-паласатыя тыпу бабіцкай традыцыі — ўсе гэтыя кампазіцыі суіснавалі на самай блізкай адлегласці і самі прадстаўлялі варыянты больш агульных тэндэнцый у плынях ручнікоў.

Асіметрычнасць — якасць больш старажытнага тыпу кампазіцыі, бо ён дае шлях да Цэнтра ў кожным узорным канцы, рытуальная ж паўната (шэсце з двух бакоў да рытуальнага аб'екта, што набывае сэнс касмалагічнага цэнтра) атрымліваецца ва ўз'яднанні, рытуальным звядзенні, звязванні і сашчапленні канцоў.

У мясцовых традыцыях 'палова' Шляху на адным метры канца ручніка развівалася па-рознаму. З браных, старэйшых, мы бачым гэту таемную думку ў тканінах Закружжа (**фота 359**; параўнайце прыклад з вярхоўя Беседзі, **фота 434**), Бабічаў (**фота 134**), Прысно (**фота 128**; аб 'закружскім' тыпе асіметрыі — гл.: Чыжова. 1999. С. 60; Лабачэўская. 2002. С. 92—93). Прыклад з Антонаўкі (прыснянская традыцыя; **фота 250**) — яскравы. Тут, як і ў Закружжы, канцы ручнікоў паядноўваліся шпількамі альбо сшываліся ўстык. Яны маглі і ткацца як люстэркавыя — правы і левы. Ужыванне аднаго і таго ж арнаменту ("капыткі") у трох мясцовых тыпах кампазіцыі: закружскім паласатым (**а-а-а...**), з падвойным цэнтрам (**а-2а-а**) і ў бескалодкавым вертыкальным (прыснянскім) — сведчыць аб увазе да лева-правай асіметрыі

ўва ўсіх адзначаных традыцыях. Ведае гэты ўзор і Неглюбка, але толькі ў калодках (“капыткі”, “капыцце”).

Счапленне канцоў мае розныя спосабы. Такі тып вядомы нам па віцебскіх прыкладах, дзе ўтварыўся нават ручнік з адным, тканым цэльна, агульным канцом, прышытым да пятлі-‘варата’ белай сярэдзіны (здаецца прызначаную для счаплення і кампазіцыя полацкага ручніка — гл.: Лабачэўская. 2002. Іл. 149—150). Мы прасачылі тып покуці са счэпленымі канцамі ручніка і ўздоўж Беседзі ў Магілёўскай вобласці. Але аднавіць зыходны тып можна толькі ўмоўна. Кампазіцыйна адзіны Цэнтр атрымліваецца, калі налажыць канец ручніка на канец, спалучыўшы паўтор.

Так заходзяць адзін за другі канцы крывіцкіх бранзалетаў і канцы ‘палутараабаротных’ скроневых колцаў, што ведаюць і дрыгавічы. Паўтор у агульнакультурным сэнсе — пападанне ў той самы час і тое самае месца, замыканне рытуальнага кола. Дасягненне паўнаты кампазіцыі праз рытуал, абрад — вельмі архаічная рыса. Кампазіцыя аднаго канца ручніка асіметрычнага тыпу (напрыклад, ‘вертыкальная’ асіметрыя прыснянскіх тканін) з пункту гледжання носьбіта цэнтрычнай традыцыі — ‘крывая’ (няпоўная). “Крывулямі” завуць і вертыкальныя ланцугі ромбаў. Магчыма, у самой глыбіні апазіцый кампазіцыйных — племя — ды этнавызначальныя прыкметы (радзіміцкае скроневае колца — цэнтрычнае, лік яго промняў — па тры адносна вялікага непаўторанага цэнтральнага. Сем — найболей пашыраная колькасць “хрыстоў” — узорных палосаў на цэнтрычным ручніку: 3-1-3). У цэнтры тэрыторыі — шэраг архаічных традыцый з цэнтрычнымі, люстрана-сіметрычнымі ручнікамі тыпу **n-1-n** (неглюбская, бабовіцкая, верашчацкая, казацка-балсунская, з пашырэннем кола ўплыву сіметрыі амаль на ўсе суседнія). Магчыма шукаць адпаведнасцей цэнтрычнасці кампазіцыі не толькі ў дэкаратыўных крыніцах. ‘На дне’ такіх крыніц — адчуванне культурнай прасторы як маючай сакральны цэнтр.

Археалагічныя звесткі пра тып радзіміцкіх паселішчаў менавіта такія: сакральны цэнтр з комплексам свяцілішча і прыналежныя да яго селішчы. Такі самы і тып пахавання з круглым курганом ды яго абрадавымі ‘коламі’ ў адрозненне, напрыклад, ад ‘доўгіх курганаў’ крывічоў (параўнайце ‘доўгія’ вертыкальныя кампазіцыі арнаменту на ручніках)... Прадукуе сіметрычны тып і пабудова архаічнага абрада “Стряла” — з рухам насустрач і агульным колам карагодаў у Цэнтры. “Стряла” наогул мае ‘ручніковую’ кампазіцыю, аж да супадзення формаў асобных карагодаў з арнаментальнымі элементамі. Такія ж — люстрана-сіметрычныя — геаметрычныя кампазіцыі разных ‘лабавых’ дошак над вокнамі ў комплексе ліштваў. Планіметрычнасць арнаментаў ды іх паслядоўная змена з усё большым развіццём пачатковых, краёвых формаў на шляху да Цэнтра адпавядае такому адчуванню часу-прасторы. ***Рытуальная вось уздоўж ручніка*** і выява рытуальнага аб’екта ў сярэдзіне яго кампазіцыі здаецца надзвычай архаічным прынцыпам арганізацыі.

Тым больш, што сама прастора рэгіёну звяла да найцяснейшага суіснавання гэты цэнтрычны тып ручнікоў з архаічнымі ж — вертыкальным, ‘доўгім’ прыснянскім (які спускаецца з поўначы амаль праз усю Беларусь) і асіметрычным жа паласатым (варыянты якога распрацоўвалі Бабічы, Стаўбун, чачорская традыцыя ды іншыя).

Іншая этнакультурная сітуацыя для крывічоў магла захаваць і больш архаічную кампазіцыю альбо адабраць менавіта яе ў сатварэнні свайго культурнага сусвету. Калі ўгледзецца ў прыснянскія ручнікі, то ўбачым цэлы шэраг рыс і лева-правай асіметрыі.

Асіметрыя розных тыпаў, здаецца, мае адпаведнасці не толькі ў асобым тыпе Покуці (са злучанымі пад абразом канцамі ручніка), але і ў асобым спосабе замацавання ручніка на аброчным альбо надмагільным крыжы. Асіметрычныя традыцыі завязваюць ручнік 'цераз плячо' крыжа. У сіметрычнай Неглюбцы знаходзім ручнік на крыжы-галубцы, накрыты зверху падобна даху, яго канцы звісаюць, арнамент супадае па месцах з узорам на дошках-ветраніцах сапраўднага дома. Гэта яшчэ адна прыкмета розных плыней традыцый.

Планіметрыя рушыць да свайго Цэнтра, нібы пераадольвае межы розных прастораў у часе. Ярусная кампазіцыя мысліць сваю прастору адзінаю ва ўспрыяцці, дадзенаю ў найвышэйшы час рытуальнага руху. Узаемадзеянне традыцый дае актуалізацыю ментальных структур часу і прасторы ў перажыванні носьбітаў гэтых розных формаў мыслення, а значыць, спараджае пераходныя варыянты кампазіцый арнамента ручніка (аб касмалагічным прынцыпе пабудовы прасторы-часу ў ручніках — гл.: Нячаева. 1999. С. 61—65). Толькі захаванне пэўных структур традыцыйнага мыслення магло даць бясконцы рад узораў пошуку і дасягнення станоўчых вынікаў: "Ручнік палучыўся — калі ў ім саглассе ёсць".

## Калодкі — межы: часу, прасторы, тэксту. Вынікі апошніх доследаў. Закрытае/адкрытае і тэма чароўнага зроку

Апошнія экспедыцыйныя доследы ставяць пытанне пра сэнс чырвоных "калодак" і гіпатэтычна паходзячых ад іх чырвонафонавых узорных палос на новы ўзровень, не адмяняючы таго, што ўдалося зразумець раней. Мы павінны скарэкціраваць саму гіпотэзу. Відавочна, што характар паходжання чырвонафонавых узораў полігенетычны. Аднак для сітуацый узаемадзеяння традыцый, у якіх чырвоныя палосы мелі розную семантычную нагрузку, агульнакультурныя пытанні гістарычна ўзнаўляліся. Так, чырвонапалосныя ручнікі з белымі прасветамі ('чырвона-паласатыя', па тэрміну В. Лабачэўскай) разумеюць як узор менавіта самі чырвоныя палосы. Тыя ж, што падзяляюць так сапраўдныя ўзорныя бардзюры, адносяцца да "вольных палосак" як да не занятых узорам. Магчыма, архаічнае ўзаемапранікненне кампазіцый, у якіх магчыма б было аднавіць 'дрыгавіцкі імпульс' і той, што сёння не пазначаны, але ў нашых мясцінах бачны ў 'падпоры' з Іпуці — ад колішніх севяранскіх зямель, і спарадзіла 'чырвонакалодкавы' чын. Распаўсюджанасць яго ў многіх славянскіх землях не адмяняе пытання для нашай тэрыторыі, як шукаюць на ёй з'яў агульнаславянскіх часоў этналінгвісты. Магчыма, паўтор старога пытання для чарговага сутыкнення чырвонапалосных і ўзорных кампазіцый, што парадзіў бабіцкую традыцыю, актуалізаваў і пэўныя архетыпы ў вырашэнні 'дэкаратыўных праблем'. Магчыма,

самі браныя традыцыі: бабіцкая асіметрычная і старая неглюбская сіметрычная — спадчына даўніх часоў. Так альбо інакш, правамочна разгледзець семантычныя 'архетыпы', якія маглі б актуалізавацца ў саміх калодках — дзельніках суцэльнай кампазіцыі.

Па-першае, чырвоныя калодкі — межы часавых этапаў; стварэнне свету, рытуал, каляндар, праз якія праходзіць аб'ект альбо іх спалучэнне, выяўляючы кожны раз новыя якасці. Наяўнасць дзвюх ці болей відаў калодак у адным ручніку — магчымы след такой іх ролі (гл. фота 261, 337, 372, 375а).

Па-другое, таму што пытанне "Як свет заснаваны?" з'яўляецца і мадэллю прасторавай пабудовы, калодкі ў кампазіцыі перадаюць прасторавы падзел. Гэта межы знешнія і ўнутраныя. І таму калодкі ва ўзорным канцы часта адрозніваюцца ад калодак па белай сярэдзіне ручніка. Менавіта 'па небе' "мушкі", "цярэшкі" лётаюць часцей (гл. фота 257, 261, 237, 395).

Па-трэцяе, кампазіцыя з'яўляецца тэкстам пра тое, што пазначана ў першых двух пунктах. Кожная паласа ўзору аддзяляецца ад другой нечым падобным да паўтору, прыпеву ў абрадавай песні альбо формулы магічнага замыкання частак тэксту ў замове.

З гэтага пункту гледжання ўзоры калодак належаць тэксту, а не яго аб'екту і звязваюць тое, пра што 'гаворыцца', з тым, хто гаворыць. "Замкі" і "ключы" замовы перагукаюцца з сімваламі закрытага ў арнаменце: з "глухоўкамі", "каробачкамі", "ланцугамі" і самімі калодкамі, "бярвеннем", "агароджамі" ды іншымі знакамі межаў (і тут яны зноў 'вяртаюцца' ў прастору азначэння, бо ў якасці рытуальных рэчаў уваходзяць туды і будуюць культурныя аб'екты і самую культурную прастору).

Аналагічным чынам, і тэксту, і міфалагізаванай прасторы належыць і тэма "вочак" ва ўзоры магічнага зроку, здольнага бачыць 'наскрозь' ярусы Сусвету і часавыя этапы-палосы, схаваныя ад зроку звычайнага. "Воронія вочы" (варыянты назваў: "сарочыя, зязюльчыны вочы") — прыкмета такога зроку альбо самой чароўнай птушкі, роля якой — ажыццяўляць зносіны паміж Тым і Гэтым светам (гл. фота 197, 368, 369, 388, 395, 408).

Ускосным пацвярджэннем сказанага з'яўляецца тое, што ў выпадках, калі калодкі не маюць істотнай ролі альбо наогул амаль адсутнічаюць (як у цалкам чырвонафонавым ручніку), пазначаныя арнаментальныя тэмы займаюць асобныя, дзеля таго прызначаныя палосы, асабліва крайнія — межавыя (гэтак "вочы" — адна з тэмаў казацка-балсунскіх чырвонафонавых узораў).

Чацвёртым фактарам формаўтварэння арнаменту калодак (пасля іх ролі як часавых, прасторавых, тэкстава-кампазіцыйных межаў) з'яўляецца агульны семантыка-тэхналагічны працэс, пры якім у перыферыйныя зоны адціскаюцца як старыя тэхнікі выканання, так і іх знакі. Прыклад гэтага працэсу ў нашым выпадку — тое, што калодкі выконваюцца бранаю тэхнікай і захоўваюць яе нават тады, калі ўзоры ручніка ткуцца больш новымі спосабамі. 'На межах' захоўваюцца і найбольш старыя знакі. Прычым вопыт тэхналагічны можа пераходзіць у семантычны рад, а старыя значэнні альбо тонуць у дэкаратыўнай стыхіі, альбо характэрызуюць сувязь паміж прасто-

рай, якая мадэлюецца, і прасторай стваральніка тэксту (напрыклад, вытыканне нявесткай новага ручніка "па-свякрусінаму", але са 'сваімі' калодкамі — як праява агульнага працэсу шлюбнага ўзаемадзеяння традыцый; архетыпічна сувязь паміж касмалогіяй і рытуалам).

Зрэшты, калодкі робяцца месцам і сродкам пераасэнсавання і ўлоўлівання новых сэнсаў, у чымсьці рэзанансных папярэднім (гл. тэхналагічнае апісанне новых тыпаў неглюбскіх ручнікоў). Семантычнае асэнсаванне калодак сёння — справа, на першы погляд, з прасторы верагоднасцей. Але так выяўляюцца культуралагічныя магчымасці развіцця варыянтаў сэнсаў, якія папярэднічаюць дэкаратыўнаму згасанню семантыкі. Ад іх жа — шлях да асэнсавання этнавызначальнай ролі гэтых сціплых 'захоўнікаў' архаічных энергій.

# 7. ЦЭНТР. ТЭМА ЎЗАРАНАЙ ЗЯМЛІ

Звернемся да характарыстыкі “серядавых хрястоў” — цэнтральнай, непаўторнай паласы ручніка з люстраною сіметрыяй узора. Што захоўвае гэты цэнтр кампазіцыі са старажытных сэнсаў (гл.: Элиаде. 1987. С. 38—39; Генон. 1997. С. 87—98)? Відавочна, што прасторавыя і семантычныя характарыстыкі гэтага сакральнага паняцця ўдзельнічалі ў будаванні і самой дэкаратыўнай структуры ручніка, які абраў сіметрычны, цэнтрычны тып кампазіцыі і менавіта па ўзору цэнтра даваў назву ўсёй тканіне. Тое, што дослед мы вядзем у асноўным на прыкладзе маладзейшага пераборнага чыну, не павінна нас бянтэжыць — як раз пры пераходах ад тэхнікі да тэхнікі, як і пры засваенні ‘чужасельскіх’ чыноў, сітуацыя робіцца адкрытаю і шукае чыну, аж да актуалізацыі архетыповых семантычных апазіцый. Сэнсавыя сувязі, што ‘дрэмлюць’ у падсвядомасці традыцыйнай культуры, выяўляюць сябе ў структуры ручніка, які і ёсць іх ‘выказванне’. Змест ручніка не зводзіцца да перакладу з пэўнай моўнай фразы, якая не існуе ў рэчаіснасці. Ён сам — адна з ‘фраз’ гэтага не выказанага тэксту. Архаіка яўляе сябе ў ім, бо па старажытнасці ручнік параўнальны з рытуалам як ‘прадмоваю’, у ‘слоўніку’ якой — і дзеі з тканінаю.

## 7.1. Рамбічная сетка. Ад неваду да нівы

Самая простая кампазіцыя — рамбічная сетка. Яна шырока прадстаўлена ў традыцыях браных ручнікоў (перш за ўсё вертыкальнага тыпу з варыянтам дыяганальнага запаўнення бесперапыннага ўзора). У пераборных — у Дубраўцы, Балсунах, Неглюбцы, вёсках Навазыбкаўскага, Чачэрскага, Краснагорскага раёнаў (літаратурныя назвы: ‘дыяганальная рашотка’, ‘трэльяж’) — такая сетка, магчыма, бранага паходжання. Тое, што сіметрычныя пераборныя ручнікі ўслед за бранымі ўключаюць у сябе такую ‘цытату’ вертыкальнага чыну (яго дыяганальнага варыянту) і робяць яе ‘тэмаю’ ўсяго выказвання, сведчыць аб мясцовым ‘аўтарытэце’ такога чыну. Але зварот да агульнабеларускіх матэрыялаў, у першую чаргу да тканін адзення (гл.: Раманюк. 1981), упэўнівае нас у тым, што такі ўнутраны дыялог — спадчына мноства традыцый і шырэй за мясцовыя працэсы. Пакідаючы тэму параўнання арнаментаў ручніка і адзення будучым даследчыкам, спынімся толькі на архетыповых сэнсах сімвалу.

Сетка — адзін са старажытных сімвалаў узаранай зямлі (ці наогул ‘улаўлівання’, ‘уладкавання’). Яна прысутнічае на сасудах эпохі ранняй бронзы.

Там запаўненні ячэек-вочак — раслінныя матывы і крыжы (Антонова. 1984. С. 137). Гэткія ж матывы працягваюць жыць і на нашых ручніках (гл. фота 134; **фота 348**). Але магічны сэнс мае і 'пустая' сетка (гл. фота 347). Рамбічную кладку муроў паміж гарызантальных частак кладкі знаходзілі ў антычных помніках, яна звалася "opus reticulatum" (Словарь античности. 1989. С. 575). Гэткую ж схему муроўкі выкарыстоўвалі і беларускія майстры: "З 15 ст. пашырылася дэкаратыўная *гатычная муроўка*, дзе выкарыстоўвалася перапаленая цэгла-клінкер (цёмна-сіняга, амаль чорнага колеру), з якой выкладвалі розныя ўзоры, найчасцей у выглядзе *рамбічнай сеткі* (...Супрасльская царква)" (гл.: Трусаў. 1993. С. 447—448). Б. А. Рыбакоў разумее сеткі як каляндарны сімвал часу ловаў птушак (ва ўзоры на раннеславянскім рытуальным сасудзе) (Рыбаков. 1988. С. 170). Надзвычайную магічную сілу любых сетак выкарыстоўваюць ахоўныя абрады (Толстой. 1995. С. 234). У сярэднія вякі ў гатычнай культуры актуалізуецца "...столь типичное для средневекового декоративного искусства повторение мотивов в регулярной шахматной или диагонально-сетчатой системе" (Вундер. 1989. С. 176—209; 205). Сетка проціпастаўляецца адзіночнаму ланцужку контурных ромбаў (гл. фота 364). У Дубраўскім ручніку яны стаяць у суседніх палосах.

## 7.2. Казацка-балсунскі ручнік з матывам дыяганальнай сеткі. Шлях да Цэнтра. 'Пераправы'

У адной з балсунскіх тканін (гл. фота 184) асобныя ланцужкі — на краявых палосах (назвы "абгонка", "вароняе вока"). Цэнтр кампазіцыі — сетка (яго назва — таксама "абгонка" — здаецца позняю, бо *не адрознівае* форму, а абагульняе яе з іншаю — па спосабу ўтварэння). Паміж цэнтрам і краявой паласой — тры паласы ўзора, дзве з якіх — белафонавыя. Угледзімся ў кампазіцыю гэтага ручніка. Апазіцыя чырвонафонавых і белафонавых узораў уводзіць тэму 'зямнога'-'незямнога'. Спынімся на чырвонафонавых. Такія — абедзве "абгонкі". Краявая "абгонка" як "вароняе вока" (варыянт назвы) уваходзіць у тэму хтанічных істотаў і магічнага зроку; 'замежная' пазіцыя ўзора падкрэсліваецца: ён аддзелены белафонаваю паласою.

'Пераехаўшы' першую белафонавую паласу, вы зноў 'на зямлі'. Тут чырвонафонавы ўзор "рачыкі", што таксама назваю звяртаецца да хтанічных істотаў, звязаных з выкліканнем дажджу, пасярод якіх таксама — павукі ды жабы. Таму цікава, што на гэтых самых палосах у Балсунах ёсць знакі "павукі" (гл. фота 177), у Неглюбцы — "павукі" (гл. фота 252) і "жабкі". Узор "рачыкі" мае сіметрыю, развітую ўздоўж дыяганальных восей. Ён ускладняе касы крыж, падвойваючы яго канцы (такія знакі ёсць на гліняных прасліцах ранняга жалезнага веку, знойдзеных у Цэнтральнай Беларусі). Той факт, што ў абрадзе выклікання дажджу ахвяру (земнаводную істоту альбо насякомае) падвешвалі *на нітцы*, звяртае ўвагу не толькі да вобразу рытуальнага павешання, але і... *выпрадання дажджу*. Тэма павука, які можа звяртацца... да Бога, — у тэксце мясцовай замовы: "Павук-абеднік па небу падлятае, Богу ябеду аддавая" [19]. Сам касы крыж — фігура, якую крэслілі плугам у час рытуальнага ўзарання дарогі альбо ракі (Мазейка. 1999. С. 76—80). З іншага боку, узор "рачыкі" можа суадносіцца з іншаю роллю рака: ён мае мужчынскую сімволіку і з'яўляецца вобразам вясельнага чыну (Гура. 1997. С. 398—402).

Арнаменты ў гэтай пазіцыі (дацэнтравая паласа, аддзеленая ад цэнтра белафонаваю 'перашкодаю') маюць паўтор альбо патройны паўтор касых крыжоў — з іх апладняльнаю ды ахоўнай семантыкай, якая ўзнаўляецца гістарычна і ў кантэксце існуючых абрадаў ды вобразаў у мясцовых традыцыях (назвы "хрясты", "казлы", Негл.; гл. фота 178, 182, 187). Гэтакія ж пазіцыі займаюць узоры, што пераводзяць старажытную геаметрычную аснову ў антрапаморфныя фігуры (усе ўзоры тыпу "салдацікаў", гл., напрыклад, фота 403, 405 ды інш.). У 'раслінным' прачытанні сціплыя белыя васьміканцовыя крыжы (касы, накладзены на прамы), геаметрызаваныя зоркі-кветкі ў сучасных ручніках Неглюбкі даюць амаль натуральную квецень вясновага росту зяляніны. Такім чынам, тэма павелічэння "расліннай сілы зямлі", магія, скіраваная на павышэнне яе будучай урадлівасці, праяўляецца ў розных культурных кодах, з захаваннем архетыпічнай геаметрычнай асновы прасторавага мыслення.

Вяртаючыся да чытання дадзенага казацка-балсунскага ручніка, згадаем, што на шляху да Цэнтра мы прайшлі ад 'замежнай' зямлі "вароняга вока" (параўнайце тэму і месца ворана ў замовах ды лекавай магіі) да 'зямной' жа чырвонафонавай паласы з "рачыкамі" праз белафонавую паласу-'пераправу'. Тут яна мае арнамент з назвай "каробачкі", "прадаўгаватыя каробачкі" (Негл., К-Балс., Верхл.), якія вядомыя ў бела- і ў чырвонафонавых варыянтах як выявы 'закрытага' стану ромбаў і складаных 'пустых' замкнёных фігур. У гэткай самай пазіцыі (першай ад краю белафонавай 'пераправы') у Балсунах сустракаюцца і "богава дарожка" ('закрытыя' ромбы ў белых 'вочках'), "галубіная дарожка", "цёмная сцежка", "чаўнакі", "глухоўкі", "жалезная дарога" (у варыянце адной паласы ромбаў). Такім чынам, семы 'дарога', 'незямны', 'нечалавечы' (бог альбо яго птушка), 'закрыты', 'ніжні', 'межавы' (той, што падзяляе), 'цёмны, патаемны' так ці іначай актуалізуюцца ў характары гэтай блізкай да краю 'пераправы'.

Наступная 'пераправа' — белафонавы ўзор тыпу "калёссе" (Негл., К-Балс., Нясв. ды інш.). Тут ёсць варыянт назвы "жалезная дарога" (у форме пары "калёсаў") з выявамі сонечных па паходжанню сімвалаў — параў крыжоў у парах ромбаў. У класічнай балсунскай апазіцыі "калёсы" процістаяць краявым "чаўнам". Кампазіцыя захоўвае адзін са старажытных комплексаў — пару піктаграм летняга/зімняга (дзённага/начнога, жыццёвага/смяротнага, па Гэтым/па Тым свеце) руху сонца. Сакральная прастора Цэнтра аддаецца ідэаграме ўзаранага поля, нівы і ўзносіцца ў касмалагічны чын, што ўзнаўляецца для ўсёй кампазіцыі і часткова захоўваецца ў назвах паслядоўных узораў: "вароняе вока" — "каробачкі"/"цёмная сцежка" — "рачыкі" — "калёсы"/ "богава дарожка" — узор цэнтра (тут рамбічная сетка з назваю "абгонка").

## 7.3. Неглюбскі ручнік з дыяганальнай сеткаю ў Цэнтры

Неглюбка і блізкія да яе традыцыі таксама ставяць дыяганальную сетку (асаблівага падвойнага тыпу) у Цэнтры, аддзяляючы яе белафонавай прыцэнтравай паласою.

Па белым коцяцца тыя ж, што і ў Балсунах, 6 параў "калесся", "калёсаў" (ручнікі з Неглюбкі і яе пасёлкаў: Селішча, Рассуха; **фота 6**).



Мал. 30. Старыя цэнтры. Царква Нараджэння Багародзіцы ў Канічах (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

Або двойчы ўзнікаюць вялізныя крыжы ў контурных ромбах, паяднаных у ланцуг (варыянты назвы: "крывуля", "хрясты", "хрясты абводжаныя", "хрэст у крывулі", Негл.). Тэма крыжа тут неадрыўная ад семантыкі руху стыхійнай непадзельнасці агнявых ды сонечных матываў. Лік згадвае пра пару колаў (**фота 250**).

Трэці тып белафонавай 'перашкоды' — "хрясты кучарявыя" (Негл.), "куксы" (Ялоўка) — магчымыя знакі чатырох сонечных колаў (**фота 304, 331**; гл. фота 332).

Чацвёрты тып — "вялікая крывуля", ад чатырох да дванаццаці пульсуючых хваляў якой дадаюць тэму непарыўнай вогненна-воднай стыхіі. Асабліва выразныя "крывулі", "красныя крывулі" ў Верашчаках (**фота 253, 316, 317**).

Сама сетка, як мы і казалі, нібыта злітая з касых крыжоў-"казлоў" (Негл.), якія ўжываюцца і асобна — у чырвонафонавых прыцэнтравых палосах (**фота 245**).

Што ж папярэднічае, больш дакладна, адбываецца на шляху да Цэнтра ў гэтым тыпе кампазіцыі? Ад белафонавай краявой "крывулькі" ці "вутак" альбо наогул без адзнакаў стыхійнасці чырвоныя палосы развіваюць тэмы "расколатых хрястоў", "расколак", "расколак-кучарявак", што асацыіруецца з вобразам размыкання, адчынення замкнутага (у Балсунах больш выразнага). Дарэчы, сама тэма 'цэлага'/'расколатага' — вялізная культуралагічная тэма, якую немагчыма тут разглядаць. Спынімся толькі на тым, што магія нанясення геаметрычных знакаў і геаметрычнага члянення сілуэтнай фігуры захоўвае тую ж 'унутраную форму' расчлянення і збірання нанава (тут — у кампазіцыю), якую знаходзім у замовах і якая ўзыходзіць да архетыпа першаахвяры і стварэння космаса з яе частак (Гамкрелидзе, Иванов. 1984. С. 835).

7 Зак. 3512



Мал. 31. Свята Спаса на Сінім Калодзезі каля Будзішча (Чачэрскі раён). 1998 г.

Далей — матывы "павукі" ў двух варыянтах: хтанічнага/расліннага, тыпу балсунскіх (гл. фота 177), і моцных квітнеючых выяў уласна неглюбскіх "павукоў" ("з лісцейкам"; гл. фота 250). Матыў васьміканцовага (падвойнага) крыжа вядомы археалагічна для часоў славянскіх плямёнаў (прывескаамулет са Слоніма — гл.: Археалогія Беларусі. Т. 3. 2000. С. 390, мал. 107—12). Пазіцыя вялікіх "павукоў"-'дрэваў' аддаецца і ўзору "лісты", "лісце" (Негл.; гл. фота 240, 252, 253). У іншых кампазіцыях тут сустракаюцца "кусты" (Негл.). Матывы працвітання васьміканцовага крыжа не перарываліся і ў сярэднія вякі, падтрыманыя хрысціянскаю схільнасцю да 'правазвеснага' тлумачэння старых форм, у тым ліку і 'падвойнага' крыжа, які, па назіраннях, мае і арыянтальныя карані. Параўнайце: "Возникший из соединения греческого креста с андреевским восьмиконечный двойной крест был в средневековой теологической системе ещё и знаком Христа, где Бог представлен восемь раз..." (гл.: Вундер. 1989. С. 198). У ім увасаблялася і Віфлеемская зорка, што вядома і па нашых іконах. Аднак у нашым ручніку перамагае тэма 'ўсявечнага' расліннага буяння. Яна папярэднічае нейкаму прастораваму альбо часаваму 'перарыву' (які перадаецца з дапамогаю белафонавых "крывуляў", "калесся", "хрястоў"), каб потым уступіць у месца ці час рэгуляванага культурнага земляробства.

Тэма будаўнічых ‘агароджы’, ‘узмацнення’, ‘замыкання’ Цэнтра ў гэтым тыпе кампазіцыі як спецыяльная адсутнічае. Апазіцыя ‘закрытага’/‘адкрытага’ вырашаецца на краявых палосах. Вобраз узарання зямлі — адзін з алегарычных сімвалаў і ў мове вяселля (як і абрадавае ўжыванне сеткі для маладых), чаму ідэаграма ўзаранага поля (і наогул, сеткі-ўлоўлівання) магла захоўвацца і ў абрадавым сэнсе. Аднак і назва “самавары” побач з новым уражаннем захоўвае старую сему ‘ёмістасць’, ‘начынне’ і ўводзіць ўзор у рад з яшчэ больш архаічным сэнсам ‘месца’ (яно ж ‘пуста не бывае’).

## 8. СТАДЫІ ЎПАРАДКАВАННЯ ЦЭНТРА

Аднак тэма ‘адкрытасці-закрытасці’ Цэнтра, ‘адкрытага’ і ‘пустога’ ў варыянтах з дыяганальнай сеткай, праходзіць ‘у суме’ тканін шэраг этапаў-кампазіцый да ‘закрытага’ тыпу “пагонаў” (Негл.), “гнязда” (Нясв.), “калясачак” (Ялоўка) — ды іх запаўнення.

### 8.1. Першае ‘ўзмацненне’ Цэнтра. Свет вакол колаў

Першае ‘ўзмацненне’ адбываецца ў арнаментальным выдзяленні знешніх ромбаў самой сеткі і ператварэнні іх у пары. Гэта адбіваецца на назве: “калёсы” (Нясв.), “пагоны” (Негл., пас. Перадавец). Нясвоеўка мае яшчэ тры назвы: “самавары” (агульны тып), “трохрадная крывуля” (па форме) і вобразнае — “гняздо” **(фота 330)**. Верашчакі бачаць ва ўзоры “капыл”.

Наступны ход — насычэнне ромбаў, успрымаемых як “калёсы па цёмнаму”, характэрнымі для “калёсаў па беламу” крыжыкамі **(фота 318)**. Назва “пагоны, сушчэленыя як калёсы”, удакладняе змену (Негл., пас. Сініцы). Унутраныя ромбы набываюць выгляд замкнутых і без крыжоў, але цёмных, “глухіх”: насенне, яйкі (?) (**фота 240**; параўн. “гняздо” ў Нясвоеўцы і “яблыкі” ў дубраўскім “дубе з яйцамі”).

Далейшыя змены — ‘разрастанне’ ўнутраных ромбаў, змяшчэнне ў іх раслінных выяў на базе касых крыжоў **(фота 324)**.

Назва асэнсоўвае змены: “яблакі ў пагонах”, “лісце ў пагонах” (Увелле). Чытанне адбываецца ў раслінным кодзе. Аднак часцей за ўсё ўзор называюць “самавары” (Негл., пас. Селішча, Нясв., Верашчакі). Апошняя назва іменуе ўзоры ад неглюбскай рамбічнай сеткі да антрапаморфных выяў (“Самавараў — тры віда” — ад Ласай П. К., в. Казацкія Балсуны, 13.12.1986 г. зап. Нячаева Г. Р. у час набытку).

### 8.2. Іншыя вольныя тыпы Цэнтра. Пара раслінаў і тры зоркі

У час першага даследавання арнаментаў Неглюбкі мы знайшлі пэўную заканамернасць у тым, што ўзоры Цэнтра змяшчаюцца пераважна ва ‘ўзмоцненым’, ‘абгароджаным’ месцы, а тыя чырвонафонавыя ўзоры, што папярэднічаюць ім (звычайна выявы расліннага ‘буяння’), — ‘на волі’ (гл. фота 240, 252, 253). Вывучаючы заканамернасці культуры і яе апісанне ў прасторавых тэрмінах, мы даведаліся, што апазіцыя ‘вольнага’ і ‘абгароджанага’ — агульнакультурная і звязаная з арганізацыяй прасторы і сакральнага Цэнтра

ў ёй. Таму і 'вольныя' тыпы цэнтравых кампазіцый у ручніку звярнулі нашую ўвагу як адна з адменаў, дзе можна ўбачыць з'явы семантычнага характару.

Вось у Цэнтры — чырвонафонавыя "павукі" (з Нясвоеўкі ды Каціч). Яны ў атачэнні "хрястоў расколатых" па беламу (**фота 333**). У другім ручніку іх ахоўваюць і аддзяляюць ад папярэдніх цёмных палос белафонавыя парныя крыжы ў ромбах ("хрясты ў крывулі", Негл.; **фота 334, 344**).

Казацкія Балсуны "павукоў" у цэнтр не ставяць. Неглюбка — найчасцей у агароджы — "пагонах" ("павукі ў пагонах"; гл. фота 258). Але ўзор цэнтра сучасных ручнікоў "елка" (Негл.), асабліва распрацаваны ў каляровым ткацтве, ствараецца менавіта з "павукоў". Ён нібыта 'разбірае па граматычным складзе' з дапамогаю колераў (больш стары арнамент — белы) гэту ідэаграму Сусветнага Дрэва **(фота 266)**. І 'разбор' беспамылкова аддае 'зону роста' дыяганальным галінам васьміканцовага крыжа (зялёны), а 'зону плоднасці' — прамому крыжу. У дыяганальных канцах нават белага "павука" бачаць як "лісцейка" (Негл.), па канцах прамога крыжа ткуць "шышкі". Таксама ацэньваюць у Янове раслінны характар "павукоў": узор завецца "павукі-лісце". Яшчэ адзін варыянт 'расліннай' распрацоўкі белага "павука" ў каляровым ткацтве — узор "каноплі" (Негл.). Другі выток арнаменту "елка" — у аднайменным узоры бранага ткацтва. Пара раслінных геаметрызаваных фігур у цэнтры мае найбольш празрыстую сувязь з вясельным чынам (і абрадавым аб'ектам "елкаю").

У гэтым тыпе 'вольнага' Цэнтра 'абгароджанасць' узнікае-такі, але не ў поўным замыканні. Гэта прыём бранага ткацтва: ставіць асобныя фігуры паміж "казламі" (або "клінамі", "стаўпцамі"), што ўпіраюцца ў верх і ніз паласы. Так у квітнеючым цэнтры ўзнікаюць тры калоны, архетыпічны вобраз сакральнай пабудовы, у прасторы якой раслінныя разеткі адчуваюць сябе нібы траецкая зеляніна, унесеная ў царкву, або пара маладых, упрыгожаных кветкамі ў час вянчання (перыяд вяселляў прыходзіўся ў Неглюбцы пераважна на вясну).

Ручнік Дзеранок Т. Х. (1920—1996) надае сваім "елкам" выгляд "васьмірогаў з лісцем" **(фота 294)**. Калонаў няма. Аднак абедзве "елкі" майстрыха злучае знакам насення. "Хрэшчык абводжаны", г. зн. крыж у ромбе, архаічны сімвал агню і насення, злучэння мужчынскага і жаночага, яднае і другую пару арнаментаў Цэнтра — у ручніку "кулачча" ("крючча"; гл. фота 263).

"Павукі", "кулачча", "крючча" — варыянты назваў пары фігур, кожная з якіх мае выгляд квітнеючага прамога крыжа. Крыж узнікае як прарастанне вуглоў малога ромба з крыжыкам "пасярёдку". Прарастанне завяршаецца парнымі завіткамі кожнага з чатырох канцоў. На ручнік узор пераходзіць "с сарочак, ета старінныя ўзоры" [20]. Аналагі аднаго з архаічных сімвалаў Сусветнага Дрэва — падвескі з крывіцкіх курганаў XI ст. (Седов. 1979. Ил. 18 и др.). Этнаграфічныя матэрыялы з Малдовы пару "крюччаў" прадстаўляюць на пахавальным кіліме, дзе адна з фігураў мае пасярод крыж у ромбе, а другая — пусты ромб на знак смерці аднаго з супругаў (Урсу. 1990. С. 164—165).

Арнаментальнае мысленне ў сучаснай творчасці майстрых аказваецца праяваю архетыпічнага вобразнага мыслення. Так, у фігуры "кулачча" актуалізуецца яе сэнс Сусветнага Дрэва: "Ну вот, абвод сінім здзелан, а неба —

зялёнае тут... ат неба як бы ўзоры расходзяцца, звёзды сіяюць... а поле, зямля красная... Каждай фігуры прядзел далжон быць. Ну во, і прядзел етай, сярёдак" (**фота 268**; [21]). Раслiннае разуменне і 'тлумачэнне' геаметрычнай фігуры супадае са старажытнейшым сведчаннем пра квітнеючы крыжом ромб. У шумерскіх ды акадскіх тэкстах "4 угла земли расцвели для Энлиля подобно саду" (Антонова. 1984. С. 71).

Пара раслінных геаметрызаваных фігур у 'вольным' Цэнтры сучаснага ручніка працягвае традыцыю ўласна неглюбскую. Так, узор "лісце" — на Цэнтры ручніка пачатку XX ст. Васьміканцовая зорка з кветкамі паміж канцамі чытаецца майстрыхамі як 4 дыяганальныя галіны з лісцем (адпаведнік "елкі" бранага ткацтва). Тэма 'прарастання' асэнсоўваецца праз тэрмін "кучарявыя". "Кучаряўкі", "кудряўкі" звычайныя ў пазіцыі чырвонафонавай перадцэнтравай паласы. Аднак і па Цэнтру сустракаем "васьмірогі кучарявыя", "лісце кучарявае". У Ялоўцы 'прарастанне' фіксуецца яшчэ больш старым тэрмінам. Арнамент тыпу неглюбскага "лісця" завецца тут "васьмірогая *рагатая*" **(фота 308)**. Тэма "лісце" апяваецца ўсімі вёскамі адзінай па паходжанню традыцыі (**фота 323, 335**).

Другой крыніцаю зорных арнаментаў з'яўляецца 'вольная' кампазіцыя з трыма васьміканцовымі зоркамі па чырвоным фоне (Казацкія Балсуны і ўвесь рэгіён паласатых пераборных ручнікоў; гл. фота 178; **фота 201**). Як "белая рожа" зорка адзначаецца тут і ў Ялоўцы (у адрозненне ад "васьмірогаў" па беламу; гл. фота 307). Але магічны лік *тры* ўтрымлівае часцей менавіта зорную прыроду знакаў ("казаць на тры зары", "зоркамі абгаражусь" — у замовах), што адбіваецца і на сучаснай 'трактоўцы' ўзораў з дапамогаю каляровага асэнсавання. "Сонцамі" называюць тры белыя зоркі па цёмным фоне ў Верхлічах (назва "сонца" — і ў васьміканцовай зоркі дубраўскай традыцыі; гл. фота 372). Апошнія экспедыцыйныя матэрыялы дадаюць яшчэ адзін прыклад "сонцаў". "Другія сонцы, абгароджаныя" — гэта зоркі, змешчаныя ў "калёсы" (гл. фота 167, 212). Такім чынам, тэма 'сонечнага воза' як бы замыкае кола сваіх варыянтаў. Дэкаратыўны выпадак, які прыводзіць да штучнага ўзнаўлення даследчыкам архаічных уяўленняў пра нябеснае вяселле, у якім удзельнічае зорка-зара, альбо семантычнае захаванне старажытнага матыву — праз вобразную і абрадавую сістэмы традыцыі? Не можам стрымацца, каб не прывесці прыклады з адзення (Раманюк. 1981. Іл. 10, 21, 26, 79 ды інш.). Бачна, як 'новыя' фігуры зорак заступаюць месца 'старых' касых крыжоў, што падзялялі ромбы ў браным чыне. Бачна, як яны ўтвараюцца: старыя 'хрясты' набываюць канцы ў выглядзе ластаўкіна хваста. Вось і 'новыя' "васьмірогі" на аснове дыяганальных і простых восей! Урэшце, можна разглядзець, што адразу ж утвараецца і апазіцыя ('прамы'/'касы') знакаў 'ва ўлоннях' ромбаў-'месцаў'.

## 8.3. Другое 'ўзмацненне' Цэнтра. "Абводжаныя" сімвалы

Апазіцыя 'вольны'/'абгароджаны' ў тыпах Цэнтра з'яўляецца ўстойлівай і рэалізуецца як у новых, так і ў старых ручніках. Балсунская традыцыя, якая скончыла актыўны перыяд у пачатку XX ст., не паспела перавесці свае арнаменты на сучасны раслінны код. Але і яе загадкавыя сімвалы Цэнтра



Мал. 32. А "серядавыя хрясты" — і "хрэст у сліўках", і "елка", і "казлы", і "васьмірогі", і "вялікая крывуля"... Верашчакі (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

маюць 'вольныя' варыянты, часам — і раслінныя назвы ("белая рожа", "чамаданы"; гл. фота 177, 181; **фота 203**), "хрэст", "якары" (гл. фота 180), "казлы-стаканы". Частка цэнтраў у Балсунах — "абводжаныя" (як "залато кружжа"; гл. фота 182). Цалкам замкнутыя — "белыя чаўнакі" (якія таксама могуць асэнсоўвацца як "белая рожа"; гл. фота 179, 183, 185, 186). Падобныя рады па тыпу 'вольнасці' мае і дубраўская традыцыя.

Асэнсоўваецца розніца ў форме замыкання прасторы Цэнтра. "Абводжаныя яблакі" ў Неглюбцы адрозніваюцца ад "яблыкаў у пагонах" менавіта як фігуры 'ў круглым'/'чатырохвугольным'. "Залато кружжа" (К-Балс.) акцэнтуе гэта ў самой назве. У Неглюбцы і блізкіх традыцыях "абводжаныя" бываюць "васьмірогі" (**фота 273**), "хрэсцікі", "хрясты", "яблыкі" (гл. фота 255, 256, 264). "Абводжаныя хрясты" маюць варыянт назвы "хрэст у крывулі".

Ёсць і спецыяльныя тыпы абводкі, "абгонкі" (К-Балс.) у цэнтральных сімвалаў — контурныя ромбы (альбо 'набліжаны' фрагмент дыяганальнай сеткі). Яны выконваюцца ў выглядзе дыяганальных гронак "жалуддзя" альбо "слівак". Узор завецца "вядзмедзь у жалуддзі" (Негл.; **фота 249**). Іншыя назвы гэтага арнаменту — "бальшыя слівы" (Верашчакі), "арэшкі", "гурочкі" (Пералазы), "жалуды з капейкай" (Ялоўка), "рябіна" (Нясв.) адлюстроўваюць агульны працэс пераасэнсавання ўзораў, пераводу іх у "раслінны код", што вядзе і да фармальнага пераўтварэння.

Тэма "абводкі", "абгароджы" мае патрэбу больш 'матэрыяльна' яе асэнсоўваць.

Па-першае, рамбічная, круглая "абводка" параўноўваецца з начыннем. Як збаны альбо жаночыя фігуркі чытаюцца 'рамкі' для "хрэшчыкаў" ручніком з Крутога (гл. фота 442). Ёсць "стаканы" (гл. фота 175) з Казацкіх Бал-

суноў. Як "белыя чаўнакі" чытаюць свой узор яны ж (гл. фота 183, 185), маючы і больш новыя "чамаданы" (гл. фота 177, 179, 181, 186). Паўсюдна старыя геаметрычныя сімвалы ёмістасці пераасэнсоўваюцца як "самавары" (гл. фота 380). Ланцуг ромбаў уздоўж можа называцца і "гробам" (варыянт назвы "самавары", "бесканешнік"; гл. фота 383). Нясвоеўка робіць па цэнтры "гняздо" (гл. фота 330). "Каробачкі", "прадаўгаватыя каробачкі" часам замяняюць 'закрытыя' ж "глухоўкі". Тэма 'закрытага' найбольш актуальная для Цэнтра і краёў. Для параўнання — тая ж тэма начыння ёсць у назвах строяў адзення: "коўш", "кубарам" — спосабы павязвання панёваў, "кубак" — назва дзявочага галаўнога ўбору ў Неглюбцы.

Па-другое, узнікае транспартная тэма з яе сродкамі, на якіх едуць старыя і новыя фігуры, што захоўваюць назвы: "чаўнакі" і "калёсы", "калясачкі". Апошні вобразны ход павязаны з тэмаю Шляху. Калі фігуркі пускаюцца ў рад 'вольна' — гэта ўжо не ёмістаць, не сродак перасоўвання, а "дарога", "сцежка" (гл. пра казацка-балсунскую традыцыю).

Паласа, асабліва цэнтральная, можа быць і вобразам Храму. Часам прастора паласы ўспрымаецца ў выглядзе "збоку" і яе межы, як верх і ніз падпіраюць "стаўпы", "стаўпцы".

Нарэшце (альбо ад самага пачатку) усялякую паласу ўзораў замыкаюць і будуюць калодкі. На першы погляд, сучаснае вока шукае нечаканай асацыяцыі семантычна пустому, фармальнаму прыёму. Але мы паступова разумеем: тое, што здаецца выпадковасцю, — функцыя аданачасова некалькіх семантычных апазіцый. "Раньшэ прядугадывалі, накладалі і называлі ўзоры" [22].

## 8.4. Цэнтр як замкнутая прастора

Найбольшая колькасць ручнікоў тыпу **п-1-п** мае замкнуты і пазначаны крыжыкамі Цэнтр. Апазіцыя 'вольны'/'замкнуты' ў гэтым выглядзе рэалізуецца як проціпастаўленне Цэнтру іншых чырвонафонавых палосаў, асабліва прыцэнтравай (2-ч/ф, 3-ч/ф).

Што датычыць 'зместу', пераліка фігур, якія апынаюцца ў 'закрытым' Цэнтры, дык гэта ўсе тыя старажытныя элементы, што бываюць і ў 'вольнай' перадцэнтравай прасторы.

Такім чынам, некаторыя фігуры могуць двойчы ўзнікаць у апазіцыі 'вольнага'/'закрытага' (раней прачытанага намі як 'сакральнае'). Яны супрацьстаяць самі сабе толькі па месцы і пазначэнню прасторы. Калісьці менавіта гэта навяло нас на думку пра сакральны статус фігур, што становяцца па Цэнтры. Сімвалы ўрадлівасці — касыя крыжы ("казлы") і васьміканцовыя крыжы-ідэаграмы Сусветнага Дрэва (з варыянтам разумення, што захаваўся ў германскіх рунах: "бог — куст"; гл.: Нячаева. 1998. С. 69). Яны могуць набываць статус сакральных аб'ектаў альбо адзнакаў удзельнікаў абраду ці каляндарных святаў, у час якіх 'героямі' становяцца згаданыя сімвалы. У час экспедыцыйнай працы мы шукалі факты абрадавага выкарыстання (форма — матэрыял вырабу — удзельнікі стварэння — месца і час выкарыстання) падобных знакаў і знайшлі іх абрадавыя эквіваленты, якія ствараюцца непасрэдна ў часе абраду. Матэрыял і срокі (ад узарання касых ды васьмікан-



Мал. 33. "Стряла" ідзець "із жыта"... Казацкія Балсуны (Веткаўскі раён). 1997 г.

цовых крыжоў на дне ракі альбо на перакрыжаваннях дарог да вырабу крыжоў-свастык і "казлоў" на дажынках, геаметрычных формаў з зяляніны на Ушэсце) аказаліся надзвычай архаічнымі. Пошукі этымалагічных адпаведнасцей вывелі да апазіцыі ў назвах 'кветкі'-'зёлкі'-'краскі', дзе карані 'зел-' і 'крас-' пазначалі прафанную і сакральную пазіцыі 'кветак'. Трэба было б удакладніць апазіцыю 'прафанны'/'сакральны' ў адносінах да ручніка. Яго 'вольны'/'замкнуты' хутчэй звязаны не з проціпастаўленнем будняў і святаў, а з рознымі прасторамі святкавання, святаў. І змяшчэнне ў кожнай паласе ўзораў нездарма завецца "хрястамі" (Негл.), супадаючы з абрадавым найменнем месцаў, "дзе гульбішчы бывалі". 'Вольная' прастора чырвонафонавай перадцэнтравай паласы, калі і суадносіць яе з пазіцыяй 'зел-' (зялёны) у чаргаванні 'зел-'/'крас-', гэта прастора святкавання зялёных раслін, тыпу "куста", траецкіх абрадаў. У этымалагічнай адпаведнасці можна знайсці яшчэ дахрысціянскую тэму святога як узрастаючага, квітнеючага і яго моцы: "При этом svet- первоначально подчеркивал не столько сакральный аспект в чистом виде, сколько идею возрастания, процветания, изобилия. В языческую эпоху это "увеличение" чаще всего трактовалось как результат действия особой жизненной плодоносящей силы или — позже — как ее образ, символ... Эпитет "святой" в русской (и славянской) традиции определял прежде всего символы вегетативного плодородия (святое дерево, рай... роща, колос, жито)" (Топоров. 1995. С. 8). Яшчэ больш непасрэдную сувязь сімвалы квецені на 'вольных' палосах ручніка мелі б з паняццем пра жыццёвую сілу і ўвасабленне яе ў корані слова jun- ('юны', 'малады'), адкуль узнікае і сэнс святасці як асаблівай сакральнай чысціні. Зразумела, што агульны вобраз 'зялёнага' ў значэнні 'маладога' суадносіцца з гэтым развіццём сэнсу (Топоров. 1988б. С. 39). Здаецца, што своеасаблівую

'святасць' у арнаментальных сімвалаў маглі перадаваць маленькія крыжыкі, якія 'абкрыжаюць' ідэаграмы Сусветных Дрэваў, па 2 альбо па 4, нібыта ўваходзячы ў раскрытыя кветкі-галіны (гл. фота 246, 273). Найбольш выразна тэма ўваходжання ў расліну нейкай сілы, пазначанай светланоснымі крыжыкамі, гучыць у дубраўскай традыцыі (гл. фота 395).

## 8.5. 'Вольнае'/'закрытае'. Абрадавыя адпаведнасці

Найбольш распрацаваную тэрміналогію ў адносінах да 'вольнага'/'закрытага' дае вясельны абрад. Менавіта ў ім архетыпічнае ўспрыманне ручніка — галоўнага семантычнага сімвала — магло захоўвацца найбольш трывала. Назіранні за ўжываннем ручніка ў абрадах, што пазначаюць сакральную прастору нараджэння і смерці, прывялі да неабходнасці разгледзець прасторавыя мадэлі гэтых культурных дзеяў аж да аналізу археалагічных матэрыялаў. Былі знойдзены супадзенні ў кампазіцыі ўзора ручніка **п-1-п** і ў складзе радзіміцкага пахавання, што мае, безумоўна, агульнакультурныя карані. Але аналіз арнаменту ручнікоў дае гіпатэтычную магчымасць і для пошукаў прамых семантычных адпаведнасцей. Архаіка і паўсюдная пашыранасць у рэгіёне абраду "Стряла" сведчаць пра тое самае. Супадзенне рытуальных тэкстаў у прадстаўнікоў розных канфесій паказвае на мясцовы характар свята, у якім бачаць вельмі глыбокія карані.

Варыянты "Стрялы" выказваюць структурнае прасторавае супадзенне (месцы дзеяння, напрамак руху ўдзельнікаў, формы карагодаў) з прасторавымі кампазіцыямі дзеяў з ручніком і нават кампазіцыямі яго арнаменту. Так, у Стаўбуне, для якога ўзнаўляецца асіметрычны тып кампазіцыі, шэсце ўдзельнікаў абраду з двух канцоў сяла адбываецца насустрач, да Цэнтра. Тут супрацьлеглыя 'канцы' 'звязваюцца' ў агульных карагодах ("Без *крывога* танца — не вывесць вянца..."), як счапляўся, магчыма, калісьці і асіметрычны ручнік. Далей ідуць са счэпленымі рукамі, нібыта праходзяць дарогу ўздоўж усёй счэпленай кампазіцыі, і напрамак гэтага, агульнага ж шэсця — перпендыкулярны папярэдняй восі руху (суадносіцца як вертыкальная касмалагічная вось — з папярэднім рухам па гарызантальнай рытуальнай восі). Сіметрыя дасягаецца ў старэйшым сваім тыпе — тыпе рытуальнага паяднання ўдзельнікаў, часу і прасторы.

Арнамент сіметрычнага ручніка здаецца больш познім тыпалагічна, але ўзрост абодвух тыпаў сіметрыі сягае ўзросту земляробства і сіметрычнасць не можа быць адзнакаю 'маладосці' традыцыі. Так альбо іначай, у ручніку тыпу **п-1-п** знакі чырвонафонавай перадцэнтравай паласы — гэта сімвалы прадуцыравання плоднасці, урадлівасці ды расліннага росквіту, узрастання — у кодзе чалавечым, раслінным, земляробчым. У кодзе ўзроставым, абрадавых паводзін — гэта магічныя дзеі моладзі, у аб'ектным — дзеі з зелянінай і кветкамі, у прасторавым — дзеі 'на вольнай прасторы', у вясельным чыне — дзеі перад уласна вяселлем, у каляндарным — вясновыя, з шанаваннем аб'ектаў 'вольнай прыроды'. Усе гэтыя заканамернасці пацвярджаюцца і для больш старажытных геаметрычных чыноў бранага ткацтва.

7а Зак. 3512

Становячы тыя самыя фігуры ў Цэнтр, ручнік змяняе прастору ўжывання сімвалу. Замкнутая прастора, да таго ж аддзеленая ад 'вольных' палосаў белафонавым увасабленнем стыхій вады, агню і паветра, даволі выразна супрацьстаіць усім іншым узорам. Тэма перавозу, найбольш актуальная для вяселля і пахавання, усё ж рэканструіруецца і ў каляндарных дзеях, і для кола-цыкла кожнага святочнага перыяду. Таму нашая ўвага да ўзораў тыпу белафонавых "калёсаў" непазбежна павінна была прыцягнуцца і да сведчанняў самой традыцыі — яе транспартнага асэнсавання кампазіцыі непасрэдна Цэнтра — праз тэрміналогію і тлумачэнні.

Вывучэнне семантычнага паходжання спараных ("зводжаных", Негл.) ромбаў з крыжыкамі ўсяродку прывяло да разумення іх 'транспартнай' і 'касмалагічнай' прыроды, чаму мясцовая тэрміналогія мела і ўласную назву: "калёсы", "калессе". Але ідэаграмаю калясніцы з'яўляецца і неглюбскі ўзор цэнтра — "пагоны". Першым ходам да разумення ўзора праз назву была спроба пашукаць прататыпаў у воінскіх знаках. Адпрацаваўшы версію з "пагонамі", мы не знайшлі там адпаведнікаў. Хутчэй, тып прасторавай кампазіцыі спарадзіў і 'пагоны' салдатаў: першапачаткова 'пагон' — "самый просторъ, разбегъ, пространство для движенья взадъ и впередъ..." ад дзеі па дзеяслову "пагнаць" да "перагону", "переезду", да "спадарожнага ветру", "плыту для сплаву", "позніх усходаў хлеба" і "выгану для жывёлы" (Даль. 1980. С. 152).

'Агароджа' ўзора "пагоны" ўключае ў сябе старажытныя ідэаграмы параў колаў як воза, калясніцы. Для іншага белафонавага ўзора "калёсы" мы атрымалі і назву "калясачкі" (Нясв.), што магчыма толькі пры ўспрыманні шасці параў спараных крыжоў-ромбаў як *руху* ці шэрагу калёсаў-вазоў. Таму, калі ўдалося пачуць нарэшце назву "калессе" для ўзора тыпу "яблакі ў пагонах" (Ялоўка), захацелася пачуць і тлумачэнне. Яно было наступнае: "Хіба ж вы ня ведаеце? Гэта ж воз, калёсы!" [23].

Паўтор аднаго і таго знака стварае вобраз часу альбо (і) прасторавага руху. Змена характару прасторы з 'вольнага' на 'замкнуты' перадае семантычныя змены ва ўспрыняцці часу і абрадавыя змены ў прасторы. 'Прыгатаванне' змяняецца 'ўвядзеннем' у сакральнае месца. Транспартны код захоўвае ў арнаментах ды іх назвах тэму перавозу. Стоячы ў цэнтры Сусвету ручніка, абраныя ім фігуры набываюць звышсэнсавую якасць. Гэта рэканструіруецца на агульнакультурных паралелях, археалагічным і гістарычным матэрыялах як семантычны прынцып. Але сцвярджаць семантычную каштоўнасць той 'згубленай мовы', якою з'яўляецца арнамент, можна толькі па ўзнаўленні семантычных сувязей паміж ім і ўласнай традыцыяй, у кантэксце жывой духоўнай культуры. Тое, што аднаўляецца ў ёй часам на падсвядомым узроўні, у сістэме забаронаў і прадпісанняў, з'яўляецца дзеючым знакавым фактам, бо рэгулюе нараджэнне як формаў, гэтак і тэрмінаў, і нават моўных тлумачэнняў.

"Калёсы" цэнтральнага ўзора маглі б захоўваць сему 'адпраўкі', стварэння знакавай сітуацыі як 'перавозу', пераводу з адной культурнай мовы на другую. Носьбітамі інфармацыі, якую трэба адправіць, маглі б выступаць любыя з пастаўленых у цэнтр абраду — ад вясельнай пары да нябожчыкаў (якіх і хавалі парамі), ад расліннага аб'екта да геаметрычнага сімвала. 'Траек-



Мал. 34. У цэнтры года... Жніво ў Казацкіх Балсунах. 1998 г.

торыі' гэтых знакаў (пpасторавыя перамяшчэнні), якія мы назіраем у абрадавай практыцы, робяць слушным і разуменне невыпадковасці стварэння арнаментальных кампазіцый з іх пераўтварэннем і 'перамяшчэннем' знака ў прасторы ўзора. Так, жытні дажынкавы "хрэст" мае наступную траекторыю: поле (месца стварэння, ніз, край) — хата (прастора сярэдзіны, культурная прастора) — Покуць (сакральны цэнтр, верх, асвячэнне) — клець (культурная прастора, ніз, там зерне з "хряста" дабаўлялі ў насенне) — поле, сяўба (вяртанне асвячонага зерня ў хтанічны ніз). Абрадавы тэрмін "адправіць" вяртае сабе ў такім разуменні літаральны сэнс, як і адзначанасць у якасці святаў менавіта 'пераходных' момантаў у жыцці і календары.

## 8.6. Цэнтр як адзнака 'выспявання', 'ураджаю', 'спеласці'

Безумоўна, найбольш выразна такі сэнс арнамента Цэнтра захоўваецца ў неглюбскім браным ручніку, яго раннеземляробчым геаметрычным чыне арнаментаў. 'Шлях' развіцця геаметрычнага знака ўздоўж кампазіцыі адбываецца праз этапы-палосы. Ад цэлага ромба праз яго 'прарастанне', праз раскрыжаванне-ўзаранне — да кампазіцыі Цэнтра, дзе дыяганальна раскрыжаваны ромб мае адросткі-"кручча", у чым даследчыкі бачаць тэму спеласці і ўраджаю.

Пераборны ручнік, які можа ставіць у 'сакральны' Цэнтр той самы знак, што і ў 'вольнай' паласе, па большасці выпадкаў змяняе сімвал у "серадавых хрястах".

## 8.7. Неглюбскія "яблакі"

Мы бачым, што фігуры злева, здольныя да далейшага развіцця, замяняюцца фігурамі поўнага росквіту ў Цэнтры. Кветка-"яблака", якая найчасцей трапляе ў Цэнтр, самімі носьбітамі традыцыі ацэньваецца менавіта як плод, 'круглы' ў параўнанні з іншымі — рамбічнымі альбо крыжавымі. Васьміканцовы крыж-'дрэва' чытаецца ў ім як фонавы чырвоны ўзор паміж белымі 'пялёсткамі' (альбо 'долькамі' яблыка). Суседнія вёскі ўжываюць гэты элемент (назва не захавалася) у іншых кампазіцыях, але ў той жа апазіцыі: крыж тыпу "павука" — тып "яблака"; знак насення — тып "яблака" (Малыя Нямкі, Стаўбун, 1910-я гг.; **фота 65, 225**).

Сярод ручнікоў балсунскага (і шырэй краснапольскага) тыпу блізкі элемент мае вострыя канцы, у разрадзе "васьмірогаў" (гл. фота 270, 296, 307, 315). Браныя ручнікі маюць элементы гэтага тыпу (Закружжа з пасёлкамі), але раслінны, адносна 'натуралістычны' яго характар паказвае на позняе паходжанне **(фота 360)**. Шасціпялёсткавая кветка ў сярэдзіне бабіцкага "кручча" болей звязана з архаічным шасціспіцавым колам **(фота 96)**.

Найбольшая блізкасць у "яблака" — з "кулаччам" (гл. фота 312, 313, 407, 408) і "вядзмедзямі" (гл. фота 232, 296) бранага ткацтва. Але яны, хаця і 'круглыя', ды непадзельныя ў сярэдзіне.

"Яблака" ў мностве варыянтаў распрацоўваецца Неглюбкай у новым раслінным асэнсаванні геаметрычных фігур, займаючы і месцы былых "вядзмедзяў". Што датычыцца іншых 'круглых' фігур, дык блізкія "яблакам" "хрясты кучарявыя" — сонечныя па рэканструкцыі знакі, распаўсюджаныя ў рэгіёне ("макаўкі", "куксы", "кацельчыкі"; гл. фота 332). Новыя "яблакі" ўзнікаюць на іх месцы (гл. фота 271). Натуралістычныя "рожы" завуцца ў Неглюбцы "яблакамі".

Амаль ва ўсіх кампазіцыях з "яблакамі" ў Цэнтры 'круглыя' фігуры на 'вольных' палосах з'яўляюцца як мінімум яшчэ раз — блізка да краю. Гэта згаданыя намі "хрясты кучарявыя" альбо... самі "яблакі". Звычайна краявых круглых элементаў па чатыры альбо па дзве пары. Падобна да колаў, яны 'вязуць' усю кампазіцыю. Тэма 'расколвання', 'раздзелу' важная ў апазіцыі 'цэлы'/'расколаты'. Краявыя 'круглыя' фігуры маюць цэлы сілуэт, нават і ў "хрястах расколатых". Магчыма, 'падзел' цэнтравых яблыкаў двойчы — прамым (як у "хрястоў расколатых") і касым крыжамі (як у браных рамбічных фігурах, раскрыжаваных) меў невыпадковы імпульс і толькі ў сучасным разуменні супаў з формай кветкі. Новыя ручнікі трактуюць гэтыя крыжы-падзелы як асобныя, розным колерам. Тэму 'долі' й 'багацця' пакінем тут незакранутаю. "Яблаку", якое і зараз мы разразаем менавіта так, досыць іншых прычынаў месціцца ў цэнтры ручніка — ад яго непасрэднага расліннага архетыпічнага сэнсу да вясельных, пахавальных, памінальных ды магічных якасцей, да святочнага месца ў календары.

## 8.8. Новае асэнсаванне Цэнтра як рухомага спосабу вызначыць абрадавую 'дату' ў календары

Даследаваныя вышэй тыпы 'вольнага'-'стаўповага'-'абгароджанага' і 'цалкам замкнутага' Цэнтраў вядуць да разумення магчымасці знайсці ў падобных кампазіцыях *сляды markdown рознага каляндарнага зместу* ручнікоў. Так, у пазіцыі Цэнтра могуць апынуцца фігуры 'ўзарання', 'росквіту' альбо 'ўраджаю', што мы разгледзелі вышэй. Аднак 'на шляху да цэнтра' той жа "глухі" ромб расколваецца і ператвараецца ў "расколку", потым — у "кучаряўку" і толькі потым дае 'парасткі' ў "лісце" альбо ў іншай 'працвіўшай' фігуры.

Знак "кучаряўкі" (Негл.; варыянт назвы — "капейка з крывулькай", Ялоўка) займае звычайна месца 'да лісця' і мае ў сабе знак зямлі, якая адкрываецца, і "ключы" (тыпу адросткаў у браным узоры "кручча"; гл. фота 261, 321). Здаецца, суму прыкметаў ён збірае як з пераборнага чыну (ідзе за больш простаю "расколкай"), так і з бранага.

У цэнтры ручніка з Верашчакаў тры фігуры тыпу "кучаряўка" (**фота 319**). Яны лагічна вынікаюць з перадцэнтравых чырвонафонавых "расколак". Лік *тры* — хутчэй пра трайны паўтор — просьбу, пра 'веснавы' характар знака, як і пры ўжыванні на ўскрайку кампазіцыі.

Падобны ход і ў ручнікоў, дзе ў Цэнтры — трайны знак "расколка" ды падобныя (ён жа завецца і "кучаряўка", Негл., Ялоўка, Ст. Бабовічы), і "капейка з веряб'ямі" (Верхлічы, Ялоўка), і "глушка з мушкамі" (Нясв.), і "кудряўка" ("капеечка, кругом звёздачкі", Нясв.), і "чачатая капейка" ("абводзіцца кругом — кудрявая", Нясв.), "хреставое" (Ст. Бабовічы), "кучарявая капейка" (Ялоўка). Супастаўленне назваў дае дзве важныя семы ў асэнсаванні формы. Першая — прыкмета 'кучаравасці': "кучаряўка", "кудряўка" і — "чачатая" пры чэшскім 'ceceriti' "лахмаціць, "кудлаціць", латышскім 'cecers' "каўтун" (гл.: Фасмер. 1987. С. 356. Пар. таксама "куксы", "хрясты кучарявыя"). Другая — сінанімія назваў тых элементаў, якія і ствараюць 'кучаравасць' "расколак": "веряб'і"-"мушкі"-"звёздачкі". Цікава, што "капейкай кучарявай" майстрыха з Ялоўкі называе і ўзор, прама ўзяты "з бранага", — тыпу "лапы кучарявай" (Негл.). У кодзе 'валасоў' "кучаравы" можа быць важнаю адзнакаю.

Знак расколвання на зямным фоне — звычайны на ўскрайку (гл. фота 238, 248, 255, 256, 304, 311) — ставіцца ў Цэнтр (**фота 301, 305, 306, 343**). Янова наследуе іншы прынцып пабудовы кампазіцыі. Чаргаванне ж элементаў — беспамылковае (**фота 221**; гл. фота 225).

Застаецца яшчэ больш просты знак — "расколка", якая 'абуджаецца' толькі чатырма крыжыкамі-"веряб'ямі", што стаяць каля адтулінаў раскрыжаванага ромба ("Расколкі розныя бываюць, і па-трое, і па 5, і па 7"). Калі яго знойдзем у Цэнтры, атрымаем поўны 'чын' увядзення любога з паслядоўнасці чырвонафонавых знакаў — у сакральную прастору Цэнтра. У Сініцах "расколкі" названы "сякерачкамі з хрэшчыкам", вынік дзеяння замяняецца на назву 'прынады'. Яго зменены 'статус' акрэсліваецца белаю "абгонкай". Пары арнаментальных элементаў — глухому ромбу і расколатаму ромбу з крыжыкамі — здаецца, ёсць амаль поўны паэтычны аналаг у юр'еўскай песні: "Разгуляўся Юр'еў конь — *разбіў* камень капытом..." з двума варыян-

тамі цудадзейнага выніку, калі “а *ў камені агню нет*” і “а *ў гарэху зерне ёсць — у дзевачак праўда ёсць*” (БНТ. Веснавыя песні. 1979. С. 173).

Аднак яшчэ адна рыса прыцягвае нашую ўвагу. Калі ў папярэдніх прыкладах знакі ‘абуджэння зямлі’ ўзнікалі ў цэнтры пасля знакаў ‘глухога’, ‘закрытага’ на краі, дык тут (**фота 241, 244**) “расколкі” ў цэнтры становяцца без пераменаў агульнай кампазіцыі. На іх месцы бываюць любыя іншыя ‘ўзоры цэнтра’. ‘Вялікі’ неглюбскі чын апявае тое, што ў Цэнтры. Страта семантыкі? Магчыма і гэта, як і тое, што пэўная ‘просьба’ цэнтра ўводзілася ў агульнае кола дзеяў календара, што і спарадзіла сённяшнюю кампазіцыю, якую мы ўспрымаем дэкаратыўна. А што бачым у сучасным ручніку? У Лядах у 1998 г. ткуць ‘раслінны’ ручнік, але ў сярэдзіне кожнай фігуры — старая ‘геаметрыя’ (**фота 274**).

Тэма абрадавага ‘звядзення на зямлю’ таго, што павінна адбыцца, — адзін з былых сэнсаў вылучэння арнаментальнага элемента. Робіцца гэта рознымі спосабамі. Калі пра ‘нашу’ “расколку” — дык прыклады з Колбаўкі, Селішча, Барталамееўкі ды Медзведзяў удакладняюць разуменне (**фота 196, 226, 227, 242**). Ручнікі, дзе браны чын перакладаецца на мову пераборнага ткацтва, нагадваюць білінгварныя тэксты (**фота 289, 363, 438**). Такім чынам, узаранне ‘чалавечае’ і адкрыццё зямлі ‘божым агнём’, расткі і “кусты”, ніва і лугі, дрэвы ды кветкі, плады становяцца ў Цэнтр ручнікоў як сімвалы касмалагічных і абрадавых зменаў, у цэнтры якіх — заўсёды найгалоўнейшы момант.

## 9. УЗОРЫ ЦЭНТРА Ў КАНТЭКСЦЕ ПАМЕЖНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

У развіцці формаў, у каляровым вырашэнні, у законе кампазіцыі кожны неглюбскі ручнік будуецца як сустрэчны шлях да Цэнтра і ўвасабленне ў ім сакральных сімвалаў. Падобна да таго дзейнічае і рытуал. Паловы рытуальнага калектыву рухаюцца наустрач, каб развярнуць у Цэнтры асноўныя дзеянні, ад карагодаў да протатэатру.

Па цэнтральнай паласе — “серядавым хрястам” (Негл.) — ручніку даецца і назва. “Васьмірогі”, “васьмірогі кучарявыя”, “вядзмедзі ў жалуддзі”, “дугі”, “елка”, “жалуддзе”, “звёзды”, “казлы”, “зоркі”, “калёсы”, “кацелкі”, “вялікая крывуля”, “кручча”, “лапа”, “лісце”, “лотаціны сушчэленыя”, “павукі”, “пагоны з казламі”, “пагоны з павуком”, “пагоны з яблакамі”, “пячэнне”, “самавары”, “хрэст у лапе”, “хрэшчыкі”, “хрясты”, “цэркаўкі”, “яблыкі” зафіксаваны як узоры Цэнтра (“серядавых хрястоў”) менавіта ў Неглюбцы. Частка з гэтых сімвалаў з’яўляюцца цэнтральнымі ў вобразах абрадавых песень (у Неглюбцы — “елка”, “казёл”, “цэркаўка”).

Мы робім здагадку, што пабудова адасобленага Цэнтра павінна мець тыпічныя і архетыпічныя рысы і асобы час-прастору, што характэрна для рытуалу і яго першага прататыпу. Сіметрыя рытуальнага часу адбіваецца і на яго адліку: да — свята — пасля, і ў навуковым азначэнні святочных дзеяў як *цыкла*. Сіметрыя ўзораў павязана з сіметрыяй у рытуальных дзеях па гэтай восі: стыхійны аб’ект (матэрыял) расчляняецца; выбрабляецца абрадавы аб’ект ды прыгатоўваецца да ўвядзення ў сакральны Цэнтр, дзе ён робіцца цэнт-

рам рытуалу і набывае звышнатуральныя якасці; затым — сіметрычна — выводзіцца з Цэнтра, разбураецца (расчляняецца) і часцінкі яго ўжываюцца як магічныя сродкі. Так ‘прачытаны’, узор набывае яшчэ большай архаічнасці: ён нагадвае аб часавым сэнсе дзеяў сустрэчных палоў рытуальнага калектыву — звярнуць у кола сам час, “обе полы сего времени”.

## 9.1. “Богава дарога” ў Цэнтры. Неглюбка і яе суседзі. Верашчацкая традыцыя

‘Зямлю’ Цэнтра (як і ўсю сіметрычную кампазіцыю ручніка) ахопліваюць белафонавыя ўзоры, дзе можна ўзнавіць сэнс ‘незямных’ знакаў. Тэма ‘нябеснага’ і, шырэй, ‘незямнога’ транспарту пераплятаецца тут з вобразам і самой дарогі ды істотаў, якія па ёй едуць. Параўнанне радоў жаніха і нявесты з двума радамі — сонца і месяца, здаецца, магло садзейнічаць і захаванню касмалагічнага чына арнамента, як і згаданыя намі вышэй формулы замоў, дзе касмалагічная пабудова проста “надзяваецца” на чалавека (зоркамі... месяцам... сонцам...). Зварот да нябесных і наогул ‘незямных’ стыхій, адухоўленае ўспрыняцце прыроды, як бы тое банальна не гучала, ва ўзорах атрымлівае ўражлівую дакладнасць. Гэта, магчыма, праява таго ментальнага фонда, які ўвасабляецца і ў моўных, і ў абрадавых тэкстах.

Адна з найстарэйшых тэмаў (індаеўрапейскага ўзросту) — гэта апазіцыя ‘безупыннасці-дыскрэтнасці’. Першы член у ёй характэрызуе стыхійнае, другі — культурнае. Апазіцыя вырашаецца на ўсіх узроўнях, пачынаючы з тэхналагічнага і абрадавага (першых ‘моваў’ культуры). Але тут мы звернем увагу на канструяванне арнаментальных элементаў як ‘безупынных’ і ‘дыскрэтных’, а з аб’ёму ‘стыхійных’ вылучым яшчэ больш вузкую тэму — тэму “крывуляў”, чым ‘плынь’ зноў-такі выяўляецца, пачынаючы ад руху ўзорнай ніткі праз аснову пры палатняным перапляценні, калі ўтвараецца самая дробная хваля: “калодачка “смешная”. Бачыш, дробненька *смяецца*” (Негл.).

На другім канцы цэлага шэрага “крывуляк” і “крывуляў” — “вялікая крывуля” (Негл.), хваля, якая драматычна аддзяляе цэнтр кампазіцыі ад яго чырвонафонавага ‘наваколля’. “Крывулі” розняцца яшчэ па форме азначэння руху. Адныя з іх — звычайныя хвалістыя, другія — сплеценыя, трэція — пульсуючыя. Згадаем яшчэ, што як “крывулі” асэнсоўваюцца і вертыкальныя ланцугі ў асіметрычных ручніках.

“Крывуля”, “крывулька”, “крывулькі” (паколькі іх самае малае дзве, як двое канцоў мае і прастора кампазіцыі ручніка **n-1-n**), “маленькая крывулька” — назвы тых, што ‘цякуць’ па краях узора. Пералічым толькі некалькі прыкладаў: фота 86, 176, 214, 220, 253, 256, 275, 323, 328, 335, 347, 403. “Вялікія” прыцэнтравыя “крывулі” часцей ‘пульсуюць’, але бываюць і павялічаныя ‘простыя’ хвалі (фота 201, 252, 253, 258, 263, 317, 335). Звычайна гэтыя прыцэнтравыя “крывулі” акаляюцца крыжамі-“хрэшчыкамі” (“вераб’ямі”, “мушкамі”, “зёздачкамі”) альбо касымі крыжыкамі-“цярэшкамі”. Само гэта пульсаванне насычана ромбамі-крыжамі знутры.

Як “хрэст у крывулі” пазначаецца і пара злітых ромбаў з вялікімі крыжамі ў іх (гл. фота 250, 331, 334). Пра архаічныя сэнсы, што ўзнаўляюцца для гэтых арнаментаў, мы казалі вышэй.

Звернем увагу, аднак, на выпадак, калі "крывулі" не абступаюць 'зямлю Цэнтра', а самі з'яўляюцца ў Цэнтры. Гэта адметная рыса ручнікоў, тканых на ўсход ад Неглюбкі. "Вялікая крывуля", наогул, як адзначаюць майстрыхі, можа быць верашчацкім узорам, у старых тканінах часцей "калёсы". Дададзім, што ў чырвоным чыне прыцэнтравай "крывулі" не знойдзем, а краявая "крывулька" найчасцей прысутнічае і тут.

У Верашчаках, Верхлічах, Нясвоеўцы, Кацічах сустракаем устойлівую групу рэчаў з белафонавым цэнтрам і разнастайнымі 'нябеснымі' ўзорамі ў ім, а таксама і большую разнастайнасць прыцэнтравых белафонавых палос. Калі ў неглюбскіх ручніках больш распрацоўваюцца 'зямныя' ўзоры, дык ва ўсходніх іх стары фонд 'зямных' знакаў больш геаметрычны, меней распрацаваны. Новыя чырвонафонавыя арнаменты паступаюць з зоны Неглюбкі, на той час як белафонавыя — гэта вобласць распрацоўкі для ўсходніх майстрых.

З усходу — белафонавыя ручнікі. Іх успрымае міжрэчча Беседзі — Іпуці аж да Добрушскага раёна. Краснагорская (медзведская), дубраўская традыцыі працуюць з трох'ярускаю мадэллю Сусвету, шырыню ўзорных палосаў успрымаюць як паветра паміж зямной ды нябеснаю 'цвердзю', дзе фігуры бачныя 'збоку'. Але багата ў іх узятае ад цэнтрычных суседзяў. Іх Сусвет ствараецца не як цалкам стабільная пабудова, яна мае элементы 'шляху' праз ярусы да Цэнтра (рысы люстрана-сіметрычных ручнікоў). Фігуры носяць сінкрэтычны, планіметрычна-ярусны выгляд, гэта своеасаблівыя 'кентаўры', якія ўзнікаюць на мяжы. Іх важна і магчыма 'чытаць'. Што датычыцца "крывуль", дык белафонавыя Медзведзі захоўваюць 'кралявецкую' схільнасць да вертыкальных зігзагаў у сярэднім ярусе як даўняй выявы дажджу. Белы дубраўскі чын абірае гарызантальныя "крывулькі", пускаючы іх па ваколіцы свайго сінкрэтычнага ярусна-планіметрычнага 'сусвета', у гэтым сыходзяцца Дубраўка і Неглюбка.

Калі вярнуцца да "вялікай крывулі" ў Цэнтры, дык, знайшоўшы ў экспедыцыях 'чырвоныя' цэнтры ручнікоў Неглюбкі і 'белыя' ў блізкіх да яе вёсках, мы маглі лепш зразумець агульныя працэсы ўзаемадзеяння традыцый.

Але што прымушае канструяваць гэту кампазіцыю, выбіраць і самую "вялікую", "красную" "крывулю", ствараць апазіцыю 'сляпых' і 'відушчых' знакаў сонца, бачыць у чырвоных крыжах "красных барышняў"? Мы бачым, што праца майстрыхі з матэрыялам, які паступае ад "чужасельскай" традыцыі, напрыклад закладнога ткацтва, — глыбокі семантычны працэс. Ён прасякае ўсе этапы ўзаемадзеяння традыцый, але адбываецца гэта на ўзроўні індывідуальнага. Цэлы шэраг сітуацый выбару 'ўключае' семантычныя палі, актуальныя для свядомасці ткачыхі. Змадэлюем найпросты алгарытм: 1) аднясенне абранага знака да той альбо іншай групы 'сваіх' знакаў, на аснове чаго і вызначаецца 2) магчымасць увесці ўзор у прастору ўласнага ручніка; 3) 'пераклады' на блізкую тэхніку, ад чаго ствараюцца і 4) новыя прыёмы, якія парою не маюць аналагаў, бо тэхналагічнае ператварэнне — гэта ўжыўленне "чужасельскага" элемента ў тканны арганізм, маючы ўласныя рытмы жыцця. Аднак пры гэтым мяняецца і сама тканіна-'рэцыпіент': узнікае і асэнсоўваецца 5) тэхналагічнае, дэкаратыўнае і семантычнае на-

пружанне, пераадольванне якога, аднак, — не тры асобныя працэсы, а адзін. Арнаментальны элемент існуе ў кампазіцыі з другімі элементамі праз удзел у некалькіх фармальных апазіцыях, якія дзейнічаюць адначасова і ў адной прасторы. Сінкрэтычны вынік, тым не менш, павінен быць раўнадзейнаю сілаю і 6) вырашаць кожную з фармальных апазіцый, актуальных для гэтай традыцыі ў час стварэння. Адбываецца вызначэнне 7) месца, 8) колера фону, 9) лікавых радоў і ўвядзенне паўтору; нарэшце, 10) называнне (найменне). Усё гэта стварае прастору дзеяння традыцыйнага мыслення.

Нават дзесяць пералічаных дзеяў даюць тысячу дваццаць чатыры варыянты 'на выхадзе' (пры тым, што кожны раз выбіраюць толькі з дзвюх, у рэальнасці ж колькасць магчымасцей большая). 'Алгарытм', па якім дзейнічае майстрыха, зводзіць бездань магчымых вынікаў да пэўнай колькасці варыянтаў. Прастора пошукаў даследчыка імкнецца да адэкватнасці з прастораю традыцыйнай, хоць гэты працэс набліжэння й бясконцы. Узаемапаразуменне нараджаецца толькі як дыялог.

Ручнік 1910-х гг. з Верашчакаў (захаваўся ў Кацічах, узоры не названыя; **фота 341**) — амаль 'тэхналагічная інструкцыя' па ўтварэнню кампазіцыі з цёмных і белых палосаў арнаменту.

Зараз можна больш пільна зазірнуць у прасторы ручнікоў, дзе "вялікая крывуля" — пасярэдзіне. Вакол яе ў ручніку 1950-х гг. **(фота 326)** — 'зямныя' "расколкі", блізкія тым, што і ў творы 1910-х (гл. фота 341). Таксама можна разгледзець парныя крыжыкі паміж імі (адзнака сонечнага руху, агнявых, жыватворных зменаў у знаках раскрыцця зямлі). І гэтыя "бальшыя расколкі" — наступны, прыцэнтравы этап 'раскрыцця' тых маленькіх "расколак" (варыянты назвы: "хрясты расколатыя", "цярэшкі"), што на ўскрайку, на канцах кампазіцыі. Паміж гэтымі палосамі-'этапамі' — белафонавы ўзор, пазначаны падвойнымі крыжыкамі. Узор не названы. У сонечных "кацелках", "кацюшках" — выявы тыпу "калодзежа". Тэма нябеснага напаення зямлі? "Дзе маці плача — там рака цячэ, дзе сястра плача — там калодзежы", — спявае вясновая "Стряла" (ёсць адзінкавыя ўспаміны, што яе пелі і ўлетку, калі... не было дажджу).

Тры ручнікі (гл. фота 261, 325, **337**) маюць аднолькавую пабудову ў сярэдзіне кампазіцый. "Вялікая крывуля" ў Цэнтры ахопліваецца цёмнафонавымі "калёсамі па краснаму". Хто едзе па зямлі? Магчыма, яго сімвалы ў наступнай, белай паласе: грозны знак "кап'ё" (гл. фота 261), сонечныя "хрясты кучарявыя" (гл. фота 337). Больш позні ўзор (гл. фота 325) драбіць старыя "васьмірогі", але змяшчае іх у "кацелкі", каб каціліся па небе, дае дзеля таго і па пары крыжыкаў. Сучасная майстрыха ўспрымае 'нябесную' прыроду "васьмірогаў": "цярэшкі" ('матылькі'). На краявых палосах — знакі абуджэння зямлі, "расколкі", "хрясты расколатыя" (бо ёсць і "хрясты глухія"). У кожнай з палосаў — паміж "расколкамі" — крыжы: адзінкавыя светлыя (знакі зямлі — цёмныя; гл. фота 325), падвойныя (цёмныя знакі зямлі адмыкаюцца белымі "ключамі"; гл. фота 261), касыя крыжы тыпу "цярэшак" (гл. фота 337). Вясновы сэнс усіх ручнікоў — у магіі размыкання зямлі ды ў невядомым нам свяце з "вялікаю крывуляю" (Юр'я-Ярыла, Стряла-Сула?). "Сула" (варыянт "Стрялы"), дарэчы, назва кап'я. Гэтак, "кап'ём" завецца і адзін з узораў. Прасторавае асэнсаванне ўзора і ў тым, што крайні

ўзор прыкладу (гл. фота 325) названы "дарожкаю": "Дарожкі" розныя бываюць... Ручнік начынаеш ткаць — патчэш "дарожку" [24].

Калі дапусціць, што ўзор Цэнтра можа ў пэўны час фарміравацца як сімвал свята, дык цікавасць выклікае і ручнік з Нясвоеўкі (**фота 338**). У яго цэнтры — белафонавае ж "кап'ё", "капейко". Прыцэнтравыя чырвоныя палосы 'славяць' "лісьце" — больш характэрнае для Неглюбкі. Але ў ім колерам вылучаюцца касыя крыжы. Самое ж "лісьце", паназіраннях, аднаўляецца як сімвал вясновай зяляніны ды яе святаў. 'Нябесны' знак і 'зямны' звычайна паўтараюць у нечым адзін аднаго. Тут мы бачым, як "кап'ё" нябеснага "васьмірога" ў зямным варыянце 'прарастае' лісцем і кветкай. Архаічны матыў прарастання кап'я (стралы) праяўляе сябе ў розных традыцыях ручнікоў. Бліжэйшы да нас прыклад — дубраўскі (**фота 406**). Найболей яскравы ўзор мы знайшлі ў кнізе Вольгі Фадзеевай "Беларускі ручнік" (Фадзеева. 1994. С. 308). Ён таксама з Добрушскага раёна. Паказальна, што па чатырох вуглах маналітнай кампазіцыі — знакі тыпу "кап'ё". Яны — 'у паветры', маюць 'нябесны' характар.

Такім чынам, змяшчэнне 'нябесных' знакаў у Цэнтр верашчацкіх ручнікоў мае падасноваю прасторавае адчуванне тоеснасці 'верху' і 'цэнтру'. Неглюбка ж і ўвесь рэгіён даюць адасабленне 'цэнтральнай зямлі' 'нябеснымі' прыцэнтравымі палосамі. Адчуванне Цэнтра пры гэтым больш планіметрычнае, больш развіваюцца і зямныя этапы шляху да Цэнтра, рытуальны аспект. Апазіцыя 'верху' і 'цэнтральнай' зямлі здымаецца ў вобразе 'нябеснай цвердзі', божых дзеяў-прататыпаў, увасабленнем якіх на зямлі з'яўляецца рытуал (пад яго ўплывам, магчыма, сфармаваўся і 'арол-страла' з Краснагорскага раёна; гл. фота 217).

Бачна, што прастора ручніка не з'яўляецца аднароднаю і арнаментальныя элементы ды іх назвы адчуваюць яе як семантычную. Яны вырашаюць фармальныя праблемы як рэалізацыю старажытных бінарных семантычных апазіцый.

Чырвонафонавыя ўзоры сапраўды больш 'зямныя' і павязаныя тэхналагічна і вобразна з развітымі бранымі чынамі паласата-арнаментаваных чырвонакалодкавых ручнікоў.

Белафонавыя яўна разыходзяцца ды імкнуцца да двух палюсоў: тэм непарыўнай стыхійнасці, якая некалі заняла стыхійныя ж прасветы паміж чырвонымі палосамі, і выяўленчых матываў трох'яруснай па паходжанню кампазіцыі. Абодва полюсы менш павязаныя з бранымі чынамі, яны нясуць розную спадчыну закладаў і паходзячых ад іх белафонавых пераабораў. Магчыма, у 'паўночных' тканінах сустрэліся закладны і чырвонапалосны тыпы ручнікоў. У белым чыне 'паўднёвага' дубраўскага ручніка адчуваецца спадчына іншых браных чыноў: вертыкальных і паходзячых ад іх падоўжана-сіметрычных, а таксама паласатых узорнакалодкавых.

Дубліраванне часткі элементаў па цёмнаму і па беламу сведчыць аб дэкаратыўнай 'абыякавасці', але і аб тым, што побач развіваліся чырвоны і белы чыны. Яны вырашалі лёс непадзельных першаэлементаў, праводзячы іх праз этапы культурнай распрацоўкі. Апошняя ж мае старажытныя заканамернасці. Узаемнае пранікненне чыноў прыводзіць да складання бела-чырвонага чыну. Дэкаратыўныя працэсы ў ім, аднак, перадаюць глыбінныя

адчуванні ручніка як культурнай прасторы. Семантычную нагрузку нясуць і назвы. Некалькі культурных кодаў спараджаюць і некалькі груп асацыяцый. У апошні час перамагае раслінны код, у ім і патанаюць старыя апазіцыі, як ператвараюцца і элементы — з *васьмірогіх рагатых* — у *рожу кучарявую.*

## 9.2. "Дуб" у Цэнтры Сусвету. "Дубы" прыснянскія, дубраўскія ды неглюбскія "елкі"

Калі папярочнапаласаты цэнтрычны ручнік будуецца як шэраг этапаў ператварэння і ўзаемадзеяння арнаментальных элементаў, дык што з матываў шляху і абраду застаецца ў той традыцыі, якая будуе сусвет ручніка з трох ярусаў?

Новыя прыснянскія ручнікі нібыта наблізілі да нас цэнтральную цёмную паласу. Гэта амаль карцінка, верх і ніз у кампазіцыі рэдукаваныя да шэрагу палосачак і да карункаў з хвалістымі і касымі рытмамі. Але фон ткання — чырвоны, тая ж 'зямля'. Раслінны матыў у прасцейшым варыянце — "з вышыўкі" **(фота 51)**. У наступным прыкладзе ружы 'ўзгадваюць', што яны павінны расці на дрэве. З'яўляюцца і два крыжы (адзнака святога і нябеснага?). Гэта ўжо завецца "дуб" **(фота 52)**. Цікава, што 51 і 52 — канцы аднаго ручніка.

Вяршаліна падвойваецца, як у 'жаночага' варыянта дрэваў **(фота 53)**, тады іншы канец ручніка павінны даць 'мужчынскі'? Сапраўды, вертыкаль выяўленая, "рожа" на вяршаліне пазначаная наканечнікам стралы ці кап'я, лісце разышлося па дыяганальным восям — касым крыжом. 'Выгляд збоку' дапаўняецца планіметрычным успрыняццем **(фота 54)**, параўнайце з неглюбскімі "елкамі" (гл. фота 266, 267). Наступны ручнік **(фота 55, 56)** надае розным сваім канцам характар фантастычных істотаў.

Адна мае 'чэрава' ў выглядзе вялізнага ромба (жаночы знак зямлі і нагул 'месца'). У ім — адно ў другім — крыжык-'зерне' — у зорцы-"васьмірогу", тая — у кветцы-"яблаку", да таго ж пазначаным васьмю крыжыкамі на пялёстках, яно ж узбройваецца чатырма "стрэламі". 'Ствол' дрэва (альбо верхняя частка чалавечай фігуры) мае крыжык на ўзроўні сэрца, ад яго — дыяганальна — чатыры парасткі, верхнім надаецца выгляд рук. 'Галава'-прамакутнік з двума крыжамі-'вачыма'. Па баках фігуры — велізарныя расты.



Мал. 35. Пра ўзор "дуб" расказвае Кавалёва Алена Іванаўна, 1911 г. н. Дубраўка (Добрушскі раён). 1999 г.

Другі канец ручніка развівае тую самую тэму. Але ў 'чэраве' фігуры — не зорка-кветка, а крыж. Сярэдзіна 'дрэва' мае складаную форму. У геаметрычным чыне гэта было б "кручча" (знак ураджаю ды нараджэння). У антрапаморфным кодзе мы бачым гарызантальную фігуру, якая чытаецца даследчыкамі як 'рожаніцы'. Верхняя частка — палова ніжняй, але крыж, які выходзіць, мае ў сабе крыжык, тады як той, што ў 'чэраве', — "глухі". Магчыма, што фігуры абодвух канцоў ручніка — жаночыя. Розніца ў тым, хто ў чэраве, — крыж альбо кветка. Такія ручнікі маглі б ткацца на ўдалыя роды як сына, гэтак і дачкі. Калі б дапусціць неверагоднае і прасіць з дапамогаю ручніка менавіта сына, дык апошняя тканіна дадае да 'мужчынскага' ўзора знакі народзінаў... Не меней фантастычным падаецца і сведчанне адной са сталых вясковых жанчын — наведвальніц музею. У 1987 г., пабачыўшы гэты ручнік, яна сказала: "Да ета ж рожаніцы!" (вясной 1987 г., у час стварэння экспазіцыі, зап. Лявоньцева С. І.).

Мае свой "дуб" і дубраўская традыцыя. Яна белафонавая. Сярэдні ярус — месца расліннага аб'екта, верх і ніз — з тэндэнцыяй да сіметрычнасці, там змяшчаюцца зоркі, ахова-"салдацікі", "бабачкі". Калодкі — межы ярусаў — часта маюць "вочкі", ёсць на іх знакі "стрэл" (гл. фота 395). Час, калі Сусвет наскрозь бачны. Дубраўскі "дуб" — таксама розных відаў. Але гэта можна выявіць толькі ў параўнанні тканінаў, бо канцы — аднолькавыя. Усе "дубы" развіваюцца як касмалагічная вось 'ад зямлі да неба'. Адначасова вершаліна планіметрычная. Дыяганальныя напрамкі галінаў, што растуць ад цэнтру, — перавод адной мадэлі Сусвету ў другую (такое ж галлё ў "дуба" з Прысно; гл. фота 54).

'Зорны' характар прыцэнтравых палосаў (шэсць з васьмі ручнікоў маюць гэткую кампазіцыю) — пры тым, што зорка робіцца галоўным аб'ектам дзеяння ў мностве тканінаў дубраўскай традыцыі (гл. фота 368, 369, 370, 372) — можа несці асаблівую інфармацыю. Але знак ужо 'растварыўся' ў раслінным новым кодзе: "рожынкі". Нябесны характар яму надаюць крыжыкі (гл. фота 395) ды 'пазіцыйныя сінонімы': у іншых кампазіцыях знаходзім тут "кацельчыкі", "сонца" (дарэчы, яно таксама зрабілася "рожай", "рожынай у абводцы"). Вакол "дуба" бываюць "бабачкі" (раслінны код пераасэнсоўвае і іх, варыянты назвы — "любісціна", "любістак"; **фота 391**). Абарончы, ахоўны сэнс захоўваюць на тым самым месцы "салдацікі" (гл. фота 388).

Найбольшую цікавасць выклікае цэнтр ствала "дуба". Калі адныя дрэвы маюць тут пашырэнне-ромб (гл. фота 388), дык у іншых — пара 'колаў', 'насаджаных' на ствол-вось (гл. фота 395), альбо адно і другое разам **(фота 392)**. Адзін з "дубоў" мае тут касы крыж **(фота 393),** яшчэ адзін — штосьці падобнае да "жабкі" **(фота 394)**. Пары крыжоў па баках дрэва (гл. фота 392, 395) сведчаць пра сонечны характар цэнтра. Амаль абавязковая сістэма з параў складаных крыжоў і ў пабудове самога ствала (гл. фота 388, 389, 393, 394, 395). Калісьці мы выказалі здагадку, што гэтакі "дуб" — дрэва ў час свята летняга сонцавароту (Нячаева. 1997б. С. 27—28). Калі ў кампазіцыі з "дубам" тэма "калёсаў" (Негл. ды інш.) не рэалізавана адразу ясна, яны ткуцца яшчэ раз — па баках ствала (гл. фота 390, 391).

Варыянт назвы дубраўскага "дуба" — "крылле", што характэрна і для цёмнафонавай прыснянскай традыцыі (гл. фота 54), якая дае рад назваў "дуб"-"крылле"-"млын". Развіццём кампазіцыйнага цэнтра "дуб" з'яўляецца ўзор "дуб з яйцамі" **(фота 396)**. Незалежна ад паходжання ўзора "дуб з яйцамі" і жартоўнага элемента ў яго назве, тэма "гнязда" на вершаліне (у Цэнтры) распачынае тэму этапаў, календара ў 'птушыным чыне'.

## 9.3. Дрэвы-мужы і дрэвы-жоны

Мы падыйшлі да гэтай тэмы, калі ўпершыню разглядалі дубраўскую традыцыю. У параўнанні з сінкрэтычным "дубам" узор "хрэст" уяўляе сабой ідэаграму Сусветнага Дрэва ў яго планіметрычным варыянце (гл. фота 373, 377, 378). Падобнае мы бачылі і ў неглюбскіх "павуках" (гл. фота 246, 266, 333, 334, 344). Раслінны код, з дапамогай якога апрацоўваюцца геаметрычныя вобразы, у Дубраўцы мае больш натуралістычны выгляд. Крыж дае дыяганальныя парасткі і квітнее па прамых галінах. Аднак той факт, што на канцах прамога крыжа ва ўзоры "елка" Неглюбка тчэ "шышкі" (гл. фота 266), а самі кветкі ў дубраўскім узоры "хрэстам" вельмі нагадваюць яйкі, дае магчымасць меркаваць, што сённяшні выгляд узора не першасны. Адна з назваў — "лапатай" — супадае з назваю стараабрадчага літога крыжа (з дадатковымі клеймамі вакол дрэва крыжа). У тканым узоры мы таксама бачым квадратныя 'дадаткі'. Цікава, што ў неглюбскім шытве белаю лікавай гладдзю квадрат з чатырма "вакенцамі" і крыжам паміж імі завецца "абразкі". Хрысціянская тэма, асэнсаванне ўсіх крыжоў ва ўзорах як святых — неад'емная асаблівасць іх успрымання ў традыцыйнай культуры. Дый увесь ручнік успрымаецца адухоўлена: "У нас жылі старыя дзевы — "манашкі", нашыя ж, яны ручнікі ўдвая ўздоўж складалі, як вешалі (а мы ж расьпінаем на рагульку). Казалі: "Ета вы распінаеця ручнік. Хрыста распялі, дак і вы распінаеця!" [25].

Менавіта агульныя вобразныя матывы развіцця архаічных сімвалаў у кананічнай і народнай культуры падтрымліваюць існаванне гэтых знакаў.

Ці выпадкова ўсе палосы ўзораў у закладных ды пераборных ручніках завуцца "хрястамі"? "Мне так думаецца: таго ж хрясты дзелаюцца, што б яно ўсё саедзінілася. З хряста ідзець уся фігура". І яшчэ: "А хрэст-"верябей" — штоб было ў што чапацца лістам" [26].

Вакол дрэва-"хрэстам", у верхнім ды ніжнім ярусах бываюць "салдацікі", "зоркі" і "сонцы". Калі прыклад 373 —



Мал. 36. Хвоя з дзвюма вершалінамі на шляху да Сіняга Калодзеза. Мяжа Веткаўскага і Чачэрскага раёнаў. 1998 г.

абсалютна сіметрычны, ‘вясновыя’ “жабкі” (Негл.), “жучкі” (Дубр.) па краях потым узнікаюць “у сярёдку” васьміканцовых зорак-“сонцаў”, паміж якімі ў Цэнтры і размяшчаецца “хрэст”, дык у 374-м гэтыя сімвалы — толькі ўнізе і ў “сонцах”. Паміж наступнымі палосамі — калодкі з “хрэшчыкамі”. Пары “хрэшчыкаў” і вакол “сонцаў”. Тэма скразной прасвечанасці, асвятлення і асвячэння Цэнтра ‘ўздымаецца’ тут праз усе ярусы кампазіцыі — да белай сярэдзіны ручніка.

Назву “дубам” аднойчы мы запісалі і для ўзора, які ў большасці выпадкаў завецца “самаварам” (гл. фота 380). Апошняя назва — тыповая для ўспрымання многіх рамбічных фігур, асабліва тыпу ‘кубкаў’, усімі мясцовымі традыцыямі (у Казацкіх Балсунах — “самавары малыя”, “стаканы”, “стаўпцы”). Але дубраўскі “самавар” нездарма названы “дубам”. Падобна “дубам”-крыжам гэта фігура дае дыяганальныя парасткі. Часам яна змешчаная ў касмалагічны цэнтр, бо вакол рухаюцца “кацельчыкі”, у якіх мы бачым сонечныя сімвалы, па краях верху ды нізу ‘цячэ’ ўзор тыпу “вялікая крывуля” (гл. фота 373). У іншым выпадку, навокал — ‘нябесныя’ “бабачкі”, па краях — “крыўуля” (**фота 381**). “Усяродку” такога ромба — нешта падобнае да вакенца, у ім — знак “калодзежа” (тэрмін Негл.; **фота 272**). Ён “глухі” альбо — у рамцы-зрубе — знак, які нагадвае “жабку”, “жучка”. Абрадавы сэнс узора мы спрабавалі ўзнавіць раней (Нячаева. 2001б. С. 36—48).

“Самавар”-“дуб” у параўнанні з “дубам”-“хрястом” — жаночы сімвал. Вялікі ромб можа быць нашчадкам таго ўзора, які ў браным ткацтве з’яўляецца архаічным сімвалам раслiннай сілы зямлі, ромба з парасткамі. Змяшчэнне ў ромб “калодзежа”, ‘прарастанне’ ромба дыяганальнымі амаль натуралістычнымі галінамі (як і падобныя працэсы з “хрэстам”) магчымыя толькі ў тым выпадку, калі ўспрыманне ромба альбо крыжа дапускае яго “зямное” ці “дрэўнае” разуменне. Гэта значыць, што ўспрыманне старажытных сімвалаў у іх прамым сэнсе было жывым на момант аб’яднання геаметрычных знакаў з раслiннымі элементамі. Адна з назваў “дуба” — “крылле”. Аднак “крылле” і ‘крылатая’ лістота ва ўзоры: “Етае “крыло”-“лісце” нада было развярнуць...” (параўнайце словы ‘папараць-кветка’ і ‘папараткі’, якія абазначаюць пер’е ў крылах). Апазіцыя ромбаў-дрэваў і крыжоў-дрэваў уваходзіць, відавочна, у агульную апазіцыю жаночых і мужчынскіх дрэваў. Разумеючы, што такі аб’ект можа быць абрадавым сімвалам, мы былі рады знайсці ручнік, у якім ромб-“дуб” сапраўды нагадвае рытуальны аб’ект, бо ў гэтай кампазіцыі ‘называюцца’ і ўдзельнікі абраду **(фота 415)**. Рытуальныя дзействы з калодзежам у час выклікання дажджу — факт, вядомы і ў мясцовых традыцыях. Расшыфроўка гэтага ручніка як мадэлі абрадавага дзеяння была прапанавана намі раней (Нячаева. 1997а. С. 72—73).

Дарэчы, змяшчэнне культавага сімвалу ў ‘верхнім’ ярусе дадзенай кампазіцыі вызвала ў свой час цяжкасці ў разуменні ‘нябеснага’ сэнсу гэтай ідэаграмы зямлі квітнеючай. Дзейснасць архетыпаў у мысленні актуальная і для сённяшняй свядомасці. Так, набыўшы ручнік, які пазней мы прачыталі як ‘маленне аб дажджы’, мы па сучаснай асацыяцыі жартам назвалі яго ‘разгрузка лятаючай талеркі’, бо выява агромністага працвіўшага ромба была менавіта ў нябесным ярусе, адкуль антрапаморфныя фігуры ‘неслі’ збаны, нібыта ‘гуманітарную дапамогу’.

Жартоўная назва прывяла да вырашэння сур'ёзнага пытання аб зонах кампазіцыі ручніка ўздоўж яго восі. Так, раней выявілася супадзенне прадольнай восі ручніка з рытуальнай воссю (як праявай архаічнай сінкрэтычнасці — абрадаваю актуалізацыяй рытуальнага альбо касмалагічнага сэнсу ручніка ў залежнасці ад яго гарызантальнага альбо вертыкальнага 'ўжывання'). Але ў дадзеным выпадку гэтага было недастаткова. Напрамак руху чалавечых постацей паміж дзвюх хвалістых струменяў дажджу патрабаваў свайго вырашэння. Менавіта архетып атрымання цудадзейнага дару правакаваў бачыць рух ад 'лятаючай талеркі'.



Мал. 37. Двух'ярусны Кут. Верхні ручнік "хрэстам" і ніжні "самавары". Па рэканструкцыі гэта "дрэва" і "зямля" — мужчынскі і жаночы сімвалы

Аднак у традыцыйным мысленні гэтай 'узнагародзе' папярэднічае магічнае дзеянне 'да неба'. Пошукі абрадавых адпаведнасцей прывялі да размежавання прасторы кампазіцыі 'вертыкальнага' тыпу на цэнтральную частку ўздоўж сярэдняй восі і зоны ўскрайкаў паабапал гэтай сярэдняй зоны. Удзельнікі рытуалу (фігуры сярэдняй часткі) 'ішлі' да рытуальнага аб'екту, г. зн. уздымаліся ўздоўж восі. Струмені дажджу ахоплівалі іх як нябесная 'аддзяка' магічнаму дзеянню, спускаліся да нізу (падрабязней — у пазначаным артыкуле).

Як здаецца, паўтор сітуацыі адбыўся і для іншых даследчыкаў: "В Черниговском Полесье... рушники со сложными композициями в виде геометрических, зооморфных и растительных геометризованных мотивов... отдельных крупных центральных фигур — двуглавых орлов, светильников, восьмиконечных звёзд, а также *космических летательных аппаратов*" (Мельничук. 2000. С. 22). Што датычыцца да выяўлення ўзыходнага ды сыходнага напрамкаў руху ў асіметрычнай вертыкальнай кампазіцыі падобных ручнікоў, дык гэты выяўленчы 'пераклад з геаметрычнага' дазваляе больш слушна адносіцца да калісьці адчутага намі сустрэчнага руху ў асіметрычных вертыкальных ланцугах арнамента прыснянскага тыпу — з яго 'ліўнямі' і 'растамі'.

Ромбы-дрэвы адрозніваюцца "глухімі" і 'адкрытымі' калодзежамі ў іх (гл. фота 380, 381, 415). Але апазіцыя 'глухога' і 'адкрытага' можа вырашацца ў межах адной кампазіцыі. Ёсць у дубраўскай традыцыі ўзор, які зводзіць асобныя ромбы ў вертыкальны ланцуг (што характэрна для прыснянскіх ручнікоў). Такі ўзор і завецца "самавары" (гл. фота 383). А яшчэ — "бесканешнік". Атрымана і назва "гробам". Ромбы, якія чаргуюцца, маюць у сабе альбо 'калодзеж', альбо меншы ромб — "глухоўку" (дубраўскія "ромбачкі"). 'Калодзежы', зноў-такі, альбо "глухія" — для ўсяго ланцуга, альбо з "жуч-



Мал. 38. “Чалавеку — ручнік, жонцы — фартух”. Але чаму на крыжы толькі палова ручніка? Клеевічы (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

ком” (назва ўзноўлена па аналогіі з фігуркамі-“жучкамі” на вузкіх прыцэнтравых палосах). З “глухімі” калодзежамі — **фота 385**. З ускладнёнымі фігурамі — фота 382, **383, 385**. З “жабкамі” — **фота 386, 387**. Фігуркі “жабак” могуць мець у сярэдзіне чырвоныя крыжыкі, нібыта пазнакі жыцця, агню (гл. фота 386). Прыклад 387 дае змену колеру — у ніжнім ромбе “жабка” мае чорныя часткі, у верхнім — цалкам чырвоная. Глухія “ромбачкі” часцей за ўсё вызначаны колерам, але ў адным з выпадкаў гэты знак закрытага мае ўнутры чырвоны крыжык. Усе гэтыя адрозненні, магчыма, маюць семантычнае паходжанне, бо рэалізуюцца паслядоўна.

Так альбо інакш, вертыкальны ланцуг ромбаў у геаметрычным чыне арнаменту прыснянскай традыцыі складаецца з падобнага чаргавання **(фота 9, 28)**. Глухі ромб замяняецца тут ромбам раскрыжаваным і ‘прарослым’ (ідэаграма нівы з парасткамі), у чым можна бачыць перамены ў стане зямлі-жанчыны і, наогул, пульсацыю жыцця. У параўнанні з гэтым архаічным арнаментам дубраўскі “бесканешнік” выглядае як пераклад адвечных ісцінаў на новую мову. Дастаткова глянуць на тое, якія з ромбаў “бесканешніка” ‘прарастаюць’. Асабліва яскрава тэма расліннага буяння і пладоў выяўляецца ў прыкладах 383 і 386. У палосах-“прыстаўках” “бесканешніка” часцей за ўсё — матыў “бабачак”. Роля матылькоў і жабак у міфалагічных уяўленнях добра вядома і зафіксавана намі на мясцовым матэрыяле.

## 9.4. Ручнікі “арол” і “чалавекам”. Традыцыя Медзведзяў Краснагорскага раёна

Калі мы гаворым пра ‘геаметрычны’, ‘раслінны’, ‘антрапаморфны’ і ‘арнітаморфны’ стылі арнаменту, дык тое, хутчэй, катэгорыі нашага апісання. У жывой стыхіі ўзорнага ткацтва, асабліва ў рэгіёне ўзаемадзеяння традыцый, мы маем справу з ужываннем элементаў розных стыляў на адной тканіне. Мы імкнемся адчуць працэсы формаўтварэння арнаментальных элементаў ды іх кампазіцый як функцыю ўзаемадзеяння ментальных працэсаў, вобразных плыней, актуальных для саміх носьбітаў традыцыі. З гэтага пункту гледжання той ці іншы стыль арнаменту — вядомы тып культурнага коду, які пашыраецца за межы ўзораў ткацтва, перакладаючы на сваю мову вобразы абраду і моўнага фальклору. Ён абірае тую альбо іншую асацыяцыю ў асэнсаванні і ўтварэнні формы ды яе наймення.



Мал. 39. Гаспадар у двары. Забор’е (Краснагорскі раён). 1998 г.

Гэтак, ва ўзоры, дзе мы знаходзім чаргаванні 'жаночых' і 'мужчынскіх' дрэваў (гл. фота 406), адчуваецца іх антрапаморфнасць. Сведчанні замоў, дзе "дуб Данііл" (К.- Балс.), "дуб Мільян" (Прысно), "адна рэчка — Марына, другая — Кацярына..." (Дубр.), робяць нашае адчуванне больш слушным. Таксама як і тлумачэнне майстрыхаю менавіта згаданага ўзора: "лялькі як лялькі..." (параўнайце: "Фігурні зображення... під назвою "чоловічків" або "лялечок". Гл.: Сидорович. 1959. С. 86, 88).

Фігура двухгаловага арла на нашых ды суседніх ручніках, незалежна ад архаічных каранёў свайго паходжання, лічыцца не проста перайманнем (пераводам на тканіну) выразнай фігуры царскага герба, але ўплывам кралявецкай ткацкай мануфактуры, якая засвоіла гэты матыў на сваіх ручніках. Дзейнічала яна з XVIII ст. на тэрыторыі былой Чарнігаўскай губерні (да якой адносіліся землі і часткі 'нашых' традыцый. Падрабязней аб промысле — гл.: Абрамов. 1903. С. 26—27; Карась. 2002. С. 25—28).

Вопыт вывучэння паўночна-рускіх тканінаў ды нашыя мясцовыяназіранні паказваюць далёка не механічны працэс пераймання. Ручнік з Верашчакаў (гл. фота 328) змяшчае ў кампазіцыю 'цякучыя' і 'нябесныя' знакі. Чырвонафонавая традыцыя месціць "арла" ў Цэнтры, але аддзяляе яго зямлю ад іншых 'зямных' зон (гл. фота 210) белафонавымі палосамі з патройнымі знакамі — салярнымі сімваламі. Знакі гэтыя ткуцца адметнаю тэхнікай. Птушкі краявых палосаў ідуць да дрэва паміж імі ў адпаведнасці са старажытным канонам рытуальнай кампазіцыі.

'Арловы' ўзор ручніка з Медзведзяў **(фота 198)** узнаўляе касмалагічную вось і тры часткі яе (ніз-сярэдзіна-верх) у цэнтральнай паласе. "Арол" амаль страчвае геральдычныя рысы. Стоўп-жазло ўнізе, магчыма, быў яго хвастом. Антрапаморфная фігурка ўверсе вельмі нагадвае тыя, што 'нараджаюцца' з вышываных паўночнарускіх 'арліц' альбо 'ўзносяцца' над імі (Изобразительные мотивы в русской народной вышивке. 1990. С. 114). Магчыма, загадкі, дзе ў вобразе арлоў выступаюць... хрэсьбіны, альбо кампазіцыя з катлом, дрэвам і арлом, якая разгадваецца як "век человечий", — таксама важныя для разумення 'арловых' матываў (Садовников. 1959. С. 90). Хаця фігурка з галавой-крыжыкам нагадвае і 'цыбулінку'-галоўку царквы, але аддзеленую ад арловага тулава. Узор названы "булавы".

Ператварэнне фігуры арла і вылучэнне ў ім антрапаморфнага элемента адбываецца і на іншым ручніку **(фота 199)**. Былая карона можа чытацца і на гэты раз як верх царквы, чыё цела — крылатая птушка. У яе тулаве — светлы крыж. Сонечныя знакі вакол фігуры выцягнуліся па вертыкалі, але лік захоўваецца: 4 вялікіх ды 4 малых. Унізе па баках — два крыжыкі, устойлівы знак 'нябесных' якасцей. Верхнюю і ніжнюю палосы займаюць пары больш кананічных арлоў. Крыжыкі над арламі — на прамяністых слупках, але і яны — парныя. Паміж арламі — слупы "глуховак" асаблівага выгляду. Параўнанне з больш дэталёвымі кампазіцыямі (ручнік з назваю "арёл з цэркаўкай") дае магчымасць убачыць у гэтых "стаўпцах" сонечныя 'стаўпы' (гл. фота 208). На белым полі ручніка — узоры тыпу "вочак", ускладнёных у 'арловай' кампазіцыі.

'Вочы' з падвойнымі парасткамі — і на полі іншага 'арловага' ручніка (гл. фота 197). Геаметрычныя і геаметрызаваныя элементы суправаджаюць цэнт-

ральную кампазіцыю. Мы бачым фігуры тыпу "расколак", "цярэшак", "козлікаў", крыжыкі-"веряб'і" — усё тое, што бывае на палосах у пазіцыях 'абуджэння зямлі'. Ніжнія крыжы — з крыллем альбо... на чаўнах (гл. блізкі 208).

Калі перавярнуць арлоў, атрымаюцца чалавечыя фігуркі. Гэта і робіць ручнік з прыкладу 413. Сонечны чын тут поўны. Паміж фігуркамі-блізнятамі з сонечнымі галавамі — зігзаг, які абсалютна трапляе ў рад сімвалаў дажджу. Аднак сёння ў самой традыцыі цэнтр называюць "арёл", а ў сонечных знаках бачаць не толькі "кацелкі", але і "кветачкі". У большасці фігур арлоў на месцы гербавага знака на тулаве — архаічныя сімвалы (гл. фота 197, 199, 200, 208, **210**).

Зігзаг як сімвал дажджу — і паміж фігурамі арлоў (іх назвалі "рыбкамі") у прыкладзе 200. Фігуркі ўнізе завуцца "дубкі". Амаль паўсюдна на 'арловых' ды іншых белафонавых ручніках — узор, які нагадвае матылька альбо профіль катушкі, вядомы па тыпалагічным матэрыяле, асабліва з археалогіі, як падвойная сякера-"лябрыс" (гл. блізкі да нас прыклад зарубінецкай культуры з Чапліна. Мал. 96:1). У прыкладзе 328 'катушкі' і "кацельчыкі", магчымыя салярныя знакі, дублююцца (чатыры разы па кутах). Да таго ж "катушкі" даюць мноства варыянтаў ускладнення, ажно да стаўпоў (матывы 'лябрысаў'-'катушак', гл. таксама: Кацар. 1996. Іл. 329, 330, 333, 533, асабліва іл. 532, дзе 'бабачкі' на фоне 'рук' і 'галавы' антрапаморфнай фігуры абсалютна супадаюць з археалагічным прыкладам з Чапліна).

Тэма атрапаморфных фігур 'з узнятымі рукамі' альбо рознымі рэчамі ў іх — агульнавядомая. Найчасцей сёння ў іх бачаць "самавары" альбо "падсвечнікі". Аднойчы была запісана назва "дубкі" (гл. фота 190, **200**), як і для падобных фігурак, што набылі раслінны выгляд дрэваў-стрэл; яшчэ раз іх назвалі "лялькі... чалавечкі". Здаецца, падоўжана-сіметрычныя браныя ручнікі Дубраўкі, якія ўдзельнічалі ў абранні такой жа падоўжана-сіметрычнай кампазіцыі пераборнымі тканінамі, паспрыялі захаванню альбо ўзнаўленню вельмі архаічных матываў. Адзін з характэрных прыкладаў дубраўскай традыцыі — ручнік "стоўпам" **(фота 412)**. Ён утрымлівае і вялізную вертыкальную антрапаморфную фігуру — "стоўп" (з 'дахам' над ім), і зігзагі дажджу абапал яе, і 'птушыны чын' у палосах-"прыстаўках" ("падузорніках"), дзе птушкі сядаюць не на дрэвы, а на фігуру двухгаловай птушкі (параўнай міфалагему пра *верхні ды ніжні* шляхі ў вырай). Ніжэй за ўсё ў ручніку "стоўпам" — гарызантальная "крывулька", і гэта адзіны прыклад, калі ў ручніку ёсць і вертыкальныя, і гарызантальныя знакі вады. Не прынята семантычна аналізаваць такія кампазіцыі, у беларускім ткацтве яны ўспрымаюцца як запазычаныя. Аднак паўната ўзнаўлення 'касмалагічнага чыну' ў ручніку "стоўпам" сваёй паўнатою блізкая да архаічных рускіх тканін. Яны ж пераканаўча адносяцца па сваіх матывах да часоў, адлюстраваных у летапісах: "Написавше свет в болван и кланяются твари..." (гл.: Лихачёва. 1969. С. 70). Блізкі па рытму да дубраўскага "стаўпа" — безыменны ручнік з Медзведзяў **(фота 195)**. Ён таксама мае нейкую 'пабудову' ў сваім цэнтры. Але вакол антрапаморфнай фігуры — хрэставыя 'стаўпы'.

Фігуры, якія '*нясуць сонца*', — і ў прыкладах 208, **216**. Чалавечая, жаночая фігура ў сярэднім ярусе ручніковага сусвету паміж верхнімі і ніжнімі "арламі" — 'кралявецкая' тэма і балсунскіх (гл. фота 188), і дубраўскіх ручнікоў **(фота 411)**.

Тыя, што маглі ткаць падвойнае альбо патройнае па вертыкалі "кручча" ў браных ручніках, наўрад ці думалі аб сэнсе такога дзеяння з чалавечаю фігураю. Але, калі жаночую фігуру выткаць двойчы — адна на адной, — атрымаецца старажытная ідэаграма руху, рытуальнага шэсця ў яго касмалагічным сэнсе (гл. фота 415. Аналагі з большым кралявецкім уплывам гл.: Кацар. 1996. Іл. 532). Калі тую самую фігурку паўтарыць па прынцыпе адлюстравання (як у ігральных картах), яна будзе аднiчасова выяваю малення (жэст рук да неба) і атрымання дароў, бласлаўлення, аховы таго, што ўнізе (гл. фота 414).

Такі ж самы падвойны напрамак і ў ахоўнага, абярэжнага ўзора "салдацікі", што стаяць зверху і знізу ад цэнтра. Рух замыкаецца на сябе, кампазіцыя робіцца дэкаратыўнаю. Але ранейшы сэнс замыкання руху быў рытуальным. Два сустрэчных рухі — ад абрадавага шэсця да радзіміцкага пахавання пары — галовамі ў розныя бакі — замок для тутэйшай магчымасці рухацца далей, бо дайшлі да пункту сустрэчы, замыкання рытуала. У той жа час — гэта момант і пункт Першапачатку, адкуль Сусвет пачаўся (такі імпульс у старажытнасці даў і фігуру *'рожаніцы'*). Гэта пераключэнне рытуальнага руху — у касмалагічны, перпендыкулярны да рытуальнай восі. Далей па сэнсу — гэта пераключэнне з руху фізічнага, па паверхні ды цвердзі — у рух да неба, на ментальны ўзровень. Для нас гэта — пераключэнне з рытуальнай дзеі ў знакавую (гэтак рытуальны крыж з саломы ўзнімаецца як знак на Покуць і адтуль вяртаецца магічным сродкам, узвышае якасць насення). *Дэкаратыўны прынцып, такім чынам, нясе ў сабе зерне адной з першых ментальных формул.*

Фігура ў позе 'аранты' (малення з паднятымі рукамі і раскрытымі далонямі) на адным з ручнікоў абмежавана не зігзагамі дажджу, а ромбамколам, вытканым з такой жа, як у дажджавых струменях, пульсуючай паласы **(фота 432)**. Гэта "абводка" нагадвае падобную ў дубраўскім узоры "сонца". Магчыма, выява роднасная тым, у якіх даследчыкі бачаць 'сонечную калясніцу'. Больш 'цьмяны' варыянт 'кола-сонца' (альбо 'кола-хмары'?) у прыкладзе **202**.

Архаічная кампазіцыя яднаецца з новымі натуралістычнымі выявамі ў ручніку з Лецяхоў **(фота 172)**. Жаночая фігура і сонечныя колы змешчаны паміж стаўпоў дажджу. Яна, нібыта малельніца, перадстаіць таму, што бачна вышэй. Гэта "краявід", вышыты крыжыкам (могілкі?), з дрэвамі, на якіх — зязюлі, а пасярэдзіне — крыж. У прыкладзе (фота 190) фігура паміж зігзагамі й сонечнымі знакамі — у кампазіцыйным цэнтры, а малыя антрапаморфныя постаці ў позе малення — вышэй і ніжэй, на палосах 'перадстаяння'. Па 'небе' ручніка коцяцца па чатыры сонечных колы.

Жаночая фігура паміж зігзагамі дажджу — у цэнтры паміж палосамі з арламі **(фота 209)**, альбо наадварот, дзве фігуры вакол арла **(фота 207)**. Толькі прыклад **(фота 191)** удакладняе сітуацыю, зводзячы ў цэнтры дзве паласы з адзінаю для абедзвюх кампазіцыяй (як тое было ў ручніку "маленне аб дажджы"; гл. фота 415). Мы зноў бачым сілуэт з невядомымі сасудамі (збанамі) у руках паміж зігзагамі дажджу і дзею вышэй, 'на нябеснай цвердзі'. Там, дзе ў ручніку з 'маленнем' быў рамбічны сімвал зямлі з "калодзежам" і дыяганальнымі 'парасткамі', тут таксама фігура, роднасная ромбу, ды рас-

крыжаванаму, накшталт знаку 'нівы'. Але антрапаморфнасць падкрэсленая: на ўзнятых руках *па пяць пальцаў* **(фота 193)**. Адасоблена такая фігура (гл. фота 190) можа і не ўспрымацца намі як аб'ект рытуалу, бо рытуальны момант разведзены тут на фазы.

Геаметрычны знак, такім чынам, можа зрастацца з элементамі іншых стыляў арнаменту і ўтвараць 'новую' фігуру. Але пры гэтым цудадзейна акцэнтуецца і архетыпічная сутнасць знака. Ромб 'перажываецца' як квітнеючая зямля вакол крыніцы, 'месца' дзеяння рытуалу (гл. фота 381, 415). Зямля гэта, месца, на вачах змяняецца і ажывае (гл. фота 386).

Ромб можа стаць тулавам радзіннага сімвалу — "жабкі" (гл. фота 410) альбо чэравам-улоннем дрэва-жанчыны (гл. фота 55). Ён робіцца ўсёй фігураю, якая змяшчаецца 'на небе' (гл. фота 193). Тэма 'ёмістасці' ў ромбе нараджае бясконцыя варыянты "самавараў", "стаканаў", "каробачак". Тэма 'святасці', 'аховы', 'рытуалу', што дыктуецца прыцэнтравою зонай, дае рады фігур тыпу "падсвечнікаў", "цэркавак", ромбаў з крыжыкамі на іх (фота 194), узораў тыпу "салдацікі", "старцы". Пры гэтым у "падсвечніках" бачаць і "дубкі", а ў складаных дрэўцах з ромбамі ўсярэдзіне — "лялькі, чалавечкі".

'Воіны' ў кафтанах (гл. фота 410) у прыцэнтравай паласе суправаджаюцца парамі 'нябесных' крыжыкаў, якія мы бачым і ў амаль цалкам геаметрызаваным выглядзе балсунскіх "салдацікаў" (гл. фота 187). Нарэшце, у чын ручніка ўваходзяць простыя чалавечыя постаці, вядомыя яшчэ па кераміцы архаічных часоў. Такія ж робіць суцэльным чынам 'зямны' па фоне ручнік з Кунтараўкі **(фота 61)**. Што ён ухваляе і чаго жадае — відавочна. Каб род быў вялікім і ўсялякі знайшоў пару? Але непаўната кожнага з канцоў ручніка (у адным болей 'мужчын', у другім — 'жанчын') пераадольваецца толькі цэраз яднанне канцоў, ад чаго парнасць вяртаецца (адзін з прыкладаў асэнсаванага ўжывання 'лева-правай', рытуальнай (а)сіметрыі двух канцоў ручніка). Таму і ручнік можа быць 'выяваю' двух радоў. Яшчэ цікава, што левы канец мае зверху палоску стрэлак 'да неба', правы ж — 'ад неба'. Агульная логіка чытання магічных выяваў на ручніку захавана ў самой тэхналогіі і абрадавым вывешванні: злева ўверх — праз белую сярэдзіну ручніка — уніз па правым канцы. Тэма таго, што было напачатку і што павінна быць, рэалізуецца тут і праз парадак фігур, розных па памерах. На левым(?) — тры рады вялікіх ('дарослых') — два рады маленькіх, якія ідуць 'апасля' (пры тканні ад краю да сярэдзіны). На правым — зноў-такі тры рады вялікіх і пасля — два радкі 'дзетак'. Фігуркі згрупаваны па сем на адной паласе. Радоў — пяць. Лік, безумоўна, архаічны. Але ці мае ён значэнне альбо проста шчаслівы — невядома.

Калі гаварыць пра птушак, дык "вуткі" ткуцца і шыюцца з краю, "павы" і "куры" — бліжэй да сярэдзіны **(фота 168)**, і гэта вельмі архаічная апазіцыя. "Арлы" ж бываюць альбо ў 'птушыным' месцы — па нябесных палосах вакол цэнтра, альбо займаюць сам цэнтр, дзе найчасцей і трапляюць у 'энергетычнае поле' патрэбы выявіць найвышэйшыя якасці таго, што ўводзіцца ў сакральную прастору. Таксама і стварыць 'тэкст' таго, што адпраўляецца да неба ў рытуале і малітве. Таму "арлы" цэнтраў пераўтвараюцца ў фігуры фантастычнага для нас выгляду. Гэта своеасаблівы ўзаемаперaклад

розных, часам некалькіх кодаў культуры. Прыклад больш зразумелага — ручнікі **419 і 420**. Нарэшце, "арол" — любая фігура цэнтра (гл. фота 170). У апошнім прыкладзе бачна, як ромб-"ніва" прайшоў праз ажыўленне расліннай семантыкі і даў кошыкі кветак (між іншым, "расколак"), захаваў Пару, а потым 'згадаў' пра двухгаловасць "арлоў", што і зафіксавана ў назве.

Для медзведскай традыцыі —ператварэнне 'кралявецкіх' выяўленчых тэм (хаця б па характэрным пераборы) відавочна, але ўражваюць рытуальны напрамак 'вольных асацыяцый' і некаторыя надзвычай архаічныя геаметрычна-антрапаморфныя выявы (тыпу раскрыжаванага ромба з пяціпалымі 'рукамі'). Большыя, чым у вядомых нам узорах Краляўца, структурнасць і жывасць шматлікіх 'нябесных' і 'вадзяных' знакаў. Апошнім медзведскія матывы набліжаюцца да белафонавых узораў цэлага кола мясцовых ручнікоў. Фонд элементаў у 'суме' прыкладаў белафонавых і закладных узораў у ручніках рэгіёна дазваляе адчуць уласны сэнсавы подых — нават калі размова ідзе аб розных 'перакладах' з 'кралявецкага' (асабліва калі далучыць да іх і апублікаваныя беларускія матэрыялы іншых мясцовасцей, напрыклад: рагачоўскія, капыльскія ды іншыя ручнікі. Гл.: Фадзеева. 1994. С. 133, 146, 148, 183, 184, 300; Лабачэўская. 2002. С. 70—73; 158—163; Кацар. 1996. Іл. 329, 330, 333, 532, 533).

Аднак не абыйсціся і без пытання: з якіх абшараў збіраў ды культурна апрацоўваў узоры вядомы чарнігаўскі цэнтр-'спакуснік'? Такія ж творчыя адносіны да геральдычнага матыву і кралявецкай спадчыны адзначаюць у сваіх традыцыях і ўкраінскія даследчыкі: "Среди исследователей орнамента украинской вышивки существует мнение, что трансформация изображения двуглавого геральдического орла происходила в диапазоне от реалистического изображения до его растительной стилизации. Но такое развитие равносильно можно рассматривать и в обратном порядке, когда конфигурации традиционного тератологического или растительного мотива приспосабливались к изображению двуглавой птицы... На более древних памятниках в состав композиций входят графемы солярных знаков..." (Булгакова. 2000. С. 30). Тым больш, багатыя матэрыялы паўночнарускай вышыўкі сведчаць аб значна больш старажытнай гісторыі 'народнай' перапрацоўкі таго ж арла і аб супадзеннях у трактоўках яго фігуры з архаічнымі сімваламі. Асноваю для шматлікіх пазнейшых публікацый (гл., напрыклад: Жарникова. 1983. С. 87—94) і трактовак паслужыла праца Динцес. 1947. С. 32 ды інш. Выразныя прыклады, асабліва супадаючыя з нашымі матывамі сімвалаў 'на грудзях' арла і перапрацоўкі яго фігуры, ёсць у кнізе: Изобразительные мотивы в русской народной вышивке. 1990. Не абыходзіцца і без 'іранскага ўдзелу' ў выявах гэтага геральдычнага сімвалу. Прыклады XII ст. у іракскіх ды іранскіх тканінах гл.: Моран. 1982. Шматвекавую гісторыю знаёмства з дадзеным матывам і распрацоўкі яго форм на землях будучых чарнігаўскіх і смаленскіх зямель даюць археалагічныя матэрыялы. Паміж сапраўднымі фігурамі двухгаловых арлоў, вядомымі з X ст. (Гнёздава) і падобная да акрыленага двухгаловага "кручча" фігура на посудзе зарубінецкай культуры (мяжа нашай эры) з блізкіх бранскіх зямель (Почап на Судасці, прытоку Дзясны — гл. у кн.: Поболь. 1973. С. 54—55. Таксама мал. 96:5).



Мал. 40. Ліштва з "лічынаю". Селішча (Добрушскі раён). 2002 г.

Двухгаловы арол сапраўды ўзмацняе свае пазіцыі на тканінах з XVII і асабліва ў XVIII ст. як геральдычны сімвал, у чым ігралі сваю ролю і Кралявец, і яраслаўскія мануфактуры (гл.: Маслова. 1978. С. 70). Ды апошні археалагічны прыклад ставіць гэту фігуру ў кантэкст архаічных імпульсаў, якія падоўжваюць дзейнічаць у форматварэнні і ў XX ст. Паміж іншым — гэта *імпульс-праява цотнага*, які ўтварае двухгаловасць вільчыкаў даху, завяршэння копнаў, арнаментальных матываў — як нязбытую энергію "близнечности". Аб тым — і народны мясцовы тэрмін — назва 'геральдычнага арла': "пціцы дзве ўместа" (гл. алфавіты традыцый).

Археалагічны прыклад 'лябрыса'-'бабачкі' рубяжа нашай эры з Лоеўскага раёна ставіць пытанне не толькі аб агульнакультурным існаванні сімвала, але і аб яго 'мясцовым' развіцці.

Для дубраўскай традыцыі пераемнасць тыпаў 'новых' кампазіцый ад некалькіх лакальных браных чыноў сведчыць аб творчай актыўнасці 'старых' сістэм і аб семантычнасці гэтага працэсу. Тэма толькі закранутая намі. Так сама, як і пытанні аб геаметрычна-раслінных фігурах з ярусна-планіметрычнай логікай іх 'узрошчвання' і безпамылковаю выяўленчай трактоўкаю геаметрычнай архаікі (што характэрна не меней, чым для трох розных мясцовых традыцый).

Ёсць і больш канкрэтныя пытанні. Напрыклад, аб тэхнічных асаблівасцях тутэйшага перабору, з зусім іншым, чым у кралявецкага, лікавым 'метрам' (гл. тэхналагічныя апісанні адпаведных традыцый). Аб ролі чорнага колеру з яго этнічнай альбо выяўленчай семантыкай.

Нарэшце, паўторымся, блізкасць да выяўленчых матываў Поўначы і безумоўная архетыпічнасць выяў, а, галоўнае, цэласнасць прасторавых пабудоў, касмалагічных у аснове, — усё гэта заставляе ўгледзецца ў склад

удзельнікаў сітуацыі ўзаемадзеяння. Сцвярджаючы, што глыбінныя моманты выяўляюцца ва ўсіх без выключэння мясцовых чынах з іх геаметрычнай архаічнасцю, мы павінны адзначыць, што выяўленчыя распрацоўкі не характэрны для падобных самадастатковых сістэм і наогул для пластычнага беларускага дэкаратыўнага мыслення. З іншага боку, бачна, як на мяжы этнічна розных культурных імпульсаў актывізіруюцца і ўзаемаперакладаюцца элементы, здавалася б, даўно "нямыя", "сляпыя" і "глухія", па мясцовай жа тэрміналогіі. Тую ж сітуацыю адзначаюць і даследчыкі народнага мастацтва ў Чарнігаўскім Палессі. Перапляценне 'геаметрычнага' мыслення з больш выяўленчым стылем (і нават стылямі) мы бачым і ў нашай драўлянай разьбе — аздобе дамоў. Аднак для складання стылю апошняй значную ролю, на наш погляд, згралі стараабрадцы.

На магчымую повязь некаторых тыпаў добрушскіх дубраўскіх ручнікоў (геаметрычных выбарных) са стараабрадчым мастацтвам ужо некалькі год таму звярнула нашу ўвагу В. Лабачэўская, якая даследавала стараверскія ручнікі Віцебшчыны. Адзін з прыкладаў (Лабачэўская. 2002. С. 147) візуальна вельмі блізкі дубраўскаму перабору з прыцiскною асновай (той жа тэхналагічны 'метр' — вялікі шаг узорнага утка, у нашых ён перасягае 4—7 нітак асновы, і 1 нітка прыціскной асновы). Аднак пакуль 'выяўленчыя' стараабрадчыя тканыя ручнікі ў нашых месцах не знойдзены. Патрэбна сказаць толькі, што вёска дубраўскай традыцыі — Жгунь — знаходзіцца ў трох кіламетрах ад стараабрадчай Буды Жгунскай, насельнікі якой — старавеы, беспапоўцы ды белакрынічнікі.

Вернемся да разгляду дубраўскага ручніка "стоўпам" (фота 412). Вышэй за цэнтральную фігуру, аддзелены ад яе вузкаю калодкаю, тут прадстаўлены 'птушыны чын' з дзвюма птушкамі, якія ляцяць з двух бакоў і садзяцца на фігуру двухгаловага арла — вельмі стылізаваную і не падобную да геральдычнага сімвалу. Менавіта ў стараабрадчай Будзе Жгунскай мы знайшлі адныя з самых 'фантастычных' форм налічнікаў вакон (ліштваў). Так, на адным з іх карона (верхняя разная дошка) прадстаўляла той самы 'птушыны чын': птушкі па краях, вялікі *двухгаловы арол* (без кароны) усярэдзіне. На крылах арла месціліся *парныя галоўкі коняў*, а ўнізе фігура арла мела *два рыб'іх хваста*. Ніжэй, на 'лабавой' дошцы — рамбічная раскрыжаваная фігура з кручкамі, вельмі падобная да тканага "кручча", але блізкая і да больш зааморфнага ўзора тыпу "жабкі" альбо прамежкавых фігур у "салдаціках" дубраўскага ткацтва. Блізкасць рытмічных і семантычных імпульсаў паміж 'арлом', трактаваным у паўночнарускай вышыўцы як 'рожаніца', і фігураю "жабы или ромба с крючками" адзначае і даследчыца валагодскага арнаменту (гл.: Жарникова. 1983. С. 89—90). Здаюцца праяваю адных і тых жа дэкаратыўных прадстаўленняў такі налічнік (вельмі блізкі да паўночнарускіх вышывак) і ручнік "стоўпам", з яго адзіным поўным 'птушыным чынам'. Патрэбна адзначыць, што ўзор на ручніку больш геаметрызаваны, *прыстасаваны для ткацтва.* Магчыма, апрацоўка чыну, падобнага да кампазіцыі налічніка, праходзіла 'на месцы', у той час як узор ліштваў з яго 'мяккімі' формамі блізкі да вышыўкі паўночнага тыпу (якая, як вядома, захоўвалася і ў нашых мясцінах да XX ст. Гл.: Абрамов. 1907).

Калі ўваходжанне геральдычнага арла ў матывы ‘сучасных’ тканін павязваюць з XVII—XVIII стст., то можна дапусціць, што ‘гатовы арловы чын’ мог быць прынесены і стараабрадцамі. Тут жа, ‘у аазісу паўночнай разьбы’, з памяццю жыхароў пра сваё паўночнарускае паходжанне, вельмі выразныя — і дошкі-“пікі” на вярхах франтонаў. Частка з іх нагадвае прасніцы, другія прадстаўляюць цэлы шэраг варыянтаў стрэл і маюць антрапаморфныя рысы. Такім чынам, для антрапаморфных выяў у чынах ручнікоў на добрушскіх (дубраўскіх) і блізкіх чарнігаўскіх землях ёсць ‘узоры’ і бліжэйшыя за кралявецкія. Чын ‘барочных’ навершаў (карон) налічнікаў з фантастычнымі рысамі ды архаічнымі сімваламі — адзіны для ‘зоны’ пераборных ручнікоў дубраўскага тыпу. Менавіта па гэтых налічніках мы калісьці і спыняліся ў вёсках, судзячы, што знойдзем тут і такія ж буйнафігурныя ручнікі.

Менавіта са стараверчым фактарам павязваюць распаўсюджанасць арніта- і антрапаморфных матываў у ткацтве і вышыўцы на паўночных чарнігаўскіх ручніках (Штанкина. 2000. С. 33).

Здаецца цікавым для далейшых доследаў і праяўленне агульных архетыповых заканамернасцей у стварэнні вобраза і кампазіцыі такіх розных ‘выяўленчых’ тэкстаў, якімі паўстаюць ручнік, аздобленае вакно і... абраз. Ліштвы безумоўна захоўваюць *памяць аб трох'яруснай мадэлі Свету.* Гэта выразна выявілася ў рэгіёне, дзе выяўленчы імпульс, прынесены стараабрадцамі, прывіўся да геаметрычнага стылю, у тым ліку і ў разбяной аздобе дамоў. Верх налічніка мае вобразы ‘нябеснага ярусу’, ніз жа нясе выявы істот альбо знакаў ‘ніжняга’. Можна дапусціць і тыпалагічную блізкасць тэкстаў ручніка ды іконы, як і нейкія іх вобразныя суадносіны. Сімвалізм форм і кампазіцый гэтых свяшчэнных аб’ектаў, за шматвяковую гісторыю іх суіснавання, павінен быў пакінуць узаемны след. Старыя вобразы ручніка маглі “провозвестно” тлумачыцца хрысціянскаю свядомасцю, як тое адбывалася ў тлумачэнні тэкстаў Ветхага Завету — Новым. Тым самым архаічныя сімвалы ўтрымліваліся б і перадаваліся ў пакаленнях.

Рытуальныя адпаведнасці, якія зводзяць у адну дзею ўдзельнікаў і аб’екты рознага матэрыялу і формы, перамяшчаюць іх у семантычнай жа прасторы, нагадваюць нам, што разнароднасць і нават фантастычнасць тканых фігур — не заўсёды перамешванне ‘стыляў’ арнаменту.

3 Зак. 3512

# 10. 'ПУСТЫ'/ 'ПОЎНЫ', 'ЦЭЛЫ'/ 'ПАДЗЕЛЕНЫ' ЯК СЕМАНТЫЧНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ РОМБА

Дэкаратыўная апазіцыя 'пустой' альбо 'бесструктурнай' фігуры і фігуры, што 'мае ў сабе', 'структурнай' — мае глыбокія семантычныя карані. Разгледзім, ці захоўваецца што-небудзь з архаікі мыслення, формаўтварэння, асэнсавання ды наймення арнаментаў у сучаснай традыцыі. Дадзеная апазіцыя вырашаецца праз два спосабы развіцця форм.

Адзін з іх — 'прарастанне' замкнутай, цэлай фігуры (звычайна ромба) пры тым, што ў новай выяве, у яе сярэдзіне, захоўваецца гэты замкнуты, цэлы элемент. Ромб з кропкаю альбо маленькім крыжыкам у цэнтры даследчыкамі трактуецца як старажытны сімвал зерня, насення. У мясцовых назвах маем "кропелькі", "канапелькі", "бубкі" і... "сэрца" **(фота 33, 38, 105, 352)**. Калі гэты элемент 'расквітнее', ён архетыпічна паўтарае знак насення і паслядоўнасць яго прарастання.

Сіметрыя знака прыводзіць да ўспрымання ромба з парасткамі тыпу "лапы" (Негл.) як кветкі — "цвецікі" (Нісімк.). Больш складаныя разеткі і квітнеючыя ромбы — "рожыны", "рожа", "розачкі" асэнсоўваюцца таксама як кветкі. Такім чынам, апазіцыя "бубкі"/"цвецікі", "рожыны" падаўжае архетып, ухіл адбываецца ў бок найбольш жывога раслiннага арнамента, у тым самым напрамку развіваюцца больш познія элементы. У выпадках, калі майстрыхі пераймаюць новы элемент, яны апрацоўваюць яго ў той меры, у якой ён паддаецца семантычнаму структураванню.

Другі тып вырашэння апазіцыі 'бесструктурны'/'структурны' — унутранае 'дзяленне' і падзел першай фігуры. Тут само ўспрыманне гэтага 'цэлага' фіксуе яго ці як "балоначку" (Негл., Нісімк.), што значыць 'пустое', ці як 'закрытае' — "каробачкі" (Негл. ды інш.), "кубы" (Нісімк.). Часам у іх падкрэсліваецца знаёмая нам сема начыння: "каробачкі" — "вулейкі", "плошачкі", "чашачкі" (Нісімк.; параўнай "стаканы", "румкі", К-Балс.). Для неглюбскай і суседніх традыцый асноўнай прыкметаю застаецца 'непразрыстасць', 'цьмянасць' аж да 'патаемнасці' ў архаічным сэнсе, у сувязі з матывамі глухаты, слепаты і зроку: "глухоўка", "глушка", "цёмная капейка" (К-Балс.). Рэгулярна старая апазіцыя мае першым членам "сляпы" (у Неглюбцы знакі "сляпыя" і "відушчыя". Параўнай: "сляпая глухая" — "глухая з глазам" у Верхлічах). Выяўленне "вачэй" у фігурах прыснянскай ды бабіцкай традыцый (назва тут не атрыманая) — гл. фота 9, 33, 93,103, 105, **109**. Неглюбскія "балонкі" ўзорам ператвараюцца ў "сады". У Нісімкавічах падкрэсліваецца тэма наступнага падзелу: "драбнічкі", "раздробленая капейка", але ёсць назвы і неверагодныя па архаічнасці: "канапелькі", "палянaчкі" (пры мясцовай назве "паляны" для нівы).

Цікавыя 'геаметрычныя' паралелі — і ў танцавальным фальклоры. Танец "Зайчык" ("Чыбір", "Крыжачок" ды іншыя назвы) выконваецца дыяганальнымі перараскокамі 'з клеткі ў клетку' праз дзве палкі, пакладзеныя крыжом (гл.: Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. 2001. С. 614). Форма танца блізкая да раскрыжаванага ромба, куды скокамі 'ставяцца знакі'. Назва танца ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці — "Халімон" (гл.: Чурко. 1990. С. 104) — звяртае ўвагу на вобраз "старца" і "папа" з гэтым жа імем у эратычнай прыпеўцы аб пасадцы "яравога, палявога" "хрэну", што пяюць у час абраду "Стряла" ў Неглюбцы.

Цікава, як асэнсоўваецца і называецца адзін і той жа ўзор. 'Гарадчасты' ромб на 16 парасткаў з дзевяццю клеткамі-вочкамі ў ім і дзевяццю "хрэсцікамі", якія 'засеяны' ў клетках, уваходзіць у шэраг архаічных знакаў тыпу 'засеянага поля' і 'раслiннай сілы'. Карацей кажучы, гэта знак нівы, якая прарастае (гл. фота 131). "Перасекі хрэсцікамі" падкрэсліваюць 'графіку' фігуры. "Драбнічкі" — яе ўнутраны склад. "Рабіна, рабінка" — вобразна ўспрымаецца 'гронка' крыжыкаў у клетках.

Ромб, раскрыжаваны на дзевяць клетачак, з дзевяццю 'зярнятамі' — "раздробленая капейка". Але ён жа — і "паляначкі" (гл. фота 132). У прыкладзе 20 бачна, што "паляначка" на дзевяць ячэек паходзіць ад той, што на чатыры. "Паляначкі зводжаныя" — парны знак (гл. фота 132; параўнай **фота 282**). У апошнім вертыкальныя "елачкі" ўзраслі з архаічнага ромба з парасткамі. У той час як "лесвічкі" (гл. фота 132) — са зводжаных зорак-"васьмірожкаў".

Яшчэ большая "паляначка" — на шаснаццаць клетак з крыжыкамі — у прыснянскім ручніку **(фота 13)**. Да таго ж паўтор знака дае слупы — ланцугі ромбаў, архаічны сімвал, што ўзнікае раней за ткацтва. Ці то просьбамаленне ад зямлі да неба, ці, пры яднанні двух канцоў ручніка, — рамбічная сетка-ідэаграма нівы, дзе чаргуюцца знакі сяўбы і светлыя "рожы". Але ўгледзімся: у выявах кветак чытаюцца фігуркі заа- ды антрапаморфныя, тыпу "жабкі" альбо "салдацікі" з тымі самымі парамі "калёсаў". Можна заўважыць, што і сам 'пасеў' крыжыкамі не заўсёды раўнамерны (гл. фота 12, 40). Частка ячэек можа быць цёмнаю альбо з іншым 'насеннем'.

Для зярняці і неўзаранай зямлі ёсць агульная сема 'цэлага' — з усімі выхадамі значэння ў розныя культурныя коды. З паняццем 'цаліны' і 'ўзаранага поля' звязаныя і два тыпы ўзораў, узыходзячых да вядомых раннеземляробчых культавых сімвалаў — ромба з парасткамі і ромба з крукамі. У Неглюбцы маем "кручча" "з казлом" альбо "на рашоткі" (дыяганальна раскрыжаваны ромб з крукамі) і "глухое" "кручча", як і два тыпы "лапы" — "з казлом" і "глухую" **(фота 235)**. У прыснянскай традыцыі, якая дае вертыкальныя і дыяганальныя кампазіцыі ўзора, гэта фармальная апазіцыя застаецца ў сіле, але аднавіць яе як цэлую магчыма толькі ў поўнай 'іканаграфіі' знакаў, у аналізе суседніх традыцый як адзінага корпуса тэкстаў.

## 11. ГІПОТЭЗА: 'ДЗЯВОЧЫЯ' І 'ЖАНОЧЫЯ' ЗНАКІ

Так, параўноўваючы "кручча" неглюбскіх тыпаў (гл. фота 235, 282) з аналагам у прыснянскай ды бабіцкай традыцыях, мы знайшлі, што гэты 'знак ураджаю' звычайна мае ў сярэдзіне 'ўзаранае і засеянае поле' (гл. фота 28; **фота 349, 351**), але бывае і "глухім" (гл. фота 9; **фота 42**) альбо, як у

Бабічах, мае ў сабе падзел здвоеным ("сушчэленым") касым крыжам (парай зрошчаных па вертыкалі касых крыжоў; гл. фота 96), ад чаго ў знака захоўваецца яго непадзельны цэнтр — 'зерне' і вакол яго — шэсць крыжыкаў, што стасуецца з трыма даўнімі семантычнымі імпульсамі. Адзін з іх — шасціспіцавае кола (яно вядома ў драўлянай аздобе дамоў і на рускай Поўначы, і ў вёсках дадзенай традыцыі). Другі — пара касых крыжоў як магчымы знак летняга сонцавароту (Рыбаков. 1981). Трэці — тая фігура, што ўзнікае ва ўзаемадзеянні пары касых крыжоў з 'чэравам' "кручча", у якое ўпісаны тыя крыжы. Зрошчаныя, яны ўтвараюць ромбік з чатырма парасткамі. Дакранаючыся да бакавых сценак свайго 'сховішча', фігура нібы дае парасткі, нагадваючы маленькую "лапку" — у чыне "лапаў" самы 'дзіцячы' яе варыянт (гл. падобныя: фота 349).

Калі дапусціць, што такія розныя па ўнутраным складзе "кручча" — не выпадковасць, дык мы павінны знайсці адпаведныя ім 'чыны', а ў іх — 'папярэднія' сімвалы: "глухоўкі" (суцэльныя ромбы) альбо "палянкі" (раскрыжаваныя ромбы) і розныя ж "лапы" (ромбы з парасткамі). "Глухое кручча" магло з'явіцца ў "глухім" чыне як лагічны вынік яго развіцця ў адной кампазіцыі, сёння не вядомай. "Кручча"-"балоначка" (з выяваю ў ім непадзельнага знаку) — у чыне з такімі ж знакамі.

Сапраўды, "лапа" з шасцю светлянымі крыжыкамі ў ёй вакол непадзельнай сярэдзіны фіксуецца на адным і тым жа ручніку (в. Пыхань, пачатак XX ст.) у дыяганальным чаргаванні са 'звычайнай' "лапай", у сярэдзіне якой знак 'засеянага поля' (гл. фота 20). Падобная ж "лапа", але з выяваю белай адваротнай, г. зн. нябачнай "лапкі" ў яе чэраве — на ручніку з Някрасава (гл. фота 26). Яна чаргуецца з традыцыйным знакам 'засеянага поля', 'нівы', але і ў гэтым знаку касы крыж — белы, відавочна суадносіцца з белаю ж "лапкаю". Магчыма, гэта спосаб выявіць колерам папярэдні этап: узаемадзеянне касога крыжа-"казла" — знака апладнення — і 'дзявочага' стану зямлі. У 'чырвоным', 'відавочным' варыянце гэта тэма ручніка з Фёдараўкі **(фота 39).** Аднаму касому крыжу ды яго 'ўваходжанню' ў ромб прысвечаны ручнік з Бабічаў **(фота 130)**.

Аднак магчымы і 'цяжарны' сэнс, тыпу замовы на ўдалыя роды. "Лапа" як гарадчасты ромб, незалежна ад унутранай структуры, увогуле даследчыкамі трактуецца як 'раслінная сіла зямлі'. Раскрыжаваны ромб — як зямля (альбо жанчына і г. д.) 'цяжарная'. Тады "глухая лапа" — 'раслінная сіла зямлі неўзаранай', 'дзявочай'. Бабіцкі ж ды прыснянскі варыянты "лапы" з сямю (шэсць + адзін па цэнтры) крыжыкамі маглі бы мець розныя верагодныя тлумачэнні. І ўсё ж 'дзявочы' тып — адно з такіх прачытанняў. Тым больш, што "глухія лапы" і "глухое кручча" ў дадзенай традыцыі не адзначаныя. Уласна бабіцкія ручнікі распрацоўваюць з шасціпялёсткавай кветкаю ўсярэдзіне і вядомы архаічны знак "кручча", што відавочна паходзіць ад той 'дзявочай' сярэдзіны, дзе шэсць крыжыкаў абступаюць сёмы ў цэнтры. У такім разуменні не здаецца выпадковаю і назва "балоначкі" (г. зн. 'пустая') для "кручча" ў Нісімкавічах. У адным з бабіцкіх ручнікоў дадатковая паласа над асноўнаю кампазіцыяй з 'дзявочымі' крукаватымі ромбамі дае паслядоўнасць ромбаў, папераменна раскрыжаваных то адным касым крыжом, то двума — процістаўляючы іх **(фота 95)**.

У такім выяўленні розных па іх сярэдзіне земляробчых знакаў здаецца невыпадковым і яшчэ адзін тып "лапы". У адным ручніку з Дубраўкі (гл. фота 346) вертыкальны слуп ромбаў чаргуе маленькія "ромбачкі" тыпу 'насенне' з вялікімі канцэнтрычнымі ў тры "абводкі" ромбамі. Выступы ўнутры ромба даюць светлавую выяву птушкі, якая ляціць убок. 'Дзявочыя' слупы ромбаў перамяжаюцца з "кruччам", якое ў сярэдзіне 'ўзаранай і засеянай' звычайным спосабам. Дадатковыя палосы, аднак, даюць "лапу" з 'засеянаю' сярэдзінай. Падобная тэма і ў папярочнапаласатым ручніку з Амяльнога (гл. фота 351), і ва ўзоры ручніка з в. Прыбыткі (гл. фота 349).

Такім чынам, ва ўсіх адзначаных парах арнаментальных элементаў аднаўляецца семантычная апазіцыя 'дзявочае'/'жаночае' альбо 'цаліна'/'ніва', 'луг', "лука"/'ніва'. У пазнейшых узорах усё болей распрацоўваецца 'дзявочы' матыў як 'кветка'.

Разгледзім увесь чын 'дзявочых' знакаў, якія мае 'вертыкальны' тып браных ручнікоў.

1. Ромбік з кропкаю — даўні знак зярняці. Існуе адзін асобна і ў якасці цэнтра вытворных ад яго фігур. Найбольш актуальныя назвы — "бубка", "канапелька".

2. Ромб са святляным крыжыкам (рэканструкцыя: тое самае зерне, але мае ў сабе знак агню, святла, жыцця). Мае варыянты свайго ўзмацнення праз канцэнтрычныя ромбы-колцы. Найбольш уражвае назва "сэрца". Мае варыянты ў белым чыне ў сярэдзіне ручніка ("канапелькі").

3. Ромб са святлянаю 'птушкай' у ім (гл. фота 351).

4. Ромб са святляным крыжом-"бабачкай" у ім (гл. фота 349).

5. Ромб 'дзявочага' тыпу, прарослы пялёсткамі, альбо квітнеючы (гл. фота 13, 14, 38).

6. Ромб з цёмным крыжом-"бабачкай" у ім.

7. 'Прарослы' ромб — вынік "сушчэльвання" пары касых крыжоў (гл. фота 349).

8. "Лапка" на 8 парасткаў са святляным крыжыкам у ёй (гл. фота 31, 39).

9. "Лапка" на 12 парасткаў з 6 святлянымі крыжыкамі ўнутры і адным па цэнтры (гл. фота 20).

10. "Лапка" на 12 парасткаў з адным крыжыкам (гл. фота 34, 282).

11. "Лапа" на 16 парасткаў з 'галовамі'. У яе сярэдзіне — святляная "лапка" (гл. фота 5, 26).

12. "Лапа" на 20 парасткаў з крыжам-"бабачкай" у ёй (гл. фота 97).

13. Крукаваты ромб з 6+1 светлавымі крыжыкамі (шасціпялёсткаваю разеткаю; **фота 95**) у сярэдзіне ды падвойнымі крукамі (гл. фота 96).

14. Крукаваты ромб з крыжам-"бабачкай" у ім (гл. фота 42).

Назіранні за арнаментам бранага геаметрычнага чыну паказваюць, што белыя (святляныя) знакі, якія ўтвараюцца там, дзе чырвоная нітка 'знікае' пад спод ручніка, уваходзяць у чын. Яны маюць чырвоныя варыянты. У дадзенай традыцыі светлавыя знакі актыўныя. Пры развіцці арнаментаў у новай пераборнай тэхніцы белыя элементы даюць шэраг вытворных узораў, выкананых белым па чырвоным фоне.

Робім выснову. 'Дзявочыя', 'неўзараныя' знакі прыснянскай і бабіцкай традыцый — знакі са светлавым крыжыкам, светлавою "лапкаю", светла-

вою птушкаю, светлавым крыжом-"бабачкай" ды светлавой шасціпялёсткавай кветкаю ў іх, здаецца, даюць цэлы чын. Тое, што яны праходзяць усе этапы ўскладнення, ад ромба да крукаватага ромба, адпавядае нашаму даўнейшаму назіранню адносна Неглюбкі. Яе "глухія" лапы і рэдкае "глухое кручча" далі магчымасць супаставіць іх з 'засеянымі' аналагамі ў той жа традыцыі. "Глухія" і раскрыжаваныя ўзоры на сарочках (рубахах) маглі быць знакамі, па якіх дзявочае адзенне адрозніваюць ад жаночага (а можа быць, *да закрытых знакаў мелі дачыненне і цяжарныя, і старыя жанчыны).*

Вялізны пласт земляробчых вобразаў у хрысціянскіх текстах дае такія параўнанні Божай Маці, дзе яе непарочнае зачацце і нараджэнне Хрыста ўпадабляюцца неўзаранай ніве, якая "обильное класие взрастиша". Тое, што прыснянская і бабіцкая традыцыі даюць знак ураджаю, "кручча", з 'дзявочаю' шасціпялёсткавай кветкаю ў ім, як і наяўнасць неглюбскага "глухога кручча", здаецца арнаментальнаю адпаведнасцю такому вобразу 'нівы неўзаранай'. У земляробчым абрадавым коле тэкстаў як "маладзіца" і "дзеўка" супастаўляюцца пшаніца і жыта. Веснавыя абрады ў рэгіёне, асабліва "Стряла", разгортваюць дзеі менавіта з азімым жытнім полем. Яно, перазімаваўшы, вяртае сабе якасць новага, 'дзявочага' нараджэння, 'нівы неўзаранай'. 'Божае' яе засяванне мае адпаведны вобраз і ў вясельным чыне: "боскае насенне, прачыстае стварэнне", "ідзе Іванька да ложа, наперадзе сын Божы"...

Менавіта на тэрыторыі згаданай традыцыі ўлюбёным матывам драўлянай аздобы аканіцаў з'яўляецца кампазіцыя, дзе дзве стралы ахоўваюць тры знакі паміж імі: два раскрыжаваныя ромбы — 'засеяныя палі' і шасціпялёсткавую кветку ў коле альбо шасціспіцавае кола — у цэнтры, г. зн. тое самае чаргаванне, што бачым на тканінах. Але калі б узор для разьбы браўся непасрэдна з бранага ткацтва, дык цэнтральнае шасціспіцавае кола таксама мусіла быць ромбам.

Вобразны імпульс 'дзявочае'/'жаночае' захоўваецца, па нашым разуменні, ва ўзрастанні "лапкі" — 4, 8, 12, 16, 20 парасткаў і ў замене 'дзявочага' знака 'жаночым'. Аднак наяўнасць 'дзявочага' радзіннага, ураджайнага знака, чын светлавых знакаў у яго развіцці, тэмы асэнсавання элементаў у назвах тыпу "бабачка", абрадавыя адпаведнасці ды паралелі ў элементах іншых дэкаратыўных чыноў (дубраўскага ручніка і свяцілаўскай разьбы) даюць магчымасць успрымаць дэкаратыўнае чаргаванне як частку больш складанай семантычнай сістэмы, якую сёння можна ўзнавіць толькі фрагментарна. Вяртаючыся да арнаментальных элементаў з пэўнымі сімваламі ў іх 'чэраве', убачым семантычныя аналагі ім у 'выяўленчым' стыле арнаменту паўночнарускіх ды некаторых нашых тканін. Фігуры з 'вакенцамі', у якіх змешчаны чалавечыя постаці альбо геаметрычныя знакі 'жыцця', здаецца, падоўжваюць нейкі старажытны імпульс з сэнсам 'знамення'. Гэта выводзіць нашае пытанне за рамкі толькі 'дзявочага'.

Здаецца, тэма 'божага', 'нябеснага', 'светлавога' і 'святога' ўзаемадзейнічае тут са знакам роду: шэсць вакол аднаго — тое самае, што і ў радзіміцкім сямірогавым (тры+адзін+тры) скроневым колцы. Да таго ж, крукі бабіцкага (шасціпялёсткавага ў цэнтры) ромба-"кручча" — не простыя, а *спараныя, падвойныя.* Калі чытаць знак 'ромб з кручкамі' ў 'земляробчым' кодзе, то ў

круках можна бачыць спелыя каласы. Тут гэта — тыя самыя 'спарышы', чые магічныя якасці добра вядомыя. Былічка пра "кашачы і сабачы хлеб" згадвае божы колас у выглядзе куста каласоў, які быў напачатку і страчаны за грахі. Магчыма, звязванне некалькіх каласкоў у час абраду "Стряла" і пры стварэнні дажынкавых аб'ектаў — абрадавая адпаведнасць бабіцкаму ўзору "кручча".

Святлянае асэнсаванне набывае і агульнавядомы знак "васьміражкі" — васьміканцовай зоркі. На ім узнікаюць дваццаць восем белых крыжыкаў (гл. фота 31).

## 12. ВЕРТЫКАЛЬНЫЯ ЛАНЦУГІ РОМБАЎ — 'ДАЖДЖЫ' І 'РАСТЫ'

Вертыкальныя ланцугі ромбаў з 'дзявоцкім' іх запаўненнем асэнсоўваюцца ў некаторых назвах як "крывулі" (гл. фота 39, 134). Гэта ж назва ўстойліва існуе ў 'папярочнапаласатых' ручніках для гарызантальных ланцугоў. У іх узнаўляецца вобразная тэма стыхійнага, незямнога, вадзяной і агнявой плыні. Назва "крывулі" вядома і ў больш выяўленчых традыцыях — дубраўскай і краснагорскай медзведскай. У апошніх вертыкальныя "крывулі" цалкам адпавядаюць старажытным ідэаграмам дажджу. Некаторыя тканіны 'асэнсоўваюць' (даюць нам прыклады для асэнсавання) узаемадзеянне традыцый і ў тэме крыжа-"бабачкі". Здаецца, суседства традыцый 'нябесных дарог' уплывае на распрацоўку форм і ўказвае месца элементу, які ў браным чыне "госць". Параўнайце прыклады 213, 307, 380 і браны ручнік з Кацічаў (гл. фота 287), якія даюць тэму сонечнага руху вакол усяго Сусвету. Ручнікі з Бабічаў (гл. фота 102, **фота 103**) згадваюць тэму пары прамяністых колаў, а ручнік з Мядзвежага (**фота 7**) яднае "колы"-крыжы ў вертыкальным руху. Тканіны з Амяльнога (**фота 295**), Новых Бабовічаў (**фота 292**) ведаюць пра "крыжы ў крывулі", якія роднасныя 'вогненнай' "вялікай крывулі" з Нясвоеўкі (гл. фота 261, 337). Часткаю сваіх "крывуляў" у гэта семантычнае поле трапляе і прыснянская традыцыя. Ланцугі ромбаў з крыжамі-"бабачкамі" ў іх перамяжаюцца з ланцугамі ромбаў-кветак (гл. фота 19) альбо, раней, з "лапамі" — знакамі нівы (гл. фота 7) ды "круччам" — знакамі ўраджаю (гл. фота 349).

У вялізным кантэксце арнаментаў памежных традыцый такое чаргаванне магло адлюстроўваць семантычныя апазіцыі: 'нябесны-зямны', 'сыходзячы [дождж, агонь] — узрастаючы'; нават 'нябесны апладняльны дождж — расты'. Магчыма, у нейкім узаематлумачэнні гэтыя чаргаванні ланцугоў суадносяцца з іншаю параю мясцовага выяўленчага арнаменту: стрэлы — дрэвы, дзе суіснуюць мужчынская апладняльная сімволіка і жаночая ўрадлівая, раслінная. Вертыкальнае развіццё геаметрычных знакаў, як у Прысно, адбывалася, пэўна, не толькі па тэхнічных прычынах — магчымасці паўтараць рапорт у тэхніцы ткання 'на матузах'. Вертыкальны ланцуг ромбаў успрымаўся як дрэва — у назве "елачка", як шлях уверх — "лесвічка", што вельмі архетыпічна. Выбар ткаць так — выбар цэлай традыцыі, якая ў нашых месцах мяжуе з белафонавымі ручнікамі. У кампазіцыі апошніх падзеі адбываюцца паміж верхнім і ніжнім касмалагічнымі ярусамі, а выявы даюцца 'ў выглядзе збоку'. Тэмы Сусветнага Дрэва ды зыходзячай "благадаці" дажджу дажылі тут да XX ст.

Цёмнафонавыя пераборныя ручнікі з Прысно ды іншых вёсак развілі ў сваіх узорах менавіта тыя тэмы, што асэнсоўваліся ў час з'яўлення гэтага новага пласта арнаменту. Вертыкальныя ланцугі ромбаў з крыжамі **(фота 49, 50)**, тэмы насення і ўзаранага поля **(фота 58)**, праходжання ланцуга ромбаў праз усе тры ярусы Сусвету (**фота 66**; гл. 229) і ўзрастання дрэва **(фота 57, 60)**. Самы просты, тканы ў ніты ручнік з Кунтараўкі вылучае стаўбы-дарогу-лесвіцу **(фота 59)**.

Неверагодныя дубы з Прысно адлюстроўваюць гэткае ж сінкрэтычнае разуменне формы. Ромб, што мае ў чэраве кветку, квітнее, захоўваючы імпульс "кручча", набывае галаву і вочы — светлавыя крыжы, усё разам — жаночая фігура (гл. фота 51—56).

## 13. КАМПАЗІЦЫЯ 'ЎЗАРАНАГА ПОЛЯ'

Іншы выбар 'бясконцага' паўтору — дыяганальнае, "у шашку", "у глазкі" чаргаванне па ўсім полі тых жа земляробчых знакаў і сыходных ад іх новых крыжоў ды кветак. Па сутнасці, гэта архетыпічнае ўзнаўленне адной з найстаражытных ідэаграм засеянага і квітнеючага поля — не ў адным ромбе, а ва ўзараным крыж-накрыж "паўсёмістым" узорным канцы, які і прадстаўляе зямлю. Чырвонафонавыя пераборныя ручнікі пераймаюць і гэты старажытны імпульс — уся іх 'зямля' запаўняецца знакамі ўзарання, насення, прарастання і квецені — паралельна такому ж працэсу ў стварэнні "цвятных" посцілак. Узаемадзеянне з дывановым і габеленавым ткацтвам аказваецца далёка не адназначным (гл. фота 12, 16, 29, 33, 37, 40, 134). Цікавыя ручнікі з крыжамі ў якасці насення (гл. фота 15; **фота 18, 32, 48**). Той жа прыклад з удзелам асвячонага жытнёвага крыжа ў засяванні поля быў бы дарэчы ў асэнсаванні гэтага ўзора. Ды яшчэ тканіны панёваў ("хрэстаўка", "кругамі"), якія вылучаюць святляную прыроду свайго 'насення'. Узоры на рукавах кашуль таксама не цураюцца гэтай тэмы. Усё гэта вельмі старыя тканіны.

Мы адзначылі, што ў саміх вертыкальных ланцугах рамбічных фігур чаргуюцца ромбы закрытыя, "глухія", 'дзявочыя' і раскрыжаваныя, 'прарослыя', крукаватыя. Гэтак працягвае сваё дэкаратыўнае існаванне тэма бясконцага чаргавання станаў зямлі, жанчыны і нават самога жыцця — несупыннай змены перыядаў замірання і прарастання, смерці і ўваскрашэння, цяжарнасці і нараджэння, дзявоцтва і прадуктыўнага замужжа. Нават калі і ўлічваць 'дыфузнае' пранікненне матыву дыяганальна-сеткавай сістэмы з прыкладнога мастацтва Еўропы ў сярэдневякоўі, то чые — архаічныя матывы праросльх і крукаватых ромбаў у "вочках" такой сеткі?

## 14. МАТЫВЫ ЧАРОЎНАГА ЗРОКУ. "ЗОРКІ" РУЧНІК З ПРЫСНО

Адзін з цікавых ручнікоў — прыснянскі пачатку 1910-х гг. (гл. фота 9). Як бачым, яго браны ўзор — вытворны ад старажытнага чаргавання ромбаў, але памеры фігур — павялічаныя, традыцыя ў час яго стварэння цікавіцца нейкім манументальным чынам суседзяў; параўнайце 'прамежкавы'



Мал. 41. Ліштва пакінутай хаты "з вачыма", але пазірае ў мінуўшчыну. Пералазы (Краснагорскі раён). 2002 г.

памер кампазіцыі (Лабачэўская. 2002. Іл. 100). Цэлы шэраг мясцовых тканінаў гэтага часу даюць вялізныя фігуры, што аблягчае пераход да пераборных ручнікоў. Падобны працэс назіраем і ў Дубраўцы — спачатку 'вырастаюць' браныя ўзоры, а потым (альбо паралельна) утвараюцца пераборныя. Тыя ж слупы розных ромбаў там даходзяць да аднаго, які робіцца цэнтрам кампазіцыі. Павелічэнне элементаў у браных ручніках дае магчымасць майстрыхам больш дэталёва асэнсоўваць іх унутраную структуру (такім самым чынам распрацоўваюцца асобныя элементы ў Неглюбцы, але ў пераборным ткацтве).

Вялікія ромбы-"лапы" гэтага ручніка паходзяць ад старажытных, раскрыжаваных знутры касым крыжам ды 'засеяных' чатырма крыжыкамі-'зярнятамі'. Колькасць і месца адросткаў у такіх "лапах" і раней не заўсёды супадае з восямі канструкцыі, г. зн. яны выступалі як семантычны элемент (4, 8, 12, 16, 20 — лік парасткаў, магчыма, мог мець адпаведнасць ва ўзростах ініцыяцый дзяўчат з адной групы ў другую). Чатыры ж 'вочкі' фігуры распрацаваны неаднолькава. Верхняе і ніжняе засцелены дробнай сеткай, "кубічкамі", "канапелькамі", "драбнічкамі". Левае ж і правае — сапраўдныя "вочкі", у белых "ромбачках" — чырвоныя сяродкі. Апазіцыя "сляпы/відушчы" як адзнака якасці арнаментальнага элемента вядома ў назвах Неглюбкі ды Верхлічаў ("зоркі", "відушчы", "з вокам"). У Прысно назвы такога роду не атрымалі, але ручнік успрымаецца сапраўды як 'лупаты'. Наколькі гэты працэс адвольны? У той жа суседняй Неглюбцы, дзе назвы захаваліся значна паўней, ёсць "лупатая" панёва. А на неглюбскім старым браным ручніку (гл. фота 93), у яго цэнтры — пара "крюччаў" з неаднолькавымі "вочкамі", выдзяляюцца левы і правы. У Дубраўцы і Прысно ўзнікаюць фігуры ўжо пераборнага ткацтва, дзе таксама пазначаны 'вочкі' (гл. фота 55, 368, 390) з дапамогаю пары крыжыкаў (ромбаў).

Матыў чароўнага зроку і, магчыма, абярогу захаваны ў назвах узораў Неглюбкі і Балсуноў: "вароняе вока", "воловае вока". Вядома, што назвы 'бачнага' і 'відушчага', 'узору' і 'зроку' паходзяць да адзіных сінкрэтычных высноў у коранях (Степанов. 2001. С. 360). У такім разе знакі святла, агню, ззяння, сонца, зорак маглі б у чыне антрапаморфнага арнаменту асэнсоўвацца як знакі зроку, што і бачым у шматлікіх прыкладах паўночнарускай вышыўкі, дый у менш выяўленчым нашым арнаменце. У мясцовых назвах узораў захоўваюцца часцей тэрміны непадзельнага, закрытага як "сляпыя", "глухія". Гэта і зразумела, бо то сінкрэтычныя адзнакі першаснага стану. Утвораныя ад культурнай распрацоўкі "глухога", "сляпога", 'неўзаранага' і 'цэлага', "відушчыя", "расколкі", "расцяробы", "хрясты расколатыя", "кучаряўкі", "разбітыя серцы", "глазкі", "вочкі", "палянкі", "драбнічкі", "ряшоткі" — толькі малая частка мясцовых назваў, якія ішлі па розных кодах і таму не заўсёды захоўвалі прыкметы зроку для асобнага вытворнага знака. Ён засяроджваўся на раслінных, антрапаморфных, прадметных і г. д. асацыяцыях ("елка", "баба", "самавар"). Сам 'узор' і ёсць бачнае. І паняцце глухаты-слепаты-закрытасці захоўваў заўжды першы член апазіцыі, якая заўсёды ўважалася і рэалізавалася ў чынах ручніковых кампазіцый. Глухое, непадзельнае і стыхійнае яны змяшчалі ў пачатку і па краях. Тут дарэчы была б і тэма вачэй ды зроку нябожчыкаў (Толстой. 1995. С. 185—206). Апазіцыя ў назвах "сляпога" ды "відушчага (зоркага) вераб'я" (прамога *крыжыка*) звяртае ўвагу да адпаведных рыс у вобразе вераб'я ў розных славянскіх традыцыях. Параўнайце: "На Рождество воробьёв называют *слепцами* (витебск.) и [ад вераб'ёў]... Обегают скинутую с себя сорочку и *крестообразно* сыплют на неё землю, взятую *с могилы* на закате солнца (укр.)" (Славянские древности. 1995. С. 432).

І зноў формы ды назвы канкрэтных арнаментальных элементаў сягаюць у даўніну. Архаічны імпульс знаходзіць сваё праяўленне ў законах падзелу і 'збірання нанава' ўзораў. Але — і ў архетыпах свядомасці майстрыхі (параўнайце: "мифологические и космогонические источники мотива подсматривания в связи с мотивом запрета" — Евзлин. 1993. С. 67—97). Магчыма, што выяўленчы стыль тыпу дубраўскага ўдзельнічаў не толькі ва ўзбуйненні фігур геаметрычнага чыну Прысна, але і ў актуалізацыі семы зроку. Але варта сказаць, што ў прыснянскай традыцыі тэма зроку і святла вельмі цікавая і ў адносінах да 'дзявочых' знакаў, што мы і разгледзелі.

## 15. БЕЛАЯ СЯРЭДЗІНА І ЎЗОРНЫ КАНЕЦ. АДНАЎЛЕННЕ СЭНСУ КАМПАЗІЦЫЙНАГА І КОЛЕРАВАГА ПРОЦІПАСТАЎЛЕННЯ

### 15.1. Сярэдзіна ручніка. Дах хаты і нябёсаў. Семантыка Покуці

Мы параўналі асаблівасці вырабу белай сярэдзіны ручніка ў бабіцкай і прыснянскай традыцыях. Чатырохнітовае ткацтва бабіцкіх тканінаў дае тут дыяганальны рытм, які пануе ў сярэдзіне, утвараючы лускаватую паверхню з безупынным рытмам, у той час як канец тчэцца бранымі ўзорамі паміж



Мал. 42. Дах накрыты шчапою "ў елачку" — як і сярэдзіна ручнікоў. Стары млын у Янаполлі (Хоцімскі раён). 1998 г.

шырокімі чырвонымі калодкамі — "вольнымі палоскамі" (Баб.). Палатнянае перапляценне (на самой справе — рыпсавае, з перакрыццём ніткамі утка пар нітак асновы) узнікае толькі ў калодках. Белыя прасветы паміж дадатковымі калодкамі ткуцца таксама "ў кружкі". Тканіна ствараецца цалкам узорнаю. Менавіта яна нагадвае рытм разбяной аздобы дома. Дошкі-"ветраніцы", што акрэсліваюць франтон, па ўсёй сваёй даўжыні маюць хвалісты ўзор, а на канцах — ярусную кампазіцыю са знакамі зямлі. Дарэчы, сама пабудова-хата, з яе дахам, захоўвае гэты старажытны падзел рытму: салома, дахоўка, шчапа кладуцца такім жы 'безупынным' спосабам, а калодкі дома складаюць 'гарызантальна-паласатую' кампазіцыю, якая 'ўзводзіцца' пад дах. Апазіцыя 'безупыннага'/'дыскрэтнага' належыць да асноватворных у культуры. Па апошнім члене культура вылучае сябе з безупыннай стыхійнай плыні.

Калі люстрана-сіметрычны ручнік узгадвае пра гэта размяшчэннем дзвюх хваляў па краях кампазіцыі, дык ручнік тыпу бабіцкага ўтрымлівае апазіцыю ў самой канструкцыі. Тэма безупыннага, невядомага, белага — гэта тэма верху, неба і ў пабудове Покуці. Праз яе верх, 'дах' праходзіць белая, але ўзорыстая плынь бабіцкага ручніка, у той час як яго паласатыя канцы з'яўляюцца 'сценамі' пабудовы. Магчыма, менавіта ўдзел розных імпульсаў у складанні бабіцкага ручніка звёў 'хатні' і 'колавы' вобразы і ў мясцовым выглядзе Покуці: канцы злучаюцца ў адзін маналітны 'зруб' альбо 'прастол' пад абразом, накрытым хвалістым 'дахам' белай сярэдзіны. Угледзімся ў яе ўзоры. Пры тканні "ў ёлачку" ўпоперак тканіны ўзнікаюць белыя зігзагі. "У кружочкі" — мы бачым бясконцае зіхаценне, і адная з назваў — "у кропелькі" — дае вобраз. Але кожны з кружочкаў ("глухі" альбо з крыжыкам у

сярэдзіне) — гэта і знак насення, назва асэнсоўвае вобраз: "канапелькі". Гэтыя ўзоры маюць адпаведнасці і ў тканінах археалагічных. Абрадавыя дзеянні абсыпання зернем зверху (маладых; хаты і гаспадароў на Каляды) і звычай рытуальнай сяўбы на гарышчы хаты здаюцца яшчэ адной праяваю глыбіннага вобразу "божага насення".

Менавіта па наяўнасці гэтай узорыстай сярэдзіны адрозніваюцца *дзве плыні* мясцовых ручнікоў, якія маюць самыя розныя кампазіцыі арнаменту на канцах. *Адныя* ткуцца *саржавым перапляценнем* па белай частцы, *другія* ж — пасярэдзіне *палатняныя*. Першыя правакуюць цотны метр у стварэнні ўзораў (шаг 2 альбо кратны 2); другія маюць няцотны метр (шаг 3). Што датычыцца паласатых, то яны маюць паміж палоскамі сярэдзіны абодва тыпы ткання, што, магчыма, утрымлівае інфармацыю аб *розных імпульсах іх стварэння.* У нашых месцах гэта звычайна палатняныя пасярэдзіне тканіны. Альбо яны сталі такімі — бо шэраг іх захоўвае цотны метр, тэхналагічна не абумоўлены. Тэма безупыннасці выяўляецца ў 'палатняных' праз узор вузкіх калодак па белай сярэдзіне. На гэтых палосках часта з'яўляецца хвалістая "крывулька". Паміж калодкамі і вакол іх ("па полю") бываюць знакі сонечных колаў, "кацелкі", "кацюшкі", розныя выявы "бабачак", "цярэшак", "мушак", "вутак" (але яны ж — і "сабачкі", "козкі", "козлікі").

## 15.2. Калодкі як межы: зямныя, водныя і агнявыя

Паміж белаю сярэдзінаю ды чырвоным канцом у бабіцкай ды прыснянскай традыцыях згушчаюцца вузкія калодкі, часцей за ўсё іх тры, пяць (у прыснянскіх тканінах да дзесяці і болей). Гэта цёмныя палоскі, па краі прастрочаныя альбо гарадчастыя ("перасекамі", "драбнічкі"), а таксама браныя калодкі ў лакальных варыянтах. Самі ўзоры на канцах у прыснянскіх ручніках непадзельныя, а у бабіцкіх падзяляюцца іншымі калодкамі — даволі шырокімі чырвонымі "вольнымі палоскамі", "простымі палосамі" (тэрміны ўласна бабіцкай традыцыі). Такія ж альбо блізкія чырвоныя калодкі — і ў шэрагу іншых мясцовых традыцый.

Локус 'чырвоных' ручнікоў, дзе такія калодкі чаргуюцца з густым засцілам бранага ткацтва, а ў іншых традыцыях — з чырвонафонавымі ж перабornымі ўзорамі, займае, на першы погляд, кампактнае месца паміж Сожам і Беседдзю — у Веткаўскім, Чачэрскім, Краснапольскім, Краснагорскім раёнах. Аднак асобныя прыкметы такіх ручнікоў падоўжваюцца ў іншых чынах і традыцыях. Сам 'чырвоны' локус нібыта рэальна ўвасабляе згушчэнне пэўных ізаглос, якія 'расплятаюцца' ва ўсе бакі на этнаграфічнай карце. Удзельнікамі складанага гістарычнага працэса нам прадстаўляюцца і чырвонапалосныя ручнікі з белымі прасветамі. Калі б прадставіць гіпатэтычнае ўзаемапранікненне чырвонапалосных і ўзорнапалосных кампазіцый, то яно б нагадвала счапленне пальцаў дзвюх рук. Наглядна бачна, як згусціліся б палосы, узорныя паміж чырвоных. Апошніяператварыліся ў падзелы паміж узорнымі палосамі — калодкі. Гэта ўзаемадзеянне выглядае як старое, бо чырвонакалодкавыя браныя чыны маюць розныя і ўстойлівыя паслядоўнасці раннеземляробчых сімвалаў ва ўзорных палосах. У пэўныя часіны самыя гэтыя чыны ўваходзяць у іншыя ператварэнні, напрыклад, ва

ўзаемадзеянне з закладам. “Вольнасць” чырвоных калодак актуалізуецца занава. Шырокія палосы, не занятыя ўзорам, “вольныя”, на наш погляд, ‘асэнсоўваюцца як “цёмныя” ў параўнанні з белымі і робяцца ‘зямнымі’.

## 16. АГУЛЬНАКУЛЬТУРНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЎЗНАЎЛЕННЯ СЕМАНТЫЧНЫХ З'ЯЎ У СКЛАДАННІ ЧЫРВОНАКАЛОДКАВАГА ЧЫНА

Але, калі б утварыць мадэль такога працэсу, мы б убачылі, што працэсы засваення “вольных палосак” значна больш складаныя. І, ствараючы падобную мадэль, мы павінны адзначыць, што яна — не адзіная. Шукаючы семантычных прычын, патрэбна разгледзець знешнія, тэхналагічныя інавацыі, шляхі запазычанняў, нават сацыяльныя працэсы. Сённяшнія даследчыкі звяртаюць пільную ўвагу на гэтыя параметры працэсаў у народным ткацтве (гл., напрыклад, працы Фадзеевай, Лабачэўскай). Аднак у нашай сітуацыі мы толькі намецім іх шэраг.

Схільнасць да чырвонага часам канфесіянальная: “Мужыкі ткалі красным, шляхта не ткала...” У выпадках цеснага суіснавання вызначальныя прыкметы канфесіянальных груп найчасцей ‘абараняюць’ і культурную ‘самасць’, якая больш шчыльна ўзмацняе свае ‘межы’ і захоўвае архаічныя рысы.

Аднак сцвярджэнне аб канфесіянальным абасабленні, якое мы пачулі ад мясцовых жыхароў, застаўляе пільна ўгледзецца ў апазіцыю белага — чырвонага ў маштабе ўсёй краіны. Ці не нясе захаванасць чырвонага ў Палессі і асабліва ў Падняпроўі (у складаным сваім характары) і архаічныя рысы, закансерваваныя тут і з прычыны *канфесіянальнага самавызначэння*? Само паняцце і комплекс маленнага месца ў хаце значна розніцца канфесіянальна. Здаецца, рэзкае павелічэнне колькасці і разнастайнасці народных ікон і тканін у нашым рэгіёне, сама захаванасць гэтых узаемаабумоўленых з'яў адлюстравалі, паміж іншым, і нейкую ‘стаячую’ хвалю, што ўзнікла на сутыкненні моцных сустрэчных канфесіянальных хваляў. Рух духоўных працэсаў праходзіў праз душу чалавека і праз яго хату — мікракосмас, мадэль ‘вялікіх’ падзей. Тым больш, канфесіянальная сітуацыя ў нашым рэгіёне складалася яшчэ больш шчыльна — за лік стараабрадчай кампаненты.

Пошук старажытных — старэйшых за хрысціянства — элементаў у сучасных тканінах звяртае ўвагу і да агульных працэсаў у існаванні ды *зменах арнаментальнага светаадчування розных эпох*, іх подыху на нашай тэрыторыі. Сустрэча геаметрычнага і расліннага арнаментаў на ручніках, прадуктыўная ў апошнія часы, робіць верагодным дапушчэнне аб рэзанансным характары гэтага далёка не першага ўзаемадзеяння стыляў і для народных тканін. Як і аб тым, што ўзнаўляць такое ўзаемадзеянне могуць толькі *жывыя* чыны. Стварэнне дубраўскага і неглюбскага чыноў геаметрызаваных раслінных арнаментаў — доказ таму. Удзел у гэтым працэсе раннеземляробчых сімвалаў, захаваных да сучаснасці, сцвярджае іх у якасці ўдзельнікаў дыялогу.

Аднак і *тэхналагічныя працэсы* ў развіцці ткацтва аказваюцца павязанымі як з агульнымі з'явамі ў развіцці рамесніцтва і прамысловасці, так і з тымі ж канфесіянальнай, сацыяльнай і нават геаграфічнай кампанентамі — са шляхамі пранікнення новага ў архаічныя традыцыі (напрыклад, двухба-

ковае ткацтва магло правакаваць ажыўленне пазітыўна-негатыўнага імпульсу ў колерах фонаў ды ўзораў, але імпульс гэты — архаічны). Захаванасць у Неглюбцы аднаго са старажытных тыпаў ткацкага станка — кроснаў са ставамі, зробленымі з двух комляў дрэў 'на нагах'-коранях, і з падвешваннем нітоў да столі — здаецца павязаным і з адмаўленнем майстрых ткаць 'на матузах' (гл.: Віннікава. 1999. С. 30). Сіметрычная кампазіцыя выконваецца ўручную (як для кожнай першай палавіны арнаментальнага элемента ў паласе, так і для сіметрычнага паўтору ва ўсёй кампазіцыі пасля "серядавых хрястоў". Сіметрыя аказваецца тэхналагічна не абумоўленай).

Вернемся да пытання аб чырвоных калодках паміж узорамі — ці не з'яўляюцца яны 'саматужнаю' перадачай з дапамогаю ткацтва "проставак" фабрычнай кумачовай тканіны (у чым 'у апошні раз' выявілася агульная прывабнасць чырвонага, пануючага ў паўднёварускіх суседніх землях)? Такія "простаўкі" ("прошвы") сапраўды вядомыя і ў 'нашых' ручніках, часцей ля ніжняга краю. Аднак пытанне: кумачовыя 'простаўкі' паміж шчыльнымі бранымі ўзорамі ў 'рускіх' тканінах — ці не спадчына энергіі чырвоных "вольных палосак" паміж узорнымі?

Чырвань ручнікоў Усхода Беларусі, як і разнастайнасць кампазіцый арнаменту — адлюстраванне шматэтнічнага складу яе насельнікаў і складаных працэсаў культурнага ўзаемадзеяння на мяжы Беларусі — Украіны — Расіі (аб чаргаванні *гладкіх чырвоных*, тканых рыпсам, і ўзорных палос у ручніках Чарнігаўскага Палесся і Сярэдняга Падняпроўя гл.: Булгакова. 2000. С. 28; Мельничук. 2000. С. 24).

Чырвонакалодкавы імпульс мог быць павязаны з 'інакультурным' паходжаннем шэрага вёсак, асоджаных тут у канцы XVII ст. на землях Кіева-Пячорскай Лаўры (Неглюбка ды іншыя). Аднак пералік гэтых вёсак уключае традыцыі, яўна *адрозныя па тыпах калодак*, *чырвонакалодкавыя* неглюбскія процістаяць *узорнакалодкавым* бабовіцкім і верашчацкім. У той жа час абедзве разнавіднасці — часткі памежных плыней: чырвонакалодкавай (якая падоўжвае чырвоны акцэнт у чырвонапалосных на захад і поўнач) і — узорнакалодкавай. У іх уваходзяць яўна 'тутэйшыя': чырвонакалодкавыя бабіцкая, чачорская, валосавіцкая і ўзорнакалодкавыя закружская, старыя гомельскія і дубраўскія тканіны. Калі чырвоныя калодкі і былі прынесеныя, дык яны папалі ў 'свае', зрэзаніравалі з мясцовымі чырвонакалодкавымі традыцыямі. Дзе й спрабаваць шукаць глыбінных заканамернасцей, як не тут, у месцах найбагацейшага матэрыялу і найбольшага згушчэння 'сілавых ліній'?

Калі разглядаць нашую канкрэтную з'яву: чаргаванне белафонавых і цёмнафонавых палос з арнаментам у кампазіцыях мясцовых ручнікоў — з іншых пазіцый, калі звяртацца да ролі закладной тэхнікі ў з'яўленні тут розных тыпаў перабору, то, разам з гістарычнаю недаследаванасцю працэсаў, мы атрымліваем і *тыпалагічныя сучасныя вынікі* — у ткацтве гіпатэтычных колішніх удзельнікаў дыялогу. 'Іранскі' кампанент у з'яўленні заклада ў славянаў — пытанне археалагічнае (той жа кампанент знаходзяць наогул у стварэнні культуры севяранаў).

## 17. КАЛОДКІ Ў КАМПАЗІЦЫІ, ЗРАЗУМЕЛАЙ ЯК МАДЭЛЬ КУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ

Па-першае, гэта межы і дэталі канструкцыі ў будаўнічым кодзе — "калодкі", "бярвенне", "пруты". Сэнс агароджы таксама рэалізуецца ў "калодках", параўнай "перасекі", "ряшоткі" (але і "гарадкі", "будачкі" — асобы від калодак, Негл.).

Па-другое, актуалізуецца сэнс "дарожак" і "сцежак", "слядкоў" (гл. алфавіты арнаментальных элементаў). У гэтай 'дарожнай' апазіцыі чырвонафонавыя калодкі і белафонавыя палосы пачынаюць адрозніваца як 'зямныя'-'нябесныя' 'дарогі'. Абрадавыя адпаведнасці вядуць да азначэння гэтых жа 'межавых' зон у распаўсюджаных у рэгіёне ўяўленнях пра духаў дарог — "дабрахожых" ("невідзімых багатыроў", "невядзімцаў") ды абрадавых дзеянняў "на раскрэсах" і "на раскосах". Магчыма, арнаментальныя тэмы "цёмных сцежак" ды "вароніх (зязюльчыных, сарочых) вочак" на калодках павязаны і з тым, што "яны нас бачаць, а мы іх нет" (гл.: Лопатин. 2003. С. 35—37), ды з архаічнымі вобразамі чароўных птушак і міфалагічных 'межавых' істот.

### 17.1. Сэнсы белага і падсвядомасць традыцыі

Перажыванне *белага фону* мае багата слаёў у традыцыйнай памяці. Найбольш архаічны слой — *паверхня неўзаранай (цэлай) зямлі.* На гэтым цэлым, папярэдне ачышчаным, быццам на полі ў пераходныя моманты, з'яўляюцца рытуальныя знакі. Адно са старажытнейшых ужыванняў тканіны — *яе абрадавае засціланне* (па зямлі з мэтаю ачышчэння пэўнай мясціны для звяршэння рытуалу). Такую рытуальную семантыку мае бранае ткацтва. Браны ручнік 'працуе' з белаю паверхняй тканіны, нібы засцеленай на зямной цвердзі-мяжы Таго і Гэтага бакоў свету. Уток 'утыкаецца' ў цэлае ды непадзельнае, ткацтва (гэтага ж кораню) пераймае ролю іголкі. Чырвоныя знакі ўзнікаюць на Гэтай паверхні, толькі абавязкова знікаючы з Таго боку. Тэхналогія ёсць праява старажытнай семантыкі. Ці не таму ў бабіцкіх ручніках знакі ўзрастання нівы (тыпу "лапы") і ўраджаю ("кручча", "кручэйка") — чырвоныя, а знакі ўзарання поля робяцца ўглыб — яны адваротныя, белыя? Таксама як і цэлая сістэма крыжыкаў — тыпу "веряб'ёў" (Негл.); яны то белыя (чырвоныя зыспаду), то з белаю кропкаю ў сярэдзіне, нібыта зерне (альбо дух зерня) увайшло ў зямлю (на Той бок) і пусціла крыжык парасткаў на Гэты бок; то чырвоныя; параўнайце ўжыванне вобраза таго ж вераб'я ў абрадавай песні: "Пасею я, матка, канапелькі, Да зародзяцца варабейкі..." (Материалы по этнографии Гродненской губернии. 1911. С. 117).

Калі браная, планіметрычная па паходжанню кампазіцыя вылучае гарызантальныя палосы, яна працуе з часам, пазначаючы гэтакім чынам этапы. Але ж гэта і прастора, якую праходзяць старажытныя сімвалы. Паняцці шляху, дарогі і прасторы непадзельныя ў ручніку, бо ён і ёсць дарога. Кожная ж паласа — адначасова і этап на гэтым шляху ("дарожка"), і перыяд, які мае свае адзнакі цэнтрычнасці, сіметрыю. Узор паміж калодак ("місь калодкі", Негл.) разумее сябе як 'сусвет' у пэўны час і момант яго развіцця,

і таму 'краявыя' тэмы (тыя ж "крывулі") усёй кампазіцыі могуць актуалізавацца і ў 'малым' чыне арнаментальнай паласы ў атачэнні калодак.

У браным ручніку неглюбскай традыцыі з Гібкоў (фота 230) бачым мелкія зігзагі ("мышыныя сцежкі" альбо "мышыныя *брадкі*") на межах узораў і калодак (яны бываюць і па сярэдняй восі калодкі). Гэта дэкаратыўны прынцып для ўсяго тыпу Н-І (фота 230—238). Маленькія "крывулькі" захоўвае для ўскрайкаў кампазіцыі і бабовіцкая браная традыцыя (фота 281, 287 ды інш.).

Прыём змяшчаць па межах кампазіцыі зігзаг пакінуў сваю семантыку археалогіі. Але схільнасць месціць зігзагі-крывулі па межах чырвонага-белага ўзнаўляецца з зайздроснай настойлівасцю. Пры параджэнні новых неглюбскіх калодак — чырвоных з узорнымі палоскамі па іх сярэдзіне — займуюцца матывы ўзорных белафонавых калодак суседзяў. *Сема вады* абіраецца ў іх, здаецца, не выпадкова. Ручнік з Чырвонага Кута, заселенага неглюбцамі ў 1930-я гг., нясе след узаемадзеяння гладкіх і ўзорных калодак. Неабходнасць у 'пераправах' і воднай тэме ён рэалізуе пры цэнтральным узоры (фота 261, гл. таксама фота 270). Узор калодак з крывулькаю можа замяняцца ўзорам з касымі парамі квадрацікаў, злучаных вугламі (фота 263). У гэтым выпадку крывулька адсутнічае. Аднак гэтакі тып калодкі завецца "вуткамі" (потым і "сабачкамі", і "мушкамі"), такім чынам, магчыма і семантычнае дапушчэнне іх узаемазамяняльнасці як маркёраў 'незямной' перашкоды альбо мяжы. Пры такім ракурсе разгледжвання вобразных тэм у назвах узораў калодак у кола 'водных' адзнак уцягваюцца і неглюбскія ж "жабкі", "чахонь" (назва рыбы), а наогул 'незямны' сэнс захоўваюць "зоркі", "мушкі", "цярэшкі".

Ці магчымае такое перажыванне ўзора сёння? Мы былі ўпэўнены, што не. Аднак апошнія запісы далі станоўчы адказ на гэта пытанне. Бабуля з Антонаўкі (дзе мяжуюць прыснянская непарыўна-вертыкальная традыцыя ды тая, што перасякае яе папярочнымі калодкамі) навучала дзяўчынку ткацтву: "Не рабі гэтую паласу шырокаю, гэта — вогненная вада" [27]. Міфалагема агнявой ракі, вады прыцягвае ўвагу даследчыкаў (гл.: Топоров. 1998б. С. 145). Пры магчымасці такога ўспрымання сэнсу папярочнай паласы здаецца больш слушным і 'воднае' тлумачэнне ўзораў з "крывулямі" (гл. фота 261, 316, 317, 337 і падобныя). Цікава, што як 'паток', "шувоае" (*малд.*), ацэньваюць зігзаг-"крывулю" і малдаўскія ткачыхі (гл.: Зеленчук, Лившиц, Хынку. 1968. С. 31).

Узаемадзеянне традыцыі старэйшага бранага чыну (як бабіцкая) з 'белафонавымі' альбо з 'паласатымі' суседзямі, у ткацтве якіх былі "крывулі", дае характэрныя прыклады. "Крывуля" займае пазіцыю калодак і вылучае цэнтральную паласу як галоўную. Параўнайце прыклады (фота 98 і **124**), дзе скарыстаны "простыя", "вольныя палоскі", з ручніком **(фота 127)** і тым, што змешчаны ў кнізе В. Фадзеевай (Фадзеева. 1994. С. 299). Падобнае — і ў прыкладах **35, 435**.

Тэма воднага падзелу — свая і для Барталамееўкі (гл. фота 352). Мадэрнавыя "вілуткі" беспамылкова месцяцца на калодках ў Новых Бабовічах **(фота 293)**. Сістэма "крывуляў" размяжоўвае цёмнафонавыя палосы ўзораў на ручніку з Нясвоеўкі (гл. фота 335). Так ці іначай, тэма вады (водаў — верхняй ды ніжняй, або падвоена — краявых і прыцэнтравых) рэалізуецца як агуль-

ны прынцып межавання пастораў, якія 'культурна распрацоўвае' кампазіцыя ручніка.

Абрадавыя адпаведнасці ўзора з адноўленым сэнсам вады — магічныя дзеі з вадою, менавіта з ракою. Матэрыял замоў і абрадаў выклікання дажджу, а таксама каляндарныя і вясельныя тэксты сведчаць аб жывым успрыяцці "вадзіцы-царыцы" ў рэгіёне доследаў. Геаметрычныя формы і нават назвы "крывых танкоў" — "крывулі" — сустракаюцца ў вясновых карагодах, у час абраду "Ваджэння Стрялы", у складанай 'мелодыі' якога празрыста гучаць і ноты выклікання дажджу (пар.: "хвалепадобныя лініі... "стралу" вялі, трымаючыся за рукі, адна за адной; з песнямі пераходзілі вуліцу ад хаты да хаты", гл.: Козенка. 2001. С. 513). Украінская даследчыца лічыць, што сакральны пачатак "крывога танка" перадаваўся ў падсвядомасці пакаленняў і зберагаўся ў сінкрэтызме слова, руху, рітму і мелодыі, што разам мадэлявалі бесперапыннасць руху ў прыродзе з яго асабліва важнаю фазаю вясной (гл: Фружинська. 1999. С. 393—394).

Што датычыцца архетыпічнага сэнсу калодак, які знаходзіць сабе вызначэнне у формах ды назвах, дык да 'семаў' мяжы-агароджы-замыканняадмыкання-насення-апладнення-істотаў-зроку-слепаты-ўрадлівасці-агнюнябес-дарогі-слядоў-будавання мы павінны дадаць і сему 'вады' ў больш структурным яе разуменні, ад "мышынага брадка" да "вогненнай вады" з тэксту замовы (гл.: Басько, Варфаламеева. 2001. С. 94):

Кругом двара
Вогненая река,
Камянная сцяна.

## 17.2. Традыцыі браных узорных калодак і 'зямны' след у іх семантыцы

Пры ўзаемадзеянні з белафонавымі суседзямі ў дубраўскай традыцыі ўтвараюцца ручнікі белага чыну, дзе 'новыя' пераборныя элементы займаюць пазіцыі галоўных, бранае ж ткацтва адціскаецца на абярэжныя месцы, тчэцца ў калодках (гл. фота 289, 358, 362; **фота 363, 436**). Цікава, што *ў калодках тут звычайныя тэмы зерня, "вочак", 'межавыя знакі'*, магчыма, у ролі магічнага паўтору. Але калодкі ж актуалізуюць (на мяжы з белафонавай традыцыяй) і сэнс зямных слаёў — меж 'цвердзі' паміж ярусамі Сусвету... куды й сеецца зерне.

Такі ж лагічны ход маюць і ручнікі бескалодачнага вертыкальнага тыпу і вытворных ад іх: часам пачынаючы свой чын з некалькіх вузкіх браных калодак, гэтыя кампазіцыі акцэнтуюць у іх *тэмы пачатку, насення* (фота 5, 7, 12, 14, 20—22, 26—28, 33, 34, 42—44, 46—47, 65). Можна дапусціць, што такія браныя калодкі неслі архаічны сэнс '*засявання*'. У асіметрычным вертыкальным браным чыне (у які ўваходзіць і прыснянскі) браныя пачатковыя калодкі — найбольш архаічныя. Тэма паўтору арнамента ў калодках, якую ўвасабляюць паласатыя ручнікі з узорнымі калодкамі, здаецца развіццём гэтага пачатковага імпульсу. Матывы зерня і пасеву сцвярджае і аналагічная непаўторная калодка-пачатак у традыцыі паласата-арнаментаваных

ручнікоў 'палескага' тыпу: асіметрычных з белымі прасветамі паміж рознашырокімі палосамі ўзораў (фота 430; гл. таксама: Лабачэўская. 2002. Іл. 46—48). Сярод паласатых яны, як '*белапрасветныя*', супрацьстаяць асіметрычным жа тканінам цёмнакалодкавага (*чырвонакалодкавага*) тыпу. Апазіцыя 'белага/чырвонага' тут чакае доследаў адносна гіпотэзы аб 'водным/зямным' характары прамежкаў узорных палос. Узорныя ж калодкі, асабліва разгледжанага тыпу, нясуць сему '*зямнога*'. Здаюцца адпаведнасцю парадку змен арнаментальных элементаў фальклорныя тэксты накшталт неглюбскага: "Як успашам полечка... як пасеем семечка... як унадзіўся ды й той казёл..."

## 18. ПАДЗЕЛ 'БЯСКОНЦАЙ' КАМПАЗІЦЫІ І ЯЕ СЕМАНТЫЧНАЕ ПЕРАТВАРЭННЕ

Гэта адбываецца на мяжы прыснянскай і бабіцкай традыцый, дзе бабіцкі трохпалосны арнамент падпадае пад уплыў прыснянскай дыяганальнай 'сеткі' (альбо ўзаемна). Інакш кажучы, гэта тая самая 'бясконцая', "у шашкі" альбо "крывулямі" кампазіцыя, але 'перасечаная' "вольнымі палоскамі". Мы бачым, што так вылучаецца трайны паўтор трох знакаў тыпу 'засеянага поля', 'нівы' **(фота 106)**. Гэта ж тэма, але з іншымі калодкамі — у Закружжы **(фота 361)**.

Працэс набору ўзора і размежавання яго "вольнымі палоскамі" абумоўлены не толькі тэхналагічна. Гэта можна ўбачыць у прыкладзе **105.** Вялікія ромбы тыпу "глухоўка" (Негл.), "бубны" (Макаўе), "балончыкі", "баланачкі" (Нісімк.; параўнай "балонкі", Негл.) ствараюць пару ў зубчастай "абводцы". Паміж імі — ромбы іншага выгляду, адатканыя да паловы. Калі б чырвоная калодка толькі прыпыніла працэс, у наступнай паласе былі б закончаныя гэтыя прамежкавыя фігуры ды ішла б другая паласа "балонак". Але ручнік робіць галоўнымі і вытыкае нанава два ромбы, у якіх вылучаюцца цэнтры тыпу "вочак". Трэцяя паласа, зноў-такі збіўшы рытм, вяртаецца да "глухіх" ды "пустых" "балонак". Згадаем, што тэма "глухі" дапаўняецца ў некаторых традыцыях вызначэннем "сляпы" ("сляпая глухая" і "глухая з глазам" у Верхлічах — менавіта пра ромбы). Такім чынам, тэма зроку знаходзіць і моўны выраз, і форму: сімвал зямлі закрытай становіцца "відушчым" (Негл.). Гэты стан адкрыцця (а магчыма, і зачацця) вылучаецца як галоўны. Рытм жа няпоўных фігур дае "крывуліну", у якую ўводзіцца чырвоная "вольная палоска". Калі прыгледзецца да "крывуляў" іншых традыцый, дык пабачым, што і тыя найчасцей ткуцца "на прутку" — так "крывулі" гарызантальныя падоўжваюць архаічную сему 'няпоўнага'.

Прыклады 98, 131 вырашаюць праблему 'падзелу' больш проста. Але фігура тыпу "балонкі" мела ў цэлым выглядзе крыжык у сярэдзіне і назву "сэрца". Цяпер жа, перасечаная чырвонаю паласою, завецца "разбітае сэрца" (гл. фота 131).

У ручніку з Покаці (гл. фота 98) цэлыя ромбы 'дамысліваюцца', бо іх паловы — апірышча вертыкальных слупкоў-"стаўпцоў". Вертыкальныя 'стаўпы' ў прыснянскіх ручніках звычайна маюць чаргаванне закрытых і адчыненых ('засеяных') ромбаў. У прыкладзе з Бабічаў (гл. фота 103) гэтыя стаўпы нібы аднолены. Аднак *тэму закрытага* на сябе біруць чырвоныя "*вольныя*

*палоскі*". Цэнтральны 'стоўп' звязвае ярусы, праходзіць іх наскрозь. А ў кожнай з трох палосаў узнікае пара знакаў зямнога прарастання. Гэтыя ромбы-"лапы" — рэдкай формы. Яны нясуць у сабе вертыкальныя белыя прасветы і супадаюць з архаічным, яшчэ хецкім, знакам "жанчына". Такія знакі ёсць у нашых ручніках і, здаецца, у розных стадыяльных тыпах, але недаследаваныя.

Цікава, што калі б ручнік (гл. фота 97) паяднаў свае канцы, у сярэдзіне атрымаўся б яшчэ адзін 'стоўп' — з вялізных 'ніваў' (а ў фота 102 — з 'незасеяных палёў'). Гэту ж рысу знаходзім у полацкіх ручніках (Лабачэўская. 2002. Іл. 150). Такі варыянт 'лева-правай' сіметрыі здаецца архаічным: сіметрыя дасягаецца не толькі люстранай паўнатой, але і *стварэннем рытуальнага аб'екта* з 'новаю' структураю.

Калі дапусціць, што вертыкальны тып ручнікоў — архаічны, то яго пранікненне з поўначы на поўдзень ды існаванне на мяжы з паласатымі ручнікамі — таксама ўстойлівая з'ява. Іх узаемадзеянне павінна было б узнаўляцца як пэўны алгарытм — шмат разоў і ў розных сітуацыях на працягу часу. Агульны фонд знакаў для бабіцкага і прыснянскага ткацтва сведчыць аб даўнасці ўзаемадзеяння. Аднак устойлівасць і архаічны тып спалучэння белай саржавай сярэдзіны і паласатага канца (*з трайным паўторам* старажытных земляробчых знакаў), якія бачым у бабіцкай традыцыі, паказвае, што чын склаўся як вобразна-кампазіцыйна-тэхналагічная цэласнасць (на рэчавым узроўні знаходзім *трохгаловую "свячу"* ў бабіцкім варыянце абрада "Свяча"). Магчыма, гэта таксама адзін з архаічных тыпаў ручніка. Тым больш, што 'перакладаючы' прыснянскія вертыкальныя ўзоры на сваю трохпалосную мову, бабіцкія вёскі мяняюць узор тэхналагічна: шаг у тры ніткі — на шаг у дзве ніткі, г. зн. пералічваюць увесь узор па колькасці нітак асновы, пускаючы пад узор рыпс (ад чаго фігуры робяцца больш мажнымі?).

## 18.1. Раннеземляробчы чын знакаў. Гіпотэза: бабіцкі ручнік-малітва

Якія знакі робяцца тэмаю ўласна бабіцкага 'паўтору'?

1. Касы крыж з двума крыжыкамі (да таго ж, дзеля 'лева-правага' сіметрычнага 'зводжання канцоў набор заканчваецца стралою; гл. фота 130).
2. 'Дзявочага' тыпу "лапа" (гл. фота 35).
3. Знакі нівы, 'засеянага поля' **(фота 128)**.
4. Сімвалы нівы, якая прарастае (гл. фота 93).
5. "Кручча" ("закакарючкі", "балоначка") — сімвалы ўраджаю (гл. фота 95, 96).

Мы бачым, што гэта той самы земляробчы 'чын'. Але кампазіцыю аднаго ручніка 'вядзе' адзін сімвал (хоць і ў 'суправаджэнні'). Паўтораны тройчы тры разы альбо блізка да гэтага. Альбо пара знакаў, асіметрычна зведзеных ў адной паласе і пасля ўжо параю — паўтораных тройчы.

У адкрытым узаемадзеянні розных 'сістэмаў каардынат' (мы прытрымліваемся азначэння 'мадэляў Сусвету', дадзенага ў рабоце: Иванов, Топоров. 1977. С. 18) актуалізуюцца прасторавыя сэнсы кампазіцый. Гэта падтрымліваюць абрадавыя дзеянні з ручніком, калі ён рухаецца і займае роз-

ныя пазіцыі ў культурнай прасторы: наверсе, пасярэдзіне, унізе, вертыкальна, гарызантальна, на мяжы (краі) альбо ў Цэнтры. У адпаведнасці з гэтым актуалізуюцца рытуальныя альбо касмалагічныя архетыпы, якія заўсёды прысутнічаюць у ручніку як рэчы, створанай для рытуалу і яго касмалагічнага ўздзеяння, як рэчы-ўвасаблення гэтых задачаў.

Калі ж адное і тое паўтарыць тройчы + правесці праз тры ярусы (нізсярэдзіна-верх), калі гэту формулу саткаць на мяжы і ўнізе ды ўзвесці да абразоў, на Покуць, дык магчыма і прачытаць узор 'у загадным склоне'. Трайны паўтор у моўным варыянце — "Няхай будзе", "Дай, Божа". Калі б 'прачытаць' бабіцкі ручнік у тым парадку, як ён тчэцца, можна было б пабачыць, што ён скіраваны на адзін каляндарны час-перыяд (альбо пэўную фазу развіцця).

Земляробчы код — адзін з асноўных для розных культурных праяў, хоць тое будзе засяванне поля, абрад пачатку будоўлі ці вяселле. Створаны раннімі земляробамі тысячы год таму, 'наш' чын не зводзіў велічы касмалагічнай да "засеянага поля". Але 'раннеземляробчы культавы сімвал' адлюстраваў найвялікшую культурную рэвалюцыю — пераход ад пасіўнага збіральніцтва і знішчальнага палявання да ўзрошчвання — новага стварэння 'па божаму плану'. Земляробчая сімволіка стала сама 'насеннем' для развіцця ментальных структур, ад велічнай біблейскай і хрысціянскай земляробчай метафорыкі да сучасных паняццяў тыпу 'семантычнае *поле*'. Пытанне аб правамоцнасці лінейнага чытання мнагамерных сімвалаў турбуе і сённяшніх даследчыкаў беларускага арнамента (гл.: Фадзеева. 1999. С. 3—9). Гарманічнасць ужывання земляробчай сімволікі беларускімі сялянамі мае тыя ж сінкрэтычныя карані.

Ручнік бабіцкай традыцыі выбірае як галоўны матыў адзін сімвал, а ў сукупнасці тканіны маюць увесь чын гэтых сімвалаў, ад касога крыжа-"казла" да крывога "кручча". Калі гіпатэтычна ўявіць існаванне каляндарнага кола ручнікоў, дык бабіцкі чын дае для гэтага поўны камплект матэрыяльных сведчанняў. З сучасных абрадавых дзеяў адпаведнасць можна знайсці ў замене ручнікоў на Покуці напярэдадні святаў. Звесткі, вядома, познія, сам звычай хутка знікае. Але ў такіх вёсках, як Неглюбка, дзе яшчэ ткуць, называюць па некалькі на год пераменаў ручніка на Куце.

Адзін з характэрных узораў у вёсках бабіцкай традыцыі — "кручча" (гл. фота 95). Падвойны сіметрычны паўтор — дэкаратыўны прыём, аднак паходжанне яго — у глыбіннай семантычнай формуле. Паўтараючы нешта, мы апынаемся ў тым самым месцы і часе, з якога пачалі. Гэтак паўтараюцца процілеглыя канцы ручніка, абрадавая дзея якога — паяднаць канцы і тым самым замкнуць кола рытуальнага часу! Рытуал, паўтараючыся, імкнецца дасягнуць кропкі Пачатку (гл.: Топоров. 1988а). Парны паўтор — формула дасягнення выніку і новага пачатку. Таму, захаваўшы архаічны чын геаметрычных знакаў узростам у некалькі тысячагоддзяў, ручнік мог захаваць і формульнасць, аднаўляючы яе ў безлічы новых і новых абрадавых асэнсаванняў (пара маладых, што вечна аднаўляе жыццё, — адна зісцінаў, якія падтрымліваюць існаванне старажытнай формулы). Калі першая фігура пазначае тэму малення, дык другая, паўтараючы яе, дадае сэнс пацвярджэння, дасягнення выніку: "Мы молім аб ураджаі, каб *было так*".

Паміж "круччам" і "кручам" — знак узаранага поля. Прыкметаю надзвычайнай архаікі мы лічым тэхналагічнае ўвасабленне сэнсу, тое, што поле 'аруць у глыбіню' тканіны, яго контуры — белыя, баразна зрывае поле, нітка знікае пад спод. У той жа час 'зярняты' (альбо маленькія "лапкі"-расткі?) чырвоныя. Узаранне ды засяванне поля — адзіная тэма, вакол якой — 'думкі' пра ўраджай. Удакладнім радок тэксту, які можна ўбачыць ва ўзоры: "Ураджаю на нашую ніву, якую мы ўзаралі й засеялі, ураджаю". Альбо, у адпаведнасці з народнай традыцыяй, якая мысліць дзеясловамі: "Урадзі, наша нівачка, урадзі!" Трайны паўтор узора ад нізу да верху — гэта рух сімвалаў праз тры ярусы Сусвету — да божай прасторы, увасобленай у Куце. Сэнс гэтага ўзвядзення сімвалаў — 'адпраўленне інфармацыі', 'удзельнікі камунікацыі' вядомыя. Да нашага радка можна дабавіць: "Дай нам, Божа". А да гэтага — тую заўвагу, што ёсць у замовах: "Казаць тройчы".

"Кручча" бабіцкіх ручнікоў мае ў сярэдзіне не раскрыжаваны ромб, а шасціпялёсткавую кветку з крыжыкам у сярэдзіне. "Крукі" ж яго — падвойныя, нібыта калоссе-"спарыш". Такое "кручча" нагадвае нам вобраз жытняга коласу, які напачатку быў кустом. У ручніку просяць таго *ўраджаю, што быў Напачатку.*

Што датычыцца верхняга радка бабіцкіх ручнікоў, дык там зазвычай набіраецца палова або частка таго ўзора, што ў палосах (гл. фота 96). Тэма касога, крывога, няпоўнага — звычайная пры пераходзе з аднаго ярусу Сусвета на другі, пачынаючы з касых крыжоў і да загадкі пра лебедзяў: "Коса-крыва матавіла пад нябёсы ухадзіла..." Да таго ж, тэксты і выкананне абрадавых песняў у той жа "Стряле" ўжываюць такі самы прыём: адны толькі пачынаюць радок тэкста і мелодыю, яе падхопліваюць іншыя, а ў выкананні апошняга слова прыпеву яго краявыя склады замяняюцца гуканнем да неба.

У нашым прыкладзе, аднак, у верхняй палосцы вылучана самая сярэдзіна вялікага ўзора. Гэта пара знакаў. Першы — кола-кветка, што ўзыходзіць да шасціспіцавага кола. Другі — знак засеянага поля. Тая ж кампазіцыя, якую бачым на разьбяных ліштвах. Бо ўраджай, 'які быў ад Бога', — вынік таго, што было на самым пачатку. І кола з шасцю спіцамі — сімвал той магутнасці абуджэння і народзінаў, якая потым ужо дае парасткі і калоссе зямнога багацця.

Паўтор пары знакаў у адной паласе арнаменту сіметрычны. Але, калі ўгледзецца ў найстарэйшыя бабіцкія ручнікі яшчэ раз, то ўбачым: гэта пара 'зрушаная', ссунутая ад прадольнай восі ручніка і завяршаецца па-рознаму злева і справа, а ў 'суме' канцоў — люстраны паўтор. Відавочна, канцы запраграмаваныя на фізічнае злучэнне пад абразом, на покуці. Прычым, паяднанне іх можа даць два варыянты новаўтворанага, 'злучанага' знака. Толькі адзін з іх нясе сэнс 'засеянага', другі ж — альбо 'пусты', альбо матыў пары **(фота 89, 90, 94—97)**. Адзін з цікавейшых прыкладаў — утварэнне ва ўз'яднаных канцах ручніка вертыкальнага 'стаўпа' з раскрыжаваных ромбаў **(фота 94, 97)**. Узнікненне вертыкальнага 'аб'екта' ў папярочнапаласатай кампазіцыі — факт, безумоўна, значны. Ці не след гэта папярэдняга ўзаемадзеяння з традыцыяй 'растоў' і 'ліўняў'? Сярод магчымых варыянтаў дэшыфроўкі згаслага значэння — 'дрэва', ланцуг пакаленняў, што ўзнаўля-

ецца... у час шлюбнага паяднання канцоў ручніка. Узнаўленне касмалагічнай вертыкальнай восі пры трайным паўторы гарызантальнага сустрэчнага руху па рытуальнай восі здаецца сапраўдным увасабленнем магічнага сэнсу арнамента ручніка.

## 18.2. Гіпотэза: асіметрыя знакаў ва ўзорнай паласе як аналаг асіметрыі выказвання

Сярод архаічных кампазіцый арнаменту бабіцкага ручніка, акрамя сіметрычнага ў знаках: "крučча"-"канапелькі" (знак нівы)-"кручча" — ёсць і асіметрычная кампазіцыя "лапа" (знак нівы прараслай)-"кручча". Знакі ствараюць пару на паласе. "Лапа" — злева 'з пачатку', "кручча" — справа, 'пажаданы вынік'. Так ствараецца 'сінтагма' з двух розных 'словаў' (майстрыхі ўжываюць 'лінгвістычны' код, калі тлумачаць стварэнне ўзора. Гэта ўвогуле значны факт: "Вот вы пішаце букаўка к букаўке, а я чысленка к чысленке, і ўзор палучаецца"). І яшчэ (як "не папутаюцца ўзоры", калі нявестка тчэ "не па-маткінаму, а па-свякрусінаму"): "Як ты на етым лісту пішаш, як ты на етам другім — усё адно пішаш" [28].

Калі ўзнаўляць магчымы былы сэнс (спачатку магічны, потым — дэкаратыўны) у пары розных знакаў на паласе, трэба бачыць, чым яны адрозніваюцца. "У сярэдзіне" абодвух — адзіны раскрыжаваны і 'засеяны' ромб, раннеземляробчы знак нівы. Розніца ў тым, што ў першым узоры 'ніва дае парасткі', у другім — парасткі схіляюцца падобна да спелага калосся. Розныя фазы выспявання нівы і ёсць 'тэма выказвання'. Здаецца, перамена ў стане парасткаў можа быць прачытана як 'дзеясловы' пры адзінай тэме-'назоўніку' (або, у тэрмінах сказу, як дзейнік і выказнікі). 'Ніва кра-



Мал. 43. "На нашую ніву дай ураджаю...". "Лапа"-"кручча" (фрагмент ручніка)

сує' — '(ніва) урадзіла'. Тройчы паўтораная паласа з адным узорам па нашай аналогіі з моваю — тая ж малітва. "Госпадзі, як ніва красуе, так добра б і ўрадзіла" **(фота 108, 112)**. Ідучы далей у назіраннях, можна пабачыць, што правае і левае ў абрадавым замацаванні ручніка на покуці (гл. папярэднюю главу) робяцца люстрана-сіметрычнымі. Знакі прарослай нівы — становяцца па краях, знакі ўраджаю — пасярэдзіне. Пры злучэнні канцоў яны ўтвараюць пару. Такім чынам, у новай кампазіцыі ўзнаўляецца сіметрычны напрамак (чытанне ідзе ўслед за архетыпам рытуальнага шэсця да Цэнтра): знакі ўзрастання ідуць адзін да аднаго і, паяднаўшыся, змяняюцца на ўраджайныя. Тыя ж утвараюць Пару, што натуральна для наскрознага імкнення плыні традыцый к цотным мерам (ад памеру 'шагу' ў ткацтве да падвойнага завяршэння капы-бабкі параю снапоў). І гэта — яшчэ адна праява імпульсу 'лева-правай сіметрыі'.

Асіметрычная пара "лапа"-"кručча" (таксама "глухая лапа"-"казёл"; раскрыжаваны ромб-"палянка" — касы крыж-"казёл") яшчэ выразней выглядае ў кампазіцыях ручнікоў, якія імкнуца да агульнай сіметрыі (тыпу **п-1-п**) і маюць тып Покуці 'домам'. Сіметрычныя ўзоры адных палос змяняюцца гэтым спалучэннем, узятым бы цытата з традыцый лева-правай арыентацыі (гл. у бабовіцкай — прыклады: фота 281, 283, 284, 290, 294, 298, 299; у неглюбскай — 234, 235, 236). Што датычыцца закружскай традыцыі, а таксама падоўжана-сіметрычных ручнікоў 'гомельскага' і 'дубраўскага' паходжання, то прыклады 349, 351 (з белымі геаметрычнымі 'птушкамі', якія 'лятяць' да месца злучэння канцоў), 352, 358 — павязаныя з лева-праваю асіметрыяю 'вертыкальнага паходжання'. Дэкаратыўныя прыклады з Раманавічаў (фота 353, гл. таксама: Лабачэўская. 2002. Іл. 95, 97, 100, 103, 105) сведчаць аб архаічным лева-правым імпульсе найбольш яскрава.

### 18.3. Ручнік з Акшынкі. "Тая ж вярба — дзеўка..."

Цікавы прыклад таго, як 'тэкст'-кампазіцыя адной традыцыі ўваходзіць у кампазіцыю ўзора на тканіне іншага паходжання — ручнік з Акшынкі (гл. фота 112; вёска не існуе). Магчыма, ён з'явіўся, калі нявестка ткала пасаг для сваёй дачкі, выйшаўшы замуж у іншую вёску. "Як ткалі, па-маткінаму ці пасвякрусінаму", — пыталіся мы кожны раз. Апошнія носьбіты традыцыі кажуць, што "і так, і так", "як захочаш". Але як бы захоўваліся чыны розных традыцый, якія і сёння выразна падзяляюцца? У Новых Бабовічах нарэшце пачулі: "Папаў у воронне, так і кракай па-вароняму..." А калі папрасілі патлумачыць, атрымалі адказ: "Эта ж тая ж вярба-дзеўка, куды пріўецца, там і расцець" [29]. У Неглюбцы адказалі: "Свякруха скажэ: "Што ж ты мне — у нас такой моды няма..." [30].

Мы бачым, што ручнік з Акшынкі — трох'ярусны. Уверсе і ўнізе — белыя ўзоры па цёмным, чырвоным фоне. Паміж імі — белафонавы трохпалосны 'бабіцкі' чын з трайным паўторам пары знакаў "лапа"-"кručча". Дэшыфроўку робім на тым жа дапушчэнні, што за сучасным дэкаратыўным узнаўляецца і былая семантыка. Абапіраемся на ўсё ўзрастаючы апарат папярэдніх вынікаў. Для кароткасці прымяняем вобразны стыль выкладання. Так, у акшынскім 'сінкрэтычным' ручніку, прачытаным як прастора, паміж



Мал. 44. Чалавек — "культурнае", раслінныя хвалі — "энергія стыхіі". Карма (Добрушскі раён)

белым кручкам, тканым "па цёмнаму", (зямля, ніжні ярус) і верхняю белаю крывуляй (увасабленне верхніх водаў, што цякуць па нябеснай цвердзі) — паветраны белафонавы 'слой', які наскрозь праходзіць 'тэкст' тыпу бабіцкага. Яго змест — у чыстым чыне старажытных сімвалаў — 'нівы, якая прарастае', і ўрадлівага "кручча". Ролю таго бясконцага, што тэхналагічна ўвасоблена ў лускаватай сярэдзіне бабіцкага ручніка, у нашым прыкладзе выконвае больш выяўленчая "крывуля".

Бранае ткацтва сцвярджае свет на два бакі: "што тут чырвонае, там — белае". Але для носьбіта традыцыі, якая мае ў сваім тканым сусвеце белыя і цёмныя фоны ў іх апазіцыі, белы фон — 'нябесны', 'паветраны'. Зямны (і хтанічны) слой — цёмнафонавы. Ролю ісподу бранай тканіны, дзе знакі з'яўляюцца як белыя постаці, ткачыха цёмнафонавай традыцыі аддае ніжняй паласе. У развіцці арнаменту 'белыя па цёмнаму' пачынаюць успрымацца як знакі прарастання зямлі(?), ажыўленыя святлом ды божаю ласкаю. Белыя фігуры — светлыя і жывыя на цёмным фоне (але і ўвесь ён — чырвоны, 'татальная сакральнасць'). У нашым прыкладзе сэнс 'зямной' паласы — ад дзвюх традыцый. Белая, 'тагасветная' сутнасць белых знакаў бранага ткацтва пераплятаецца з сэнсам расліннага з'яўлення белых знакаў на цёмным фоне пераборнага ткання.

Так альбо іначай, майстрыха перакладае для сябе мову браную на мову перабору. Ствараецца агульны 'тэкст', дзе малітва аб ураджаі тройчы паўтараецца і ўзносіцца да неба, але перад гэтым — на белай, адваротнай мове — прыносіцца зямлі, продкам. Калі гэта толькі дэкаратыўны працэс, дык уражвае, наколькі глыбінна кадзіруецца культураю архаічная інфармацыя, якая кожны раз узнаўляецца ў архетыпічным перажыванні. Пры вырашэнні новых, нібыта дэкаратыўных задачаў, уздымаюцца семантычныя хвалі, якія толькі і ўтрымліваюць той альбо іншы прыём.

## 18.4. Апошні этап развіцця бабіцкай традыцыі. "Кветкі" і "хрэст"

Апошнія падзеі ў развіцці бабіцкай традыцыі (1920—1930-я гг.) вялі яе да 'кветкавага' і 'крыжовага' чыноў. У першым пануе тая раслінная стыхія, якаяператварыла ўсе геаметрычныя традыцыі. У другім — глыбінная ідэя святасці тканага ўзора зноў узвысілася ў хрысціянскім адчуванні святасці менавіта крыжа (у час разбурэння храмаў?).

Прамы крыж тыпу мальтыйскага, крыж-'бабачка' ўтвараецца і зрастаецца з пяці ромбаў альбо з чатырох ромбаў і маленькага крыжа-"веряб'я" ў сярэдзіне. Заўсёды ўпісаны ў ромб, ён працягвае гісторыю знака нівы, разрастаючыся ў яе чатырох клетачках з 'зернем'. Ёмішча 'раслінай сілы' — ромб гарадчасты, ромб 'з парасткамі' — таксама абжываецца крыжом, бо ён месціцца і туды (параўнайце фота 102 і 103). Але ўсе гэтыя знакі былі, дастаткова паглядзець на раннія крыжы пачатку славянскага хрысціянства. Тэма святасці як узрастання, узвышэння — яшчэ індаеўрапейская тэма. Яе перажываюць (у каторы раз?) ткачыхі.

## 19. ‘РУКА РЭКАЎ’.
## ПРЫПЯЦЬ—ДНЯПРО—СОЖ—БЕСЕДЗЬ—ІПУЦЬ

Паступленне новага экспедыцыйнага матэрыялу (у тым ліку знаёмства з калекцыямі тканінаў Чачэрскага гісторыка-этнаграфічнага музею, Гомельскага абласнога краязнаўчага музею), як і вынікі экспедыцый уздоўж Сожа, Беседзі ды Іпуці, здаецца, далі магчымасць больш прасторава асэнсаваць утварэнне арнаменту ў традыцыях ручнікоў Пасожжа і шырэй — Падняпроўя.

На геаграфічнай карце Беларусі можна ўбачыць, што вялізная сістэма водных артэрыяў згушчаецца й пераплятаецца ў вузел на паўднёвым усходзе краіны. Падобна да гэтага, на археалагічных картах бачна, як у напрамку да гэтага воднага вузла сыходзяцца бліжэй і межы старых культур, для якіх рэкі былі натуральнымі межамі і шляхамі ўзаемадзеяння. Каб уявіць сабе прасторавую сітуацыю цалкам, паглядзіце на сваю левую далонь. Вялікі палец — Прыпяць, указальны — Дняпро, сярэдні — Сож, безыменны — Беседзь, мезены — Іпуць. Мы ‘працуем’ паміж чатырма ‘пальцамі’, пачынаючы ад Дняпра. Паміж Рагачовам і Жлобінам на Дняпры ды Кармою й Чачэрскам на Сажы ёсць мясціны, дзе прытокі ствараюць амаль бесперапынныя водныя шляхі, злучаючы дзве вялікія ракі. Гэта Гутлянка — ад Сажа (Карма) да Дняпра (Шапчыцы) і ніжэй за яе — Ракатун і Добрыца-Добрыч, а потым Ржаўка й Чачора (Жлобін ды Чачэрск). У гэтых мясцінах некалі межавалі крывічы (з поўначы), дрыгавічы (з захаду) і радзімічы (з усходу).

## 20. ‘КРЫВЫЯ’ КАМПАЗІЦЫІ ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ

Тут мы бачым, як адна ў адну ўваходзяць і тры плыні традыцый. Першая падступае з поўначы. Гэта бескалодкавыя ручнікі, што не маюць люстраной сіметрыі ў кампазіцыі ўзорнага канца, як не маюць і падзелу арнаменту на палосы. Узоры (найчасцей браныя) нібыта сцякаюць данізу, пачаўшыся з некалькіх узорных калодак праз белыя прасветы. Ніз — маналітная кампазіцыя (папярэдняе апісанне гэтага тыпу і яго геаграфічнага локусу — гл. тэхналагічны аналіз прыснянскай традыцыі ды главы: “Вертыкальныя ланцугі ромбаў — ‘дажджы’ і ‘расты’”; “Кампазіцыя ‘ўзаранага поля’”; “Матывы чароўнага зроку. “Зоркі” ручнік з Прысно”). Найбольш лаканічны варыянт бескалодкавай кампазіцыі ўтварае адзін гарызантальны ланцуг ромбаў. Але ўзор імкнецца пацяжэць, што адбываецца шляхам падваення матыву, а потым і яго памнажэння да рамбічнай сеткі тыпу прыснянскай. Здаецца,



Мал. 45. Могілкі ў в. Лецяхі (Краснагорскі раён). 1998 г.

самое разрастанне ўзора ўжо ёсць пераходная з'ява, але яно магчыма і таму, што кампазіцыя не стрымліваецца ўнутранымі межамі, іх няма, альбо падаецца, што няма — носьбітам іншага падзелу палосаў.

Такія ручнікі праходзяць праз усю Беларусь уздоўж старажытнай мяжы крывіцкіх земляў. У кнізе В. Фадзеевай мы знаходзім прыклады, пачынаючы ад Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці (Фадзеева. 1994. С. 29, 155) і да віцебскіх (Фадзеева. 1994. С. 264). Больш блізкія да нашага рэгіёну рэчы — з Клічаўскага ды Кіраўскага раёнаў Магілёўскай вобласці (Фадзеева. 1994. С. 179, 278, 280, 287), з правых прытокаў Дняпра, з Бярэзіны. Пасля — з Горацкага і Чавускага раёнаў (Сож, яго правы прыток Проня, міжрэчча Дняпра і Сожа; Фадзеева. С. 100, 157, 161, 284). Далей на ўсход, паміж Сожам і Беседдзю, па левым прытоку Сожа Асцёры — рэчы з Клімавіцкага раёна Магілёўшчыны (Фадзеева. С. 114, 200. Шэраг традыцый з падобнаю кампазіцыяй арнамента — гл. таксама: Лабачэўская. 2001. С. 739—766. Мал. 207, 209, 211 (рэчы з Крычаўскага, Клічаўскага, Горацкага раёнаў); Лабачэўская. 2002. Главы "Падняпроўе" і "Паазер'е").

## 21. ПРЫСНЯНСКІЯ ТКАНІНЫ — СПАДЧЫНА 'КРЫЎСКАГА' ІМПУЛЬСУ?

З нашых найбольш 'паўднёвых' матэрыялаў — здымкі рэчаў каля Чачэрска **(фота 1, 2, 3, 43)**, з правага прытоку Сожа — Чачоры (**фота 22, 30** з калекцый ЧГЭМ, ГАКМ), а таксама экспедыцыйныя набыткі паміж Чачорай і Прудаўкай, у вёсках Залаўе, Мядзвежае, Крутое (гл. фота 5, 6, 7). Тып уздымаецца з Сожа праз вусце яго левага прытоку — Беседзі: в. Някрасава Веткаўскага раёна на правым беразе Беседзі (гл. фота 26), в. Ляскі на левым баку



Мал. 46. Птушкі, коні ды страла-чалавек на ліштвах у Лецяхах (Краснагорскі раён). 1998 г.

Беседзі (гл. фота 33). Узгадаем, што пэўная мяжа захавала гэты тып уздоўж правага берага Сожа, у берагавых вёсках. Вертыкальныя кампазіцыі ўзора сабраны намі ў прырэчнай паласе — ад Матневічаў Чачэрскага раёна (на Чачоры) на поўначы і на поўдзень — да Пакалюбічаў Гомельскага раёна.

Параўнайце, як 'цяжэе' ўзор (гл. фота 27 і 31, 4 і 22). Вышэй і ніжэй па рэках вертыкальныя ланцугі цэнтральнай кампазіцыі могуць стрымлівацца яе ўскладненнем. Гэта нарастанне зверху (асіметрычна), такі прыклад ажно на Дняпры, там, дзе Сож і Дняпро яднаюцца праз Гутлянку (в. Шапчыцы Магілёўскага раёна; гл.: Фадзеева. 1994. С. 277). Ніжэй па Сожы кампазіцыя набывае выразныя сіметрычныя межы ў так званых гомельскіх ручніках (гл. фота 43, 348). Гэта традыцыя 'забірае' добрушскіх тканін (гл. фота 347, 349, 364). Ёсць рэчы, дзе выразнае імкненне да сіметрыі дзейнічае без дапамогі дадатковых калодак. Узор проста 'перасякаецца' белым фонавым утком (гл. фота 41, 44). Сёння мы можам ставіць пытанне і аб 'сустрэчах' вертыкальнага тыпу, які здаецца архаічным, з шэрагам розных традыцый на яго шляху. Гэта толькі пачатак доследаў.

Вяртаючыся да нашага вобразу далоні, рукі, якую нагадваюць рэкі, можна сказаць, што тканіны поўначы Беларусі нібы ляжаць на чатырох пальцах умоўнай рукі, прыкрываючы іх па сярэдніх фалангах. Па сярэднім пальцы — Сожу — яны спускаюцца ніжэй, як і археалагічныя помнікі крывічоў. Для ўсіх традыцый вертыкальнага тыпу характэрна тэндэнцыя: белая палатняная сярэдзіна (па нашых ды апублікаваных прыкладах); у мясцовых матэрыялах выяўлена і тэхналогія *з 'няцотным' імпульсам: шагам у тры ніткі.*

Безумоўна, калі даследуюцца дыяганальна-клеткавыя кампазіцыі (варыянт вертыкальных), патрэбна ўлічваць магчымасць паходжання такога матыву непасрэдна ад археалагічных вытокаў. Надзвычай пашыраныя і ў нашых месцах у розныя часы і характэрныя для розных мясцовых археалагічных культур (у тым ліку і для славянскіх), дыяганальныя сеткі ў гістарычны час перыядычна рабіліся аб'ектам узнаўлення ў стылях розных эпох, уплывалі на народныя традыцыі праз прафесійнае мастацтва і г. д. (аб заходнееўрапейскім уплыве і раманска-гатычным матыве дыяганальна-сеткавай сістэмы — гл.: Вундер. 1989. С. 205).

## 22. 'ВЕРТЫКАЛЬНАЯ' АСІМЕТРЫЯ Ў ПАПЯРОЧНАПАЛАСАТЫХ РУЧНІКАХ. БАБІЦКІЯ, ЧАЧОРСКІЯ І СТАЎБУНСКІЯ ТКАНІНЫ

У нашых мясцінах, паміж 'указальным' Дняпром, 'сярэднім' Сожам і 'безыменным' пальцам — Беседдзю 'крывы' тып кампазіцыі ('вертыкальная' *асіметрыя канцоў*, скіраваная да сіметрычнага рытуальнага іх злучэння) прысутнічае, акрамя прыснянскай, у шэрагу ячшэ некалькіх традыцый — *паласатых ручнікоў*. Па рэчках Чачоры (правы прыток Сожа), Малінцы, Покаці (левыя прытокі Сожа), Пярэсвіцы, Дарагоўшы, Каўпіце, Зборхаве (правыя прытокі Беседзі), Альхоўцы, Пералёўцы, Стаўбунцы (левыя прытокі Беседзі) рэчы маюць энергію асіметрычнай пабудовы канца, хоць яна і робіцца ўсё больш не 'кінетычнай', а 'патэнцыяльнай', бо 'падпіраецца' цэлай сістэмаю калодак, *спадчынай іншай плыні старажытных тканінаў*, а таксама 'расходуецца' на стварэнне новых кампазіцый з тэндэнцыяй да сіметрычнасці. Традыцыі гэтыя, адасобленыя адна ад другой 'пальцамі' рэкаў, амаль непадобныя паміж сабою, акрамя слядоў асіметрыі. Іх тэхнікі (заклад, браннё, некалькі відаў перабору), сістэма адносінаў да белых і чырвоных фонаў (ад белага па ўспрыманні закладнога ручніка з Чачоры да цалкам чырвонага са Стаўбункі) гэткія розныя, што ствараюць ураженне "гордиева узла" працэсаў, што тут адбываліся.

Пачатковы аналіз асіметрычных рысаў у асобных традыцыях мы правялі ў тэхналагічных апісаннях лакальных традыцый. Цяпер паспрабуем угледзецца ў 'энергію асіметрыі' больш пільна. Асіметрыя ў вертыкальным (бескалодкавым) тыпе ручнікоў і ў папярочнапаласатых тканінах — дзве розныя па паходжанню з'явы, дзе па-рознаму рэалізуецца *адзіная архаічная энергія рытуалу*. Разгледзім тыя ручнікі, што маюць чырвоныя шырокія калодкі паміж узорнымі палосамі.

*Перш за ўсё* гэта апісаная раней *бабіцкая* традыцыя (міжрэчча Сожа і Беседзі), чысты тып — уздоўж Покаці (левы прыток Сожа).

На захад ад яе, цэраз Сож, у загадкавым 'вузкім месцы' міжрэчча Дняпра і Сожа (усяго трыццаць два кіламетры), уздоўж Чачоры — асіметрычныя ручнікі, тканыя сапраўдным закладам (гл. тэхналагічнае апісанне чачорскай традыцыі). Адзначым таксама, што гэта месца, дзе сыходзіліся межы крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў. Ад Дняпра заклад літаральна сцякае па прытоках (Гутлянка, Добрыца-Добрыч, Ржаўка-Покаць).

Якія змены адбываюцца пры гэтым? Рагачоўскія рэчы з Дняпра (тут па калекцыі ГАКМ) больш сіметрычныя па кампазіцыі, іх калодкі разбеленыя **(фота 67, 68, 69)**. Магчыма, такія ручнікі, калі 'перабіраюцца' на левы бок Дняпра (гл. фота 70—73), то робяцца прыкладам для ўзнаўлення ў тых традыцыях, якія працуюць з сіметрычнымі кампазіцыямі (Неглюбка на Ведзярне (левы прыток Беседзі), Верашчакі на Віхолцы (правы прыток Іпуці; **фота 276, 327**).

Чачэрскія (ці, болей дакладна, *чачорскія* — па сучаснай назве рэчкі) рэчы захоўваюць папярэднюю энергію *асіметрычнай пабудовы* **(фота 74, 77, 80)**. *Чырвоныя калодкі* (праўда, з адным-двума "пруцікамі" па іх) яднаюць чачорскія ручнікі са мноствам іншых у Пасожжы. Увага да белага адрозніває іх ад суседніх чырвонафонавых традыцый.

Менавіта згушчэнне чырвані — рыса *'краснапольскіх'* ручнікоў, тканых пераборам: Краснаполле Магілёўскай вобласці, на водападзеле Тур'і і Сенны (левыя прытокі Сожа) і Каўпіты (правы прыток Беседзі), ніжэй — вёскі Палессе, Балсуны, Будзішча Чачэрскага раёна, у вусці — Казацкія Балсуны Веткаўскага раёна. І гэта *трэцяя плынь* ручнікоў са слядамі *асіметрыі* ў кампазіцыі (паміж 'сярэднім' і 'безыменным' пальцамі рукі рэкаў, а таксама абапал Беседзі).

Калі геаграфічна і лагічна падоўжваць сачыць за асіметрычнаю 'краснапольскаю' плынню ручнікоў, то, 'закруціўшыся ў вір' казацка-балсунскіх ручнікоў, дзе сіметрыя перамагае, плынь гэта ўпіраецца ў найбольш *чырвоныя і асіметрычныя* — цалкам "*красныя*" ручнікі Колбаўкі, *Стаўбуна*, Малых Нямкоў (паміж левымі прытокамі Беседзі — Гіералёўкаю і Стаўбункай; гл. фота 219, 225). З усходу на стаўбунскую традыцыю ўплывае сіметрыя Неглюбкі (15 км). Чырвоныя стаўбунскія рэчы, выкананыя пераборам, захоўваюць той самы лік падзелу кампазіцыі, што і закладныя чачорскія, і браныя бабіцкія — **1-2-3, 2-3, 2-3** (гл. фота 225), **1-2-3, 2-3** (гл. фота 219). Каб зрабіць кампазіцыю сіметрычнаю, дастаткова паўтарыць апошні радок з другога боку, і прыклад 77 ператвараецца ў **78**, 80 — у **81**. Блізкі да іх ручнік са Стаўбункі ж, з вёскі Янова (гл. фота 221).

Ніжэй чырвоныя калодкі Стаўбуна 'падпіраюцца' бранымі ручнікамі Закружжа. Тут пачынаецца Ачэса, якая цячэ на поўдзень да Іпуці (а тая — у Сож) і, відаць, захоўвае 'старэйшыя' чыны дубраўскіх ручнікоў. У *закружскіх* тканінах *асіметрычны прынцып* у будове кампазіцыі падоўжваецца *на* іншым *узорна-калодкавым субстраце* і сустракаецца з двума сіметрычнымі імпульсамі: Бабовіч (**n-I-n**) і падоўжана-сіметрычных тканін. Апошнія распрацоўваюцца на гэтым жа, левым беразе Сожа пры сустрэчы правабярэжных вертыкальных ручнікоў з сіметрычным чынам **n-I-n,** што дае вынікі **а-2а-а, а-3а-а** (закружскія, дубраўскія браныя) альбо **2а-3а-2а** (так званыя 'гомельскія' паблізу вусця Іпуці і ніжэй за яго).

Аднак бачна, што *лёс асіметрычнага імпульсу ва ўзорна-калодкавым варыянце* адлюстроўвае іншы склад удзельнікаў узаемадзеяння. Таму вернемся да чырвонакалодкавай 'мяжы'. Вядома, што накапленне этнавызначальнай прыкметы адбываецца ў сітуацыі сустрэчных хваляў традыцый. Самай старой з гэтых рэзанансных з'яў нам уяўляецца ўзаемадзеянне 'белых' і 'чырвоных' ды, з іншага падзелу, сіметрычных і асіметрычных традыцый. Што ад былога ўзаемадзеяння дрыгавічоў, крывічоў ды радзімічаў магло захавацца ў пазнейшых этнічных працэсах — пытанне наступных доследаў. Мы не сцвярджаем, што *тры плыні* акрэсленых намі суседніх *чырвонакалодкавых традыцый* ('белая' закладная Чачоры, чырвонакалодкавая браная Покаці і Каўпіты — бабіцкая ды валосавіцкая — ды цалкам чырвоная пераборная Стаўбункі як 'канец' паласатай асіметрычнай хвалі 'краснапольскага' тыпу) захоўваюць менавіта і толькі архаічныя рысы. Але гэтыя плыні ручнікоў (у руцэ рэкаў — ад 'указальнага' Дняпра да 'сярэдняга' Сожа; ад Сожа да 'безыменнага пальца' Беседзі; уздоўж Беседзі) найбольш выразна адрозніваюцца пры захаванні агульных архаічных прыкметаў (усе тры — асіметрыя, усе тры — чырвоныя калодкі). Таму больш зручна назіраць працэс іх узаемадзеяння.

## 23. ЧАЧОРА: УЗАЕМАДЗЕЯННЕ ЗАКЛАДНОГА І БРАНАГА ЧЫНОЎ. АКТУАЛІЗАЦЫЯ АПАЗІЦЫІ 'ЗЯМЛЯ'/'ВАДА'

Перш за ўсё, узаемна прасякаюць адна адну найбольш архаічныя тэхнікі: заклад і браннё. Адбываецца гэта двума спосабамі. Узор альбо 'ўстаўляецца' ў былую цэльную кампазіцыю разам са сваёю тэхнікай, альбо 'перакладаецца' на іншую, пераходную мову (заклад на перабор, браннё на перабор). Пераходная тэхніка спалучае прыёмы абодвух удзельнікаў дыялогу. Гэтак, найбольш просты перабор пад палатно — той самы заклад, але хады ўзорнага утка цяпер яшчэ і прыбіваюцца наскрозь, праз усю шырыню тканіны, белым фонавым утком, як у браным ткацтве. Чачорскія тканіны маюць рытм палосаў (чаргаванні арнаменту) **а-б, а-б** (гл. фота 75, 138); **а-б, б** (гл. фота 138); **а-б-в, б-в** (гл. фота 74, 77, 80). Бачна, што ва ўсіх прыкладах ёсць першы, непаўторны элемент. Ён зверху, *у Пачатку* (у адрозенне ад непаўторнага *ў Цэнтры* сіметрычных традыцый). Што ж 'у галавах' тых кампазіцый, якія памятаюць асіметрыю?

Часам яны ўтвараюць сваю 'галаву' (першы зверху ўзор) толькі коштам яе тэхналагічнага вылучэння (гл. фота 94; **фота 96, 107**). Памяншэнне 'галавы' пры падзеле фігуры альбо 'тулава' на тры часткі (гл. фота 94) — *архаічныя перажыванні адзінства падзелу сусвету-чалавека-кампазіцыі ручніка.* Іншыя тэмы, якія семантычна рэалізуюцца праз верхні радок узора асіметрычнага ручніка — тэма меншага (верхнія ўзоры пры абсалютным паўторы — меншыя; гл. фота 74, 80), *тэма зерня, насення, квецені, закрытага стану, наогул пачатку як зачацця* (гл. фота 95, 104, 132, **фота 134**). І гэта характэрна для ўсіх старых асіметрычных ручнікоў (параўнай у прыснянскім тыпе — фота 7, 22, 26, 42; 229 у Барталамееўцы ды інш.). Як памяць пра асіметрыю захоўваюць непаўтораны верхні радок гомельскія і дубраўскія ручнікі (гл. фота 43, 348, 356, 370).

*Тэма няпоўнага, касога, крывога* (параўнай абрадавую непаўнату зачыну сельскагаспадарчых работ, будоўлі і г. д., карагодных запеваў, зачынаў фальклорных тэкстаў, сітуацыі гадання і г. д.) часта рэалізуецца ў спецыяльных узорах з выразнымі назвамі крывых істот і 'сляпога-глухога': "вутак", "вядзмедзяў", "глуховак", "рачкоў", "крывуляў" (гл. фота 220), "сляпых глухіх" і г. д. Больш тэхналагічны падыход — проста не завяршаць узоры, што мяжуюць з белаю сярэдзінай ручніка (большасць рэчаў бабіцкай і прыснянскай традыцый). Яшчэ адна тэма — рабіць *'дах'*, пераварочваць *няпоўны* верхні ўзор, пачынаючы ткаць яго з *іншай* паловы **(фота 90, фота 89)**.

Найболей сярод усіх мясцовых закладаных ручнікоў — тых, дзе чаргуюцца салярныя знакі ды ланцугі-"крывулі". Першыя маюць дадатковыя асацыяцыі жаночых фігур/сасудаў/навояў альбо катушак/калёсаў (гл. фота 86; **фота 433**). "Крывуліны" дняпроўскіх "закладанак" у чачорскіх рэчах сухаватыя. Магчыма, гэта тыя самыя, якія бываюць на кралявецкіх ручніках (мы — на былой мяжы смаленскіх і чарнігаўскіх земляў). Тысячы кралявецкіх майстроў уручную даводзілі свае ўзоры да машыннай дакладнасці, якая была цудам і абаяльным узорам, нібыта нам — кампутар. Промысел тыражыраваў... але што, акрамя царскага герба, хатак, цэркваў? Чые па паходжанню

9 Зак. 3512

геаметрызаваныя зіхатлівыя знакі — амаль выявы, амаль постаці?.. **(фота 433)**. Чаму менавіта іх бяруць за свае ўзоры майстрыхі розных беларускіх традыцый? Як яны 'тлумачаць' іх, знаходзячы ім месца? "Крывулі", "кацелкі", "кацюшкі, коцюцца" (Негл., Нясв.; гл. фота 74). Што ад сухасці **(фота 76)** засталося ў плыткай і прамяністай аздобе шляху сонца?

Найбольш непасрэдна сутыкаюцца традыцыі ў Іпалітаўцы Чачэрскага раёна (правы бераг Сожа вышэй Чачоры; **фота 118**). Прыцэнтравы закладны ўзор (гл. фота 72) і тут (гл. фота 118) ставіцца абапал сярэдняй паласы. На жаль, гэта вёска не памятае назваў, развіццё традыцыі скончылася. Што ўяўлялася майстрыхам у белафонавых палосах, якія цякуць праз ручнік і расхінаюць чырвоныя берагі калодак? У Казацкіх Балсунах і далей на ўсход такі ўзор завецца "чаўны", "чаўнакі". Ёсць назва і ў адной з вёсак на краю бабіцкай традыцыі. Падобны драбнейшы ўзор называюць "лодачкі, чаўначкі" (гл. фота 137; **фота 138, 154**). Перабор засвойвае 'чаўновы' ўзор — і плывуць "чаўначкі" паміж берагоў з архаічнымі знакамі нівы (**фота 119**; пар. фота 126; **фота 128, 149**). Тэма развіваецца ў ручніку з Глыбочыцы **(фота 117)**. Ён захоўвае асіметрыю і паслядоўнасць у браных знаках 'апрацоўкі зямлі': ад знакаў цаліны і касых крыжоў апладнення да "кручча" ўраджайнага. Новыя пераборныя калодкі зрабілі старажытныя знакі яшчэ больш выразнымі (параўнайце папярэднія варыянты бабіцкага "кручча" — фота 89, 95, 96). 'Рух чаўнакоў' зліваецца ў адну "крывулю" (агульны тэрмін), пераймаюцца і гатовыя закладныя крывулі (прыклад 86+107=**113**; гл. фота 220). Працэс узаемадзеяння закладу і бранага ткацтва адбываецца і значна вышэй па рэках, ахоплівае і старыя арнаменты (гл. фота 435, 436), і новыя "дзесяцірожкі", "рожыны". Наўрад ці майстрыхі думаюць пра 'ваду' і 'зямлю', дэкаратыўная радасць спасцігае нават нас, староннiх назіральнікаў (гл. фота 88 і 146, 147, 94 і 123).

Прыклад з Хоцімска Магілёўскай вобласці ў нашых матэрыялах — самы паўночна-ўсходні (міжрэчча Беседзі ды Іпуці шырынёю каля 10 км, рэкі амаль што яднаюцца левым прытокам Беседзі Жадунькаю; гл. фота 435). Бачна, як у трайны асіметрычны паўтор аднаго знака ("лапы", Негл.), што аднаўляе сэнс 'дзявочай', вясновай зямлі (ці наогул дзявоцтва як стыхійнай энергіі), уваходзіць падвойны паўтор узора закладнога ткацтва. Да яго абрысаў назвы "чаўнакі" і "вогненная вада" падыйшлі б. Пра тое, што працэс асэнсавання белых 'прасветаў' як новых белых фонаў быў жывы ў час стварэння ручніка, "гаворыць" і другая тканіна з Хоцімскага музею. Узоры па белым фоне на ёй — вышываныя (фота 437).

## 24. ЗДАЕЦЦА, ПОКАЦЬ І КАЎПІТА БЫЛІ РЭКАМІ РОЗНЫХ РОДАЎ

Здаецца, што ўспрыманне 'кралявецкіх' матываў ішло ўжо ў рэчышчы, паглыбленым больш даўнімі сувязямі. Заклады, адменныя ад кралявецкіх (шаг 3-1-3) і ад шырокапалосных чачорскіх (шаг 2-2), змяшчаліся ў вузенькіх белых палосках паміж шырокімі чырвонымі "вольнымі палоскамі" (гл. фота 137, 154). Такія самыя ёсць і ў казацка-балсунскай традыцыі, і ў Верхлічах — для абодвух "калёсы" і "чаўны" — узор і ручніковы, і галаўных

платкоў (гл. фота 176, 179, 212, 214). Неглюбка мае рэчы з закладнымі "крывулькамі" і "калёсамі" сярод старэйшага фонду (гл. фота 275). У большасці нашых традыцый белафонавы перабор 'пад паркі' — спадчына 'цотнага' рытму ў закладзе. Тут мы бачым, аднак, і яшчэ адну адмену: вузкапалосны заклад, які ўзаемадзейнічае з вузкапалосным браным чынам уздоўж Каўпіты, адрозніваецца ад шырокапалоснага, успрынятага Покаццю (гл. тэхналагічнае апісанне бабіцкай і валосавіцкай традыцый). Ручнік з чачэрскай вёскі Палессе — адзін з такіх **(фота 157)**. Чырванню другога утка насычаецца архаічная саржавая тэхніка, са старою семантыкаю 'непадзельнага'. Мноства белых крыжыкаў у чырвоных "абводках" названы "кропелькамі". Так можа кадзіравацца сэнс напаення зямлі вадою, звязвацца з вызываннем дажджу. "Кропелькі" чаргуюцца з белафонаваю паласой, дзе 'працякае' відавочна 'водная' "крывуля, крывулінка". Асаблівы характар гэтай крывулі вылучае ў яе хвалях чырвоныя крыжыкі. Матыў узнаўляецца ў значна больш выяўленчых "крывулях" Нясвоеўкі (гл. фота 332). Тэма 'жывой вады', вады ў яе сакральным статусе, актуальная і для мікракосму моўных формульных тэкстаў тыпу замоваў (гл.: Нячаева. 1994. С. 88—95).

Сінкрэтызм прасторы і часу дазваляе ўспрымаць такія белафонавыя палосы з воднымі выявамі на іх і як аналагі абрадавых момантаў, звязаных з вадою. Абрады гэтыя ўласцівыя ўсім дaследаваным намі традыцыям і найбольш жывыя менавіта па месцах упадзення прытокаў у большыя рэкі. У час вызывання дажджу аралі сахою (плугам) ды баранілі ваду і дарогу як абрадавы аналаг вады. Магчыма, што цалкам чырвонафонавыя ручнікі суадносяцца з 'сухімі' варыянтамі абрадаў (параўн. фота 120, 144, 162, а таксама новыя прыклады **160, 163**, асабліва больш архаічны **166**).

Тэма адкрытага і закрытага — найбольш абагульняючая. Закрытыя "глухія" ромбы незалежна ад канкрэтыкі ("чаўны" ці "каробачкі") чаргуюцца са знакамі "расколак" (Негл.), "расцярэбаў" (Нясв.). На белым фоне такія знакі могуць асацыіравацца з 'раскрыццём' вады **(фота 156)**. Падобнае ("расколкі" 'ў небе' і глухі ромб альбо глухі калодзеж — у цэнтры вялізнага ромба-'зямлі') мы бачылі ў ручніку, па якім узнаўлялі абрад вызывання дажджу (гл. фота 415), і ў некаторых тканінах дубраўскай традыцыі (гл. фота 385 і далей). Апазыцыя 'закрытага/адкрытага' — адна з найбольш глыбінных (менавіта яна складае падаснову 'Асноўнага міфу'), яна рэалізуецца ў кожным з тысячаў ручнікоў і 'памірае апошняю'.

## 25. 'УЗАЕМАПЕРАКЛАДЫ' ІНШЫХ СУСЕДНІХ ТРАДЫЦЫЙ

Зараз, калі мы апынуліся ў месцы 'вузла' традыцый з яго лапідарным стылем апазіцый ды ўзаемных перакладаў узораў з адной тэхнікі на другую, зразумелымі робяцца і 'лагічныя хады' іншых традыцый (гл. фота 318, 324, 333). Так, тканіна з Ялоўкі (гл. фота 308) падвойвае матыў, сцвярджаючы апазіцыю 'закрытага/адкрытага' для 'зямнога' і 'нябеснага' слаёў-этапаў свайго шляху праз Сусвет. Магчыма, мелі нейкі асаблівы сэнс і "глухія" 'сонцы' (гл. фота 177, 323, 332), бо ў суме вылучаецца і апазіцыя іх адкрытага і закрытага станаў (гл. фота 213), як і "глухіх" і "хрэставых" "калёсаў", адной з найстаражытных піктаграмаў сонечнай калясніцы. Падвойныя крыжы

тыпу "калёсаў" чаргуюцца з асаблівым 'крывым' узорам на ручніку з Палесся **(фота 141)**, з 'катушкамі' з Нісімкавічаў **(фота 140)**. Але, выказаўшы гіпотэзу наконт сэнсу 'нябесных дарог' у белафонавых узорах казацка-балсунскай ды іншых традыцый, мы павінны разгледзець гэту здагадку ў адносінах да нашага 'вузла' ўзаемадзеянняў і на прыкладзе 'зорных' узораў.

## 26. "ВАСЬМІРОГ" ЯК 'НОВАЯ', АЛЕ АРХЕТЫПІЧНАЯ ФІГУРА. ЗОРКІ ДЗЁННЫЯ ДЫ ПАЎНОЧНЫЯ

Корпус "рагатых" знакаў, іх назваў, а таксама назваў тыпу "зоркі" для іншых фігур паказвае, што зорка — адзін з трох формаўтваральных элементаў (разам з крыжом і ромбам), што ён мае бязмежную колькасць варыянтаў. "Васьміpoг" засвойваецца ўсімі нашымі традыцыямі. Толькі з нашых ілюстрацый мы замалявалі каля трыццаці відаў адных "васьмірогаў", калі не лічыць тых, што 'прарастаюць' ды ператвараюцца ў "лісце" (у апошнім неглюбцы бачаць "лісцейка" і "вінаград", а больш архетыпічныя па тэрмінах — "васьмірогую рагатую").

Сам пералік формаў паказвае, што "васьмірогі" (*ж.* і *м. р.*), яны ж "васьмірогія", "рагатыя", "рожкі", у белым і чырвоным варыянтах развіваюць сваю ўнутраную структуру, змяшчаючы ў сябе альбо 'нарастаючы' вакол старых арнаментальных элементаў: крыжа-"вераб'я", касога крыжа-"казла", васьміканцовага крыжа-"павука" (які і сам часам завецца "зоркаю"); align="left"рознага роду "глуховак", "абгонак", "вочак", а таксама могуць мець у сабе 'квадратныя' "вакенцы". "Глухоўкі" і "вакенцы" бываюць пустыя і не, цёмныя і белыя. Незалежна ад колеру ўсе "васьмірогі" альбо цэлыя замкнутыя фігуры, альбо "расколатыя", і тады майстрыхі выдзяляюць у іх "лісце": "А хрэст-верябей — гарашчы ці сіні — красівей, штоб было ў што чапацца *лістам*... Мне так думаецца: таго ж хрясты дзелаюцца, штоб яно ўсё саедзінілася, с хряста ідзець уся фігура..." [31].



Мал. 47. Васьміканцовыя крыжы-"лапы" на ручніку ў Канічах (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

Магчыма, *два тыпы "васьмірогаў"*: '*закрыты*' (пусты альбо маючы ў сабе) і '*расколаты*' — маюць нейкае дачыненне да граматычных радоў у іх назве. Хацелася б згадаць і пра імёны балцкага боства — "аўшра" і "аўсэкліс". Але сёння знак настолькі 'абкатаўся', што наўрад ці карэктна ставіць да яго сімвалічныя пытанні. Бачна толькі, што дэкаратыўны іпульс і тут мае архаічнае паходжанне ад агульнай апазіцыі 'жаночага'/'мужчынскага', ромба як успрымаю-

чай фігуры і крыжа як прадукуючай. Аднак назіраюцца некаторыя заканамернасці ў фармаўтварэнні, у запаўненні ўнутранай структуры ды развіцці знешняй, ва ўключэнні гэтага элемента ў большыя фігуры, у счапленні яе з другімі ў радах, у лікавых канстантах, у месцы ў кампазіцыі, у 'сінаніміі' "васьмірогаў" з іншымі фігурамі, у колеры фона і самога "васьмірога", у суседстве з іншымі элементамі, у характары новых, сучасных узораў і ў здольнасці майстрых рознымі колерамі вылучаць структурныя асаблівасці архаічных зорак; нарэшце, у назвах (факт фіксацыі знака самою традыцыяй) — усё гэта пакідае спадзяванні высветліць і пэўную структуру іх семантыкі.

## 27. ЗОРКІ "ГЛУХІЯ" ДЫ "РАСКОЛАТЫЯ"

Угледзімся ў васьміканцовую зорку закладаных чачорскіх ручнікоў і яе ўваход у бабіцкую традыцыю бранага ткацтва. Ці магчымыя захаванне і перадача нейкіх рэштак семантычных сістэмаў, якія б узаемна праяўляліся ў 'перакладах', у 'білінгварных' тэкстах тканін? У закладным ручніку бачым чаргаванне: маналітныя зоркі — "васьмірогі" — прамяністыя знакі тыпу "кацелак", "кацельчыкаў", у якіх мы бачым салярныя сімвалы (гл. фота 75, 80, 81). Чаргаванне знакаў 'сонцы' — 'зоркі' выступае ў шэрагу апазіцый: 'чырвоныя сонцы' — 'белыя сонцы ў крывулі' (гл. фота 71, 76); 'сонцы з промнямі' — 'сонцы ў крывулі' (гл. фота 74); 'сонцы' — "вуткі" (гл. фота 70, 71); 'тры чырвоных прамяністых сонцы' — 'белыя сонцы' (гл. фота 72); 'ступенчатыя ромбы з крыжам у іх' — 'глухія' альбо 'гарызантальна расколатыя ромбы, злучаныя ў крывулю' (гл. фота 67, 73). Для першых членаў апазіцый складаюцца семы: 'чырвоны', 'прамяністы', 'які мае ў сабе крыж'. Для другіх членаў: 'зорка тыпу "глухая"', 'белы', 'у крывулі', 'вуткі', 'глухі'. Выкажам здагадку, што ў 'астральным' кодзе так рэалізуецца адна з асноўных апазіцый 'Гэты свет'/'Той свет' альбо яе праявы: 'дзень'/'ноч', 'дзённы шлях сонца'/'начны шлях сонца', 'кола і калёсны транспарт'/'водны шлях і транспарт', 'верхні'/'ніжні'.


Мал. 48. "Васьміpor"-"любістак" у атачэнні "салдацікаў". Карма (Добрушскі раён). 2002 г.

Маналітная зорка апынаецца ў шэрагу іншых членаў апазіцыі: параўнай 'глухія' зоркі ў ніжнім ярусе кампазіцыі ручніка з навазыбкаўскага музею (гл. фота 216); "відушчую", "зоркую" зорку ў цэнтры і "глухія" зоркі па краях у ручніку дубраўскай

традыцыі (гл. фота 368); апазіцыю "калёсаў" у прыцэнтравай пазіцыі і зорак-"васьмірогаў" унізе на казацка-балсунскім ручніку (гл. фота 186); прыцэнтравыя знакі з падвойнымі салярнымі крыжамі і краявыя зоркі тыпу "чаряпашак", "глуховак з цярэшкамі" з Верашчакаў (гл. фота 318) ды Ялоўкі (гл. фота 308); прыцэнтравыя зоркі з крыжам у іх і з падвойнымі 'коламі' і тыя ж "чаряпашкі" — зоркі па краях верашчацкага ручніка (гл. фота 321) і неглюбскага (гл. фота 259). Мы бачым, што пры ўзаемадзеянні традыцый "глухія" закладаныя зоркі аказваюцца членам апазіцыі 'незямных' палос (гл. фота 87, 115), дзе выступаюць 'на межах' падобна да "крывуляў" ды "чаўнакоў" (**фота 116**; параўнай фота 107, 113 і **114**).

У той самы час у ручніках закладных ды белафонавых пераборных ёсць зоркі-"васьмірогі" іншай структуры — з крыжыкам-"веряб'ём" у цэнтры і "расколатымі" "рагамі" (гл. фота 77). Яны займаюць пазіцыю 'дзённай', 'прадуктыўнай' паласы. У ручніку з Перадавіка такія "васьмірогі" размешчаны папарна, паміж 'сонечнымі стаўпамі' і процістаяць 'белым сонцам' "у крывулі". Шэраг паралелей знаходзім у іншых традыцыях. Падобныя зоркі каля цэнтра знаходзяцца ў апазіцыі да "глухіх" 'сонцаў'-"кацельчыкаў" у дубраўскім ручніку (гл. фота 401). "Сонцы" ("з жабкамі") выцясняюць на край "жабкі" (сімвалы хтанічныя) у дубраўскім ручніку (гл. фота 373), супрацьстаяць "глухому" знаку тыпу "вядзмедзь" (гл. фота 371).

Але ў трохчасткавым 'космасе' дубраўскай традыцыі такія "расколатыя" зоркі з падвойнымі крыжамі самі адыходзяць да краёў, у "прыстаўкі" (Дубр.), "падузорнікі" (Карм.). Ёсць адзін з 'тагасветных' знакаў і тут: "бабачкі" (гл. фота 378). Ён вельмі падобны да "васьмірога". Здаецца, значная частка дубраўскіх зорак тыпу "васьмірогаў" з'яўляецца на месцы "бабачак" па меры згасання семантыкі і пераасэнсавання зорак у "кветкі". Да таго ж, у дубраўскіх тканінах актыўна дзейнічала апазіцыя тыпу "сляпы"/"відушчы" з развіццём тэмы зроку праз "вочкі" ў калодках ды праз пары крыжоў, "вачэй" у тых жа зорках (гл. фота 369, 370). На жаль, уласнай мясцовай тэрміналогіі па згаданай апазіцыі сабраць не ўдалося, але фармальна яна выявілася пераканаўча.

"Расколатыя" (Негл.) "васьмірогі" паміж 'сонечнымі стаўпамі' з перадавіцкага (чачорскага) ручніка (гл. фота 77) маюць, аднак, 'сінонімы' не толькі сярод геаметрызаваных знакаў. На ручніку з Забор'я паміж 'сонечнымі стаўпамі' знаходзіцца арол (з *лябрысам-бабачкаю* на грудзях) у атачэнні чатырох такіх самых "васьмірогаў" (няпоўных). У прыцэнтравых палосах паміж такіх жа 'стаўпоў' — *рагатыя альбо ў рагатых галаўных уборах* фігуры (параўнай жаночыя фігуры з 'рожкамі' ў паўночнарускай вышыўцы — гл.: Изобразительные мотивы в русской народной вышивке. 1990. Ил. 76) — нясуць на руках салярныя сімвалы. Мы зноў апынуліся ў сітуацыі, калі за зорным сімвалам захоўваецца 'дзённае' значэнне.

## 28. ЭКСКУРС У ГІСТОРЫЮ ВАСЬМІКАНЦОВАЙ ЗОРКІ

"У шумеров восьмилучевая звезда служила иероглифом понятий 'бог, небо, звезда'; в Аккаде и Вавилоне эта идеограмма выражала понятия 'бог, солнце, звезда, год'. В скандинавской традиции мир имел восемь направлений" (Muller. 1938. P. 41. Цыт. па: Голан. 1992. С. 152).

“Святилище Перуна в Киеве было окружено восемью кострищами, расположенными по направлению четырех основных сторон горизонта и четырех промежуточных” (гл.: Иванов, Топоров. 1974. С. 27). “Архаичный миф, фрагменты которого сохранились в литовском и латышском фольклоре, — “небесная свадьба” ...когда месяц изменяет солнцу с утренней зарей Аушрой (иногда Аушра — дочь солнца), разгневанный Перкунас разрубает месяц мечом... В других версиях солнце выдает свою дочь замуж за утреннюю звезду Аусеклиса... Утренняя заря (звезда), денница Аушра... — жена громовержца, изменяющая Перкунасу с его противником. Перкунас низвергает ее с неба на землю и та превращается в хтоническую богиню... [Имена] имеют многочисленные индоевропейские параллели” (Мифы народов мира. 1980а. С. 154—155).

“Денница, в славянской мифологии образ полуденной зари (или звезды), мать, дочь или сестра солнца, возлюбленная месяца, к которому ее ревнует солнце (мотив “небесной свадьбы”, характерный и для балтийской мифологии)” (Там жа. С. 367).

“Звайгстикс... в прусской мифологии божество света и плодородия; способствует росту хлебов и трав, приплоду скота... Функции Звайгстикса, его место в списках и этимологической связи (“сияние”, “звезда”) подтверждают отождествление Звайгстикса... с солнцем...” (Там жа. С. 463).

“Вечорка, в восточно-славянской мифологии образ вечерней зари, сестры (или брата) утренней и полуденной зорь. В русских сказках и заговорах все три (или четыре, включая “полуночную”) сестры-зари родились в одну ночь” (Там жа. С. 235).

“Из частей этого 4-угольника можно получить один окрылённый (звёздчатые — “окрылённые” по терминологии мусульманских математиков) 8-угольник, один окрылённый 9-угольник и один окрылённый 10-угольник... Это очень изящно, а Аллах знает лучше” (з “Введения в учение о подобных и соответственных фигурах”, трактата XI ст. — гл.: Герчук. 1998. С. 116).

“Восьмиконечная звезда в нашем [латышскім — *Г. Н.*] орнаменте — самая молодая. Впервые она встречается в XVII столетии, в сакте” (Клетниекс. 1990. С. 59, 63, 64, 66, 68). Латышскія даследчыкі надаюць “васьмірогу” назвы: звайгзнэс, аўсэкліціс, аўсэкліс. Аднак прыводзяць і мясцовую назву: “кляновы ліст” (параўнайце нашае “лістаўка” і “лісце”). Апошняя сведчыць пра перамогу ‘расліннага’ коду ў асэнсаванні геаметрычных знакаў.

Васьміканцовая зорка (наш “васьмірог”) у паўднёваэстонскім народным мастацтве мае, на погляд даследчыкаў, “средневековое происхождение... К этому идейному кругу относится и восьмиугольник — рождественская звезда и звезда девы Марии. В узел звезды вплетены четыре буквы М или двенадцать равнобедренных треугольников (намёк на двенадцать апостолов)... С конца первой четверти XVI в. внедрению и закреплению в народном искусстве... мотивов и орнаментов способствовали и печатные орнаментальные альбомы, предлагавшие узоры для вышивки, кружев и вязаний. С XVI в. до середины XVIII в. в Европе было напечатано около ста таких альбомов... десятикратные издания. В конце XIX — нач. XX в. ...новая волна орнаментальных альбомов, в которых под влиянием расцвета позднеромантического искусства копировались и репродуцировались преимуществен-

но узоры старонемецких льняных вышивок XVI в." (гл.: Вундер. 1989. С. 198—199, 201—202).

У тканіне XIV ст. з Іспаніі матыў "васьмірога" відавочна 'капіраваны' з мусульманскай мазаікі ды звязаны са стылем "hispano-arabe" (Jennifer Harris. 5000 ans de textiles. 1994. P.178). У XVIII—XX стст. гэты арнаментальны элемент ёсць у балгараў, румын, малдаванаў, усходніх славян (гл.: Коев. 1982. С. 86; E. Zamfirescu-Talianu. Bucuresti, 1980. S. 48, 53; Зеленчук, Лившиц, Хынку. 1968. С. 30). Шматлікія крыніцы па творчасці ўсходніх славян тут не прыводзім.

У сувязі з назваю элемента "васьміpог" (ды іншымі "рагатымі") звяртаем увагу на імёны славянскіх боствaў, што заканчваюцца на "рог": "Сварог ("...сего ради прозваша и богъ Сварогъ... и по семь царствова сынъ его именем Солнце, его же наричють Дажьбогъ"); у балтийских славян Сварожич ("иначе называвшийся Радгостом... атрибутами которого были конь и копья"); у чехов, словаков и украинцев со Сварогом можно связать *огненного духа Рарога*" (Славянская мифология. 1995. С. 348—349). Параўнайце таксама літоўскага Швінтарога: "В Швинтороговой долине горел вечный огонь и находилось капище Перкунаса, атрибутом которого был рог (ср. рогатого Перкунаса, его рогатый скот)" (Мифы народов мира. 1980б. С. 641).

## 29. "РАСКОЛАТЫЯ" ЗОРКІ ДЫ ШАСЦІПРАМЯНЁВЫ ПАДЗЕЛ ФІГУР

Менавіта 'зоркі' з крыжам-"веряб'ём" у іх цэнтры даюць шэраг арнаментальных элементаў, якія носьбітамі традыцыі ацэньваюцца як раслінныя: "лісце" (Негл.), "лістоўкі" (Ялоўка). Здаецца, што складаная і 'расколатая' зорка ў закладных ручніках сама — вынік ранейшага ўзаемадзеяння і 'вярну-



Мал. 49. Шасціканцовая зорка па цэнтру ўзора на ліштвах. Карма (Добрушскі раён). 2002 г.




Мал. 50. Археалагічныя матэрыялы ранняга жалезнага веку. Арнаменты, суаднесеныя з узорамі ручнікоў рэгіёна: *1—5* — гарадзішча Івань (паводле А. А. Егарэйчанкі); *6—14* — грузікі мілаградскай культуры (паводле М. І. Лашанкова)

лася' туды з бранага чыну арнамента (гл. фота 135, 136; 144), дзе бачым ужо два тыпы "васьмірогаў": "на веряб'і" (на крыжы; гл. фота 135) і "на глухоўцы" (на ромбе; гл. фота 136). Аднак у 'старэйшым чыне' брання (ромб-"глухоўка", 'прарослы ромб'-"лапа", "кручча") гэты знак адсутнічае, як і васьміканцовы крыж, па восях якога будуецца такая зорка (гл. фота 144).

Этапы ўзаемадзеяння дзвюх сістэмаў 'закансерваваліся' ў складаных зорках бранага ткацтва. Гэта, па-першае, зоркі, што атрымаліся 'ўзмацненнем' касога крыжа (гл. фота 27, 31, 91 і **фота 130**), з яго прадукцыйнай магічнай сілаю. Касым крыжом падзеленыя і дубраўскія "сонцы" (гл. фота 374). Па-другое, такім самым чынам у васьміканцовую зорку, але іншую, ператвараецца і прамы крыж, з канцамі ў выглядзе 'ластаўкіна хваста'. Зоркі абодвух відаў ёсць і ў ручніках, і ў старых строях адзення. Па-трэцяе, зоркі ёсць і ў сістэме фігур, якія ўтварыліся па восях шасціканцовага крыжа; падобны ў шасціспіцавым коле; 'глухая' шасціканцовая зорка — на мілаградскім прасліцы (гл. мал. 94:4).

Згадаем, што для рэгіёна паміж Сожам ды Беседдзю блізка ад яе вусця мы знайшлі браныя ўзоры з актуалізацыяй 'шасцічленнай' унутранай структуры: "лапы" з шасцю крыжыкамі ў іх (гл. фота 20) і бабіцкае "кручча" з шасціпялёсткаваю разеткаю ўсярэдзіне (гл. розніцу ў фота 96 і 112; 117). Амаль паўсюдна тут мы знаходзім зоркі, дзе гарызантальная вось падзелу адсутнічае (гл. фота 16, 31, 132, 135 і больш выразна **фота 145**). Шасціканцовая зорка ўтварылася ў тканіне прыснянскага тыпу з в. Покаць **(фота 36)**. Працэс 'падзелу на шэсць' заставаўся тут жывым яшчэ ў нашым стагоддзі. Новыя элементы ствараліся па старых восях (гл. фота 98, 99, **360**, фрагмент **100**). На апошнім прыкладзе бачна, як актуалізуецца і тэма падвойных крыжоў, прытым у вертыкальным варыянце.

Падобныя фігуры здаюцца паменшанымі выявамі дубраўскіх і прыснянскіх "дубоў", якія таксама актуалізуюць вертыкаль і касы крыж (гл. фота 389—394). Яшчэ раз нагадаем, што ў гэтых месцах дамавая разьба злучае ў адной кампазіцыі раскрыжаваны ромб тыпу 'ніва', 'засеянае поле' і шасціпялёсткавую разетку ў коле. У Жалезніках на верх ліштвы было вынесена шасціспіцавае кола. Тэма "салдацікаў", якую мы разглядалі вышэй пры параўнанні казацка-балсунскай ды дубраўскай традыцый, здаецца вырашэннем у антрапаморфным чыне таго самага шасціпрамянёвага імпульсу (у тэхніцы перабору, гл. фота 187, 377, 388).

## 30. КРЫЖЫ КАСЫ І ПРАМЫ ДЫ ШАСЦІПРАМЯНЁВАЯ ЗОРКА

Асноўным элементам, што дзеліць суцэльныя формы, у браным ткацтве з'яўляецца касы крыж (стварае ў 'глухім' ромбе знак нівы, "ряшотку"), а ў пераборным — прамы крыж (стварае "расколкі"). Сумяраваны з касым крыжам прамы дае *васьміпрамянёвы* падзел, рэалізаваны ў восях розных "павукоў" (ідэаграмаў Сусветнага Дрэва) альбо як прасветы — у падзеле "васьмірогаў". Для развіцця фігур у адной кампазіцыі пераборнага ручніка характэрна паслядоўнасць "глухоўка" (суцэльны ромб) — "расколка" (ромб

"расколаты", падзелены прамым крыжом) — "лісце-васьмірог" альбо "павук" (рэалізацыя і злучэнне абедзвюх восей, тэма, падобная да рунічнага 'бог-куст').

Што ў адным і тым чыне магло папярэднічаць *шасціпрамянёваму* падзелу фігур? Пашукаем этап 'першаснага' падзелу. Ён павінны быць у фондзе таго ж бранага чыну і ў тым самым лакальным варыянце. "Глухоўкі"-"расколкі" з вертыкальным падзелам — у ручніку з Глубочыцы (гл. фота 117). У бабіцкім ручніку знаходзім "лапу" на аснове "глухоўкі" з белым вертыкальным 'прасветам' у ёй (гл. фота 103). Ці можна лічыць яе "расколкаю"? У ручніку з Прысно апазіцыя "глухоўка"/"расколка" з вертыкальным прасветам вырашаецца ў адной кампазіцыі. Яна захавана ў сярэдзінах пазнейшых 'квітнеючых стаўпоў' (гл. фота 19). 'Вертыкальная' "расколка" — і ў сярэдзіне зорак з Покаці (гл. фота 136). Ручнік з Някрасава паміж таямнічымі зоркамі асаблівага выгляду ставіць маленькія фігуркі кшталту неглюбскіх "кучарявак". Але падзел іх — толькі вертыкальны (гл. фота 27, 31). Адзін з найвыдатных ручнікоў з матывам 'вертыкальнай' "расколкі" захоўваецца ў Гомельскім музеі **(фота 47)**. Вертыкальная вось падзелу падкрэсліваецца і ў 'кветкавых' матывах браных ручнікоў апошняга перыяду іх існавання (гл. фота 4, 124, 127).

У якой глыбіні часу адбылося сутыкненне сістэмы бранага ткацтва (з яго апазіцыяй 'ромб/касы крыж') і нейкай іншай сістэмы з шасціпрамянёвым падзелам фігур? Калі мы кажам, што шасціспіцавыя колы ды іх нашчадак — шасціпялёсткавая разетка — спадчына славянства дахрысціянскіх часоў, дык менавіта да той эпохі павінны аднесці і працэс утварэння шасцічленных формаў у браным ткацтве.

У шасціпрамянёвым падзеле 'зрыфмаваліся' сам касы крыж і вертыкальная вось. Як мы ўжо заўважылі, да вертыкалі імкнуцца шматлікія фігуры ў браным ткацтве гэтага лакальнага варыянта (гл. фота 118, 124). Вертыкальная вось 'правакуе' з'яўленне ўзораў тыпу "лесвічкі" (гл. фота 132), наогул вертыкальнае злучэнне фігур (гл. фота 8, **44, 47**). Уся прыснянская традыцыя часткаю энергіі паходзіць ад вертыкальнага памкнення. Адныя і тыя ж элементы накшталт раннеземляробчага культавага сімвалу 'ромб з крукамі', г. зн. "кручча", у гэтых месцах значна вышэйшыя за неглюбскія аналагі. У самім такім знаку, як мы бачым, развіваецца іншая структура (гл. фота 117, 119; **фота 133, 150**). Характэрная для ўсіх мясцовых традыцый апазіцыя "сляпы"/"відушчы" ў гэтым варыянце набывае асаблівую выразнасць (гл. фота 9, 11, **109**). Па-другое, у новым падзеле сярэдзіны фігуры асэнсоўваюцца то адны, то іншыя элементы. Мы бачылі, калі разглядалі бабіцкую традыцыю, што шасціпялёсткавая разетка ў сярэдзіне "кручча" ўтвараецца з дапамогаю двух касых крыжоў, злучаных па вертыкалі (па неглюбскай тэрміналогіі такія фігуры завуцца "зводжаныя"). На прыкладзе з в. Селянін гэта добра бачна (гл. фота 89). Такія падвойныя крыжы сустракаюцца радзей за звычайных "казлоў" (гл. фота 282, 362), маюць рознае запаўненне ўтворанага імі ромба (гл. фота 43, апошнія прыклады 8, 149), завуцца "казлы на глухоўцы" (Негл., гл. фота 235). Асэнсоўваюцца фігуры як стоўп ("стаўпец"), "самавар" альбо чалавечая постаць.

## 31. ПАДВОЙНЫ КАСЫ КРЫЖ І "КАП'Ё"

Падвойны касы крыж альбо пара касых крыжоў ці нават іх тройка — акцэнтаваныя ў прыкладах 5, 26, 149. Касыя крыжы захоўваюць пераборныя ручнікі (з апошніх прыкладаў гл. фота 160, 166). Такія знакі наносяцца на зямлю (дно ракі) у абрадзе выклікання дажджу.

Касы крыж лічыцца адным з архаічных культавых сімвалаў. Не ставячы мэты прыводзіць тут агромністую інфармацыю па яго семантычных каранях, амаль цалкам страчаных у сучаснай дэкаратыўнай функцыі, усё ж запынімся на некаторых семах, якія здаюцца нам неабыякавымі да кампазіцый ручніковага арнаменту. Так, паміж іншымі значэннямі, касы крыж захоўвае ў якасці дзельніка ромба амбівалентную энергію *разбурэння* (дзялення) — *памнажэння* (што падоўжваем выкарыстоўваць пры пера*крэс*ліванні, дзе ўзнаўляецца сам корань слова-знака: *крэс* — ды ў адваротным дзеянні — у знаку памнажэння X). У адным з ручнікоў, якія правакавалі нас на спробы 'чытаць' паласу арнаменту як пэўнае 'выказванне' (фота 299), асіметрычная 'фраза' з раскрыжаванага ромба і касога крыжа паўтаралася ў паласе тройчы. Мы палічылі магчымым убачыць тут 'закансерваваную' ва ўзоры патройную 'просьбу' аб памнажэнні — плоднасці (бо наш знак — і сімвал плоднасці, аб чым і зааморфная яго назва — "казёл", "козлік"). Якое ж здзіўленне было пачуць, што ў чэшскай мове гэты крыж — 'крат'. Узор на ручніку аказаўся '*трохкратным*' у прамым сэнсе слова. У адносінах да славянскага язычніцтва падвойны крыж звязваюць з пазначэннем летняга сонцавароту (старыя *кар*ані *крэс-, крат-, крок-* сведчылі аб цікавасці да пэўнай семы з боку розных славянскіх плямёнаў...). З месцаў блізкіх — вышываны ручнік з Брагінскага раёна (захоўваецца ў ГАКМ, фрагмент ручніка — **фота 446**).



Мал. 51. Страла, павінная расквітнець. Ліштва ў в. Карма. 2002 г.

## 32. СВАВОЛЬСТВА ФОРМЫ АЛЬБО ЯЗЫЧНІЦКІ КУЛЬТАВЫ АБ'ЕКТ?

Вядомая кампазіцыя “дрэва з птушкамі” набывае фантастычны выгляд. Магчыма, складаная пабудова на падвойным крыжы ўтварылася як сума, па некалькіх формаўтваральных мадэлях, што дзейнічалі ў нашых месцах. Гэтак, ‘крылле’ фігуры нагадвае шматлікіх “арлоў” у шэрагу іх ператварэнняў (гл. фота 199, 200, 217, 412), а таксама ‘крылатыя’ касыя крыжы (гл. фота 198) і ‘крылатыя’ ‘збаны’ **(фота 215)**. Нагадаем, што “крылле” захоўваецца як мясцовая назва ў розных традыцыях для розных узораў, галоўным чынам “дубоў” (Дубр., Негл.). ‘Пабудова’ ўзброена стралой на сваім вільчыку. Вышэй мы звярнулі ўвагу на шэраг ‘стрэльных’ узораў, дапусціўшы думку, што расквітнелая страла выступае ў пары з падвойнымі дрэвамі як мужчынскі варыянт Сусветнага Дрэва (гл. фота 409). Тэма двух дрэваў (ад ‘мужчынскага’ птушкі ідуць да ‘жаночага’) рэалізуецца і ў дадзенай кампазіцыі. Але ‘мужчынскі’ сімвал тут найбольш фантастычны. Дададзім толькі абрадавую сінанімію тэрмінаў “страла” і “сула” ў назвах “Стралу (сулу) вадзіць”. Тэма “кап'я” падаецца нам архаічнаю і ў назве арнаментальнага элемента.

Звычай змяшчаць у сярэдзіну фігуры нейкі ‘малодшы’ па чыну сімвал таксама згадваўся намі. Тут мы бачым знак “расколку” “з ключамі”. Матыў расколвання і размыкання (зямлі, вады) характэрны для абрадавых тэкстаў юраўскага ды купальскага цыклаў. Але карыстанне ‘граматычнымі’ спосабамі формаўтварэння спарадзіла ў рэчыцкім ручніку фігуру, якая, калі б яе знайшлі археолагі, была б асэнсавана як пэўны рытуальны аб'ект. Археалагічныя паралелі даюць знак, падобны да геаметрызаванага “арла” ў Почапе. Мы ж толькі падзівімся загадкаваму выніку.

Калі вернемся да значна больш сціплага (сэнсава замкнутага для нас геаметрычна, герметычнай формай) бабіцкага “кручча”, убачым той самы імпульс: пара касых крыжоў, яднаючыся, даюць фігуру з поўным чэравам (‘жаночы’ ромб?), у ім — маленькі падвойны касы крыж. “Кручча” лічаць знакам ураджаю. Падвойныя ж ‘каласы’ бабіцкага “кручча” адрозніваюць яго ад усіх. У нашых мясцінах мы не запісалі, але з літаратуры вядомы славянскі звычай прысвячаць вянок з падвойнага калосся парным ‘летнім’ сельскагаспадарчым святым (Барысу-Глебу, Казьме-Дзям'яну). Бабіцкае “кручча” можна сапраўды звязаць з чатырох падвойных каласоў або іх пучкоў. Але абрадавага аналагу мы пакуль што не знайшлі (гл. фота 89).

## 33. АХОЎНЫ ЎЗОР “КАП'Ё”

Звернем увагу яшчэ на адзін “васьміpог”. “Кап'ё” — гэта “васьміpог” “на вакенцы” з “казлом” (альбо “цярэшкаю”) у сярэдзіне і з чатырма “коп'ямі” по дыяганальных восях (гл. фота 261, 272, 338). Яго пазіцыі — белафонавыя перадцэнтравыя (гл. фота 261) і краявыя палосы (гл. фота 262). Можа з'яў-

ляцца і па цэнтру (гл. фота 338). Побач часта бываюць чырвонафонавыя "васьмірогі", якія квітнеюць па дыяганальных восях парасткамі (гл. фота 338, далей 262). Па колеру фона, месцы ўжывання ў кампазіцыі, спалучэнню з іншымі элементамі, асаблівасці ў парадыгме "васьмірогаў" ды з пазіцыйнай сінаніміі можна вылучыць (рэканструяваць) семы: 'нябесны', 'межавы', 'ахоўны', 'мужчынскі', 'ваенны', 'звязаны з кап'ём', 'блізкі да 'мужчынскіх' 'дрэваў-стрэлаў-сулаў-коп'яў', 'той, што прадукуе зямное квітненне', 'той, што ўваходзіць у арэал абрадавай тэрміналогіі'.

## 34. ШЛЯХАМІ СТАРАЖЫТНЫХ РОДАЎ. ТРАДЫЦЫІ ЎЗДОЎЖ ПРЫТОКАЎ ВЯЛІКІХ РЭКАЎ (МІЖРЭЧЧА СОЖА-БЕСЕДЗІ)

Упершыню падрабязная інфармацыя дае магчымасць працаваць з гіпотэзай пра захаванне рэшткаў архаічных традыцый уздоўж прытокаў вялікіх рэк, г. зн. месцаў, дзе сяліліся асобныя роды. Рэчкі Покаць (левы прыток Сожа) і Каўпіта (правы — Беседзі) маюць вытокі побач, на водападзеле. Ключ — вёска Палессе. Побач на поўначы — былая мяжа Магілёўскага княства, як мяркуюць, зона крывіцка-радзіміцкага ўзаемадзеяння.

Параўнаем ручнікі з вёсак уздоўж Покаці і Каўпіты. Іх агульныя рысы: старэйшы тып — асіметрычныя кампазіцыі канцоў і чатырохнітовае выкананне белай сярэдзіны; шырокія чырвоныя калодкі і размяшчэнне арнаменту паміж імі. Агульная ж рыса, але лакальная, — паўтор адной узорнай паласы некалькі разоў. Якія ж асаблівасці? У бабіцкай традыцыі — браныя ўзоры шырокія, фігуры выразна вялікія, паўтор узораў 1-2-2-2. У найбольш архаічных рэчах асіметрыя — і ў адной паласе, напрыклад, знак нівы квітнеючай і знак ураджаю ("круччa", "балонкі", "закакаручкі").

Уздоўж Каўпіты — браныя ўзоры вузкія (гл. фота 35), фігуры маленькія, аднолькавыя ў паласе. Густы засціл брання пакідае маленькія 'вакенцы', у якіх і выяўляюцца архаічныя знакі тыпу "лапаў". Колькасць паўтору палос — звычайна 4.

## 35. ГІСТОРЫЯ З "ГЛУХОЙ ЛАПАЙ"

Выпадкова ці не, але ў нашым прыкладзе "лапы" не маюць раскрыжавання ў сярэдзіне. Гэта знак, у якім даследчыкі бачылі сімвал раслiннай сілы зямлі. Нашыя доследы тыпаў "лап" вядуць да думкі, што ў мясцовых арнаментах існавала апазіцыя паміж гарадчастымі ромбамі ("лапамі") згодна з іх унутранаю структурай. Коратка кажучы, зямля 'прарастае', нібыта ўзараная ніва (раскрыжаваная "лапа" — "з ряшоткаю", "драбніцы", "палянкі") альбо луг ("глухія лапы"). На кашулях знайшліся "лапы" абодвух тыпаў. Магчыма, гэта маглі быць жаночыя і дзявочыя знакі.

Знак 'дзявочай зямлі', яе раслiннай сілы, наогул, 'дзявочы космас' дзікай прыроды, выпасаў для жывёлы, хтанічны імпульс ва ўспрыманні травы як поўсці ("парасла трава, як авечачка") знаходзяць вобразнае напаўненне і ў самой назве "глухая лапа" (Негл., мясцовая назва для Каўпіты не запісаная), у комплексе абрадавых веснавых дзеянняў, уважлівых да "лукі" і "лужкоў", наогул, у паняцці "глухіх лугоў". У тэкстах былічак неглюбскі аповед пра таго, "што на мяжы жыве", які "глухі, сляпы і лахматы", атрымлівае



Мал. 52. Ручнікі з "глухімі лапамі" ў Добрушскім раёне. 1998 г.

водгукі дзейснага размежавання па рытуальных комплексах (як іншыя назвы гарадчастага ромба — "мядзведзева лапка", "воўчая лапа"). Магчыма, у вёсках уздоўж гэтай колішняй мяжы маглі захоўвацца і згушчацца межавыя рысы 'ўзаемнай дзіўнасці' суседзяў. Каб больш уважліва ўгледзецца ў "глухія лапы" з Каўпіты, нам давядзецца перарваць параўнанне покацкіх (традыцыя бабіцкая) і каўпіцкіх ручнікоў ды азірнуцца наўкола.

У браным чыне Неглюбкі **n-1-n** (ён здаецца нам 'аўтахтонным' для гэтай вёскі, што мае два чыны), у сіметрычнай кампазіцыі са зменаю да цэнтра 2-4 *розных* палос (гл. фота 230, 232, 238), у падобных 'закрытых' (дзе асобныя фігуры бачым толькі ў "вакенцах", "абразках") пазіцыях з'яўляюцца ўзоры "вядзмедзі", яны становяцца на краявых, *межавых* палосах (гл. главу "Мядзведзь на мяжы"). Гэта знакі таго самага 'дзявочага' тыпу, мы рызыкуем аднавіць у іх сапраўдны сімвал. Але бачна, што пры захаванні "вядзмедзя" "глухія лапы" (адна з назваў — "вядзмедзева лапа") рэдкія для кампазіцыі неглюбскага ручніка (гл. фота 230). Яны 'сінанімічныя' да "вядзмедзяў". Але ва ўзорах адзення існуюць напоўніцу (магчымае размежаванне двух зна-

каў па асобных абрадавых комплексах), прычым і “вядзмедзі”, і “глухія лапы” ўжываюцца ў самых архаічных і ‘межавых’ месцах сарочак (Нячаева. 2000. С. 46—49) — на плечавых мярэжках ды “рубцах” (асобны прыклад “глухой лапы” ў цэнтры — гл. фота 233).

У браных ручніках неглюбскага кола ‘межавыя’ пазіцыі “глухіх лап” — звычайныя ў Ялоўцы (гл. фота 310, 312), Кацічах (гл. фота 287; уздоўж Віхолкі, правы прыток Іпуці, зусім побач з Беседдзю). У ручніку са Старых Бабовічаў (р. Булдынка, правы прыток Іпуці, ніжэй Віхолкі) бачым узмацненне “лапаў” на шляху да цэнтра **(фота 281)**. У Ачоса-Рудні Добрушскага раёна (Ачоса, правы — Іпуці, побач з левымі прытокамі Беседзі; фота 288) “лапа” мае “вока” і стаіць у пазіцыі, якая мела б дачыненне да веснавых ‘зелянінных’ абрадаў, калі бачыць у ручніках водгукі каляндарных сістэмаў **(фота 288, 298)**. Ручнік з Кацічаў (гл. фота 287) ставіць “глухія лапы” таксама ў перадцэнтравую пазіцыю, што дае, як нам здаецца, імпульс для пераборных узораў гэтых мясцінаў. Так, нам здаваліся надзвычай дзіўнымі “глухія” салярныя знакі вакол цэнтру (гл. фота 323, 332). Бачна, што апошнія — ‘пераклад з бранага’. ‘Дзявочы’ сэнс неспадзявана для староннягa назіральніка выплывае ў назве перадцэнтравых прамых крыжоў у ромбах: “красныя барышні”. Але гэта тая ж напруга ‘дзявочых’ знакаў перад узорам цэнтра з яго найбольш шлюбным, радзінным ды ўраджайным сэнсам.

Ручнік з Селішча (неглюбскі пасёлак побач з мяжою Навазыбкаўскага раёна) цалкам прысвечаны ‘дзявочаму’ (‘стыхійнаму’) космасу. “Глухія лапы” ў ім — па цэнтру **(фота 278)**.

Самы крайні з усходу прыклад у нашай зоне — ручнік з *Медзведзяў* Краснагорскага раёна Браншчыны. Цалкам белафонавая кампазіцыя ‘выяўленчага стылю’ па краях сваёй прасторы ставіць “лапы” відавочна бранага паходжання (гл. фота 196).

Калі ў чыне неглюбскага тыпу “глухія лапы” звычайна на мяжы, ці нельга асэнсаваць кампазіцыі з развітаю люстраною сіметрыяй **(п-1-п)** як пэўную культурную прастору, якая адносіць наш сімвал да памежнага (гл. таксама фота 348)?

Угледзімся ў традыцыі на захад ад Каўпіты. ‘Вертыкальны’ ручнік тыпу прыснянскага з вёскі *Мядзвежае* (правы прыток Сожа; гл. фота 5) у сваіх вялікіх “лапах” змяшчае маленькую “лапку” (у Мядзвежым ведаюць і ‘культурную’ “лапу”; гл. фота 7). Да гэтай ж традыцыі належыць і загадкавая кампазіцыя ручніка з Сябровіч (правы — Сожа; гл. фота 8). “Лапа” з адзіным “вокам” нагадвае сітуацыю ў Верхлічах, дзе нам тлумачылі, што ва ўзорах ёсць “сляпая глухая” і “глухая з глазам”. Прыснянскага тыпу і ручнік на фота 4.

На Каўпіце — вёскі Палессе, Балсуны, Валосавічы, Будзішча, вусце — Казацкія Балсуны. У змене і перамешванні традыцый тут, аднак, выяўляецца тып, дзе ‘цесныя’, ‘вузкія’, ‘закрытыя’ браныя ўзоры паміж шырокімі “вольнымі палоскамі” (так тут завуць калодкі) узносяць адзін толькі знак. Мы абралі для доследу толькі “глухую лапу”. Кола ручнікоў, якія неабыякава ставяцца да ўжывання гэтага сімвала, можна пашыраць амаль да бясконцасці. Здаецца, гэта адзін з ключавых сімвалаў.

Вышэй па Сожу і Беседзі знаходзім у зоне былога ўзаемадзеяння крывічоў ды радзімічаў найцікавейшыя архаічныя, на наш погляд, кампазіцыі з удзе-

лам гэтага знаку. У зборы Магілёўскага абласнога краязнаўчага музею ёсць ручнікі з Горацкага раёна (р. Проня, правы прыток Сожа). Дарэчы, адзін з відаў "лап" адэкватны ўзору на 'верашчацкіх' ручніках і, магчыма, пападае туды з 'горацкіх' ручнікоў. На адным з іх (асіметрычным) вялізныя "лапы" маюць па шэсць крыжыкаў, зведзеных вакол цэнтральнага сёмага (знаходзім падобныя "лапы" ў традыцыі 'вертыкальнага' тыпу — прыснянскай; гл. фота 20). Самі "лапы" ў горацкім (не публікуецца) і пыханьскім (гл. фота 20) ручніках маюць не толькі дэкаратыўны 'ўспамін' пра знак рода ўсярэдзіне, 'у чэраве' фігуры, але і па дванаццаць 'адросткаў'. Магчыма, гэта даўні 'ініцыяцыйны' сімвал (у прыкладзе 20 побач — 'засеяныя' "лапы" шаснаццаціадросткавага ўзросту). Але, магчыма, такі сэнс быў звязаны і з больш агульным — прысвячэннем пэўнага ўзросту пэўным боствам. У Баханах, уверх па Беседзі (Хоцімскі раён Магілёўскай вобласці) мы сфатаграфавалі асіметрычны ручнік, дзе "лапы" мелі ў сярэдзінах адасобленыя ромбік-"глухоўку", але з сакральным крыжыкам у ім (гл. фота 278). У тых жа мясцінах запісалі ўспамін пра тое, што вясновыя абрады праходзілі "на лужку" — неўзараным месцы пасярод праросла ніве (ЭМ, сш. 83, л. 18, 28).

Можна сцвярджаць, што спецыяльны дослед ужывання таго альбо іншага знака архаічнага тыпу, падобнага да "глухой лапы", у розных кампазіцыях, у далучэнні іх да пэўных традыцый, пэўных рэгіёнаў, наогул, ментальнага кантэксту, перш за ўсё абрадавага, дасць значны прырост інфармацыі, нават калі мы і не дасягнем навукова пераканаўчага выніку ў тых задачах, якія сёння мы адчуваем вобразна па прычыне крайне малой даследаванасці мясцовага арнаменту. Вынік нашага пошуку мы дазволім сабе сфармуляваць таксама вобразна: мы аналізавалі цэлы шэраг кампазіцый з "глухой лапаю", пачаўшы з яе 'ўслаўлення' ў ручніку, які быў створаны побач з вёскай *Валосавічы* (ёсць і на карце XVI ст.). Валос, Волас, Вялес — імя неабыякавае да назваў ды формаў нашай "лапы" — "глухой", "мядзвежай", "кучаравай", да аднаўлення ў ёй сэнсаў 'дзявочага', 'стыхійнага', 'межавога', 'вегетатыўнага'...

## 36. КАНСТАНТЫ СТВАРЭННЯ АРНАМЕНТУ РУЧНІКОЎ ЯК ПРАЯВЫ ГЛЫБІННАЙ СЕМАНТЫКІ

Аналізуючы сітуацыю ў рэгіёне ўзаемадзеяння традыцый, мы бачым, што *пабудова* (кампазіцыя) узорнага канца ручніка, а таксама *месцы і выгляд калодак* (якія і ўтвараюць падзел гэтай кампазіцыі як культурнай прасторы) з'яўляюцца найбольш устойлівымі, канстантнымі характарыстыкамі ў стварэнні дадзенага архаічнага 'культурнага тэкста'. Да гэтых дзвюх канстантаў неабходна далучыць і *характар самой белай тканіны.*

Пералічаныя намі і часткова разгледжаныя вышэй асаблівасці ручнікоў розных рэгіёнаў, бы ў вузёл, сыходзяцца і завязваюцца ў зоне нашых даследаў. Вывучэнне археалагічных вынікаў і картаў гэтай зоны паказвае, што вылучаныя намі фармальныя і тэхналагічныя характарыстыкі ручніковых традыцый (хутчэй, іх вялікіх плыней) з верагоднасцю значна большаю за выпадковасць могуць адлюстроўваць глыбінныя слаі гістарычных узаемадзеянняў у дадзеным рэгіёне. Гэта ўзаемадзеянні славянскіх плямёнаў.

## 37. ІМПУЛЬСЫ 'КРЫЎСКІ', 'ДРЫГАВІЦКІ' ДЫ 'ПАЎДНЁВА-ЎСХОДНІЯ'

Асіметрычныя традыцыі з паласатаю кампазіцыяй ручніка, дзе асэнсоўваюцца белыя прасветы паміж чырвонымі (альбо ўзорнымі) палосамі, аналізаваліся галоўным чынам на прыкладзе палескіх тканін. Гэты старажытны тып кампазіцыі даследчыкі асацыіруюць з дрыгавіцкаю спадчынай (гл.: Лабачэўская. 2002. С. 20—21, 48—49). Назіранні за традыцыямі нашага рэгіёну прыводзяць да вываду, што паласаты (чырвонапалосны) тып увайшоў у наваствораныя чырвонакалодкавыя чыны. Іх архаічныя рысы звяртаюць да сябе ўвагу і ў 'тэхналагічным' аспекце. Так, белая сярэдзіна і паміжкалодкавыя прасветы выконваюцца ў шматнітовай (спачатку 4-нітовай аднаутковай, саржавай) тэхніцы, што вядзе да рыпсавага перапляцення ў чырвоных "вольных палосках" і фонах бранага ўзора, а ў самой браніне — цотнага ліку ў памеры шагу ўзорнага утка. Гэтыя комплексныя характарыстыкі, магчыма, удакладняюць уяўленне аб 'дрыгавіцкім імпульсе' (яны прасочваюцца і па апублікаваных матэрыялах хаця б для тэхнікі выканання белай сярэдзіны, дзе каталогі адзначаюць аднауткавае саржавае перапляценне альбо пазнейшае двухуткавае шматнітовае ткацтва). На прыкладах ручніковых традыцый 'межавых' тэрыторый гэтыя рысы захоўваюцца як тэндэнцыя ва ўзаемадзеяннях дрыгавічоў з іншымі плямёнамі і, як глыбінныя характарыстыкі, у гістарычных ператварэннях.

Адсутнасць папярочных палосаў, асіметрычны канец, 'сцяканне' і пацяжэнне арнаменту да нізу, арыентацыя 'верх — белае палатнянае(?) поле' і 'ніз — непадзельны чын чырвоных браных знакаў старэйшага фонду' — гіпатэтычныя рысы крывічоў, якія ў нашай зоне мелі межы, што спускаліся па Дняпры языком ажно да Рагачова. Нават аднапалосны бардзюр паўночнага 'крыўскага' тыпу не меў абсалютнай сіметрыі і тады, калі падпарадкоўваўся пэўным 'рамачным' тэндэнцыям. Звядзенне ўзорных палосаў, дзе змяняюцца дзве фазы развіцця сімвала: 'пачатковы' і 'галоўны' элементы, — было такім шчыльным, што суседняю традыцыяй, з іншым уяўленнем пра кампазіцыю, успрымалася як непарыўны вертыкальны імпульс пары меншага і большага знакаў. Але ж гэту тэндэнцыю можна разглядаць і як самавызначэнне крыўскага імпульса, павелічэнне прыкметы-'маркёра' на мяжы з іншым этнакультурным вызначэннем. Нашыя матэрыялы даюць і *канстантны няцотны памер шагу ўзорнага утка — тры — у прыснянскім тыпе вертыкальных ручнікоў.*

Узорныя калодкі і простае белае палатно паласата-арнаментаваных ручнікоў (спярша браных) з няцотным памерам шагу — тры — папярэдне павязваліся намі з бабовіцкім люстрана-сіметрычным тыпам (**n-1-n**), які ўваходзіць у зону ўзаемадзеяння з паўднёвага ўсходу, ад Іпуці. Аднак паступовае назапашванне матэрыялу дазваляе паставіць пытанне інакш. Гэта гіпатэтычны ўдзел у складанні шэрага традыцый ручніка архаічнага тыпу — белапрасветнага, арнаментавана-паласатага, з паўторам аднолькавых палос (**а-а-а...**). Увайшоўшы ў зону дзеяння сіметрычнага імпульса, які дзейнічае ў рэгіёне, гэта **а-а-а...** уліваецца ў вытворны чын у якасці ўзорных калодак (бабовіцкая, верашчацкая традыцыі ды іншыя матэрыялы Навазыбкаўскага

раёна). На мяжы Веткаўскага і Добрушскага раёнаў такі асіметрычны чын праходзіць ‘пальцы ў пальцы’ з іншым узорнапалосным жа чынам, што дае чаргаванне **а-б-а-б...** (закружская традыцыя). Тут жа, ад Сожа, узмацняецца ўплыў вертыкальнага тыпу і сіметрычнага імпульсу, узнікаюць кампазіцыі **б-а-б-2а-б-а-б** (варыянты Закружжа). Цікава, што падобныя кампазіцыі ўзнікаюць і з паўночнай мяжы дзеяння тых жа сіметрычнага і вертыкальнага імпульсаў — у Магілёўскім раёне, на левым, усходнім баку Дняпра (Беларускія тканіны. Іл. 225, 226). На поўдні ж дададзім тыпы **а-па-а**, **2а-3а-2а** (гомельскія, добрушскія тканіны), з захаваннем узорных калодак **б**.

У валосавіцкай традыцыі, дзе сутыкненне адбылося з чырвонапалоснаю традыцыяй, чын **а-а-а...** захоўваецца, але паміж чырвоных ‘вольных палосак’ (блізкія працэсы, магчыма, і ў бабіцкай традыцыі). Далей паміж Беседдзю ды Іпуццю, на крайнім паўднёвым усходзе Магілёўскай вобласці (у Касцюковіцкім ды Хоцімскім раёнах) знаходзім тканіны з тым жа трохпалосным паўторам браных узораў **а-а-а...**, але паміж імі — у белых прасветах месцяцца закладныя альбо вышываныя ‘новыя’ арнаменты (гл. фота 429, 435—437); да таго ж, тут часам дзейнічаюць і чырвоныя палосы-калодкі, і ‘чырвоныя гарадкі’ (гл. таксама: Беларускія тканіны. Іл. 231, 251, 270—272). У Магілёўскім музеі нам паказвалі белапрасветны ручнік з ‘чыстым’ паўторам бранай паласы ўзора **а-а-а**. Шчыльнасць чырвонага засцілу імітавала ‘чырвонапалоснасць’.

Можна дапусціць, што ‘ўзорнакалодкавы’, а перад гэтым ‘узорнапалосны’ белапрасветны тып **а-а-а...** уздзейнічаў з паўднёвага ўсходу праз Іпуць ды яе міжрэчча з Дзясною.

Закладная тэхніка, у якой бачаць рэшткі ўзаемадзеяння славянаў з качэўнікамі, той ‘іранскі’ элемент, што на працягу стагоддзяў падпітваўся самою гісторыяй ‘усходніх’ імпульсаў, уздымаецца па Дняпры. Справа далейшых доследаў — адшукаць паслядоўнасць хваляў яго актуалізацыі ў розныя гістарычныя часы. Сёння мы толькі адзначым, што імпульс ‘чаўноў’ і ‘колаў’, менавіта так асэнсаваных мясцовымі традыцыямі, магчыма, адзін са старых. *Цотны памер шагу ў мясцовых закладах* сведчыць аб даўнім яго засваенні з боку ‘цотных’ браных традыцый альбо аб развіцці мясцовых варыянтаў закладнога ткацтва на аснове старых саржавых тканін, вядомых і археалагічна. Ва ўсёй гэтай, пакуль збольшага вобразна акрэсленай сітуацыі, і *ўзнікае асэнсаванне чырвоных калодак як ‘зямных’ палосаў.*

## 38. ЧЫЁЙ БЫЛА ТРАДЫЦЫЯ ‘ЧЫРВОНЫХ ГАРАДКОЎ’?

У стварэнні мадэлі колішняй гістарычнай сітуацыі, у арнаментальным і семантычным ‘засваенні’ чырвоных “вольных палосак” заставалася неазначанаю традыцыя старэйшых ‘краснапольскіх’ ручнікоў — тканін з простым палатном і шырокімі чырвонымі палосамі. Тут мы і знайшлі прыкмету, якой не ставала ў нашай мадэлі. У гэтай традыцыі (Магілёўскі, Слаўгарадскі раёны ўздоўж Сожа; Хоцімскі, Касцюковіцкі, Краснагорскі раёны ўздоўж Беседзі) можна адчуць тое прасторавае асэнсаванне чырвоных калодак, якое падаецца нам ключавым.



Мал. 53. У Медзведзях — два тыпы ручнікоў (Краснагорскі раён). 1998 г.

У папярочнапаласатым, падзеленым белымі прасветамі ручніку знакавыя — чырвоныя палосы. Але кожная іх з пункту гледжання сучаснага носьбіта чырвонакалодкавай традыцыі — сама калодка. 'Нечаканасць' — адсутнасць узораў у белых прасветах паміж чырвонымі палосамі. Аднак, калі ўгледзецца, у частцы чырвонапалоснай спадчыны такая калодка не простая. Гэта гарадчастая па краях кампазіцыя дзвюх шырокіх чырвоных "вольных палосак", паміж якімі 'заціснуты' вузкі браны ўзор **(фота 421, 422)**. Бачна, што "вольныя палоскі" ўключаны ў арнаментальны чын, што яны ўваходзяць у агароджаную культурную прастору. У Неглюбцы знаходзім тэрмін, які адчувае падобную прастору, — там ёсць гарадчастая калодка з унутраным белафонавым запаўненнем, для якой атрымана назва "гарадкі з цярэшкамі". Паралельная назва яе — проста "цярэшкі". Неглюбскія гарадчастыя калодкі падобных тыпаў сёння называюцца па іх унутраным запаўненні: "каробачкі", *"ляхоўкі"*, "чахонь" ды інш. Магчыма, даўней гэта былі "гарадкі з...". Даследаванне іх тыпаў (больш за 15 назваў) можа высветліць гістарычны склад удзельнікаў дыялогу, які адбываўся пры фармаванні

неглюбскай традыцыі. Але сёння адзначым толькі, што адна з 'неглюбскіх' калодак — "каробачкі" — прадстаўляе дакладны згорнуты варыянт паласы 'чырвонагарадковага' тыпу. Таму мы ўзялі для назвы такіх ручнікоў менавіта неглюбскі тэрмін. Вернемся да разглядання іх унутранай структуры.

Ручнік паўтарае свае 'чырвоныя гарадкі' некалькі разоў (як і браныя чыны тыпу **а-а-а...**). Бачна, што 'гарадкі' — 'мужчынскія' і 'дзявочыя' (касыя крыжы і колцы); што агароджа іх — розная. Арнаментальныя элементы нібыта 'насаджаныя' на "пруткі" або стужкі, як некалі скроневыя колцы. Падобны прыём — калі ўзоры, сатканыя да сярэдзіны, пракідвалі скразным чырвоным "прутком", — можа быць адною з 'канстантаў'. Белая простая палатніна 'прасветаў' — зусім не тая, што ў шматнітовых дрыготкіх белых палосах ды палях 'дрыгавіцкіх' (гл.: Лабачэўская. 2002. Главы, прысвечаныя ручнікам Усходняга ды Заходняга Палесся). "Вольныя палоскі", уключаныя ў 'гарадкі', яднаюць тканіны з чырвонымі ручнікамі, што існуюць на поўдні. Тэхналагічны памер у выкананні браных узораў у 'гарадках' характарызуе схільнасць да цотнага рытму (4-4). Такі ж шаг — у 'гарадкоў' браных калодак Неглюбкі. Асіметрыя, 'крывы' тып кампазіцыі таксама нешта значылі. Вось і ўсё, што пакуль можна разгледзець.

Ручнік з Белай Дубровы Касцюковіцкага раёна **(фота 425)** 'разыгрывае' сітуацыю ўзаемадзеяння традыцый са свайго, чырвонагарадковага, пункту гледжання. Прыняўшы закладны "чужасельскі" чын на белыя 'прасветы', ён працуе з ім як з цалкам 'стыхійным' (параўнай апазіцыю 'няпоўны, палавінны'/'поўны, цэлы' ў яго закладаных ромбах з больш структурнымі прыкладамі: гл. фота 327). Як паводзіць сябе 'наш' ручнік далей? Майстрыха адчувае нястачу 'зямнога' ў чырвоным чыне старых палосак, бо пагроза белафонавага 'тэксту' ўзмацнілася. Што рабіць? Рука вышывае 'зямныя' знакі па "вольнай палосцы". На ўсялякі выпадак у самым вялікім закладным (чырвоным!) ромбе, бы ў чэраве, шыецца маленькі знак прарастання. Магчыма, гэты знак — на зачацце сына. Аднак усё гэта — на мове геаметрыі, колеру і кампазіцыі. Трэба адзначыць толькі, што па ўнутраных межах чырвоных гарадкоў, дзе "вольныя палоскі" ахопліваюць, нібы берагі, браны ўзор, а потым і белафонавае закладанне, "гарадкоў" няма. Гэта значыць, што белафонавы ўзор увабраны ў культурную прастору чырвонафонавай кампазіцыі. Гэта ж дэталь прыцягвала нашую ўвагу ў больш развітых чынах тыпу Ялоўкі і Неглюбкі, але заставалася незразумелаю.

Так акрэслілася кампазіцыя 'невядомага звяна' ў ланцугу традыцый. Яна апынулася 'краснапольнаю', бо мае ў планіметрычнай культурнай прасторы шырокія "вольныя палоскі" вакол вузкага набору і гарадкі па межах усёй кампазіцыі паласы. Асацыятыўна звязваюць чырвонапалосыя ручнікі з Краснаполлем — па месцы. Але, магчыма, і назва, і кампазіцыя павязаны з пэўным культавым комплексам альбо з этнавызначальнымі прыкметамі.

# СТЫХІЯ І КУЛЬТУРА. МОВА РУЧНІКА Ў КАНТЭКСЦЕ ТРАДЫЦЫЙНАГА ЖЫЦЦЯ



# 39. ПАРАДЖЭННЕ АПАЗІЦЫЙ УЗОРАЎ ЯК ПРАЯВА 'СТЫХІЙНАГА'/'КУЛЬТУРНАГА'

## 39.1. Пара элементаў а-б як семантычная найменшая адзінка

У коле традыцый, якія мы спрабуем вызначыць як тэхніка-, кампазіцыйна-, колерава-, арнаментальна-, семантычна *цэласныя комплексы,* пэўны — адзін і той жа — імпульс здаецца нам глыбінным. Гэта найменшая адзінка чаргавання тыпу **а-б**. У суме яго сэнс — змена "глухіх" знакаў і 'адкрытых', "відушчых", шырэй — 'стыхійных' і 'культурных'. Падобны сэнс рэалізуецца ва ўсіх традыцыях, але чаргаванне выконваецца па-рознаму. Найменшая 'адзінка' — суседства двух розных знакаў 1) у паласе, 2) у ланцугу альбо 3) паміж суседнімі палосамі. Засяродзімся на тым яго варыянце, калі чаргуюцца *палосы з розным узорам*, па тыпу **а-б-а; а-б-а-б; а-б-в-б-в...**

Уздоўж Покаці ды Каўпіты, у частцы ручнікоў бабіцкай і валосавіцкай традыцый, мы бачым семантычна значнае для нас *чаргаванне дзвюх розных палосаў.* Яно прысутнічае ўжо ў першых дзвюх палосах бабіцкага ручніка **а-б-б-б**, у далейшым (альбо іншым) развіцці кампазіцыі **а-б-в-б-в**. Гэта датычыцца і рэчаў, што выкананыя ў адной тэхніцы (гл. фота 76, 81, 129, 137, 138, 140, 141, 156 ды інш.). Такое чаргаванне найбольш зручнае і для развіцця сіметрычнай кампазіцыі, што мы і назіраем (гл. фота 114, 116, 141, 154, 162). Далей на поўдзень, па другі край сіметрычнага локуса, прыкмета зноў узнікае ва ўзорнакалодкавых асіметрычных кампазіцыях часткі браных ручнікоў закружскай і дубраўскай традыцый, таксама павязаных паміж сабою. Іх так сама 'падпіраюць' сіметрычныя традыцыі (тыя ж дубраўскія падоўжана-сіметрычныя ручнікі, павязаныя з гомельскім імпульсам сіметрыі тыпу **а-па-а**) і бабовіцкія ўзорнакалодкавыя (**п-1-п**).

Здаецца, менавіта найпростае чаргаванне *дае імпульс семантычнага супраціўлення*, якое аказвае знешняму ціску пэўная традыцыя з чаргаваннем дзвюх палос. Рэалізуючы апазіцыю 'стыхійнае'/'культурнае' менавіта гэткім спосабам (як палосы **а-б-а**), *традыцыя* (альбо тэндэнцыя шэрага традыцый) *на мяжы з іншаю плынню* паводзіць сябе актыўна.

## 39.2. Сустрэча бранага чыну тыпу а-б-а-б з закладным, 'адаптаваным' папярэднім узаемадзеяннем

Змадэлюем сітуацыю. Традыцыя тыпу **а-б-а...** з браным узорам паміж чырвонымі калодкамі сутыкнулася з традыцыяй белафонавага закладнога ткацтва, чые знакі ўспрыняла як 'чужыя', г. зн. *'стыхійныя'.* У нашым выпадку гэта бабіцкая і валосавіцкая традыцыі, з аднаго боку, і белафонавая традыцыя тыпу чачорскай, якая ўжо 'адаптаваная', абрала салярныя і вадзя-

ныя знакі і прадстаўляе тое ж чаргаванне **а-б-а...** Браная традыцыя **а-б-а-б** захоўвае свае 'культурныя' знакі, але замяняе свае 'стыхійныя' ("глухія") знакі (**а**) "глухімі" ж закладнымі ("чаўнакі" ды інш.), якія ўспрымае як белафонавыя: **(а-б-в-б-в)=(а-б-а-б)+(в-г-в-г)**. Шэраг тканін адлюстраваў гэты брана-закладны этап узаемадзеяння традыцый. Чырвоныя калодкі застаюцца яшчэ пустымі.

Аднак і самі *чырвоныя калодкі*, магчыма, увайшлі ў браны чын у невядомыя нам часы, але на папярэднім этапе ўзаемадзеяння бранай кампазіцыі (тыпу **а-б-а...**) *з чырвонапалоснаю* (як у Закружжы падобнае чаргаванне гіпатэтычна сустрэлася *з узорнапалоснаю* традыцыяй). У абодвух выпадках гэты 'другі' ўдзельнік гістарычнай сітуацыі белае ўспрымаў таксама як 'незямное'. Узорнапалосныя ручнікі былі вядомы нам як усходнепалескія, дзе паміж асноўнымі ўзорамі — не калодкі, а белыя *'прасветы'*. Яны падступаюць з паўднёвага захаду, ад правабярэжжа Дняпра, і заходзяць месцамі на яго левы бераг (археолага-гістарычны агляд традыцый узорнапалосных ручнікоў Усходняга Палесся — гл.: Лабачэўская. 2002. С. 48—49). Цяпер мы павінны адзначыць з'яву ўзорнапалосных ручнікоў іншага тыпу. Калі ва ўсходнепалескіх паміж рознымі кампазіцыямі ўсё ж выдзяляецца тып з 'пацяжэннем' арнаменту да нізу, то ў 'навазнойдзеным', паўднёва-ўсходнім варыянце, адчуваецца рытм **а-а-а...** Менавіта ён мог зрабіцца 'пастаўшчыком' узорных калодак для паўднёвых тканін нашага рэгіёну і — шырэй — дасягаць усходніх межаў беларускіх традыцый ажно ў наступным 'вузле': магілёўскіх, смаленскіх і бранскіх зямель.

Цяпер зазначым, што мяняецца і прасторавае адчуванне ўзаемадзеяння 'асіметрычных' і 'сіметрычных' мясцовых традыцый. Першыя здаваліся нам межамі для 'сіметрычнага' імпульсу (бабіцкая і валосавіцкая на поўначы ды закружская на поўдні). Аднак цяпер яны выглядаюць 'фарпостамі' ўсходняй плыні, што 'ўразаюцца' ў локус дзеяння сіметрычнага імпульсу, які падаецца значна большым. Сітуацыя на мяжы краснапольскіх — казацка-балсунскіх і бабіцкіх ручнікоў наогул фіксуе прасторавае сыходжанне і 'вузел' трох архаічных імпульсаў ва ўзорным ткацтве. Складанаю з'яваю падаецца і плынь усходнепалескіх кампазіцый.

## 39.3. Архаічныя браныя чыны а-б-а-б ды п-1-п. Узнаўленне ранейшых сустрэч з закладам

Густы чырвоны засціл браніны, як у валосавіцкай альбо ў неглюбскай традыцыі, паміж чырвонымі ж шырокімі "вольнымі палоскамі", быў яскравай этнавызначальнаю прыкметаю і адрозніваў 'свае' ручнікі ад "рябых" узорнакалодкавых, дзе і сёння неглюбцы не бачаць "ні калодкі, ні малодкі!" (апошняе з узроўню метафарычнага прывабна было б перавесці на рытуальны, павязаўшы ролю нявестак ды прынесеных імі калодак). Калі б, спакусіўшыся 'новымі' тэхнікамі, дадзеныя 'чырвоныя' традыцыі нанава асвойвалі 'культурную' прастору сваіх кампазіцый як белафонавую (так і ўспрымаліся заклады, ад якіх пайшлі пераборы), то яны б супалі з белафонавымі традыцыямі суседзяў. У нашым выпадку, гэтакі падпор дзейнічае з поўдня, ад басейна Іпуці. Менавіта накоплены вопыт засваення белага і адпаведнае

семантычнае адчуванне яго як *'незямнога' ды 'стыхійнага'* патрабавалі адваротнага ўвасаблення *'зямных'* знакаў. Так маглі адрэагаваць чырвонакалодкавыя браныя традыцыі, зрабіўшы чырвонымі і ўзорныя палосы паміж чырвонымі ж калодкамі.

Былі прызначаны выконвацца па рыпсу, па здвоеным ніткам асновы (а, значыць, абумоўленыя саржаваю сярэдзінаю ручніка) браныя ўзоры з цотным метрам (бабіцкія, неглюбскія). Перайшоўшы ў неглюбскай традыцыі на палатно, браныя арнаменты захавалі той жа метр, але ўжо тэхналагічна не абумоўлены характарам тканіны. Выконванне цёмных калодак 'пад рыпс' у неглюбскіх ручніках — перажыванне той жа рыпсавай фактуры чырвонай паверхні, але 'новымі' сродкамі: закладваннем больш тонкай ніткі утка па больш тоўстым ніткам асновы. Здаецца, выпрацоўванне чырвонафонавага перабору з цотным метрам у Неглюбцы старэй за пераход яе тэхнікі на палатно, якое, разам з вядомым чынам закладу "крывулька"-"калёсы", маглі прынесці пасяленцы. 'Культурныя', пабудаваныя з цаглінак ("сякерак") чырвонафонавыя пераборныя фігуры пераймаюць сваю культурную распрацаванасць у бранага ткацтва і супрацьстаяць 'стыхійным', лускаватым, непарыўным белафонавым фігурам. Апошнія ткаліся ў старых ручніках таксама ў цотным рытме 2—2, г. зн. тэхналагічнае развядзенне на культурныя 'цаглінкі' і стыхійную 'луску' адбывалася ў адным чыне.

Існуючы побач, на такім жа архаічным станку, такі ж архаічны, але *іншы па тэхніцы* бабовіцкі чын свае чатыры панажы выкарыстоўваў інакш. Не павязаны з саржаваю сярэдзінаю і, адпаведна, з рыпсам фонавага утка ва ўзорах, ён абраў і ў браным ткацтве метр 3—1 — з усімі вынікамі ды іх развіццём. Ён капіў гэты нязбыты рытм (так і не перайшоўшы ў саміх Бабовічах на пераборы, пакінуўшы чын браным), каб зрабіць гэта ў верашчацкай традыцыі, а потым — у сучасных неглюбскіх шматколеравых ручніках — 'дзетках' неглюбска-верашчацкага 'шлюбу' — перамагчы...

І ўсё ж, адказ зноў ператвараецца ў пытанне. Белафонавыя ўзоры ў Верашчаках — і няцотнага, і цотнага рытмаў. Апошняе — праява больш старых і агульных для рэгіёна працэсаў ўзаемадзеяння архаічных саржавых-рыпсавых браных тканін — з закладамі. Тыя ж, як мы бачылі на прыкладах рагачоўскіх ды чачорскіх тканін, ужо адаптаваныя яшчэ больш старым ўзаемадзеяннем закладу з дрыготкаю плынню аднаутковага чатырохнітовага ткацтва. Якімі былі канцы *тых* ручнікоў?

## 39.4. Чачорскі закладны чын — вынік узаемадзеяння чырвонапалосных ручнікоў з закладнымі

На поўнач *чырвонапалосныя ручнікі ўзаемадзейнічалі з закладам, магчыма, без 'бранага' ўдзельніка сітуацыі.* Рысы 'стыхійнага' і 'культурнага' ўвасабляліся б цалкам у закладзе і паходзячым ад яго белафонавым пераборы. Магчыма, чачорскі чырвонакалодкавы варыянт — такі. З пункту гледжання чырвонапалоснага (чырвонагарадковага) ручніка засвойваўся заклад у Белай Дуброве. Асіметрычную ўскраіну працэса прадстаўляюць краснапольскія тканіны. Успрыманне белых палос як незямных у іх прывяло да засваення цёмных, чырвоных і пустых "вольных палосак". Прыклад балсунцаў быў

успрыняты, альбо гэта часткі аднаго працэса? Чырвонафонавыя ўзоры захоўваюць тут старэйшы тып перабору — пад палатно. Апошні 'сеў' па такому ж, як у чачорскіх, бабіцкіх і валосавіцкіх ручніках, рыпсу і адлюстроўвае 'першаснае' засваенне закладу.

У той час балсунскія і неглюбскія тканіны памяталі пра браныя 'культурныя' ўзоры — "цаглінкамі". Яны ўжо падзялілі такое 'непарыўнае' перапляценне і развялі два віды перабору па цёмным і белым палосам. Яны ўвасобілі ў іх апазіцыю 'дыскрэтнага'/'непарыўнага'.

## 39.5. Гіпотэза аб складанні бабовіцкага і неглюбскага браных чыноў

Магчыма гіпатэтычна аднавіць і сітуацыю даўняга складання чыноў тыпу **n-1-n**. Параўнанне неглюбскай *чырвонакалодкавай* і бабовіцкай *узорнакалодкавай* традыцый гэтага тыпу дае падставу дапусціць паасобнае іх ускладненне рознымі калодкамі, а значыць, існаванне папярэдняга *чыну* **n-1-n**, які ўвайшоў ва *ўзаемадзеянне з белапрасветнымі традыцыямі розных тыпаў:* чырвонапалосных і ўзорнапалосных ручнікоў. 'Пастаўшчыкамі' розных узорных калодак маглі быць *розныя ж узорнапалосныя традыцыі.* Такімі нам уяўляюцца і ручнікі з 'квадратным падзелам' бранага ўзора ў палосах (з ромбамі альбо 'матылькамі' ў квадраціках і негатыўна-пазітыўным чаргаваннем фону), вядомыя па слаўгарадска-быхаўскай традыцыі і некаторым калінкавіцкім тканінам, дзе такія ўзоры ўжываюцца ў якасці калодак (з магчыма ўкраінскім, хутчэй, паўднёвым паходжаннем). След падобнага 'квадратнага падзелу' знаходзім у паўднёваславянскім матэрыяле (Маннова. 1979. С. 123; Duchonova. 1976. P.1).

Так альбо інакш, парадыгма розных чыноў у рэгіёне прадстаўляе раз за разам два варыянты кожнага з іх: чырвонакалодкавы і ўзорнакалодкавы, што дазваляе разглядзець і магчымасць паралельнага ўзнікнення такіх чыноў як вынікаў узаемадзеяння зыходнага адзінага тыпу (тыпаў) з рознымі ўдзельнікамі гістарычнай сітуацыі.

## 39.6. 'Найменшы' сіметрычны чын а-б-а ды яго лёс

І ўсё ж у 'найменшым' сіметрычным чыне **а-б-а** праглядаюць архаічныя вынікі двух тыпаў. Адзін — гэта спадчына агульнага закону ўтварэння фрызавай кампазіцыі. Само выкананне *паласы* арнаменту, асабліва бранага, з'яўляецца 'сіметрычнай' з'явай. Абсалютная большасць знакаў геаметрычнага чыну — сіметрычная адносна падоўжнай восі паласы і закадзіраваная тэхналагічна. Яна правакуе 'завяршэнне' не толькі асноўнага ўзору, але і яго 'межаў' знізу і зверху паласы (найчасцей і найпрасцей — "пруткамі" альбо "крывулькамі").

Шэраг арнаментаў пакідае гарызантальныя ланцугі альбо паслядоўнасці сімвалаў у 'неабмежаваным', 'стыхійным' выглядзе, але гэта не характэрна для нас. Апошні факт можа сведчыць аб гістарычнай і 'геаграфічнай' *апазіцыі паміж 'вертыкальным' і 'паласатым'* тыпамі ручнікоў. Такая апазіцыя актуалізавалася, магчыма, з прычыны развіцця 'неабмежаваных' ланцугоў у вертыкальным тыпе ручнікоў (прыклад гарызантальных 'неабмежаваных'

ланцугоў ды падрабязны аналіз узнаўлення дыялогу паміж 'стыхійным' і 'культурным' на ўсіх этапах стварэння тканіны — гл.: Лысенко. 1992; фота на вокладцы). Фрызавы прынцып уласцівы абсалютнай большасці кампазіцый *асобных палос* арнаменту як на паласата-арнаментаваных ручніках, так і на канструктыўных адзінках беларускіх строяў адзення: калодках рукавоў, падолах, пярэдніках, галаўных платках, што выконваюцца як *палотны ручніковага тыпу.*

Аднапалосныя арнаментаваныя ручнікі вядомы на поўначы Беларусі ў традыцыях Паазер'я і адзінкавыя прыклады — у закладной капыльскай традыцыі Цэнтральнай Беларусі (Лабачэўская. 2002. Іл. 143, 170, 172). Паўночныя аднапалосныя сустракаюцца значна радзей за вертыкальны паўночны тып. Яны маюць дзве адметныя разнавіднасці. Гэта, па-першае, узорная паласа без атачэння сіметрычнымі вузкімі калодкамі, быццам бы спрадвечна прызначаная да развіцця вертыкальнага чыну (альбо ўзятая з яго) і, па-другое, той самы найменшы чын **а-б-а.** Далейшага развіцця гэты чын не дае. Аднапалосных кампазіцый у палескіх тканінах няма. Лёс вядзе гэты 'зыходны' тып да спалучэння з дадатковымі ўзорнымі калодкамі — асіметрычна, найчасцей яны нарастаюць зверху. У падняпроўскіх тканінах можна ўбачыць адну паласу, паўтораную тройчы альбо больш разоў (чын **а-а-а...**). Аднапалосныя тканіны вядомы нам тут у чыне **а-б-а** як рытуальныя ручнічкі ў пахавальным і радзінным абрадах ды ў галаўных платках ручніковага тыпу. Гэта сведчыць на карысць дапушчэння менавіта рытуальнага захавання аднзнакавага чыну. Як мы адзначалі, ёсць нават проціпастаўленне па знаках галаўных платкоў для малодак і сталых жанчын. У 'бальшых' ручніках бачна, як нават штучна адноўлены 'зыходны' тып адразу ж уваходзіць у розныя дыялогавыя сітуацыі і мае розныя шляхі развіцця па геаграфічных зонах.

Аднак у далейшых 'паводзінах' найменшага чыну **а-б-а** можна выявіць з'яўленне 'новай' апазіцыі — таксама архаічнай. Яна датычыцца 'паласатых' кампазіцый, незалежна ад тыпаў падзелу — калодкамі, прасветамі альбо абодвумя разам. Звяртанне да археалагічных матэрыялаў (галоўным чынам арнаментаў на кераміцы — посудзе ды гліняных прасліцах) дазваляе ўбачыць перавагу асіметрычнай па вертыкалі пабудовы ўзора для старэйшых перыядаў (прыклад на мясцовым матэрыяле гл.: Шолохов. 2001. С. 63—67, а таксама мал. 61 у гэтай кнізе).

Тыпалагічна развіццё арнаменту на паласатых ручніках ідзе наступнымі шляхамі. Першы: розныя палосы-фрызы **а-б-а** даюць развіццё зыходнага (накшталт знакаў зерня альбо іншых "глухіх" сімвалаў) арнаментальнага элементу праз этапы **а-б-а, а-в-а, а-г-а;** альбо **а-б-а, б-в-б, в-г-в...** (тып асіметрычнага паласата-арнаментаванага ручніка). Другі шлях: кампазіцыя арнаментаванага канца развіваецца праз павелічэнне колькасці люстранасіметрычных узорных палос паабапал цэнтральнай паласы. Назіранні за мясцовымі сіметрычнымі ручнікамі, у прыватнасці за неглюбскім чынам, паказваюць, што найбольш устойлівыя 'зоны' такой кампазіцыі — сам цэнтр і краявыя палосы, г. зн. зыходны чын **а-б-а** (з проціпастаўленнем краявых і цэнтральнай тэм як 'стыхійных' і 'культурнай'). Развіццё адбываецца па тыпе: **а-в-г-б-г-в-а**. Аднак апошнія доследы даводзяць, што ў пазіцыю цэнтра становяцца і знакі 'папярэдніх', прамежкавых 'зон'. Гэта

дазволіла выказаць нам гіпотэзу аб магчымым каляндарным сэнсе ў аснове стварэння такіх розных па цэнтрах кампазіцый ды ўзнаўленні іх семантыкі як аналага колу абрадавых дзеянняў вакол пэўнага свята з яго сіметрычным адчуваннем часу. Цікава, што адпаведна паводзяць сябе і асіметрычныя кампазіцыі: яны нарошчваюць колькасць паслядоўных палос, каб у выніку рытуальнага злучэння канцоў 'у цэнтры' агульнай сіметрычнай кампазіцыі апынуўся галоўны для гэтага чыну знак — мэта, аб'ект і вынік рытуальнага 'шэсця' з абодвух канцоў.

## 39.7. Традыцыі асіметрычнага тыпу і дзеянне сіметрычнага імпульсу. Тры тыпы Покуці

У 'тройцы' палос **а-б-а** ёсць прынцыповае адрозненне ад асіметрычнай пары палос з элементамі **а-б**. Апошнія ўтвараюць *кола* **а-б-а** праз злучэнне канцоў, а першыя прад'яўляюць нам яго ў гатовым выглядзе, найчасцей як віднае 'збоку', вертыкальна арыентаванае. Гэта дазваляе звярнуць увагу на розніцу ў будаванні Покуці — у трох яе тыпах: 1) са злучанымі канцамі ручніка; 2) 'домам', дзе сярэдзіна тканіны мацуецца да столі, і ў такім 'франтоне' канцы тканіны ўтвараюць вертыкальныя 'стаўпы'; 3) доўгі ручнік накрывае рад ікон, і арнаментаваныя канцы завяршаюць рад выяў кампазіцыямі злева і справа, часта на тым жа ўзроўні, што і абразы.

Менавіта тыпы 2 і 3 акцэнтуюць вертыкальнае прачытанне ўзора. Менавіта тып 2 па нашых матэрыялах тэрытарыяльна супадае з сіметрычнымі кампазіцыямі арнаменту. Рознага роду "стоўпікі", падзяляючыя ўзор паласы ў казацка-балсунскай ды іншых традыцыях, былі прынятыя і распрацоўваліся ў пэўных чынах арнаменту, магчыма, і з прычыны 'вертыкальнага' тыпу Покуці ('домам'). Тып 1 у нашых мясцінах мае тэрытарыяльныя адпаведнасці з распаўсюджваннем вертыкальнага (прыснянскага) тыпу ручніка і папярочнапаласатай 'кампазіцыі паўтору', як у Бабічах. Абедзве кампазіцыі па архаічных прыкметах узнаўляюцца як прызначаныя для звядення канцоў ручніка і, магчыма, развіваюць вертыкаль-'прастол' ужо счэпленых канцоў.

## 39.8. Сіметрыя як найвышэйшы момант рытуальнага руху ў перажываннях архаічных кампазіцый

Сіметрыя — найархаічная з'ява культурнай арганізацыі наогул, і любыя спробы дайсці да пункту пачатку не маюць надзеі на поспех, як і спробы пералічыць усё сіметрычнае ў сваёй уласнай традыцыі. Дзеля таго засяродзімся, сканцэнтруемся (абодва дзеясловы — сіметрычныя па сэнсе) на тых апазіцыях сіметрычнага-асіметрычнага, што выяўляюцца ў нашых ручніках і аб якіх паасобку мы казалі ў розных месцах тэксту.

## 39.9. Лева-правая асіметрыя

Лева-правая асіметрыя канцоў, прызначаная для рытуальнага звядзення полак тканіны бакавымі пругамі, дае сіметрычны вынік, які 'чытаецца' папярочна. Рытуальная вось супадае тут з напрамкам уточнай ніткі. Такі тып прысутнічае як цэласны кампазіцыйны прынцып альбо як атавістычныя



Мал. 54. У Дубраўцы два тыпы Покуці. Счапляюць канцы, як і ў суседнім Закружжы. 1999 г.

рэшткі яго ва ўсіх нашых традыцыях. Хутчэй за ўсё лева-правая асіметрыя нараджаецца ў *аднапалосным* архаічным тыпе. Найбольш архаічным 'героем' старэйшых тыпаў кампазіцыі здаецца асіметрычная паласа **а-б**, дзе фігура выніку — праз звядзенне левага і правага (абедзвюх полак часу?) — накладаецца адна на другую, такую ж, альбо нават узнаўляецца з люстраных палавінак. Замыкаючыся, яны нібыта 'падпярэзваюць' тканіну, падобную ў такім чыне да *адзежыны* (параўнайце павязванне ручніком аброчнага альбо могілкавага крыжа 'цераз плячо' і падпярэзванне ручніком маладых). Паласа арнаменту наогул 'памятае' аб сваім 'папярэдніку' — поясе (гл.: Лысенко. 1992. С. 17).

Гарызантальная арнаментаваная паласа, такім чынам, мае не толькі сэнс прыпынення нейкага вертыкальнага (слушней, падоўжнага) руху (тут — стварэння белай непадзельнай тканіны), але скіравана на паказванне, за-

значэнне далейшага напрамку гэтага руху — у рытуальным, кампазіцыйным і 'ўспрымальным' сэнсах. Далей мы рухаемся *ўздоўж гарызантальнай, папярочнай восі* — з узнаўленнем у ёй сапраўднага сэнсу рытуальнай. Тая ж вядзе ўзор да бакавога краю ручніка — як пэўную 'фразу'-замаўленне, не маючае выніку, чым рытуальнае перажыванне перарыву ў часе павялічваецца.

Аднак цудадзейнае ў стварэнні ручніка ў тым, што, паўтарыўшы на другім канцы той жа ўзор і ў тым жа напрамку злева направа, — майстрыха падрыхтоўвае наперад *вынік*, бо рытуальнае звядзенне канцоў сімвалічна мяняе і рух часу, левае робіцца правым, люстраным — калі абодва канцы зводзяцца. Аднапалоснае 'звядзенне' ўтварала вынікавы знак як *'кропку Пачатку' і фігуру-план*, у якой 'ўсё ва ўсім', — той жа геаметрычны сімвал, які актуалізуецца ў засціланні тканіны (калі знак пазначае сапраўдную кропку і форму на пэўнай паверхні, гэта ў іншым маштабе робяць і тыя, што абрадава наносяць знакі на зямлю, і тыя, што водзяць карагоды). Касмалагічная вось, скіраваная да неба, перпендыкулярная да паверхні тканіны.

Мы знайшлі два прыклады гэтага аднапалоснага імпульсу: 1) чаргаванне касога крыжа і раскрыжаванага ромба (праўда, тройчы паўторанага — у адной паласе; фота 299); 2) чаргаванне гарадчастага ромба-"лапы" і ромба з кручкамі-"кручча" **(фота 234)**. Асіметрычныя пары знакаў тыпу "лапа"-"кручча" ў адной паласе, магчыма, адна са старэйшых праяў лева-правай асіметрыі, бо магічны сэнс непаўнаты тут — і на знакавым узроўні (гл.: Нячаева. 1999б. С. 70—72).

Але большасць тканін ператвараюць старую асіметрычную пару ў адной паласе ў сіметрычную. Ці толькі дэкаратыўнае — такое 'згортванне' былой інфармацыі? Магчыма, перамены ў канструкцыі Покуці, развёўшы канцы ручніка, патрабавалі ўзнавіць сіметрычны вынік? Аднак у такіх вытворных чынах адной паласы магчыма вылучыць яе *'дасіметрычную' сінтагму*. Далейшае развіццё першаснай кампазіцыі па вертыкалі, паўтор лева-правых палос колькасна памнажаюць сітуацыю рытуальнага дзеяння, каб забяспечыць большую яго эфектыўнасць. У такім чыне бабіцкі патройны паўтор палос (асабліва ў асіметрычным варыянце з "лапаю"-"круччам") — адзін са старажытных імпульсаў.

У вертыкальным тыпе кампазіцыі гэты 'першасны' імпульс захоўваецца ў лева-правай арыентацыі арнаменту, асабліва па бакавых краях тканіны, дзе ўзор мае асобую *незакончанасць*, каб утварыць *новы 'рытуальны аб'ект'* пры звядзенні канцоў. Кампазіцыя развівае тут і другі пласт інфармацыі, ён скіраваны на прачытанне арнаменту ў вертыкальным стане тканіны — у Покуці, калі "стаўпы" і "расты", "ліўні" ды іншыя сімвалы ўзыходу ды сыходу, узаемаабмену з небам, узрастаюць дзеля якаснага паляпшэння сітуацыі (што паласаты ручнік робіць памнажэннем палос). Касмалагічная вось ужо не перпендыкулярная тканіне. Яна супадае з яе падоўжнаю воссю, разлічвае на 'прачытанне збоку' ручніка, вертыкальна арыентаванага ў комплексе Покуці. 'Рытуальны лева-правы аб'ект' (ланцуг элементаў, які 'з'явіўся' пры счапленні канцоў уздоўж) таксама ўзнаўляецца як *стоўп*. Цікава, што колькасць вертыкальных 'стаўпоў' у такой 'зведзенай' кампазіцыі, як і ў асобных канцах ручніка, утварае пэўны сімвалічны чын. Тыя ланцугі знакаў, што чаргуюць 'мужчынскія' сімвалы, схільныя да цотнага і не ўва-

ходзяць у рытуальны настаўлены аб'ект. 'Жаночыя' ж даюць у выніку найчасцей *дзевяць* выяў-'растоў', разам з настаўленым, які ў старэйшых прыкладах *якасна іншы* і сумуе жаночы ды мужчынскі рады.

Такім чынам, складаная 'гісторыя', увасобленая ў асобнай кампазіцыі, мае найменшую апазіцыю, архаічную 'інтрыгу', 'асіметрыю', з якой 'усё пачалося'.

## 39.10. Вертыкальнае пульсаванне а-б

Разгледжаная намі *апазіцыя двух розных арнаментальных элементаў у адной паласе* — не адзіны пачатак руху арнаменту. Вертыкальны тып ручніка мае злучаную пару **а-б** у непарыўным вертыкальным ланцугу элементаў і думку аб бесперапынным пульсаванні іх як сімвалаў фаз быцця. Непарыўныя 'вертыкальныя' ручнікі далёка не заўсёды — механістычнае памнажэнне 'адной' паласы. Дастаткова ўгледзецца ў іх складанае і праходзячае адно наскрозь другога чаргаванне элементаў, у разнафазнасць 'стаўпоў', у розны — 'мужчынска-жаночы' альбо 'дзявоча-жаночы' — характар вертыкальных ланцугоў. Багацце вертыкальных чыноў асобных традыцый сцвярджае даўнюю гісторыю ўтварэння іх на падставе 'злітага' вертыкальнага чаргавання **а-б**.

## 39.11. Міжпалоснае а-б як 'трэці' пачатак арнаментальнага руху ў кампазіцыі

Але старажытны — імпульс і дзвюх палос, адна з якіх — **а**, другая — **б**; такія кампазіцыі ў паўночных беларускіх ручніках (гл.: Лабачэўская. 2002. С. 131). Мы разглядалі такія 'пачатковыя' палоскі **а** з іх сэнсам, які ўзнаўляецца як 'засяванне', уверсе і вертыкальных, і папярочна-паласатых кампазіцый, што развіваюць тэму **б** у шыкоўнай разнастайнасці. Менавіта палоскі **а** патэнцыяльна імкнуцца да ролі калодак ва ўзорнакалодкавых чынах. Здаецца, цэлы шэраг калінкавіцкіх ручнікоў вырашае гэту праблему, маючы такія пачатковыя калодкі і пераасэнсоўваючы іх (гл.: Лабачэўская. 2002. С. 54—56). Сярод папярочнапаласатых ручнікоў, што развіваюць гэту тэму, — і тыя, што паўтор будуюць на памнажэнні аднолькавых палос **б** з асобнаю пачатковаю калодкаю-'засяваннем' (тып **а-б-б-б**...).

Тое, што пачатковае чаргаванне **а-б** зададзена як 1) гарызантальнае ўнутрыпалоснае ў паласатым ручніку, як 2) вертыкальнае ўнутрыланцуговае ў вертыкальным ручніку і як 3) міжпалоснае ў тым тыпе, што змяняе ўзоры ад паласы да паласы, — здаецца, сведчыць аб архаічным паходжанні падобных імпульсаў.

Назіраючы за фазамі развіцця адной фігуры, мы абавязкова знойдзем той момант, калі яна сустрэнецца з прынцыпова іншаю і дасць *вытворны вынік*. Так, калісьці ўсвядоміўшы для сябе і асабіста перажыўшы агульнакультурны прынцып формаўтварэння, мы знаходзілі ў браных чынах ручніковага арнаменту развіццё 'дзявочых' знакаў — "глухіх" ромбаў, таксама як і 'мужчынскіх' ('хлапечых', 'юнацкіх') касых крыжоў (з вывучэннем археалагічнага патэнцыялу іх значэнняў). Але ніколі не знаходзілі асобных знакаў 'жанчыны' альбо 'мужчыны', бо для архаічнага іх агульны знак —

знак злучэння, знак шлюбу. Такім чынам, два знакі **а-б** альбо прадстаўляюць 1) дзве фазы аднаго, альбо 2) "зводзяць", "сушчэльваюць" процілеглыя, але творчыя пачаткі нашага 'інь' і 'ян', альбо 3) даюць тыя ж фазы, ды ўжо як 'да' і 'пасля вяселля': напрыклад, як 'дзявочае'-'жаноцкае' (у сэнсе развіцця ў 'чэраве' вытворнай фігуры — новага жыцця). Гэты зыходны прынцып даў differently розпае развіццё асіметрычнага імпульсу ў тыпах ручнікоў, якія адлюстравалі асобны лёс арна*ментальнага* пачатку ў кожнай з *протатрадыцый* ды асобнае існаванне іх носьбітаў. Тут належыць шукаць найбольшай архаікі, бо сам ручнік сканструяваны дзеля сваёй старажытнай функцыі — з'ядноўваць асіметрычныя канцы і рытуальна дасягаць кропкі Пачатку (што захоўвае тып Покуці са счэпленымі канцамі ручнікоў — гл. агляд экспедыцыйных матэрыялаў нашага музею: Мазейко. 2000. С. 161—165).

## 39.12. Кампазіцыя 'дасягнення выніку' на адным канцы ручніка

Аднак вернемся да іншага вертыкальнага імпульса, прадстаўленага ў паласатых асіметрычных ручніках тыпу **а-б-в-г...** Такія, як мы памятаем, ёсць паміж усходнепалескіх белапрасветных. Яны сваё 'дасягненне выніку' развівалі, не мяняючы 'напрамку рытуальнага руху', які ішоў уздоўж тканіны і будаваў паслядоўную кампазіцыю са знакаў, якія ўскладняліся ад пачатковых да выніковых. Ці не было гэта вырашэннем рытуальнай сітуацыі для асобага тыпу Покуці (3) — з канцамі ручніка, якія ніколі не зыходзіліся — у дадзеным тыпе рытуальнай дзейнасці з ручніком? Асіметрыя канца са зменаю ўсё больш 'рэзультатыўных' палос, якія б 'чыталіся' паслядоўна (магчыма, і 'радок за радком'), падоўжная вось ручніка супадае з рытуальнаю, дасягненне 'выніку' ўвасабляецца ў планіметрычным геаметрычным знаку. Гэта фігура выніку супадае па архаічных характарыстыках з планіметрычнаю ж выяваю-вынікам у аднапалосным ручніку. 'Чын паслядоўнасці' аказваецца старажытным. Яго таксама магчыма 'сцяліць' па зямлі (як у зніклай Барталамееўцы слала ручнік-мост праз парог сваёй хаты свякроўка, сустракаючы маладую, арнаментальна — ад сімвалу ўраджаю альбо наогул роду — праз белую сярэдзіну невядомасці-'нявеснасці' — да паўтору знака роду, але ў іншай прасторы). Такую тканіну магчыма выкарыстоўваць і як 'план' рытуальных дзеяў. Гэта звяртае ўвагу на пэўны *шэраг розных сімвалаў* як сцвярджэнне *аднвчасовай іх прысутнасці* на адной тканіне ў адным комплексе.

Чыста асацыятыўна множства розных выяў у адной арнаментальнай кампазіцыі павязваецца з імкненнем кожнай гаспадыні "мець на покуці столькі абразоў, каб імі можна было закрыць як мага большую паверхню сцяны, і шчыльныя рады абразоў над вокнамі ў абодва бакі ад галоўнага абраза ў куце пакрываліся адным доўгім, аздобленым па канцах чырвоным ручніком" (Лабачэўская. 2002. С. 49). Архаічна чын розных знакаў скіраваны на магчымасць звяртацца да іх як да розных ментальных формул у розныя моманты 'кола года'. Альбо ў 'найвышэйшы' момант, які ўключае і этапы прыгатавання да яго. Паступова семантыка саступае месца дэкаратыўнаму пачуццю менавіта гэтага тыпу. Аднак імкненне мець розныя абразы альбо клеймы на іх, прысвечаныя каляндарным святам, выяўляецца як досыць старажытная схільнасць.

'Кампазіцыя паслядоўнасці', між іншым, набывае люстраную сіметрыю ў маштабах усяго ручніка, калі яе разглядаць 'па меры вытыкання': узоры ткуцца ад фігур-вынікаў праз палосы-этапы да белай сярэдзіны, потым у адваротным парадку — ад мелкага 'насення' праз этапы — да той самай *фігуры-выніку.* У коле календара *сімвалічным пачаткам тут з'яўляецца вынік*, 'маёмасць'. Ім жа завяршаецца шлях тканіны на працілеглым краю. У цэласнай кампазіцыі Кута два канцы ручніка сцвярджаюць 'павелічэнне', *назапашванне* здабытку, сцяканне дабра ад неба.

Яшчэ адна традыцыя, якая развівае асіметрычны паласаты тып **а-б-в-г...**, гэта *асіповіцкія* ручнікі на паўночны захад ад рэгіёна доследаў (гл.: Лабачэўская. 2002. С. 164—168; Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. Магілёўскае Падняпроўе. 2001. С. 757). Асабліва апошні прыклад мае рысы архаічнага тыпу. Гэта белапрасветны ручнік (хоць і з вузенькімі ўзорнымі калодкамі па белых міжузорных прасветах). Па фонду арнаментаў ён блізкі да бабовіцкай узорнакалодкавай традыцыі. Ды тая ўжо 'згарнула' асіметрычную кампазіцыю паслядоўнасці ў кола сіметрыі на адным канцы тканіны.

Цікавыя прыклады палескіх ручнікоў з Украінскага Палесся (гл.: Булгакова. 1999. С. 330—332) далі нам магчымасць яшчэ раз звярнуцца да нашых матэрыялаў. Тканіны, выкананыя ў тэхніцы закладнога ткацтва, зазналі ў Оўручскім раёне большы ўплыў кілімавага ткацтва. Але іх параметры і структура вельмі блізкія да пераборна-закладных ручнікоў краснапольскага тыпу. Асіметрычныя, паласата-арнаментаваныя, яны маюць у арнаментальным фондзе і частку вельмі блізкіх элементаў. Супадае шэраг мясцовых назваў, што прыводзіць даследчыца, і тых, што ёсць у 'алфавіце' казацкабалсунскай ды шэрагу блізкіх традыцый.

Тое, што казацка-балсунскія ручнікі — сіметрычныя (і толькі захоўваюць след асіметрыі), дазволіла параўнаць тры традыцыі (оўручскую, краснапольскую, казацка-балсунскую) па некалькіх параметрах з мэтаю выявіць мясцовыя адметнасці ды паспрабаваць увесці іх у розныя для дадзеных лакальных традыцый кантэксты ўзаемадзеянняў. Такімі параметрамі сталіся: асіметрыя альбо сіметрыя; характар дзельнікаў паміж галоўнымі ўзорнымі палосамі (калодкі — прасветы; калодкі чырвоныя — узорныя); фонавыя характарыстыкі; заканамернасці ў арнаментальных чаргаваннях. Асіметрыя паласатай кампазіцыі оўручскіх і краснапольскіх тканін, след асіметрыі ў казацка-балсунскіх маглі б сведчыць аб асіметрыі як 'зыходным' — заходнім прынцыпе паласатых ручнікоў. Археалагічныя звесткі аб тым, што, магчыма, "драўляне ў 10 ст. ўзначальвалі племянны саюз, у які ўваходзілі дрыгавічы і валыняне" (гл.: Археалогія і нумізматыка Беларусі. 1993. С. 232), толькі падоўжваюць старую гісторыю аб паходжанні гэтых плямёнаў ад заходне-паўднёвай групы археалагічных культур. Пытанне аб дадзеным тыпе асіметрыі паглыбляецца, такім чынам, у агульны перыяд іх існавання. Аднак патрэбна разглядаць і варыянт уздзеяння на палескі 'драўлянскі' тып ручніка 'дрыгавіцкага' імпульсу, і тады асіметрыя — яго спадчына.

Оўручскія закладныя тканіны блізкія да ўсходнепалескіх беларускіх браных ручнікоў тым, што асіметрыя ў іх кампазіцыях перажывае ўскладненне: асіметрычна ўпарадкоўваюцца ў іх часам узорныя комплексы палос (тыпу **а-б-а**), што маюць унутраную сіметрыю. Другою рысаю іх падабенства з'яў-

ляецца *ўжыванне вузкіх узорных калодак* з аднарапортным узорам паміж такімі малымі чынамі (тыпу **а-б-а**). Прычым абодва тыпы ручнікоў не забываюцца на белыя 'прасветы' вакол такіх паўторных калодак.

Калі лічыць узорныя калодкі адным з этнавызначальных тыпаў дзельнікаў у паласатых ручніках, то мы заўважым, што, па нашых матэрыялах, яны ўзнікаюць у рэгіёне Іпуці на паўднёва-ўсходняй мяжы традыцый *у апазіцыі да чырвоных калодак* — "вольных палосак", што згушчаюцца ў 'чырвоны востраў' на поўнач. У палескім варыянце і старыя па чынах браныя, і адрозныя ад іх оўручскія закладныя ручнікі фіксуюць адну і тую ўвагу *да белых прасветаў* вакол узорных калодак ('чыстыя' чыны паласатых белапрасветных ручнікоў маюць сваё развіццё на поўнач, але яны ёсць і ў оўручскіх прыкладах). Яднае дадзеныя палескія ды іпуцкія тканіны менавіта *наяўнасць узорных паўторных калодак* паміж галоўнымі арнаментальнымі бардзюрамі. Такім чынам, схематычнае параўнанне гіпатэтычна вылучае *ўзорнакалодкавы тып* дзельніка кампазіцыі як прыкмету-маркёр паўднёвага (паўднёва-ўсходняга) імпульсу. Можа быць супадзеннем, што ўзорныя калодкі аднаго з украінскіх ручнікоў запоўнены матывам з назваю "сікачі" (пры блізкай назве "секачыкі", "сякеркі" ў неглюбскай традыцыі). Аднак так можа адзывацца і функцыя 'новых'(?) для традыцыі паўторных калодак: 'рассякаць', нанава дзяліць папярэдне цэльную (з пункту гледжання самой традыцыі) кампазіцыю.

Тое, што паміж плыней асіметрычных ручнікоў узнікае шэраг сіметрычных традыцый (па нашых матэрыялах — казацка-балсунская, неглюбская, бабовіцкая ды паходзячыя ад іх, а таксама 'гомельская', дубраўская; актыўныя працэсы сіметрызацыі асіметрычных бабіцкай, валосавіцкай ды інш.), сведчыць аб дзеючым тут імпульсе люстраной сіметрыі. Апошняе дазваляе гіпатэтычна дапусціць сустрэчны рух асіметрычнага ды сіметрычнага імпульсаў як архаічную з'яву. На межах і ў зонах узаемадзеяння 'дрыгавіцкай' і 'радзіміцкай' архаікі працэс актывізуецца. Але прыцягненне больш шырокага кола матэрыялаў можа высветліць пытанне і ў адносінах да больш старога паходжання такіх імпульсаў. 'Малыя ўнутраныя чыны' сіметрычнага тыпу, што ўзнікаюць ва ўсходнепалескіх беларускіх ды ўкраінскіх тканінах, пры іх агульнакампазіцыйнай асіметрыі, — сведчанне таго ж старога ўзаемадзеяння і яшчэ адзін варыянт перапрацоўкі энергіі сустрэчнага руху. Падобнае сустрэнем і на паўночны ўсход — уздоўж Беседзі, у Белай Дуброве ды ў традыцыі 'чырвоных гарадкоў', што дае толькі ўспамін пра былую актыўнасць працэсу.

Звернем ўвагу на больш выразную ў оўручскіх ручніках ("завесках") апазіцыю 'касога'/'прамога', што, магчыма, з'явілася ўнутрыкампазіцыйным узмацненнем той жа апазіцыі паміж 'супраціўнымі' традыцыямі на іх мяжы. Неглюбка распрацоўвае падобную апазіцыю 'стыхійнага'/'культурнага' праз супрацьстаўленне 'непарыўнага' ("крывулі") — 'дыскрэтнага' (элементы чырвонафонавых узораў). Падобны доклед дае новыя магчымасці высвятленню семантыкі суадносных матываў і ў 'нашых' традыцыях. Там жа, ва ўкраінскіх прыкладах, бачым і чырвонапалосны 'голас', які ўплятаецца ў "саглассе" кампазіцыі.

# 40. ТЫПЫ АРНАМЕНТАЛЬНЫХ КАМПАЗІЦЫЙ І АДНАЎЛЕННЕ АРХАІЧНЫХ ФУНКЦЫЙ РУЧНІКА

Калі б узнаўляць колішнія функцыі ручніка ў сінкрэтызме дзей з *арнаментаванаю тканінаю*, то можна было б выдзеліць, напрыклад, тры абрадавыя тыпы падобных дзеяў, адпаведных і тыпам арнаментальных імпульсаў у кампазіцыях. Мы ўжо параўноўвалі з'яву сіметрычнага выніку ў з'яднанні лева-правых кампазіцый двух канцоў ручніка з надзяваннем асобага роду адзення, ажно да асацыяцыі адзінай паласы арнаменту — з 'поясам'. Такі тып 'адзення' захоўваецца як у канструктыўных адзінках строяў народнага касцюму, так і ва ўзнаўленні рытуальнага па паходжанню *стварэння асобных элементаў строю* і нават частак гэтых элементаў (кашулі, фартуха) *з намітак*, што адзначана ў час нашых экспедыцый. Нягледзячы на 'выраджанае' тлумачэнне (шылі таму, што няма с чаго было...) і нават на 'выраджанае' ўзнаўленне традыцыі (з ручнікоў робяць фартухі для "выступленняў" у самадзейнасці), факт гэты здаецца значным. Дастаткова прасачыць эвалюцыю форм таго ж пярэдніка. Такім жа 'адзяваннем' абраза выглядае і адзначаны намі тып Покуці са счэпленымі канцамі. Урэшце, ужыванне ручніка ў якасці вясельнага пояса — з'ява, вядомая і па публікацыях (гл.: Лысенко. 1992. С. 16). Неглюбскае выказванне: "Ручнік — ета ж божжая адзежына" — знаходзіцца ў прасторы гэтай ж першаснай і сінкрэтычнай з'явы, як і павязванне ручніка 'цераз плячо' крыжу, як і зафіксаванае намі ў час тых жа экспедыцый павязванне на могілкавых крыжах ручніка — мужчыне, фартуха — жанчыне.

Такой адзінаю і архетыпічнай семантычнаю прастораю для розных сучасных вынікаў адзінага і сінкрэтычнага дзеяння здаецца *вяселле.* А адною з



Мал. 55. Ефрасіння Паўлаўна Чваркова з неглюбскага пасёлку Ляда. Яна яшчэ помніць узоры. 1998 г.

першасных функцый ручніка — вясельнае *адзяванне* (усіх удзельнікаў, атрыбутаў і свяшчэнных аб'ектаў). Архетып усяго тут — *злучэнне* (злучэнне родаў — іх 'парасткаў', іх святынь), магічная дзея з багатымі прадукцыйнымі магчымасцямі ды іх далейшай рэалізацыяй, у тым ліку і праз магічнае выкарыстоўванне асвячоных гэтай галоўнаю дзеяю тканін. Магчыма, ідэя бесперапыннага росту-паўтору, што бачым у вертыкальным тыпе ручнікоў, жывіцца гэтым імпульсам. Аб умовах перавагі, выбару, захавання і арнаментальнага ўвасаблення такой функцыі — як галоўнай паміж другімі — трэба казаць асобна. Магчыма, менавіта тып Покуці выступае апошнім 'ініцыятарам' яе ўзнаўлення.

Іншая па тыпе рытуальнага дзеяння — 'кампазіцыя дасягнення', яна развіваецца альбо (і) захоўваецца ў палескім тыпе Покуці 'з разведзенымі канцамі' (тып ручніка **а-б-в-г...** ды падобныя). Тэмы 'раскрыцця варот', характэрныя для замоў 'на ўдалыя роды', значна шырэйшыя за асобны тып Покуці, яны паходзяць з сінкрэтычнай даўніны. І ў нашым 'сіметрычным' локусе ручнікоў такія — канструкцыя 'замужняй' неглюбскай панёвы, сшытай з дзвюх палотнаў толькі да паловы, з разведзенымі ў час нашэння канцамі; звычай вывешвання святочнага ручніка ў Неглюбцы на Успенне, калі асвячаецца ўраджай нівы; урэшце, сам неглюбскі тып Покуці: 'домам' — з разведзенымі, раскрытымі 'варотамі' ручніковых канцоў.

Тэрытарыяльная мяжа распаўсюджвання абраду "Страла", якую мы 'перасеклі' ў час экспедыцыі "Уздоўж Беседзі", сведчыць аб тэрытарыяльнай жа суаднесенасці паміж 'зонамі' абраду і тыпам Покуці 'домам'. Гэткую ж суаднесенасць мы адчулі і ў паўночнай 'мяжы' вядомага ў нас абраду "Свяча". Карціна гэтых суадносін здаецца складаней за простае супадзенне межаў і патрабуе доследаў. Аднак семантычна адпаведнасць можа перадаваць сінкрэтызм архаічнага абрадавага комплексу, скіраванага на *асвячэнне ўраджаю.* Параўнайце першае сведчанне аб 'свячы': "Главную роль в обряде этого празднества играет "богач" или "богатце". Это "лубка" ржи со вставленной в неё восковой свечой..." (гл.: Богданович. 1895. С. 124—125, тут — у сучаснай арфаграфіі). Шэсце са "свячою-багачом" па ўсёй вёсцы, абход з ёю статку жывёлы, перанясенне раз у год (першапачаткова паблізу ад восеньскага сонцастаяння) свячы ад аднаго гаспадара да другога (што прыносіць у хату багацце і шчасце) і шэраг іншых рыс абраду прыводзяць даследчыкаў да высноў аб вельмі старым паходжанні і напаўненні рытуала.

Гіпотэза аб падобнай скіраванасці 'кампазіцыі дасягнення выніку, здабытку', што выпрацоўваецца на ручніку тыпу **а-б-в-г...** і заканчвае ўзор адпаведнымі знакамі, дапускае, што такі ручніковы чын можа быць з'яваю агульнага кола дзей: асвячэння ўраджаю. Акцэнт на 'абшчыннай трапезе' і г. д. адпавядае ніжняму ў кампазіцыі ўзору 'дастатка', з якога пачынаецца і якім завяршаецца арнаментальны чын усяго ручніка. Шэраг ментальных 'вынікаў' такога акцэнту (што вылучаецца ў сінкрэтычным адзінстве рытуалу як галоўная фаза) значна шырэй, але тут не можа разглядацца.

Магчыма, у гэтай сувязі знаходзіцца і надзвычай пашыранае ў нашым рэгіёне ўжыванне і распрацоўка аднаго з арнаментальных элементаў: 'раннеземляробчага культавага сімвалу — ромбу з кручкамі' ("кручча"), што ў земляробчым кодзе трактуецца як знак ураджаю (нараджэння). Знак гэты

вядомы ў кампазіцыях арнаменту розных тыпаў: ад вертыкальнага (у Быхаўскім, Слаўгарадскім раёнах, гл.: Беларускія тканіны. Іл. 224, 268) да трохпалоснага (Кармянскі, Чачэрскі раёны), да сіметрычных мясцовых, зноўтакі, рознага паходжання (**п-1-п, 2а-3а-2а**). Цікава, што на палескіх узорнапалосных ручніках сёння мы яго не знаходзім. Сімвал здаецца 'гаспадаром' пэўнай тэрыторыі. Той факт, што ён сустракаецца ў розных традыцыях па іх межах з *сіметрычным локусам*, а галоўным чынам, у самым гэтым локусе, звяртае на сябе ўвагу. Як і тое, што "кručча" захоўваецца і ва ўзорнакалодкавых, і ў чырвонакалодкавых традыцыях, г. зн. абранне яго 'галоўным знакам' старэй за падобны падзел.

Такім чынам, далейшыя доследы тэрытарыяльнай распаўсюджанасці старажытнага абраду асвячэння ўраджаю, што перайшоў у абрад "Свяча", і межаў існавання знаку "кручча" могуць праясніць 'семантычнае' пытанне аб іх павязанасці.

## 40.1. Сіметрычная кампазіцыя арнаменту на адным канцы ручніка

'Кампазіцыя паслядоўнасці' з некалькіх палос **а-б-в-г...** у час абраду ператвараецца ў свой 'замкнуты', дасканалы варыянт **п-1-п** (а-б-в-Г-в-б-а). Сярод абрадавых архаічных адпаведнасцей — згортванне канцоў ручніка (і накладанне арнаменту канцоў адзін на аднаго) у гарызантальным стане — на хлебе, на падарунку альбо на... нябожчыку (вядома, што ручнік слалі ў труну ў Неглюбцы навыварат, каб другім канцом — накрыць). Калі б вылучыць 'імя' гэтага рытуальнага выкарыстання, мы павінны назваць *захоўванне,* зберажэнне матэрыяльных ды духоўных каштоўнасцей. Аднак абярэжная, засцерагальная магія згортвання канцоў праяўляе свой першабытны сэнс да з'яўлення ўласна арнаментальных чыноў і ва ўсіх іх.

Адзіны замкнуты тып кампазіцыі сярод архаічных браных чыноў мог перавесці сэнс захоўвання на арнаментальны ўзровень. І ўсё ж ёсць іншыя абрадавыя дзеі, дзе б актуалізаваўся чын **п-1-п.** Ручнік слалі ў Барталамееўцы цераз парог хаты ў час вяселля, па яму ўваходзіла нявестка з аднаго роду ў другі. Абрадава ў тканіне ўзнаўлялася архетыпічная функцыя *маста* з пазначэннем асобных прастор-локусаў родаў жаніха і нявесты. Кожны з такіх локусаў мае поўную мадэль культурнай прасторы і яе 'стыхійнага' атачэння. Сапраўды, менавіта ў вясельным чыне рэалізуецца тэма пераезду, *перавозу* праз стыхійныя межы і стыхійныя абшары — дастаткова ўспомніць корпусы вясельных тэкстаў. У такім дачыненні сіметрычныя ўзоры асобных канцоў ручніка выглядаюць як аналагі сіметрычнага пабудавання чыноў вяселля на двух этапах яго — у нявесты і ў жаніха. Нават з'яўленне пераапранутых у вывернутую шубу маці нявесты альбо маці жаніха на ўваходах у гэтыя асобныя локусы праяўляе сіметрычны сэнс праходжання дзвюх стыхійных межаў (аб шлюбнай сімволіцы вобраза мядзведзя — гл.: Гура. 1997. С. 167—169). Падобна таму ўзор "мядзведзь" 'мяжуе' кожную з кампазіцый на двух канцах тканіны.

Магчыма, час складання і актуалізацыі сіметрычнага чыну арнамента тыпу **п-1-п** павязаны з утварэннем адпаведнага вясельнага строю. Аднак яго



Мал. 56. Покуць у Антонаўны. Верхлічы (Краснагорскі раён). 2002 г.

неабходнасць знойдзем кожны раз, калі актуалізуецца сэнс ручніка як повязі (тэрмін В. Лабачэўскай), маста паміж асобнымі, але цэласнымі прасторамі, кожная з якіх мае сіметрычную, касмалагічную пабудову асобнага Свету — з яго сакральным Цэнтрам і межамі. Выкарыстоўванне ручніка ў якасці лейцаў (вожжаў) пры *перавозе* нябожчыка з яго хаты на кладаўе, ужыванне ручніка пры дарах аднаго роду другому ў чыне вяселля, вывешванне ручніка на могілкавым крыжы кожны раз актуалізуе яго функцыю сімвалізаваць дарогу і быць мастом паміж асобнымі прасторамі, у чымсьці тоеснымі, маючымі сходны закон пабудовы. Ізамарфізм як агульны закон будавання традыцыйнай культуры праяўляе сябе і ў падобнай пабудове нават часу: па розныя бакі кола (каляса) году ёсць 'сіметрычныя' перыяды, напрыклад вясновыя дзеі і жніво, кожны з гэтых перыядоў сам — 'цыкл', мае сіметрычную пабудову. Узнаўленнем сіметрычных рыс напоўнены народны хрысціянскі каляндар (разгляд чаго тут не магчымы па зразумелых прычынах).

Але прычын гэтых дастаткова, каб лічыць сіметрычную пабудову кампазіцыі арнамента тыпу **n-1-n** з'яваю архаічнаю і здатнаю да пазначэння асобага і асобнага светапогляду ды адпаведнай яму мадэлі Сусвету. Гэта значыць, што такі арнамент можа разглядацца як адзін з трох 'зыходных' тыпаў, што па-рознаму развіваюць першасны *аднапалосны* чын. Здаецца, на карысць вызначэння сэнсу такога чыну як дарогі паміж стабільнымі прасторамі гаворыць і актуалізацыя на белых сярэдзінах сіметрычных ручнікоў сімвалаў руху ды істот руху: матылькоў, "вутак", "мушак" (а часам і стрэл, і "кліноў — як птушкі ляцяць"). Як сэнс 'маста' ўвасабляецца ў калодках, "бярвенні", што праходзяць па гэтай сярэдзіне, звычайна паласатай.

Пакуль што 'рамантычнае', нашае дапушчэнне 'статычнасці' такіх кампазіцый звяртае ўвагу і на гістарычныя ды геаграфічныя абставіны сцвярджэння падобнай прасторы. Гэтак магла б увасабляцца ідэя... аседласці побач з качэўніцкімі традыцыямі, што ўспрымаліся б як стыхійныя ("Дзікае поле", "полаўцы"... ды іншыя этнонімы). Апазіцыя статычнасці ды руху ў дачыненні да 'канкрэтнай' сітуацыі магла б весці і да наступнай ідэі: узмацнення межаў і 'агародж' вакол свайго статычнага цэнтра. Урэшце, мы ўзгадвалі аб адпаведнасці пабудовы пэўнага тыпу замоў і сіметрычнай кампазіцыі арнаменту: касмалагічнага абгароджвання цэнтра (зоркамі, медным небам, кап'ём, каменнаю сцяною і г. д.), чаму ў арнаменце знаходзім прамыя адпаведнасці. Прыводзілася вышэй і апазіцыя псіхалагічнага адчування 'сваёй' прасторы: "двору"— "дамоў", што мы зафіксавалі на той жа паўночнапаўднёвай мяжы тыпаў Покуці. Здаецца, тып 'домам', як і 'ўмацаванне' цэнтра ў люстрана-сіметрычнай кампазіцыі, як і архітэктурныя асаблівасці ды многае іншае могуць павязвацца з гэтым "дамоў", што адчувае цэнтрам прасторы менавіта дом.

## 40.2. Сіметрычная кампазіцыя і рытуальная 'адкрытасць'

Замкнуты тып любой кампазіцыі сцвярджае, што рытуальнае развіццё папярэдняга этапу закончанае, што кампазіцыя павінна мець рытуальную ж 'адкрытасць' у іншым вымярэнні. Сапраўды, рытуальная вось уздоўж ручніка захоўвае сваю напругу і ў гэтым сіметрычным тыпе. Аднак да чаго вядуць сваю паслядоўнасць арнаментальныя змены? Да фігуры-выніку ў Цэнтры, які ўтвараецца сіметрычным шляхам да яго паўторных палос і не патрабуе сапраўднага рытуальнага ўдзелу (не лічачы намаганняў ткаллі, якая нанава набірае ўзоры другой паловы 'часу'). Чын замнуўся, і цяпер цалкам дэкаратыўны? Усе дзеянні з ручніком цяпер — дзеянні па старой памяці, бо арнамент не актуалізуецца, не адкрываецца, як то было ў асіметрычных тыпах?

Па-першае, у Цэнтры такога чыну — пара альбо 'тройца' арнаментальных элементаў. Сімвалічнае значэнне любых лікавых радоў — несумненнае. Лік 'тры' мы ўзгадвалі ў сувязі са звычаем тройчы выконваць магічнае дзеянне (напрыклад, замоўнае "казаць на тры зары" і — выявы трох зорак у Цэнтры сіметрычнай кампазіцыі). Сімвалізм 'дваіцы'-пары суадносіцца з сімволікаю вяселля і падаўжэння роду і дзеля таго — жывы (мы разглядалі карпацкі варыянт з пахавальным кілімам і з выяваю адной з пары фігур на



Мал. 57. Стыхія і культура (ручнікі зоны адсялення). 1998 г.

ім без жывога крыжыка ў сярэдзіне, у знак смерці аднога з супругаў). Аднак кожны, хто бачыў, як зберагаюць, *захоўваюць* свае ручнікі неглюбскія жанчыны, здзівіцца. Іх складаюць удвая ўздоўж навыварат, а ўжо потым скручваюць. Так сама скатваюць і губкі палатна. Такі спосаб дзейсны для ўсялякага палатна, ён не выдуманы спецыяльна для ручніка, старэйшы. Акрамя ўтылітарнага, ён захоўвае сімвалічны сэнс захоўвання-захавання рэчы — яе дзікага — стыхійнага — іншабыцця — часовага вяртання ў свет, не належачы чалавеку. Аб тым — загадка: "Гляну ў трубу — ляжыць воўк на лугу" (скрутак палатна).

Як можа актуалізавацца архаічная рыса ў 'новай' сітуацыі? Мы таксама прыводзілі спрэчку неглюбскіх 'манашак' і тых, хто вешае ручнікі, "расьпінаючы на рагульках". Відаць, стары спосаб быў — вешаць, склаўшы ўздоўж удвая, але ўжо на правы бок. Пры такім спосабе 'залішняю' была цэлая палова работы, бо другая палова ўзора глядзела на Той бок. Але акрамя семантычных суадносін Таго і Гэтага, змены ва ўспрыяцці кампазіцыі былі і ў тым, што замест спярша вытканай пары ў яе Цэнтры відныя былі толькі па адной фігуры з Пары — на кожным з разведзеных канцоў.

У неглюбскай Покуці 'домам' канцы — вертыкальныя 'стаўпы'. Выявы Цэнтра — адна насупраць другой, але зводзяцца праз Абраз. Менавіта ён — 'новы рытуальны аб'ект'. Кампазіцыя кожнага канца — рытуальнае прыгатаванне такой фігуры зверху (ад неба) і знізу (ад зямлі). Гэта шлях папярэдніх падзей, у тым ліку і самога жыцця, — да рытуальнага прадстаяння іконе і звядзення фігур-сімвалаў і сапраўдных жаніха і нявесты абразом (абразамі) праз благаславенне бацькоў. Сама ж 'кампазіцыя прадстаяння', як і тып Покуці 'домам', сягае ў даўніну. У Неглюбцы 'домам' вешаюць і ручнікі на могілкавых альбо аброчных крыжах. Таму адна з назваў ручніка-

"накутніка" (гэта 'дах' Кута ў адрозненне ад "набожніка", "набагаўніцы", што пакрые абраз) здаецца павязанаю з агульным абрадавым успрыманнем абодвух комплексаў: "ручнік на хрэст" [32]. Апошняе вядзе нас да недаследаванага — да повязі арнаменту ручніка з культам продкаў, з неадольнаю сілаю Роду.

Праяваю старой энергіі здаецца і новая з'ява: вешаць ручнік на "патрэт", "рамку", на люстэрка. Архетып перажывання 'выявы', 'адлюстравання' як асобнага, адасобленага ад носьбіта яго 'ка' належыць не толькі егіпцянам з іх вынаходкаю фаюмскага партрэта. Экстрапаляцыя ў глыбіню часу рада: фота — абраз... вядзе да падобнага ж падаўжэння: выява... продка(?). Падстаноўка ў гэты рад рэальнага аб'екта ручніковага 'пакрывання' — магілкавага крыжа — вызначае 'семантычны' напрамак магчымых этнаграфічных ды археалагічных пошукаў (ці быў ручнік 'домам' над попелам, ссыпанным у пахавальны посуд, што ставілі "на столпе на путях"?). Упершыню гэты радзіміцкі летапісны звычай археолагам удалося ўзнавіць па рэштках пахавання менавіта ў Нісімкавічах, што належаць бабіцкай ручніковай традыцыі (гл.: Археалогія Беларусі. Т. 3. С. 68).

Ці не з'яўляюцца апошняю памяццю аб такіх 'дарожных' духах продкаў распаўсюджаныя ў рэгіёне, у радзіміцкіх месцах, міфалагічныя ўяўленні аб "*дабра*ходжых", "нявідзімых багатырах", што ходзяць "па дарогах і па раскрэсах" і караюць менавіта тых, хто парушае законы зносін паміж Тым і Гэтым Светам, хто не шануе дарог як пэўнай сакральнай прасторы? Мы адзначаем толькі тыя рысы гэтага разраду дэманалагічных істот, што адрозніваюць іх ад іншых, і не маем мэты даследваць складаную этыялогію ды структуру вобразу (Гл. па матэрыялах ВМНТ: Лапацін. 1998. С. 411—413). Аб 'дарожнай' семантыцы шэрага ўзораў у мясцовых традыцыях і магчымай сувязі гэтай арнаментальнай тэмы з вобразам "дабраходжых" мы ўжо ўзгадвалі.

Вяртаючыся да больш канкрэтнага — да ранейшай гіпотэзы аб паходжанні чыну тыпа **п-1-п** праз 'згортванне' і люстраное падваенне асіметрычнага чыну **а-б-в-г...**, параўнаем сіметрычныя неглюбскія ды асіметрычныя калінкавіцкія ручнікі (цяпер дадаўшы да іх і асіповіцкія). Яны ўсе — бранага чыну. Патрэбна адзначыць, што чын першых мае значна большую ўстойлівасць, яго архаічныя знакі — тыя, што 'рассыпаныя' ў мясцовых чынах і сцвярджаюцца імі ў іншых злучэннях альбо паасобку. Гэта сведчыць аб мясцовым альбо больш архаічным параджэнні неглюбскага чыну. Пытанне аб магчымым паходжанні яго праз 'згортванне' асіметрычнай 'кампазіцыі паслядоўнасці' сягае ў глыбіню часоў. І калінкавіцкія ды асіповіцкія тканіны выглядаюць не як 'бацькі', а як тыя, што часткова захавалі старажытны імпульс ды развілі яго менавіта ў сваім варыянце.

## 40.3. Сіметрычныя і асіметрычныя кампазіцыі і прасторавыя ўяўленні

Першаю адзнакаю з'яўляецца адзіночны сімвал. Такі — на сарочцы дзіцяці-фараона (гл.: 5000 ans de textiles par Jennifer Harris. 1994. S. 61), на беларускіх археалагічных тканінах (мал. 59) і — архетыпічна — вышытыя адзінкавыя знакі на тканых узорных ручніках, як з Белай Дубровы. Аднак і чырвоная паласа — адзнака мяжы і краю — не менш, а магчыма, і болей старажытная



Мал. 58. Двор у Белай Дуброве на Беседзі (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

(па гэтай чырвонай "намётцы", нейкай меры, па якой разразалі знятае з кросен палатно, па мясцовых уяўленнях, і назва: "намётка", намітка). Што застаўляе адзінкавыя сімвалы выстройвацца ў рад уздоўж мяжы і ператварае іх ва ўзор? Гэта пытанне — не 'нашага' часавага перыяду, але розныя чыны ручніковага арнаменту могуць быць сведчаннямі рознай культурнай інфармацыі.

"Зводжаныя" і "сушчэленыя" арнаментальныя элементы перадаюць пэўнае ўладкаванае мноства, адзіны знак прытым павялічвае альбо падоўжвае сваё дзеянне на працяг усёй 'мяжы' праз магічнае памнажэнне (тры, чатыры, сем, дзевяць...). Пакінем за мяжой разгляду сам лік. Самае простае — пазначэнне тэрытарыяльнай мяжы тымі касымі крыжамі, што зваліся і 'грані', ад чаго 'граніца'. Такія ёсць і ў ручніковых чынах. Магчыма, знакі маёмасці розных родаў маглі ўвайсці ў іх чыны, але, хутчэй, на ўзроўні этнавызначальнага прынцыпу. Фонды арнаментальных элементаў, аднак, прадстаўляюць *паслядоўнасці розных знакаў*, і няма чаго адмаўляцца ад іх чытання як сімвалаў рознага стану культурнага засваення пэўных прыродных існасцей — будзь то распрацоўка зямлі, будаўніцтва альбо полаўзроставы стан чалавечага жыцця.

Мы бачым, што ў традыцыйнай культуры пазначаюцца менавіта межавыя сітуацыі — пераход з адной абрадавай прасторы-часу да другой. Прычым кожны 'цыкл' разумее сябе як прастора-час з цэнтрам і ўласнымі ме-

жамі. Аднапалосны сіметрычны чын можа памятаць менавіта аб адным такім 'хронатопе' (няхай то будуць святы веснавога цыклу альбо стан дзявоцтва). У прасторы-часе большага памеру ён згортваецца і робіцца мяжою. Цяпер перайсці да другой прасторы можна праз белы 'прасвет', які не мае культурных знакаў, але па якім часта бываюць вытканыя белаю саржаю белыя ж сімвалы. Альбо праз чырвоную "вольную палоску", дзе няма культурных знакаў, але самая чырвань яе — пазнака сакральнасці. Альбо праз белафонавую паласу са 'стыхійнымі' знакамі, дзе белае 'прасвету' і чырвонае 'вольнай паласы' даюць выяву сакральнай плыні — "вялікай (краснай) крывулі". 'Культурны' знак наступнага 'цыклу' таксама імкнецца да памнажэння ўздоўж мяжы, якой перайсці ён не мае права, бо тут — яго 'зона' дзеяння.

Што — у 'эмпірычнай' (геаграфічнай) прасторы той жа вёскі альбо абшчыннай тэрыторыі? Мы ўбачым, што абрадава адзначаныя — менавіта межы ўсё больш шырокай прасторы (а*колі*цы, а*кругі*, о*крест*ности, нава*колл*я — пры яўным выдзяленні геаметрычнага сімвала цэнтра — у самой этымалогіі слоў). Мы ўбачым, што 'зоны' абрадавых дзей (старажытнае "межи сёла") моладзі супадаюць з такімі сімвалічнымі межамі, што асобныя чалавечыя істоты яднаюцца ў карагоды — лініі "сушчэленых" сімвалаў, са складаным і паэтапна зменлівым малюнкам руху. Мы ўбачым натуральнае ўзнаўленне сітуацыі на 'пазарэгіянальных' ручніках, калі па мяжы старой геаметрычнай кампазіцыі будуць вышытыя ці вытканыя сапраўдныя рады чалавечых постацей.

Аднак сінкрэтычнае 'ўсё ва ўсім' звяртае нашую ўвагу да ініцыяцыйных каранёў полаўзроставых абрадаў і сімвалічнай замацаванасці тэрыторый за пэўнымі групамі, ажно да закрытасці месцаў і знакаў. Як да агульнай рытуальнай пазначанасці пачаткаў і канцоў усіх гаспадарчых работ і межаў гаспадарчых тэрыторый. Цяпер нішто ўжо не перашкаджае адчуць у параўнанні розных ручніковых кампазіцый з рэальнымі культурнымі прасторамі не толькі метафарычны сэнс. Калісьці нязвыклы для нас асіметрычны белапрасветны паласаты палескі ручнік інтуітыўна здаўся 'сімвалічным планам'. Так магла б увасабляцца прастора 'асіметрычнай' гаспадаркі палешука з размяшчэннем сялібы, нівы, сенакосу — на розных і ўсё больш аддаленых выспах, куды пераплаўляліся часам на чоўнах-катамаранах разам з канём і сахою, і нават: "На лодках везли хоронить умерших, а в день радуницы плыли на кладбище, чтобы почтить память родственников" (Титов. 1983. С. 137—138, 147). Але гэта толькі самы знешні слой падабенства, які, бы тая выспа, высіцца над 'дрыгвою' нашага няведання. І дрыгва ж была цэлым сусветам для дрыгавічоў, са сваёю структураю гаспадарчых, рытуальных дзей ды міфалагічных уяўленняў.

Калі рассцяліць ручнік, атрымаеш шлях паміж родамі (напрыклад вясельны). Кожны канец можна разглядаць як згаданы намі 'сімвалічны план' культурнай прасторы. Аднак палатно — вузкая паласа тканіны — адлюструе не ўсё яе кола-'наваколле', а шлях праз гэту прастору; праз межы да цэнтра (ён жа і край) альбо: праз межы — цэнтр — межы. Параўнайце: у палескай вёсцы "узкая длинная улица имела членение на "белый" (со стороны въезда, где обычно стоял деревянный крест с распятием) и "чёрный" концы... участки улиц и переулки часто назывались... "лавами" (пры назве для палос

узораў ва ўкраінскім палескім ручніку: "лавы" — гл.: Булгакова. 1999. С. 330—332) і: "В Поднепровье... более чётко выявляется планировочная структура сёл. Наличие... центральной части и концов... дворы как бы тяготели к общему центру, где обычно располагались православная церковь... общинный амбар, колодец и пр." (Титов. 1983. С. 121—122, 139). Аднак і: "Поселения славян 1-й половины 1-го тысячелетия на юге Белоруссии представляли собой прибрежные селища, укреплённые городища [комплекс], которые являлись *центрами* общественной жизни" [для сельскай абшчыны, што складалася з некалькіх асобных родавых груп — *Г.Н.*]. І яшчэ раней на поўначы Беларусі вылучаецца асобы рэгіянальны тып забудовы: "С VI в. до н. э. по II в. н. э. ...городища, застроенные многокамерными общинными домами" (так званымі 'доўгімі дамамі' — *Г.Н.*).

Імпульс бесперапыннага 'аднадахавага' жытла для жывых і доўгага кургана для мёртвых павінен быў мець ментальнае напаўненне і падаўжэнне, магчыма, і ў арнаментальнай формуле 'бесперапыннага пульсавання' ў 'вертыкальным' тыпе ручніка (аб архітэктуры гл.: Локотко. 1991. С. 21—22). Мадэль культурнай прасторы дзейнічае на ўсіх пашыраючыхся 'колах' мікракосму. Стары імпульс, магчыма, удзельнічае ў іх структурызацыі не менш за гістарычныя абставіны. Так, існуе меркаванне, што як этнічная традыцыя, "народный обычай погон [пагоннага тыпу двара, калі пабудовы пад адным дахам ішлі па адной восі, параўнайце тэрмін "пагоны" для ўзора ручніка — *Г.Н.*] восходит к старосветской дреговичской усадебной застройке" (Локотко. 1991. С. 88, дзе цытуецца думка ранейшага даследчыка; гл.: Сербаў. 1928. С. 9). Дадамо, што такія 'пагонныя' пабудовы чаргуюцца па функцыі як жытло (чалавека альбо жывёл) — месца захоўвання (запасаў, сена, інвентару) — жытло — і г. д. Парадак чаргавання адпавядае старой міфалагічнай схеме ахвярапрынашэння: чалавек, конь, буйная рагатая жывёла, мелкі скот, птушкі, 'зоны' якіх аддзеленыя адна ад адной 'сховішчамі'... Ці не той жа гэта імпульс, што дзейнічае ў асіметрычным паласатым ручніку? І тыя выразна розныя адносіны да пазначэння псіхалагічнага цэнтра сялібы, што мы адзначылі ў розніцы тэрмінаў: Куды йдзеш? — "Двору" альбо "дамоў" — праявы пэўнага старога імпульсу. Магчыма, тую сіметрыю і асіметрыю, што шукаў у міфах і рытуалах індэйцаў Клод Леві-Строс, нам прыйдзецца шукаць бліжэй. "В истоке различий, введённых в мифологичекие системы, лежат сходства, воспринятые в плане ритуалов, служащих, так сказать, сцепкой форм технической и экономической форм деятельности с идеологией" (Леви-Строс. 1984. С. 368).

Зразумела, што сімвалы, замацаваныя за пэўнымі 'зонамі' і 'межамі', 'маркіруючы' пэўны стан чалавека альбо этап гаспадарчых работ, калісьці мелі і прыкметы міфалагічнага 'ахоўніка' дадзенай 'тэрыторыі'. Рэшткі колішніх уяўленняў захаваліся ў безлічы моўных і абрадавых тэкстаў. У адносінах да арнаменту спробы знайсці такія адпаведнасці найчасцей выглядаюць некарэктна, бо адлюстроўваюць не столькі верагоднасае пранікненне ў арнаментальную і ментальную структуру традыцыі, колькі ўзровень ведаў і міф самога даследчыка. Але адпаведны навуковы вопыт даследавання моўных і абрадавых тэкстаў дае надзею і нашым пошукам.

...Сённяшнія беларускія даследчыкі пільна ўглядаюцца ў архаічныя тыпы ручнікоў на ўсёй тэрыторыі краіны, таксама як і за яе межамі, бо тыпы тканін паказваюць узрост большы за апошнія стагоддзі. Узаемадзеянне ўсходнеславянскіх плямёнаў — шырэйшае за межы аднаго краю, як і фармаванне пазнейшых этнічных груп, разыйшоўшыхся з мясцін сваіх продкаў. Напрыклад, ці былі чырвонапалосныя ручнікі заўсёды такімі? Гэта найпрасцейшы пачатковы імпульс, альбо згаслы, страціўшы арнамент чын, альбо штодзённы (‘будзённы’ альбо “абыдзённы”?), без знакаў свята варыянт ‘рытмічнага’ здзяйснення традыцыі? Апазіцыі “глухога”, “сляпога” — “відушчага”, “зоркага”, маючага ўзор, выяўляюцца як прынцып у самых архаічных нашых чынах. Далейшае раскрыццё тэмы з неабходнасцю далучае да аб’ектаў доследаў строі народнага адзення, да чаго мы ў дадзенай рабоце ледзь дакранаемся. Заходнепалескія строі маюць цудоўныя развітыя чыны бранага арнаменту з паслядоўнай зменаю матываў у шэрагу палос, як і чырвонапалосныя ‘глухія’ варыянты (гл.: Раманюк. 1981. С. 5 і далей).

Сярод пытанняў — і ўдзел старэйшых чыноў у фармаванні ‘новых’ на засвоеных землях. Такі — удзел крывічоў у засяленні цвярскіх зямель... На цвярскіх тканінах — чаргаванне вельмі блізкага нам бранага арнаменту і выяўленчых матываў (гл.: Калмыкова. 1981. Ил. 57, 58, 60, 61 и др.). Але чые браныя вузкія палосы (асабліва з вертыкальнымі стоўпікамі)? Тыпалагічнае вывучэнне тканых ручнікоў павінна прынесці новае разуменне працэсаў у іх, тым больш, што тыпалагічнае аказваецца праявамі старой роднасці.

Археалагічныя доследы сёння паказваюць фармаванне груп славянаў на археалагічных культурах, якія адмяняюць звыклы падзел паходзячых ад іх плямёнаў на ўсходніх, паўднёвых, заходніх... Крывічы, якія фармаваліся на культуры доўгіх курганоў, вядомай у V—X стст., сапраўды маюць асобны шлях. Дрыгавічы блізкія да заходніх славянаў, бо іх парадзіла адзіная пражская культура (V—VII стст). Іх група — паўднёва-заходняя. Радзімічы ўваходзяць у паўднёва-ўсходнюю групу і блізкія да севяран, вяцічаў, данскіх славянаў. Усе яны развіваліся на роменска-боршаўскай культуры, а тая — на валынцаўскай (VII—VIII стст.)... Пошукі адпаведнасцей сіметрычнай кампазіцыі неглюбскіх ручнікоў павінны быць прадпрынятыя і ў гэтым паўднёва-ўсходнім напрамку, да культур, якія мелі супрацьстаянне і мяжу з качэўніцкімі плямёнамі. Доследы рэгіёнаў, падобных да ‘нашага’, могуць прынесці станоўчыя вынікі і сапраўдныя адкрыцці. Зноў звяртаючыся да археалагічных рэчаў, што характарызуюць розныя групы славянскіх плямёнаў, знаходзім рысы, якія, здаецца, ёсць і ў групах ручнікоў ды формах іх абрадавага выкарыстання.

*Завязаныя* канцы крывіцкіх скроневых колцаў — і форма Покуці са *злучанымі* канцамі ручніка, з арнаментам, скіраваным на паяднанне. *Падоўжныя* ланцуговыя ўзоры *змеепадобных* крывіцкіх бранзалетаў з заходзячымі адзін за аднаго канцамі (гл.: Археалогія і нумізматыка Беларусі. 1993. С. 237) — і падобныя рытмы арнаменту на *вертыкальным* тыпе паўночных тканін ды іх “сашпільванне” (бы архаічнае адзенне) у Покуці.

*Сіметрычныя* і цэльныя — літыя сяміпромневыя колцы радзімічаў, сямілопасцевыя колцы вяцічаў (севяране мелі прамянёвыя і спіральныя колцы). На асобных лопасцях колцаў вяцічаў — *розныя* геаметрычныя знакі, маючыя




Мал. 59. Узорныя тканіны з курганаў XI—XIII стст. Смаленскай і Маскоўскай вобласцей (паводле М. Н. Левінсон-Нячаевай)

тэндэнцыю да сіметрыі ў напрамку да галоўнай цэнтральнай лопасці. Сіметрычныя — кампазіцыі арнаменту ручнікоў на паўднёвым усходзе Беларусі.

Скроневыя колцы дрыгавічоў — '*кіеўскага* тыпу' — маюць па тры пацеркі, насаджаныя на круглы дрот *асобна*, праз прамежкі. Магчыма, супадзенне — размяшчэнне арнаменту ў *асобных* палосах на 'дрыгавіцкіх' ручніках. Пацеркі насаджаны *асіметрычна*. Іншыя скроневыя колцы ў дрыгавічоў маюць заходзячыя адзін за аднаго канцы. Кампазіцыя арнаменту палескіх ручнікоў застаецца *асіметрычнаю*, скіраванаю на з'яднанне, магчыма, і такім 'заходзячым' чынам (але тып Покуці іншы, чым у паўночным варыянце са счэпленымі канцамі). Таксама павінны прыцягнуць увагу даследчыкаў адпаведнасці ў тонкай ювелірнай распрацоўцы дрыгавіцкіх металічных зярнёных пацерак — і ў распрацаванасці, падрабязнасці мелкага



Мал. 60. Крыніца пад старою вольхаю каля в. Бярозкі (Хоцімскі раён). 1998 г.

бранага ўзора на палескіх ручніках. Таксама, як і ўражлівае чаргаванне пацерак: зярнёных *круглых* і *рамбічных* чырвоных сердалікавых. Яны нагадваюць чаргаванне шматнітовага аднаутковага 'дрыготкага' палатна і чырвоных узорных палос с перавагаю рамбічнага арнаменту.

Магчыма, склад колераў пацерак ускосна паказвае на схільнасць да адпаведных колераў і ў узорным ткацтве. Для славянскіх аздабленняў паўднёва-ўсходняй групы характэрнае — чаргаванне празрыстых крышталёвых і 'чырвоных' сердалікавых пацерак. Прычым, устойлівая — рамбічная форма сердалікавых. На ўзоры воратаў кашуль знойдзем тэмы і назвы: "жарэллейкі", "гарлячкі". Аднак і самі археалагічныя пацеркі маюць невыпадковыя формы і колеры.

Але перайсці з прасторы верагоднасцей у свет даказанага і павязаць археалагічныя факты з этнаграфічнымі наўрад ці ўдасца сёння альбо заўтра. Жыццё тканін падобнае да жыцця любой арганікі — цела пераходзіць у тлен, не пакідаючы слядоў, бо матэрыяльныя знакі на ім знікаюць разам. Асабліва калі перадаваць інфармацыю да неба з дапамогаю агню, які ахвотна




Мал. 61. Схема занальнасці і арнаментальных кампазіцый на неалітычнай кераміцы і тканых ручніках (паводле матэрыялу В. Г. Шолахава "Археологическая керамика и традиционное ткачество"): *1*, *1*А, *3* — ур. Ліпавы брод, Чачэрскі раён; *2*, *4*, *4*А, *5* — ур. Стрэліца, Веткаўскі раён; *6* — в. Гнездзінка, Хойнікскі раён

чытае тканыя тэксты... як і нашыя папяровыя кнігі. Застаецца толькі ментальная патрэбнасць узнаўляць іх у бесперапыннай перадачы духоўных каштоўнасцей ды іх знакаў — узораў — на працягу вякоў.

...Увесь рэгіён дае мноства варыянтаў развіцця цэласных кампазіцый ва ўзрушаным калісьці 'спакоі' старых чыноў. Альбо 'хвалі' рухаліся безупынна, ствараючы жывую змену ўзораў на 'ручніковай' паверхні ўсёй мясцовасці? Апошняя здаецца этнічнаю картаю, выкананай нязвыклым для нас, але найдакладнейшым спосабам...

## 40.4. Белафонавы цэнтр кампазіцыі. 'Прастора абраду' і 'водападзел'

Паміж белафонавым цэнтрам кампазіцыі дубраўскага ручніка (падоўжана-сіметрычнага, яруснага па паходжанню, белага чыну) і белым цэнтрам-паласою ў 'пераходных' паласата-арнаментаваных тканінах існуе значная розніца. Поўдзень (дубраўская традыцыя) узнаўляе 'ярусны' сэнс цэнтра



Мал. 62. Рытмы прыроды — рытмы тканіны. Ручнік з Вяжноўкі (Краснагорскі раён). 1998 г.

як прасторы рытуальных дзеяў. Яны адбываюцца на вузкай палосцы 'зямной цвердзі' і скіраваны да 'нябеснай цвердзі'. Тут бачым выявы накшталт культавых аб'ектаў (квітнеючы ромб зямлі з калодзежам у ім, геаметрызаванае дрэва, чалавечую постаць), ачоленых нябеснымі знакамі (на вузкіх палосах зверху і знізу). На паўночным усходзе (прытокі Беседзі), калі ставіць у цэнтр белафонавую паласу, дык у планіметрычнай па паходжанню кампазіцыі яна мае характар мяжы дзвюх чырвонафонавых, 'зямных' палос. Найчасцей тут — вялізная, насычаная крыжамі чырвоная "крывуля", "вялікая крывуля". Чыста метафарычна можна асацыіраваць яе з пэўнай воднай мяжою. Мы памятаем, што менавіта як 'незямныя' засвойваюцца закладныя знакі ўсімі чырвонапалоснымі традыцыямі. Рознае семантычнае адчуванне белага фону пацвярджаецца. Удзельнікі *захоўваюць яго 'незямны' сэнс,* але праз рознае стыхійнае ўвасабленне: *паветра альбо вада.* Магчыма, гарызантальныя "крывулі" абавязаныя сваім захаваннем і адпаведным па форме веснавым карагодам — "крывым танкам", якія, па сведчанню даследчыкаў, характэрныя для паўднёвых раёнаў Беларусі і павязваюцца з блізкасцю да Украіны (Чурко. 1990. С. 95 і далей). Аднак мясцовыя ды блізкія археалагічныя аналагі ўзора "вялікай крывулі" ды формаў "крывых танкоў" (мал. 61, 62; гл. таксама: Каробушкіна. 2000. С. 74) сведчаць аб магчымым этнавызначальным характары такіх узораў і абрадавых дзеянняў. Узрост іх старэй за славянскі падзел плямёнаў.

# 41. АД РАДЗІМІЦКАГА ПРАПОШАСКА НА САЖЫ — ДА СЕВЯРАНСКАГА МІЖРЭЧЧА ІПУЦІ—ДЗЯСНЫ

‘Адслежванне’ плыні традыцый папярочнапаласатых пераборных ручнікоў правяло нас з поўначы на поўдзень па шляху, які яднае Палуж (правы прыток Беседзі), Палонку (левы — Беседзі) і Віхолку (правы — Іпуці). Яго працягласць — каля 80 км. Пачаўшыся з асіметрычных ‘краснапольскіх’ ручнікоў, плынь набывае сіметрыю ў казацка-балсунскіх і павялічвае актыўнасць белага ў Верашчаках (Віхолка, упадае ў Іпуць). Яна мае тры зоны сваіх зменаў, што бачна па тэхніцы ў рэчах старэйшага фонду: 1) перабор пад палатно па рыпсу — затым аднолькавы па шагу для ч/ф і б/ф; 2) перабор розны для белых і чырвоных фонаў, цотны метр, палатно; 3) узнікненне няцотнага метру (3—1—3), бранае ткацтва ва ўзорных калодках.

Вернемся, аднак, да ўзорных калодак. Яны робяцца такімі ў Верашчаках. Але чырвоныя фоны асноўных узораў, як і ‘пераходныя’ калодкі, тут ‘памятаюць’ пра тое, што ва ўзаемадзеянні (гіпатэтычна ўзорнапалосны і закладны чыны) удзельнічае і трэці чын — чырвонакалодкавы. На апошнім этапе гэта Неглюбка ды яе нядаўняя ‘дыктоўка’ Верашчакам па тэме чырвонафонавага арнаменту (гл. тэхналагічнае апісанне гэтых дзвюх традыцый).

Браныя ўзоры мы бачым у некаторых калодках з Верашчакаў (гл. фота 283, 319, 327, 341), Кацічаў (гл. фота 344), Старых Бабовічаў (гл. фота 281), Новых Бабовічаў (гл. фота 280, 290—292), з Нясвоеўкі (гл. фота 330, 333), у блізкіх да іх неглюбскіх пасёлках (гл. фота 278, 284, 298), у аздабленні запінаў з Ялоўкі (не рэпрадуцыруюцца). Усе — уздоўж Віхолкі (у Іпуць). Ёсць такія калодкі і на суседнім прытоку Іпуці — Ачосе (гл. фота 288, 296, 298, 351), на левым баку Іпуці, у Новым Месце (фота 428) ды Вышкаве (фота 297, 298). Бачна, што такія ўзорныя калодкі ёсць і ў браных, і ў пераборных ручніках.

Але мы дзесьці раней бачылі такія “каробачкі” (Негл.), ромбы і ‘бабачкі’. Першыя нібы сышлі з ‘чырвоных гарадкоў’, альбо ў згорнутым выглядзе самі ‘гарадкі’ ўвайшлі ў зрошчаную кампазіцыю (параўн. фота 315, 321 і 422).

Другі і трэці матывы таксама знаходзім у паласатых ручніках з белымі прасветамі. “Беларускі ручнік” (С. 136) і “Беларускія тканіны” (мал. 237—241, 242, 259, 269) публікуюць матэрыялы са Слаўгарадскага і Быхаўскага раёнаў (гл. таксама: Лабачэўская. 2002. Мал. 80—83 і фота на С. 64—65). Асноўная прыкмета гэтых тканінаў — разнастайны паўтор вузкіх браных калодак з узорамі ў ‘квадрацiках’, якія кантрасна чаргуюцца па колеры: чырвоныя — белыя. Адтаго і арнаментальны матыў ‘квадрацікаў’ паўтараецца то пазітыўна, то негатыўна. Ромбік альбо ‘бабачка’ (той жа агульнакультурны ‘ляб-

рыс', 'падвойная сякера') выконваюцца то чырвоным па белым, то белым па чырвоным. Другая прыкмета, што падаецца ўстойлівай, — гэта вузкія гарызантальныя "пруткі", на якія нібыта 'насадзілі' ўзор (падобнае — і ў 'чырвоных гарадках'). "Пруткі" праходзяць альбо праз сярэдзіну 'бабачак', альбо паміж падвойнымі ромбамі. Тэрмін "пруткі", "на прутку" захаваўся і ў нашых мясцінах. Знайшлі ручнік з 'квадратным падзелам' і 'бабачкамі-лябрысамі' ў Неглюбцы. Пэўна, яго прынесла чыясьці нявестка (**фота 423**). Але ці ўпершыню?

Гэтыя новыя дадзеныя прымусілі нас перагледзець нашыя ды раней публікаваныя матэрыялы. Аналагі 'квадрацікам' (з сістэмамі ромбаў альбо 'бабачак' і "пруткамі") знайшліся ў суседніх са Слаўгарадскім раёнах — Краснапольскім (Фадзеева. 1994. С. 136; Беларускія тканіны. Мал. 242), Быхаўскім (Беларускія тканіны. Мал. 259, 269), а таксама далёка на захад — па правы бок Дняпра: у Калінкавіцкім (Беларускія тканіны. Мал. 276; Лабачэўская. 2002. Фота 43, 45—46. З нашай калекцыі **фота 426**); у Хойніцкім і Брагінскім раёнах (Лабачэўская. 2002. Фота 49) і ў Светлагорскім (Беларускія тканіны. Мал. 282, 283) Гомельскай вобласці, у Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці (Лабачэўская. 2002. Фота 7). Кампактны рэгіён з 'нашым' арнаментам — Слаўгарадскі, мяркуючы па публікацыях.

## 42. УКЛЮЧЭННЕ ПЫТАННЯ ПРА 'КВАДРАТНЫ ПАДЗЕЛ' У КАНТЭКСТ ШЫРОКАГА ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ

Удакладненні аналізу экспедыцыйнага ды літаратурнага матэрыяла прыводзяць да думкі, што тэмы: 1) 'чырвоных палос' (белапрасветных паласатых ручнікоў з 'гладкімі' палосамі); 2) 'чырвоных гарадкоў' (такіх жа ручнікоў, але з гарадчастымі складанымі палосамі — вузкі браны ўзор паміж парамі чырвоных "вольных палосак") і 3) 'узорных палос' (белапрасветных паласатых ручнікоў з узорнымі палосамі, магчыма, тыпу **а-а-а...**) — сталіся падасноваю *розных калодак* і ўдзельнічалі ў працэсах фармавання арнаменту шырокага кола традыцый. Паміж імі — і тыя ўзорнапалосныя кампазіцыі, што маюць 'квадратны падзел' узорных палосаў з двума варыянтамі элементаў (1 — лябрысы-'бабачкі'-касыя крыжы; 2 — ромбікі).

Сёння па літаратуры знойдзем рэчы 'з квадратным падзелам' узора ва ўсіх вобласцях Беларусі. Магілёўская вобласць захавала найбольшую колькасць тыпаў і рэчаў. Калі дадаць вынікі доследаў дадзенага зборніку (матэрыялы Хоцімскага, Краснагорскага, Веткаўскага, Добрушскага, Навазыбкаўскага раёнаў), можна лічыць, што нашыя 'прыватныя' і гіпатэтычныя 'адказы' ператвараюцца ў адно вялікае 'пытанне'. Структура аналізу змяняецца і паглыбляецца з кожным крокам, але яе аснова застаецца адзінаю сістэмаю, кожны пункт якой можа структуравацца. Намаганні музеяў маглі б суміравацца ў адзінай Праграме і спрыяць выхаду на якасна новы этап доследаў (гл.: Нечаева. 2003. С. 153—155).

Усе 'актыўныя' ў адносінах да 'квадрацікаў' вёскі мясцовых традыцый — уздоўж Віхолкі, якая ўпадае ў Іпуць, а на поўнач праз Палонку злучаецца з Беседдзю. Там, ля Краснай Гары (на картах XVI ст. Папова Гара) упадае ў



Мал. 63. У в. Кацічы (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

Беседзь, Палуж — 'мекка' 'краснапольскіх' ручнікоў. Палуж пачынаецца каля Краснаполля, побач з Тур'ёй, якая цячэ ў Сенну, а тая — у Сож вышэй Слаўгарада. На ўсім гэтым шляху з поўдня на поўнач былі набыты чырвонапалосыя ручнікі з 'гарадкамі' і з тымі ж 'квадрацікамі'. Вядома, што Бабовічы (на Віхолцы) пазначаны на карце XVI ст. Таксама вядома, што Насовічы ды Карма Добрушскага раёна не маладзейшыя. Вышкава, Вярашчакі, Неглюбка, Ялоўка, Свяцк ды Забор'е, хутчэй за ўсё, з'явіліся ў канцы XVII ст. і, як вядома, належалі Кіева-Пячорскай Лаўры.

Гісторыя адной вёскі — прыклад агромністага аб'ёму інфармацыі, якая чакала б нас, калі б мы ведалі гісторыі ўсіх. У 1723 г. у Неглюбцы было 47 сялянскіх сядзібаў і 14 хат беззямельных бабылёў. У 1816 (нават пасля вайны 1812 г.) — 260 сем'яў, 976 чалавек, а ў 1850 — 1976). Дваццаць адно прозвішча сустракаецца ў Неглюбцы па некалькі разоў (большасць з носьбітаў іх і да сёння жывуць тут). Хутчэй за ўсё, гэта нашчадкі першых насельнікаў. Класічнага прыгону тут не ведалі, бо былі сялянамі манастырскімі, а пасля 1781 г. — дзяржаўнымі (шлюбныя сувязі для дзяржаўных сялянаў часоў пры-

гону маглі ўсталявацца толькі паміж іх жа вёскамі. Гэта стрымлівала перамешванне ўзораў. Магчыма, сацыяльная прычына адкрыла б гістарычныя асаблівасці фармавання традыцый вышэй па Сожу ды Беседзі. Так сцвярджае У. П. Аляксееў у нарысе "Из истории села Неглюбки" (Аляксееў. 1997. С. 12). Мы ж дададзім, што дэмаграфічны выбух у тагачаснай Неглюбцы непазбежна пацягнуў у культурны дыялог мноства майстрых-нявестак, аддадзеных у заможную Неглюбку з навакольных вёсак. Магчыма, трывалыя шлюбныя сувязі завабілі ў рэгіён і носьбітаў некалькіх чырвонапалосных традыцый: 'чырвоных гарадкоў' з іх бранымі "каробачкамі" паміж чырвоных "вольных палосак", такіх жа 'гарадкоў' з 'бабачкамі' і вядомых нам па слаўгарадска-быхаўскім ручнікам негатыўна-пазітыўных 'квадрацікаў' з ромбікамі ў іх. Аднак бачна, што апошнія ўвайшлі ў чын бабовіцкай старэйшай традыцыі *без чырвонакалодкавага афармлення і, магчыма, раней за працэсы ў Неглюбцы* (фота 278, 297, 298).

Мы разгледзелі магчымы шлях пранікнення ўзорных матываў у калодкі нашых традыцый з поўначы. Аднак гэты шлях мог быць адною з 'галін' вялікага дрэва ўзаемадзеянняў. Новыя працэсы накладаліся на старыя ўзаемадзеянні. Большасць узорных тыпаў паласатых белапрасветных ручнікоў у вялікай плыні тканін гіпатэтычна дрыгавіцкага паходжання пульсуе на поўдні — уздоўж Прыпяці. Тут яны альбо атрымалі 'падпітку' арнаменту з паўднёвых зямель, дзе дрыгавічы мяжавалі з драўлянамі, альбо захавалі стары геаметрычны чын, у якім 'прарасталі' агульныя, 'паўднёва-заходнія' археалагічныя карані. У 'нашым' куту сыходзіліся межы гэтых ды 'паўднёва-ўсходніх' культур. Паўднёвае паходжанне ўзорных калодак з матывамі 'ромбікаў у квадраціках' патрабуе даследавання, блізкі матыў адзначае В. Лабачэўская ў Кіеўскай вобласці (гл.: Лабачэўская. 2002. С. 85). Вертыкаль рачных пратокаў, якую мы прасачылі ў міжрэччы Сожа — Іпуці звяртае да сябе ўвагу і таму, што гэта — пэўная ўсходняя мяжа... Надыйшла пара стварэння карт асобных прыкмет ручнікоў, як тое робяць археолагі альбо этналінгвісты. Накладанне такіх карт адна на адну, магчыма, выявіць і архаічную інфармацыю. Мы робім толькі першыя крокі.

## 43. ГІПОТЭЗА: ПЕРАБОРНЫ НЕГЛЮБСКІ РУЧНІК — ВЫНІК УЗАЕМАДЗЕЯННЯ 'ПРЫШЛАЙ' І АЎТАХТОННАЙ ТРАДЫЦЫЙ

Справа ў тым, што ў Неглюбцы, як і ва ўсіх пералічаных вёсках, заснаваных пасля 1686 г., існуюць два чыны ручнікоў. Пераборны чын, магчыма, паходзіць ад прынесенага сюды гатовага закладнога чыну, дзе ўзоры месціліся *паміж чырвоных гладкіх калодак*. Аднак паралельна існуючыя побач чырвонакалодкавыя чыны розных тыпаў і тэхнік адмяняюць гэты варыянт механістычнага займавання гатовага чыну.

Уласны чын неглюбскіх ды блізкіх "закладаў" захаваўся ў галаўных "платках" ручніковага тыпу. Гэта "чаўны", "калёсы" — для асноўнага ўзора краю платка, і калодкі, "хрясты", "мухі", "цярэшкі" — для запаўнення белай прасторы. Па рэштках узнаўляецца апазіцыя: "чаўны", "цярэшкі", белае поле — адзнака старых жанчын; "калёсы", калодкі, "хрэшчыкі", чырвань —



Мал. 64. Парасткі-блізняты на ліштвах у в. Кацічы (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

адзнака "малодак". Неглюбскі звычай дарыць маці жаніха на вяселлі шытую белымі ўзорамі "*белявую* суэльную сарочку", у якой яе потым і хавалі, у той час як свякроўка дарыла нявестцы *чырвоныя* платкі, доўжыць семантыку "чаўноў" ды "калесся" да ўзнаўлення міфалагемы пра 'транспартныя сродкі" Таго і Гэтага Свету. "Платкі" ручніковай кампазіцыі, але па форме прамакутнікі, па экспедыцыйных дадзеных, 'пачынаюцца' ад Баханоў ды Янаполля Хоцімскага раёна (дзе яны яшчэ(?) без закладаў, чырвонапалосныя). Тамашняя назва асэнсоўвае незвычайную форму: "круглякі" (ЭМ, сш. 77, л. 10аб,16). Трапілася і форма, пераходная ад наміткі: дзве полкі паяднаныя накшталт полак абруса. Але яшчэ ў Макарычах Краснагорскага раёна (кіламетраў за шэсцьдзесят ніжэй па Беседзі) форму ўспрымаюць як 'некананічную'. Нявеста дорыць платкі: "Не дзівіця, сваточкі, што кароткі платочкі, ляны не ўрадзілі, платкі ўкараціліІ" (ЭМ, сш. 81, л. 9). Макарычы згадваюцца сярод вёсак Кіева-Пячорскай Лаўры.

Мы затрымаліся на тэме галаўных убораў таму, што яны болей за ручнікоў захавалі агульны чын узораў. Найболей важна, што 'неглюбскія' старыя заклады размяшчаюцца паміж шырокімі чырвонымі калодкамі і ў галаўных платках. Калі неглюбцы прынеслі такі чырвонакалодкавы чын, то падобную адзнаку маюць і чачэрскія тканіны: паміж важкіх чырвоных "вольных палосак" месціцца як арнамент у адзенні, так і старыя знакі ў ручніках — чачорскіх, бабіцкіх, валосавіцкіх. Прычым, гэтак робяць і браныя, і закладныя, і пераборныя ўзоры. Чырвонакалодкавыя — і браныя ўзоры на рукавах неглюбскіх жаночых кашуль — у тым 'калодкавым' тыпе, што ўваходзіць у полігенетычны чын неглюбскіх "сарочак". Агульным вынікам для некалькіх паласатых традыцый (усе яны — гетэрагеннага паходжання) сталася складанне чырвонага чыну ручнікоў (Стаўбун — Казацкія Балсуны — Неглюбка).

Гісторыя з 'чырвоным чынам' і яго паходжаннем паглыбляецца. Мы дапускаем, што гэта энергія — мясцовага 'выбуху', бо маркіруе мясцовыя чыны ва ўсіх тэхніках. Таксама на карысць мясцовага характару сведчыць тое, што ў роднасных Неглюбцы вёсках вакол Верашчакаў чырвоны чын не ўзнік, а ўзорамі чырвоных фонаў Неглюбка дзялілася з гэтымі, больш 'белымі' вёскамі (гл. тэхналагічнае апісанне неглюбскай ды верашчацкай традыцый, а таксама: Чыжова. 2000. С. 50—53).

## 44. АРНАМЕНТ РУЧНІКА І АРНАМЕНТ ТКАНІН 'РУЧНІКОВАГА ТЫПУ'. ГІПОТЭЗА АБ АДЗІНЫМ 'ВЯЛІКІМ ЧЫНЕ'

Назіранне за розніцаю арнаментальных чыноў ручніковага тыпу на "платках" маладых ды сталых жанчын прывяло нас калісьці да гіпотэзы аб узроставым характары асобных кампазіцый арнаменту і да вылучэння гіпатэтычна дзявоцкіх і жаночых узораў на жаночых кашулях. Праслежваючы ба-



Мал. 65. Марыя Паўлаўна Каўтунова паказвае ўзоры. Рэпішча. 1987 г.

гаты фонд арнаментальнага аздаблення кашуль у адным сяле (неглюбская калекцыя ВМНТ налічвае іх больш за 200), паміж рознымі ж прычынамі з'яўлення розных кампазіцый можна дапусціць адну з архаічных: полаўзроставую перамену аздаблення рукава (канкрэтныя доследы чаго — наперадзе). Аднаўленне ініцыяцыйнага фонду вядзе да некаторых высноў.

Пераход дзяўчыны-жанчыны ад групы да групы мог ажыццяўляцца не толькі праз змену аднаго арнаментаванага 'рукава' другім (што можна прасачыць і па вясельных дарах рукавоў), але і праз 'назапашванне' мінулага ініцыяцыйнага вопыту. Арнаментальна гэта магло б маркіравацца праз ускладненне новага чыну ўключэннем у яго папярэдніх 'пройдзеных' межаў. Галаўныя "платкі" ж не мелі б папярэдніх 'дзявочых' этапаў з прычыны іх уключэння ў строй адзення менавіта ў час вяселля і як новых рэчаў-маркёраў — *замужняга* стану (платок дорыць свякроў). Замацаванне аднапалоснага чыну за арнаментам "платка" магло б адлюстроўваць, паміж іншым, і архаічны матыў яго 'касмалагічнага' месца — як 'рэчы верхняга яруса', што мы бачым у салярным і 'транспартным' характары 'паміжрэчавага' арнаментальнага чыну "чаўны — калёсы". Уваходзячы ў строй 'на вяршыні' жаночага лёсу і ў цэнтры яе жыццёвага становішча, такая рэч арнаментальна далей не магла ўжо назапашваць 'вітальнай сілы' (гл.: Чеснов. 1998. С. 200), а маркіравала яе 'расход' ажно да выхаду з 'краснай' групы "калёс" і "хрястоў" і пераходу да 'белай' групы "чаўноў" і "вутак". Абрады даюць шмат паралеляў, але мы не станем іх кранацца.

Галоўны сэнс прыцягнення дадзеных па арнаменце адзення тут — спроба зразумець простую альбо складаную пабудову арнамента ручніка як магчымае адлюстраванне пэўных паралельных працэсаў (на казацка-балсунскім ручніку — і "калёсы", і "чаўны", што паасобку стаяць на галаўных уборах). Мы прыцягнулі ўвагу да рукава жаночай кашулі яшчэ з адной 'касмалагічнай' прычыны: рукаў у строі з'ядноўвае ярусы мікракосму адзення, як і ручнік на Покуці яднае ярусы жытла.

Ручнік — галоўная знакавая рэч нявесты — малодкі, тэкст яе роду, што прыносіць сваю інфармацыю ў род маладога. Тканіна павінна мець знакі ўсіх этапаў назапашвання вітальнай сілы ды іх рытуальнай сакралізацыі (ініцыяцыі), бо 'добрага роду' тая, дзе ўсё рабілася '*чын па чыну*'. Ці не пра паласата-арнаментаваны гэта ручнік? (А маці, калі ткала, магла прагназіраваць лёс сваёй дачушкі, каб усё так і было.) Ручнік як абрадава вясельная рэч, такім чынам, імкнецца да 'поўнага зместу'.

Парадыгма старажытных сімвалаў земляробчага коду ад 'насення' да 'новага ўраджаю' можа быць закадзіравана шматразова і ў некалькіх 'арнаментальных' пластах, ад тэхналагічнага да ўнутрызнакавага, да спосабаў паяднання такіх этапных знакаў у чын, да ўскладнення яго. Страта папярэдняй семантыкі (формулы) вяла да яе ўзнаўлення на іншым узроўні. Усякі раз, калі чын мае сімвалы ўсіх этапаў 'ператварэння', ён можа быць старажытным, а розныя спосабы такога паяднання сведчаць аб асобным і асабовым шляху развіцця.

Для рукава можна ўявіць сітуацыю 'нарошчвання чыну' па меры праходжання чарговых станаў жыцця, як і наступнае ператварэнне чыну (скарачэнне альбо перавод у белы чын?). Але рытуальная фіксацыя такіх арна-

ментаў-‘станаў’ можа быць і рэалізацыей нейкага ‘парадыгматычнага чыну’, што існуе ў суме сваіх рэалізацый альбо... у пэўным цэласным ‘тэксце’. Для ручніка можна дапусціць як аналагічны ‘рукаўны’ працэс, так і гіпатэтычную ролю ‘поўнага тэксту’. У такой гіпатэтычнай прасторы магчымы і ручнікі з адзіным, але ўзведзеным у магію паўтору, знакам “глухая лапа”, цяпер ужо сінкрэтычным ёмішчам ідэі дзявоцтва — дзявочай прыроды — Вялесавай прыроды ‘сырога’ і ‘цэлага’ і г. д. І вылучаныя для ўшывання ў ‘плоць’ кашулі тканіны-‘цытаты’ (часткі поўнага чыну) прызначаны для пазначэння ‘нізу’, ‘сярэдзіны’. І тыя ‘кароткія чыны’, якім месца на зрошчаным з двух ручнікоў абрусе. Магчыма, і чыны галаўных убораў ручніковага тыпу (дзявочыя ‘скіндачкі’ і жаночыя).

Апошнімі, здаецца, памятаюць пра розны сімвалічны змест, але агульнае паходжанне сваіх арнаментаў ‘поўны’ ручнік-набожнік і накутнік, з аднаго боку, і з другога — рытуальны ручнічок тыпу хрысцільнага “крыласціка”; таго, што “на бабіну кашу” і таго кароткага “платка”-“ручніка”, што ўжываюць у час пахавальнага абраду ў Стаўбуне. Магчыма, нейкія з іх маркіравалі самі ‘паўзы’ і ‘смяротныя пераходы’ паміж становішчамі як новымі народзінамі. Розная колькасць узорных палос, што вядомая і па пераборных, і па *браных* ручніках неглюбскага і бабовіцкага тыпаў, здаецца, можа мець паходжанне ў розным абрадавым прызначэнні: “Хлеб на свадзьбе — на меншым ручніку, троххрястовам” (тры паласы ўзораў) [34].

## 45. ГІПОТЭЗА: БРАНЫ ЧЫН НЕГЛЮБСКАГА РУЧНІКА — АЎТАХТОННЫ

Ва ўсіх вёсках з ‘кароткімі’ платкамі ёсць альбо былі і наміткі — “нямёткі”. Гэтак і ў Неглюбцы, і ў Казацкіх Балсунах. Кожны з відаў знайшоў сваё месца і ў пахавальнай абраднасці. На поўначы рэгіёна памятаюць, што намёткамі і “абракаліся на раскрэсах, на крэст вешалі; панавешаюць — многа патом...” [33]. У вёсках, заснаваных у канцы XVII ст., вядомы і браныя ручнікі. У кожнай з іх захаваўся ўстойлівы чын браных узораў, па якім традыцыі адрозніваюцца. Так, здаецца, узаемадзейнічалі ‘прышлыя’ і ‘аўтахтонныя’ традыцыі. Шлюбныя сувязі звялі іх.

У неглюбскім ткацтве такім ‘аўтахтонным’ тыпам падаецца ручнік 1925 г. з Гібкоў (гл. фота 230). Мы бачым згушчэнне калодак; шырокія чырвоныя гладкія палосы і вузкія сціснутыя браныя ўзоры, сіметрычна зведзеныя ў маналітную кампазіцыю з манументальным цэнтрам. Кожны з трох узораў (“вядзмедзі”, “глухая лапа”, “крючча”) — знак узростам у тысячы гадоў. Весь чын беспамылкова трапляе ў семантычны ‘чын’ культурнай прасторы з “вядзмедзем”, што “ходзіць па мяжы”, з сімвалам хтанічнай раслiннай сілы зямлі ў ‘вясновай’ пазіцыі і са знакам радзінаў ды ўраджаю па цэнтры. Тэхналагічна ды па характары выканання браных фігур ручнік блізкі да архаічнага тыпу ‘валосавіцкай’ традыцыі (гл. тканіну 1890 г. з Будзішча, фота 244), памер шагу таксама *цотны (кратны двум)*, хаця ўжо не па рыпсу, а па палатну — але чыны розныя: **а-а-а-а** і **п-1-п**. Сіметрычнасцю, як і паслядоўнасцю знакаў, ён звязваецца (паядноўваецца) з тканінамі са Старых Бабовічаў (гл. фота 281). Але бабовіцкі чын ‘сеў’ *па ўзорнакалодкавым*

*паласатым тыпе* і мае архаічна другі памер шагу: узорны уток перасягае *тры* ніткі асновы. Можна меркаваць, што чын **n-1-n** быў тут раней за ўзаемадзеянне з чырвонапалоснымі і ўзорнапалоснымі белапрасветнымі(?) традыцыямі. І што яго перанялі розныя спадкаемцы: адны і тыя сімвалы архаічнага фонду выконваюцца розным тэхналагічным памерам.

Наступнае пытанне для доследаў: якія са знакаў — агульныя ў неглюбскім і бабовіцкім 'аўтахтонных' ручніках? Бачна, што бабовіцкі тып зазнаў іншае развіццё і ўплыў рамесніцкай дакладнасці. Магчыма, што можна выявіць *розныя знакі* і *ў архаічным фондзе* ўзораў гэтых традыцый. Нашы назіранні, накшталт "Гісторыі з глухой лапай", паказваюць працаёмкасць, але вялікую цікавасць падобнага працэсу для даследчыка.

## 46. ТРАДЫЦЫІ 'ЧЫРВОНЫХ ГАРАДКОЎ', 'БЕЛЫХ' ЗАКЛАДАЎ І БРАНАГА ЧЫНУ З "ГЛУХІМІ ЛАПАМІ"

### 46.1. 'Квадратны' падзел паласы і стварэнне прамакутных фігур

Узаемадзеянне з 'квадрацікамі' (як тыпам узорных палос паласатых ручнікоў накшталт слаўгарадска-быхаўскіх) вызвала перавод іх на 'службовыя' пазіцыі і ўтварэнне адметнага шэрага калодак. Сема 'квадратнага' ўпарадкавання магла адбіцца і на характары 'новых' арнаментальных элементаў. Тэма 'квадратнага' падзелу абыгрываецца ў апошняй узорнай паласе ручніка ў Казацкіх Балсунах (гл. фота 175), Ялоўцы (гл. фота 301, 331), Малых Нямках (гл. фота 65), Верхлічах (гл. фота 213), і па белым фоне — у Пісараўцы **(фота 440)**. Матыў "глуховак" з вертыкальнаю адтулінай — у Верхлічах (гл. фота 211), Ялоўцы (гл. фота 305; гл. таксама: Фадзеева. 1994. С. 292; але гэта магчы-



Мал. 66. Гаспадыні не шкада свайго багацця. Кацічы (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

мы водгук і архаічных браных "расколак" з такою адтулінай). 'Квадратную' сему маюць распрацоўкі, вядомыя нам па Казацкіх Балсунах і ў асіметрычных тканінах краснапольскага тыпу. Тэхналагічна "напаўвасьмірогі" (К-Балс.) утвараюцца з "васьмірогаў": тыя разбіваюцца надвая і звязваюцца паміж сабою так, што прачытваюцца то як "васьмірогі", то як "чамаданы". Паступова 'новыя' фігуры аддзяляюцца адна ад адной (гл. фота 206; таксама: Беларускія тканіны. Мал. 249; Фадзеева. 1994. С. 292). Новая альбо старая — фігура "хрясты" (яны ж "якары") з Казацкіх Балсуноў (гл. фота 180, канец XIX ст.)?

## 46.2. 'Квадратнае'/'круглае' як архаічная семантычная апазіцыя

'Квадратнае'/'круглае' — найстарэйшая апазіцыя культурнага ўпарадкавання. Для архаічных чыноў бранага ткацтва характэрны *ромб* — увасабленне круглага=божага як архетыпа любога культурнага дзеяння (у ткацтве — праз чалавечыя намаганні — 'квадратныя' 'цаглінкі' — шагі ўзорнага утка). Сцвярджэнне квадратнай формы павязваецца з іншым увасабленнем дадзенай апазіцыі — наяўнасцю абодвух яе членаў як раўнапраўных удзельнікаў кампазіцыі. У ёй адначасова прысутнічаюць квадратнае='зямное' і круглае='нябеснае'. Асабліва цікава, што дадзеныя формы (нават і тэхнічныя іх адзнакі, рознае тканнё) разводзяцца менавіта па цёмных і светлых фонах.

Квадратнае як 'зямное' ўвасабленне сакральнага выяўляецца як у ярусным тыпе кампазіцыі ('від збоку'), гэтак і ў планіметрычным ('від зверху'). Яно старэйшае за іх. У абодвух выпадках — гэта архетыпічнае *ўзнаўленне формы храма (калі ён 'квадратны')*. Мы бачым "стаўпцы", якія дзеляць паласу і падпіраюць яе 'дах' — у выглядзе збоку, што развіваецца ў белафонавым



Мал. 67. Тройца каля крыніцы ў Янове. 1991 г.

чыне. Мы бачым імкненне геаметрычных форм да стварэння квадратных межаў у планіметрычных ручніках (якія не перастаюць здзіўляцца такім формам: "абразкі", "вакенцы", "вуллейкі", "будачкі", "каробачкі", "калясачкі", "чамаданы", "пагоны"). Аднак большасць кампазіцый бела-чырвонага чыну 'сплеценая' з ярусных і планіметрычных узораў.

Здаецца, дзе белы чын (ярусны па паходжанню) быў мацней, квадратных выяў болей. Магчыма, у схільнасці да квадратнага патрэбна ўлічыць і колькасць удзельнікаў стварэння 'новага' чыну. 'Квадратная' сема лягчэй развіваецца там, дзе не было бранага чыну паміж, напрыклад, чырвонапалосным і закладным. Браны чын падоўжваў сваё супраціўленне, хаця б ужо і не памятаў пра сувязь формы круглых свяцілішчаў з яго сцвярджэннем ромба-кола... Ён мог не асэнсоўваць непасрэднага сімвалічнага значэння арнаментальных фігур. Але працяг 'круглага' жыў у карагодах, у 'круглай' форме абрадавага руху, у рытуальным з'яднанні канцоў тканін, у 'жаночым' успрыяцці нутра хаты як ромба — з маркіроўкай углоў, а не бакоў... і г. д. Магчыма, ***форма Покуці са злучанымі канцамі ручніка таксама мацавала старыя ментальныя формы.***

Апазіцыя 'круглага'/'квадратнага' ў парадку абрадавага руху выступае і ў вобразным проціпастаўленні форм карагодаў. Вядомая даследчыца Т. А. Бернштам бачыць у іх формах вядучую ролю сімволікі *прадзення — ткацтва* (ад утварэння клубка да ўласна ткацкіх 'аперацый'). Дадамо, што мова стварэння ніці — тканіны выступае тут як адна з праяў ператварэння 'стыхійнага' ў 'культурнае', што 'мова' самога абрадавага руху сінкрэтычна абвяшчае 'аб усім'. Тым больш значная выснова даследчыцы: "Хоровод предстаёт как "сотканный" девушками м и р м о л о д ы х, специфическое пространство, в котором молодёжь воспроизводила различные переходные состояния и процессы с т а д и и м о л о д о с т и" (Бернштам. 1988. С. 186).

Успрыманне ручніка як свяшчэннай тканіны апошнюю тысячу год гадавалася ў хрысціянскім светаадчуванні. Аб тым — і нядаўнія сведчанні. Вось як тлумачаць адрозненне "ўвівіча" ("увічыча") — палатна для свівання дзіця на хрэсьбінах — і "ручніка": "Не, не, не ручнік, на ручнік жа — Божа мой! — не клалі, нельзя. *Ручнік* жа — ета *Божая адзежка*!" [35]. Толькі пабыўшы на абразу, ручнік набывае гаючыя якасці: ім выціралі рукі(!), каб засцерагчыся ад пераноснай хваробы [36]. Каляндар ткацтва весь прасякнуты сімвалічнымі сувязямі з праваслаўным календаром, як і вобразы святых 'прараслі' ў ткацтва (гл. на матэрыялах ВМНТ: Раманава. 2000. С. 97—102; а таксама мал. 105 — бабіцкая народная ікона Міколы, дзе на мітры святога — выява раскрыжаванага ромба з кропкамі — сімвалу 'засеянага поля' і наогул зачацця). Улюбёная народам "Неабпальная купіна" дае 'ручніковую' апазіцыю: квадрат зямлі пакрыты ў ёй нябесным ромбам.

Покуць 'домам', уласна кажучы, і была спрадвеку алтаром і вобразам храма, дзе 'сценамі' служыў ручнік (у гэтым кантэксце — і 'паходныя' палатняныя цэрквы сярэдневякоўя). У велічным абліччы 'святой тканіны' мог рэзанансна ўзмацняцца архетыпічны імпульс — супастаўленне і 'развядзенне' зямнога і нябеснага — у чарговы раз. Разнастайнасць абрадавых комплексаў вясковых "свечак", што маюць абшчыннае і нават родавае паходжанне, зафіксавала і 'квадратныя', і 'круглыя' формы сваіх 'малых алта-

роў'. Аднак у глыбіні пытання — і 'археалагічныя' апазіцыі тых жа розных геаметрычных форм у складзе пахаванняў, у формах дахрысціянскіх свяцілішч і храмаў у розных плямёнаў і г. д.

Здаецца, самая форма 'месца' актуальная і сёння — у абрадах каля круглых крыніц і квадратных калодзежаў. Мы фатаграфавалі розныя формы кладоў дроў: круглыя (ці не пра іх — "касцёр") і квадратныя ("калодзежам"). Круглыя азяроды-"кастрамы" (Цітоў. 1994. С. 79), круглыя стагі і доўгія прамакутныя сцірты... Круглае "сонца" са льняных сцяблін на краі поля і снапы, пакладзеныя "калодзежам", у аснове капны... Панёвы — "кругамі" і клеткамі-"палянамі"... Гэта падаўжэнне той жа апазіцыі 'стыхійнага'/'культурнага', божага і чалавечага, незямнога і зямнога. Магчыма, калі-небудзь мы зможам паставіць гэтыя пытанні і з улікам форм кампазіцый арнаменту, і сучасных абрадавых форм, і тыпаў Покуці. Аднак патрэбна было б мець на ўвазе і сему 'пераварочвання' фігуры (квадрат — ромб, прамы крыж — касы крыж) як адну з формул 'ператварэння', пераходу...

Вернемся да канкрэтнага, дэкаратыўнага ўвасаблення нашай тэмы. 'Квадратны' падзел прасторы цэнтра — і ў неглюбскіх "пагонах" (у ялоўскіх "калёсах", "калясачках"). 'Квадратная' сема залучае ў адзінае семантычнае поле, у парадыгму — і тыя арнаментальныя элементы, што вядомыя паасобку ў розных мясцінах. Адных "васьмірогаў" з квадратным "вакенцам", "абразком" усярэдзіне распрацоўваецца некалькі відаў (гл. фота 251, 272 — Неглюбка; 226 — Колбаўка; 309, 314, 318, 321 — Верашчакі; 203 — Забор'е; 179, 180, 183 — Казацкія Балсуны; 308 — Ялоўка; 343 — Кацічы). Выразна зводзіць 'квадратныя' і 'круглыя' фігуры ручнік з Чырвонага Кута; пасёлак заснаваны выхадцамі з Неглюбкі ў 1920-я гг. **(фота 262)**. Квадратныя 'вокны' — у "звяздзе", "любістаку", "сонцы", "самавары" дубраўскай традыцыі. Як натуральныя "вакенцы" ("вакенцы" і "бакончыкі", ставенькі) асэнсоўваюць узор тканіны, дзе бабіцкая традыцыя сплялася з 'чачорскаю' **(фота 83, 85)**. Безліч "стаўпцоў", "кліноў", "самавараў", "стаканаў" падзяляюць у палосах прастору, нагадваючы нейкія калоны (у браных тут былі "елкі" ды "казлы", якія і самі адчулі на сабе ўплыў фігур, 'бачных збоку'; гл. фота 182, 184, 187 з Казацкіх Балсуноў). Дададзім прыклады з альбома "Повязь часоў — беларускі ручнік" (Лабачэўская. 2002. Мал. 127—133 ды інш.). Пытанне пра 'квадрацікі' трапляе ў больш шырокі кантэкст — пра восі сіметрыі ды структурны падзел фігур.

### 46.3. 'Чаўны-калёсы' альбо 'глухоўкі-расколкі'?

Няўлоўна павязаны з 'квадратным' падзелам і падаецца нам семантычным па паходжанню розны 'культурны' падзел 'стыхійных', непадзельных фігур. Засваенне закладнога чыну арнаментаў бранымі трыдыцыямі непазбежна прыводзіла і да асэнсавання ў гэтым чыне апазіцыі 'культурнага'/ 'стыхійнага'. Мы маем тут два вынікі, пазначаныя ў назве главы. Ці не адбывалася гэтае з прычыны *розных* удзельнікаў дыялогу?

1. Валосавіцкая традыцыя (Каўпіта, якая ўпадае ў Беседзь, захоўвала да недаўняга часу 'вузкі' браны чын "лапаў" паміж шырокімі "вольнымі палоскамі"), мабыць, сутыкнулася з закладным чынам 'чаўновага тыпу', дзе



Мал. 68. Чаўны паўночнага тыпу ў Белай Дуброве (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

апазіцыя 'стыхійнага'/'культурнага' вырашалася праз "чаўны" ("глухія" падоўжаныя ромбы) ды "калёсы" (парныя ромбы з *чырвонымі прамымі крыжыкамі* ў іх). Займаванне такога чыну магло адбыцца непасрэдна ў Казацкіх Балсунах. Магчыма, ён быў вельмі сціплы (параўнайце тканіну з Неглюбкі пачатку XX ст., фота 275). Як рэагавалі на 'новыя' знакі чыны тыпу **а-а-а...**? "Чаўнам" ды "колам" прысвечаны ручнікі 1890-х гг. з Будзішча (гл. фота 159), канца XIX ст. з Нісімкавічаў (гл. фота 140). Праз чырвонае-белае імкнецца вырашыць тэму "чаўнака" тканіна 1880-х гг. з Заляддзя (гл. фота 143). Узнікае матыў 'няпоўнага' "чаўна", падзеленага ўздоўж (Будзішча, 1890-я, гл. фота 137, 141). *Парныя прамыя крыжы*, вядомыя бранаму ткацтву як "веряб'і", ажываюць у матыве "калёсаў" і працістаяць 'воднай' плыні, якая ўтварылася ад паўтору 'напаўзатопленых' чаўноў (Палессе, 1900—1910-я гг., гл. фота 141).

2. Гэта ж семантычная апазіцыя вырашаецца і праз пару арнаментальных элементаў *'цэлы'* (які і ў назвах застаецца "глухім") — *'расколаты'* (дзельнік — прамы крыж, нібы сапраўды 'расколвае' непадзельны да таго элемент, але сам знікае, пакінуўшы след 'удару'). "Расколка" вядома ўсім славянскім традыцыям. Але арнаментальны элемент уводзіцца ў чын, які кадзіруе пэўныя семантычныя апазіцыі, толькі праз семантычнае яго засваенне. "Расколка" — 'культурны' знак у пары са 'стыхійнаю' "глухоўкай". Маючы ў сабе *прасвет* у форме прамога крыжа, такі знак развівае сваю сему 'культурнага' праз сэнс 'асвячонага', 'ахрышчанага' ў хрысціянскім успрыманні сакральнасці ручніка. Менавіта для ўзораў гэтага чыну ўжываецца агульная назва "хрысты" (якія могуць быць і "глухія хрысты", г. зн. называецца не адзін элемент, але іх чын). Далікатныя варыянты 'расколак': 1) старэйшага тыпу — з адною вертыкальнай адтулінай і 2) з прамакрыжавым дзяленнем — у краснапольскіх і казацка-балсунскіх ручніках (гл. нашыя прыклады ды іншыя апублікаваныя, напрыклад Лабачэўская. 2002. Мал. 126—133).

Аднак Казацкія Балсуны не ведаюць назвы "расколкі". "Хрыстамі" ў іх завуцца менавіта 'пазітыўныя' крыжыкі і фігуры з імі, тыпу "калесся". Ці не сведчыць гэта пра 'родны' для тутэйшых ручнікоў чын, дзе "расколак" не было? Апазіцыя 'стыхійнага'/'культурнага' выяўляецца тут праз пары: 1) 'глухога'-'маючага крыжык у сябе' і 2) 'глухога' ромба — прамога крыжа розных варыянтаў. 'Дзельнікамі' ж не асобнай фігуры, а прасторы цэлай паласы найчасцей выступаюць розныя "стаўпцы". Сапраўды, у ручніку з

Казацкіх Балсуноў, век якога мы падлічылі з дапамогаю гаспадыні 1913 г. н., яго зрабілі ў 1860-я гг., ёсць белафонавыя крыжыкі з перакрыжаваннямі па канцах (прыбалты завуць такі знак 'крыж крыжоў' — Клетниекс. 1990. С. 34; гл. фота 177). Менавіта яго змяшчае на белым фоне майстрыха з Нісімкавічаў у пачатку XX ст. (гл. фота 155), а на 'зямным' — тамсама ў канцы XIX — пачатку XX ст. (гл. фота 156). У 1900—1910-я гг. у Палессі ўжо ёсць гатовая "расколка-кучаряўка" (Негл.), але назвы ні тут, ні ў бабіцкай традыцыі не ведаем (гл. фота 156). Сему 'рубіць, секчы, калоць' — як этап культурнай распрацоўкі — бабіцкія ручнікі 'перажываюць' яшчэ ў браным чыне: "перасекі", "перасекі хрэшчыкамі" — аб гарадчастых ромбах, раскрыжаваных дыяганальнаю "ряшоткаю". Але пошукі ўтварэння пэўнай фігуры — не заўсёды доказ яе адсутнасці ва ўласным чыне. Стары ручнік, шыты па яшчэ больш старой намітцы ў тым самым Селяніне. Ніжні ўзор тканіны — тканы. Мы бачым у бранай палосцы і ромбік з кропкаю (знак насення), і далікатную "расколку" **(фота 84)**.

"Расколкі" робяцца больш актыўнымі на ўсход ад Бабіч. Верашчакі працуюць з расколкамі ахвотна (гл. фота 314, 317, 326). Ёсць белафонавыя "расколкі-кучаряўкі" і ў Нясвоеўцы (гл. фота 333). Менавіта ў гэтых мясцінах падрабязна распрацоўваецца тэма 'глухога'-'расколатага' альбо 'раскрыжаванага' *на белым фоне* (у адрозненне ад іншага тыпу: "чаўны" — "калёсы"). Неглюбка абірае 'зямны' варыянт развіцця гэтага знаку, у формах ды назвах захоўваецца ўспамін аб браным чыне. Прамым крыжам у пераборы расколваюцца фігуры ў тых пазіцыях, дзе ў браным былі падзеленыя касым крыжам.

Існаванне бранага чыну, дзе апазіцыя 'цэлага'/'падзеленага' актуалізуецца ў межах адной кампазіцыі, падтрымлівае тэму і для пераборных тканінаў. Здаецца, гэта адзнака старых браных чыноў тыпу **п—1-п** (Негл., Бабовічы). Самі ж браныя 'глухія' элементы пакідаюць 'нашчадкаў' у новых узорах. Гэта 'глухія сонцы', якія мы разглядалі раней (гл. фота 213, 323, 332), і 'глухія кучаряўкі' (гл. фота 201, 203, 320). Яны часта нагадваюць "глухія" бранага чыну. Да былых прыкладаў дададзім яшчэ некалькі **(фота 236, 290, 291)**. Ручнік з неглюбскага пасёлка Свабода **(фота 231)** уважлівы да 'глухога'. Неглюбка памятае пра "глухую кучарявую лапу" **(фота 233)**.

Аднак на р. Віхолцы з яе ўзорнакалодкавым тыпам ручнікоў і з 'квадратным падзелам' у калодках працэс прамакрыжовага 'расколвання' фігур больш выразны. Магчыма, праз апазіцыю "глуховак"/"расколак", якія мелі *прамы* падзел, захоўваецца памяць пра 'квадратны' падзел паласы альбо гэтыя працэсы пераплятаюцца, маючы нейкі архаічны імпульс, адзіны ў квадратным і прамакрыжавым падзеле (гл. вышэй). Гэта слушна і для засваення форм, займаваных з 'новага'. Чын у Медзведзях склаўся пад вялікім уплывам 'жывапіснага' Краляўца. Мы бачылі раней, што знакі дажджу на тканінах мясцовых традыцый, калі і пазычаліся, дык заўсёды лагічна. Мы бачылі таксама, што "расколкі" 'ў небе' ручніка 'на выкліканне дажджу' маглі б выконваць ролю сімвалу расколвання нябеснай перашкоды дажджу (альбо хмараў; гл. фота 195, 415, а таксама: Нячаева. 1997а. С. 72—73). Таму ручнік, дзе "расколкі" змяшчаюцца паміж знакамі дажджу (гл. фота 194), падаўся нам знакавым. Тэма белафонавых "расколак" у перадцэнтравай пазіцыі, асабліва пры іх проціпастаўленні ў адной кампазіцыі краявым 'глухім' знакам, можа быць семантычнаю адзнакаю.

Уяўленні пра закрыты і адкрыты стан неба, зямлі, вады — жывыя і актуальныя для абрадавай дзейнасці. Геаметрычныя знакі, што крэслілі на дарозе альбо па дну ракі плугам ці бараною ў час выклікання дажджу, маюць абсалютнае супадзенне са знакамі на ручніках. У в. Канава Хоцімскага раёна нам нарысавалі, як аралі тры "перакросткі" ўздоўж дарогі, на кожным — па 'крыжы крыжоў' [37]. Але ж такое раскрыццё перакрыжаванняў уздоўж іх восі нагадвае тыя самыя "расколкі", з найбольш частым лікам фігур — тры.

## 46.4. Абагульненне тэмы 'квадратнага падзелу' ўзораў

Тое, што пэўныя традыцыі аддавалі перавагу менавіта знаку "расколкі", магчыма, звязана з увагаю традыцыі да 'квадратнага' падзелу ўзорнай паласы. Абсалютны аналаг паласе ўзора 'з квадратным падзелам' прадстаўляюць археалагічныя матэрыялы: узор прасліца ранняга жалезнага веку з Цэнтральнай Беларусі (мал. 95, *2*); узор славянскага бранзалета са старажытнага Пінску (гл.: Археалогія Беларусі. Т. 3. 2000. С. 250. Мал. 62—11). Тое, што арнаментальны матыў прадаўжае існаваць у рэчах, паміж якімі — тысяча гадоў, а таксама яшчэ праз тысячу год — у этнаграфічных матэрыялах, здаецца важным.

Мы ведаем, што формаўтварэнне новых арнаментаў адціскае старыя формы ў службовыя пазіцыі (напрыклад у калодкі) і ўвогуле 'на край', дзе тыя і захоўваюцца. Апошняя з семаў былога структурнага значэння — 'ахова'. Знайшлі, як мы бачылі вышэй, мноства прыкладаў калодак з 'квадратным' падзелам. А яшчэ звярнулі ўвагу на аздабленне краю ручніка. І там чырвона-белае 'квадратнае' чарговане ў карунках ды махрах альбо проста ў белых сетках — той самы арнамент. Такая — дубраўская традыцыя (гл. фота 379, 384, 385, 387, 396, 411, 420). Ёсць яны і побач — у Старых Бабовічах (гл. фота 281) і Навілаўцы (гл. фота 124). У Новых Бабовічах па белым полі ручніка — рэшткі старых 'гарадкоў'. Такім чынам, сляды колішняга 'квадратнага' падзелу палос мы знайшлі ў вялікім коле ручнікоў — ад дняпроўскіх Мадоры (гл. фота 67) і Чацвярні (гл. фота 46) да Пісараўкі ва Ўнечскім раёне, паміж Іпуццю і Судасцю (правы прыток Дзясны).



Мал. 69. У Новых Бабовічах. Калодкі на ручніку — з "квадратным" падзелам. 2002 г.

## 46.5. Розныя знакі адной 'семы' як доказ яе існавання ў розных традыцыях

Звяртаючыся да розных па геаметрыі знакаў у розных частках нашай работы, мы часам прыходзілі да рэканструкцыі ў іх падобнай семантыкі. Здаецца, пэўная семантычная тэма шукала магчымасці выяўлення ў розных чынах арнаменту, у розных традыцыях. Ці не можа гэта быць адлюстраваннем нейкага ментальнага працэсу? Для прыкладу паспрабуем параўнаць *'сонечныя'*, згодна з адноўленаю семантыкай, знакі. Засяродзім увагу толькі на той інфармацыі, якая адкрываецца 'з вышыні птушынага палёту' над 'ру-кою рэкаў'.

Па-першае, назіранні за лёсам закладаў уздоўж р. Чачоры (правы прыток Сожа), якая, разам з вышэйшаю сістэмаю р. Добрыч, з'яўлялася, як нам падаецца, праваднікам гэтай тэхнікі ткацтва з Дняпра, паказваюць наяўнасць *двух тыпаў 'нябесных' знакаў з магчымаю салярнай семантыкай.* Гэта 1) *зоркі-"васьмірогі"* і 2) *'кругі-катушкі'* (гл. фота 72—74, 77 і далей). (Параўнайце: аб розніцы ў формах скроневых колцаў радзімічаў і севяран і дапушчэнні іх рознай сімволікі, а менавіта зорнай і сонечнай — гл.: Василенко. 1974. С. 247—248.) Па сістэмах засваення абодвух знакаў бачна, што месцы ў кампазіцыях і назвы гэтых узораў захоўваюць 'нябесную' семантыку, а ў некаторых выпадках і проста трапляюць на архаічны сэнс. Зоркі завуцца "сонца" ў Ялоўцы і ў дубраўскай традыцыі, зоркі — "лебядзіная дарога" ў Казацкіх Балсунах. Прытым кожная з традыцый праходзіць свой шлях развіцця ўзора.

'Сонечнае' прамянiстае кола ацэньваецца як рухомае ў дубраўскіх ручніках ("кацельчыкі") і неглюбскіх ("кацелкі"). Архаічная сема 'промні-вала-




Мал. 70. Строі старыя і новыя. Верашчакі (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

сы' гучыць у назвах "хрясты кучарявыя" (Негл.), "куксы" (Ялоўка). Іншае, аднак таксама 'нябеснае' тлумачэнне прамяністага ромба-кола, а таксама цікавыя прыклады кампазіцый з гэтым знакам — гл.: Кацар. 1996. С. 120. *Сонечныя 'глухія' "кацельчыкі"* ёсць паўсюдна па ўсім рэгіёне 'вузла' (гл. фота 86, 170, 180, 187, 188, 190, 192, 198, 199, 202, 208—210, 213, 216, 228, 328, 380, 399, 400а, 411, 412, 445). Тыя, што з крыжом-адтулінаю, — "хрясты кучарявыя (гл. фота 213, 255, 305, 307, 314, 331, 337). У канцы пераліку прыемна паставіць 'свяцілы' са Свяцілавічаў на Беседзі, вядомых з XII ст. **(фота 260)**.

Прамяністы ромб з белым, прасветным крыжом-адтулінай 'сінанімічны' другому: старому *ромбу з чырвоным крыжыкам у ім.* Сінаніміка тут разумеецца менавіта ў салярнай семантыцы, бо ў ромба з крыжыкам у сярэдзіне значна шырэйшае кола архаічных значэнняў. 'Салярны' імпульс узнікае, калі ўтвараюцца старажытная *пара крыжоў і пара ромбаў з крыжамі* (што мы разглядалі). Да шматлікіх прыкладаў — ад казацка-балсунскага "калесся" да ялоўскіх "красных барышняў" — дададзім толькі адзін прыклад з Матневічаў Чачэрскага раёна (1910-я гг., **фота 148**).

Не меней варыянтаў форм ды назваў належыць і тэме 'глухога'/'адкрытага'. Сама сема 'глухога' дублюецца на ўзроўні мовы ў розных кодах: "верябей" (просты крыжык) — "глухі", "сляпы", "нямы", "просты" і "відушчы", "з вокам", "зоркі" (толькі ў адной Неглюбцы). Ромб "супалошны" (суцэльны) — "сляпая глухая", ромб з прасветам — "глухая з глазам" (Верхлічы). Разгледжаныя вышэй 'сонечныя' знакі — частка агульнай тэмы. Гэта апазіцыя, якая кадзіруе інфармацыю ў старэйшай сінкрэтычнай тоеснасці зроку і святла, зроку і ўзора, як бачна, спарадзіла і сонечны, 'дзённы' знак: прамяністы ромб з белым крыжам-адтулінаю ў сярэдзіне.

Звышсэнсавая значнасць "хрэставага" падаўжаецца ў народнай праваслаўнай культуры і асэнсоўваецца самою традыцыяй, пра што мы пісалі вышэй. Змяшчэнне былых сонечных знакаў у прыцэнтравых пазіцыях, асвячэнне самога гэтага цэнтра з агароджаю і таксама крыжападобнымі фігурамі — "серадавымі хрястамі" праходзіць на адной непарыўнай хвалі. Гэта адчуванне ўласнай прасторы традыцыйнай культуры, дзе ўзвышэнне сакральнасці адбываецца на шляху да Цэнтра і дзе рытуальны паўтор глыбінных ісцін адбываецца ўжо не адно тысячагоддзе. Зліццё салярнага і расліннага знакаў, квітнеючыя крыжы, асабліва папулярныя ў раннім хрысціянстве, і 'прафаннае', на першы погляд, "хрясты, я думаю, затым, штоб было ў што чапляцца лістам...", "з хряста ўсё пачынаецца..." — таксама часткі аднаго непарыўнага тэксту.

## 46.6. "Цярэшкі", "мятлушкі" ды іншыя "мухі"

Такімі ж паказальнымі знакамі з'яўляюцца ўзоры белага поля (сярэдзіны) ручніка. Часта іх тэма працягваецца і на калодках узорнай кампазіцыі. Тэмы "вачэй" і "вочак", салярныя і зорныя знакі; ахоўныя "лапы", якія ператвараюцца ў "цвяты"; нябесныя "мухі" і тагасветныя "цярэшкі", водна-нябесныя "вуткі"; ахоўнікі-"сабачкі" і пладаносныя абрадавыя "козкі", "козлікі"... Усе гэтыя назвы датычацца геаметрычных фігурак. Але парадокс



Мал. 71. Сярод "зялёных" святаў — Макаўе. На крыніцы ў Рудні Стаўбунскай. 1992 г.

для нашага ўспрымання — што менавіта гэтыя 'героі' ўзнаўляюцца потым у натуралістычным выглядзе ў вышыўцы пачатку XX ст. Шматгадовая цікавасць да вобразу адной з 'гераінь' — да "бабачкі", "мятлушкі", "цярэшкі" — вяла нас праз экспедыцыйныя доследы міфалагічных ды вобразных уяўленняў, псіхалагічнага ўспрымання, праз абрадавыя і ткацкія традыцыі.

Найбольш лаканічныя 'матылькі' — 'касыя' "цярэшкі" неглюбскага кола ткацтва. Міфалагічныя ўяўленні пра душу продка-родзіча, што з'яўляецца "на ўгодкі" ў выглядзе "матылька", характэрны для ўсіх традыцый 'вузла' (у экспедыцыйным апытальніку такое пытанне стаяла ў ліку галоўных). Неглюбская "цярэшка" (гл. фота 314 — на белым полі; 324, 334, 336 — на чырвонай калодцы па белым полі; 216, 326) мае прыкметы 'касога' ў форме, што зазвычай — праява Таго Свету (такія матылькі і з'яўляюцца ноччу). Магчыма, адная і тая назва "матылька" — узора і беларускага абрадавага персанажа (Цярэшка) — не выпадковае супадзенне. Яны суадносяцца па семе: продак (звяртанне да "Цярэшкі": "дзедзічка" ды іншыя рысы эратычнай гульні са смерцю. Апісанне абраду гл.: Киркор. 1882; Чурко. 1990. С. 38, 39). Падобныя супадзенні звяртаюць нашу ўвагу і на адну з калодак у неглюбскім ручніку. Яна завецца "чахонь" (старая назва рыбы і... шаблі). Але далёка ад нас "в Самаре, в последнее воскресенье перед Петровым постом, бывают *похороны чехони* — праздник, в который провожают весну" (Зеленин. 1995. С. 269). 'Ваенны' характар рэчаў-герояў 'пахаванняў' — "Стрялы", "Сулы", "Чахоні"-'шаблі' — мае старажытныя адпаведнасці. Вытворныя ад 'касых' "цярэшак" — асобныя "васьмірогі", што завуцца "глухоўкі з цярэш-

камі" (гл. фота 259, 318, 321). Семы 'глухога' як 'закрытага' і 'тагасветнага' ў суме з сімвалічным патэнцыялам "матылькоў"-"цярэшак" могуць мець архаічныя карані.

На тканінах з сумяшчэннем геаметрычных і выяўленчых рысаў некаторыя супастаўленні арнаментальных элементаў здаюцца часткамі 'білінгварнага тэксту'. Такі — ручнік з Навазыбкаўскага музею. На яго белым полі — матылі тыпу "цярэшкі". Праз паласу з "крывуляй" — узор, дзе складаныя фігуры нагадваюць паўночныя матывы з 'сонечнаю ладдзёй', побач з чатырма крыжамі і асаблівым відам "расколак", што таксама завуцца "цярэшкамі" (мы завем іх 'прамыя' "цярэшкі" — гл. фота 216). На платку з Кацічаў — менавіта яны (гл. фота 340), і ва ўзорах на платках выступаюць 'сінонімамі' "мушак", "мух". *Прамымі* "цярэшкі", магчыма, названы чыста асацыятыўна. На самой справе, гэта тыя самыя "расколкі" асобнага віду. Але майстрыха ўжывае іх менавіта як матылёў (з іх функцыяй увасаблення душаў родзічаў). Навазыбкаўскі ручнік, які памятае заканамернасці размяшчэння касмалагічных ярусаў, змяшчае прамыя "цярэшкі" ў нябесным сонечным ярусе. У геаметрычным чыне з прамым, простым крыжом-падзелам (які "расколвае" цэлы ромб, нібыта гаршчок на хрэсьбінах (вяселлі, у старажытным пахавальным абрадзе), закрытае — "глухоўка" (дзявоцтва, цяжарнасць, зіма, смерць). Адкрытае — "расколка" (з рэканструкцыяй сем 'раскрытага' ў дачыненні да архаічных сэнсаў ромба — 'зямля, вада, нябёсы, жанчына, вясна, пераход ад смерці ў жыццё і наадварот'). Заалагічнае 'личинка-куколка-бабочка' — усё насычана міфалагічнаю падасновай. Ніштo не перашкаджае ўспрымаць вясновую 'адкрытую' "расколку" ў яе белафонавым, 'нябесным' варыянце (гл. фота 316) як "цярэшку". Ці ёсць у гэтых нібыта асабістых асацыяцыях агульная архетыпічная энергія, каб быць за межамі выпадковасці, г. зн. 'у чыне'?

Асобны тып "васьмірогаў"-"расколак" у Нясвоеўцы майстрыха назвала нам "цярэшкамі" (гл. фота 330). Знакі, якія нагадваюць 'прамую' "цярэшку", — вакол трох жаночых фігур у ручніку з Медзведзяў (гл. фота 190). Цэлы чын "бабачак" у выглядзе 'расколатых' "васьмірогаў" існуе ў дубраўскай традыцыі (падрабязна глядзі ў гл. 2). Таямнічая 'бабачка' (але не названая нам) — у сярэдзіне "глухіх лапаў" па цэнтры кампазіцыі (Новыя Бабовічы, гл. фота 290). Яна і па цэнтры "глухіх" салярных знакаў з Верхлічаў (гл. фота 213).

Вернемся да навазыбкаўскага ручніка (гл. фота 216). Ніжэй за 'касыя', 'прамыя' "цярэшкі", у ярусе 'паміж зямной і нябеснаю цвердзямі' (ён пазначаны "крывулінамі" дажджу) дзве фігуры абрадавага статусу нясуць на руках па два 'сонцы'. Каля іх рук — 'на зямлі' — своеасаблівыя "прастолы" ('кралявецкага' тыпу). Аднак у агульнакультурнай традыцыі гэтыя 'катушкі' завуцца 'лябрысамі', 'двухлязовымі сякерамі' і '*бабачкамі*' (Голан. 1992. Рис. 322—324). Мы ўзгадвалі раней археалагічныя прыклады 'матылькоў-лябрысаў'. Стары знак, магчыма, кельцкага кругу. Знак калодак з квадратным падзелам і 'матылькамі'. Зазначым толькі тое, што сустракаецца ў нашых ручніках (назвы не ведаем, як і мясцовага тлумачэння). Гэтыя 'катушкі' могуць 'лётаць па небу' ручніка, чаргуючыся з сонечнымі знакамі (гл. фота 192, 194, 195, 200, кралявецкі 432), чым нагадваюць "мятлушак"-"цярэ-

шак" (гл. фота 216). Але паміж крыжыкамі 'ў небе' бываюць і стрэлападобныя матывы (гл. фота 395). 'Лябрыс' — і ў тулаве арла з Забор'я (гл. фота 208).

На ручніку ж з Навазыбкава (гл. фота 216) наступны ярус прысвечаны раскрыццю ромба. У яго адтуліны залятаюць касыя крыжыкі, падобныя да тых 'цярэшак', што бачылі ў прыкладзе 190. Зазвычай тут прамыя крыжыкі — "веряб'і". Як і на "крывулях". Але ў адной з іх — таксама крыжыкі-'цярэшкі' (пар. фота 317, 335 і 201). Такі самы касы крыж-'цярэшка' — ва ўзоры "кап'ё" (гл. фота 261). Паміж складанымі ромбамі ў прыкладзе 216 — крылатыя птушкі-крыжы. 'Крылатая' думка непакоіла і майстрыху з Лецяхоў **(фота 286)**, хоць яе ручнік — цалкам у 'чырвоным чыне'. Яе 'птушкі' — пары крыжыкаў з крылцамі. Па краі — знаёмыя "цярэшкі".

Неразгаданымі застаюцца і 'бабачкі' з чырвонапалосых ручнікоў з 'гарадкамі' (гл. фота 421, 422). Дастаткова ўявіць іх як запаўненне фігуры касога крыжа. Пакуль што.

Наколькі мае сэнс такое канкрэтнае сачэнне за тым альбо іншым матывам? На наш погляд, такі дослед не толькі выяўляе нешта значнае ў жыцці самога арнаментальнага элемента, але і робіць успрыманне розных кампазіцый, дзе такі элемент 'жыве', больш структурным. Так, назіранне за ўзорамі з вобразамі "мятлушак" дазволіла ўбачыць іх непасрэднае ўвядзенне 'ў жывую тканіну', у 'арганізм' непадзельнага да таго ўзора. Такія — 'матылькі' 'ў галаве' антрапаморфнай фігуры (ручнік са Случчыны апублікаваў М. С. Кацар, гл.: Кацар. 1996. С. 190). Узор абсалютна той, што мы бачылі і ў археалагічных прыкладах. 'Матылькі' — і ў знешніх зонах цэльнага ланцуга ромбаў. На палескай тканіне з Брэстчыны яны яўна ўведзены 'ў чын' (гл.: Лабачэўская. 1998. С. 284). Надзвычай складаная распрацоўка першаснай аднапалоснай кампазіцыі прадстае і ў другім прыкладзе пачатку XX ст., прыведзеным там жа (С. 286). Тэхніка вышыўкі нібыта вяртае магчымасць архетыпічна ўзгадаць аб пачатковай касмалагічнай існасці кожнага арнаментальнага элемента. Гэта тыя ж 'інь' і 'ян' нашага ткацтва — ромбы ў пары з касымі крыжамі. Аднак кожны з першаэлементаў — цэлы сусвет. 'Сусветная' — і сама паласа, гэта чын **а-б-а.** Але той яго варыянт, калі калодкі-беражкі нічым не аддзеленыя ад цэнтральнай паласы. Аб такіх 'шчыльных' чынах мы пісалі як аб магчымых прабацьках вертыкальнага чыну бесперапыннага пульсавання. 'Матылькі' існуюць тут у калодках — **а-** *зверху і ўнізе.* Угледзеўшыся, заўважым, што ўзор калодак чаргуе ромбы: з 'дзявоцкаю' "лапкаю", раскрыжаваныя 'жаноцкія' тыпу 'ніва' і расколатыя з 'вылятаючай' "бабачкаю". Асіметрычныя тройкі элементаў маюць яўна 'семантычнае' паходжанне.

На фотаздымках асіметрычных паласата-арнаментаваных ручнікоў пачатку XX ст. з Украінскага Палесся (Оўручскі раён Жытомірскай вобласці, пры тым, што Оўруч — колішні цэнтр драўлян) мы ўбачылі знаёмыя нам выявы 'касых' "матылькоў". Матыў меў схільнасць месціцца ў верхніх ярусах кампазіцыі. Даследчыца прыводзіць і мясцовую назву элемента: "мотилі" (гл.: Булгакова. 1999. С. 330—331). Апошні прыклад яшчэ раз узгадаў, наколькі захапляючыя пошукі чакаюць даследчыкаў ручнікоў. Хутчэй за ўсё, менавіта ў захаванні комплекса міфалагічных уяўленняў аб матыльку-душы продкаў-родзічаў дрэмле 'кукалка' падсвядомасці традыцый, маючых агульныя карані. "Мотилі", "мятлушкі", "бабачкі", "цярэшкі" не перастаюць вы-

11а Зак. 3512

водзіцца і лётаць у нябёсах ручнікоў. Оўручскія ручнікі захавалі больш архаічную тэхніку, казацка-балсунскія — больш архаічную колеравую гаму. Розніца ў іх нясе інфармацыю не толькі аб часавым развіцці, але і аб розных суседзях... Але 'матылькі' застаюцца. Цікавым напрамкам здаецца і выяўленне блізкіх комплексаў у вялікай сістэме уяўленняў аб матыльку з наступным супастаўленнем такіх парадыгм з 'парадыгмамі' і фармальнымі характарыстыкамі арнаментальных элементаў з назваю 'матылькі'. Так, на фоне агульнаславянскага 'матылёк-душа' ў палескіх матэрыялах украінскага і беларускага паходжання, як і ў будучых мясцовых доследах, можна шукаць праяўлення апазіцый: 'начны / дняўны'; белы / чырвоны (красны)'; 'душа свайго / душа чужога' (памёрлы родзіч і — "відьма"; Житомірская вобл.) ды г. д. (гл.: Гура. 1997. С. 486—492; дзе можна знайсці і бібліяграфію; тэме "бабачкі"-"мятлушкі"-"цярэшкі" былі прысвечаны і нашы экспедыцыйныя доследы). Апазіцыі 'белы / чырвоны'; 'касы / прамы'; 'змешчаны ў 'стыхійным' / 'культурным' ярусах кампазіцыі'; 'знак-сімвал старой — альбо маладой жанчыны'; 'вольны / улоўлены' і г. д. рэалізуюцца ў арнаментальных кампазіцыях ручнікоў і ручніковых тканін. Надыйшоў (ці беззваротна страчаны?) час 'лавіць матылькоў' у структурна зразумелых тканінах-тэкстах, як калісьці тое рабілі біёлагі, каб апісаць і выратаваць генны фонд прыроды. Архетыпічна ж гэта — выратаванне душ і душы сваёй культуры.

...Мы бачылі, што крылатымі бываюць дрэвы, стрэлы, пара касых крыжоў, пара прамых крыжоў (калі не лічыць арлоў, розных птушак, матылькоў, мух ды інш.).

У канцы нашага падарожжа возьмем у рукі тканіну з в. Пералазы (дзе памятаюць, што "пірялезлі чэраз рэчку" Дарагоўшу — ад Каўпіты; гл. фота 170). Па верхняй белафонавай паласе гэтага ручніка ляцяць чатыры маленькія 'арлы'. Яны вельмі падобныя да 'почапскага арла', знака на гліняным сасудзе (I ст. н. э.) позняй зарубінецкай культуры. Паміж імі — 180 км. Што паміж імі — у часе?

## 47. ПРАЦЭСЫ НА ПОЎДЗЕНЬ АД АСНОЎНАГА РЭГІЁНУ. ЗНАЁМСТВА З ЧАРНІГАЎСКАЙ КАЛЕКЦЫЯЙ

Выбарачнае знаёмства з тканымі ручнікамі ў фондах Чарнігаўскага гістарычнага музею імя В. В. Тарноўскага адбылося з ласкавага дазволу яго супрацоўнікаў і з дапамогаю, перш за ўсё, загадчыцы аддзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Штанкінай Ірыны Валер'еўны і захавальніка гістарычнай групы рэчаў Ганчарэнка Вікторыі Сямёнаўны. Папярэднія вынікі такога знаёмства (гл.: Нячаева, Штанкіна. 2004. С. 25—30) вельмі адносныя і могуць змяняцца па меры далейшых сумесных доследаў.

Чарнігаўская вобласць Украіны, што збірае воды рэк у Дзясну, ляжыць на поўдзень ад рэгіёна доследаў і мяжуе на паўночным захадзе па Дняпры з Брагінскім раёнам (міжрэчча Прыпяці — Дняпра, усходнепалеская зона ручнікоў); далей па паўночнай мяжы — з Лоеўскім, Добрушскім раёнамі Гомельскай вобласці (вусце Сожа ў Днепр, нізоўе Сожа ды Іпуці, падняпроўская зона ручнікоў); далей на ўсход — з Навазыбкаўскім і Старадубскім раёнамі Бранскай вобласці (міжрэчча Іпуці — Дзясны).



Мал. 72. "Расколатыя" зоркі па белым полі ручніка ў Канічах (Касцюковіцкі раён). 1998 г.

Перш за ўсё адзначым пашыранасць чырвонапалосных ручнікоў (як блізкіх да агульнапалескага тыпу, так і роўнапалосных). Гэтыя тканіны найбольш частыя на пэўных тэрыторыях. Яны ахопліваюць чарнігаўскія землі падковаю: па паўднёваму захаду (уздоўж мяжы з Кіеўшчынай), па захаду (мяжа з беларускім Усходнім Палессем), уздоўж паўночнай мяжы. Амаль усе перайшлі на двухутковую шматрамізную тэхніку выканання. Сустрэўся адзіны ручнік з аднаутковай саржавай сярэдзінай, на жаль, без дакладнага месца паходжання, ён жа — адзіны, дзе ёсць паласатая сярэдзіна. Усе перагледжаныя астатнія тканіны маюць белую сярэдзіну, што здаецца выразнаю агульнаю адметаю. Аднак слушней казаць, што сярэдзіна не белая, а ‘цэлая’, таму што яна вытканая ўзорным шматнітовым ткацтвам, а схільнасць ужываць у якасці асновы каноплю і ткаць льном, або спалучаць лён і баваўну дае выразную фактуру і шэра-белыя ўзоры, што ўзмацняецца ў напрамку на поўдзень.

Другою агульнаю адметаю здаецца тое, што ў чырвоных палосах чарнігаўскія ручнікі не мяняюць тэхнікі, працягваючы ткаць той жа ўзор, цяпер ужо з чырвоным утком (гл. падобны пінскі ручнік; Лабачэўская. 2002. Мал. 15). Гэта акалічнасць супрацьстаўляе іх палескім беларускім ручнікам. Апошнія найчасцей мяняюць шматнітовую тэхніку на рыпс у чырвоных палосах, розніца ў спосабе ткання фона і палос падкрэсліваецца. Чырвоныя палосы быццам стрымліваюць ‘новы’ рамесніцкі націск, аддаючы ‘стыхіі’ ўзорнага фон. Так можа праяўляцца даўняя апазіцыя: аднаутковая саржа белага — чырвоны рыпс. Магчыма, менавіта наяўнасць узорных калодак у паралельна існуючых арнаментаваных ручніках схіліла чарнігаўскіх майстрых рабіць аднолькава ўзорнымі і ‘новы’ шматнітовы белы фон, і калодкі-палосы. Арнаментаваныя тканіны тут маюць белую палатняную сярэдзіну і фон, таму, магчыма, новая ўзорыстасць лёгка лягла па ‘палатняных’ традыцыях і снівяліравала былую апазіцыю: белае палатно / узорныя палосы.

Колькасць, размяшчэнне і групоўка чырвоных палос захоўваюць рытмічную карціну сваіх узорных варыянтаў, бы паэтычная схема, што завецца ‘рыбаю’, задае меру будучаму вершу. Сёння мы яшчэ не ведаем дакладнай адпаведнасці паміж чырвонапалоснымі і ўзорнымі ручнікамі. Аднак тэрытарыяльна чырвонапалосныя чарнігаўскія маюць наступныя адрозненні.

Паўднёвы захад (Ічня — Казялец[1] уздоўж кіеўскай мяжы): найболей сціплае аздабленне з 1—2 вузкіх і 1 шырэйшай палоскі на самым канцы.

Хутчэй за ўсё, з захаду (паблізу ад Брагіна) — той адзіны аднаутковы па фоне ручнік, што мае кампазіцыю з шасці палос і пацяжэнне чырвані да нізу.

Паўночны захад (Гародня, пад Добрушскім раёнам Беларусі): люстрана-сіметрычная кампазіцыя тыпу **а-б-а**, дзе **б** — больш шырокая паласа. Выразна адметныя і 'берагі' тканіны, уздоўж якіх у аснову ўведзены чырвоныя ніткі, ад таго ручнік мае скразныя падоўжныя палосы, што 'зіхацяць' у шматнітовым узоры. Ёсць і другі спосаб падкрэсліць падоўжную вось: бела-шэрыя ўзоры фона згушчаюцца да 'берагоў', ад сярэдніх 'кругоў' ідзе хваля, што паблізу ад абодвух краёў дае скразную падоўжную 'крывулю'-зігзаг. Магчыма, гэта своеасаблівы 'ўспамін' аб сустрэчы вертыкальнага і папярочнапаласатага тыпаў ручнікоў (у старэйшым слоі дубраўскай традыцыі браныя тканіны ўбіраюць гэтыя ж — люстрана-сіметрычны і вертыкальны — імпульсы).

Далей на ўсход цэнтрычны (люстрана-сіметрычны) імпульс самой кампазіцыі чырвоных папярочных палос слабейшы: **а-б-б-а**, дзе **б** — шырэйшыя (Мена, бліжэй да Дзясны, на поўнач ад яе, пад Навазыбкаўскім раёнам Браншчыны). На паўночным усходзе (Сямёнаўка, міжрэчча Іпуці — Дзясны) цэнтрычны імпульс знікае: **а-а-а-а...**

Такім чынам, можна выказаць самыя асцярожныя заўвагі аб магчымым існаванні двух 'асіметрычных' імпульсаў з захаду і з усходу, паміж якімі жыве люстрана-сіметрычны тып кампазіцыі, а таксама дапусціць дзеянне 'вертыкальнага' імпульсу на поўначы тэрыторыі.

Што датычыцца ўзорных тканін, то патрэбна адзначыць, што найбольш развіты і жывы працэс назіраецца ў вышываных ручніках, маючых і больш часавы 'рэгістр' у параўнанні з вядомым беларускім матэрыялам. Узнаўленне амаль страчаных тыпаў тканых кампазіцый здаецца магчымым праз параўнанне з кампазіцыямі вышыванага арнаменту, як і ідавочны ўлік ўзаемаўплываў ткацтва і вышыўкі. Тканыя ўзорныя ручнікі (большасць з разгледжаных — канец XIX — пачатак XX ст.), на першы погляд, здаюцца бясконцым тыражыраваннем кралявецкіх ручнікоў і вясковымі перапевамі іх матываў, аднолькавымі для старонняга назіральніка. Уласна кралявецкая традыцыя багацейшая і патрабуе асобнага і працяглага доследу. Нас жа цікавіў працяг асобных традыцый, што маглі б спускацца з поўначы (альбо ўздымацца з поўдня да нас). Усе ручнікі — белафонавыя, абсалютная большасць — тканыя кралявецкім пераборам (лускаватым, з чаргаваннем нітак асновы 1—3, з густым засцілам правага боку). Толькі паступова пачалі акрэслівацца адрозненні, у якіх праяўляліся мясцовыя асаблівасці. Цяпер яны пpаглядалі ў якасці слядоў даўніх фармальных і семантычных апазіцый. Так у час гэтага першага знаёмства з соцень тканін вылучыліся каля сарака ручнікоў 'з асаблівасцямі', якія можна групаваць тэрытарыяльна. Гэта рэчы з працяглай паўночнай мяжы і з 'сярэдзінных' раёнаў Чарнігаўшчыны.

[1] Тут і далей — назвы цэнтраў раёнаў.

Паўночны захад (Рэпкі, міжрэчча Дняпра — Дзясны блізка ад яе вусця; праз Днепр, ніжэй вусця Сожа — Брагін, з усходу — Замглайскія балоты, што аддзяляюць гэтыя мясціны. Шлях тут пракладзены ў XVIII ст.). Паласатыя, па полю — групы вузкіх пруткоў, напрыклад чырвоны-сіні-чырвоны-сіні-чырвоны. Узорны канец: адчуваецца мяжа сіметрычных і асіметрычных традыцый (с. Вярбіўка, с. Звенічаў). Кампазіцыі: **а-б-а** ў 'чыстым выглядзе' альбо з дадатковай **в** зверху; напрыклад: **а** — 'расколкі' расліннага выгляду, **б** — цэнтр тыпу 'васьмірогі ў пагонах', **в** наверсе кампазіцыі — праРослыя стрэлкі (назвы па аналагах нашых). Таксама пабудаваны і пяціпалосныя ручнікі. Альбо асіметрычны: пяць палос, дзе 'змагаюцца' кралявецкія і ўласныя матывы (4 мужчынскія постаці; 3 'свячніка', 2 арла, пара крыжоў у ромбах, 'глухоўкі'-'самавары'). Калодкі паміж узорамі — двух тыпаў: паласатыя і ўзорныя ('цаглінкі' тыпу 'вутак').

Поўнач (Гародня, мяжуе з нашым Добрушскім раёнам). Пануе люстрана-сіметрычная кампазіцыя. Падобныя да дубраўскіх, але па ткацтву — больш архаічныя (лён па каноплі, лён па льну). Больш грубыя і простыя і ўзоры. Спалучаюцца геаметрычныя, раслінна-геаметрычныя, 'кралявецкія' матывы. У в. Макішын (завуць і Макошын) на Снове, па карце ніжэй за нашу Усохскую Буду, пяціпалосныя альбо сяміпалосныя люстрана-сіметрычныя ручнікі. Сярэдзіна белая альбо з вузкімі чырвона-сіне-чырвонымі пруткамі, такія ж і калодкі. Перабор кралявецкі 3:1. Тут набыты і адзіны сяміпалосны ручнік з узорнымі калодкамі ('крывулька'), дзе прыцэнтравыя сіметрычныя палосы выкананы ў выбарнай тэхніцы, цэнтр жа і астатнія — у бранай (што маюць і дубраўскія тканіны). Узоры — 'лапы'-'ряшоткі', 'васьмірогі', 'глухоўкі' (назвы па аналагах). Цэнтральная паласа вылучаецца значна большаю шырынёю. Усё гэта дазваляе бачыць у гараднянскіх ручніках працяг той жа традыцыі, што і ў Дубраўцы ды іншых вёсках уздоўж левых прытокаў Іпуці і ніжэй за яе вусце (у Сож). Цяпер можна падоўжыць тэрыторыю гэтага імпульса на паўднёвы усход да Снова, правага прытока Дзясны. Нагадаем, што і чырвонапалосныя ручнікі з Гараднянскага раёна маюць люстрана-сіметрычную кампазіцыю палос і белую сярэдзіну.

Чарнігаўскі раён — на поўдзень, вакол Дзясны (міжрэчча Дняпра — Дзясны, ніжэй за вусце Сожа, з усходу — Сноў у Дзясну). У Новым Белавусе ёсць ручнікі таго ж імпульсу: белафонавыя з пруткамі па белай сярэдзіне, што групуюцца па тры—пяць і маюць 'сінюю' адмеціну, калодкі шчыльныя паласатыя. Тут тая ж люстраная сіметрыя пяці палос **а-б-в-б-а**. Напрыклад: **а** — развітая раслінная 'крывуля', **б** — 'лапкі'-'мядзведзі', **в** — цэнтральная шырокая паласа з параю працвіўшых па дыяганальным восям крыжоў-разетак. У Калычоўцы на левым беразе Дзясны бачым тую ж пяціпалосную кампазіцыю, але геаметрычныя матывы змяняюцца кралявецкімі 'бабамі'-'свячнікамі', сіметрыя перамагаецца выяўленчымі матывамі.

Аднак у Новым Белавусе і Махнаціне (яны на правым прытоку Дзясны — Белавусе, на захад ад р. Замглая, што цячэ з Замглайскіх балот) тая ж усходне-заходняя мяжа сіметрычнага і асіметрычнага імпульсаў. 'Заходнія' тканіны развіваюць непаўторныя матывы на сямі палосах і маюць дзве адметныя кампазіцыі. Яны альбо павялічваюць памеры ўзораў да цэнтра (уздзеянне люстранога імпульсу), альбо раўнамерна цяжэюць да нізу ('дазамглайскі'

заходні асіметрычны імпульс). З выяўленчых матываў (птушкі, людзі, арлы, падсвечнікі), з раслінных хвалістых 'крывуль', з геаметрычных крыжоў, 'расколак', разетак і г. д. складаюцца кампазіцыі, якія месцяць арнаментальныя элементы па іх 'важкасці' і памеру, а таксама па ярусных уяўленнях аб месцах птушак, людзей... Усё гэта вагаецца, тым больш, што калодкі — двух тыпаў: паласатыя і ўзорныя. На ручніках, дзе калодкі ўзорныя, усё амаль зліваецца ў бесперапыннае пульсаванне арнаменту — 'карціны'. Маляўнічаператвараюцца і ўзоры саміх калодак. На адным ручніку яны складаюцца з асобных 'катушак', на другім — гэта шэрагі амаль натуральных стрыказак.

Побач, але за Дзясною, на поўдзень — Кулікоўка. Паўночна-паўднёвая вось сіметрычных кампазіцый (Дубраўка — Гародня) тут перарываецца альбо заканчваецца (вв. Выблі, Грабіўка, Драздоўка). Ручнікі белафонавыя і з белаю ж сярэдзінай, маюць па пяць палос, але яны несіметрычныя. Парадак чаргавання матываў: **а-б-в-г-в**. Тут — адзінае месца, дзе ўзнікаюць рыпсавыя чырвоныя калодкі (аднапалосныя і падвойныя) і сляды іншага рытму ў пераборы: 2-2. 'Прыпеў' матыву (**в**) нагадвае працэсы на паўночнай ускраіне 'сіметрычнага імпульса' — у стаўбунскіх ды іншых ручніках, што адчуваюць уздзеянне сіметрыі на ўласную асіметрыю.

У Мене (той, дзе чырвонапалосныя ручнікі мелі рытм **а-б-б-а** ды дадатковыя чырвоныя падоўжаныя палосы паўз 'берагі') на пераборным ручніку са Стольнага — звычайная тут кралявецкая тэхніка і арнаменты (уздоўж Дзясны — усяго кіламетраў семдзесят да Краляўца, які — у чатырох вярстах за сучаснай чарнігаўскай мяжою). Два чырвоных зігзагі ўздоўж усёй тканіны, фігуры ідуць зверху кампазіцыі адна за адной (3 'свячніка', арол, 'дрэва') і ўвасабляюць 'мадэль сусвету', але ніжэй — падзеленыя рудыментарнымі ўзорнымі калодкамі дзве паласы: перароблёная 'крывуля' і змененыя 'глухоўкі'. Быццам старая паласатая кампазіцыя адціснута на ніз. Калі 'адправіцца' далей на паўднёвы ўсход да Палтаўскай вобласці, трапім у Барзнянскі раён (р. Борзна — у Доч — у Дзясну, левыя, ніжэй упадзення Сейма). Тут, на ручніку з геаметрычнымі матывамі (тыпу 'шашкі' — 'цярэшкі-расколкі') не адчуваецца ўжо ні 'вертыкальнага імпульсу', ні 'сіметрычнага'. Калодкі трохпалосныя, шырокія, палатняныя, сярэдзіна белая, рытм чаргавання ўзораў **3(а-б)**, г. зн. пара ўзорных палос, падзеленых калодкамі, паўтараецца тройчы.

На крайнім паўднёвым усходзе, ля мяжы Сумскай і Палтаўскай вобласцей — доўгі палатняны белафонавы ручнік з вузкімі пруткамі па сярэдзіне, мае рытм узорных палос на канцах **5(а-б)**, прычым іншых калодак няма, узор **а** можна лічыць і ўзорнай калодкай — асобныя элементы паміж чырвоных пруткоў, якіх не кранаюцца (Дзягтары Срэбнянскага раёна).

### 47.1. Улік 'чарнігаўскіх' кампазіцый ва ўяўленні аб архаічных імпульсах узорнага ткацтва

Сярод ручнікоў нашага рэгіёна доследаў найболей блізкія чарнігаўскім матэрыялам белафонавыя ручнікі з паласатымі альбо ўзорнымі калодкамі. Але як у чарнігаўскіх, так і ў беларускіх, і ў рускіх памежных традыцыях існуюць два тыпы папярочнапаласатых ручнікоў — з сіметрычнаю і асімет-

рычнаю кампазіцыямі ўзорнага канца. Так, як мы адзначылі вышэй, сіметрычны тып — у гомельскага дубраўскага, у чарнігаўскага гараднянскага і часткова — ва ўласна чарнігаўскага ручнікоў. Зразумела, што і сённяшнія, і былыя землі Чарнігаўскай губерні найбольш адчулі на сабе і ўплыў кралявецкага ткацтва.

Аднак пытанне аб сіметрыі/асіметрыі — шырэйшае за працэсы на памежжы Чарнігаўшчыны і Гомельшчыны. Тут яно мае ў складзе ўдзельнікаў дыялогу носьбітаў паласатых і ўзорных калодак. Таксама можна ўбачыць, што асіметрычныя імпульсы зыходзяцца адзін да аднаго з захаду і з усходу. Заходні тып прадстаўляе кампазіцыі 'з пацяжэннем' палос арнаменту да нізу і больш нам знаёмы як па палескіх тканінах, так і па ручніках Цэнтральнай Беларусі. Усё больш пераканаўча ён павязваецца сучаснымі даследчыкамі з 'дрыгавіцкім' імпульсам (альбо, магчыма, з яшчэ больш архаічнаю спадчынаю паўднёва-заходняй групы ўсходніх славян). Усходні тып, калі першыя назіранні акажуцца не выпадковымі, у чарнігаўскіх ручніках дае раўнамернае чаргаванне двух матываў: вузкай і шырокай палос — з паўторам іх некалькі разоў: **3(а-б)**, **5(а-б)** і г. д. Вузейшая паласа падобная да ўзорнай калодкі. З гэтага пункту гледжання вызываюць цікавасць падобныя чаргаванні ў ручніках уздоўж Беседзі — з напрамкам на паўночны ўсход — і некаторыя веткаўскія матэрыялы. З дадатковымі ўдзельнікамі працэсу, а менавіта з носьбітамі чырвоных калодак, — падобны працэс можна назіраць і ў міжрэччы Сожа — Беседзі (традыцыі з паўторам аднолькавых палос ды тым жа чаргаваннем).

Аднак удасца альбо не, вылучыць 'усходні' асіметрычны імпульс, бачна, што паміж заходняю і ўсходняю асіметрыяй існуе пругкі сіметрычны імпульс. Ён 'заканчваецца', па сённяшніх назіраннях, ля Чарнігава і апошнюю выразную сіметрычную традыцыю на поўдні дае ў Гараднянскім раёне.

Вышэй на поўнач сіметрычны локус пашыраецца. Дубраўская традыцыя ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці мае асноўны люстрана-сіметрычны тып, але дзвюх разнавіднасцей: **п-1-п** і падоўжана-сіметрычны ручнік. Падоўжана-сіметрычныя тканіны — і ў Гомельскім раёне, да таго ж тут, у Раманавічах выпрацоўваецца сіметрычная кампазіцыя **2а-3а-2а**. Гэта сведчыць аб тым, што ў сіметрызацыю ўцягваецца вертыкальны бескалодкавы тып ручнікоў, якія спускаюцца з поўначы ды існуюць паміж заходнімі паласатымі асіметрычнымі тканінамі і ўласна люстрана-сіметрычным тыпам **п-1-п**. Аднак з паўднёвага ўсходу яшчэ дзейнічае 'другі' асіметрычны імпульс (з паўторам **а-б** альбо **а-а-а...**). Такія — частка ручнікоў той жа дубраўскай традыцыі.

Узняўшыся на поўнач далей, атрымаем наступны 'гарызантальны зрэз' сіметрычных з'яў. Паміж Дняпром і Сожам вертыкальны тып імкнецца ператварыцца ў падоўжана-сіметрычны (Буда-Кашалёўскі раён). Па Сожу 'языком' спускаецца ды захапляе вусце Беседзі вертыкальная прыснянская традыцыя. Паміж Беседдзю ды Іпуццю сіметрыя працуе з трыма тыпамі старых кампазіцый (як у Дубраўцы) і ў закружскіх ручніках, хоць яны старэйшай бранай тэхнікі. На Іпуці — старая бабовіцкая традыцыя **п-1-п**.

Вышэй сіметрычны працэс захоплівае браныя і закладныя ручнікі рагачоўскага тыпу (імкненне да сіметрыі, выдзяленне цэнтра). Ад Дняпра да Сожа такія ручнікі ідуць уздоўж прытокаў і ў чачорскай закладной традыцыі і ў бабіцкай бранай зноў сустракаюцца з 'усходнім' тыпам асіметрыі: неаднакратны паўтор **а-б** альбо **а-а-а...** У Кармянскім раёне, вышэй па Сажы, традыцыя 'бабіцкага' тыпу і актыўнае 'рассоўванне' браных палос закладнымі матывамі, такія ж пругкія рыпсавыя чырвоныя 'вольныя палоскі'. Працэс сіметрызацыі характэрны і пераможны.

На другім баку Беседзі ў Стаўбуне тая ж сітуацыя дае чырвоны вынік і ваганне асіметрыі/сіметрыі. Міжрэчча Беседзі — Іпуці выразна сіметрычнае. Тут — неглюбскія, верашчацкія тканіны тыпу **п-1-п** у дзесятках населеных пунктаў. Тое, што адны з іх па паходжанню чырвонакалодкавыя, другія — узорнакалодкавыя, прыводзіць да высновы, што сіметрычны імпульс уздзейнічае на розных удзельнікаў старога дыялогу. Сіметрычныя — рэчы з Казацкіх Балсуноў, хоць маюць успамін аб асіметрыі ў дадатковых палосах узора зверху альбо ўнізе. Ад Краснай Гары на Беседзі ў напрамку на поўнач да Краснаполля, што бліжэй да Сожа, той жа працэс узаемадзеяння асіметрыі/сіметрыі, але больш выразны. Краснагорскія і краснапольскія тканіны — аднаго тыпу. Сіметрыя перамагае ў іх, і тады гэта казацка-балсунскія аналагі. Асіметрыя 'не здае пазіцый' — і мы бачым на ручніках сіметрычныя групы, пацяжэнне арнаменту да цэнтра і 'дадатковыя' непаўторныя палосы, найчасцей у верхняй частцы кампазіцыі. Краснапольскія тканіны 'мнагаслоўныя', яны быццам імкнуцца выказаць важнае для кожнай з патаемных спадчын, што пакінулі ў падсвядомасці ткачыхі папярэднія розныя ўдзельнікі даўняга дыялогу (Лабачэўская. 2002. Мал. 126—133). Пасля знаёмства з чарнігаўскаю калекцыяй нешта важнае прасвечвае ў разуменні белафонавых узорных палос, што палюбіліся і краснапольскім тканінам. Мернае ўзнаўленне паміж чырвонымі палосамі аднаго і таго ж белафонавага матыву (Лабачэўская. 2002. Мал. 127) нагадвае ўзорныя пераборныя белафонавыя калодкі, характэрныя для часткі чарнігаўскіх і для дубраўскіх ручнікоў, а ў агульным кантэксце — і тыя больш старыя ўзорныя браныя калодкі, што захаваліся ў бабовіцкай і шэрагу іншых традыцый на ўсходняй мяжы чырвонакалодкавых традыцый. Такія браныя калодкі як рудымент сустракаюцца і ў чарнігаўскіх тканінах. Яны фіксуюць узаемадзеянне ўсходняга асіметрычнага імпульсу з сіметрычным імпульсам, што ўздымаецца на поўнач паміж заходнімі і ўсходнімі паласатымі тканінамі.

Аднак чым вышэй на поўнач, тым больш заходнія паласатыя ручнікі, з тэндэнцыяй пацяжэння арнаменту да нізу, адціскаюцца далей на захад вялікім 'языком' вертыкальных кампазіцый, што спускаецца па Сажы да вусця Беседзі. Ён у змененым выглядзе яшчэ існуе ў падоўжана-сіметрычных браных гомельскіх і добрушскіх (дубраўскіх) тканін.

Яшчэ вышэй, на заходнім баку Бярэзіны, — ужо 'чысты' заходні паласаты тып (асіповіцкія тканіны). На ўсход — паміж Ольсаю (левым прытокам Бярэзіны) і Друццю (правым — Дняпра) — кіраўскія вертыкальныя ручнікі.

Уздоўж Дняпра, на ўсход, 'заходні' тып узаемадзейнічае з вертыкальным і дае слаўгарадска-быхаўскія паласатыя ручнікі з вертыкальнымі матывамі на пашыраных палосах. Іншыя слаўгарадскія — вертыкальныя і адчуваюць подых люстраной сіметрыі. У Быхаўскім жа раёне зліваюцца ў вертыкальную кампазіцыю матывы 'лапа-кruчча', што ніжэй падзяляюцца чырвонымі калодкамі ў Бабічах на левым беразе Сожа. Яшчэ на ўсход — у Крычаўскім раёне на Сажы — краснапольскі тып з удзелам чырвонафонавых і белафонавых палос у адной кампазіцыі, ён дацягваецца сюды са Слаўгарада, аднак матэрыялы нам амаль невядомыя. На паўднёвы ўсход, у Клімавіцкім, Касцюковіцкім, Хоцімскім раёнах Магілёўскай вобласці, у міжрэччы Сожа ды Іпуці — знаёмая нам сітуацыя з удзелам 'роўнапалосных' ручнікоў 'усходняга' тыпу. Аднак калі ў чарнігаўскіх тканінах сляды 'роўнапалоснай' кампазіцыі захаваліся на ўсходзе толькі ў чырвонапалосных і пераборных узорных ручніках тыпу **3-5(а-б)** (вельмі адносныя і абрывачныя звесткі першых назіранняў), то ў Магілёўскай вобласці — архаічныя браныя роўнапалосныя чыны. Такому **а-а-а...** мы спярша падзівіліся ў валосавіцкай традыцыі ў Чачэрскім раёне, але там — у чырвонакалодкавым атачэнні.

Тут жа, на крайнім усходзе Магілёўшчыны, усе варыянты ўзаемадзеяння роўнапалоснага чыну з рознымі ўдзельнікамі. Гэта і 'рассоўванне' браных палос (і нават ператварэнне іх ва ўзорныя калодкі) вышыўкаю, закладным ткацтвам. Гэта і той жа працэс, але з удзелам чырвоных калодак, гэта дубляванне функцый калодак — чырвонымі палосамі і вузкімі ўзорнымі паскамі паміж іх. У Бяседавічах ля Хоцімска — чырвонафонавыя палосы імітуюцца за кошт бранай тэхнікі: шчыльна затыкаюцца чырвоным белыя фоны і выяўляюцца фонавыя фігуры. Асіметрыя — родная для гэтых ручнікоў. І нам здаецца, што гэта — 'усходні' тып яе.

Упершыню сталі зразумелыя паралелі паміж мясцовымі ўзорнапалоснымі ручнікамі і геаметрыяй абрадавага нанясення знакаў на дно ракі ў час вызывання дажджу. Калі раней мы адзначылі супадзенне такіх знакаў з арнаментальнымі элементамі на ручніках, то цяпер сталі бачныя яшчэ больш глыбінныя 'супадзенні': у Касцюковіцкім раёне замалёваныя схемы, дзе ўдзельнікі абраду рухаюцца ўздоўж ракі, пры гэтым наносяцца на дно асобныя крыжы (у Клеевічах), падоўжная баразна перахрышчваецца папярочнымі рысамі (у Белым Камені), урэшце, проста праводзяцца падоўжныя барозды з паваротам туды — назад, тройчы (у Відуйцах). Магчыма, гэта абрадавыя адпаведнасці калодкам — узорным, гарадчастым, простым.

Каб быць паслядоўнымі ў назіраннях за тыпамі ручнікоў, уздымемся яшчэ вышэй уздоўж Дняпра. Магілёўскія, шклоўскія, горацкія тканіны (па назвах раёнаў) працуюць з вертыкальным тыпам кампазіцыі. Сіметрычны імпульс тут ужо не дзейнічае. Побач Смаленская вобласць, да і самі гэтыя тэрыторыі археалагічна — крывіцкія.

У выніку нашага стамляючага падарожжа нам удалося, здаецца, высветліць для сябе некаторыя непарыўныя 'ізаглосы' ў бясконцай зменлівасці

традыцый тканых ручнікоў. Адказ на пытанне аб тэрытарыяльным распаўсюджванні люстрана-сіметрычнага імпульсу месціць яго ў выглядзе 'чоўна', арыентаванага з поўдня на поўнач. Яго памер — ад поўначы Чарнігаўшчыны да сярэдзіннай Магілёўшчыны. Падобна энергетычнаму полю, імпульс гэты ўбірае ў сябе самыя розныя з'явы, узаемадзейнічае па краях з іншымі імпульсамі, ператварае ў зоне свайго дзеяння як паласатыя (заходнія і ўсходнія) традыцыі, так і паўночныя вертыкальныя. Магчыма, захаванне на яго тэрыторыі самых архаічных чыноў — сведчанне архаічнасці і яго самаго. Гэта сярэдзінныя землі радзімічаў.

Толькі далейшае тэрытарыяльнае пашырэнне доследаў ткацкіх традыцый дасць новыя адказы і новыя пытанні аб неверагодна захапляючай з'яве — аб істоце і адвечна ўзнаўляемым тэксце — аб ручніку ды яго арнаментах, што здаюцца формуламі і канстантамі нашай духоўнай культуры.

# 48. ВЫЗНАЧЭННЕ ПРАБЛЕМЫ

Традыцыйныя жанры фальклору: казкі, песні, замовы, міфалагічныя аповеды ды іншыя — на структурным і зместавым узроўнях, без сумневу, захавалі вызначаныя архаічныя ўяўленні чалавека аб навакольным асяроддзі. Вывучэнне фальклорнай 'карціны Свету' — гэта дастаткова складаная праблема, пры вырашэнні якой неабходна ўлічваць, што група твораў і нават якія-небудзь асобныя жанры не даюць цэласнага бачання гэтай 'карціны', што ў многім абумоўлена іх строгай функцыянальнасцю і прымеркаванасцю. Акрамя таго, традыцыйны фальклор як факт вуснай культуры мае стадыяльны характар, ён у значнай ступені трапляе пад уплывы, не з'яўляецца застылым помнікам, працягвае развівацца на нашых вачах і не дазваляе правесці татальную фіксацыю сваіх асобных формаў. Усё гэта значна абцяжарвае працу, і часам безумоўная няўдача чакае даследчыкаў фальклорных карцін Свету. Тым не меней, у многіх выпадках пры вывучэнні архаічных



Мал. 73. Зрэзы памяці і жывы голас. Янова (Веткаўскі раён). 1998 г.

уяўленняў аб космасе, традыцыйнай народнай свядомасці і ментальнасці ў нас няма іншай ці больш надзейнай крыніцы, чым фальклор.

Даследаванне па арнаменту выявіла існаванне некалькіх зон, адрозных па характары арнаментаў: прыснянская, казацка-балсунская, неглюбская, бабіцка-валосавіцкая і дубраўская. Фальклорная традыцыя рэгіёна, ручнікі якога сталі асновай для гэтага даследавання, зафіксавана нераўнамерна. Найбольш поўна ў рэгіёне запісаны тэксты замоў. Сёння ў калекцыі музея — каля 600 падобных тэкстаў, што дазваляе, на наш погляд, суаднесці іх з нашай калекцыяй ручнікоў на роўных пачатках (Лапацін. 1999, 2001а, 2001б, 2001в, 2001г, 2002б). Варта ўзгадаць, што першыя запісы замоўна-заклінальнага фальклору тут былі зроблены яшчэ Е. Р. Раманавым (Романов. 1891), а пасля яго вывучэннем і зборам займаліся Г. А. Барташэвіч (Замовы. 1992) і В. С. Новак (Таямніца замоўнага слова. 1997).

Спроба суаднесці два тыпы тэкстаў: вербальны (замовы) і арнаментальны (ручнікі) — і выявіць у іх нешта агульнае ўяўляецца нам поўнасцю заканамернай. Тут можна назваць некалькі аб'ядноўваючых і першы, і другі від тэкстаў характарыстык. І замова, і ручнік існавалі ў адзіным прасторава-часавым вымярэнні, носьбітамі замоўнай і арнаментальнай традыцый, што разглядаюцца, была адна і тая ж, дастаткова суцэльная ў сваёй масе, этнічная група. У сваёй аснове абодва віды тэкстаў захоўваюць дакладна вызначаныя архаічныя ўяўленні чалавека пра навакольны свет ды інш. Але самае істотнае: пры вывучэнні веткаўскіх ручнікоў аўтары гэтай працы ўпершыню праз выяўленую імі тэрміналогію змаглі 'пачуць' арнаментальную геаграфію ручнікоў, гэта азначае — дадзены тэкст загаварыў. А самае галоўнае, загаварыў мовай носьбітаў веткаўскай замоўна-заклінальнай традыцыі. З другога боку, замоўныя аповеды, як паказалі працы многіх даследчыкаў славянскіх замоў, на дзіва арнаментальныя — структурна вывераныя, фармулезаваныя і г. д., і геаграфічныя, гэта азначае — узнаўляюць бачную карціну нейкай адасобленай прасторы, якая мае свой цэнтр, перыферыю, персанажаў, аб'екты і г. д.

Цікава, што тэксты, якія мы разглядаем, у межах розных 'арнаментальных зон' па сваёй функцыянальнасці адрозніваюцца адзін ад аднаго. Так, у прыснянскай зоне (44 тэксты) найбольшую папулярнасць маюць замовы ад сурокаў, "на скаціну" і любоўныя; у казацка-балсунскай (43 тэксты) — ад сурокаў, ад звіху, ад змяі і "на скаціну"; у неглюбскай (37 тэкстаў) — ад



сурокаў; у бабіцка-валосавіцкай (52 тэксты) — ад сурокаў, ад змей і "на скаціну"; у дубраўскай (44 тэксты) — ад сурокаў, ад звіху і любоўныя. Аднак 'арнаментальныя зоны' ў той жа час узаемазвязаны паміж сабой, што графічна можна выявіць наступным чынам.

Мы разумеем, што паказаная тут карціна ўзаемасувязей замоўных традыцый 'арнаментальных зон' мае толькі гіпатэтычны характар. Магчыма, новыя палявыя доследы і запісы зменяць яе. Але на сённяшнім веданні матэрыялу разглядаемага намі рэгіёну, у дастатковай ступені рэпрэзентатыўнага, яна менавіта такая (першае прадстаўленне дадзенай тэмы — гл.: Нячаева. 2003. С. 243—250).

## 49. СЛОЎНІКАВЫ ПАДЫХОД. СЕМАНТЫЧНАЯ СЕТКА: СТЫХІІ, РЭЧЫ, РАСЛІНЫ, ЖЫВЁЛЫ; БОГ, ЧАЛАВЕК, МІФАЛАГІЧНЫЯ ІСТОТЫ; КАЛЯРОВАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ

Вывучэнне вобразна-прадметнага свету тэкстаў замоў — надта цікавая тэма, праблемнасць якой заключаецца ў выбары методыкі даследавання. Намі зроблена спроба тэзаурускага апісання 'карціны свету' замоваў рэгіёна, які тут разглядаецца. Разумеючы ўсю складанасць ды аб'ёмнасць падобнай працы, мы прынялі некаторыя абмежаванні. Яны датычаць, па-першае, класіфікацыйных прыкмет аб'ектаў 'замоўнага' свету: стыхій і рэчываў, прадметаў, раслін, геаграфічных аб'ектаў, жывёл і птушак, імён антрапаморфных 'удзельнікаў' (Бога, чалавека, міфалагічных істотаў); колеравай атрыбутыкі (унутры кожнай групы аб'екты падзелены на больш дробныя класы). Па-другое, гэта абмежаванні спосабу апісання — і шматразова, і аднойчы згаданыя аб'екты фіксуюцца намі пры аднолькавых умовах — у гэтак званай пачатковай форме лексікаграфічнага апісання слова. Выключэнне зроблена толькі для імёнаў уласных, якія ў замоўных тэкстах датычаць тых ці іншых аб'ектаў, а таксама ў захаванні формы множнага ліку. Мы пакінулі пры словах і некаторыя важныя азначэнні-эпітэты. У асобных выпадках намі ўлічвалася сінанімія аб'ектаў (у першую чаргу, функцыянальная). Тэзаурускае апісанне зроблена па кожнай зоне. Шрыфтавое выдзяленне адпавядае таму, якое выкарыстоўваецца пры публікацыі замоў у гэтай кнізе.

## 50. СЛОЎНІКІ ЗАМОЎ 'АРНАМЕНТАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЙ'

### Дубраўская зона

**Стыхіі і рэчывы:**

**луна; зоры-зараніцы, Бож'і памашніцы, Гасподнія памашніцы; зорачка, сонца, праведнае сонейка, зьвёзды;**

**вецер, зямля, агонь, агні, тры цэркоўныя агні, зарачанскі агонь; агонь кіпучы, сьцякучы; вада, Рачанская вада;**

**жалеза, соль, расіца, пух.**

Прадметы:

тростачка, прут, сярэбраны кіёчак, жэзл, тапор-паруб, меч, нож, нож-парэз, гвозьдзі, камні;

ключы раельныя, пякельныя, замкі, даска, калыскі, падушкі, кравацы, гроб, сядло, лыжачка, тры царкоўныя свечы;

віно, харч, жоўты стой, хлеб;

цярновы вянец, рыза, чапцы, парабоцкія шапкі, пояс, чобаты, рукавіцы.

Расліны:

лес, яблыня, дуб на дзвенаццаць какатоў, дуб-дуб гальляты; дзеравы (серадавое, паперавое, кіпарыс); лаза, белыя бярозы, карэньне, вярба;

трава, мак.

***Геаграфічныя аб'екты:***

***увесь сьвет, неба, зямля, чатыры стораны, чужая старана, шырокае раздольле;***

***сіняе мора, Зарачанскае мора, рэчка (Марына, Кацярына, Махана, Ліда, Паланіда, Волга);***

***гара, высокія горы, гара Сіянская, Егіпет, камень, падолле, топкія балоты, мхі (мха), густыя лозы, ніцыя лозы, гаць, кусты, крыніца, мост, жалезны мост, залаты масточык, дарога (пуць), шырокая вуліца, хатка, ізбушка, муравіная ізбушка, новыя вароты, новыя вароты няцёсаныя, сьцяна, крылечка, дзверы, печ;***

***прыстол, храм, апалтаўская цэрква, Кіеў, капліца, горад Ерусалім, царскія вароты, кельня, цэрква, цэркаўка.***

***Жывёлы і птушкі:***

***коні, заяц, заеч'я бяга, мядзведзья галава, волк, валкі полавые, кароўка Лыска, сабакі, цялёнак, зьвер;***

***гад, вуж;***

***воран, куры, пціцы, пташкі;***

***шчука.***

*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*Бог, Госпадзі, Госпад Бог, Гасподзь Бог, Сьвяты Дух, лёгенькі Дух, Ісус Хрыстос, Сам Гасподзь Бог;*

*Прачыстая Божая Мацер, Мацер Божа, Прэчыстая Мацер, Маць Прэсьвятая, Маць Багародзіца, Прысьвятая Мацер Владычыца, Прысьвятая Маць Багародзіца;*

*дзвенаццаць апосталаў, сьвяты Іосіф, Пятро-Павел;*

*цар Адуван, Кандрат-Кандратачка, ударачка-ударыха Мар'яначка, царыцы, Я, дух мой, мой лёгенькі дух; раб божы (імя), младзенец;*

*галава, галоўка, дзявоцкія косы, чорныя бровы, белае ліцо, румянае ліцо, чорныя бровы, карія вочы, ярыя вочы, зуб, рука, рукі, пальчыкі, пуп, ядзеркі, нага, пята, косьць, жоўтая косьць, сустаў, суставы, сустаўчыкі, мошчы, сінія жылы, палужылы, прожылы, серца, сэрца, шчырае серца, гаручае сэрца, гаручая кроў, гарачая кроў, красная кроў, розавая кроў, краснае мяса, жоўтыя мазгі;*

*чарціны хвост, дзвенаццаць чартоў, галоўны чорт Мікіта, Мікіта-чорт, малыя чарцяняты.*

*Колеравая атрыбуцыя:*

*красны, румяны, жоўты, залаты, сярэбраны, розавы;*

*сіні, сівы;*

*белы (бела-бяленька), чорны, цёмны, кары.*

### Казацка-балсунская зона

**Стыхіі і рэчывы:**

**месяц, ясны месяц, царь-Месяц, зара, ясная зара, утренняя заря, вячэрняя зара-зараніца, сонца, жаркае сонца, неба, меднае неба, зьвёзды, дробныя зьвёзды, сярэбряныя зьвёзды;**

**вятры, вецер, ціхі вецер, дождзь, гром, маланьня;**

**святая земля, сырая земля, зямля, агонь, вада;**

**іржа, раса, попел, пясок.**

Прадметы:

меч, нож, кап'ё, жалезная булава, венік, дубовая палка, дубовы столб, тростачка, шчотка-грабёнка, тапарок;

кнігі;

замкі, залаты замок, шаўковыя замкі, ключ, ключы, сярэбраныя ключы;

цясовыя сталы, стол, залатое крэсла, цясовая караваць, паўлінае гняздо, гняздо;

сярэбраныя лапці, ткацкія рукавы, рыза, залатая рыза, пояс;

верацяно, шаўковая нітка, пелюшка;

кубкі, гаршчок, хлеб-соль, крошкі хлеба, ядзеньне, малако, малачко, зьмяіны яд.

**Расліны:**

**бор, лес, дуб, царь-дуб, дуб Данііл, дуб-дзерава, дрэва-бярозка, яблыня;**

**лаза, лазічка, ліпавы куст, куст ракітавы-цадрякітавы;**

**зялёны явар, трава, шаўковая трава, лісьце, веткі, корань, карэньня, галючкі, макава зёрнышка, залатая ігліца, залатое яблычка, сахарнае яблака.**

***Геаграфічныя аб'екты:***

***сьвет, весь сьвет, белы сьвет, зямля Тацяна, неба Вульляна, усе стораны мора, дна моря, моря, сіня мора, акеан, акеан-мора, мора-Сіян, мора Лукамора, узмор'е;***

***Субота-ряка, рэчка ракітава, ряка Дзяміда, Саламіда, Пабліскуха, масточык;***

***крыніца, балота, мох, беражок;***

***чыстае поле, поле, мяжа, дарога, гара, камень, царь-камень, Берна-камень, камень-Латыр;***

***дамы, хата, агняны печ, аграда, сьцяна, каменная сьцяна, жалезны тын, варата, новыя варата, вароты, царскія вароты, двор, царскія двары, мой двор, столб, калодзец Іван, пуня, гняздо, зьмяінае гняздо;***

***прыстол, прастол Гасподні, царскія двары, горад, Ерусалім, горад Ерусалім.***

*Жывёлы і птушкі:*

*пціцы, пташкі, арол, арлы, паўлін, чорны воран, крыльля чорныя, глаза чорныя, когці, залатая дзюбка; сарокі;*

*куры, куркі-Матрункі, певень-пявака, пятушок;*

*залатое пёрышка;*

*конь (жарабя), вараныя коні, асёл;*

*скаціна, карова, кароўка, малочніца, кароўка-шарсьцінка, сівая шарсьцінка, мягкае вымя, сабака;*

***зьвер, воўк, мядзведзь;***

***гадзюка, гадзюкі (лесавыя, махавыя, балотныя, падкалодныя, насыланыя, крапіўныя, гнаявыя, ветраныя, вер'яцяныя, вадзяныя), зьмяя лятучая, зьмяя Шкурапея, зьмяя-чарадзейніца, гад, зьмей, зьмей-чарадзей, вуж, зьмей-чарадзейнік (абеднік), вуж с краснай галавой, красныя горлы, гад паўзючы; вуж-добры муж, зьмяя Шавела і сын іх — сьлівень, баравы яшчэр;***

***чэрві;***

***вочы, зубы і губы, зубы*** і ***жала, зубы, агіднае жала, хвост, грудзі, лоб.***

*Сьвятыя, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*Бог, Госпадзі, Госпад Бог, Гасподзь Бог, Сам Гасподзь, Дух лёгкі, Гасподні Дух, ціхі Дух, Ісус Хрыстос, Ацец, Сын, Сьвяты Дух, Мой Душок ціхонькі, легонькі;*

*Маці Гасподняя, Прячыстая Маць, Мацер Гасподняя, Прячыстая Мацерь, Прасьвятая Маць Багародзіца, Прачыстая сьвятая, Прачыстая Мамачка, Мацерь Гасподня, сьвятая Марыя, Радзіцельніца, Прачыстая Мамка;*

*Уся Нябесная Сіла, сьвятыя кіеўскія, пячэрскія — усе Сілы Нябесныя; херувімы, сьвятыя, апосталы, ангелы, ангелы-храніцелі, Мікалай-вялікі Чудатворэц, архангел Міхаіл, Міхайла-Архангел, судзьдзя наш праведны, сьвятой Георгій, цар Давід;*

*тры дзевіцы царёў, тры дзявіцы, тры дзевіцы-царыцы, Ульляна, Мар'яна, Салафія;*

*Божы чалавек, сьціішная пані, дзедзька сівабародзенькі, супастаты і злосьнікі;*

*Я, раб Божы (імя), рабы Божыя, Божы чалавек, еты (чалавек, парань, младзенец, дзіцёнак, малы), етае дзіця, дзіцяці, маць з младзенцам, госьці, дзявіч'і сын Максім;*

*голас, волас, думы, рэчы, печань, сэрца, суставы, лідачыя вочы, нага, рука, рукі, жывот, бакі, косьці, кроў, гарачая кроў, калень, калені, цела, буйная галава, ясные бровы, расход, матка, становые жилы, мощи, сьпіна, голая ж..., ср...;*

*лесавой, палявой, хазяін дваравой, ведзьмы-чарадзейніцы, ведзьмак-чарадзейнік, казьліная барадзішча Уран, бес, сатана, дзьявал, усякая нячыстая сіла, Чур.*

Мера, лік, форма:

зялёны круг, хрэст.

*Колеравая атрыбуцыя:*

*красны, накрасны, залаты, сярэбраны, русы, ясны, румяны, жоўты;*

*сівы, сівабародзенькі, зялёны, сіні (сінявы), кары;*

*белы (бела), бела-бяленькі, чорны, чорна-белы, рябы, вараны, цёмны.*

## Неглюбская зона

**Стыхіі і рэчывы:**

**месяц, ясны месяц, зоры, зара-зараніца, ўсяму сьвету памашніца, дробныя зоры, жаркае сонца;**

**зямля, вада, быстрыя воды, вадзіца, вадзічка; вадзіца-царыца, водица-царица, арданнца, восточница, по всему свету помочница;**

**жара, мароз;**

**расіца, жалеза, соль, брызгі.**

Прадметы:

меч;

белыя каменьня, сінія краменьня;

дванаццаць сталоў, стол, печь;

парушынка, шчотка-грабёнка;

ключы, двенадцать золотых ключей;

ладан, купарос, кадзільца, грабавая даска;

кубкі, даёнка, даёначка;

сьвяты пакроў, шаўковы пасьціл;

салодкі канун, малако, малачко густое, малачко салодкае, масьліца жоўтае, сыры таўстыя, віны сладкія, праскуркі мяккія, корм, вадзічка.

**Расліны:**

**лес, мой лес, лес чысты, лес пракрасны, дрэва, сасна, ялінка, дуб-дванаццаць какатоў, дуб на сто какатоў, на сто парасткаў, на сто недаросткаў, на сто пераросткаў;**

**лаза;**

**вяха, вяха-трава, травіца, трава;**

**сук, сучышча, сучок асінавы, сорныя карэньня, колас, макава зярненька.**

***Геаграфічныя аб'екты:***

***увесь сьвет, неба, усход;***

***мора сіняе, мора, чорнае мора, океан, востраў Буян, зялёны востраў;***

***рэчка, глубокія віры, жоўтыя пяскі, быстрыя воды, крыніца;***

***мхі, мха, мхи, болота, нищие лозы, жёлтые пески, крутые беражки, балаты, топкія балоты, балоты, ніцые лозы;***

***лес (чысты, пракрасны), лясы (цёмныя, зялёныя), пень, пницы дуплянистые, гнездо, залатое гнездо, двенаццаць гнездоў;***

***шчыльныя горы, раздольле, поле, чыстае поле, поле-полице, шырокія паля, длінныя луга;***

***дарога шырокая, раскрэсы, недалёкое ростанице, калінавы мост, зялёны тын;***

***камень, Латар-камень;***

***сваё месца, дзверы, вароты, хатка, дом, печ, сарай, жалезны тын;***

***храм Господні, сабор царквы, прыстол.***

***Жывёлы і птушкі:***

***пціца, арол, двенаццаць арлов, сава;***

***певень, куры;***

***зялезная дзюбка, залатыя лапы, дюбки столяныя, когти серебряныя;***

***скаціна, конь, кароўка, цялушка, цяліца-каравіца;***

***правы капыток, чорна-белая шарсьціца, белае вымя, шарсьціна, з краснае (ілі з чорнае) каровы шарсьці, бурая шарсьцінка;***

***харты сабака, пёс;***

***зьвер, ваўкі (Аксён, Максён, Настасься, Аксіньня, Прасіньня), воўча-воўча;***

***гадзюка, жарая гадзюка, зьмяя, зьмяя падпечная, падхатная, падгадная, падкутная, дваравая, хлевавая, гнаявая, агародная, градавая, межавая, балатавая, махавая, лесавая, вадзяная, лугавая, баравая, палявая;***

***падарожная зьмяя, тры зьмяі, гадзюкі (Вульляна, Мар'яна, Слафіэўна); зьмяя-чарадзейніца; зуб, царыца-царыца, красная дзявіца; зьмеі;***

***чэрві, шчука, рак, паганая казяўка.***

*Святыя, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*Бог, Господ Бог, Господь Бог, Сам Гасподзь, Сус Хрыстос, Исус Христос, Дух Господний, Сьвяты Душочак, Дух, Дух мой, мой Дух, Свой Дух Гасподні, мой ціхенькі, лёганькі Дух, Гасподні Дух ціхі, лёгкі;*

*Мацер Божая, Прачыстая Мацер, Пречистая Матерь, Прачыстая Божая Маць, Матка Прачыстая, сьвяты Свой Дух і Ядрах;*

*ангелы, тры ангелы-архангелы, апосталы;*

*Мікола-заступнік, скоры памошнік, сьвятыя прыпадобнічкі, святые и пресвятые, Божыя угоднікі;*

*Чалавек, раб Божы (імя), раба божья, бацька (імя), матка-нанiматка, матка (імя), замоўца (імя), Аксіньня Лаўрэнаўна, Люда, людзі, царыца, царыца-царыца, красная дзявіца, тры дачкі, дзіця, дзеці;*

*буйная галава, волас, голас, румянае ліцо, вока ряйно, чёрные брови, карие глаза, паганыя глаза, паганыя вочы, белыя рукі, живот, напружанны живот, мяккі жывот, бок, пуп, пупок, косьць, суставы, жылы-пажылы, дробныя жылы, сухие мощи, кішкі, печані, шчырае серца, рацівае серца, кроў, гаручая кроў, сьлюна;*

*чарадзейнік, чарадзейніца, зьмеі-чарадзеі, ведзьмы, ведзьмакі, чараўніцы, чараўнікі, калдуны, знахары, ураг-пабядзіцель;*

*дамавой (свой, чужы, насыльны); дзядзішча-дзядзішча, шырокая барадзішча, кучаравая галавішча.*

*Колеравая атрыбуцыя:*

*жары, красны, красьнюга, жоўты, залаты, сярэбраны, буры, ясны, румяны, розавы;*

*сіні, сінюга, сівы, зялёны;*

*белы (бела-бяленька), чорна-белы, рабы, чорны, цёмны, серы, карий.*

## Прыснянская зона

**Стыхіі і рэчывы:**

**малады месячык (Яварачку, Кандрацiку); месячка ясны; утрашняя зара, Божая памашніца, зара-зараніца, Гасподняя і вячэрняя памашніца; вячэрняя зара, утраньняя зара; зоры, паўдзённая зара-зараніца, зоры-зараніцы, месяцэвы памашніцы; солнышка праведнае, жаркае сонца, жара, холад;**

**агонь, вадзіца-царыца, вада, вада-гарда, вецер, дождж;**

**зямелька;**

**павуціна, дым-дымочак.**

Прадметы:

меч, іголачка, кап'ё, крэпкае кап'ё, гвозьдзі, тростачка, тросьць, піла, тапор;

крэст жыватварашчы, хрэст;

сталы засьціланыя, замок, ключы;

сена;

старае, новае, не адзяванае (адзеньне);

цярновы вянок, труба;

даёнка, цадзілка, куўшынчыкі, кубкі наліваныя;

малако, сыр, масла.

**Расліны:**

**лес, дрэва, кіпарыс, дуб (зялёны, карністы, ствалісты, вяцісты, галлісты, цьвяцісты), бяроза, вярба, іва, лаза, карэньні;**

**рожынкі, мак;**

**трава, вяха.**

***Геаграфічныя аб'екты:***

***сьвет, той сьвет, неба, зямля, Русалімская зямля, левая старана;***

***Ян-акіян, мора, сіняе мора, лукамора, рэчка, берага, крутыя берагі, краменьні (краменьня), жоўтыя пяскі, крыніца, востраў, востраў Буян, балата, мха, каменьні (каменьня), ніцыя лозы, лугі, луга, цёмныя ляса, падоль, палі;***

***гара, горы, Сіянская гара, Кіянская гара, камяночак;***

***пуць, дарога, дарогі, росстань, межы, калінавы мост, масточык;***

***горад Іерусалім, дварэц, храм, касьцёл, прыстол, царскія вароты, дом, хата, печ, камяночак, сені, страха, сьцяна-сьцяніца, дзверы, вароты, тын, баня, калодзец.***

***Жывёлы і птушкі:***

***пятух, галубы;***

***воран, чоран воран, зялезная дзюбка, сталяныя кіпці, залатая шышка, хвост;***

***скаціна, конь, сівы канёк, ўсе сустаўчыкі, сустаўчык, кабыла, хорт, паўхорт, сабакі, зьвер, мядзведзь, заяц, мышака;***

***гад, зьмяя (Шкурапея, Кідрына), зубы і яд зьмяіны, вуж, жаба.***

*Святыя, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*Бог, Госпад Бог, Госпадзі, Ісус Хрыстос, Сын Божы, Ацец, Сын і Сьвяты Дух, сьвятыя ручкі, ножкі, сьветлая галоўушка, рабро, кроў;*

*Матушка Марыя, Мацер Гасподняя, Мацер Божая, Прачыстая Маці, сьвятая Прачыстая Маць, Маці мая, Маці;*

*Міхаіл Архангел, ангел, апосталы, сьвятыя апосталы, двое ангелаў;*

*Я, раб Божы (імя), раба Божая Марыя, мой любімы, нараджонны, хрышчонны, нараджонная, хрышчонная, дзьвенаццаць паняў, злой чэлавек, грэшныя людзі, усе ўрагі;*

*буйная галава, русыя косы, чорныя бровы, ясные очы, уста, зуб, ногці, падногці, жывот, правая нага, белыя пяты, косьці, белыя косьці, сустаўчыкі, жылы, паджылы, сэрца, рацівае сэрца, гарачая кроў.*

*Колеравая атрыбуцыя:*

*русы, ясны, красны, залаты, румяны, рыжы, бліскучы, зялёны, сіні, цьвяцісты, сівы;*

*белы (беленька), чорны, цёмны.*

**Бабіцка-валосавіцкая зона**

**Стыхіі і рэчывы:**

**раньняя зара-зараніца, усім людзям памашніца, вячэрняя зара-зараніца, вячэрняя заранaчка, Гасподняя памашніца, ранишняя заря-заряничка, зоркі раньнія, зоркі вячэрнія, меднае неба, небеса;**

**сонца, сонейка, яснае сонца, зоркі, тры зорачкі пракрасны, загожа, запека, прылюбка, месяц, ясны месяц, гром, молния, вецер, дванаццаць хмар, трынаццаць бур, сільныя грозы, сільныя дажчы, агонь, вада, Іарданская вада, вада-вадзіца, сьвятая вада, водица-царица, всему свету памашница;**

**раса, расічка, Божжая расіца, соль, золата, попел, пясок, пыль, пылі.**

Прадметы:

залатая трасьціна, агняныя мячы, востры меч, вострая коп'я, пілы, тапары, камень, огненная печь, прут, страла, нож, шчотка, грабёнка, залатыя ключы, ключы;

залатое крэсла, залатая драбінка, вясло (залатое, сярэбранае);

стол, тры стала, шэсьць сталоў;

кумава краваць, цясова краваць;

чаша, золотая чаша, кубкі, цадзілачка, даёначка, жбан, поўныя вёдры;

рыза Свая сьвятая, чэсная рыза, крэст, животворящий Крест;

прасчары, ладан, сьвечы;

шаўковая нітка;

хлеб-соль;

малако, малакі бальшыя, вярхі глыбокія, сыры крэпкія, густое молочко, малачко, жовтое масло, густой вершок, крепкий творожок, хлеб-соль, соль, три-девять ядов.

**Расліны:**

**лес, бор, сосна, дуб, дуб Якуб, дуб-старадуб; дуб зялёны (тры карані, тры какаты), (тры каката, шэсьць какатоў, дзевяць какатоў), яблыня, игруша колючая, асіна;**

**осина трасучая, верба, зялёныя лозы, маліна, гнилая колода;**

**трава, зелёные травы, траўка, грыбы, корень, белое коренье, отростки, белы цьвет, чорны мак, залатая макоўка.**

***Геаграфічныя аб'екты:***

***весь свет, увесь сьвет, белы цьвет, неба, меднае неба, зямля, чатыры стараны, усе стораны;***

***акіян, тры моры, белае мора, сіняя мора, мора сіян, сінее море, мора чыста, Чёрное море, Белое море, лукаморье, лукамора, остров, зялёны востраў, остров Буян, камень, Латар-камень;***

***Іардань-рака, ірдань, крывавыя рэкі, святой Днепр, крутыя берагі, белые каменья, жоўтыя пяскі, зялёныя лозы, ніцыя лозы, сухі лес, сухія лясы, сухія бярозы, краменье;***

***гара, гара Саянская, горы, высокія горы, пяшчэры, груд;***

***прывольле, чыстае поле, паля, лужок, зелёные луга, шырокая далінка, балата, мхі;***

***тры гнязды, тры дупла;***

***дарога, раскрэсная дарога, четыре дороги, трапінка, мост;***

***горад Ерусалім, горад Піцер;***

***Божы храм, царскія палы, сабор цэркві, цэрква з саборам, царскія вароты, новыя вароты, престол, прыстолы;***

***мой двор, тын, жалезны тын, тры заборы, трое варот, вароты з жалезнымі шуламі, тры будынкі, дом, вокны, дзверы, покуць, месца.***

***Жывёлы і птушкі:***

***арол, жаваронка, гусь;***

***пеўні, куркі-Матрункі, куры, пятушкі-Якушкі;***

***савіное гнездо, чорныя пціцы, находныя, набродныя, падумныя, пацешныя, насьмешныя, жалезныя крыльля, жалезная дзюба, сярэбраныя когти, вароны, сарокі;***

***жывотнае, скаціна, скацінка (Васілёва скацінка), кабыла, чорна-рабая кароўка, Сярёдка, тры цяліцы, кароўка-цяліца, царыца; цвёрды капыт, буйная косць, белае вымя, залатыя рожкі, сярэбраныя ножкі, белые цыцкі, шаўковы хвост, хвасты, мягкае вымя, чорна-белая шарсьцінка, шэрсць, рогі;***

***сабака, зьвер, зьвер бягучы;***

***іспугі, перапугі, пярэпаласы сабачыя, кашачыя, курыныя, гусіныя;***

***зьмяя, зьмяя Плітар, зьмеі-чарадзеі, зьмеі-чарадзейнікі, зьмеі палзучыя, змеицы-царицы, тры зьмяі Ульляна, Мар'яна, Салоха, Вульяна, Марьяна, София, гадюки лесавая, моховая, болотная, подколодная, настельная, крапивная, гнаявая, ветряная, вадяная, гады грымучыя, гад паўзучы, сам цар вуж честный муж;***

***плечы, галава, вочы, зубы, жала, губы.***

*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*Айцец і Сын, Божа мой, Сам Гасподзь, Божа, Сам Ісус Хрыстос, Сын Божы, Дух ціхенек-лёгенек, мой Дух, дух легкий, мой дух, пресвятая Троица, душа, душы;*

*Маць Прачыстая, Мацер, Прысьвятая Мацер, Прысьвятая Мацер Багародзіца, Марыя, Прысьвятая Маць Пакрова, Прачыстая Мамачка, прачыстая Маць Божья;*

*Ангелы, сіла сьвятая, сьвяты апостал, усе сьвятыя, кіеўскія, пячэрскія, русалімскія, сьвятые прыпадобныя, преподобники киевские, печёрские, ерусалимские; Пятро і Павел, сьвяты Міхайла, Міхаіл-Архаіл, Михайла великий чудотворец, Михайла Архайла, Пятро і Павел, сьвяты Юрый-Грыгорый, Юрий-Ягорий, сьвятая мучаніца Варварачка, святые апостолы, ангелы;*

*чалавек, ацец-маць, радня, бацька, мацер, браты, тры брата, воденой, ветраной, потайной, жоны, жыды, простыя мужыкі, людзі, госьці, слугі, дзвенаццаць брацьцеў, сем брацьеў, брат, Маня, раба Марыя, родныя сястрыцы, младзенец, палач, галава, буйная галава, русыя косы, чорныя валасы, белае ліцо, румянае ліцо, вочи, вочы, сінія вочы, ярыя вочы, яркія вочы, чуткія вушы, зубы, цела, белае цела, кумава грудь, мякки жывот, рукі, белые руки, правая рука, ногці, ногі, скорыя ноги, пяты, косьці, левая рабрына, мошчы, суставы, жылы, сэрца, шчырае серца, печань, чёрные печани, гарючая кроў, нутры бальныя, нутры здаровыя;*

*сатана, зьмеі, калдоўнікі, завойнікі, залоўнікі, ведзьмы, ведзьмакі, людаеды, тры-дзевяць ведзьмаў, тры-дзевяць разяў, злыя языкі;*

*чур, асоба, дедка старенький.*

*Колеравая атрыбуцыя:*

*красны, жоўты, залаты, сярэбраны, русы, ясны, румяны, жоўты, крывавы, яркі, алы; сіні, зялёны, сівы;*

*белы (бела-бяленька, бела), чорна-рабы, чорна-белы, серы, кары, чорны.*

## 51. ВЫЛУЧЭННЕ АГУЛЬНЫХ РЫСАЎ І КАРЭЛЯТАЎ У СЕМАНТЫЦЫ

Можна вылучыць некаторыя аб'екты, па якіх тыя ці іншыя групы тэкстаў карэлірююць адна з другой. Напрыклад, казацка-балсунская і дубраўская зоны суадносяцца па класу, які можна ўмоўна назваць 'адзенне'. У бабіцка-валосавіцкай і вышэйназваных зонах назіраецца найбольшая канцэнтрацыя геаграфічных назваў. У неглюбскай і казацка-балсунскай зонах



Мал. 74. Збіраючы замовы... Расказвае Хамякова Марыя Андрэеўна. Казацкія Балсуны (Веткаўскі раён). 2003 г.

асабістыя імёны надаюцца стыхіям. Прыснянская, бабіцка-валосавіцкая, а таксама неглюбская зоны суадносяцца па класу 'посуд'. Практычна паўсюдна самым распаўсюджаным з раслін з'яўляецца дуб, аднак толькі ў казацка-балсунскай традыцыі яму надаецца асабістае імя. Толькі ў неглюбскай і бабіцка-валосавіцкай традыцыях вылучаецца атрыбутыка рамёстваў: у першай — ткацкай, жаночай, у другой — цяслярскай, мужчынскай. У казацка-балсунскай, бабіцка-валосавіцкай і неглюбскай традыцыях асаблівай увагай карыстаюцца міфалагічныя істоты ніжняга ярусу мадэлі Сусвету. Толькі ў казацка-балсунскай і прыснянскай традыцыях сустракаюцца міфалагічныя жывёлы і птушкі. Толькі ў неглюбскай і дубраўскай традыцыі сустракаецца шчука. Арол ёсць у неглюбскай, бабіцка-валосавіцкай, казацка-балсунскай традыцыях, воўк — у неглюбскай, казацка-балсунскай і дубраўскай, мядзведзь — у прыснянскай, казацка-балсунскай і дубраўскай традыцыях. Прыснянская і дубраўская зоны суадносяцца 'нетрадыцыйнымі' для прасторы разглядаемых тэкстаў культавымі пабудовамі: касцёл, каплічка. Толькі ў казацка-балсунскай, бабіцка-валосавіцкай і дубраўскай зонах зафіксаваны агонь.

У цэлым, указаныя тут супастаўленні паміж 'арнаментальнымі зонамі' ідэнтычныя выяўленаму намі падабенству па найбольш распаўсюджаным у іх функцыянальным групам.




Мал. 75. Нумары і назвы карэлюючых аб'ектаў замоў: *1* — міфалагічныя жывелы і птушкі; *2* — дуб з іменем; *3* — посуд; *4* — атрыбуты рамёстваў; *5* — міфалагічныя істоты нізу мадэлі Сусвету; *6* — арол; *7* — мядзведзь; *8* — культавыя пабудовы; *9* — агонь; *10* — стыхіі з асабістым іменем; *11* — воўк; *12* — геаграфічныя назвы; *13* — адзенне; *14* — шчука

## 52. НОВЫ ПАДЗЕЛ АРНАМЕНТАЛЬНЫХ ЭЛЕМЕНТАЎ З ДАПАМОГАЙ КЛАСІФІКАЦЫЙНАЙ СЕТКІ

Выяўленне назваў, якія надаюць арнаментальным элементам самі носьбіты традыцый, і складанне адпаведных 'алфавітаў' дазваляе паглядзець на суадносіны ў рэгіёне двух відаў тэкстаў: замоўна-заклінальнага і арнаментальнага, — як мы ўжо адзначалі вышэй, яшчэ з адной пазіцыі, а менавіта, праз накладанне класіфікацыйнай рашоткі, што выкарыстоўваецца тут для замоў, на назвы арнаментаў. Спецыфіка апошніх патрабавала ўвесці дадатковы 'клас' — пазначэнні меры, ліку, формы. Нарэшце мы атрымалі наступны вынік.



Мал. 76. Два ручнікі на варотах. Карма (Добрушскі раён). 2002 г.

## Дубраўская традыцыя

**Стыхіі і рэчывы:**
**зорачкі, зьвязда, сонца.**
Прадметы:
лапата;
барабаны;
самавары, калёсіка, кацельчык, булкі, пампушкі;
мярэжкі;
гроб(ам).
**Расліны:**
**любісьцік (любістак);**
**дуб (дубам), дуб з яйцамі, дубовае лісьце;**
**елка (елачка);**
**кветкі (кветачкі, кветкамі);**
**рожа, рожынкі, цьвецік;**
**яблака, качан.**
***Жывёлы і птушкі:***
***арол, верабей;***
***бабачка, жучкі, павук;***
***крыльле, лапа.***
***Геаграфічныя аб'екты:***
***Гомель, царква, стоўп.***
*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*
*баба (бабачка), салдацікі, чалавекам, чалавечкі, лялькі;*
*кулачкі.*

12 Зак. 3512

*Колеравая атрыбуцыя:*
*у назвах элементаў не зафіксаваная.*
Мера, лік, форма:
бесканешнік, крэст (хрэст у абводцы), красты, крэсьцікі (хрэшчыкі); прыставачкі.

**Казацка-балсунская традыцыя**

**Стыхіі і рэчывы:**
**вогненая вада.**
Прадметы:
лампадка, сьветачы;
самавар, самаварчык, стакан, чайнічак, чаша;
барабан, капейка;
крюк, якарок, сякерка (сякерачка), булава, ключ, калёсы (калесьсе, калёскі), чаўны (чаўнакі) белыя, кацюха (кацюшка, кацелачка);
каробачка, чамадан;
(залато) кружжа.
**Расліны:**
**дубок, дубовы лісток, елка, рожа, арэшак, вінаград, цьвяток.**
*Геаграфічныя аб'екты:*
*зямля, поле, пуці, дарога (дарожка), сьцежка (Богава, царская, жалезная, лебядзіная, галубіная, сьвіная, цёмная), мышыны сьлядок, вятрак (ветрачок), стоўпы (стаўпцы, стоўбчыкі), цэркаўка, хрэст царкоўны, хрэст кладавейскі.*
***Жывёлы і птушкі:***
***арол, вароняе вока (вочка), пціцы дзве ўместа, голуб (галубіная дарожка), лебедзі, лебядзіная лапка;***
***казлы, кацiныя лапкі (кашэчая лапка), сьвіньня (сьвіная сьцежка), мыш (мышыны сьлядок), рыбкі, павучкі, ракі (рачыкі).***
*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*
*Бог, цар (Богава, царская дарожка), салдацікі, старцы.*
*Колеравая атрыбуцыя:*
*чорны-красны-белы (елка, чаўнок, рожа, хрэст);*
*залаты (залато кружжа);*
*цёмны (цёмная капейка, самавар, сьцежка).*
Мера, лік, форма:
бальшое-малае (вароняе вока), высокі-малы (самавар), двайныя (хрэшчыкі), прадаўгаватыя (васьмірогі, каробачкі);
хрэст (крэсьцік, хрэшчык), абводка, абгароджаны (васьміpог);
васьміpог, паўвасьміpог, чатырохрожка, крывуля, крывулька;
паўсёмісты, паласаты (ручнік).

**Неглюбская традыцыя**

**Стыхіі і рэчывы:**
**сонца (сонцы), зьвёзды, зьвёздачкі, зорькі, зоркі, зорячкі, зорачкі.**
Прадметы:
калодка, пруцік, прут (пруток), клін (клінок), ряшотка, правадзец;

калёсы, калёсы зводжаныя, калясачкі, чаўначок (чоўнік, челнок);
кацелка;
каробкі, самавар, чашачка;
кап'ё (капейко), ножніцы, сякерка (сякерачка), секачык, капыл, пушачка, булда, матавіла, чахонь (сабля і рыба), ключыкі, дугі;
праскурка, прянік, пячэньне, галушкі;
капейка, калакольчык, званы;
прошвы, мярэжка, чабаткі, манішкі, жарэльле, гарлячка, пагон, царская карона.

**Расліны:**

**сад, вінаград, вінаградзіна, яблака (яблачка), гергеня, рожа, цьвяты, сьліўкі, гвазьдзікі, лотаць (лотаціны);**
**макаўка (макоўка), ягадкі, кусты, лісты (лісьцікі, лісточкі, лісьце, лісьцейка);**
**бярозкі, елка;**
**жалудзьдзе (жалуды), шышкі, ветачкі;**
**каноплі, рэдзька, гуркі, грэчка.**

***Геаграфічныя аб'екты:***

***зямля, неба, беряг;***
***гарадкі (з цярэшкай), цэрькаўка, калодзезь, калакольня, сьцежка (мышыная), дарожка, брадок (мышыны), гняздо.***

**Жывёлы і птушкі:**

**арол, верябей (верябейчык) (відушчы, відзяшчы), зоркі (з вокам), нямы (сляпы, глухі), галубы, вуткі, пятух, пцічка;**
**мядзведзь (мядзведзька, вядзмедзь), бальшы мядзведзь, малы вядзмедзь, сабачкі;**
**казёл (казельчык, козка), казёл на глухоўцы, казёл на ряшоткі, казёл заслеплены;**
**жабка, мушка (мошка), цярэшка (мятлушка, бабачка), мыш (мышыная сьцежка, брадок);**
**павук (павучок), рачыкі, ёжык, чаряпашка;**
**крыльле, какаток, зубцы, зуб, капыток (капыцьце), рожкі;**
**лапа (вялікая, малая, кучаравая, верашчацкая, глухая), лапка (гусіная, уціная, мядзведзева), луска;**
**вока (вочка) (сароччае, варонае, вароняе, зязюліна, валоўе, кароўськае).**

*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*

*барышні (красныя барышні);*
*ляхоўка, воспа;*
*кулачча (кулаччэ, кулакі, кулачкі), пальцы (пальчыкі), вока (глаз) (глухая з глазам), кучаряўка, кукса;*
*лабач (лабачык).*

Мера, лік, форма:

бальшое (вялікае) — малае (вока, вядзмедзь, крывуля, лапа);
у трое (па трое), пяцёра, сямёра, дзевяцёра хрястоў, двайная, трайная (крывуля), траенькі, (тройкі), трохрадная крывуля;
хрэст, хрэшчык, хрэсьцік (глухі, касы, абводжаны, верашчацкі, расколаты, кучарявы, у крывулі, у лапе), хрясты, хрэшчыкі (сушчэленыя, зводжаныя, двайныя, середавыя), хрэставое;

балонка, расколка (разрязная рэдзька, расцярэба), глухоўка, глушка (глухая, глухая сляпая, глухая з глазам), рагатая, васьмірогая, рагатая васьмірога, васьмірог, васьмірожка, чатырохрог, растапырка;
у кружкі, абводка, кацелкі;
крючкі (крючча), крючча зводжанае (падвойнае);
крывуля (вялікая, трохрадная, красная, малая);
крывулька, крывуліна, вілуткі;
ромбікі;
палосачкі, паласаты, паўсёмісты (ручнік).
*Колеравая атрыбуцыя:*
*красны, цёмны, цямнейшы, зялёны, крапіўны, салатны, сіні, галубы, жоўты, жоўты-куряняты, гаряшчы, жоўта-гаряшчы, галны (ружовы), па беламу, па красному (па цёмнаму)* (назвы колераў у алфавіт арнаментальных элементаў не ўключаны), *чорна-рябыя ручнікі.*

### Прыснянская і бабіцка-валосавіцкая традыцыі

**Стыхіі і рэчывы:**
**зорачкі, зьвёздачка, зьвёздамы, зоркі;**
**кропелькі (кропелькамі).**
Прадметы:
баке нчыкі, вакенцы, лесьвічка, вулей (вульлейкі накрытыя);
юрочкі, сетачкі;
чаўначкі, лодачкі, кацелачка;
капейка, бубна, бубначка, чырвачка.
***Жывёлы і птушкі:***
***арламі, бабачкі, лапа бальшая, крыльле.***
**Расліны:**
**павілёначка, дзераза, лісьцікі;**
**елка (елачка, у елачку), рабінка, дуб;**
**бубка, канапелькі, у канапелькі;**
**цьвяты (цьвяткі, цьвецікі, цьвет, цьвяточкі), цьвецік крэстападобны, рожа (розачкі).**
*Геаграфічныя аб'екты:*
*паляначкі, млыны.*
*Бог, чалавек, міфалагічныя істоты:*
*сэрца, разьбітае сэрца, у костачку.*
*Колеравая атрыбуцыя:*
у назвах арнаментальных элементаў не праяўляецца.
Мера, лік, форма:
паласа, простая (вольная) палоска, планка, лінейка, правадзец (шырокі, вузінькі);
абводка (абводачка), кружочак, у кружкі, у шашкі;
куб (кубік), ромбы;
хрэст, храсты, хрэсьцік, хрэшчык;
закакарючкі, кручча, крывуля, крывулька;

перасекі, перасечачкі, драбнічкі, перасекі хрэсьцікамі, раздробленая капейка, разьбітае сэрца, палавіна капейкі;

ражкамі (ражочкамі), чатырохрожка, пяцірожка, васьмірожка, дзесяцірожка.

## 53. КАРЭЛЯТЫ Ў НАЗВАХ АРНАМЕНТАЛЬНЫХ ЭЛЕМЕНТАЎ

Параўнаўшы слоўнікі назваў узораў, можна ўбачыць, што пры тых жа недахопах у матэрыяле (розная захаванасць альбо развітасць алфавітаў, розная шчыльнасць назіранняў ды іх колькасць, розныя назвы для аднолькавых элементаў і наадварот, урэшце, назвы розных часоў і пластоў арнаменту) паўторы мясцовых тэрмінаў у розных традыцыях маюць заканамерны характар. Яны перадаюць сувязі паміж гэтымі традыцыямі і працэсы ў іх.

Найбольшая колькасць сувязей — у Неглюбкі (30). Крыху менш (22) — у Казацкіх Балсуноў. Дубраўка мае 11 супадзенняў, Бабічы — 10, Прысно — 7 (назвы апошняй амаль не захаваліся).

Неглюбка і Казацкія Балсуны звязаныя па 20 назвах усіх шасці разрадаў семантычнай сеткі. Апошнія балсунскія ручнікі датуюцца 1920-і гадамі, таму можна сцвярджаць, што і ўзрост агульных тэрмінаў не меней, яны перадаюць роднасць дадзеных традыцый.

Неглюбка і Дубраўка маюць 10 супадзенняў. Гэта ў стыхіях — свяцілы (“сонца”, “зоркі”). У геаграфічных назвах — назвы тыпу “Гомель” (Дубр.), “верашчацкія” (хрэст, пятух, лапа; Негл.), што фіксуе ўзаемадзеянне з суседнімі традыцыямі. Абедзве маюць цэнтравы пункт — “царква”. У раслінным кодзе іх павязвае “яблака”. У жывёльным — “верабей”, “бабачка”-“цярэшка”, “павук”. У назвах, якія датычаць чалавека, супадзенняў няма. У ‘рэчах’ — схільнасць выкарыстоўваць назвы печыва.

Ужыванне тэрміна “сонца” для васьміканцовай зоркі, што паядноўвае абедзве традыцыі, здаецца архаічным. Назва існуе на ўсходзе неглюбскай зоны ўздоўж Іпуці, вакол якой на поўдні развівалася і дубраўская традыцыя. Такім самым здаецца і тэрмін “зорачкі”, які пазначае 6- ды 8-прамянёвыя крыжыкі тыпу “жабак” альбо “павучкоў”. Пара “сонца”—“зорачкі” паказвае несумненную семантычную сістэмнасць у выбары назваў у час перамены тэхнікі ткацтва з бранай на закладную і пераборную і ‘асэнсаванасць’ займавання ‘новых’ элементаў.

Назва “верабей” (“верабейчык”) для простага крыжыка прыцягвае ўвагу. Распаўсюджанасць такога крыжыка ва ўсіх чынах незалежна ад тэхнікі, сістэмнасць яго ўжывання і ўдзелу ў стварэнні старых і новых фігур наўрад ці вычэрпваецца фармальнымі прычынамі. Супадзенне вобразнай назвы ў дзвюх народнасных традыцыях, якімі нам падаюцца Неглюбка і Дубраўка, можа несці глыбінную інфармацыю (міфалагічная роля вобраза вераб’я).

Статычны элемент “царква” і тэма рытуальнай трапезы (“яблака”, “праскурка”, “прянік”) могуць быць праявамі цэнтрычнага прасторавага адчування абедзвюх традыцый.

У Дубраўцы і Казацкіх Балсунах усяго тры паўторы (“царква”, “дуб”, “павук”). Усе карэляты маюць і трэціх удзельнікаў. “Царква”, як мы заўва-

жылі раней, мае паходжанне з 'выяўленчага' стылю, але абіраецца традыцыямі, якія адчуваюць апазіцыю 'статычны'-'рухомы'. "Павук", які ёсць і ў Неглюбцы, здаецца старою назваю. У трайным паўторы "дуба" (Прысно — Казацкія Балсуны — Дубраўка) крайнія ўдзельнікі даюць у ручніках адваротны па фоне вынік. Выяўленчыя рысы тут кладуцца на моцную геаметрыю дзвюх розных браных традыцый. Іх агульны кампазіцыйны фонд — вертыкальная вось узора (абсалютная для Прысно і цэнтравая для Дубраўкі; гл. главу "Дубы"). Казацка-балсунская традыцыя мае геаметрызаваныя прыцэнтравыя "дубкі" (так, у Медзведзях, на паўночным усходзе, у саміх Балсунах іх звалі "светачы"). Абодва тыпы "дуба" (цэнтравы і прыцэнтравы) увасабляюць архаічныя рысы рытуальных выяў, тым больш што ў Прысно і Дубраўцы ёсць жаночае і мужчынскае дрэва ў арнаментах.

У Прысно і Бабічах, якія ткалі браныя арнаменты, сёння знойдзена толькі адно супадзенне старой назвы: "бубка", што датычыцца ромбу тыпу 'ніва' (ідэаграмы засеянага поля). Разам з непаўторнымі назвамі земляробчага кола яно нагадвае аб існаваўшым калісьці чыне старэйшых знакаў — раннеземляробчых культавых сімвалаў. У абедзвюх традыцыях ёсць таксама, як і ў Неглюбцы і Балсунах, "зоркі" для васьміканцовай зоркі і "бабачка". Апошняя ў браным чыне вельмі адрозніваецца ад іншых. Патрэбнасць у назве (у чатырох традыцыях) праяўляе патрэбу ў вобразе, што можа перадаваць агульныя для рэгіёна ўяўленні аб матыльку.

Мера, лік, форма — катэгорыі, асноўныя для ручніка, яго тэхналогіі, дэкаратыўнага мыслення. Яны толькі часткова фіксуюцца на моўным узроўні, у назвах арнаментальных элементаў. Аднак і тут складаецца красамоўная карціна.

Апазіцыя 'культурнае'-'стыхійнае' ўвасабляецца ў ткацтве праз 'злічонае'-'непамернае', 'дыскрэтнае'-'непарыўнае' ды праз 'прамое'-'крывое', 'падзеленае'-'цэлае'. Прадстаўнікамі патаемнай — жыватворчай і небяспечнай — энергіі стыхійнага з'яўляюцца розныя "крывулькі", "крывулі", "глухоўкі". Яны вядомы ўсім традыцыям. Але колькасць розных назваў "крывуль" (зігзагаў і ланцугоў) у Дубраўцы — 1, у Казацкіх Балсунах — 2, у Бабічах і Прысно — 4, у Неглюбцы — 8 (з іх чатыры азначэнні: "вялікая", "малая", "красная", "трохрадная"). Менавіта Неглюбка падзяляе ўсе ўзоры на "хрясты" і "крывулі", вырашаючы асноўную апазіцыю праз 'дыскрэтнае'-'непарыўнае'. Больш 'фармальны' тэрмін "абводкі" ведаюць усе традыцыі. Бабічы імкнуцца 'перавесці' старую назву "крывулі" на 'раслінную' мову: "дзераза", "павілёначка". Нібыта здзіўленая доўгім вертыкальным ланцугом, Дубраўка дае яму назву "бесканешнік".

Толькі Неглюбка захоўвае ўспамін пра 'глухое', нераспрацаванае ў шматлікіх "глухоўках", "глухіх", "глухіх-сляпых", "нямых" і "простых". Форма перадаецца тут праз коды розных відаў успрыяцця і нават мовы. Іншыя традыцыі (а часткова і сама Неглюбка) перадаюць 'цэлае' праз асацыяцыі з 'цэлымі' па форме прадметамі: "капейка", "бубна". Вызываюць цікавасць бабіцкая "бубка" і прыснянскае "сэрца".

Парныя да "глуховак" 'падзеленыя' элементы імянуюцца альбо як вынікі дзеі: "расколкі", "расцярэбы" (Негл.), "перасекі хрэсьцікамі", "драбніцы", "перасечачкі" (Баб.), альбо назвы 'ўспамінаюць' пра такі падзел: "разряз-




Мал. 77. Нумары і назвы карэліруючых арнаментальных элементаў: 1.1 — зямля; 1.2 — сонца; 1.3 — зорачкі; 2.1 — дарога; 2.2 — тапонімы; 2.3 — стоўп; 2.4 — млыны, вятрак; 2.5 — царква; 3.1 — вінаград; 3.2 — яблыка; 3.3 — канапелькі; 3.4 — бубка; 3.5 — дуб; 4.1 — пціца; 4.2 — голуб; 4.3 — воран; 4.4 — вароняе вока; 4.5 — мыш; 4.6 — рак; 4.7 — верабей; 4.8 — павук; 4.9 — бабачка; 5.1 — вока; 5.2 — старцы; 5.3 — салдацікі; 5.4 — сэрца; 4.5 — у костачку; 6.1 — булава, булда; 6.2 — чаша; 6.3 — каробачка; 6.4 — ключ; 6.5 — сякерка; 6.6 — кулінарны код (праскурка, пячэнне, прянік і др.); 6.7 — калодка; 6.8 — капейка

ная рэдзька” (Негл.), “раздробленая капейка”, “разьбітае сэрца” (Баб.), альбо цалкам асацыіруюць ‘расколатыя’ элементы з аб’ектамі іншых кодаў: “ряшотка”, “яблака”, “лотаць”, “цярэшка” (Негл.), “лебядзіная лапка” (К.-Балс.), “рабінка”, “канапелькі” (Баб.). Здаецца, менавіта Неглюбка і Бабічы найбольш выразна нагадваюць аб існаваўшых некалі чынах не толькі фігур у кампазіцыі, але іх асэнсавання.

Тэма 'пустога'-'запоўненага' падрабязна разглядалася ў асноўным тэксце. Аднак да пазначэння формы яна мае самыя непасрэдныя адносіны. Тэрміны "балонка", "балоначка" — старажытныя назвы 'пустога', зноў-такі вядомыя Неглюбцы і Бабічам, працуюць у браным ткацтве. Калі 'цэлае'-'закрытае' ў 'глухоўцы', то ў "балонцы" яно — 'пустое'. Абодва віды 'цэлага' даюць два рады вытворных знакаў, кожны з якіх заканчваецца "кручча", тым самым раннеземляробчым культавым сімвалам, які вядомы ўсім нашым традыцыям. У Неглюбцы ўдалося выявіць два тыпы "кручча": "на ряшотцы" ("на відзяшчай") і "на глухоўцы". Бабічы ж маюць толькі "кручча"-"балоначку". Амбівалентнасць універсальнага старажытнага знаку нечакана праяўляе сябе ў дзвюх формах і развівае два чыны. Гэта адлюстроўваецца у дзвюх назвах і дае шэраг тэм для назіранняў. Паміж іх — замоўны "дуб на 12 какатоў" ды архаічныя рысы свята як пераходнага дня, дзе набліжаюцца адно да аднаго 'прамое' і 'крывое', 'культурнае' і 'стыхійнае'.

Тэме крыжа ў арнаментах ды іх назвах прысвечаны шмат назіранняў у асноўным тэксце. Звод назваў паказвае, што найбольш структурна "хрясты" прадстаўляе неглюбская традыцыя. 'Аперацыянальны' характар мясцовых тэрмінаў праяўляецца і ў адносінах да крыжа ("абводжаны", "расколаты", "сушчэлены", "зводжаны"). Гэта перадае, на наш погляд, не толькі тэхналагічнае мысленне. Азначэнне "хряста" — заўсёды вынік пэўнай дзеі, а спіс іх супадае з пералікам дзей культурнага ўпарадкавання. Частка з іх павязана з рытуальным рухам. Граматычная распрацаванасць назваў сведчыць аб пэўным 'чыне' "хряста", які павінен увасобіцца ва ўсёй структуры кампазіцыі. Арнаментальнае мысленне перадае тут ментальны працэс 'энергетычнага' характару. Крыж-"хрэст" "раскалвае" фігуры, уваходзіць у іх, ператварае іх структуру, 'прарастае', 'працвітае', маркіруе статус, суправаджае, адзначае пэўныя злучэнні і перамены ў фігурах як сітуацыі. Ён мяняецца і мае шэраг разнавіднасцей у адной і той кампазіцыі. Як "хрясты" адзначаюцца і прамы, і касы крыжы. Касы крыж — асноўны 'дзельнік' браных ромбаў і ўтварае чын у браных ручніках. Прамы крыж выступае 'спадкаемцам' касога ў пераборных (хоць 'гісторыя' касога крыжа падаўжаецца і ў пераборах. Ён фіксуецца і як "хрэст", і, традыцыйна, як "козлік"). Уяўленне аб узоры як сакральнай з'яве пераймаецца ад старажытнасці, узмацняецца ў хрысціянскай народнай культуры і кіруе абраннем менавіта крыжа як асноўнай форматворчай фігуры ў шматлікіх узорах. "Хрясты" заўсёды павязаны з 'культурнай' часткай мадэлі Сусвету, увасобленай у кампазіцыі.

Апошняю з найбольш 'імянованых' па форме фігур патрэбна назваць васьміканцовую зорку — "васьмірог" (ды іншыя "рагатыя" элементы). І тут самыя 'багатыя' традыцыі — неглюбская і бабіцка-валосавіцкая. Першая дае шмат граматычных варыянтаў у назвах, дзе найбольш архетыпічнымі нам здаюцца "васьмірогія" і "рагатыя", вядомыя на ўсходзе, уздоўж Іпуці. Другая не супакойваецца на "васьміrожках", утвараючы і "чатырохрожкі", "пяцірожкі", "дзесяцірожкі". Аб 'семантычным' характары васьміканцовай зоркі мы пісалі ў асноўным тэксце.

# 54. СУПАДЗЕННІ Ў СЛОЎНІКАХ ЗАМОЎ ДЫ ЎЗОРАЎ АДНОЙ ТРАДЫЦЫІ

Абраны на першым этапе параўнання замоў і арнаментальных элементаў слоўнікавы падыход фіксуе складаную і далёка не адназначную карціну іх адпаведнасцей. Тут няма прамога ўзаемаперакладу.

Але з такога параўнання сапраўды ўзнікае ўяўленне аб двух 'сусветах', глыбінныя рысы якіх маюць адзіную ментальную падаснову.

Малая колькасць абсалютных супадзенняў альбо блізкіх варыянтаў у тэрмінах слоўнікаў замоў і алфавітаў арнаменту (асабліва у межах адной традыцыі) аказваецца 'мінімальнаю сумаю' семантычных кропак, якія з'яўляюцца на паверхні сумяшчоных прастораў-аб'ёмаў (сусвет замоў і сусвет ручнікоў).

Тым не менш, паказальны іх пералік:

| *Замова* | *Ручнік* |
|---|---|
| **Дубраўская традыцыя** | |
| — раньняя зорачка, Зоры-заранiцы | зорачкі |
| — гляну наскрозь трое варот | калодкі з вочкамі |
| — цэркаўка, Апалтаўская цэрква | царква |
| — дуб, дуб на дванаццаць какатоў | дуб, дубовае лісьце, дуб з яйцамі |
| **Казацка-балсунская традыцыя** | |
| — агонь, вада | вогненная вада |
| — жалезная булава | булава |
| — ключ, ключы, сярэбраныя ключы | ключ |
| — зялёны круг | абводка |
| — хрэст | хрэст |
| — кубкі | стаканы |
| — дуб, цар-дуб, дуб Данііл, дуб-дзерава | дубок, дубовы лісток |
| — зямля Тацяна | зямля |
| — поле | поле |
| — дарога | пуці, дарога, дарожка, сцежка (Богава, царская, жалезная, лебядзіная, галубіная, сьвіная, цёмная), мышыны сьлядок |
| — стоўб | стаўпы, стаўпцы, стоўпчыкі |
| — прыстол | цэрква, хрэст царкоўны |
| — арол | арёл |
| — казьліная барадзішча | казлы, казёл |
| — воран... глаза чорныя | вароняе вока |

12а Зак. 3512

**Неглюбская традыцыя**

| | |
|---|---|
| — пад правы капыток | капыткі |
| — певень | пятух |
| — ялінка | елка |
| — крыніца | калодзезь |
| — жаркае сонца | сонца |
| — зямля калацілась | зямля |
| — Бог разьбіў дрэва | расколкі, расколатыя хрясты, расцярэбы |
| — зара-зараніца | зорька |
| — ключы | ключыкі |
| — гняздо (залатое гняздо), дванаццаць гняздоў | гняздо |
| — дробнымі зарамі абгараджуся, абазруся | зоркі, абгароджаныя зоркі |
| — кучарявая галавішча | кучарявая (лапа) |
| — ад паганых глаз | глаз, вока, вочка |
| — дуб | дубок, дубкі |
| — дванаццаць ключэй | ключыкі |

**Прыснянска-валосавіцкая традыцыя**

| | |
|---|---|
| — зара-зараніца | зоркі |
| — вясло | чаўнакі |
| — дуб | дуб |
| — арёл | арол |
| — раса, расіца, дашчы | кропелькі |
| — па залатой драбінцы спусьцілася | лесьвічка |
| — зоркамі засьцягнуся | зоркі, зорачкі |

Універсальным тэрмінам для ўсіх традыцый з'яўляецца "дуб" (з варыянтамі ва ўзорах "дубок, дубкі", дзе памяншальная форма паказвае на пазіцыю — пазацэнтравае ўжыванне). Глыбінная тэма Сусветнага Дрэва звязана тут з рознымі спосабамі адлюстравання рытуала. Змяшчэнне "дуба" ў цэнтры ручніковага ўзора можа адпавядаць прамому звяртанню да дуба ў замове, што мы і знаходзім у мясцовых тэкстах.

Распаўсюджанасць арнаментальнага элемента "васьмірог" і звычайнай для яго назвы "зорка" (з варыянтамі), магчыма, адпавядае звычайным у замове зоркам і зорам. Моўны тэкст мог уздзейнічаць на адбор і перавагу да гэтай "фігурыны" ва ўзорах (разам і з другой вобразнаю яго трактоўкай: "сонца"). Цікавае пытанне, чым пазначаліся "зоркі" раней за параўнальна 'новыя' "васьмірогі", вядзе, аднак, да васьмі-, шасці- і чатырохканцовых крыжыкаў, за якімі ў асобных традыцыях захоўваюцца 'зорныя' назвы.

Узор "арол" адлюстроўвае ўплыў кралявецкай традыцыі. Але роля арла ў замовах сведчыць пра перавагу семантыкі ў выбары.



Мал. 78. Стары крыж стаіць "у нагах". Нясвоеўка (Навазыбкаўскі раён). 2002 г.

Дадаўшы тэмы "ключы" і "вочы", мы атрымліваем 'сродкі зносін' паміж ярусамі сусветаў ручніка і замовы альбо паміж 'зонамі' іх планіметрыі (прыснянская і бабіцка-валосавіцкая традыцыі дадаюць суадносныя вобразы замовы і ручніка: "раса" і "кропелькі", "драбінка" і "лесьвічка").

## 55. ПОШУКІ ГЛЫБІННЫХ ЗАКАНАМЕРНАСЦЕЙ. КАМПАЗІЦЫЙНЫЯ АДПАВЕДНАСЦІ

Абсалютныя супадзенні ў назвах, як мы заўважылі вышэй, — толькі 'выхады' на паверхню пэўных унутраных семантычных працэсаў, падобных у нашых тэкстах. У прасторах ручніка і замовы мы бачым дзеянне дзвюх мадэлей Сусвету — яруснай і планіметрычнай. У ім удзельнічаюць і тэрміны слоўнікаў, разыходзячыся па трох сусветных ярусах альбо па зонах тыпу 'край' — 'сярэдзіна'. Такім чынам, розныя назвы набліжаюцца адна да другой і нават робяцца 'пазіцыйнымі' сінонімамі. Аднак абедзве мадэлі Сусвету

ўзаемадзейнічаюць. З улікам 'зрошчаных' мадэлей Сусвету ўзнікае дадатковы спіс узаемазамяняльных імён, пры тым, што захоўваецца першасны падзел: стыхіі, рэчы, жывёлы. Напрыклад, хтанічнымі істотамі (жывёламі Нізу альбо Краю) замовы з'яўляюцца змяя, вуж, жаба, чарвяк, рак, казяўка. У ручніку ў тых жа краявых альбо ніжніх пазіцыях ёсць узоры з назвамі "чарапашкі", "жабкі", "рачыкі", "павукі", "вашаночкі" — вядомыя па абрадах выклікання дажджу.

І замова, і ручнік прадстаўляюць Сусвет не як нязменны краявід, але як Шлях, бо ўводзяць у яго рытуал, магічнае дзеянне — рух праз пэўныя межы, агароджы, перашкоды, уваходы і выхады (альбо ўзводзяць адпаведныя агароджы вакол свайго Цэнтра). Тут сінанімічна збліжаюцца яшчэ рад тэрмінаў, якія здаваліся нам рознымі. Тыя ж "зоркі" робяцца значна больш 'семантычнымі', калі яны абкружаюць цэнтр узора, бо адпавядаюць формуле замовы: "зоркамі абгараджуся".

Вялікае месца ў замове і ручніку аддаецца сродкам зносін паміж Тым і Гэтым, што адзначана вышэй. Патрэбна спыніцца на тым, як належачыя гэтаму семантычнаму полю назвы ўваходзяць у больш шырокія катэгорыі.

Тэмы 'глухога', 'сляпога', 'нямога' супрацьстаяць тэмам 'зоркага', 'відушчага', 'з вокам', 'з глазам' — як у замове, так і ў ручніку (тут ужытыя назвы ўзораў). Аднак не заўседы ручнік мае патрэбу вызначаць апазіцыі праз слова. Тэмы 'касога', 'крывога', 'няпоўнага', 'адваротнага', 'негатыўнага' таксама супрацьстаяць 'прамому', 'поўнаму', 'пазітыўнаму', але толькі частка паняццяў адлюстраваная ў назвах узораў. Большасць 'тэрмінаў' дадзенай катэгорыі выяўляе сябе праз поўную або няпоўную форму арнаментальнага элемента (пар. у назвах: "паўвасьмірогі", "разьбітае сэрца"), праз літаральную пазітыўнасць альбо негатыўнасць выканання ўзора (у кодзе колеру — 'чырвонае'-'белае'. Аднак носьбіты бранай традыцыі доўга захоўваюць памяць аб 'адваротным' для іх у назве: "белы" (рожа, чаўнакі, елка). Што датычыцца моўнага коду, то тут назвы арнаменту могуць суадносіцца з прыметнікамі ў замове.

Добра было б і даследаваць на мясцовым матэрыяле агульнакультурныя адпаведнасці прыкмет ды іх сімвалаў, напрыклад, назву "крывуля" для хвалістай лініі і тую ж піктаграму для вады, змяі — праз іх сходныя прыкметы (што мы знайшлі толькі часткова і ў карпацкім матэрыяле).

Некаторыя супадзенні ў назвах рэчаў і арнаментальных элементаў датычацца сімвалаў пэўнага рытуальнага дзеяння. "Секачыкі", "сякеркі" ва ўзорах названыя, хутчэй, не толькі па падабенству з сякераю, але па агульнай 'культурнай' дзеі — сячы. "Расколкі", "расцярэбы" — з таго ж раду. Ператварэнні арнаментальных элементаў на шляху іх да цэнтра кампазіцыі адпавядаюць пераліку дзеяў ператварэння 'стыхійных' аб'ектаў у 'культурныя'. Такія імёны — назвы выніку — суадносяцца з багатым слоўнікам дзеясловаў у замове.

Гэта ж датычыцца і да дзеяў тыпу "высылаю". Каго і куды высылаюць — можа адпавядаць і метанімічнаму ўжыванню той альбо іншай фігуры з яе назваю. Так, краявыя "крывулі", а таксама "мядзведзі" могуць суадносіцца як з удзельнікамі дзеяў у замове ("хазяін лесавы", "змяя"), так і з 'геаграфічнымі аб'ектамі' тыпу "быстрыя рэкі", "прекрасны лес". Тое, што мы ча-

сам робім на ўзроўні агульнакультурнай рэканструкцыі, магчыма, удасца знайсці ў ‘жывых’ тэрмінах.

Розныя культурныя коды з іх магчымасцю ўзаемаперакладу накладаюцца на зыходны рад культурнага ўпарадкавання. Так, дзея падзелу вядзе да тэмы ахвярапрынашэння, тэм звышнатуральнага пакарання з яго героямі і іх зброяй (Бог, святыя воіны, гром, сам замоўца — з мячамі, сякерамі, коп’ямі, нажамі, маланкай, дажджом, бураю).

Накіраванасць замовы збольшага на перашкоду пэўнаму адмоўнаму дзеянню альбо ўплыву (“ад зглазу”...) вядзе да большай распрацоўкі структуры тых дзей, якіх нельга дапусціць (дзеясловы з “не”). Ручнік з яго прадукцыйнаю магіяй можа мець і другі рад. Але сістэма “калодак”, “агароджаныя” сімвалы ў цэнтры, магчыма, захоўваюць інфармацыю і пра абарончы сэнс ручніка, у чым ён сходны з замоваю.

Часам адна і тая ж ‘пачатковая’ фігура і яе назва (найчасцей “глухоўка” ды яе варыянты) пачынае розныя ўзорныя ‘чыны’. Яна дае вынікі развіцця ў геаметрычным, раслінным, антрапаморфным ды іншых стылях арнаменту, паходзячых з розных культурных кодаў. Падаўжаючы рад, можна дадаць транспартны, кулінарны альбо птушыны — усе яны дзейнічаюць у нашых традыцыях. Гэта зразумела, бо кожны з хадоў культурнай распрацоўкі (а значыць, і сельскай гаспадаркі, і рамёстваў, і ментальных працэсаў, а перш за ўсе — рытуальных дзеяў) мае ў пачатку нешта сакральнае — тайнае, замкнутае, нераспрацаванае, сырое — ц э л а е — з яго амбівалентнай — цалебнаю і пагражальнай сілаю.

У сувязі з гэтым важным было б супастаўленне агульнага для ўсіх традыцый знаку з назвамі “глухоўка”, “глухая” і адпаведнай прыкметы аб’ектаў у замове, а таксама сімвалаў закрытага і цэлага, магчыма, не маючага ў сабе прыкмет далейшага развіцця, альбо абсалютнага “глухога”, не даступнага, забароненага для культурнай распрацоўкі інакш як праз магічнае і рытуальнае дзеянне. Гэтакі сімвал (сімвалы) мог бы быць членам у архетыповай формуле першаснага дзеяння. Магчыма, трэба дадаць і вынікі вяртання ў замове шкодных аб’ектаў у іх першасны стан.

Такімі тэрмінамі ў абраных тэкстах замоў нам падаюцца прысутныя ва ўсіх традыцыях назвы “камень” і “замок”, прыснянскія “зьмяіны гроб”, “зямелька”, казацка-балсунская “сырая зямля”. Апошнія назвы могуць адпавядаць ‘земляробчаму’ ператварэнню “глухоўкі” ў “расколку”, “расцярэбу” (з мясцовым тэрмінам “зямлю расцерабіць”), а затым у “кучаряўку” (арнаменты неглюбскай традыцыі). Мы бачым тут рэалізацыю вобразнай тэмы — ‘расколвання’ першапачатковай ‘глухаты’, ‘цэльнасці’ і адкрыцця зямліжанчыны.

Але і згаданая вышэй тэма ‘замкоў — ключоў’, агульная для замовы і ручніка, можа чытацца ў іх як частка гэтай жа агульнай тэмы раскрыцця. У замовах ключамі валодае нябесная сіла, часцей за ўсё Мацер Божая. Хтанічныя ж істоты, у прыватнасці змеі, не могуць адамкнуць зямлі, храма, слова. Такім чынам, і яны ўзнаўляюць тую ж схему, але з адмоўным вынікам. Аднак і самі прадстаўнікі нізу і краю ў замовах з’яўляюцца аб’ектам, які расколваюць, разбіваюць, рассяваюць па чыстым полі гром, дождж, архангел Міхаіл ды іншыя ‘верхнія’ сілы, у чым праяўляецца ‘карэнная’ род-

насць 'зямлі' і 'змяі' (этымалагічна павязаных). Гэтыя суадносіны паміж тэкстамі ручніка і замовы мы лічым праяваю агульнага архетыпу.

Прыкмета 'замкнутага' датычыцца як 'краявых' аб'ектаў, так і цэнтральнага пункту абодвух 'сусветаў' (параўнайце казацка-балсунскія 'камні': "у чыстым полі... камень", "на акіяне-моры... апалтаўская цэрква... с трэмя царкоўнымі камнямі", "на камень станаўлюся, жалезным тынам абгараджуся", што адпавядае і законам будавання сіметрычнага ручніка). Гэта агульная рыса пабудовы прасторы-часу традыцыйнай культуры.

Паспрабуем параўнаць тэксты замоў і кампазіцыі ручнікоў асобнай традыцыі.

Казацка-балсунскі сіметрычны паласаты ручнік сярод цёмнафонавых палос на шляху да цэнтра мае дзве белафонавыя (прыкраявую і перадцэнтравую), дзе магчыма ўзнавіць сэнс зямных 'зон' і 'нябесных дарог' ("царская дарога", "лебядзіная дарога", "богава дарога" і г. д.). Цэнтр мае патрэбу ў 'агароджы', што і рэалізуецца як праз розныя "абводкі", так і праз саму сістэму папярочных узорных "хрястоў" і калодак. Найчасцей у белафонавых узорах — "калёссе" і "чаўны", што таксама стасуецца з вобразнаю тэмаю дарогі. Ці ёсць адпаведная структура прасторы ў тутэйшых замовах?

Дарога ёсць толькі ў тэкстах неглюбскай і казацка-балсунскай замоўных традыцый. У Неглюбскай: "Іду я... дарогай. Стаіць дуб... залатое гняздо..."; "Ішла дарогай Мацер Божая... урокі выгаварываць"; "Той дарогай Мацер Божая ішла, 12 залатых ключоў нясла..." У Казацкіх Балсунах у трох замовах узнікае "дарога да горада Ерусаліма", у якім "стаіць прыстол". Па дарозе Мацер Божая едзе "на вараных канях".

Калі параўнаць тэксты, бачна, што дарога ў неглюбскіх замовах часцей вядзе да раслінных аб'ектаў або да самога "раба божага /імя/". У казацка-балсунскіх — дарога да святога Горада і прыстола ў ім. Па дарозе, як і ў Неглюбцы, рухаюцца Божыя сілы, але яны не ідуць, а едуць. Здаецца, гэта адпавядае і схільнасці неглюбчан ставіць у цэнтр ручніка раслінныя аб'екты, пры тым, што ўзоры балсунскага цэнтра маюць у сваей геаметрыі больш 'стаўповых' і антрапаморфных рысаў, на жаль, у назвах сення амаль не зафіксаваных (але параўнайце балсунскае: "Дубовый столб, прости и отпусти рабу божему..." і арнамент "стаўпцы").

І той, і другі цэнтры ручнікоў маюць сістэму 'абарончых' арнаментальных "абводак", "агародж". Узор "калёсы" ёсць у абедзвюх традыцыях, але ў Балсунах ён больш часты і 'ўпісаны' ў сістэму, што стасуецца з сістэмаю 'дарожных' назваў узораў.

Прыкметы абгароджанага цэнтра пры люстраной сіметрыі ўзораў паабапал яго — характэрныя рысы гэтых традыцый. У іх найбольш за ўсе астатнія замоўных тэкстаў — 'агародж'. Па-першае, гэта 'агароджы' самога суб'екта замовы альбо яго "кароўкі", "хаты".

У Неглюбцы:

Жаркім сонцам абазрусь,
Жарай гадзюкай падперажусь...

Ясным месяцам абазруся,
Дробнымі зарамі абгараджуся...

У Казацкіх
Балсунах:

На камень станаўлюся,
Жалезным тынам абгараджуся,
Медным небам накрыюся,
Ясным месяцам падпераржуся,
Жаркім сонцам абгараджуся...

/кароўку/ жалезным тынам абгаражываю...

/карову/ загаварываю, укрываю,
дробнымі звёздамі абсыпаю,
жалезным тынам абстаўляю,
зялёнай зямліцай абкладаю —
ад неба да зямлі...

Вакруг майго двара
Каменная сцяна...

Тэма агароджы (у тым ліку і касмалагічнай) у астатніх традыцыях прадстаўлена значна менш. Адзін амаль дублюючы тэкст, але звернуты, мае бабіцка-валосавіцкая традыцыя, памежная з казацка-балсунскай. Магчыма, павязаны паміж сабою перавага да падобных тэкстаў і цэнтрычныя кампазіцыі ўзораў ручнікоў, дзе ў белафонавых поласах мы рэканструіруем 'нябесныя' сэнсы.

Чым жа падобныя пабудовы замоў і арнаментаў у іншых традыцыях?

Бабіцкі ручнік мае адметную трохпалосную кампазіцыю з дадатковаю паловаю паласы ў выглядзе 'даху' зверху. Узоры палос аднолькавыя, у чым мы бачым магчымы трайны паўтор адной 'фразы' (пры тым, што трохчастковасць заўсёды захоўвае ўспамін пра тры ярусы Сусвету).

Трайны паўтор у замове — агульная з'ява. Але па лічэбніках замоўныя традыцыі групуюцца. Так, найбольш разнастайныя рады — у Неглюбцы і Казацкіх Балсунах, а найбольшая колькасць 'троек' — у Бабічах. Калі пазначыць першай суму ўжыванняў лічбаў, а далей падлічыць колькасць паўтораў адной лічбы (яна ў косках), то атрымаем наступную схему:

Бабічы: 23 = 14(3) + 3(3×9) + 2(6) + 1(9);

Неглюбка: 12 = 4(3) + 3(12) + 4(100) + 1(1000);

Казацкія-Балсуны: 21 = 9(3) + 2(1-ы, 2-і, 3-і) + 3(3×9) + 1(4) + 2(40);

Прысно: 4 = 2(3) + 1(2) + 1(12).

Бліжэй за ўсе да Бабіч па 'тройках' Казацкія Балсуны. Найменш лічбаў — у прыснянскай традыцыі замоваў (з яе ж непарыўнасцю ў вертыкальных ланцугах узораў).

Бачна, што бабіцкая традыцыя вылучаецца схільнасцю да трайнога паўтору і ліку 'тры'. Менавіта ў яе замовах памінаецца і Святая Тройца. Калі ўгледзецца ў структуру замовы, то ці не ўбачым яшчэ праяваў таго, што мы адчуваем як пэўную семантычную структуру?

Так, ужо ў першым бабіцкім тэксце — звяртанне да трох 'памошнікаў' і пералік трох магічных дзеяў:

Зара-зараніца,
Госпадзі, на помашч,
Маць Прачыстая...
Рызу у Іардань-раку макала,
соллю націрала,
вадой змывала...

У іншым:

Мікола, стань на помач,
Міхаіл-архангел...
Юрый-Ягорый...

Ускладнены, але прасякнуты ідэяй траічнасці склад дапаможнікаў яшчэ ў адной замове:

Апосталы, прыступайце,
І ты, зара... прыступай,
І ты, святая вадзіца-царыца...
Пресвятая Троіца...

Матыў трох агародж у касмалагічным варыянце:

...медным небам,
...ясным сонцам,
...Гасподнім словам...

Тры дзеі адзявання:

Сонейкам адзяюся,
Месяцам падперажуся,
Зоркамі засцягнуся...

У сусвеце бабіцкай традыцыі — "тры моры", "тры зоркі — зажога, запека, прылюбка", "тры будынкі", "чэраз тры заборы, чэраз трое варот", "тры стала". Як звычайна, "тры сястрыцы", "тры змяіцы-царыцы", але і "тры брата — адзін вадзяной, другі ветраной, трэці патайной..." У "трох будынках" — "тры цяліцы".

Адна са значных прыкмет — асобны выгляд дрэва, якое памінаецца ва ўсіх традыцыях. У бабіцкай гэта "дуб на тры какаты, на тры карані". Колькасць яго какатоў павялічваецца за кожным разам: (3 — 6 — 9). Есць і дуб на "тры дупла". Такі 'трох'ярусны' дуб мае вельмі архаічныя адпаведнасці як Сусветнае Дрэва. Падобная да яго і яблыня — "3 какаты — 3 гнязды — 3 зьмяі..."

Перавага ў бабіцкіх замовах аддаецца загаднаму ладу дзеясловаў (менавіта праз загадны лад змаглі мы 'прачытаць' калісьці і трайны паўтор узора бабіцкага ручніка). Адсутнасць сіметрыі ў арнаменце правакуе разгледзець і прасторавыя, і часавыя асаблівасці 'ўзора замовы'.

Так, у тэксце "Вада-вадзіца, божая расіца..." бачна, як зыходзіць з неба і цячэ ўсе ніжэй вада: "з-пад сонца... выходзіла, з-пад яснага месяца, бегла высокімі гарамі... вымывала каменне..." У радзе тэкстаў тры ярусы з'ядноў-

ваюцца: “грозы” — “дашчы” — “пяшчэры”; “гром” — “неба” — “зямля” — “зьмеі”; “зара” — “сасна” — “вадзіца-царыца” (яна цячэ “Днепрю, Днепр — Чорнаму мору, Чорнае мора — Беламу мору”).

Маці Прачыстая спяшыць “на утрань... з утрэні на павячэрню, з павячэрні — на сіняе мора”. Тэмы збягаючай зверху вады, хмар, бур, грома, маланак, Божай Маці, якая спускаецца “з нябес... па залатой драбінцы”, нагадваюць другі тып кампазіцыі бабіцкіх ручнікоў — з вертыкальнымі ўзорамі-‘ліўнямі’. Мы лічым іх ‘прыснянскім’ тыпам, які ўвайшоў у бабіцкую традыцыю і перапрацоўваецца ею.

Разгледзім у параўнанні з ручнікамі замовы ўласна прыснянскай традыцыі, той, дзе менш за ўсё лічэбнікаў. Па-першае, сярод асаблівасцей яе тэкстаў (якія маюць і агульныя для ўсіх традыцый формулы) — паўтор тых жа рысаў непарыўнасці альбо ‘сыходжання’ зверху данізу, што і ў некаторых бабіцкіх (тэкст пра “вадзіцу-царыцу”). “Зоры”, якія “відзяць”, павінны паляцець “на мора” і ўтапіць “пячаль у ваду”. Замовы ‘на каханне’ наогул звяртаюцца да ‘непамернага’ — да ракі, да дыму. Шмат тэкстаў уключае ў сваю прастору міфалагічных хтанічных істотаў:

На мядзведзе еду,
Вужом паганяю,
Гадам абапруся...

На жабе еду,
Вужом абапруся,
Усем ўрагам уста закрываю...
Храстом агаражываюсь.

Па гэтай ‘хтанічнай’ прыкмеце прыснянскія замовы стасуюцца толькі з неглюбскай зонай, дзе двойчы ўзнікае просьба да ваўкоў, аднойчы — да дамавога з “кучарявай галавішчай”, дзе “жарай гадзюкай падперажусь”, а кароўку не абгарожваюць “каменнаю сцяной”, а ператвараюць “у полі і ў лесе пнём, у балоце — камянём” (паўплывалі тэксты стаўбунскай традыцыі, што ўвайшлі сюды тэрытырыяльна. Яе асіметрычныя ручнікі былі выдзелены пазней).

Гэтыя ды некаторыя іншыя матывы нагадваюць пра ролю ўзора “глухой лапы” (“мядзвежай лапы”, аднолькавы варыянт “воўчай лапы”), і нашыя разважанні наконт дадзенага ўзора менавіта у прыснянскай і неглюбскай традыцыях (ды яшчэ ў валосавіцкай, якую мы вылучылі з бабіцкай плыні). У бабіцкіх замовах есць адпаведная рыса. Сярод ‘герояў’ — “у трох дуплах — тры брата...”, а таксама шкодны і звышнатуральны “пераход на чатыры дарогі”, супраць якога змагаецца “дзедка старэнькі”, скідаючы яго “на грушу калючую, на асіну трасучую”.

Магчыма, гэткая ‘хтанічная’ падрабязнасць структуры МС ды яшчэ адметнае яе ўвасабленне ў прыснянскім:

На моры, на лукамор’і... іва,
Пад той івай — кабыла,
На той кабыле — воран...

— тыя ‘крыўскія’ рысы, якія мы гіпатэтычна бачым у асіметрыі мясцовых ручнікоў (а таксама ў няяўнай гісторыі складанага паходжання спадчыны Неглюбкі).

Што датычыцца 'непарыўных' вертыкальных кампазіцый у ручніках прыснянскага тыпу, дык толькі ў гэтай традыцыі мы знайшлі замову з бесперапынным пульсаваннем вобраза ў звароце да дуба:

Дуб зялёны,
Дуб карністы,
Дуб ствалісты,
Дуб вяцісты,
Дуб галлісты,
Дуб цьвятісты...

Такім чынам, назіранні над пэўнымі канстантамі прасторы і часу ў замовах і ручніках даюць надзею на тое, што ўдасца адшукаць агульныя рысы ў тканых і моўных 'тэкстах' адной традыцыі і што праз іх праяўляецца яе глыбінная мова, якая і захоўвае непаўторны варыянт Сусвету.

Пры супастаўленні зыходнага матэрыялу — тэкстаў замоў і слоўніка арнаментаў — адразу звяртае на сябе ўвагу наступны факт: калі лік замоўных тэкстаў неглюбскай зоны ў параўнанні з астатнімі значна меншы, то слоўнік назваў арнаментаў гэтай традыцыі, наадварот, найлепш распрацаваны і, як вынік гэтага, паўней зафіксаваны. Але пры гэтым захоўваецца становішча неглюбскай традыцыі ў нашай схеме — у цэнтры, так як практычна ў ёй змяшчаецца ўсё тое, што прысутнічае ў слоўніках астатніх традыцый.

4. Валосавіцкая



1. Прыснянская  3. Неглюбская  2. Казацка-балсунская



5. Дубраўская

Магчыма, знойдзеная намі заканамернасць суадносін традыцый з'яўляецца вынікам нейкіх выпадковых фактараў, і болей дасканалая праца пры зборы замоўных тэкстаў і абазначэнні фігур арнаментаў ручнікоў выявіць зусім іншую карціну. Але мы нагадаем толькі яшчэ на адно суаднясенне замоў і арнамента, якое не можа мець іншых прычын, апрача нейкіх глыбокіх ментальных працэсаў, што адбываюцца ў адзінай прасторы культурнай традыцыі. Вышэй мы ўжо адзначалі асаблівую геаграфічнасць "карціны Свету" замоў дубраўскай зоны, а менавіта — азначэнне тых ці іншых аб'ектаў імёнамі. Слоўнік арнаментаў гэтай традыцыі таксама адрозніваецца ад іншых сваёй геаграфічнасцю, якая выявілася, у прыватнасці, у з'яўленні такіх назваў, як "Гомель" і "бесканешнік", уласна кажучы, сімвалічна акрэс-

ліўшы ўсю прастору — яе бясконцасць і кропкавасць, што існуе толькі тады, калі яна мае Імя. Гэта дазваляе нам спадзявацца на патрэбнасць праведзенага тут аналіза двух абсалютна розных тыпаў тэкстаў і на тое, што ўдалося адшукаць некаторыя агульныя рысы бытавання народнай традыцыі ў дадзеным рэгіёне.

## 56. ТЭКСТЫ ЗАМОЎ МЯСЦОВЫХ ТРАДЫЦЫЙ, ВЫЛУЧАНЫХ ПА 'РУЧНІКОВЫМ ЗОНАМ'[1]

### Дубраўскія замовы

**Д1. Любша.** "Выхажу **на раньню зорачку** і махаю ***на*** чатыры ***стораны***, і прыгукую **трох** *дзявіц*: адну — *Палагею*, другую — *Сафію*, трэцяю — *Егіпетку*, і пасылаю ў ***Егіпет***. Няхай бяруць **агонь егіпецкі** і нясуць рабу Божжаму на *сэрца*, штоб ён *рабу Божжаю* цалаваў і мілаваў, штоб яна *царыцай* здавалася, а другая — *сатаной*, і ён к ёй ні *нагой* /к каму ходзя/".

**Д2. Любша.** "Раняньна ўставала. **Рачанскай вадой** умывалася. Ішла і стракала дзьвянаццаць *дзявіц-красавіц*. **Зоры-зараніцы**, Господнія памашніцы, прашу я вас не насьмяяцца з нас. Ляціце на ***Зарачанскае мора***, прынясіце **агню зарачанскага**, прынясіце, прыпячыце, прыкаліце, на імя (імя) *раба Божжа* назавіце. Штоб *раб Божжы* куда ішоў — не дайшоў, а *раба Божжай* думаў, і яшчэ еў — не даеў, а *раба Божжай* думаў. Пайшоў гуляць — не гуляецца, а ўсё любоў да *рабы Божжай* яўляецца".

**Д3. Любша.** "Стаіць **вярба**, пад **вярбой вада**, на **вадзе** даска, штоб *раба Божжага* па *рабе Божжай* брала таска".

**Д4. Любша.** "Стану благаслаўлюся, пайду перакрашчуся — ***з дзьвярэй у дзверы***, із варот у ***вароты*** на пракраснае ***крылечка***, на шырокую ***вуліцу***: там стаіць ***ізбушка*** муравіная, у той ***ізбушцы*** гарыць **агонь кіпучы, сьцякучы**, там *цар Адуван* **агонь** атушая, у *раба Божжая гаручую кроў* патушая, штоб *раб Божжы* на *рабу Божжу зуб* не імеў, коса не глядзеў, глупыя слава не гаварыў. Будзьце мае слава крэпкія і лепкія".

**Д5. Любша.** "Бег ***заяц*** заяч'ю бягой, ***мядзведзью галавой***. Як **жалеза**, ляжы ў **зямле** нема, штоб так *раб Божжы* анямеў па *рабе Божжай*, як ета **жалеза**".

**Д6. Ад уроку.** "Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прячыстай Божай Мацеры* пакланюся. Ішла *бабка залатым* ***масточкам***, папіралась *сярэбраным* кіёчкам. Сустракае Сам *Гасподзь Бог*, пытае: "*Бабка*, куды ты ідзеш?" — "(Як маленькі): "К *младзенцу*", (як к большаму): "*Раба Божаму* ўрок выганяць і выгаманіваць, і прымольнае, і прыгаворнае, і дзявоцкае, і парабоцкае". **Соль** да пячы да ліхому ў *вочы*. Цяклі тры ***рэчкі***: адна ***рэчка — Марына***, другая — ***Кацярына***, трэцьцяя — ***Махана***. *Белая* **карэньне**

---

[1] Тэксты падрыхтаваны Г. Лапаціным. Шрыфтавое вылучэнне адпавядае класіфікацыйным групам (гл. вышэй).

мыла — вымывала, урокі вымываць, выгаварываць памагала, і прымольнае, і прыгаворнае, жаноцкае, дзявоцкае, парабоцкае. **Соль** да пячы да ліхому ў *вочы*. Жаноцкія ўрокі бярыце ў чапцы, парабоцкія ў шапкі, дзявоцкія ў *косы*. Стану маладзюсенька, ранюсенька, выду, гляну наскрозь трое ***варот***. У ***горадзе Ерусаліме на гаре*** стаяла ***цэркаўка***. У той ***цэркаўке*** сам *Ісус Хрыстос*. *Пятро-Павел* падхадзіў, *Ісуса Хрыста* прасіў: "Жалаем мы Цябе і цела Твайго". — "Жалайце Мне і цела Маё. Бярыце ключы раельные, пякельные, заказвайце па ***ўсяму сьвету*** ўсім бальным". Помашч мая ат *Госпада*, сатворшага неба і землю. Сьвяты чэтвяржочак, святое Хрыстова Вазьнясеньне, ізьнясіце із *младзенца* (ілі *раба Божага*) усё ліха. Я словам, *Гасподзь* помашчу. *Мацер Божа* прыступала, да нам помашчы давала. Прылюбі, *Госпадзі, Дух мой*".

**Д7. Ад рожы.** "Первым разам, Божым часам *Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Божай Мацеры* пакланюся. Добры дзень (ілі вечар) цябе, скула-рожа прыдуманая, прыгаданая, прымольная, прыгаворная, калючая, балючая, сьвярбучая, ветраная, вадзяная. Я цябе, скула-рожа, угаварываю, загаварываю на сходу і пад поўняй, і на маладзіку. Тут табе не стаяць і ня бушаваць, колікамі не калоць і пухам не пушыць, і *серца* не крушыць. Выдзі, выступі з *белага ліца*, шчырага *серца*, *жоўтай касьці*, з *краснай крыві*, з *пальчыкаў*, *сустаўчыкаў*. Ідзі на ***мха***, на ***балата***, на ***ніцае лозы***. Там стаіць **дуб** на дзьвенаццаці **какатоў**. Пад тым **дубам** стаіць дзьвенаццаць ***прыстолаў***. Там будуць і буяць, і гуляць, *раба Божаму* (*младзенцу*) помашчы даваць. Я словам, *Гасподзь* с помашчу. *Мацер Божая* прыступала, да нам помашчы давала. Прылюбі, *Госпадзі*, мой *лёгенькі Дух*".

**Д8. Ад грыжы.**[1] "Первым разам, Божым часам, *Госпада Бога* ўмаляю, упрашаю ("Отчэ наш" нада прагаварыць), ат *младзенца* ўсе балезьні замаўляю. Ты казала: "Грыжа", а я — ***волк***. Я цябе ў **лазу** завяду: хам да і зьем. А я грыжу выгрызаю, а я грыжу выкідаю. А ты, грыжа грызавітая, чэснавітая, зубавітая, як я цябе, грыжа, не знала, ты ў *младзенца* бушавала. Як я стала цябе знаць, стала жэзлам прыпякаць, замкамі замыкаць, на ***мхі*** і ***балата*** атсылаць, на ***мха*** і ***балата*** атсылаць, на *белыя* **бярозы**. Табе, грыжа, там гулянне і красаваньне. *Сьвяты Іосіф пракрасны*, разгані. Я словам, *Гасподзь* — помашчу. Прылюбі, *Госпадзі*, *мой лёгенькі Дух*".

**Д9. От бяльма.** "Первым разам, Божым часам. Бегли тры ***валкі полавых*** чэраз ***гару Сиянскую*** сабе харч здабываць. Адзін зірнув, другі лізнув, трэцы за ***гару*** махнув сабе харч здабываць, ***каровцы Лысцы*** білмо зганяць".

**Д10. Ад скулы.** "*Госпаду Богу* памалюсь, *Прэчыстай Мацеры* пакланюсь. На ***крыніцы*** сядзелі тры *дзявіцы*. Адна шыла, другая вышывала, трэцяя скулу зганяла. Я ж цябе, скула, выкачваю, выгаварваю з *касьцей*, з *машчэй*, з *румянага ліца*, з *ярых вачэй*, з *розавай крові*, з *сініх жыл*. Ідзі ж, скула-скуліца, на ***густыя лозы***, на ***топкія балоты***, на высокія ***горы***, дзе **сонца** не

[1] Вот у руку ілі ў нагу ўваходзіць, вот, раждаецца рабёначак, ілі ў пуп, ілі ў ядзеркі ўваходзя грыжа.

ўсходзя, **луна** не заходзя, ***пціцы*** не лётаюць, ***сабакі*** не брэшуць. Там цябе жыць, піраваць, а ў этага не бываць. Не я памагаю, *Гасподзь* памагае".

**Д11. Ад звіху.** "*Госпаду Богу* памалюсь, *Прэчыстай Мацеры* пакланюсь. *Кандрат-Кандратачка*, *ударачка-ўдарыха Мар'яначка*, назад *рукой*, назад *пятой*. Мы з цябе вопух зганяем, цябе *жылы* нацягаем, *суставы* састаўляем. Ехаў *Бог* чэраз ***жалезны мост***. ***Мост*** праваліўся, *раба Божага* /імя/ *суставу* на места станавіўся. Мой *ціхенькі, лёганькі Душок*. Дуваньне — на помашч".

**Д12. Як не мочыцца цялёнак ці чалавек.** "*Госпаду Богу* памалюсь, *Прэчыстай Мацеры* пакланюсь. Шлі дзьвенаццаць *апосталаў* ***мост*** масьціць, ***гаць*** гаціць, ***вусты*** вязаць. *Спасіцель* ішоў *раба Божжаму вуста* разьвязаць".

**Д13. Ад усяго.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прэчыстай Мацеры* пакланюся. На ***акіяні-моры*** стаіць ***апалтаўская цэрква***. У той ***цэрквы*** спачывае *Маць Прэсвятая*, *Маць Багародзіца* з трэмя цэркоўнымі сьвячамі, з трэмя цэркоўнымі камнямі, з трэма **цэркоўнымі агнямі**. У мае-месяцэ ў дзявочым чысле прышоў к ёй *Ісус Хрыстос*: "Маць мая вазлюбленная, спіш ілі не спіш?" — "Сын мой вазлюбленны, спаць не сплю, но так ляжу. Сьніцца мне сон такі прэстрашны. Будта цябе расьпялі на трох **дзеравах**: первым — **серадавом**, утаром — **паперавом**, трэцьцям — **кіпарысе**. Гвазьдзямі *рукі* прыбівалі, камнямі *сэрца* паражалі, *жоўтым* стоем паілі, небрэжна рызу сымалі, цярновы вянец на *галаву* надзявалі". — "Маць мая вазлюбленная, хто эты сон любя, тры разы ў дзень чытае, той будзе спасён і сахранён ад нажа-парэза, ад тапара-паруба, ад *злых людзей*, ад *калдуна*, ад *калдуніцы*. Каторы ў пуць мой сон возьмеш, і ў **вадзе** не ўтонеш, і ў **агне** не згарыш, на суд пойдзеш, суд не асудзя. Спасі, *Госпадзі*, его на ўсякім месьці. Амінь".

**Д14. Ад ляку. "Зоры-заранiцы, Бож'і памашніцы,** *Госпаду Богу* памалюся, *Прысвятой Мацеры Владычыцы* пракланюся. *Прысьвятая Маць Багародзіца*! Добрага раньня, ляк і дзяцінец, я прышла к цябе гуляць, я прышла цябе выганяць сабаччы, кацяччы, парасяччы, тухлы, пухлы, ляклівы, здраглівы, нудлівы, парасьлівы, сярлівы, сцыклівы, бацькін, маткін. Адна ***рэчка — Ліда***, другая — ***Паланіда***, трэцьцяя — ***Волга***. Ані ўмесьці сайдуцца, *раба Божага* /імя/ ляк і дзяцінец разайдуцца. **Праведнае сонейка** ўсходзе, **расіца** ападае, *раба Божага* /імя/ ляк і дзяцінец прападае. **Дуб-дуб галяты**, ты на сыноў багаты. Там жа табе піць і гуляць, а *раба Божага* /імя/ усю ноч спаць. Як жа я цябе не знала, а як стала цябе знаць, стала выгаварываць, выдымаць /тройчы дунула і сплюнула/ с *касьцей*, *машчэй*, з *ярых вачэй*, з *буйнай галавы*, з *жоўтай касьці*, з *жыл*, *палужыл*, *прожыл* жэнскі, мужскі, младскі, парабоцкі. Тут жа цябе не стаяць і *галоўкі* не паліці, *гаручага сэрца* не знабіці і *краснага мяса* не есьці. *Госпадзі Божэ*, прылюбі мой *легенькі Дух* ва векі вяком /дунула/, *Гасподзь Сьвятым Духам*, а я с малітваю /дунула/. *Гасподзь Сьвятым Духам*, а я с малітваю /дунула, сплюнула/".

**Д15. Любша.** "Устану я рана-раненька. Умыюся бела-бяленька. Утрусь нятканым, няпраным мятром — *чарціным хвастом*. Выйду я за ***новыя вароты за няцёсаныя***. Гляну я ў *сіняя* ***мора***, ***шырокае раздольле***. У *сінім* ***моры***, у шырокім ***раздольлі*** стаіць **дуб**. **На дубу** дзьвенаццаць **какатоў**. **На какатах** дзве-

наццаць *чартоў*. Самы *глаўны чорт* — *Мікіта*. *Мікіта-чорт* любшу саставляе (Генку), а *малыя чарцяняты* любшу ўручаюць — у *карія вочы*, у *чорныя бровы*, у *гарачую кроў*, у *шчырае серца*, у *жоўтыя мозгі*, штоб ён куды шоў — не дашоў, куды ехаў — не даехаў, вышэй *галавы рук* не падымаў, штоб ён *фунту хлеба* не з'ядаў, штоб за *Галей* плакаў-таскаваў".

## Казацка-балсунскія замовы

**КБ1. Загавор болі.**[1] "Первым разам, Госпадніім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Маці Господняй* прыкланюся. Не сама я сабой, *Прячыстая Маць* са мной. Ішла *Маць* с ***поля***, нясла **пясок** у прыполі, етай *жэншчыні нагу* (ці *руку*) апсыпала, боль унімала. І ты, боль, ідзі вон: жаркая — на **агонь**, сухая — на **вецер**, мокрая — на **ваду**, чорная — на **зямлю**, агняная — на **агонь**. **Агонь-агонь**, бяры свой **агонь**. Устану я рана. Зірну я, гляну за ***новыя варата***: там ляжыць ***дарога*** да ***горада Ерусаліма***. Па той ***дарозе*** ішоў *Сам Бог Ісус Хрыстос* і з *Мацер'ю Господняй*. І я ж вас прашу вялікія помачы *Госпада Бога Ісуса Хрыста*. Вы ж ні гуляйце, етай *жэншчыні* помачы давайце. *Маць Прячыстая* ішла, ету боль на *руках* нясла. Пад ***горадам Русалімам*** ляжала, на *руках* ету боль дзяржала. Як з ***дарогі*** ўстала, етай *жэншчыне* помач стала, у яе ў *назе* боль перастала. Ідзе стала, там ты перастала. Ідзе случылась, там ты разлучылась. Сходам мінайся, маладзіком ні атрыгайся, на сваём месьці станаўляйся".

**КБ2. Ад зьвіху.**[2] "Первым разам, Госпадніім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *сьвятой Прячыстай Мацері* прыкланюся і ўсім *сьвятым апосталам* прыкланюся. Станьце ка мне на помач. Пайду я, *раба Божая* (імя) на ***акеан-моря***. На ***акеані-морі*** стаіць **дуб Даніїл,** на сорак сажаней глыбіні і сорак сажаней вышыні. На тым **дубе** сядзіць *чорны* ***воран***. Сам он *чорны*. ***Крыльля*** яго *чорныя*. *Глаза* яго *чорныя*. Прашу я цябе, *чорны* ***воран***, штоб ты к етаму *раба Божаму* прылятаў і зьвіх выглядаў, ***крыльлямі*** разьбіваў, ***кагцямі*** разьдзіраў, *чорнай* ***дзюбкай*** зьвіх выбіраў. Ва імя *Атца* і *Сына* і *Сьвятога Духа*. Амінь".

**КБ3. Ад падоймы.**[3] "Першым разам, Госпадніім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Матцы Прячыстай* пакланюся. Ішла *Маць Прячыстая* па *залатому* ***масту*** ў *сярэбряных* лапцях, у ткацкіх рукавах. Як таму *залатому* ***масту*** ні ламацца, *сярэбряным* лапцям ні расплятацца, ткацкім рукавам ні растыкацца, так у етай *жэншчыны* залатніку ні раздымацца, ***варот*** ні затвараць, *бакоў* ні закладаць, па *касьцях* ні хадзіць, *касьцей* ні ламіць, *крыві* ні паліць, *жывата* ні паланіць. І датуль ты хадзіла, гуляла, буяла, ***вароты*** затваряла, пакуль я цябе ні ўхадзіла, ні ўгаварыла, на сваё места ні паставіла. Як садзіцца *Сам Господзь Бог Ісус Хрыстос* у *залатое* крэсла, так становяцца днішчыпрыднішчы, выходнік-увярёднік, камянец, падойма, падорва і ўдар па сваіх мястах. Ты сходам мінайся, маладзіком не атрыгайся, на сваім месьці станаўляйся. (Эта прагаварыць тры раза. Любое — тры раза.)"

---

[1] Удруг васпаля. Галава баліць. Косьці ломя.

[2] Ета будзіце іцьці і, бывае, нялоўка станіце і зьвіхніцё *нагу*. Яно не мінаецца. Яго нада прагаварываць.

[3] Вот, інагда падыміце вы цяжола, і пака не пашэпчэш, і не збавіш яго. Вот, яно і пішацца: "ад падоймы".

**КБ4. Ад уроку.**[1] “Первым разам, Госпаднім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Мацеры Господняй* прыкланюся. На *сінім* ***моры***, на ***лукаморы***, стаяў **дуб**. Пад тым **дубам** цясовыя сталы пазасьціланы, кубкі паналіваны цялячыя, жарабячыя, курыныя, дзявоцкія, парабоцкія, жэнскія, мужскія. І пакуль я цябе ні ўхадзіла, ні ўгаварыла. Цяперь я цябе ўхаджую, угаваряю. І етаму ўроку ні быць, *касьцей* ні ламіць, *серца* не тушыць, *крыві* не паліць, *лідачым вачам* ні з’ядаць, уроку-прыгавору ні бываць — ні на сходу, ні на маладзіку, ні пад поўна. І ты сходам мінайся, маладзіком ні атрыгайся, на сваім месьці станаўляйся”.

**КБ5. Ад ветру.** “Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прячыстай Божжай Мацеры* пакланюся, *кіеўскім, пячэрскім* — *усім Сілам Нябесным*. Прыступіце ка мне — *уся Нябесная Сіла*, *Прасьвятая Маць Багародзіца*, на етай пары, на **раньняй заре**. Устану я рана. Умыюся бела. Выду ў чыстае ***поле***. У ***чыстым полі*** ўстрэчу я тры *дзевіцы царёў*: первы *царь* — *лесавой*, другі — *палявой*, трэцьці — *хазяін дваравой*. Упрашаю вас, умаўляю вас сваім *ціхім Духам*, малітвай, маткіным параждзеніем. Выгаварію *раба Божай* (імя) на етай паре, на етай **заре**, на ціхай гадзіні **ціхі вецер**. І выгаварію, вымаўляю, высылаю ў ***чыстая поле***, на ***сіняя моря***. Ёсць на сьвеці ***моря***. На тым ***морі*** стаіць **дуб**. Пад тым **дубам** сядзіць *дзедзька сівабародзінькі*. Ён нічога ні запаведае, адны *херувімы* садзяржае і з етага раба Божага ***ціхі вецер*** высылае, яму помачы давая. Каторага слова ні знаю, *Госпада Бога* прызываю. Дай жа ты, *Госпадзі*, помач”.

**КБ6. Гадавы загавор.**[2] “Первым разам, Госпаднім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прячыстай Мацеры* прыкланюся. На ***камень*** станаўлюся, ***жалезным тынам*** абгараджуся, **медным небам** накрыюся, **ясным месяцам** падперяжуся, **сярэбранымі зьвёздамі** абгараджуся, **жаркім сонцам** абгараджуся, пайду чэраз ***Суботу-ряку***, вазьму *Прячастыя Мацеры калень* у *руку*, замкнусь, загаварюсь *залатымі* замкамі, *сярэбранымі* ключамі, Госпаднімі рячамі. Аддам *сярэбрянныя* ключы *Мацеры Господняй*: “Нясі ты, *Мацерь Господняя*, *сярэбряныя* ключы ў ***акеан-мора***, падлажы пад ***Берна-камень***”. Як табе, ***зьмею-чарадзейніку*** і ***зьмяе-чарадзейніцы акеан-мора*** ні выпіваць, ***Берна-каменя*** ні падымаць, сярэбряных ключоў з ***мора*** ні даставаць, так жа табе, ***зьмею-чарадзейніку*** і ***зьмяе-чарадзейніцы***, *раба Божае* (імя) ні з’ядаць і з’едкі-нарядкі ні насылаць і ні намоўныя, ні на голасе, ні на *валасе*, ні на думах, ні на рячах, ні на *печані* ні на *ядзенні*, ні на стрэчы. Так жа табе, ***зьмею-чарадзейніку*** і ***зьмяе-чарадзейніцы***, ***жалезнага тыну*** ні прагрызаць, **меднага неба** ні пралізаць, **яснага месяца** з **неба** ні зьняць, дробных **зьвёздаў** зь **неба** ні забраць, **жаркага сонца** ні разганяць і ў ***морі*** **іржы** ў **вадзе** ні парасчытаць. Так табе, ***зьмею-чарадзейніку*** і ***зьмяе-чарадзейніцы***, у мяне здароўя ні пазычаць. Загаварію сваёй аградай на круглы год”.

---

[1] Зірне хто, ано ні мінаецца, плоха становіцца. Сурочылі, ці зглазілі.

[2] На увесь год загаварыяць, напрамер, скаціну і сам сабе. Толькі ў Чысты чэцьвер да ўсходу сонца нада ета прагаварываць. Тры разы. Як скаціна — у пуні, ці над чалавекам — ета тожа самая.

**КБ7. Кароўскі сціх.**[1] "Я ету *кароўку* на год загаварію, ***жалезным тынам*** загаражываю от *лідачых вачей*, ат паганых рячей, ат ***гада паўзючага***, от ***зьмяі лятучай***, от ***зьмея-чарадзейніка***, от ***зьмяі-чарадзейніцы***. Як ***зьмею белага света*** ні аблятаць, так у мае ***скацінкі*** малачка ні атабраць. ***Зьмей*** і ***зьмяя***, ляціце ў ***чыстае поле***. Там ляжыць ***камень***. Бійся ты, ***зьмей***, ***грудзямі*** і грызі яго ***зубамі***. Як табе, ***зьмею***, ***белага света*** ні аблятаць, так маей ***кароўкі*** ні з'ядаць, малачка ні атбіраць. Ні *мой Дух, Гасподні*".

**КБ8. Ад цёну.**[2] "Устану я рана-раненька. Умыюся *бела-беленька*. Пайду я ў ***чыстае поле***. Найду **дрэва-бярозку** і стану сеч і рубіць. І ў етага *раба Божага* цён выбіраюць. Ідзець *Маць Прячыстая* — "Памажы, *Божа, чалавеку*. Я не **дрэва** сяку, *Маць Прячыстая*, а высякаю цён у етага *раба Божага чалавека* — урошны, улешны, пацешны, прыгаворны, пасьмешны, пацешны, падумны, паглядны, штоб у етага *раба Божага чалавека* цён ні быў і *сэрца* і *суставаў* ні ламіў". — "А ты, *сустаў*, на месца стань!" Я етаму *рабу Божаму чалавеку* цён прыгаварываю і на месца пастанаўляю, кап'ём прыбіваю, шаўковай ніткай зашываю, *залатым* замком замыкаю. Не сама я сабой, с *Прячыстай Сьвятой*".

**КБ9. Кароўскі сьціх.**[3] "Стану я рана-раненька. Умыюся *бела-бяленька*. Выду я за ***новыя варата***. Зірну-гляну ў ***горад Ерусалім***. Ляжыць ***дарога*** да ***горада Ерусаліма***. У ***горадзе Ерусаліме*** стаіць ***прыстол***, *залатой* рызай пакрыўшы. На тым прыстоле, на той *залатой* рызе ляжыць **макаўка**. За тым ***прыстолам*** сядзіць *Маць Прячыстая* с *Ісусам Хрыстом*. І прашу я вас, *Маць Прачыстая*: "Аткрыйце рызу, вазьміце **макаўку** і пасейце па **шаўковых травах**, дзе будзе мая ***кароўка*** хадзіць, **траўку** з'ядаць, і будзе ей, етай ***кароўцы***, у ***мягкае вымя*** малачко прыбываць, а *зьмею-чарадзею* і *зьмяе-чарадзейніця* *чарвей* паядаць. Ні сама я сабой, ні сваімі думамі, Гасподнімі рячамі. Амінь".

**КБ10. Ад гадзюкі.**[4] "Первым разам, Гасподнім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Сьвятой Прячыстай Мацеры* прыкланюся і ўсім *сьвятым апосталам* прыкланюся. *Прячыстая Мацер Божжая*, стань ка мне на помач са *сваімі апосталамі*, *ангелам* на радасьць. *Мікалай, вялікі Чудатворэц*, стань ка мне на помач са *сваімі апосталамі*, *ангеламі* на радасьць. *Сьвятой Георгій*, стань ка мне на помач са сваімі *апосталамі*, *ангеламі* на радасьць. *Міхаіл-Архангел*, стань ка мне на помач са *сваімі апосталамі*, *ангеламі* на радасьць. На ***морі***, на ***Сіяні***, стаіць **дуб**. Пад тым **дубам** цясовая краваць. На той краваці цясовай паўлінае гняздо. У том гнязьдзе тры *дзевіцы-царыцы*: первая — *Ульяна*, другая — *Мар'яна*, трэцьцяя — *Салафія*. Прашу я вас, унімайце сваіх ***гадзюк лесавых, махавых, балотных, падкалодных, насыланых, крапіўных, гнаявых, ветряных, вер'яцяных, вадзяных***. Унімайце ***зубы*** і ***жала*** вынімайце. А ні будзіце ўнімаць ***зубы*** і ***жала*** вынімаць, прыедзя *Міхайла-Архангел*, *судзьдзя наш*

---

[1] Скаціну загаваріваюць у Чысты чацьвер.

[2] Удруг будзіце іцьці, тожа нялоўка станіце, а ў сьпіну коль. І сьпіна забаліць, і яго нада гаварыць. Яно называецца "ад цёна" — уцён.

[3] Як первы раз у поле выганяеш.

[4] Як гадзюка ўкуся, ні пашаптаўшы дзела ні будзя.

*праведны*, с агняным меччу. Я яму буду жалавацца. Он вас пасячэ і парубя, **агнём** папаля і па ***чыстаму полю*** **попел** разьнясе. Чур, етага *раба Божага* / імя/ *цела* не пушы і *гарячай крыві* не палі".

**КБ11. Ад скулы.** "Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюсь, *Мацэрі Гасподняй* пакланюсь. Стань жа та, *Госпадзі*, на помач, *Прячыстая Маць* — на радасць. Як на ***моры*** — на ***Лукаморы*** стаіць **зялёны явар**. Пад **зялёным яварам** цясовая каравацць. На той караваці *сьцешная пані* піры кіравала, *гасьцей* частавала, **сахарным яблакам** шыбала, махала, скулу ўпрашала: "Скулуха *сінявая*, скулуха *накрасная*, скулуха нішчая, скулуха наўрошная, станая, жаласная, рагавуха, залатуха, унімісь, улячысь (у етага *дзіценка*) з *буйнае галавы*, з *ясных бравей*. Як каменю на *калені* не стаяць, **вятрам** не махаць, **лісцем** не шумець, так у (етага *дзіценка*) скуле ў *галаве* не шуміць, не балець. *Мой Душок ціхонькі, легонькі*".

**КБ12. Ад уроку.** "Первым разам, Божым часам. *Госпаду Богу* памалюся, *Мацэрі Гасподняй* пакланюся. Стань жэ ты, *Госпадзі*, на помач (*етаму младзенцу*), *Прячыстая Маць* — на радасьць. Адна ***ряка*** — ***Дзяміда***, другая — ***Саламіда***, трэцьцяя — ***Паблiскуха***. ***Весь сьвет*** абблісьцяла, з ***мора*** **карэньня** вырывала (*етаму младзенцу*) помачы давала".

**КБ13. Ад улёку.** "Первым разам, Гасподнім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Мацэрі Гасподняй* прыкланюся, станьце вы, *Госпадзі*, на помач, *Матка Прачыстая* — на радасьць. На ***моры***, на ***акіяне*** ляжыць ***камень-Латыр***, на том ***камне-Латырі*** сядзіць ***певень-пявака***, *красны* ***дзівака***. Нічога ён не мове, не гаворе, толькі ***крыльлем*** разьбівае, ***кагцямі*** разграбае, *залатой* ***дзюбкай*** выбірае з етага *младзенца* (імя) тры-дзевяць урокаў, тры-дзевяць улёкаў, тры-дзевяць прыгавораў: калючых, балючых, сьвярбючых, намоўных, прыгаворных, урошных, улешных, сьмешных, пацешных, жаночых, парабочых, дзявоцкіх, выблядскіх, другасысаў, падумных, пагадных, бацькін, маткін. І дасюль ты тут хадзіў, гуляў, буяў, па касьцях хадзіў, *косьці* ламіў, жарам паліў, *жывот* паланіў, пакуль я цябе не ўмовіла, не ўхадзіла, не ўгаварыла. А цяпер я цябе ўхаджыю, угаварыю, вымаўляю. І як этаму ***камню-Латырю*** са ***дна моря*** не ўставаць, па ***акіян-морю*** не хадзіць, ***акеан-моря*** не муціць, так у етага *маладзенца* тры-дзевяці урокам, тры-дзевяці прыгаворам не бываць. Сама *Мацер Господняя* прыхадзіла, тры-дзевяць помачы прынасіла. Ху! Не мой *Дух — Господні*".

**КБ14. Спина болит.** "Дубовым столб, прости и отпусти *рабу Божьему* / имя/ от притки, от хитки. Выйди, притка, выйди, хитка, из *костей*, из *мощей*, из *становых жил.* Во веки веков. Аминь. Аминь. Аминь. **Святая земля, сырая земля**, прости и отпусти *рабу Божьему* /имя/ от притки, от хитки. Выйди, притка, выйди, хитка, из *костей*, из *мощей*, из *становых жил*. У *раба Божьего* /имя/ не бывать, *костей* не ломить. Во веки веков. Аминь. Аминь. Аминь." (Стать перед дубом или дубовой палкой и читать 3 раза по утренней заре или закате солнца.)

**КБ15. Штоб вуж скаціну не ўкусіў.** "Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюсь, *Прачыстай Мамачцы* пакланюсь. *Прачыстая Мамачка*,

стань на помач. На **моры**, на **акеане** стаял **дуб**, на тым **дубе** гняздо, у гнязьдзе ляжыць ***вуж*** *с краснай* ***галавой***, с жалезнай булавой. Вынімай сваіх ***вужоў*** *с красных* ***горлаў*** паттынных, крапіўных, межавых, сьцежавых. Штоб эту ***скаціну*** не кусалі, штоб *рябая* вопуху не пускала, а то твой *лоб* разаб'ю, **ветрам попел** разьнясу. Па эты раз, па эты час, па эту мінуту, па эту часіну. Не сама сабою, *Прачыстая Мамачка* на калены ўпадала, **скаціне** помачы давала. (Тады дунеш.) *Госпадзі*, дай на помач, *Госпадзі* (тры разы)".

**КБ16. Ад іспугу.** "*Госпадзі*, храстом украшайся, храстом *бес* атганяй. Атайдзі, *бес*, ад мяня, ад маёй ***хаты***, маёй ***хаты***, з майго ***двара***, майго ***двара***. *Госпадзі*, *Мацерь Господня Сына* радзіла, усім **месяцам** нас агарадзіла. Прастол Господні — нашая сіла. Сашлі мне, *Госпадзі*, Сваего *Сына*. Акружы мяня, *Мацер Господняя*, сваім *зялёным* кругам. Сашлі мне, *Госпадзі*, на помашч *цара Давіда* і яго ўсю крэпасьць. *Бог* васкрэс. *Уран, бес, сатана, дзьявал, усякая нячыстая сіла*, усякая нішчата плахая, ад мяне, ад маёй ***хаты***, ад маёй ***хаты***, з маего ***двара***, маего ***двара***, усе пасчэзьлі. Амінь. Амінь. Амінь".

**КБ17. Як спужаецца дзіцёнак.** "Шоў *Госпадзі* паўз *сіняга* ***моря***, дунуў на ***сьвет***, на ***сьвеце*** стала трава (*Бог* дунуў — каментарый інфарманта), на **траве** стала **раса**. Як **сонца** ўзойдзе на ***сьвет***, так з **травы раса** спадзе, і з етага *дзіцёнка* спадзе ўсё ліха: і ўрошнае, і ўлешнае, і намоўнае, і прыгаворнае, і пасьмешнае, і падзіўнае. У яго не быць, па *касьці* не хадзіць, і *касьці* не ламіць, і *серца* не паліць. Не *мой Дух*, *Господні Дух*. *Ангелы-храніцелі*, станьце ў мяне наперадзі, а *супастаты* і *злосьнікі* ўсе ўзадзі".

**КБ18. Ад нарадкі.** "Ляжала **дарога** з горада на Русалім. **Па той дарозе** ехала Божыя Мацерь на *вараных* ***канях***. Ішоў к ёй *Ісус Хрыстос* наперадзі, *Сам Господзь з апосталамі*: "Стой, *Мацерь Божыя*, будзем каней сунімаць, будзем у етага *чэлавека* (Манькі, там) нарядку вынімаць". Вынімаю, высылаю, ***зьмеі-чарадзейнікі***, на сухі лес, ідзе ***пціцы*** не летаюць, там і людзі не бываюць. Там вам піць, гуляць, а ў (такія-та) не бываць ні з схода, ні з маладзіка, ні пад поўна. У ***горадзе Ірусаліме*** — там стаіць ***прыстол***, за тым ***прыстолам*** сядзіць *Сам Господзь*, перад ім ляжаць кнігі. Як гэтых кніг нікому не чытаць, не браць — аднаму Табе, *Госпадзі*, так у етага *чэлавека* нарядкі не бываць — ні з схода, ні з маладзіка, ні пад поўна. Вынімаю, высылаю, выгаварываю. Не сваім *Духам*, *Господнім*. Не сама сабою, *Господзь* са мною".

**КБ19. Ад крыксаў.**[1] "*Куркі-Матрункі*, наце вам хлеб-соль, (хлеба крошку кінуть) дайце майму *дзіцёнку* сон і ўрошны, і ўлёшны, і падумны, і пацешны, і пасьмешны, і намоўны, і прыгаворны, сходовы, і радавы, і часавы, і памінутны. (Тры раза)".

**КБ20. Ад уцёну.**[2] "Нада браць зь веніка дзве галючкі (з бярозавага). Адну кладуць так, а другую — наверх (крыжам). Тады нож бярэ і так (сячэ — *Г. Л.*) і: "Уцен, уцен, вазьмі ўцен" — і сяке (не па целе сячэ, а па лазе). Тры раза нада".

---

[1] Дзіцёнак крычыць і крычыць, і за няго — і панясуць к курям, і там жа яму пашопчуць.

[2] Уцен — спіна баліць. Сьпіна баліць, ні сагнуцца, радзікуліт тэй самы. Нада шаптаць.

**КБ21. Ад чорнай балезьні.**[1] "*Мацері Божай* укланюсь... **Царь-месяц** на **небі**, **царь-дуб** у *лесе*, царь-камень на *морі*. Як этым тром *царям* уместа не схадзіцца, за сталом не садзіцца, Божага слова не гаварыць, так у етага *чэлавека* (называць нада імя) эпілепсіі не быць — ні сходам, ні маладзіком, ні пад поўняй, ні калі... пара цябе вон выхадзіць, дзе ты случыўсь, там ты разлучыўсь, дзе ты стаў, там ты перастаў".

**КБ22. На лёгкія роды.** "...Сышоў *Сам Гасподзь* з **небяса**, спусціў залатыя ключы з паяса. Выкінься з етае *жэншчыны младзенец залатым **пёрышкам***, **макавым зёрнышкам**..."

**КБ23. Ад пужаньня.** "Цячэ ***рэчка ракітава***, у той ***рэчцы*** стаіць **куст ракітавы-падрякітавы**, пад тым **кустом** цясовая кравaць, на той кравaці тры *дзявіцы*, тры *родныя сястрыцы*. Не ўмеюць не прясць, не ткаць, умеюць етаму *парню* пужанне, ляканне выбіраць, на ***сіняе мора*** атсылаць. На ***сінявм моры прыстол.*** Там вам піць, гуляць, павек павечна ў етага *парня* не сходом, маладзіком не бываць".

**КБ24. Ад зьвіху.** "*Прачыстай Мацеры* ўкланюсь і цябе, вячэрняя **зара-зараніца**, укланюсь, цябе, праведнаму васкрэсенію. На ***моры***, на ***ўзмор'і*** стаяў ***Гасподні прыстол***, каля тога ***прыстола*** тры ***арлы***. То не ***арлы***, а тры *ангелы* гулялі, і ў *рабоў Божых* — первы *ангел* зьвіх унімаў, другі *ангел косьці* на места ўстанаўляў, трэцьці *ангел* урокі, прыгаворы ссылаў. Там *Божая Мацер Сына* будзіла: "*Сынку*, мой *сынку*!" *Сын* уставаў, зьвіх на места ўстанаўляў".

**КБ25. Ад грызі.** "Станьце, *Госпадзі*, на помашч, *Мацер Прачыстая* на ратунак. Як етаму **дубу-дзераву** на **карані** не стаяць, **веткамі** не махаць, ***пташкам*** не шчэбятаць, так у етага *младзенца* грыжы не бываць, у *жываце* не стаяць, *касьці* не ламіць, *сэрца* не таміць. І ты, грызь-грызішча, *казьліная барадзішча*, цябе ўкушу-перакушу, на ***сіняя мора*** пушчу. Будзеш ты там уцяшацца, у **шаўковай траве** калыхацца, на етага *младзенца* забывацца. Не *мой Дух*, *Гасподні*".

**КБ26. На лёгкія роды.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Божай Мацеры* прыкланюся, прысьвятому дзяньку, утарому ўторніку, *Сьвятой Марыі*. Разшырь мне, *Радзіцельніца*, *расход* і *матку*. На чатыры аршыны ***царскія двары*** растварыліcь, *косьць* ад *касьці* адхадзі, *сустаў* ад *сустава* адступі, із меня, *Радзіцельніца*, *младзенца* на этат ***сьвет*** пусьці. Як *Мацер Божжа Младзенца Ісуса Хрыста* на этат ***сьвет*** пускала і болі не знала, так штоб я, *Радзіцельніца* /імя/, *младзенца* на этат ***сьвет*** пускала і болі не знала".

**КБ27. Для каровы.** Як пойдзеш даіць карову: "Чур, **неба** і **зямля**, ты ***малочніца*** мая" (3 раза). Як падоіш: "Чур, **зямля**, ты, ***малочніца*** мая" (3 раза) "***Хвастом*** падціраю, ***зьмею-чарадзейніку***, ***абедніку***, ***вочы*** высякаю. Хто падумаў, пагадаў, штоб ён у сраку паглядаў".

---

[1] Чорная балезнь — эта эпелепсія, па-научнаму. У нас тады ўсе гаварылі, вот, дапусцім, яна б'е чэлавека, эпелепсія. Еслі ты ня відзіў нікагда, так нада перад ёй пабіць гарьшок і голай жопай сесьць на яго, і тады ня будзе ні ў каго. У етага няма, а ў таго ня будзя.

**КБ28. Ад каровы.** "Первым разам, Госпаднім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Сьвятой Мацеры* прыкланюся і ўсім *сьвятым апосталам*. І етую ***карову***, ***сівую шарсьціну***, загаварываю, укрываю дробнымі **зьвёздамі**, абсыпаю, ***жалезным тынам*** абстаўляю, *зялёнай* **зямліцай** абкладаю — ад **неба** да **зямлі** ад *ведзьмы-чарадзейніцы*, ад *ведзьмака-чарадзейніка*, *дзявіч'яга сына Максіма*. Як *ведзьме-чарадзейніцы, ведзьмаку-чарадзейніку* **жаркае сонца** не сабраць, **яснага месяца** не зьняць, дробных **зьвёзд** не сабраць, ***жалезнага тына*** не паламаць, *залатой* **іглічы** на **дрэве** не зламаць, так у етай ***кароўкі-шарсьцінкі*** малака не адабраць".

**КБ29. Хату загаварыць.** "Вакруг ***майго двара каменная сьцяна***, *Ісус Хрыстос* з мячом заціраe і замыкая, **ключы** ў ***мора*** закідае і ***двор мой*** зьберагае".

**КБ30. Ад зьмеяў.** "Первым разам, Госпаднім часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мацеры* прыкланюся, святому праведнаму дню ўкланюся. Устану я рана-раненька, умыюся *бела-бяленька*, гляну пад **ясную зару**. Там стаіць ***ліпавы куст***, у ***кусьце зьмяінае гняздо***. У тым ***гнязьдзе*** ляжыць ***вуж***, *добры муж*, і ***зьмяя Шавела***, і ***сын іх — сьлівень, баравы яшчэр***. І ты, ***вуж***, *добры муж*, і ты, ***зьмяя Шавела***, і ты, ***сьлівень***, ***яшчэр***, загаварываю вам ***зубы*** і ***губы***, і ***агіднае жала***, і зьмяіны яд. А то буду *Самому Богу* жалавацца, *архангелу Міхаілу*. Ён вас **громам** паб'ёт, **даждзём** пасячэт, **маланьней** папаліт і па ***полю*** рассыпіт".

**КБ31. Ад начніцы.** "Выду рана-раненька, гляну ў ***чыста поле***. У ***чыстам полі*** стаіць ***камень***. На том ***камне*** сядзіць ***пятушок***. "***Пятушок, пятушок***, на табе хлеб-соль, забяры ў *етага малога* крыксы і плаксы, і ўлёкі, а *малому* аддай сон і спакой".

**КБ32. Ад начніцы.** "Выду рана-раненька. Гляну ў ***чыста поле***. Там стаіць **яблыня**. Пад той **яблыняй** стаіць кравацъ. На той краваці ляжыць *дзіцяці* (імя) нехрышчонае, немаленае. Этаму *дзіцяці* нада не крычаці, а ляжаці, спакойна спаці, з *залатым* **яблычкам** гуляці".

**КБ33. На лёгкія роды.** Нада "Отчэ наш" прагаварыць. "*Госпаду Богу* памалюсь, *Прачыстай Мамцы* пакланюсь, усім *сьвятым апосталам*. Прыступіцеся на помач *рабу Божай* (такой-та) угаварыць, угаманіць усякія ўрокі, прыгаворы ад яе ўстраніць і лёгкія роды аткрыць. Шаўковыя замкі, разымкніцеся, ***царскія вароты***, адчыніцеся, *косьці* с *касьцямі*, разыйдзіцеся, *маць с младзенцам*, раз'едзініцеся. Па еты час, па еты раз, па ету гадзіну пашлі, *Госпадзі*, час добры, *Дух лёгкі*, харошага здаровейка".

**Неглюбскія замовы**

**Н1. На першы выган.** "Ідзі, мая ***цялушка***, на шырокія ***паля***, на длінныя ***луга***. Там табе **травіцу** зьядаць, **расіцу** сьпіваць і малачко пад ***правы капыток*** хаваць."

**Н2. Як вочка запарушыцца.** "***Бацька*** (імя), ***матка* (імя)**, ***парушынка з* вока рэйна**. Воўча-воўча, ***выкінь парушынку моўча***. Воўча-воўча, ***выкінь парушынку моўча***. (Пахукаць.)"

**Н3. Ад кравацёку.** "Ехаў Сус Хрыстос через ***калінавы мост***, **ялінку** вырязаў, *кроў* замаўляў. Ты, ***певень***, не пячы, а *кроў* запячы".

**Н4. На першы выган.** "Стала я рана-раненька, умылася бела-бяленька, вышла я ў ***чыстае поле***. У ***чыстым поле*** стаіць ***крыніца***, каля тыя ***крыніцы*** ходзіць ***цяліца-каравіца***, *чорна-белая* ***шарсьціца***, **травы** не зьядае, **расы** не сьпівае, *урага-пабядзіцеля* к сабе не пускае, малачка салодкага ў *белае* ***вымя*** шукае, малачка густога, верху таўстога, масліца *жоўтага*, сыра тоўстага. **Жаркім сонцам** абазрусь, ***жарай гадзюкай*** падпеажусь, ат *урага-пабядзіцеля* атаб'юсь, з етай ***крыніцы*** **вадзіцы** нап'юсь. Не *мой Дух* ідзець, *Сам Гасподзь* каля этай ***цяліцы-каравіцы***, *Мацер Божае* помачы даець. *Сьвяты Душочак*, прымі *мой Душочак*, мой ціхенькі, леганькі, штоб жа этай ***цяліцэ-каравіцэ*** была цяхенька, ляганька, і дзянёк і ночку атдыхаць — дабрэнька і харашэнька. Разьбіў *Бог* **дрэва**, **дрэва** атрасло, **зямля** калацілась, ат етай ***цяліцы-каравіцы зьмяя*** з *чарадзейнікам* назад варацілась. Штоб ты не была ні сходам, ні с маладзіком, ні пад поўнай, ні на голасе, ні на *воласе*, ні на **коласе**. Табе, *чарадзею* з *чарадзейніцай*, з сваёй ***каровы чарвей*** грызьць, а мне, *Аксіньні Лаўрэнаўне*, з сваёй ***каровы*** малачко есьць, малачко густое, вярхі таўстыя, масла *жоўтые*, сыры таўстые. Табе, *чарадзею* с *чарадзейніцай*, шчотка-грабенка, а мне, *Аксіньне Лаўрэнаўне*, з сваёй ***цяліцы-каравіцы*** малака даёнка".

**Н5. Ад зьмяі-чарадзейніцы.** "*Госпаду-Богу* памалюсь, *Прачыстай Мацеры* ўкланюсь. *Прачыстая Божжа Маць*, прыступісь ка мне на помач. **Зара-зараніца, усяму сьвету памашніца**, памагала ты *людзям*, пāмажы і мне. А ты, *зьмяя-чарадзейніца*, ідзі ў *сіняе* ***мора***, на *жоўтыя* ***пяскі***, у *цёмныя* ***лясы***, на ***топкія балоты***. Там табе, гуляць, піраваць, а ў *раба Божай Марыі* дабра не ўзяць. Ідзі, *зьмяя-чарадзейніца*, у *сіняе* ***мора***. Там, у *сіням* ***моры***, ляжаць ключы ад ***храма***. Вазьмі тыя ключы з-пад ***камня***, адамкні ***Гасподні храм***, папей віны сладкія, паеш праскуркі мягкія. Як табе, *зьмяе-чарадзейніцы*, у ***моры*** не бываць, ключоў там не браць, ***храма*** не адмыкаць, віноў там не піць, праскуркі не есць, там з ***двара*** *раба Божай Марыі* нічога не ўзяць".

**Н6. Ад гадзюкі.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Мацеры Божай* пакланюся. На ***поле***, на ***моры*** стаяла **дрэва**. На том **дрэве** гняздо. У тым гнязьдзе *царыца*. "*Царыца-царыца*, *красная дзявіца*, сунімай сваіх *дзяцей*. Будзеш ты іх сунімаць, буду я іх замаўляць. І тут табе не быць, па *касьці* не хадзіць, *касьці* не ламіць, *дробных жыл* не марыць, *румянага ліца* не паліць. *Госпадзі*, прылюбі *Дух мой*. *Духам* жыву *Гасподнім* (3 разы)".

**Н7. Пасля ацёлу.** Как аце́ліцца кароўка, ідзеш первы раз даіць, бярэш даёначку, прыходзіш у сарай, садзішся пад кароўку і кажаш: "Пад сваю *рабую* (*белаю* і г. д.) ***скаціну*** саджуся, **ясным месяцам** абазруся, дробнымі **зорамі** абгараджуся і нікога не баюся: ні *ведзьмаў*, ні *ведзьмакоў*, ні *чараўніц*, ні *чараўнікоў*, ні паганых дум, ні *паганых глаз*, не забывай, мая ***скаціна***,... ***шарсьціна***, на сваё малако па ўсякі раз, не будзь жа ты ўрошная, а будзь малошная, са сваім жа ты ўмом прыхадзі дамоў, сваё малачко прынасі дамоў".

**Н8. Ад дамавіка.** "*Дзядзішча-дзядзішча*, шырокая *барадзішча*, кучаравая *галавішча*, калі ж ты *свой дамавой*, жыві ж ты на ***сваім месьце***, абыходзься

па чэсьці і сваю ***скаціну*** сустракай, её кормам накармляй, і вадзічкай напавай, і спакою ёй давай. А калі ж ты *чужы, насыльны*, так кто ж цебя наслаў, ідзі к яму пагуляй, яго ***скаціну*** паганяй, а маю не чапай".

**Н9. Ад усякага ліха.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Матцы Прачыстай* пакланюся, *сьвятым прыпадобнікам, Божым угоднікам*. Станьце вы ўсе, *Госпадзі*, на помач, *ангелам* на радасць, (імя) на пользу, на помач. Выгаварываю з (імя) і ліха, і падчэ, і ўрошныя, і ўлешныя, і прыгаворныя, і прыгадныя, і ўцешныя, і насьмешныя, і ветраное, і нутраное, і натужнае, і прастуднае, і баявое, і нанаснае, і наброднае. Адкуль жа табе стала, штоб балець перастала. Выгаварываю цябя ліха з (імя) з *буйнае галавы*, з *гаручае крыві*, з *шчырага сэрца*, *мягкага жывата*, і з *кішок*, і з *печаней*, і з *жыл-пажыл*, з усіх *суставаў*. Высылая я цябя, ліха, на ***мхі***, на ***балаты***, на ***ніцые лозы***, на ***глубокія віры***, на *жоўтыя* ***пяскі***, дзе і ***певень*** не засьпявае, і ***пціца*** не залятае. Там жа табе, ліха, піць-гуляць, у (імя) не бываць, па *касьці* не хадзіць, і *крыві* не паліць, і не знабіць, і *гаручае крыві* не прыліваць, і опуху не гнаць, на пользу, на помач даваць. Думала: "Ето ж, мяня што?" Думала: "Што ж, мяня, што?" Ціхенька, ліхенька на **макава зярненька**. Ціхенька, легенька, на **макава зярненька**. Я — славамі, *Гасподзь* — помаччу. Не хвалююсь, а *Госпаду Богу* малюсь. *Госпадзі*, Ты явіся, на помач станавіся. Дыхні, *Матка Прачыстая*, *Сваім Духам Госпадні*м".

**Н10. Ад грызі.** "Грызь, грызяўка, ***паганая казяўка***, тут табе ні быць, *касьцей* ні ламаць, дасюль ты хадзіла, *косьці* ламіла, пакуль *майго Духу* не захваціла. *Мой ціхенькі, лёганькі Дух* палюбі, *Госпадзі*, стань на помашч. **Сучышча, сучышча**, вазьмі мае грызішча. Як етаму **суку** на ***моры*** не стаяць, так вечна *Людзе* грызі не атрыгаць. Амінь. Прымі, *Госпадзі*, *Дух мой*. Стань на помашч (імя, каму шэпчыш)." Калі ад грызі шэпчэш, нада пляваць на сучок асінавы і тады, как пашэпчыш, эту сьлюну мазаць кругом пупка і гаварыць: "**Сучышча, сучышча**, вазьмі Іванава грызішча".

**Н11. Ад урока.**[1] "*Мацер Божая* сама ішла, *Ісуса Хрыста* чэраз ***калінавы мост*** вяла. Пакрывала (імя нада гаварыць) сьвятым Сваім пакравом ад *калдуноў*, ад *знахароў*, ад *паганых глаз*. Дунь ты, *Мацер Божая*, на (імя называюць, каму шэпчэш) *сьвятым Сваім Духам* і *Ядрахам*. Прымі, *Госпадзі, Дух мой*. Стань *Людзе* на помашч".

**Н12. Ад вяхі.**[2] "Іду я, *раба Божа Люда*, дарогай. Стаіць **дуб**. На тым **дубе** дзьваннаццаць **какатоў**. На тых **какатах** *залатое* ***гняздо***. А ў тым ***гняздзе*** сядзіць ***сава*** — ***зялезная дзюбка***, *залатыя* ***лапы***. Туды-сюды разграбае, з *краснае* (ілі з *чорнае*) ***каровы шарсьці*** **вяху** вынімае. Сашлі, *Госпадзі*, **вяху** на ***мха***, на ***балота***, на ***ніцые лозы***, на **быстрыя воды**, дзе ***сабакі*** не брэшуць і ***куры*** не кудахчуць".

---

[1] Урок жалеза ламае (каментарый выканаўцы). Кагда ана леча, як ёй плоха, яна спаць не можа, яе круце, ламае ўсё (каментарый Лапіцкага М. І., 1939 г. н., мужа выканаўцы).

[2] Вяха — трава. Ежэлі карова зьесьць, раздуе, і карова кончыцца. А ежэлі пашэпчыш, то карова будзе цэла.

**Н13. Ад гадзюкі.** "Іду я, раба Божа Люда, ***дарогай***. На ***востраве***, на ***буяне***, стаіць **дуб**. Пад тым **дубам** двенаццаць сталоў, і ўсе яны пазасьціланы. На тым **дубу дзвенаццаць какатоў**. На тых **какатах** ***залатое гняздо***. У тым ***гнязьдзе*** тры ***зьмяі, гадзюкі***: первая — ***Вульляна***, другая — ***Мар'яна***, трэцьцяя — ***Салафіэўна***. "Ну-ка, ты, ***Вульляна***, вынімай свой ***зуб*** (прымерна, як ***карове*** шэпчыш, так: з *чорнай* ілі *краснай* ***каровы шарсьці***, ілі з *чалавэка*, яго імя гаварыць), ***падпечная, падхатная, падгадная, падкутная, дваравая, хлевавая, гнаявая, агародная, градавая, межавая, балатавая, махавая, лесавая, вадзяная, лугавая, баравая, палявая, падарожная***"[1].

**Н14. На першы выган.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мацеры* пакланюся. *Матка Прачыстая*, стань мне на помач, *ангелам* на радасьць. Загаварываю *рабу Божаю* ***скацінку***, *бураю* ***шарсьцінку***. Станаві яе ў ***поле*** і ў ***лесе пнём***, у ***балоце — каменем***. ***Ваўкі Аксён, Максён, Настасься, Аксіньня, Прасіньня***, прасіце *Госпада Бога*: "Станаві яе ў ***поле*** і ў ***лесе пнём***, у ***балоце — каменем***". **Лес**, мой **лес, лес** чысты, **лес** пракрасны, перадаю вам усім паклон".

**Н15. Ад балезьні.** "На *чорным* ***моры***, на *зялёным* ***востраве*** стаяў **дуб на** сто **какатоў, на сто парасткаў, на** сто **недаросткаў, на** сто **перră** **пераросткаў**. Пад тым **дубам** стаяў стол. За тым сталом сядзелі тры *ангелы-архангелы*. Размаўлялі, *раба Божага* (хто балее) балезьнь унімалі: *касьці* не ламіць, *сэрца* не знабіць. Не прымі *мой Дух*, прымі *Гасподні Дух*. Не прымі *мой Дух*, прымі *Гасподні Дух*. Прымі *мой Дух*, прымі *Гаподні Дух*".

**Н16. Ад чёрнай балезні.** "На ***морі***, на ***акіане*** лежал ***камень***. На том ***камне*** стоял **дуб**. На том **дубе** двенаццаць **какатов** і по двенаццаць ***гнездов***, в тех ***гнездах*** по двенаццаць ***арлов***. У іх ***дюбкі столяныя***, ***когті*** *серебряныя*. ***Когтямі*** разгобають, а ***дюбкой*** всякую болезнь выбірають, подумную, погадную, поглядную з усіх ***костей, жіл, суставов***".

**Н17. Ад уроку.** "Первым разам, добрым часам, утренней (обеденной, вечерней) порой *Господу Богу* помолюся, *Прочистай Матери* поклонюся. Станьте вы *ангелы* *рабе Божьей* (імя) на помощь, на радость. Ішла ж ты ***дорогой***, ішла ж ты шірокой, не одна ты ішла, *Ісуса Хріста* вела. Куда ты его вела? К *рабе* (імя) урокі выговарівать калючія, балючія, падумныя, пагадныя, мужскія, женскія, колдуньскія. *Господь*, ты *мой дух* любішь, любі ж ты міне (3 раза)".

**Н18. Ад спугу.** (Взять соль в щепоть, водить вокруг живота и говорить.) "Первым разам добрым часам *Господу Богу* помалюся, *Прочистай матери* поклонюся. Станьте вы, *ангелы*, на радасть. **Водица царица арданица восточница по всему свету помочница**, протекаешь ты по ***мхам***, по ***болотам***, по ***ницих лозах***, змываешь ты *жёлтые* ***пески***, ***крутые беражки***, змый ты з *рабы божей* (имя) всякую болезнь наносную, набродную, встречную, водяную, мужскую, женскую, ребячию с *костей*, с *мощей сухих*, с *печаней*, с *буйной*

[1] Падарожная змяя, гадзюка — самая злая. Эта каторая на дарозе.

*головы*, с *черных* бровей, с *карих* глаз, с *жил*, с *ративага серца*, с *напружанного живата*, *горячай крыви*. *Господь*, ты сам себя любишь, люби ж ты *мой дух легкий* (три раза). (Дунуть на соль и бросить её в печь.)"

**Н19. На лёгкія роды.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мацеры* пакланюся. *Прачыстая Матка*, прыступісь на помач ка мне. *Ангелы* ўсе і *апосталы* ўсе, прыступіцесь на помач ка мне. На ***полі***, на ***раздольлі***, на ***раскрэсах*** стаіць ***хатка***. У той ***хатцы*** сядзіць *матка-наніматка*, у яе трое *дачок*. Старшая ідзець — пярэймы нясець, другая панажы нясе. А трэцьцяя *дзіця* вынімае, на *белыя рукі* выкладае. *Господні Дух ціхі, лёгкі*".

**Н20. Ад спугу.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мацеры* пакланюся. Выгаварыва, вымаўляю (імя) пужаньне-перапала. Ехаў *Ісус Хрыстос* сваім салодкім канунам, сваім ладанам, вёз кyпарос, кадзільцам махаў, к *зялёнаму* тыну ***пса*** прыхіняў: "Атыдзіся, ***пёс***, на тысячу вёрст!" З етага *чалавека* пужаньне вынімаў калючае, балючае і ўрошнае. "Тут табе, пужаньне-перапала, не быць, *сэрца* не таміць, *крыві* не разжыгаць, *баку* не западаць, *чалавеку* ўрада не даваць". *Господні Дух ціхенькі, лёгенькі*".

**Н21. От живота.** "*Госпаду Богу* помолюся, *Пречистой Матери* поклонюся и всем *святым и пресвятым*. В ***поле-полицы*** на недалёким ***ростаницы*** стоят ***пницы дуплянистые***. Той дорогой *Матерь Божая* шла и 12 *золотых* ключей несла. Она те ***двери*** отмыкала и этой *рабе Божьей* помощи давала. Чемер и потницу унимала и помощи давала, от этого лиха избовляла. Ни днём, ни ночью, ни сходом, ни молодиком, ни под повное не отрегай, а *рабу Божьему* помощи давай. Аминь".

**Н22. Ад балезні каровы.** "*Мікола-заступнік*, *скоры памошнік*. **Вадзіца-царыца**, бегла ты ***шчыльнымі гарамі***, ***цёмнымі лясамі***, *зялёнымі* ***лясамі***, ***крутымі берагамі***, вымывала **сорныя карэньня**, *белыя* каменьня, *сінія краменьня*, *у* ***моры*** **брызгі** пускала, этую ***скаціну*** (ці *белую*, ці *чорную*, ці *рабаю*) ***шарсьціну*** ізмывала і сьцірала і ёй помачы давала. Стой, ***цялушка***, станавіся, *зьмеяў-чарадзеяў* хараніся, шоўкавым пасьцілам накрывайся ад *зьмеяў-чарадзеяў*, ад *паганых вачэй* адганяйся".

## Прыснянскія замовы

**П1. Зьесць скацінка не тое.**[1] "Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюся, усім сьвяточкам, гадавым празьнічкам і сьвятой пятніцы памалюся і пакланюся. **Паўдзённая зара-зараніца**, *Божая памашніца*, памагаеш ***усяму свету***, памажы ты і мне. На ***моры***, на ***Лукаморы***, стаіць **іва**. Пад той **івай** стаіць ***кабыла***. На той ***кабыле*** сядзіць *чоран* ***воран***, ***зялезная дзюбка***, ***сталяныя кіпці***, ***залатая шышка***. ***Скацінцэ кіпцямі*** і ***мышак***, і **павуціну**, і **вяху** разьдзірае, ***зялезнай дзюбкай*** выкідае, ***шышкай*** выцірае, а ***хвастом*** вынімае".

**П2. Ідуць у пуць.** "Ішла *Матушка Марыя* із ***горада Ірусаліма***. Ішла, устала, лягла, прыснула. Прысніўся ёй сон страшны, ужасны: у ***горадзе Ірусаліме*** на

[1] Зьесць мышаку, то павуціна ў сене бывае.

**дрэве**, на **кіпарысе**, на крэсце жыватварашчым расьпят яе *Сын*. *Сьвятыя ручкі, ножкі* гваздямі папрыбіваты, на *светлую галовушку* цярновы вянок надзеты. Хто этат сон будзя прачытываць тры разы ў дзень, тот будзет сьвят спасён на **земле** ад ***зьвера***, ад *злога чэлавека*, у ***пуць*** пайдзёт здаровы, у судзе найдзёт праўду. Ты, *ангел*, усягда наперад забягай, крэстам асеняй. Амінь".

**П3. Ад спугу.** "Первым разам, добрым часам *Госпаду Богу* памалюсь, *Мацеры Гасподняй* прыкланюсь, **месячку яснаму, солнышку праведнаму**. **Заразараніца**, **Гасподняя і вячэрняя памашніца**, памагаеш ***усяму сьвету,*** памагі *рабу Божаму* на помач. Угаварываю я спуг, лёк дзедаў, бабін, бацькаў, маткін, жаночы, дзявочы, хлапечы, мужчынскі, казіны, вуціны, гусіны і ўсіх сьвятых прашэдшых. Іссылаю я іспуг, улёк на ***мха***, на ***балата***. Там цябе шумець, буець і ***карэньні*** пускаць, у *раба Божага* ўроку, улёку не бываць".

**П4. Ад усяго.** "На ***Кіянскай гарэ***, на ***Русалімскай зямле*** *Мацер Божая* хадзіла, хадзіла, хадзіўшы, уснула. Прышоў *Сын Божый*: "*Маці мая, Маці*, ці ты спіш, ці ты так ляжыш?" — "Я не сплю, я так ляжу. Пра *Сына Божага* сон бачу: яго ўзялі на хрэст *ручкі*, *ножкі* расьпялі, крэпкім кап'ём *рабро* прыбівалі. З гэтага *рабра* цякла *кроў* — **вада** *грэшным людзям* на спасеніе". Хто эту малітву чытае, той у **агне** не пагарае, ні ***зьвер*** не нападае. Ва імя *Аца і Сына і Сьвятога Духа*. Амінь".

**П5. Ад уроку, ад валасеня.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстая Маці* пакланюся і ўсім *сьвятым апосталам*. "Добры дзень, **вадзіца-царыца**, цякла ты з-пад **жаркага сонца**, з-пад **яснага месячка**, цякла ты ***палямі, і гарамі, і ніцамі лазамі***, вымывала ты ***каменьні***, ***краменьні*** і *жоўтыя **пяскі***. Адмой /імя/ урокі, прыгаворы-падумныя, пагадныя, мужскія, бабскія, начныя, палудзённыя. Амінь".

**П6. Ад усяго.** "У ***полі***, у ***доме***, у ***пуці,*** у ***дарозе*** — з Табой, *Госпадзі*. *Госпадзі*, памажы маліцца, *Сьвятой Прачыстай* пакланіцца. *Сьвятая Прачыстая Маць*, на ***мядзведзі*** еду, ***вужом*** паганяю, ***гадам*** абапруся, замком замкнуся, нікога не баюся. ***Сьцяна-сьцяніца***, замаўляй: "Ваш ***дом*** — а мой верх, ваш ***дом*** — а мой верх, ваш ***дом*** — а мой верх". (Штоб быў вуж і жаба, высушыць і закапаць. І замок замкнуць і тожэ закапаць... Гаварыць кожны дзень".)

**П7. Ад суда.** "Іду я ў суд. Не сама іду, вядуць мяне двое *ангелаў*, трэцьці ***пуць*** паказывае. На ***жабе*** я еду, ***вужом*** паганяю, *усем урагам уста* закрываю, храстом агаражываюсь, нікога не баюсь. Павярнуся я *правай нагою*, штоб ніхто не імел права нада мною. *Госпадзі*, палучыў Ты ў *сэрца* кап'ё сваё, *Госпадзі*, памажы мне выдзержаць часціцу таго, што Табе будзе".

**П8. Да маладога месячка.** "**Месячку, Яварачку, Кандрацікy,** не вей ты па ***лугах*** да па ***лясах***, да павей ты па тых ***дарогах***, куды ***раб Божжы*** /імя/ ідзець, да схапі яго за *русыя косы*, за *сэрца* ў сярэдзіне, за *белыя пяты*, штоб не змог перайсці без *рабы Божая* /імя/ ні ***сяней***, ні ***хаты***".

**П9. Да зор.** "Добрае утра, **зоры-зараніцы**, вы — **месяцэвы памашніцы**, вы далёка відзіце. Есьлі відзілі *майго любімага*, то паляціце на ***мора***, пакла-

дзіце маю пячаль у **ваду**. *Нараджонны, хрышчонны* будзя піць, будзя мяня, *нараджонную, хрышчоннаю*, любіць".

**П10. Да ракі.** "Добры дзень, **вада-гарда**. Не прышла я к цябе **вады** браць, а прышла любві прасіць. Та моешь ***луга, берага, каменьня, краменьня***, змой з мяня гнядоту, брыдоту, накладзі на мяня любоў, красату. Гнядота, брыдота — за **вадою**, любоў, красата — за *раджоннай рабою Божай* /імя/ мною". (Нядзелю хадзіць у старам, пайсці на рэчку, вымыцца, зьняць усё з сябе, выбрасіць у рэчку і надзець новае, яшчэ не адзяванае".)

**П11. Гукаць жаніха.** "Запаліць камін, печку, разьвясьці агонь і гаварыць: "**Дым, дымочак**, ляці ў ***камяночак***. Ляці, вяртайся, а ты /імя/ ка мне ў ***дом*** прывятайся".

**П12. Ад звіху.** "*Госпаду Богу* памалюся, *Маць Прачыстай* прыкланюся. "*Маць Прачыстая*, прыступі ка мне на помашч! Ехаў *Сам Ісус Хрыстос* на *сівым* ***канёчку*** па ***калінавым масточку***. ***Масток*** ізгібнуўся, ***канёк*** спатыкнуўся, на ***ўсе сустаўчыкі*** зьвіхнуўся. Ходзе *Сам Гасподзь* па ***межах***, тростачкай падпіраець, у еты час, у ету мінутачку ***сустаўчык*** устаўляець".

**П13. Ад скулы.** "Первым разам, Божым часам, этай парой (утренняй ілі вячэрняй, есьлі ўвечары лечыш — то **вячэрняй зарой**, есьлі утрам — то **утраньняй зарой**) угаварываю эту скулу-рожу. Скула-рожа, на *сінем* ***моры, Яне-акіяне*** стаіць **дуб** *зялены*, **дуб карністы, дуб сталісты, дуб вяцісты, дуб галісты, дуб цьвяцісты**. Пад етым **дубам** сталы стаяць засьціланыя, кубкі наліваныя, з етымі сталамі сядзяць дзвенаццаць *паняў*. Яны сядзяць, гуляюць, скулу-рожу гукаюць: "Скула-рожа, хадзі з намі пі, гуляй і раскошу май. *Рабе Божай Марыі* па *касцях* не хадзі, *касцей* не ламі, *жывата* не сушы, *сэрца* не знабі, **жарой** не палі, у **холад** не кідай і болью не бывай. Іссылаю ету скулу-рожу на ***мха***, на ***балата***, на ***цёмныя ляса***, на ***крутыя берагі***, на ***ніцыя лозы***. Там сталы засьціланыя, кубкі наліваныя, там п'юць, гуляюць, скулу-рожу гукаюць".

### Бабіцка-валосавіцкія замовы

**Б1. Ад усяго.** "Малітва самая глаўная, ад усех, штобы ты не маліўся, і каго бы ты не маліў: ілі жывотнае, ілі чэлавека, эта самае глаўнае — памаліцца, "Вотчэ наш" памаліцца, "Жывую помашч" памаліцца, "Васкрэснаю" і тады гаворыш: "**Раньняя зара-зараніца, усім людзям памашніца**, памагала *людзям*, памажы і нам. *Госпадзі*, на помашч, *ангелы*, на радасьць. Шла *Маць Прачыстая* па ***мору чыстаму***, шла, сьвятую рызу нясла, у ***Іардань-раку*** макала, па палоске брала, **сольлю** націрала, **вадой** змывала (есьлі ***скаціну***, такую-та гаварыш, якая яна ёсць; еслі *чалавека*, "рабу такому-та", па імені гаварыш, імя абязацельна), помачы давала. Не сама я сабой, *Сам Гасподзь* са мной. Як *мой Дух* *ціхенек-лёгенек*, штоб (каго ты ўжэ гаварыш) стала ціхенька-лёгенька" (3 раза).

**Б2. Ад нарадкі.** "*Госпаду Богу* памалюсь, *усім сьвятым* пакланюсь. Не сама я сабою, усё *сілай сьвятою*. Адступі, *сатана*, ад ***Божага храма***, ад чатырох

***старон*** пабядзі *зьмеяў*: *чарадзеяў, калдоўнікаў, завойнікаў, залоўнікаў, ведзьмаў, ведзьмакоў, людаедаў*. Не ў **бурах** вам прахаджаць, ***сухі лес*** ламаць, так у *раба Божаяй* балезьні не быць — ні схадом, ні маладзіком, ні пад поўнае, ні ва векі вяком. У суботу рана **сонейка** сіяла, *Маць Прачыстая* на утрань спяшыла, з утрэні — на павячэрню, з павячэрні — на *сіняя* ***мора***. На *сіням* ***моры*** прыстолы стаяць, *ангелы* гараць, адно вясло — *залатое*, другое — *сярэбранае*, у адным — *Мацерь Божая*, у другім — *Сам Ісус Хрыстос галаву* скланіў, раны раскрыў. *Божа мой! Божа мой! Пятро і Павел*, буду я вам жаліцца. Ідзіце і пакажыце *маёй Мацеры*. Ніхай Яна накрые мяне сваёй чэснай рызай ад маіх мук. Ад майго *белага цела* ***крывавыя рэкі*** цяклі. На ісцаленіе, спасеніе *душам* нашым. Амінь".

**Б3. От нарядки.** "*Господу Богу* помолюсь, *Исусу Христу Сыну Божьему* поклонюсь, от *преподобников*, *киевским, печёрским, ерусалимским. Все святые апостолы*, приступайте, *раба Божьего* // помочи давайте. И ты, **вечерняя, / ранишняя/ заря-заряничка**, приступай, *раба Божьего* /.../ помочи давай. И ты, святая **водица-царица**, **всему свету памашница**, усих ты змываеш, усех ты бриваешь, усим ты пользу даешь, дай же ты пользу *рабе божьей* //. *Пресвятая Троица*, помилуй нас, *Господи*, грешных, Боже, очисти грехи наши. На *синям* ***моры***, на ***остраве*** стаяла ***церква з саборам, жалезным тынам*** абгароджана, *залатыми* ключами замкнутая, туды ***змяя*** лезла, ***жалезны тын*** ламала, прасчарэй накушацца, ладану нанюхацца, свечы патушыць, и // укусиць. Як табе *палач* /.../ кусаць, бяры нож, иди на кумаву краваць, разрэж *кумаву грудь. Маня* /имя того, кто лечит/ леча ад нарадки /.../ помочи даваць. Выгаварваю, вымаўляю, боль-нарадку насланую, ветраную, вадяную, схадовую, маладиковую, дянную, палудённаю, начную, палуначную. Выгаварваю, вымаўляю, з *мяккага жывата*, з *скорых ног*, з *белых рук*, з *буйныя галавы*, з *русых кос. Маня* /имя того, кто лечит/ леча ад нарадки // помачы даваць. Як *мой дух цихеньки, легеньки*, стань *раба Божай* /.../, цихенька, лёгенька, чтоб яна спала, пила, ела и йщэ хацела".

**Б4. От каровы.** "*Госпаду Богу* памалюсь, *усім святым* пакланюсь. Ні сама я сабою, усёй *сілаю сьвятою*. Адступі, *сатана*, ад ***божага храма***, ад чатырох ***старон***, пабядзі ***зьмей, зьмеяў-чарядзеяў***. На *сіням* ***моры*** на ***лукаморьи*** стаяць ***вароты з жалезными шулами***. Як тых ***варот*** ніхто ня зніме, так у /імя/ /... масць, напр. *чорна-рабае*/ ***кароўкі*** ніхто малака не атніме, ні у / масць/ ***шарсці***, ні у ***буйнае касці***, ні у ***цвёрдага капыта***, ні у ***мяккага жывата***, ни у *белага* ***вымя***. Пайшлі, *Госпадзі*, /чьей, какой масць/ ***кароўцы*** малакоў бальшіх, вярхоў глыбакіх, сыроў крэпкіх".

**Б5. От скулы.** "На ***моры***, на ***акіяні***, на *зяленым* ***остраве*** стаіць **дуб**, тры **какаты**, тры **карані**. На тым **дубе** сядзіць ***арол***, ***жалезныя крылля, жалезная дзюба***, *сярэбраныя* ***когці***. Вышкрыбае ***каменне***, ***краменне***, *жоўтыя* ***пяскі***, сабе скуліцу прызывае. "Скула *белая*, скула сорная, скула *чорная*, скула *красная*, скула врочная, прыгаворная, намоўная, золажная, тут табе, скуліца, не быць, *буйнай галавы* не марыцРучнік і замовы як розныя 'тэксты' адной традыцыіь, і *серца* не ташніць, *печані* не сжігаць, і *цела* ні зменяць, ні сама я з сабою, *сам гасподь* са мною. Прімі *мой дух*, дай помощ".

**Б6. Ад каровы.** "Устану раненька, умыюся *бела*, памалюся *Богу* верна, выйду за ***новыя вароты***, гляну в ***чистое поле***. В ***чистом поле***, в ***чистом поле*** стоит ***престол***, на тым ***престоле*** *золотая* чаша, в той *золотой* чаше *залатая* **маковка**. Ишла *Прачистая Мать* *залатую* **макавку** брать, по ***чистому полю*** рассевать, на *зеленых* **травах**, на *зялёных* ***лугах*** ета будет ходить ***скотинка*** /.../ **траву** з'едати, **расу** сербати, буде в ее густое молочко *жовтое* масло прибывать, в ***мягкое вымя***, в ***белые цыцки***, густой вершок, крепкий творожок. *Прачистая Мать* на ***Ирдань*** хадила, *Исуса Христа* на *правай руке* насила, шовкавай ниткай спавивала, етай ***скатинки*** // *жовтае* масла вкладала, густой вершок, крепкий творожок. Во веки веков аминь. Ни *мой дух* — *Господний*".

**Б7. От гадзюки.** "Первым разом Господним часом *Господу Богу* памалюся, *Прачыстай Святой Матери* пакланюся, *Прачыстая Мать Божья*, стань ко мне на помочь со *своими апостолами ангелами* на радасть, *Михаила великий чудотворец, божий угодник, скорый помощник*, стань ко мне на помочь са *своими апостолами*, *ангелами* на радасть. *Михаила Архаила, Божий угодник*, скорей стань ко мне на помочь со *своими апостолами, ангелами* на радасть. *Юрий-Ягорий*, стань ко мне на помочь со *своими апостолами, ангелами* на радасть. На ***мори***, на ***сияни*** стоит **дуб**, на тым **дубу** тесовая кровать, на той кровати совиное гнездо, в том гнезде три ***змеицы царицы***: первая — ***Вульяна***, другая — ***Марьяна***, третья — ***Солофия***. Ты, ***Вульяна***, ты, ***Марьяна***, ты, ***Солофия***, унимай/те/ своих ***гадюк***: ***лесовую, моховую, болотную, подколодную, настельную, крапивную, гнаявую, ветряную, вадяную***, унимайте, ***зубы***, ***жала*** вынимайте. А не будите ***зубы, жала*** вынимать, приедя *Михаила Архаила* с вострой копью, с огненной печью. Я ему буду жалицца, ён вас пасячэ, парубае, **агнём** папаля и по ***чистом полю*** рассея. *Чур* мае *раба Божьего* / / *цела* не пушить, па *жылах* не хадить, *гарючей крыви* не зажигать. Ни *мой дух* — *Господний*. Во веки веков аминь".

**Б8. Ад пужаньня.** "Первым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прысьвятой Мацеры* пакланюся. Выгаварываю іспугі, перапугі, перэпаласы бацькавы, маткіны, цёткіны, дзядзькіны, бліжнія, дальнія, сабачыя, кашачыя, курыныя, гусіныя, схадоўныя, маладзіковыя, падпоўныя, гадзінныя, мінутныя, і таго, каго не запамінаю, і таго, каго не ўспамінаю. Ідзіце вы, іспугі, перапугі, чэраз тры ***заборы***, чэраз трое ***варот***. Тут вам не быць, *жыл* не таміць, *сэрцэ* не пушыць, *галавы* не турбаваць, *крыві* не бунтаваць. Выгаварываю, вымаўляю не на год, не на два, выгаварваю, вымаўляю наўсягда. Ціхенька, лёгенька пашлі на помашч *мой Дух* скарэнька".

**Б9. Ад кароўнага.** "Первым разам, Божым часам *Госпаду Богу* памалюся, *Прысьвятой Мацеры Багародзіцы* пакланюся. Была ў мяне ***скацінка***, *чорнабелая* ***шарсьцінка***. Пагнала я ту ***скацінку*** на ***шырокаю далінку***, на **расу** не зьбіту, на **траву** не зьету. Прышло к ёй тры-дзевяць *ведзьмаў*, тры-дзевяць *разяў*. Тры-дзевяць на щрок ***шэрсьць*** паддубілі, ***рогі*** патупілі, ***хвасты*** паадсекалі, карысць забралі. Як стала *раба Божая* плакаць да рыдаць, пачула з **небеса** *Прачыстая Маць*, на *залатое* крэсла садзілася, па *залатой* драбінцы спусьцілася, к *рабе Божжай* явілася: "Чаго, *раба Божжая*, плачаш, чаго ты

рыдаеш?" — Як мне не плакаць, як мне не рыдаць? Была ў мяне ***скацінка***, *чорна-белая* ***шарсьцінка***. Пагнала я ***скацінку***, *чорна-белаю* ***шарсьцінку***, на ***шырокаю далінку***, на **расу** не зьбіту, на **траву** не зьету. Прышло ка мне тры-дзевяць *ведзьмаў*, тры-дзевяць *разяў*. Тры-дзевяць на ўрок ***шэрсьць*** падубілі, ***рогі*** патупілі, карысць забралі". Узяла *Маць Прачыстая* ету ***скацінку***, *чорна-белаю* ***шарсьцінку***, пагнала на ***шырокаю даліну***".

**Б10. Ад усякай хваробы.** "Первым разам, Гасподнім часам *Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мацеры* пакланюся і ўсім *сьвятым прыпадобным*, *Самому Богу Ісусу Хрысту*. Устала *Марыя* рана-раненька, памылася *бела-бяленька*, вышла за ***новыя вароты*** і зірнула-глянула ў ***чыстае поле***. У ***чыстам поле*** із ***гор***, із-пад ***гор*** ідуць дзвенаццаць *брацьцеў* зь пiламi, з тапарамі. Яны ***дом*** рубілі без вакон, без дзьвярэй. Як у тым ***доме*** нікому ня жыці, так у такога-та *чалавека* хваробы ня быці. "Хвароба, хвароба, ідзі ты туда, ідзе ты была: за ***паля***, за ***балата***, за *зялёныя* ***лозы***, за ***сухія бярозы***, дзе **сонца** ня грэе, **месяц** ня сьвеця, **вецер** ня воя, *людзі* ня ходзяць, ***пеўні*** не пяюць. Там табе, хвароба, жыці, ***сухі лес*** ламіці, такому-та хваробы ня быці — ні сходам, ні маладзіком, ні ва векі вяком. Амінь".

**Б11. Ад нарадкі.** "Первым разам, Гасподнім часам *Госпаду Богу* памалюся, *сьвятой Прачыстай Мацеры* пакланюся і *ўсім сьвятым прыпадобным*, *Самому Богу Ісусу Хрысту*. **Вячэрняя зара-заранiца**, **Гасподняя памашніца**, памагала ты людзям, пажамы і нам. На *сінім* ***моры***, на ***востраве*** стаіць **дуб-старадуб**. Пад тым **дубам** сядзіць тры *дзявіцы*, а то не *дзявіцы* — *родныя сястрыцы*. Адна шые-вышывае, другая сыставы боль умаўляе, а трэцьця нарадку выбірае. *Госпадзі*, пажамы, *Госпадзі*, с такога-та выбраць нарадку із *касьцей*, із *машчэй* прыносную, калючаю, ламучаю, ташнючаю. Выхадзі із *касьцей*, із *машчэй*, із *суставаў*, із-пад *суставаў*, із *жыл*, із-пад *жыл*, із *пят*, з-пад *пят*, з *нагцей*, з-пад *нагцей*, із *белага ліца*, із *сініх вачэй*, із *чорных валасоў*. Выхадзі, нарадка, у ***чыстае поле***, *на* ***раскрэсную дарогу***, на *жоўтыя* ***пяскі***, на ***сухія лясы***. Там цябе, нарадка, стала засьцілаць, кубкі наліваць, цябе ў *госьці* дажыдаюць. Там цябе піць, а ў такога-та не бываць".

**Б12. Ад іспугу.** "Ва імя *Айца і Сына*, прымі, *Госпадзі*, малітву. Упрашую, угаварую: з усіх *касьцей, машчэй*, з *белага ліца*, са *шчырага сэрца*. Натворныя, прыгаворныя, ідзіця на ***мора***, на ***лукамора***. Стаіць **дуб** *зялёны*, на тым **дубе** тры **каката**, тры стала. Сталы засьцілаюць, кубкі наліваюць. Вам там піць, пагуляць, у *раба Божага* /імя/ *касьцей* не ламаць, *галавы* не крушыць, *сэрца* не таміць. За другім разам, Божжым часам, *Госпаду Богу* памалюся, *усім сьвятым* пакланюся. *Сьвятая Мацер Божая*, прыступай /імя/ помашчы давай. Упрашую, угаварую з *касьцей*, з *машчэй*, са *шчырага сэрца*, зь *белага ліца*. Усі балезьні, ідзіця на ***мора***, на ***лукамора***. Там стаіць **дуб** *зялёны*. На тым **дубу** шэсьць **какатоў** і шэсьць сталоў. Сталы засьцілаюць, кубкі наліваюць. Вам там папіць, пагуляць, у /імя/ *касьцей* не ламіць, *галавы* не крушыць, *сэрца* не таміць. За трэцьцім разам, Божым часам, памалюся, *усім сьвятым пакланюся*. *Сьвятая Мацер Божая*, прыступай, помачы давай. Упрашую, угаварую з *касьцей*, з *машчэй*, са *шчырага сэрца*, з *белага ліца*. Усі балезьні, ідзіця на ***мора***, на ***лукамора***. Там стаіць **дуб** *зялёны*. На тым **дубу** дзевяць **какатоў**. Сталы

засьцілаюць, кубкі наліваюць. Вам там папіць, пагуляць, у (імя) *касцей* не ламаць, *галавы* не крушыць, *сэрца* не таміць. Пашлі, *Госпадзі, Дух лёгкі*". (Любую балезьнь можна лячыць, калі гаварыць етыя словы і ў канцы: "Умяртві, *Госпадзі*, мае балезні!" Лячыць нада утрам і вечарам, утрам — часоў у восем-дзевяць, вечарам — дзевяць-дзесяць, у абед без пользы. Калі сонца заходзя, нада гаварыць. Удзень ня ходзяць лячэньні. Утрам асобенна памагаюць.)

**Б13. На першы выган.** (Вербнае Уваскрасеньне. У цэркві служаць, ходзяць, вербу свецяць. З етай вербай выганяеш і говорыш: "Первым разам, Божым часам... загараджуся **медным небам**, пакрыюся **ясным сонцам**, абгараджуся Гасподнім словам, ***зьмеяў-чарадзейнікаў*** не баюся, **пяском** *вочы* пазасыпаю, камнем *зубы* павыбіваю, штоб на маём ***дварэ*** не лятали, ад ***маёй кароўкі*** малачка не адбіралі. Пайду чераз ***Суботнік***, вазьму ў *рукі* ключы, замкну сваю ***Сярэдку*** *залатымі* ключамі, Гасподнімі рячамі. На ***гаре,*** на **расе** хадзіла ***кароўка-цяліца***, над усімі **царыца**, *залатыя* ***рожкі***, *сярэбраныя* ***ножкі***, **шаўковы хвост**, **траўку** зьядала, **расічкі** сьпівала, маёй ***кароўке*** малачка прысылала. **Громам** б'е **неба**, **зямля** калатнілася, ад маёй ***кароўке***, ***зьмеі-чарадзейнікі***, адвярніцеся. Я — словам, *Господзь* с помашчу. Маёй ***кароўке*** не щрачыце, а *злыя языкі* чэраз п... валачыце".

**Б14. Ад нарадкі.** "На ***царскіх палах*** жыло сем *брацьеў*. *Брат* з *братам* размаўляе, нарадку вымаўляе. Паднялось дванаццаць **хмар**, трынаццаць **бур**, *жоўтыя* ***пяскі*** круцілі, **пыль** паднялася. Ой, вы, **пылі**, ляціце к *рабе Божая* / імя/, *нутры бальныя* ў *рабы Божай* атрэзайце, а *нутры здаровыя рабе Божай* давайце. *Залатымі* ключамі *здаровыя нутры* ў *рабы Божай* замыкайце, а ключы ў ***мора*** адкідайце. Як етым ключам з ***мора*** не вярнуцца, так ніякай балезьні /імя/ не атрыгнуцца".

**Б15. У дарогу. Перад дарогай.** "*Прысьвятая Маць Пакрова* накрыла **землю травою**, а **траву — расою**. Накрый мяне рызаю Сваею сьвятою. Ад усіх ***зьмеяў палзучых*** і ***гадаў грымучых***".

**Б16. Ад уроку.** "Першым разам, Божым часам, *Госпаду Богу* памалюся, *Прачыстай Мамачку* пакланюся. *Прачыстая Мамачка*, **вячэрняя заранячка**, стань ка мне на помаць. І не сама сабою, *Сам Господзь* са мною. І на **морэ**, і на **акіяне** стаяў **дуб**, на том **дубе** стаялі *чорныя* ***пціцы***. І радзілі яны раду худую, як нам тры ***моры*** сьпіваць, і ***сабор цэркві*** дастаць, і этаму *младзенцу* худое ліха даць. Нет, брэшаце, *чорны* ***пціцы находныя, і набродныя, і падумныя, і пацешныя, і насьмешныя***. Як вам тры ***моры*** не сьпіваць, і на ***Латаркамень*** не стаць, і этаму *младзенцу* худое ліха не даць. Будзе вас *сьвяты Міхайла* ўнімаць, будзе вам *голавы* агнянымі мячамі разьбіваць".

**Б17. Ад уроку.** "**Вада-вадзіца, Божая расіца,** з-пад **сонца** ты выходзіла, з-пад **яснага месяца**, бегла ты ***высокімі гарамі***, ***крутымі берагамі***, вымывала ты ***каменье***, ***краменье***. Вымый ты з *рабы Марыі* урокі, прыгаворы жэньскія, мужчынскія, дзявочыя, дзіцячыя, парабачыя. Штоб па *касьці* не хадзіла, *касьці* не сушыла, *крыві* не разжыгала, цела не мяняла. Па еты час шумець і балець. Не сама сабою, *Сам Господзь* са мною. Прылюбі *мой Дух* (і тры разы эту малітву). Дай Бог час добры!"

**Б18. Для каровы.** "*Сьвяты Юрый-Грыгорый* па *беламу* ***мору*** праязжае, *белае* ***мора*** налівае. На *белым* ***моры***, на ***лукаморы*** стаяць тры ***будынкі***, у тых ***будынках*** стаяць тры **цяліцы**, яны стаяць, не гуляюць, *бела* ***мора*** выпіваюць, для етай ***скаціны***, ...***шарсцінкі***, малачко сабіраюць. (Чытаюць, як целіцца, як доіць. Усякі раз.)

**Б19. На захаваньне каханьня. "Сьвятой вадою** ўмываюся, **золатам** уціраюся, **сонейкам** адзяюся, **месяцам** падпеpажуся, **зоркамі** засцягнуся, нікога не баюся. Як **сонца і месяц** на ***ўвесь сьвет*** сьвецяць, так каб я была на ***ўвесь сьвет*** міла і люба".

**Б20. На захаваньне каханьня.** "На *асобе* еду, *асобай* паганяю, а /імя/ сквіцы і віды замаўляю. Каб ён на мяне добра паглядаў, паганых слоў не казаў, выдумаў не выдумляў, каб *рук і ног* не падымаў, каб ён мне ***месца*** прадуваў да на ***покуце*** саджаў. Каб я была люба, міла і сям'і таксама, і яго *радні, бацьку, мацеры і братам, жонам, і жыдам, і простым мужыкам*. Каб мяне ўсе паважалі, ***месца*** прадувалі і на ***покуце*** саджалі. Каб я была так *ясна* і *красна*, як **сонейка**. **Сонейкам** абгарадзілась, **зорачкамі** асвяцілась, а /імя/ спадабалась. Перад **сонейкам** стаю, *Госпада Бога* прашу. *Госпадзі Божа*, спасі і дапамажы /імя/".

**Б21. Любоўная. "Зоры-заpаніцы, Гасподнія памашніцы**, памагалі *Богу*, памажыце і мне. **Зоркі раньнія, зоркі раньнія, зоркі вячэрнія**, Божы дзянёчык, сьвятая нядзелька, прыступіце, памажыце. На **небе месячка** ясны. У яго тры **зорачкі пракрасны**: адна — **загожа**, другая — **запека**, трэцяя — **прылюбка**. Зажогу зажыгну, запеку запяку, прылюбку прылюблю, *раба Божага* /імя хлопца/ к свайму *сэрцу* прыўляку. Вазьму яго з-пад *левай рабрыны* за *шчырае сэрца*, каб хадзіў і нудзіў, /імя дзяўчыны/ верна любіў".

**Б22. Як зьмяя скаціну ўжаліць.** "Первым разам, Божым часам. На ***полі*** стаяла **яблыня**. У той **яблыні** тры **какаты**. У **какатах** тры гнязды. У гнёздах тры ***зьмяі***. Первая — ***Ульяна***, другая — ***Мар'яна***, старшая — ***Салоха***. Ты ж, ***Ульяна***, ты ж, ***Мар'яна***, старшая ***Салоха***, вынімайце ***зубы*** і ***губы*** у /Васілёвай/ ***скацінкі***, *рабыя* ***шарсцінкі — падтынных***, ***падкалодных, лесавых, баравых, куставых, палявых, вадзяных***. А калі не паслухаеце, найдут **сільныя грозы**, пайдуць **сільныя дажчы**, размыя вашы ***пяшчэры***. І прыдзе *Міхаіл-Архаіл*, і возьме вострьі меч, і сыме вам ***галаву*** с ***плеч***, і ў ***груд*** складзе, **агнём** сьмяце і **попелам** разьмяце".

**Б23. Як у лес ідзеш (у дарогу).** "*Госпаду Богу* памалюся. Іду я ў ***лес*** (у **грыбы**, у **маліну**), у ***дарогу***. Устрэчае мяне *Ісус Хрыстос* з поўнымі вёдрамі, залатымі ключамі і з *чорным* **макам**. **Макам** пасыпаю, ключамі замыкаю. Як этых ключоў нікому не падабраць, так **маку** нікому на ***сьвеце*** не сабраць, так у *раба Божага* нікому на ***сьвеце*** не пераняць: ні ***зьверу бягучаму***, ні ***гаду паўзучаму***, ніякаму *ліхому чалавеку*. Ва імя сьвятое. Ва імя сьвятое. Ва імя сьвятое".

**Б24. Ад уроку.** "*Господу Богу* помолюся **Вечерней заре** поклонюся. **Вечерняя зара,** приди на помощь /имя/ Выговариваю урок. Думанный не думан-

ный, годанный не годанный. Из *ногтей*, из *мощей* и из *черных печеней*. С унутри *живота раба Божьего* с *тела* /имя/. На **мори**, на **лукаморьи** стояла **сосна**, **тонкая, васока, кореньем** глыбока. Омывала ты свое *белые **коренья***, *белые **коменья***, ***крутые берега***. И ты, **водица-царица,** кланяюсь ***святому Днепрю, Днепр — Черному морю. Черное море — Белому морю***. Ты, **водица-царица,** обмывай *раба Божьего* /имя/ урок гаданый не гаданый. С *костей* и *живота*. В этот час, в этот раз шумело, кололо, болело, горело. Дай Бог час добрий, *дух легкий* и прими *мой дух*".

**Б25. От пилепсии (черной болезни).** "*Господу Богу* помолюся, *усим святым* поклонюся. *Усе святые* прыступитеся. *Слуги* в ***пути*** на ***море океяне***, на ***острове Буяне*** стоял **дуб**. У том **дубе** тры ***дупла***. У тых ***дуплах*** живут тры *брата*. Один *воденой*, другой *ветраной*, а третий *потайной*. Не сама я пришла упрашивать, а с *Господом Богом*, *Исусом Христом* и животворящим Крестом. Ишол параход на четыре ***дороги***. Устретил его *дедка старенький*. Скинул параход *дедка* на **игрушу колючую**, на **оснну трасучую**. Як той **осине с гнилой колоды** на **корне** не стоять, **отростков** не пускать, так *рабе Божьей* /имя/ *костей* не ломать, *сердца* не крушить. Ни сходу ни молодика, ни подповню. Дай *Бог* час добрий, *дух легкий*. Прими *мой дух*".

**Б26. Ад укуса гада.** "На ***мори***, ***лукоморьи*** стоял **дуб**. На том **дубу *жаваронка*** звила гнездо. У том гнязде седит ***сам цар вуж, честный муж***. Вынимай своих три девять ядов. Не будиш вынимать, будет тебя *Господь Бог* карать. **Гром** будет бить, **молния *вочи*** полить. По этот час, по этот раз горело, болело, кололо, шумело. Прими, *Господи, мой дух* и опаси *раба Божьего* /имя/".

**Б27. Ад уроку.** "*Госпаду Богу* памолімся і тому *сьвятому апосталу* прыклонімся, і *ўсім сьвятым: кіеўскім, пячэрскім, русалімскім* ат урокаў, ат прыгавораў, ат прыччаў: Тры дзевяць урокаў, тры дзевяць прыгавораў, тры дзевяць прыччаў. Ішлі яны ***махамі***, ***берагамі***, *жоўтымі* ***пяскамі***, ***ніцамі лозамі***. Як гэтым ***ніцым лозам*** у ***моры*** ня бываць, так у гэтага *чалавека* тры дзевяць урокаў, тры дзевяць прыгавораў, тры дзевяць прыччаў падумных, пагадных, стрэчных, смешных, ветраных, агняных, сьцежачных, вулачных, дарожачных. У ***горадзе Піцерэ*** стаяў ***мост***, там ехаў *Ісус Хрыстос*. Там ішла *сьвятая Маць Багародзіца*, *залатой* трасьцінай папіраючы. "Куды ж ты ідзеш, *сьвятая Маць Багародзіца*?" — "Па ***ўсяму свету***, па *белым* ***цьвету***. **Ірданскай вадой** урокі ды прыгаворы ўспрысківаю — з *яркіх вачэй*, з *чуткіх вушэй*, з *румянага л*іца, з *шчырага сэрца*". Тут табе ня быць, па *касьці* не хадзіць, *касьці* не ламіць, *крыві* не разжыгаць, вопуху не бываць. Як цябе *ацец-маць* нарадзілі, так ад цябе ўсе гэтыя урокі, прыгаворы ды прыччы адхадзілі — пагадныя, падумныя, стрэшныя, сьмешныя, ветраныя, агняныя, сьцежачныя, вулачныя, дарожачныя. І сукрой жа ты, *Госпадзі*. Дай на помашч, *Госпадзі*. *Сьвятая мучаніца Варварачка* боль прынімала, усім на пользу давала, дай ты і мне на пользу і прымі *мой Дух ціхенькі, лёгенькі*. Як з ***гуся*** **вада**, так з гэтага *чалавека* ўся бяда".

**Б28. Ад иачніцы.** "К курам усходзіш з хлебам-сольлю: "Добры вечар, ***куркі-Матрункі, петушкі-Якушкі***. Наце вам хлеб-соль, атдайце /імя/ сон с ***усіх старон*** — дзянны, палудзянны, начны, палуношны. Як цябе *айцец-*

маць нарадзілі, так ад цябе ўсе гэтыя начніцы атхадзілі. І дзянныя, і палудзянныя, і начныя, і палуношныя".

## 57. ЗВЕСТКІ АБ ВЫКАНАЎЦАХ

Д1—5. Ад жыхаркі в. Дубраўка Добрушскага р-на Церашковай Галіны Якаўлеўны, 1939 г. н., са сшытка, пер. Лапацін Г. І. у 2000 г. Інфармант запісала замовы ад сваёй аднавяскоўкі Пузікавай Надзеі Васільеўны (1924—2001). Прыводзяцца ў рэдакцыі ўкладальніка. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 95.

Д6—8. Ад жыхаркі в. Церахоўка Добрушскага р-на Кавалёвай Марыі Ціханаўны, 1921 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 16—17.

Д9. Ад жыхаркі в. Жгунь Добрушскага р-на Сідарцовай Ганны Харытонаўны, 1918 г. н., са сшытка, пер. Лапацін Г. І. у 1999 г. Інфармант запісала замовы ад сваёй маці Лапоцкай Праскоўі Кірылаўны (1863—1965), якая была родам з в. Крупец Добрушскага р-на. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 24.

Д10—13. Ад жыхаркі в. Селішча-2 Добрушскага р-на Мальцавай Марыі Іванаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2002 г. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 85—83.

Д14. Ад жыхаркі в. Чырвоная Буда Добрушскага р-на Маісеенка Таццяны Іванаўны, 1922 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2001 г. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 48.

Д15. Ад перасяленкі з в. Закружжа Веткаўскага р-на Ксяндзовай Соф'і Кірылаўны, 1914 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1992 г. у г. Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 54, л. 34.

КБ1—10. Ад жыхаркі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на Волкавай Еўдакіі Сямёнаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1995 г. Інфармант запісала замовы ад сваёй маці Волкавай Пелагеі Еўдакімаўны, якая "памерла дзесяць гадоў назад" ва ўзросце "ста дзевяці гадоў" і перапісала са сшытка, які належаў яе аднавяскоўцу Судневу Сцяпану Сямёнавічу, які, па словах інфарманта, "памёр яшчэ да маёй мамы. Гадоў дзевяноста яму было". ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 21, 16, 23, 20, 11, 13, 16—15, 12, 16—17.

КБ11, 12. Ад жыхаркі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на Хамяковай Фёклы Дзянісаўны, 1908 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1996 г. ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 31.

КБ13. Ад жыхаркі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на Сальнікавай Матроны Дзям'янаўны, 1922 г. н., зап. Лапацін у 1997 г. ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 52.

КБ14. Ад жыхаркі в. Антонаўка Веткаўскага р-на Шыцікавай Вольгі Хвёдараўны, 1936 г. н., зап. дырэктар Казацкабалсунскага ДК Гутар М. В. у 1998 г.

КБ15. Ад перасяленкі з в. Антонаўка Веткаўскага р-на Мяцелевай Варвары Антонаўны, 1911 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1992 г. у Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 67, л. 8.

КБ16. Ад жыхаркі п. Заляддзе Веткаўскага р-на Хамяковай Праскоўі Іванаўны, 1931 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 97.

КБ17, 18. Ад жыхаркі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р-на (у 1995 г. пераехала да дачкі у в. Чамярня Веткаўскага р-на) Патапавай Веры, 1919 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. ЭМ ВМНТ, сш. 73, л. 10—11.

13а Зак. 3512

КБ19—22. Ад жыхаркі в. Шалухоўка Веткаўскага р-на Куляшовай Матроны Раманаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. у в. Чыстыя Лужы Веткаўскага р-на. ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 70, 71.

КБ23. Ад перасяленкі з в. Шалухоўка Веткаўскага р-на Беланожка Паліны Іванаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2000 г. у Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 52, л. 100.

КБ24—30. Ад жыхаркі в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на Канода Тамары Барысаўны, 1936 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2000 г. ЭМ ВМНТ, сш. 70, л. 26, 27, 31, 32, 33.

КБ31, 32. Ад перасяленкі з в. Жалезнікі Веткаўскага р-на Нарбут Веры Рыгораўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1992 г. у Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 55, л. 8.

КБ33. Ад жыхаркі в. Нінель Веткаўскага р-на Крымавай Веры Макараўны, 1918 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1993 г. ЭМ ВМНТ, сш. 68, л. 2.

Н1. Ад жыхаркі в. Неглюбка Веткаўскага р-на Мельнікавай Марыі Герасімаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1994 г. ЭМ ВМНТ, сш. 62, л. 1.

Н2. Ад жыхаркі в. Неглюбка Веткаўскага р-на Барсуковай Елізаветы Аўрамаўны, 1912 г. н., зап. Лявонцьева С. І., Чыжова І. Ю. у 1989 г. ЭМ ВМНТ, сш. 62, л. 14.

Н3. Ад жыхаркі в. Неглюбка Веткаўскага р-на Савасцёнак Аляксандры Максімаўны, 1938 г. н., зап. Нячаева Г. Р. у 1986 г. ЭМ ВМНТ, сш. 89, л. 4.

Н4. Ад жыхаркі в. Стаўбун Веткаўскага р-на Фяськовай Аксінні Лаўрэнцьеўны, 1927 г. н., зап. Гаршкоў М. М. у 1993 г. ЭМ ВМНТ, сш. 61, л. 6.

Н5. Ад жыхаркі в. Стаўбун Веткаўскага р-на Марозавай Марыі Лаўрэнцьеўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1997 г. ЭМ ВМНТ, сш. 61, л. 10.

Н6. Ад жыхаркі в. Барталамееўка Веткаўскага р-на Жукавай Ефрасінні Цітаўны, 1906 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 53, л. 81.

Н7. Ад жыхаркі в. Барталамееўка Веткаўскага р-на Еціпнёвай Матроны Цітаўны, 1919 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 53, л. 60.

Н8, 9. Ад жыхаркі в. Барталамееўка Веткаўскага р-на Шэвелевай Ганны Цітаўны, 1912 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1991, 1993 г. ЭМ ВМНТ, сш. 53, л. 18, 20.

Н10—13. Ад перасяленкі з в. Вераб'ёўка Веткаўскага р-на Лапіцкай Людмілы Якаўлеўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1995 г. у г. Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 54, л. 41—38.

Н14. Ад перасяленца з в. Чырвоны Кут Веткаўскага р-на Шапавалава Мікіты Ягоравіча, 1924 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1991 г. у г. Ветцы. ЭМ ВМНТ, сш. 63, л. 13.

Н15. Ад перасяленкі з в. Петухоўка Веткаўскага р-на Васьковай Екацярыны Аляксандраўны, 1910 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2002 г. ЭМ ВМНТ, сш. 17, л. 23.

Н16—18. Ад веткаўчанкі Канавалавай Валянціны Міхайлаўны, 1955 г. н., з лісткоў перапісаў Лапацін Г. І. у 1991 г. Інфармант запісала ад перасяленкі з в. Петухоўка Веткаўскага р-на Самонавай Вольгі, 1912 г. н. ЭМ ВМНТ, сш. 53, л. 48—50.

Н19, 20. Ад жыхаркі в. Малыя Нямкі Веткаўскага р-на Ігнаценка Вольгі Захараўны, 1882 г. н., зап. Чыжова І. Ю. у 1989 г. ЭМ ВМНТ, сш. 57, л. 15.

Н21. З запісаў дырэктара Маланямкоўскага СДК Буцяковай Валянціны Хведараўны. 1990-я гг.

Н22. Ад жыхаркі в. Верхлічы Краснагорскага р-на Бранскай вобл. Грыбанавай Параскевы Антонаўны, 1920 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1999 г., ЭМ ВМНТ, сш. 89, л. 88.

П1. Ад жыхаркі в. Прысно Веткаўскага р-на Масейкавай Матроны Ягораўны, 1909 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2002 г. ЭМ ВМНТ, сш. 5, л. 33.

П2. Ад жыхаркі в. Радуга Веткаўскага р-на Шкрабавай Ніны Мікалаеўны, 1958 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2002 г. ЭМ ВМНТ, сш. 6, л. 13.

П3, 4. Ад жыхаркі в. Радуга Веткаўскага р-на Паладзіі Ганны Іванаўны, зап. Лапацін Г. І. у 2002 г. ЭМ ВМНТ, сш. 6, л. 4.

П5—11. Ад жыхаркі г. Веткі Цішковай Алены Анатольеўны, 1964 г. н., са сшытка пер. Лапацін Г. І. у 2001 г. Былі запісаныя ад Нікіцінай Веры Васільеўны (1920—1990), родам з в. Старое Сяло Веткаўскага р-на. ЭМ ВМНТ, сш. 101, л. 1, 4, 5, 9, 11.

П12. Ад жыхаркі в. Глыбаўка Веткаўскага р-на Яфрэмавай Надзеі Андрэеўны, 1926 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2000 г. ЭМ ВМНТ, сш. 96, л. 24.

П13. Ад жыхаркі в. Хальч Веткаўскага р-на Корнікавай Марыі Хведараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2001 г. ЭМ ВМНТ, сш. 97, л. 20.

Б1. Ад жыхаркі в. Бабічы Чачэрскага р-на Радзьковай Наталлі Ягораўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. ЭМ ВМНТ, сш. 76, л. 37.

Б2—4. Ад жыхаркі в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на Маркоўскай Марыі Логвінаўны, 1925 г. н., родам з в. Бабічы, зап. Чыжова І. Ю. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 10, л. 29, 30, 32.

Б5—7. Ад жыхаркі в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на Бусаўцовай Ганны Кузьмінічны, 1917 г. н., з лістоў пер. Чыжова І. Ю. Былі запісаны гадоў дваццаць назад ад жыхаркі в. Высокая Грыва Чачэрскага р-на Хлопкавай Веры (1895—1975). ЭМ ВМНТ, сш. 10, л. 20, 24, 37.

Б8—9. Ад жыхаркі в. Залессе Чачэрскага р-на Трушковай Марыі Хведараўны, 1937 г. н., зап. Новікава Л. А., Нячаева Г. Р. у 1999 г. ЭМ ВМНТ, сш. 90, л. 20, 22.

Б10—11. Ад жыхаркі в. Залаўе Чачэрскага р-на Янкаўцовай Марыі Station Станіславаўны, 1912 г. н., родам з в. Навілаўка Веткаўскага р-на, зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 1999 г. ЭМ ВМНТ, сш. 75, л. 71.

Б12. Ад жыхаркі в. Покаць Чачэрскага р-на Лаўрыноўскай Паліны Паўлаўны (1911—2004), зап. Раманава Л. Д. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 75, л. 53.

Б13. Ад жыхаркі в. Куклічы Чачэрскага р-на Сувалавай Вольгі Рыгораўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1999 г. ЭМ ВМНТ, сш. 75, л. 55, 56.

Б14, 15. Ад жыхаркі в. Старыя Малынічы Чачэрскага р-на Раманцовай Лідзіі Міхайлаўны, 1925 г. н., зап. Новікава Л. А., Нячаева Г. Р. у 1999 г. ЭМ ВМНТ, сш. 90, л. 32, 34.

Б16. Ад жыхаркі в. Будзішча Чачэрскага р-на Бублінай Пелагеі Пятроўны, 1906 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1999 г. ЭМ ВМНТ, сш. 69, л. 5.

Б17. Ад жыхаркі в. Скачок Веткаўскага р-на Язерскай Мілены Антонаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2001 г. ЭМ ВМНТ, сш. 70, л. 58.

Б18. Ад жыхаркі в. Фёдараўка Веткаўскага р-на Брайковай Матроны Мацвееўны, 1928 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. ЭМ ВМНТ, сш. 69, л. 8.

Б19—21. Ад жыхаркі в. Фёдараўка Веткаўскага р-на Шахоўскай Ніны Данілаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1998 г. ЭМ ВМНТ, сш. 51, л. 17.

Б22. Ад жыхаркі в. Фёдараўка Веткаўскага р-на Шапавалавай Соні Восіпаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1992 г. ЭМ ВМНТ, сш. 51, л. 46.

Б23. Ад жыхаркі в. Фёдараўка Веткаўскага р-на Аўсяйкавай Марыі Нікіфараўны, 1919 г. н., зап. Лапацін Г. І., у 1992 г. ЭМ ВМНТ, сш. 10, л. 47.

Б24—26. Ад жыхаркі в. Навілаўка Веткаўскага р-на Дзеньдобрай Сцепаніды Рыгораўны, 1914 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2000 г. ЭМ ВМНТ, сш. 70, л. 16—15.

Б27, 28. Ад жыхаркі в. Навілаўка Веткаўскага р-на Алесенка Аксінні Барысаўны, 1916 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 1990 г. ЭМ ВМНТ, сш. 70, л. 4, 5.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Паміж Дняпром і Сожам з яго прытокамі Беседдзю ды Іпуццю ў іх ніжнім цячэнні знаходзіцца адзін з найцікавейшых рэгіёнаў традыцый тканых ручнікоў. У час экспедыцый Веткаўскага музею ўздоўж малых і вялікіх рэк тут выявіліся рэчы васемнаццаці традыцый, а калі дадаць той факт, што час змяняў у адным і тым жа месцы выгляд ручнікоў да непазнавальнасці, абіраючы новыя арнаменты, асаблівасці кампазіцый і самую тэхніку, то колькасць разнастайных тыпаў дасягае трох дзесяткаў. Частка з традыцый была апісана ўпершыню. Іншыя — вядомы па літаратуры, але ўдакладненні па часавым развіцці, локусах распаўсюджвання, тэхналагічных адзнаках і складзе арнаментаў зроблены для ўсіх даследаваных з'яў. 'Гідралагічны' аспект вывучэння сапраўды дазволіў убачыць абагульняючыя рысы ў бясконцасці варыянтаў і 'замацаваць' вылучаныя тыпы за воднымі патокамі, слушней, за гронкамі вёсак уздоўж гэтых патокаў (упершыню была дасягнута падобная 'шчыльнасць' матэрыялу).

Шмат якія традыцыі працавалі ў апошні час у тэхніцы перабору — аднабаковага і двухбаковага. Адзначыўшы ўсе яго віды, што ўжываюцца на мясцовых ручніках, мы звярнуліся да папярэднікаў гэтай 'новай' тэхнікі — бранага ткацтва і закладу, дапусціўшы меркаванне, што менавіта на межах, дзе сустракаюцца асобныя чыны бранага і закладнога ткацтва, і ўзнікае рэгіянальная з'ява перабору. 'Трэцім суразмоўцай' у былым дыялогу бачыцца чырвонапалосны ручнік, прычым розныя яго варыянты (тканіны з простымі чырвонымі палосамі; 'чырвонагарадковыя' з гарадчастымі калодкамі, у якіх паміж дзвюма чырвонымі "вольнымі палоскамі" быў заціснуты вузкі браны ўзор, альбо іншыя). Ручнікі чырвонапалосных традыцый былі знойдзены ў рэгіёне, як і варыянты іх прамога ўзаемадзеяння з бранымі альбо закладнымі чынамі — паасобку. Так выявіліся пэўныя алгарытмы ўзаемадзеяння, якія, відаць, узнаўляліся не аднойчы і зноў праяўлялі канстантныя рысы архаічных 'энергій' узорнага ткання. Мы назвалі такія з'явы 'імпульсамі'. Магчыма, з ліку такіх імпульсаў — і канстантнае ўзнаўленне чырвоных палос у ручніках, якія запоўнілі белыя прасветы паміж такіх палос бранымі, закладнымі, пазней — і пераборнымі ўзорамі. У выніку чырвоныя палосы перайшлі ў пазіцыі дзельнікаў узорнай кампазіцыі — "калодак", "вольных палосак". З'явіўся цэлы шэраг 'чырвонакалодкавых' традыцый гетэрагеннага паходжання. Такія — чачорскія закладныя, бабіцкія і валосавіцкія браныя, неглюбскія браныя і пераборныя, стаўбунскія, казацкабалсунскія і краснапольскія пераборныя. Падобныя вынікі можна зазначыць і па-за межамі рэгіёна доследаў.



Мал. 79. Бусляняты. Лецяхі (Краснагорскі раён). 1998 г.

Далейшае развіццё сітуацыі магло прывесці да запаўнення арнаментамі і саміх чырвоных палос, што адбылося ў тэхніцы перабору. Узнікла апазіцыя чырвонафонавага і белафонавага перабору. Удалося прасачыць развіццё такіх чыноў арнаменту ў шэрагу традыцый, якія адрозніваліся па складу ўдзельнікаў узаемадзеяння. Некаторыя з чырвонакалодкавых традыцый, засвоіўшы чырвонафонавы перабор, стварылі наогул 'чырвоны чын' — цалкам чырвонафонавыя арнаментальныя кампазіцыі. Гэта стаўбунскія, казацкабалсунскія і неглюбскія пераборныя тканіны 'чырвонага чыну' як старэйшая частка іх пераборнага фонду. З'ява 'чырвонага чыну' захапіла і прыснянскую традыцыю, якая ніколі не была чырвонакалодкавай і наогул паласатай. Тэхналагічны аналіз чырвонакалодкавых пераборных ручнікоў прывёў да высноў аб тым, што ў стварэнні іх чыноў на пэўным этапе ўдзельнічалі аднаутковыя саржавыя тканіны, якія ў чырвоных "вольных палосках" і ў фоне ўзорных палос пераходзілі на рыпс. Найбольш архаічнымі ў гэтых адносінах засталіся стаўбунскія ручнікі чырвонага чыну. Балсунскія ж і неглюбскія тканіны захавалі 'рыпсавыя' рысы ў выкананні сваіх чырвоных

калодак ‘пад рыпс’ (з ужываннем больш тонкага утка па таўсцейшай аснове пры палатняным перапляценні) і ў ‘цотным’ ліку шага ўзорнага утка, які перасягаў колькасць нітак асновы, кратную двум. Тэрытарыяльнае размеркаванне ‘цотных’ і ‘няцотных’ тэхналагічных вынікаў паказала існаванне пэўных межаў, а саму з’яву дазволіла аднесці да архаічных ‘імпульсаў’. ‘Цотны’ імпульс выявіўся і ў традыцыях, што засталіся на браных і закладных ‘пазіцыях’, не змяніўшы сваёй старой тэхнікі: чачорскія, бабіцкія, валосавіцкія.

З’яўленне процілеглага па колеры выніку — ‘белага чыну’ паласатых пераборных ручнікоў дубраўскай і медзведскай традыцый, дзе арнаменты выконваліся па белым фоне, сведчыла аб іншым складзе ўдзельнікаў колішняга ўзаемадзеяння. У медзведскіх кампазіцыях арнаменту калодкі — паласатыя, што характэрна для кралявецкіх, часткі закружскіх, дубраўскіх тканін, у меншай меры — для балсунскіх і нават для некаторых неглюбскіх. У цалкам белафонавай дубраўскай традыцыі большасць калодак — узорныя. Даследаванне пераборных ручнікоў з перавагаю белага фону арнаментаваных палос на водападзеле Беседзі ды Іпуці, а таксама далей на ўсход і поўдзень выявіла яшчэ адзін архаічны імпульс — ‘узорнапалосную’ кампазіцыю арнаменту, адціснутую цяпер на пазіцыі калодак. Для традыцый пераборных ручнікоў з узорнымі калодкамі знайшліся браныя традыцыі-папярэднікі з такімі ж узорнымі калодкамі (перш за ўсё — некалькі традыцый, па якіх ‘лёг’ дубраўскі белы чын перабору: закружская, гомельская, бабовіцкая).

У міжрэччы Беседзі ды Іпуці (паміж іх прытокамі: Стаўбункаю і Віхолкаю) выявілася мяжа чырвонакалодкавых і ўзорнакалодкавых традыцый. У аснове сёння блізкіх неглюбскага і верашчацкага пераборных ручнікоў мы знайшлі розныя па калодках, а значыць, і па архаічным складзе традыцыі. Гэта неглюбскі браны чырвонакалодкавы чын і бабовіцкі браны ўзорнакалодкавы чын. Нягледзячы на ‘прышлы’ (канец XVII ст.) кампанент у складзе насельніцтва гронкі вёсак тыпу Неглюбкі, мы вылучылі неглюбскі і бабовіцкі браныя чыны як аўтахтонныя.

У сітуацыі стварэння ‘белых чыноў’ ручнікоў патрэбна было разгледзець і даўняе пытанне аб ‘кралявецкім’ уплыве ў кантэксце ўзаемадзеяння закладных і браных традыцый, што наогул характэрныя для рэгіёна і вядомыя археалагічна. Аднак дослед ‘пацягнуў’ за сабою і пытанне аб семантычных ды прасторавых асновах пабудовы кампазіцый арнаменту як своеасаблівай мадэлі Сусвету (Свету) і адпаведных гэтым прынцыпам чынах ручнікоў. ‘Віднае як план’ і ‘віднае збоку’ ляжаць не толькі ў аснове геаметрычнага альбо выяўленчага чыноў арнаменту. Па нашых назіраннях, гэта архаічны імпульс, які падаўжае параджаць фантастычныя для нас формы з архаічнымі рысамі і прыкметамі ‘тэраталагічнага’ стылю нават сёння. Тыпалагічна блізкія — сатканыя ў ‘новых’ тэхніках геаметра-антрапа-раслінна-жывёлападобныя выявы ды іх археалагічныя, гістарычныя і этнаграфічныя аналагі, характэрныя для розных часоў і мясцін.

Гэтае ж пытанне ды рознае яго вырашэнне ляжыць у прынцыпах утварэння планіметрычных і ярусных, а таксама складаных планіметрычна-ярусных *паласатых* кампазіцый. Найбольш выразна працэс выявіўся ў дубраўскіх пераборных ручніках, але адазваўся амаль ва ўсіх традыцыях гіпатэтычнага

памежжа выяўленчай і геаметрычнай плыней. Удзел стараабрадчай культуры ва ўзнаўленні архаічнай сітуацыі (у рэгіёне — з XVII ст.), як і ўзнікненне чарнігаўскага кралявецкага цэнтра ткацтва (XVIII ст.) здаюцца часавымі і мясцовымі праявамі пэўнай архаічнай энергіі.

Пры параўнанні паласата-арнаментаваных браных чыноў Неглюбкі і Бабовіч мы зазначылі магчымы ўдзел у іх складанні розных ‘белапрасветных’ паласатых жа традыцый: чырвонапалосных і ўзорнапалосных. Гэта звярнула ўвагу даследчыкаў на некалькі паралельных з’яў у адасобленых адна ад адной традыцыях. Такімі сталіся сіметрычныя (люстрана-сіметрычныя, тыпу **п-1-п, а-б-а, а-па-а, 2а-3а-2а** ды інш.) і асіметрычныя (тыпу **а-б-а-б..., а-б-в...** ды інш.) тэндэнцыі ў будаванні арнаментальнай кампазіцыі аднаго канца паласатага ручніка. Мы знайшлі гэтыя прыкметы як у чырвонакалодкавых, так і ва ўзорнакалодкавых традыцыях. Гэта дазваляла дапусціць меркаванне аб дзеянні яшчэ двух архаічных імпульсаў: сіметрычнага і асіметрычнага.

Назіранне за асіметрыяй як прынцыпам утварэння кампазіцый паглыбілася пры параўнанні самага яскравага супрацьстаяння традыцый, а менавіта найбольш відавочнай розніцы паміж плынямі паласатых і бескалодкавых ручнікоў. Апошні тып пераканаўча выявіўся ў вертыкальнай (вертыкальна-ланцуговай і дыяганальна-сеткавай) кампазіцыі прыснянскага тыпу. Аналіз мясцовага і апублікаванага раней матэрыялу ў межах усёй краіны прыводзіў да высновы, што з’ява гэтая — агульная для многіх традыцый, пачынаючы з полацкіх і ўсходневіцебскіх тканін і дае памежныя, найбольш выразныя варыянты ў рэгіёне доследаў, які прадстаўляе гістарычны ‘вузел’ традыцый. Вядомы падзел беларускіх ручнікоў на паласатыя і тыя, што маюць кампактную кампазіцыю ўзора канца пры белай сярэдзіне, менавіта ў нашых мясцінах пацвярджаўся як магчымая этнічная мяжа і тым, што даваў шэраг пераходных варыянтаў. Тым яскравей вылучаўся ‘чысты’ тып ‘белапольнага’ ручніка. Ён аказаўся павязаны з двума арнаментальнымі старымі імпульсамі: аднапалоснай (альбо аднапалоснай у атачэнні дзвюх вузкіх палосак-бардзюраў тыпу **а-б-а)** і вертыкальнаю бескалодкаваю кампазіцыямі.

Асіметрыя як архаічны прынцып арнаментацыі ручніка маркіруе ‘незавершанасць’ арнаменту яго канцоў і сцвярджае дасягненне сіметрыі як выніку іх рытуальнага злучэння. Гэта сказалася ў розных кампазіцыях. Першапачаткова пазначаная намі апазіцыя сіметрычных (люстрана-сіметрычных) тыпаў размяшчэння арнаменту на адным канцы ручніка і ўсіх астатніх, дзе захоўвалася асіметрыя альбо яе сляды, паступова ператварылася ў больш складанае пытанне аб розных відах асіметрыі і сіметрыі, характэрных для традыцый рэгіёна і наогул для з’явы ручніка.

Узнаўленне асіметрычнага альбо сіметрычнага будавання арнаменту ў розных па паходжанню, як старых, так і новых тканінах мясцовых традыцый сведчыла аб архетыповым характары такога ўзнаўлення, аб архаічнай, але жывой з’яве, якія мы адносім да ‘імпульсаў’. Частка ручнікоў выглядала як сапраўдныя ‘эндэмікі’, кажучы тэрмінам біялогіі, г. зн. старажытнасці, якія захаваліся як жывыя рысы ў асобных месцах і традыцыях. Такі — люстраны, лева-правы (рознаскіраваны для асобных двух канцоў) арнамент. Ён вядомы некалькім традыцыям як лагічны арнаментальны ‘выраз’ канструктыўнай будовы тутэйшай Покуці са злучанымі канцамі ручніка.

Іншая з'ява асіметрыі ('вертыкальнай', што найчасцей адзначаецца даследчыкамі як 'сцяканне', 'пацяжэнне' арнаменту ў напрамку да нізу ручніка) прывяла да аналізу спосабаў яе развіцця і пытання аб 'пачатковым' тыпе кампазіцыі. Вядома, што такою падаецца аднапалосная будова арнаменту. Магчыма дапушчэнне абрадавай альбо канструктыўнай захаванасці 'найменшага' чыну, як і абумоўленасць адпаведнымі прычынамі таго, што чын гэты спыніў сваё далейшае развіццё. Гэта здаецца справядлівым і для аналагічных прыкладаў з другіх рэгіёнаў. Удалося павязаць паміж сабою гіпотэзы аб 'ініцыяцыйным' паходжанні некаторых старажытных знакаў і аб адпаведным абмежаванні чыноў (кампазіцый), прызначаных для розных узроставых і пола-сацыяльных груп. Ручнік як рэч-тэкст, што рэалізуецца, перш за ўсё, у вясельным абрадзе, бачыцца як 'найбольшы чын'. Ён 'дакуменціруе' ўсе папярэднія этапы, пройдзеныя 'чын па чыну', і сцвярджае галоўную мэту і 'праграму' шлюба — стварэнне новага жыцця (ва ўсіх колах магічнага ўздзеяння на павышэнне ўрадлівасці). Усе іншыя чыны арнамента тканін ручніковага тыпу (у тым ліку і канструктыўныя адзінкі адзення, і цэлыя рэчы ў складзе строю) маюць 'давясельнае' альбо 'павясельнае' абмежаванне чыноў, утвараючы іх як 'разгортванне' альбо 'згортванне' 'найбольшага чыну.

Аднак, калі лічыць аднапалосны чын старэйшым, выразна абасабляюцца шляхі яго ўскладнення. Яны прынцыпова розныя. Вертыкальны тып ручніка мае бесперапыннае пульсаванне падоўжных ланцугоў. Менавіта ў іх ператвараюцца першапачатковыя пары-'сінтагмы' розных знакаў пры паўторы, не падзеленым калодкамі. Самі ланцугі-стаўпы аказваюцца 'рознафазнымі', ссунутымі адзін адносна другога, усё больш шчыльнымі, ствараюць асобы непадзельны чын арнаменту са старажытнымі сімваламі, лагічна зведзенымі.

Іншая логіка 'дасягнення выніку' бачыцца ў паласатых асіметрычных ручніках геаметрычнага чыну. З іх старэйшымі ўяўляюцца белапрасветныя з паслядоўнасцю арнаментаў, што развіваюцца ад паласы да паласы. Найбольш 'чыстым' тыпам падобнай кампазіцыі нам падаўся апублікаваны прыклад — асіповіцкі ручнік (Лабачэўская. 2001. С. 757). Мы апісалі такі тып кампазіцыі як **а-б-в-г...** з найменшым чынам **а-б-в.** У рэгіёне доследаў тып узнаўляецца не ў белапрасветным, а ў чырвонакалодкавым альбо ўзорнакалодкавым варыянтах і найчасцей толькі ў тэндэнцыі. Сам чын **а-б-в-г** з найбольш старажытнымі знакамі вылучаецца ўжо як 'сінтагма' — палова кампазіцыі ў люстрана-сіметрычным тыпе. Выявілася мяжа асіметрычных і сіметрычных традыцый. Сіметрычны імпульс, вядомы нам найбольш выразна ў міжрэччы Сожа — Іпуці, уздзейнічае на традыцыі вельмі markdown рознага паходжання. Аб гэтым сведчыць тое, што працэс ахоплівае як паласатыя ручнікі, так і ярусныя, і вертыкальныя (падоўжана-сіметрычныя), якія даюць сіметрычныя вынікі. Актуалізацыя старажытнага імпульсу **а-б-а**, што ўвасоблены ў аднапалосным бардзюры, ператварае ў падобны ж, але развіты бардзюр шматпалосны ручнік тыпу **п-1-п**. Такім чынам, сіметрычны імпульс можа мець архаічнае паходжанне, на карысць чаго гаворыць існаванне развітых чыноў з лагічнай паслядоўнасцю старажытных знакаў, якія даюць трэці тып развіцця першаснага чыну (у параўнанні з вертыкальным і

асіметрычным паласатым тыпамі). Гэта працэс унутранага нарастання кампазіцыі, што захоўвае найбольш канстантныя зоны краёў і цэнтру: **а-б-а** ператвараецца ў **а**-в-г-**б**-г-в-**а**.

Правядзенне доследаў непасрэдна ў месцах існавання традыцый, іх плыней і пераходных варыянтаў, як і наступнае вылучэнне кампазіцыйных тыпаў дазволілі сфарміраваць гіпатэтычную схему архаічнага ўзаемадзеяння старажытных імпульсаў ва ўзорным ткацтве рэгіёна. Яна 'лягла' на прасторавае (гідралагічнае) размеркаванне традыцый. Праверкаю вылучаных у рэгіёне з'яў у ткацтве ручнікоў сталася папярэдняе знаёмства з працэсамі ва ўкраінскіх традыцыях па публікацыях і па калекцыі Чарнігаўскага гістарычнага музея. Звядзенне атрыманых вынікаў у адну, акрэсленую пакуль што ў агульных рысах, карціну, пацвердзіла адны высновы, удакладніла другія і паставіла новыя пытанні. Найбольш вялікімі плынямі традыцый, што нясуць архаічныя імпульсы, сёння здаюцца: 1) заходняя група паласатых ручнікоў — чырвонапалосных і з кампазіцыяй 'назапашвання вынікаў' (тыпу **а-б-в-г**...), з актуальнаю для яе апазіцыяй шматнітовага (аднаутковага па паходжанню) ткацтва ў белых фонах і рыпсавага — у чырвоных палосах; 2) паўночная група ручнікоў вертыкальнага тыпу з белаю сярэдзінай і, магчыма, з палатняным характарам белага; 3) паўднёва-ўсходняя група ўзорнапалосных ручнікоў (гіпатэтычна тыпу **а-б-а-б-а-б**... альбо **а-а-а**...) з белаю ж сярэдзінай; 4) існуючая паміж імі група люстрана-сіметрычных ручнікоў.

Першая група тэрытарыяльна павязваецца з Палессем і Цэнтральнаю Беларуссю, вядомая па Жытомірскіх матэрыялах і па паўночнаму захаду Чарнігаўскай вобласці. Другая прасочваецца ў паўночных традыцыях Беларусі і ў рэгіёне доследаў спускаецца па Дняпры і Сажы... Трэцяя выявілася спачатку толькі як узноўлены архаічны этап некаторых мясцовых традыцый, аднак дала наступныя прыклады ў напрамку на паўднёвы ўсход — ва ўкраінскіх усходніх тканінах. Пакуль што гэта маладаследаваная з'ява. Чарнігаўскае ткацтва падверглася значнай нівеліроўцы з боку кралявецкага ткацкага цэнтра. Сёння белапрасветныя ўзорнапалосныя тканіны з гэтым рытмам (ды іх 'нашчадкаў') — мы знаходзім і ва ўсходнім напрамку, уздоўж Беседзі ды Іпуці: у Навазыбкаўскім, Краснагорскім раёнах Бранскай вобласці ды ў паўднёва-ўсходніх матэрыялах Магілёўскай вобласці. Чацвёртая група ўздымаецца на поўнач да Быхава і Слаўгарада, а на поўдзень прасочваецца ў паўночнай Чарнігаўшчыне, даючы пераходныя варыянты амаль да Чарнігава.

Паралельным да кампазіцыйнага разгляду ручніковых традыцый было даследаванне арнаментальных працэсаў. Такімі сталіся распаўсюджванне і лёс у асобных традыцыях фондаў старажытных сімвалаў: геаметрычных, раслінных, антрапаморфных ды іншых. Аналіз праводзіўся і на ўзроўні асобнага арнаментальнага элемента, і праз выяўленне груп блізкіх фігур, і ў складанні 'сінанімічных' радоў розных знакаў па іх сходным месце ў кампазіцыі.

Збор і складанне 'алфавітаў' назваў арнаментальных элементаў па асобных традыцыях зафіксавалі аўтэнтычны стан сучаснага ды нядаўняга працэсаў, што можна назваць 'моваю' складання арнаменту. Абсалютная боль-

шасць тэрмінаў (а іх зафіксавана больш за 600) датычыцца менавіта тканага арнаменту ручнікоў. У складанні слоўнікаў мы ішлі 'ад слова', фіксаваліся розныя назвы адной фігуры альбо яе варыянтаў, а пад адною назваю часам адзначаліся розныя знакі. Менавіта несупадзенне дзвюх 'парадыгм' дало станоўчыя вынікі ў разуменні прынцыпаў найменавання элементаў ды ўзаемасувязі паміж моўным і формаўтваральным працэсамі. Урэшце, выявіліся псіхалагічныя моманты і сапраўды красамоўныя сведчанні саміх традыцый аб сябе і суседзях.

Дзякуючы комплекснаму падыходу да асэнсавання ручніка стала магчымым у межах зборніка і высвятленне семантычнага напаўнення асобных арнаментальных элементаў, іх археалогіі ды гісторыі. Групоўка арнаментаў па старых, яшчэ агульнаславянскіх семантычных і фармальных апазіцыях, аналіз асобных кодаў тыпу 'транспартнага' дазволілі змадэляваць магчымае 'чытанне' асобных тканін як 'тэкстаў'. Узноўлены семантычныя з'явы ў аснове кампазіцыйных прынцыпаў стварэння ручніка. Гіпатэтычныя дапушчэнні спалучаюцца з прывядзеннем жывых прыкладаў мясцовай абрадавай практыкі.

Асобая глава — параўнанне слоўнікаў ды кампазіцыйных суадносін паміж традыцыямі ручнікоў і фальклорнага жанру замоў. Выяўлены глыбінныя заканамернасці ментальнага паходжання ў параджэнні гэтых розных з'яў.

Тэзаўрусны разгляд і групоўка назваў па культурным кодам (тыпу 'транспартнага', 'расліннага'ды г. д.) выявілі невыпадковасць тэрмінаў у слоўніках ткацкіх і суадносных з імі фальклорных традыцыях. Яны і далі магчымасць даследаваць глыбінныя працэсы ў суадносінах фармальных элементаў і іх найменняў. Гіпатэтычна былі ўзноўлены і прааналізаваны архетыповыя праявы ў сучасных традыцыях — рэшткі архаічнай семантычнай сістэмы, старажытных міфалагічных уяўленняў. Даследаванне праводзілася на ўзнаўленні шэрага бінарных апазіцый, прасторавых і абрадавых мадэляў Свету.

